Іван Шамякін ужо даўно вядомы як пісьменнік сучаснай тэмы. Яго раманы «У добры час», «Крыніцы», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», «Атланты і карыятыды», «Вазьму твой боль» узнімалі самыя вострыя праблемы дня, уцягвалі чытачоў у спрэчкі, хвалявалі сваёй актуальнасцю, надзённасцю, смеласцю пастаноўкі важных, злабадзённых праблем.

Але нават у творах на сучасную тэму І. Шамякін не раз спрабаваў спалучыць сучаснае і мінулае, будаваў твор на перасячэнні двух часовых пластоў. Адзін з іх — сучаснасць, другі — наша нядаўняя гісторыя, гады Вялікай Айчыннай вайны. Пісьменніку хацелася асэнсаваць перажытае, падзяліцца сваімі ўражаннямі, думкамі пра тое, чаму ён быў сведкам у суровыя гады вайны. Прызваны ў армію ў 1940 годзе, ён ваяваў у зенітных часцях на Поўначы, пазней удзельнічаў у вызваленні Польшчы і ў баях на Одэры.

Першыя яго спробы адлюстраваць убачанае ў мастацкім слове — апавяданні «У дзень перамогі», «Браты», «Бацька», «На знаёмых шляхах», а таксама аповесць «Помста» былі напісаны па свежых слядах падзей, у 1945-1947 гадах.

А потым Івана Шамякіна зацікавіла тэма партызанскай барацьбы ў тыле ворага і ён, не маючы магчымасці абаперціся на ўласныя ўражанні, шукаў сюжэт для новага твора ў архівах, выкарыстоўваў успаміны былых партызан. Першы раман «Глыбокая плынь», адзначаны ў 1951 годзе Дзяржаўнай прэміяй СССР, напісаны на свежым тады, але ўжо гістарычным матэрыяле. У аснову яго пакладзена дзейнасць партызанскай брыгады на тэрыторыі Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці.

І ў далейшай сваёй творчасці Іван Шамякін працягвае распрацоўваць сюжэты з мінулага, грунтуючыся не толькі на ўласных успамінах, але і на дакументальных матэрыялах. Сабраныя ім сведчанні аб падпольнай барацьбе, уражанні ад гутарак з вядомымі арганізатарамі падполля ў Беларусі ляглі ў аснову аповесцей «Шлюбная ноч», «Гандлярка і паэт». У прадмове да гэтых твораў Андрэй Макаёнак надзвычай выразна вызначыў, што значыла для Івана Шамякіна яго вяртанне да тэмы вайны: «Эмацыянальная памяць выхоплівае з мінулага падзеі і факты, якія ў свой час уразілі ўяўленне мастака. І зараз, праз многа год, жывуць у душы трапяткія адносіны да гераічных учынкаў людзей і нязгасная патрэбнасць апавядаць, расказаць з любоўю і горыччу не толькі пра слаўныя падзеі незабыўнага мінулага, але і пра свае шматгадовыя роздумы. І ў гэтым праяўляецца не толькі грамадзянскі абавязак, але і

гуманістычная сутнасць савецкага пісьменніка, сведкі і ўдзельніка ўсенароднай вайны супраць фашызму».

Патрэбнасць апавядаць пра мінулае... Яна павяла пісьменніка ад гадоў Вялікай Айчыннай вайны ў больш даўні час, да самага пачатку гісторыі нашай сацыялістычнай дзяржавы. Кастрычніцкая рэвалюцыя, Уладзімір Ільіч Ленін — зварот да гэтых невычэрпных, высокіх тэм для І. Шамякіна быў не толькі далейшым заглыбленнем у даўняе мінулае, але і новай спробай звязаць былое з сучасным, паказаць, з чаго пачыналася Савецкая ўлада, з якімі цяжкасцямі ўдалося яе адстаяць у тыя часы.

У яго аповесцях «Першы генерал», «Эшалон прайшоў», «Бранепоезд "Таварыш Ленін"», у апавяданнях «Матрос з "Алега"», «Хлеб» Ленін часцей за ўсё паказваецца ва ўспрыманні людзей, якім давялося бачыць правадыра, гутарыць з ім, выконваць яго даручэнні. Як сведчыць сам пісьменнік, гэтыя творы аб'яднаны тэмай «Ленін у лёсах людзей».

Гучыцць яна і ў рамане «Петраград — Брэст», прысвечаным цяжкім, трагічным эпізодам з гісторыі заключэння Брэсцкага міру ў першыя месяцы існавання Савецкай улады. Аўтар назваў яго гістарычным раманам. І гэта сапраўды шырокамаштабнае гістарычнае палатно, заснаванае на сапраўдных падзеях, пацверджаных шматлікімі дакументальнымі матэрыяламі. Глыбокая дасведчанасць ва ўсім, што звязана з сюжэтам твора, дазволіла І. Шамякіну выдатна перадаць атмасферу часу, гістарычны фон падзей, якія разгортваюцца ў рамане.

А дзейнічаюць тут як рэальныя гістарычныя асобы — Ленін, Троцкі, Бухарын, Сталін і іншыя, так і літаратурныя персанажы, створаныя ўяўленнем пісьменніка,— Багуновіч, Міра, Рудкоўскі, Пастушэнка... І падзеі разгортваюцца ў двух планах: дакументальна-мастацкі паказ эпізодаў, звязаных з барацьбой У. І. Леніна за падпісанне міру з Германіяй, спалучаецца з сюжэтнай лініяй «выдуманых» герояў — тых, хто супрацьстаіць войскам кайзераўскай Германіі на граніцы, якая праходзіць па шматпакутнай беларускай зямлі. Абедзве лініі перасякаюцца толькі ў фінале. Але колькі ні пераключаецца ўвага чытача ад падзей у Петраградзе да таго, што адбываецца ў акопах, паміж імі не перарываецца шчапленне, увесь час існуе нябачнае сілавое поле. Яно і ў маральным супрацьстаянні Леніна з Троцкім, з «левай апазіцыяй», і ў барацьбе думак, уяўленняў пра рэвалюцыю, пра яе будучае Багушэвіча і Міры, Рудкоўскага, Бульбы-Любецкага. А ў самым высокім сэнсе — у залежнасці ад таго,

якi паварот прымуць падзеi,— будучае Савецкай рэспублiкi, справы рэвалюцыi i лёс дзеючых асоб твора.

Раман напiсаны ў канцы 70-х гадоў, часопiсная публiкацыя яго з'явiлася ў 1981 годзе. Тым, хто пазнаёмiцца з гэтым творам цяпер, пасля глыбокiх, карэнных змен у жыццi нашага грамадства, нешта ў разгорнутай I. Шамякiным панараме падзей, звязаных з падпiсаннем Брэсцкага мiру, можа здацца занадта прамалiнейным, згладжаным, недагавораным. Не заклiкаючы мераць раман меркамi «эпохi застою», нельга не прыгадаць усё ж, што гэты твор быў смелым крокам наперад у адлюстраваннi падзей Кастрычнiцкай рэвалюцыi, першых месяцаў iснавання Савецкай улады. Колькi мы ведаем кiнафiльмаў, п'ес, аповесцей пра Кастрычнiк, у якiх нiдзе не называюцца прозвiшчы Троцкага, Бухарына, Зiноўева, Каменева i iншых палiтычных дзеячаў. У гады «сталiншчыны» i пазней яны былi, можна сказаць, выкраслены з гiсторыi.

У рамане «Петраград — Брэст» не толькi гiстарычна дакладна, праўдзiва паказана ўся складанасць становiшча ў ЦК партыi па пытанню аб вайне i мiры ў студзенi — лютым 1918 года, але i выведзены ўсе тыя гiстарычныя асобы, якiя ўдзельнiчалi ў падзеях. Драматызм, напружанасць у паказе барацьбы Ленiна з Троцкiм i яго прыхiльнiкамi, з «левай апазiцыяй» не згладзiлiся, не паслабiлiся i ў святле таго новага, што увайшло ў нашу свядомасць пасля публiкацыi многiх матэрыялаў, раней невядомых. Можа быць, вобразы Сталiна, Бухарына сёння выглядаюць з мастацкага боку больш бледнымi, псiхалагiчна збедненымi, чым гэта бачылася нам раней, але iх удзел у падзеях, звязаных з Брэсцкiм мiрам, iх учынкi гiсторыкамi i сёння ацэньваюцца гэтак жа, як i раней. Раман вытрымлiвае выпрабаванне часам. Адным са сведчанняў гэтаму — публiкацыя твора без змен, дапаўненняў i пераробак у «Раман-газеце» у 1986 годзе.

У пасляслоўi да гэтага выдання рамана Ул. Сямёнаў так ацанiў уклад Iвана Шамякiна ва ўсесаюзную лiтаратурную Ленiнiяну: «Упершыню ў нашай мастацкай лiтаратуры I. Шамякiн даў такую пераканаўчую i разгорнутую карцiну барацьбы Ленiна супраць правакацыйнай лiнii Троцкага. Яе выкрыццё было тым больш неабходным, што вопытны iнтрыган мог у патрэбны момант адступiць за кулiсы, высунуць кiдкi лозунг, якi нiчога не гаварыў, але даваў апазiцыi «платформу» для новага беспрынцыпнага аб'яднання супраць Ленiна. Пiсьменнiк спрабуе пранiкнуць у самы ход ленiнскай думкi, накiраванай на абарону заваёў народа. Ён паказвае, якая напружаная работа стаiць за кожным радком чарговага артыкула, выступлення правадыра рэвалюцыi».

Вобраз Леніна выпісаны ў рамане з асаблівай глыбінёй. Пісьменнік не абыходзіцца без таго, каб паказаць Леніна-чалавека ў побыце, у размовах з роднымі, у жыццёвых клопатах. Але галоўная ўвага канцэнтруецца на асобе Леніна — кіраўніка, Леніна — правадыра, палітыка, дыпламата. І. Шамякін шырока скарыстоўвае дакументальныя матэрыялы таго часу, вытрымкі з ленінскіх работ, звесткі з біяграфічнай хронікі Леніна, пратаколы пасяджэнняў Саўнаркома, і перад намі разгортваецца драматычная старонка з гісторыі Савецкай дзяржавы. У цэнтры ўвагі аўтара — барацьба Леніна за мірны дагавор з Германіяй, які даў бы час для перадышкі, для ўмацавання заваёў рэвалюцыі. Становішча складвалася напружанае. Далёка не ўсе ў ЦК былі на баку Леніна ў гэтым пытанні, ён нават рызыкаваў аказацца ў меншасці ў барацьбе з «левай апазіцыяй». Не разумеючы складанасці абставін, яна ўскладала надзеі на «сусветную рэвалюцыю», на дапамогу рабочага класа капіталістычных краін Захаду.

Галоўным апанентам Леніна ў пытанні аб міры з Германіяй выступае Троцкі. І. Шамякін звяртаецца да яго біяграфіі, паказвае ў эпізодах на перагаворах з немцамі ў Брэст-Літоўску, на пасяджэннях Саўнаркома. Перад намі паўстае фігура складаная, супярэчлівая. Дзякуючы гэтаму і ўвесь ход падзей, звязаных з барацьбой Леніна з лініяй Троцкага і «левых» на зрыў перагавораў, паказаны ва ўсім драматызме, напружанні. Ленін перамагае спрактыкаванага, вопытнага і ўпартага праціўніка. І гэтая перамога геніяльнага прадбачання, логікі, непахіснай перакананасці і волі пададзена пісьменнікам ва ўсёй паўнаце гістарычнай праўды і мастацкай вобразнасці.

Паралельна з падзеямі, апісваючы якія І. Шамякін грунтаваўся на рэальных фактах з гісторыі, разгортваюцца ў рамане і эпізоды, дзе фантазію мастака не стрымлівала неабходнасць вывяраць факты па дакументах. Але і тут аўтар выдатна стварае гістарычны фон, ды і логіка думак, паводзін «выдуманых» персанажаў псіхалагічна адпавядае таму, што магло б кіраваць імі ў іх учынках. Вось Сяргей Багуновіч, які хаця і не стаў яшчэ бальшавіком, але ў адпаведнасці са сваім жыццёвым вопытам, ведамі свядома стаў прыхільнікам ленінскай лініі ў пытаннях аб стварэнні арміі новага тыпу для абароны Рэспублікі Саветаў, аб неабходнасці дысцыпліны, пільнасці, уліку рэальных абставін.

Вось палымяная агітатарка Міра, якая слепа ўспрыняла ідэі «левых» аб «сусветнай рэвалюцыі» і спадзявалася, што можна спыніць наступленне немцаў, звярнуўшыся да іх свядомасці. Яе перакананняў не пахіснула нават сустрэча з Троцкім, пасля якой яна інстынктыўна

адчула нешта фальшывае, няшчырае ў паводзінах і словах таго, каму яна так безаглядна верыла. І яна гіне, спрабуючы спыніць ланцуг нямецкіх войск, сваёй смерцю нібы паказаўшы, да чаго прывяла б вера ў памылковыя, нерэалістычныя ідэі.

Сяргей Багуновіч прайшоў праз усе выпрабаванні лёсу, накананаваныя яму ў гэтыя цяжкія першыя месяцы 1918 года, і ў фінале мы бачым яго на IV Надзвычайным з'ездзе Саветаў, на якім быў ратыфікаваны мірны дагавор.

Напачатку можа здацца толькі сімвалічным тое, што дзеянне многіх эпізодаў рамана разгортваецца на беларускай зямлі. Але ўсё ж сувязь вялікіх гістарычных падзей увесь час адчуваецца. На вобразах кіраўніка камуны Антона Рудкоўскага, Стасі, ды і самога Сяргея Багуновіча аўтар паказвае, што гістарычны лёс беларускага народа вырашаўся ў складаных умовах і што надзеі на лепшае будучае ён звязваў з ідэямі, народжанымі Кастрычнікам.

Раман «Петраград — Брэст», як і папярэднія творы Івана Шамякіна, напісаны займальна, лёгка чытаецца. Дынамічны, насычаны падзеямі сюжэт увесь час трымае чытача ў напружанні. Эпізоды, звязаныя з барацьбой за Брэсцкі мір, чытаюцца не з меншай цікавасцю, чым тыя, што адбываюцца на беларускай зямлі, на адным з участкаў фронту. І. Шамякіну ўдалося арганічна звязаць вымысел і гістарычны факт, натуральна, псіхалагічна пераканаўча паказаць усіх сваіх герояў, ад вядомых дзяржаўных і палітычных дзеячаў да салдат, сялян-камунараў. «Петраград — Брэст» — гэта яшчэ адна, дагэтуль мала асветленая ў мастацкай літаратуры старонка з нашай гісторыі, новае слова ў беларускай Ленініяне.

МІХАСЬ КЕНЬКА

## Частка першая

## ПЕРАМІР'Е

## Раздзел першы
## ЗАСНЕЖАНЫЯ АКОПЫ

### I

Багуновіч і Міра адсталі ад салдат, салдаты далёка апярэдзілі іх і былі ўжо блізка ад сваіх пазіцый.

Багуновіч не пайшоў проста, па іх слядах, ён зрабіў паўкруг і прыціснуўся да маладога сасонніку.

Міра пасміхнулася, але змаўчала. Ёй здалося, што Сяргей хоча сасоннікам прыкрыць ад ветру яе. Гэта кранула. Яна ўжо знала, з якой проста-такі рыцарскай клапатлівасцю ён ахоўвае яе ад прастуды, ад холаду, ад салдацкай грубасці. Дзівак, думае, што яна такая аранжарэйная. Часам яна кпіла з яго «дваранскіх вымудраў».

А вецер сапраўды нечакана, за якую гадзіну-дзве, змяніў кірунак і зрабіўся марозны, жорсткі. Калі раніцой ішлі туды, да немцаў, вецер быў заходні, мяккі, вільготны, два дні стаяла адліга. А цяпер вецер паўночны, бадай, паўночна-ўсходні ўжо. Адразу зашэрх снег пад нагамі, і па шарпаку папаўзлі сіняватыя змейкі. Яны закручваліся вакол ботаў, а потым, здавалася, працінаючы боты, штаны, паўзлі пад шынялём да спіны, да грудзей. Сяргей адчуў, як захаладала яго шыя, і падумаў пра Міру: легкавата адзета, трэба ўсё-такі выпісаць са склада афіцэрскі кажушок і перашыць ёй. Да д'ябла ўсе ўмоўнасці — хто што скажа! Няхай гавор採ць. Але ці сама Міра надзене такі кажушок? Толькі салдацкі шынель, салдацкія боты — і ніякага буржуазнага адзення! Была ўжо ў іх размова на гэтую тэму. Даволі бурная. Ён даводзіў, што жанчына павінна ва ўсім заставацца жанчынай і адзявацца адпаведна сваёй прыродзе. Яна адказвала, што ў ім моцна сядзяць буржуазна-мяшчанскія забабоны. Пасварыліся. Пасварыліся, каб потым памірыцца. Гэты мір, дзе яна пераставала быць салдатам, партыйным агітатарам, а рабілася звычайнай дзяўчынай... жанчынай, добрай, ласкавай, пяшчотнай, ап'янелай ад кахання,— гэта давала яму гадзіны найвялікшага шчасця — таго, пра якое тут, на вайне, ён нават не адважваўся марыць. За тры з палавінай гады акопнага жыцця, здавалася яму, усё ў ім зачарсцвела, душа пакрылася брыдкімі гнойнымі струпамі. Цяпер ён радаваўся, што ўсё так адразу ачысцілася і ён у свае дваццаць сем гадоў стаў тым жа рамантычным, узнёслым студэнтам, які ў пачатку вайны сам папрасіўся на фронт.

Міра сказала, што яго ачысціла рэвалюцыя. Але, вайна і рэвалюцыя ачысцілі яго, інтэлігента, афіцэра, ад шмат якіх саслоўных, класавых забабонаў, хоць і тады, у чатырнаццатым, ён ішоў ваяваць не за цара — за народ, за айчыну. Народу ён служыць і цяпер. Бальшавіцкі ўрад даверыў яму, беспартыйнаму паручніку, полк, салдаты любяць яго...

Аднак які суровы вецер! І сасоннік не засланяе ад яго. Калі цісквнуць моцныя марозь!, будзе вельмі туга — з харчамі, з фуражом.

— Апусці вушы!

Міра спынілася, павярнулася да яго. Абпаленыя марозным ветрам, гарэлі яе шчокі, ад ветру заслязіліся вочы і, вялікія, бліщчалі, што росныя чорныя слівы, здавалася, яшчэ больш прыпухлі сакавітыя вусны; яна па-дзіцячаму аблізнула іх, вочы яе высахлі і засмяяліся.

— Р-рэвалюцыянер, Сяр-рожа, не можа апускаць вушы.

Ад холаду яе картавасць, з якой ён заўсёды цешыўся, узмацнілася, і грасіраванне такое, можа, як ніколі, падабалася Багуновічу. А што яму магло не падабацца ў ёй? Зрэдку хіба яе прамовы. Не ўсе словы, якія яна гаварыла, здавалася яму, пасавалі да гэтых вуснаў, да гэтага маленькага носіка, росных вачэй.

Ён, выхаваны на Блоку, хацеў бачыць у ёй толькі жанчыну, створаную для кахання, для шчасця, для дзяцей. У аблічча яе хіба адно не падабалася — што яна пастрыжаная. Але Міра паабяцала, што больш гэтага рабіць не будзе. А так... ні салдацкая шапка з чорнай аўчыны, ні шынель не псуюць яе чароўнасці. А адзіная жаночая рэч — чырвоны шалік, што выбіваецца з-пад каўняра,— аздабляе ўсю грубую напратку, ператварае яе на гэтай маленькай дзяўчыне ў адзенне прынцэсы.

Каб яна дазволіла, ён узяў бы яе на рукі, пад свой шынель, сагрэў бы, як дзіця, і панёс... панёс бы па гэтым заснежаным полі — далей ад пазіцый, ад вайны... Але такую вольнасць яна дазваляе толькі там, на станцыі, у іх пакойчыку...

Багуновіч азірнуўся назад, дзе засталіся нямецкія пазіцыі. Выступ сасонніку закрыў іх. Камандзір з палёгкай уздыхнуў. Ці прызнаецца калі-небудзь ёй, чаму зрабіў такую пятлю, хутчэй схаваўся за сасоннік? Не, у гэтым, відаць, нельга прызнацца. Гэта — нервы. Ніколі не быў баязліўцам, а тут раптам спалохаўся. Гэта немагчыма растлумачыць. Заключана перамір'е, паміж салдатамі ідзе братанне, немцы прыходзяць да іх, яны — да немцаў. Праўда, ён пайшоў упершыню пад выглядам салдата — вельмі хацелася глянуць на іх пазіцыі вокам камандзіра. Глянуў. І калі іх вывелі за лінію пярэдніх акопаў, яго апанавала жудаснае адчуванне, што ў спіны ім нацэлены кулямёты з хітра замаскіраваных гнёздаў і кулямёты гэтыя вось-вось

плюнуць гарачым свінцом. Чацвёрты год ваюе, у штыкавыя атакі хадзіў, у разведку — ніколі такога не адчуваў. Ажно захаладала ўсё ўсярэдку, быццам вецер гэты праняў наскрозь. За каго так баяўся? За сябе? За салдат? Перш за ўсё — за яе. За гэтую дзяўчынку, агітатара, перакладчыка, якая ўсё робіць з дзіцячай верай. Але ж яна не першы раз пайшла туды, на варожы бок. Дзеля гэтага яе і прыслалі да іх — весці агітацыю сярод нямецкіх салдат, узнімаць іх на рэвалюцыю. Пасля таго, як яны сышліся, ён хваляваўся за кожны яе паход. Але ж не так. Што з ім стала? Ён ішоў следам, каб прыкрыць яе сабой, хоць разумеў, што гэта наіўна: не салдат яна, не ўпадзе на зямлю, пачуўшы стрэлы, азірнецца і... кінецца да яго, прашытага кулямі...

Замірала сэрца ад уяўлення, як Міра падхопіць яго, смяртэльна параненага, на свае маленькія, але дужыя ручкі, і тут жа ад жаху — што, забіты, ён не загародзіць яе сабой.

Сяргей яшчэ раз азірнуўся. Дзякуй богу, сектар абстрэлу закрыў сасоннік, цяпер іх не бачыць ніводзін кулямётчык, ніводзін стралок. Ён наблізіўся да Міры і апусціў навушнікі яе шапкі, закрыў пасмачкі яе бліскуча-антрацытных падстрыжаных кос, маленькія, пабялелыя ад марозу вушы. І паправіў шалік, бо ён збіўся і агалілася тоненькая, дзіцячая яшчэ, смуглая, як пасля нядаўняга загару, шыя.

— Дрэнны той рэвалюцыянер, які адмарозіць сабе вушы.

Міра засмяялася і ўскінула свае рукі ў прадзіраўленых вязаных пальчатках яму на плечы, на цёмныя плямы ад былых пагонаў. Ён, Сяргей, звяртаў увагу раней, што шалік робіць яе цывільнай, пальчаткі яна рэдка надзявала, і ён так блізка ўбачыў іх упершыню, яны ўразілі яго сапраўды такі незвычайнай цывільнасцю і мірнасцю. Яны — рэч другога свету, які ён толькі сніў. Такія пальчаткі вязалі маці яго і сястра. Яны — блізка, у апошні год, пасля Лютаўскай рэвалюцыі, ён колькі разоў быў у Мінску, але жыццё іх здавалася недасягальна далёкім. Толькі Міра, з'яўленне яе вярнулі яго ў тое мірнае жыццё. Ніколі за ўсю вайну ён так не думаў пра мір, так не прагнуў яго. Ён, атэіст, пачаў прымхліва верыць, што нейкая вышэйшая сіла дала яму за ўсе яго пакуты гэтую радасць — пакахаць дзяўчыну, у якой нават імя мае агульны корань са словам, што стала сімвалам шчасця. Ды хіба толькі яго? Ах, каб наступіў мір! Каб не халадзела спіна ад адчування дулаў нямецкіх кулямётаў!

Сяргей нахіліўся і пацалаваў Міру ў пульхныя і — дзіўна! — не халодныя, гарачыя вусны.

— Слаўная мая... Як я люблю цябе!

Яна засмяялася і адхілілася.

— Салдаты ўбачаць.

— Няхай бачаць.

— О, ты не баішся, што падумаюць пра свайго камандзіра? Не баішся за свой аўтарытэт? Завёў шуры-муры...

— Не мялі глупства. Ты — мая жонка.

— «Мая, мая»... Ты — феадал. Буржуй. Прыватнік. Рэвалюцыя знішчыць гэтае разуменне — «твой, мой». Усё будзе наша.

— І жонкі? І мужы?

Міра зноў засмяялася.

Была ўжо ў іх размова на гэтую тэму, якая пачалася быццам жартам, а скончылася сваркай. Неяк у іх цёплым пакойчыку ў кватэры начальніка станцыі пасля хвілін кахання і блізкасці яна пачала даводзіць, што рэвалюцыя разам з іншымі феадальна-буржуазнымі інстытутамі знішчыць і сям'ю, у эру свабоды і роўнасці ўсё свабоднае, у тым ліку і любоў таксама будзе свабодная. Яе ультрарэвалюцыйныя фантазіі часта цешылі яго, як дзіцячыя забаўкі, дзіцячая гарэзлівасць. Ён, абпалены вайной да самага нутра, лічыў сябе, па меншай меры, у два разы старэйшым, чым быў у сапраўднасці, дзесьці ва ўзросце палкоўніка Пастушэнкі, начальніка штаба, і ён лічыў, што мае права з вышыні свайго вопыту паблажліва, па-бацькоўску, прымаць любыя фантазіі гэтай дзяўчыны, бо непасрэднасць яе давала яшчэ адну радасць, на якую ён забыўся,— вяртанне ў свет дзяцінства. Але яе разважанні пра «свабодную любоў» яму не спадабаліся, яны як бы абражалі яго пачуцці, і — што яшчэ горш — здалося, абражаюць самую яе і... яго маці, і яе маці.

Сяргей холадна сказаў, што яму не хацелася б жыць у такім свабодным свеце, што для яго сям'я, мацярынства — разуменні святыя, што сям'я — гэта найлепшае, што вынайшла чалавецтва ў працэсе сваёй эвалюцыі. Сям'я, што хлеб, што кніга,— такое ж вынаходства, толькі яшчэ больш неабходнае для жыцця, для эвалюцыі. «І для рэвалюцыі»,— заключыў ён.

У Міры пазелянелі вочы; ён ужо хораша ведаў гэтыя зялёныя, як у кошкі, іскры ў вачах. Тады ён паспрабаваў перавесці размову на жарт.

«Ты ведаеш, чым праславіўся наш Мінск у гады рэакцыі? У восьмым ці дзевятым годзе, не помню добра, я яшчэ ў гімназіі быў... у ім была створана «Ліга свабоднай любові». Гэтыя малойчыкі і «свабодныя дзявіцы» так аплёўвалі ўсялякую мараль... кідалі такі выклік грамадству, што, хоць яны ў сваіх палітычных поглядах змыкаліся з чарнасоценцамі, паліцмайстар аддаў загад аб разгоне лігі і аб іх арышце. І гэта быў адзіны выпадак, калі бацька і маці мая ўхвалілі рэпрэсіі супраць моладзі».

Але ў ёй пасяліўся ўжо «чорт», і «чорт» гэты быў бязлітасны, яна рабілася падобнай на таго хлапчука, які захапіў кулямёт і якому абы стрэліць, пакуль не адбяруць,— няважна, куды, у які бок, куды пацэліць. Так «страляла» і яна:

«Твой бацька — царскі служка... суддзя. Ён рэвалюцыянераў судзіў!»

Ён адказаў з ваеннай стрыманасцю, у якой любы салдат адчуў бы пагрозу:

«Мой бацька — адвакат, ён усё жыццё абараняў бедных, пакрыўджаных. Ты не знаеш, што такое сумленны адвакат у земскім судзе».

Напэўна, Міра сапраўды дрэнна ўяўляла ролю адваката, бо неаднойчы ў яе прарывалася непрыязнасць да яго бацькоў, як увогуле да ўсіх інтэлігентаў, проста-такі сапраўды нейкая класавая варожасць, якая яго, інтэлігента, афіцэра, палохала. Адукаваная дзяўчына, гімназію скончыла. Як жа могуць думаць непісьменныя рабочыя, мужыкі?

Паўгадзіны ён ляжаў на ложку, яна сядзела за сталом, накінуўшы на плечы шынель, ускудлачаная яго пацалункамі, натапыраная. Ён прагна курыў і спрабаваў чытаць Чэхава. Яна гартала Карла Маркса на нямецкай мове, як хацела знайсці ў Маркса адказ, пацвярджэнне сваёй непрымірымасці і звaліць гэтага арыстакрата, афіцэрыка марксісцкай цытатай. Але ён бачыў, разумеў, адчуваў, што ёй не да Маркса. Яна Кіпела ад таго, што ён можа ў такі момант чытаць, ды яшчэ каго — Чэхава. Тады яна не прызнавала яшчэ Чэхава, зняважліва кідала: «Абывацель!» Раіла яму чытаць Горкага і Беднага.

Сяргей лічыў сваёй сур'ёзнай перамогай, што прымусіў яе палюбіць Чэхава. Можа, Чэхаў памог ёй так засмяяцца з лухты аб тым, што пры сацыялізме будуць агульныя жонкі і мужы.

Не, хутчэй за ўсё — Дэкрэт аб грамадзянскім шлюбе, аб дзецях... Дэкрэт гэты ён прачытаў у «Известиях» дзён колькі назад і чамусьці вельмі ўзрадаваўся, усё роўна як перамог у нечым надзвычай важным для далейшага лёсу свайго і народа: так радаваўся ён хіба самаму першаму савецкаму дэкрэту — аб міры. Выходзіць, Ленін разумее каханне, сям'ю, адказнасць за дзяцей так, як, бадай, разумелі яго бацькі і сам ён, «кансерватар», як упікала яго Міра.

Ён прынёс дэкрэт Міры. З далікатнасцю разумнага педагога не тыцнуў, як кажуць, яе носам, не нагадаў нават нядаўнюю спрэчку, але не без задавальнення назіраў, як доўга і ўваясліва чытала яна дэкрэт. Зрабілася ў той вечар сур'ёзнай, і ён, як дарагую рэч, ахоўваў гэтую яе сур'ёзнасць.

І як гэта хораша — даравацьёй асобныя яе слабасці, любыя капрызы... За такія вочы! За такія вусны! Хіба яму незразумелыя гэтыя наіўныя, амаль дзіцячыя яшчэ няроўнасці яе характару?!

— Ты таксама апусці свае навушнікі.

Ён паслухмяна зняў салдацкую шапку, адвярнуў навушнікі.

Мацнеў студзеньскі вецер, мароз кусаў за вушы. Спачатку пабялелыя шчокі яе раптам загарэліся. Але ці ад марозу толькі? Усхваляванасць выдаваў дзіўны бляск у вачах.

— Ты не знаеш, якая я шчаслівая сёння... Я не сказала табе... Ты не бачыў, як яны слухалі мяне... салдаты! Я ж ведаю, што гавару па-нямецку з жахлівым акцэнтам.... У тыя разы... тыя салдаты пасміхаліся... шапталіся паміж сабой... аглядалі мяне, як каты... А гэтыя... Як сур'ёзна яны слухалі... пакуль іх не разагнаў афіцэр... Я ім расказвала пра нашу рэвалюцыю... Пра Дэкрэт аб зямлі... І як яны слухалі, Сярожа! У іх гарэлі вочы. І сціскаліся кулакі... Яны мне сказалі, што ў Берліне і Мюнхене падняліся рабочыя. Мы пра гэта чыталі ў нашых газетах... Але адно — нашы газеты. А другое — вось так, даверліва... паведамляюць нямецкія салдаты... Пачынаецца, Сярожа!

— Што?

— Як — што?— здзівілася Міра.— Рэвалюцыя ў Германіі. Адтуль яна перакінецца ў Францыю, у Англію... Запалае пажар сусветнай рэвалюцыі і змяце кайзераў, міністраў... усіх імперыялістаў... Троны хістаюцца і заўтра паваляцца пад націскам пралетарыяту. Пад абломкамі капіталізму будзе пахавана і гэтая праклятая вайна. І гэта мы... мы пачалі, Сярожа! Мы — застрэльшчыкі і падпальшчыкі сусветнай рэвалюцыі! Мы!

Яны стаялі, і каля іх ног намятала гурбачкі снегу. Ад рэзкіх рухаў у Міры зноў збіўся шалік і агалілася шыя, Багуновіч зноў клапатліва, як у дзіцяці, паправіў шалік і павярнуў самую яе ад ветру, каб, гаворачы, яна не каўтала «ангіннае паветра», якое ўжо моцна астуджана, але яшчэ не высушана марозам, а таму такое зябкае, калючае. Не трэба стаяць ёй на холадзе — і так кашляе. Не трэба гаварыць на ветры. А супраць таго, што ён скажа, яна, безумоўна, запярэчыць, і яны заспрачаюцца, могуць нават пасварыцца, як было ўжо неаднойчы. Але ён таксама быў моцна ўсхваляваны, аднак зусім не тым, чым яна.

— А я ўбачыў іншае...

Міра насцярожылася.

— Я ўбачыў баявую часць. Дарэчы, новую... Па ўмовах перамір'я і немцы, і мы не павінны заменьваць часці на фронце. Мы не

заменьваем... ды і не можам. Кім? А яны, выходзіць, заменьваюць. Для чаго? Цябе слухалі ўважліва, бо гэта прызыў другой катэгорыі... старыя людзі... бацькі... Ты ім — дачка. Але гэта добра абучаныя салдаты. І добра ўзброеныя. Я ўбачыў тое, чаго не ўбачыла ты, чалавек цывільны. Гэтыя салдаты, па загаду сваіў афіцэраў, паднімуць нас на штыкі. Сама кажаш: пакуль не разагнаў афіцэр... Але, даволі было з'явіцца афіцэру... Яны выцягваюцца перад кожным унтэрам...

Яе цудоўныя вочы звузіліся і сталі калючымі, нібы гэты вецер, што рэзаў шчаку.

— Ах, як ты сумуеш па тым, што перад табой не выцягваюцца.

— Я сумую не па гэтым, Міра! Я сумую па тым, што з нашых вунь акопаў пярэдняй лініі не высунуўся ніводзін вартавы. Іх няма! А калі перамір'е будзе парушана... калі мірныя перагаворы...

— Ты не верыш у рэвалюцыю! — жорстка перапыніла яго Міра.— Сусветную.

Багуновіч раптам узлаваўся, не ўпершыню яго злавалі гучныя словы пра сусветную рэвалюцыю. Але ў іншых абставінах ён стрымліваўся. А тут, у полі, перад лініяй сваіх пярэдніх акопаў, яўна пакінутых салдатамі, перад гэтай дзяўчынай...

— Не веру! Не веру, што мы з табой распалім яе!

Вочы ў Міры пазелянелі.

— Ты не распаліш. З такімі поглядамі...

— З якімі? Я веру ў нашу рэвалюцыю. І рэвалюцыя даручыла мне ахоўваць яе вось на гэтым участку. А я не знаю, як гэта зрабіць. Няма сілы...

— Не разумею, што трэба рабіць.

— Трэба спыніць нямецкае наступленне, калі яно пачнецца.

— Знаю цябе, як аблупленага. Аднаго не знала — што ты баязлівец і панікёр.

Але сказала яна гэта ўжо без злосці, паблажліва; вочы яе зрабіліся звычайнымі — росныя слівіны,— вочы яе смяяліся. Сяргею зрабілася трохі крыўдна, што яна не разумее яго клопатаў, яго пачуцця адказнасці, каторае здаецца ёй афіцэрскім перажыткам.

Але добра, што яна не пачала «страляць» па-хлапчукоўску. Па сваіх. Бывала, што яна кідала абразлівыя словы за праявы яго скепсісу да яе рэвалюцыйных слоў; на дзіва чуйна лавіла яго скепсіс. І ён апошнім часам асцерагаўся. Але цяпер яму было не да скепсісу, боль душы вырваўся крыкам, і яна, мабыць, зразумела гэта. Дзякуй табе, дзіця!

— Хадзем. А то мы заледзянеем на гэтым вар'яцкім ветры. Я ўсё ж зраблю табе кажушок.

— Яшчэ чаго не хапала! Буржуйскія штучкі!

— А твая ангіна, твой бранхіт — гэта што? Пралетарскія хваробы?

Яна па-хлапчукоўску пагразіла яму маленькім кулачком у дзіравай пальчатцы.

Яны пайшлі далей. Вецер сек у левую шчаку, і ён зайшоў злева, каб хоць трохі прыкрыць яе сабой. Ён загадаў сабе маўчаць, каб яна не адказвала і не хапала марознае паветра слабымі лёгкімі. Але не вытрымаў:

— Магчыма, гэта не абстраляны, нядаўна сфарміраваны полк, але ўзброены ён да зубоў. І вымуштраваны з прускай педантычнасцю. Дзве батарэі высунуты да пярэдняга краю. Навошта? А коні... Ты бачыла іх коней? Кажуць, Германія галадае. Але баявых коней яны кормяць аўсом, не інакш. І гэта правільна. А ў нас і сена няма. Калі мы будзем карміць так сваіх коней, яны не толькі не пацягнуць гарматы... іх саміх трэба будзе цягнуць... Ды што коні? Чым накарміць заўтра людзей? А што мы знаем пра непрыяцеля? Я, камандзір палка, не знаў, што перада мной заменена часць. Мы разбурылі разведку, а немцы вядуць яе па ўсіх правілах. Яны зналі, хто я. Іх афіцэр сказаў па-французску: «Разам з агітатарамі рускія прысылаюць да нас шпіёнаў...» Я не здзівіўся б, каб яны арыштавалі мяне як шпіёна... Не скамарошнічай! Калі ты камандзір палка, не ўбірайся пад салдата...

Міра спынілася, пільна зазірнула яму ў твар, і ў яе вачах, затуманеных слязьмі ад марознага ветру, Сяргей убачыў страх, які бачыў у вачах маці, калі яна праводзіла яго назад, на фронт, пасля чарговай кароткай пабыўкі дома, у Мінску.

— Пастушэнка правільна адгаворваў мяне ад такога паходу... Але вельмі ж хацелася на свае вочы ўбачыць, якія яны цяпер... немцы. Убачыў...

— І спалохаўся?

— Спалохаўся.

Міра паківала галавой, але вочы яе смяяліся.

— Мне застаецца здзіўляцца, як я пакахала такога... Ты знаеш, хто ты?

— Цікава.

— Ты — ні рыба ні мяса. Не контррэвалюцыянер, не рэвалюцыянер...

— Я — патрыёт сваёй айчыны.

— Фу! Ажно нафталінам патыхнула. Як з камоды маёй бабулі.

Багуновічу даўно ўжо было прыкра і крыўдна, што Міра, ды і іншыя бальшавікі, акрамя хіба унтэра Башлыкова, не разумеюць гэтага яго пачуцця, якое пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі завалодала ім з новай сілай і прывяло яго да бальшавікоў, бо ён паверыў, што толькі Ленін можа ўратаваць краіну, якая сцякае крывёю, і шматпакутны, народ былой Расійскай імперыі. Гэтае пачуццё цяпер вылілася ў адно надзвычай моцнае жаданне: не толькі не аддаць немцам больш ні аршына роднай зямлі, але вызваліць і тую, што захоплена імі. Ваеннай сілы няма. Есць толькі адно — мір, ленінскі мір: без кантрыбуцый, анексій, захопу чужой тэрыторыі. Але ці пойдуць немцы на такі мір? Саюзнікі — французы, англічане — не адгукнуліся на заклік урада Саветаў. У такіх умовах Германіі і асабліва Аўстра-Венгрыі, якая галадае, выгадна падпісаць з намі мір. Так развažаў ён, былы камандзір роты, якога нечакана салдаты выбралі камандзірам палка. У такія высновы верыў яшчэ сёння раніцой, пакуль бачыў немцаў здалёк, праз бінокль. А цяпер з галавы не выходзілі... Не, нават не салдаты, якія сапраўды такі выцягваліся перад кожным унтэрам,— коні! Якія сытыя коні! І баявая пазіцыя батарэі на ўзгорку каля могілак; адтуль можна біць па станцыі і па маёнтку, па штабу, прамой наводкай.

Усхвалявала і другое: адсутнасць хаця б адзіночных салдат баявой аховы ў першай лініі акопаў яго палка ў той час, калі, як ён убачыў вопытным вокам, нямецкія акопы хораша абжытыя. А нашы занесены снегам. У тым месцы, да якога яны з Мірай падышлі, у акопах не было нават слядоў; да раніцы пры такой завеі іх зусім заб'е снегам, зраўняе з паверхнасцю поля. За такую злачынную бестурботнасць камандзіра роты варта аддаць пад суд. Але для гэтага трэба прагаласаваць у палкавым камітэце...

Цень суровай змрочнасці знік з твару Багуновіча, калі ён убачыў, што над бліндажом камандзіра роты ўзнімаецца празрысты дымок — у бліндажы паліцца печка. Безумоўна, салдаты там. Хто захоча ў такі холад быць у акопе? Ды і навошта людзей марозіць? Перамір'е. Аднак вартавыя павінны быць!

— Пайшлі ў бліндаж. Пагрэемся,— сказаў ён Міры і першы скочыў у акоп, працягнуў ёй руку. Тут, недалёка ад бліндажа, у акопе ўсё ж была прратаптана сцежка — адгаліненне ходу зносін вяло ў тыл — да другой лініі. Праўда, цяпер, у час перамір'я, можна хадзіць, не хаваючыся, але за гады акопнай вайны людзі звыкліся закапвацца ў зямлю, хадзіць па траншэях. Хіба не перажыў ён толькі што страх ад адчування, што нямецкія кулямёты нацэлены ў спіну яму і... Міры?

Багуновіч штурхнуў цяжкія, з негабляваных дошак дзверы бліндажа і прапусціў уперад Міру, у якой, яўна было відаць, і ў пальчатках не гнуліся закачанелыя пальцы ды і шчокі зноў пабялелі.

Яна прашмыгнула ў чорную дзірку дзвярэй, не нагнуўшыся — такі яе рост, Багуновічу ж прыйшлося нізка схіліць галаву і сагнуць спіну.

Змрок бліндажа асляпіў. Толькі праз шчыліны чыгуннай печкі прасвечваліся дзівосна чырвоныя, як жывыя, языкі полымя; полымя гудзела, білася ў «чыгуне», як хацела вырвацца на волю. У твар дыхнула жарам. Пасля холаду лёгкія знянацку схапілі гарачага паветра, і Міра закашлялася. Апусцілася перад печкай на калені, працягнула рукі да цяпла, не маючы сілы, мабыць, зняць пальчаткі, падсмаліла іх, запахла паленай шэрсцю.

Не адразу Багуновіч убачыў, адкуль, акрамя печкі, цэдзіцца яшчэ рэдзенькае цяпло,— у куце, на століку,— газнічка. Толькі як бы асэнсаваўшы гэтае святло, Багуновіч убачыў усё іншае. Хоць нічога іншага не было, сам ён не дзень, не два, а семсот, калі не ўсю тысячу дзён, пражыў у такім жа бліндажы. Нары збоку. Самаробны столік. Над столікам — партрэт Леніна, з газет. Але не на рэчах спыняўся яго позірк. Ён шукаў людзей. Дзе людзі? Нарэшце ўбачыў. Аднаго салдата. Пазнаў — унтэр-афіцэр Бураў, цяперашні камандзір узвода.

Бураў стаяў збоку ад печкі, каля сцяны, каля вешалкі, дзе вісела некалькі шынялёў: для вартавых меліся кажухі, у такую сцюжу ў расходзе былі кажухі.

Бураў, безумоўна, адразу пазнаў камандзіра палка. Стаяў навыцяжку, з добрай выпраўкай старога салдата, але неяк бокам, выставіўшы ўперад правае плячо.

— Дзень добры, таварыш камандзір,— павітаўся Багуновіч, бадай, па-цывільнаму, але з націскам на «таварыш» і па-беларуску, бо помніў, што Бураў з Магілёўшчыны.

— Здравія жа-ла-ю, ваша...— зусім разгубіўся салдат, хоць Багуновіч ведаў, што хто-хто, а Бураў не памыляўся, не звяртаўся «ваша благародзія» нават мінулым летам, пры Керанскім.

Што з ім?

Раптам Багуновіч убачыў, ад чаго разгубіўся унтэр. На гімнасцёрцы яго віселі тры георгіеўскія крыжы, поўным георгіеўскім кавалерам Бураў не паспеў стаць.

Багуновіч зразумеў, за якім заняткам захапілі яны нядаўна выбранага камандзіра ўзвода. Застаўшыся адзін, унтэр дастаў свае ўзнагароды і надзеў іх, любаваўся. Шкада, што ў бліндажы няма люстра.

Камандзір палка адразу ўявіў, як паводзіў сябе сам-насам салдат, што перажыў, і пасля таго, што ўбачыў у немцаў, гэта яго чамусьці моцна кранула, ўсё роўна як бы Бураў зрабіў яшчэ адзін геройскі ўчынак.

— Не хавайцеся, Бураў. Вы іх заслужылі крывёю...

— Дзякую, таварыш камандзір! — узрадаваўся Бураў.

— Дзе людзі, камандзір?

Бураў адказаў не адразу. Зноў закашлялася Міра, і ён сказаў смела, па-бацькоўску клапатліва:

— Кажушок вам трэба, барышня. Чаго гэта вы, Сяргей Валянцінавіч, кажушка ёй не зробіце?

Багуновіч замёр, сцяўся. Ох, выдасць яна зараз за «барышню» і за такі выразны намёк на іх адносіны! Не, змаўчала. Толькі здзіўлена паглядзела на унтэра і яшчэ больш здзівілася, калі ён ступіў да печкі і яна ўбачыла на яго грудзях Георгіі. Багуновіч пасміхнуўся: будзе доўгая лекцыя наконт царскіх «побрякушек», прыдуманых для адурманьвання народа. Але і пра крыжы Міра змаўчала. Дзіўна. А Бураў як спалохаўся, што не адказаў на пытанне камандзіра:

— Па дровы пайшлі. На мароз бярэцца...

— Увесь узвод?

Бураў пераступіў з нагі на нагу па-сялянску цяжка, страціўшы салдацкую пастаcredit, і раптам што калуном ударыў, ажно гахнуў:

— Га-ах... Сяргей Валянцінавіч. Без снедання людзі. Не хапіла на ўсіх снедання. А ўжо абед...

Гэта быў папрок яму, камандзіру палка. Калі застаўся без снедання ўзвод, што знаходзіцца ў баявой ахове, у акопах,— гэта, лічы, ужо не армія. Трэба неадкладна мяняць людзей, што займаюцца харчовым забеспячэннем палка. Але як замяніць, полк іх выбіраў? Усіх выбіраюць. Дэмакратыя.

Багуновіч узяў ад стала табурэцік, падаў Міры.

— Здымі шынель. Адагрэй душу.

— Дрэнны той рэвалюцыянер, у каго замярзае душа,— раздражнёна, яўна незадаволеная — вядома чым,— адказала Міра.

— Эх, дачка,— уздыхнуў Бураў,— душа...

Але Багуновіч кіўнуў яму, каб не развіваў сваіх сялянска-царкоўных уяўленняў пра душу, інакш гэтае дзяўчо распатроніць іх, «несвядомых», у пух.

— Кіпяточак у мяне ёсць. Выпі, родная. Кашляць не так будзеш. Шкада, цукру няма...

Бураў спаласнуў конаўку, выплеснуў ваду за дзверы, упусціўшы воблака марознай пары. Наліў кіпню.

Міра ўжо зняла пальчаткі — адагрэлася, узяла кружку па-дзіцячаму ў дзве далоні, маленькімі глыткамі, але прагна піла гарачую ваду. Багуновіч сачыў за ёй і з трывогай думаў, ці не захварэла яна — вельмі ж запалалі шчокі. Але пры салдату не прыпадзеш вуснамі да яе лба, скроні — так ён, як некалі маці, правяраў, ці няма ў яе жару. Яна любіла такія яго пацалункі, але пасміхалася з яго «арыстакратычных замашак».

— Іван Ягоравіч, выстаім, калі немцы пачнуць наступаць?

Бураў, які падкідваў у печку дровы, скалануўся, як абваліўшыся, не зачыніўшы дзверцаў, выпрастаўся, выцягнуўся па-салдацку, і, нягледзячы на водбліск полымя, твар яго, здалося Багуновічу, пабялеў.

— А што — міру не будзе?

— Вы, таварыш камандзір, задаяце правакацыйныя пытанні! — жорстка і бадай злосна сказала Міра.

— Мір будзе. Але да міру ўсё можа быць. Фронт ёсць фронт.

— З кім? Сяргей Валянцінавіч! З чым? — бадай у роспачы выгукнуў Бураў.

— З дапамогай пралетарыяту Германіі! Еўропы! З дапамогай сусветнай рэвалюцыі! — упэўнена, бадзёра сказала агітатарка.

— Хіба што з такой рэвалюцыяй,— няўпэўнена згадзіўся салдат.

Міра не стала, як звычайна, перад салдатамі, горача гаварыць аб непазбежнасці сусветнай рэвалюцыі. Яна натапырылася, як пакрыўджанае кацянё. Але Багуновіча даўно ўжо замілавана цешыла нават тое, што яна магла вось так надзьмуцца з-за палітыкі. Між іншым, такой яна рабілася толькі з ім — з салдатамі, са сваімі апанентамі-эсэрамі, меншавікамі яна спрачалася да хрыпласці ў голасе і пасля такіх спрэчак заўсёды была вясёлая, нават тады, калі не даводзіла свайго. А з ім вось так — як капрызнае дзіця з нястрогай маці. Неяк прагаварылася, што яна хоча перавыхаваць яго — любымі сродкамі. Пэўна, гэта адзін з яе сродкаў.

Багуновіч сказаў:

— Узводны Бураў, як вы думаеце, што было б камандзіру ў добрай арміі за ўход салдат з пазіцыі?

Бураў выцягнуўся, і голас яго прагучаў спалохана:

— Трыбунал.

— Баявая ахова пярэдніх ліній павінна весціся па ўсіх правілах пазіцыйнай вайны, Бураў!

— Слухаюся, таварыш...

— Людзей сабраць! Перадаць мой загад.

— Слухаюся! Дазвольце выконваць? — і пачаў апранаць шынель.

Пасля горача напаленага бліндажа на дварэ здалося яшчэ больш холадна. Вецер сек у твар з большай лютасцю. Пачалася сапраўдная завея.

Багуновіч сказаў Міры:

— Калі ласка, не размаўляй. Мне не падабаецца, як палаюць твае шчокі. У цябе — жар.

Не, маўчаць яна не магла і не пра жар думала.

— Мушу вам заўважыць, таварыш камандзір палка... армій не бывае добрых ці дрэнных... Арміі ёсць імперыялістычныя, контррэвалюцыйныя... І будуць рэвалюцыйныя!

— Рэвалюцыйная армія можа быць таксама слабай арміяй.

— Ах, так вы думаеце!

— Любая армія моцная сваёй дысцыплінай.

— Рэвалюцыйнай!

— Называй як хочаш.

Міра падняла рукі ў дзіравых пальчатках, схапілася ў роспачы за галаву і сказала ўжо без іроніі, горача і з болем:

— Не магу цябе зразумець! Не магу! Ты ж разумны чалавек. Цябе любяць салдаты... А ляпнуць, прабач, можаш такое... Мы стараемся дзень і ноч... каб вытравіць з душ, са свядомасці салдат рабства, чынапаклонства... дзікасць... Выкінуць на сметнік гісторыі ўсе ўстановы царызму, буржуазіі: чыны, званні, ордэны...

Тое, што Бураў начапіў крыжы, застаўшыся на адзіноце, сапраўды такі моцна кранула Багуновіча, і ён гатовы быў абараняць права салдата на нашэнне іх,

— Зразумей: чалавек заплаціў крывёю за гэтыя Георгіі. Гэта вельмі дарагая плата — кроў.

— Скора ты апраўдаеш, што ён ваяваў за цара, за айчыну...

— Што ж нас — павесіць за гэта... салдата, мяне... што мы ваявалі за айчыну? Я ніколі не думаў, што ваюю за цара.

— Не трэба абуджаць манархічных пачуццяў.

— Чым?

— Дазволам насіць Георгіі.

— Дзіўная ў цябе логіка.

— Не, у цябе дзіўная логіка!

— Ты можаш памаўчаць?

— Не, не магу.

— Тады слухай мяне. Калі хочаш па шчырасці, я табе скажу... Я прызнаў усе дэкрэты Саветаў, Леніна, акрамя аднаго... Аб адмене званняў, чыноў... аб выбарнасці камандзіраў. Гэта абсурд... Калі мы хочам абараніць рэвалюцыю, мы павінны мець моцную армію... Сіла

арміі — у дысцыпліне... у адукаваных камандзірах... Камандавацъ палком павінен палкоўнік Пастушэнка, а не нейкі паручнік, а тым больш салдат.

Міра спачатку як бы захацела збегчы ад яго слоў — абагнала крокі на тры, а потым павярнулася да яго тварам, загарадзіўшы дарогу і прымусіўшы спыніцца. Багуновіч убачыў яе рашучасць спрачацца, даказваць і падумаў: «Добра, што хоць павярнулася ад ветру». Ён ведаў, што яна можа сказаць жорсткія словы, стрэліць пахлапчукоўску — у свайго, але чамусьці нясцерпна захацелася абняць яе, сагрэць. Як усё ж дзіўна мяняецца колер яе вачэй! Зноў яны зялёныя.

— Ах, вось чаго вам захацелася,— з бязлітаснай уедлівасцю працадзіла яна праз сціснутыя вусны.— Вярнуць царскіх генералаў, палкоўнікаў?

Чорт вазьмі, здорава яна ўмее «заганяць у кут»: сапраўды, а дзе ўзяць іх, палкоўнікаў і генералаў, каб былі верныя рэвалюцыі? Ён не адразу знайшоўся, што адказаць. А яна ўжо не цадзіла — амаль крычала, як на мітынгу:

— Рэвалюцыйнай арміяй будуць камандаваць рэвалюцыйныя салдаты! Глаўкаверх — прапаршчык. А камандуе не горш за вашага Духоніна, па якім вы ўздыхаеце!

— Міра, гэта жорстка,— папрасіў ён літасці.

Мабыць, яна адчула, што хапіла праз меру, і змякчыла:

— Па вагончыках ды эпалеціках уздыхаеце. Ах, як вам хочацца начапіць залатыя пагончыкі!

Тады ён таксама ўзлаваўся:

— А ты знаеш... хочацца! Калі я камандзір палка, то я павінен мець нейкія знакі сваёй пасады, чыну! Назаві іх як хочаш! Але ведай: армія — не дабрачыннае таварыства...

Яна не дала яму скончыць і «стрэліла» з хлапчукоўскай бяздумнасцю:

— А да Каледзіна вам, пан паручнік, не хочацца?

Ён задыхнуўся ад абразы, марозны вецер, што кляпам, забіў рот, лёгкія. Як яна можа так? Сказаў бы гэта хто-небудзь з мужчын — ён адказаў бы па-салдацку! Можа, нават не словамі — пісталетам. Але як адкажаш гэтай няўрымслівай, апантанай дзяўчыне, якая верна служыць ідэі, але слаба ведае жыццё, мала што бачыла і не вельмі ўмее яшчэ разважаць, аналізаваць, разбірацца ў людзях і падзеях?

Ён ведаў, як ёй можна дапячы; аднойчы ўжыў гэтыя словы і бачыў, як яна рэагавала — палезла з кулачкамі з хлапчукоўскай

задзірыстасцю, што, дарэчы, яго вельмі пацешыла і захапіла: яна можа быць і такой!

Ён сказаў спакойна, але важка:

— Ты дрэнная бальшавічка. І дрэнная агітатарка.

Зноў яе сціснутыя ў пальчатках кулачкі падняліся

да яго твару, і вочы сыпанулі проста-такі вогненныя іскры.

— Я — дрэнная? — але чамусьці ў той жа міг рукі яе ўпалі, яна павярнулася, нахіліла галаву і хутка пайшла насустрач ветру: уся яе маленькая постаць пад доўгім і грубым салдацкім шынялём выдавала абражанасць і ўзбуджанасць, нейкую па-дзіцячаму пацешную і кранальную.

Багуновіч глядзеў на аўчынную шапку, на шынель, уяўляў пад ім яе маленькае, худзенькае цела, якое бывае такое гарачае і шчырае, і яго ўласная абраза ад яе слоў адразу выдзьмулася, засталася толькі замілаванасць, засталося каханне, якое так хораша грэла яго ў гэты суровы час, калі на галаву ўзвалілі надзвычайную адказнасць — цэлы полк. Праўда, полк тае, што свечка. Але тым большая адказнасць. Тым большая...

2

Штаб палка знаходзіўся ў маёнтку барона Зэйфеля — нашчадка таго Бенігсена, што пісаў даносы на Кутузава. Сын барона да Лютаўскай рэвалюцыі быў афіцэрам генеральнага штаба. У канцы шаснаццатага года ён інспектаваў у раёне Нарачы дывізію, у якой ваяваў Багуновіч.

Інспектары ўдзень пабылі ў адным ці двух палках, дарэчы, і ў яго, Багуновічавай, роце, ім спадабаўся парадак у роце, і камандзір атрымаў узнагароду — быў запрошаны ў штаб дывізіі на вячэру, балявалі цэлую ноч, гулялі ў карты, штабісты гулялі, што шулеры, і абчысцілі акопных афіцэраў; ён, Багуновіч, спусціў свае палявыя за тры месяцы наперад, і ў яго доўга было пагана на душы. Перажываў не за сябе — яму не трэба пасылаць сям'і, адвакат Багуновіч усё ж нешта зарабляў, хоць часцей вёў справы людзей, якім не было чым плаціць,— перажываў за сяброў, многія з іх сваім «полевым жалованием» падтрымлівалі сем'і.

Пазнаёміўся Багуновіч і са старым баронам, яго сям'ёй — мінулым летам, калі полк перакінулі на гэты ўчастак — перад чэрвеньскім наступленнем. У гэтым белым палацы барон даў баль у гонар афіцэраў. Дзіўна, сам стары і асабліва яго малодшы сын, кульгавы багаслоў-лютэранін, выказвалі нечакана даволі рэвалюцыйныя па тым часе погляды — у падтрымку рэспублікі. Пасля бальшавіцкай

рэвалюцыі мясцовы рэўком арыштаваў старога барона. Але дзён праз дзесяць яго выпусцілі, праявіўшы гуманнасць — чалавеку за семдзесят. А яшчэ праз тыдзень у цёмную лістападаўскую ноч сям'я бясследна знікла, разам з імі і былы камандзір палка — падпалкоўнік Фрыш, які сядзеў тут, у маёнтку, пад арыштам. Ніхто не сумняваўся, што немцы падаліся да немцаў, перайшлі лінію фронту. Палкавы камітэт патрабаваў расследавання і пакарання вінаватых — за такую безадказнасць і страту пільнасці. Арыштавалі толькі што выбранага, пасля змешчанага Фрыша, камандзіра палка — штабс-капітана Ягорцава. А мясцовы рэўком нават расстраляў аднаго свайго, хто адказваў за ахову баронскай сям'і.

Між іншым, акалічнасць гэтая — што барон там, у немцаў, увесь час трывожыла Багуновіча. А сёння, пасля наведвання нямецкіх пазіцый, пасля акцыі, якая называецца евангельскім словам братанне, трывога перарасла, бадай, у страх. Адціснуць на тры-чатыры вярсты парадзелы полк — не вялікі трэба ўдар, маючы такую сілу. А правакацыю заўсёды можна зрабіць і ў час перамір'я, кайзераўцы на гэта мастакі. Ды яшчэ і нас жа абвінавацяць. Ну, пойдзе нота пратэсту з Петраграда ў Берлін... Што такое нота, калі дзяржавы знаходзяцца ў стане вайны?! Ён, Багуновіч, яшчэ студэнтам, не вельмі верыў у ноты таго, мірнага, часу. Колькі іх напісалі перад вайной! Імператары, каралі, міністры кляліся ў адданасці міру, а рыхтавалі сусветнае пабоішча.

Штаб не ў самім палацы — у флігелі, на краі парку і фруктовага саду. Там жа побач, у бараку, дзе раней жылі батракі, раскватаравана штабная рота, пісары, інтэнданцкая служба. Усіх гэтых людзей удвая менш, чым мае быць па штатах ваеннага часу.

Вакол палаца — выдатны парк, праўда, дзе-нідзе папсаваны — колькі дрэў спілена, нават паваліді дуб, якому, напэўна, сотні дзве гадоў. Навошта гэта? Навокал — лес, таксама баронскі. Па яго патрабаванню палкавы камітэт прыняў пастанову, якая забараняе секчы дрэвы ў парку, псаваць фантаны, скульптуры, агароджу. Пастанову прынялі, але Багуновіч бачыў, як некаторыя члены камітэта — салдаты скептычна пасміхаліся. Не цяжка было здагадацца, пра што яны думалі: шкада, маўляў, афіцэру панскага дабра. Ён папрасіў Міру, каб разам з заклікамі да сусветнай рэвалюцыі, да зруйнавання ўсяго, што стварыла буржуазія, яна растлумачыла, што ёсць каштоўнасці, якія нельга разбураць, яны спатрэбяцца народу, рэвалюцыі. Яна не адразу згадзілася, доўга спрачалася, даводзіла, што нельга глушыць народны гнеў, які збіраўся стагоддзямі. Аднак усё ж у нечым пераканаў яе: чуў пасля, як яна гутарыла з салдатамі аб

зберажэнні культурных каштоўнасцей, якія цяпер належаць народу. Акрамя палка, у маёнтку быў іншы гаспадар — батракі, якія аб'ядналіся ў камуну і займалі палац. «Хто быў нічым, той стане ўсім». Людзі, якія нядаўна жылі ў галечы, без ложкаў, без мэблі, у бараку, які значна горшы за кароўнікі, а з баронскімі канюшнямі і параўнаць нельга было, нараджаліся і паміралі на гнілой саломе,— гэтыя людзі занялі баронскія апартаменты, кармілі мурзатых дзяцей на паліраваных сталах, спалі на інкруставаных ложках, на ababiтых кітайскім шоўкам канапах, выйшаўшы з хлявоў, у брудных ботах ці лапцях хадзілі па персідскіх дыванах, па паркеце, які па ўзору, па пародах дрэў быў мастацкім пано.

Людзям гэтым ніхто з іх, вайскоўцаў, маючы правы, якія дае ваеннае становішча, не адважваўся сказаць хаця б тыя далікатныя словы аб народным дабры, якія гаварыла Міра салдатам. Усе разумелі: па законах рэвалюцыі сапраўдныя гаспадары тут — батракі, бо ўсё ў маёнтку зроблена, пасаджана, вырашчана іх рукамі, рукамі і ўменнем бацькоў іх, дзядоў.

Безумоўна, было б апраўдана, каб адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі штаб з флігеля, дзе размяшчаўся яшчэ пры бароне, з яго добрай ласкі і з хітрасці — быць пад аховай штаба, перамясціўся ў палац. Але на гэта не пайшлі ні камандзіры, яго, Багуновічавы, папярэднікі, ні бальшавіцкі камітэт, што ўзяў усю ўладу ў свае рукі. Хто адважыцца выселіць камунараў? Дзяцей, жанчын пасярод зімы? Куды? Назад у барак? Адразу прыпішуць контррэвалюцыю.

Здавалася, што першая камуна, пра якую марылі вялікія сацыялісты, павінна была б захапіць такую перакананую бальшавічку, як Міра. Але асаблівай цікавасці да камуны яна не выявіла, і людзей гэтых — былых батракоў — як бы баялася. Здзівіла гэта Багуновіча. Увогуле, яна больш ахвотна выступала перад немцамі, чым перад сваімі. Толькі часам кідалася ў бойку з эсэрамі, якіх лічыла контррэвалюцыянерамі, за што тыя моцна крыўдзіліся на яе.

Але, цудоўны парк. Нават зімой. А якое хараство тут вясной, улетку!

Пад моцным ледзяным ветрам дрэвы гудзелі і трашчалі. Але розныя дрэвы шумяць па-рознаму. Ліпы — мякка, як палошчуцца, дубы... галіны іх усё роўна што натужліва труцца адна аб адну, рыпяць, а галлё бяроз свішча, як тыя дубцы, якімі seклі салдат у талстоўскім «Пасля балю».

Дзіўна, чаму Міру мала цікавяць камунары. А яго, Багуновіча, вельмі цікавіць гэтая першая камуна. У жыцці. Не ў кнігах. Не ў Чарнышэўскага ці Сен-Сімона. Ці хто там яшчэ пісаў пра камуну?..

Створаная не інтэлігентамі, не Верай Паўлаўнай, а батракамі, людзьмі непісьменнымі, але рэальнымі, ад зямлі. Ён штодня сустракае іх, пільна ўглядаецца, што і як робяць, чым займаюцца, як жывуць. Не ўсё яму, інтэлігенту, афіцэру, падабаецца ў гэтай камуне, не верыцца, што батракі здолеюць так жыць заўсёды, але адно шчыра захапляе — іх жыццядзейнасць і жыццярадаснасць: усе яны, старыя і малыя, што вязні, якія разбілі турму і вырваліся на волю. Многа стыхіі і многа радасці. Так, гэтыя людзі, відаць, адчулі, пазналі, што такое свабода і роўнасць. Ён, Багуновіч, на жаль, не пазнаў шчасця гэтага непаўторнага адчування. З'явілася было нешта такое год назад, пасля Лютаўскай рэвалюцыі, але жыло вельмі нядоўга, бо хутка наступіла расчараванне той, лютаўскай, воляй. Кастрычнік ён прыняў без хістанняў. Але самалюбства яго закранае салдацкі камітэт, які абмяжоўвае яго камандзірскія правы.

Кіруе камунай Антон Рудкоўскі, былы балтыйскі матрос, паранены мінулым летам пры Маанзундзе. Асколак, што брытвай, зрэзаў яму мякаць шчакі, вуха, пашкодзіў вока. Папсаваў «фотакартку», як сумна жартуе Рудкоўскі. А быў, па ўсім відаць, прыгажун на ўсю воласць — высокі, дужы, з густымі каштанавымі валасамі, завітымі прыродай, з карымі вачамі, калі меркаваць па правым воку, уцалелым, бо левае затуманена, хоць зрок цалкам і не страчаны.

Рудкоўскі аб'яднаў батракоў у камуну, узначаліў яе, хоць сам з добрай серадняцкай сям'і, праз што ў яго канфлікт з бацькамі, і ён, як усе камунары, жыве ў маёнтку. Увогуле, як пераканаўся Багуновіч, не толькі бацька Рудкоўскага, але ўсе гаспадары з сяла не надта задаволены камунай, называюць былых батракоў галадранцамі, галечай, лічаць, што яны захапілі баронскага залішне многа. Самі ж сяляне паводзяць сябе асцярожна: дагэтуль не падзялілі тую частку баронскай зямлі, якую рэўком і Савет адрэзалі сялу. Багуновіч разумеў гэтую сялянскую асцярожнасць: за тры кіламетры фронт, і туды, да немцаў, падаўся барон. Камандзір палка і той не можа не ўлічваць гэтай акалічнасці.

Антон Рудкоўскі адначасова старшыня рэўкома. А старшыня валаснога Савета — стары Калачык, у якога нават вочкі свецяцца хітрасцю. Вясёлы гэты, гаваркі чалавек, у лапцях, у латаным кажушку, заўсёды, як ардынарац, суправаджае Рудкоўскага. Але, відаць, не заўсёды згаджаецца з ім, бо Багуновіч чуў, як Рудкоўскі злаваўся і пагражаў чалавеку, які амаль у тры разы старэйшы за яго, расстрэлам за сабатаж Савецкай улады. Піліп Калачык весела смяяўся з пагроз: «Чым ты мяне палохаеш? Ты знаеш, колькі я разоў заглядваў у яе, у магілу? Мяне ў пятым годзе на расстрэл вадзілі, ды ад мяне

куля адскочыла. Жонка, братачка, мяне заваражыла. Пастаў магарыч — цябе заварожа».— «Мянташка ты старая»,— бяскрыўдна ўпікаў Калачыка матрос. «Во гэта ты ў самае дупельца пацэліў,— зноў смяяўся стары.— Што старая — то гэта праўда. Ого, каб я быў малады! Не такое ты б пачуў!»

Багуновіч з цікавасцю слухаў жартаўлівыя сваркі гэтых двух сялянскіх рэвалюцыйных важакоў. Бачыў, што ім таксама даспадобы, што камандзіра палка займаюць іх мужыцкія справы.

Рудкоўскі падабаўся сваёй энергіяй і нейкай асаблівай, якую Багуновіч да рэвалюцыі не сустракаў у людзей, перакананасцю ў шчаслівай будучыні, нягледзячы на ўласнае калецтва, якое наўрад ці паможа збудаваць асабістае шчасце. Сцягнутыя чырвона-фіялетавыя рубцы надавалі яго твару злавесна-пірацкі выгляд; жанчыне трэба пазнаць душу гэтага чалавека, каб пакахаць яго, думаў камандзір.

Веру такую — у шчасце — ён адначасова бачыў яшчэ ў аднаго чалавека — у Міры. Але там усё проста, бо ёсць само шчаслівае спалучэнне: таго ж ідэйнага пераканання з жаночым харaством, адукацыяй, бадай дзіцячай непасрэднасцю.

Матрос ставіўся да яго, афіцэра, паручніка, як бы з іроніяй; гэта бадай што крыўдзіла. Адносіны былі няпростыя.

Неяк палкоўнік Пастушэнка, начальнік штаба палка, з прыкметнай усхваляванасцю паказаў невялічкі эцюд: зіма, горы, рускі салдат, захутаны ў кажух. Эцюд быў запэцканы, але Багуновіч адразу пазнаў:

— Шынка? Верашчагін?

— Верашчагін. І знаеце, галубчык, дзе я гэта знайшоў? На сметніку. А калі там,— паказаў стары афіцэр праз акно на палац, заняты батракамі,— засталіся і не такія шэдэўры? А яны іх — на сметнік ці зусім у печ... Я не вялікі знаўца мастацтва. Але цану такім рэчам ведаю. Нельга такое выкідаць на сметнік, дарагі Сяргей Валянцінавіч! Ні пры якой уладзе! Пагаварыце з гэтым,— ён правёў рукой па шчацэ.— Я чамусьці баюся яго.

Гэта сапраўды было так, і гэта здзіўляла Багуновіча: харобры і сумленны чалавек, палкоўнік шчыра служыў рэвалюцыі і баяўся такіх, як Рудкоўскі, як старшыня палкавога камітэта тульскі рабочы Сцяпанаў, нават перад Мірай губляўся, асабліва перад яе «кавалерыйскімі наскокамі» на буржуазную культуру. На думку Багуновіча, яна ў сваёй непрыязні да таго, што было створана праклятымі эксплуататарамі, заходзіла далёка, але ў спрэчцы са старым палкоўнікам заўсёды перамагала; той хітра адступаў на «запасныя пазіцыі» — так Багуновіч называў яго манеўр, які даваў старому магчымасць пацешыць Міру

яе перамогай, аднак самому не капітуляваць перад яе перакананнямі. Багуновіча забаўлялі гэтыя ідэйныя спрэчкі маладога і старога, здаваліся нейкай новай гульнёй.

Не сказаць, што Багуновіча запэцканы верашчагінскі эцюд усхваляваў гэтак жа, як Пастушэнку,— гінуць не эцюды! — але ён паважаў парадак і любіў свайго начальніка штаба, таму адразу пайшоў да Рудкоўскага.

Матрос слухаў яго са змрочнай сур'ёзнасцю. Калачык рассыпаў дробны рагаток, як гарох па паркеце, і пры сваім узросце не сядзеў на месцы — як хлапчук, перасаджваўся з аднаго крэсла ў другое, усё роўна што прымяраў, якое зручнейшае. Размова ішла ў бальнай зале палаца, пустой і халоднай, але, на здзіўленне Багуновіча, з чыстым паркетам, амаль не кранутымі шпалерамі — толькі ў адным месцы быў ададраны ладны кавалак жоўтага шоўку, адхапіла нейкая батрачка на кофтачку. Штук дваццаць даволі яшчэ чыстых крэслаў з гнутымі ножкамі, з баронскімі гербамі на спінках — шчыт, меч і галава зубра ці тура (не разабраць на палінялым габелене) на варотах палаца тэўтонскай архітэктуры — стаялі ў роўнай шарэнзе ўздоўж сцяны. Гэтыя крэслы і прымяраў Калачык.

— Мільён за адну карціну? Што ты кажаш? Во, Антошка, нам бы адхапіць адну такую! Во наладзілі б камуну! — «сыпаў гарох» Калачык.

Рудкоўскі не ўсміхаўся — скрывіўся параненым вокам на блазненне старога.

— Каму б ты яе прадаў? Мальвіне Грыўцы? Ці Залману-каравачніку?

З некім з гэтых людзей, мабыць, было звязана нешта смешнае, бо Калачык рагатнуў на поўны голас — ажно адгалоскі ўдарылі ў пустыя сцены, на якіх выразна выдзяляліся прамавугольныя плямы ад знятых карцін. Што гэта за карціны? Дзе яны?

Багуновіч быў тут пры бароне, але ў памяці не захавалася ніводнага палатна. Недзе віселі партрэты продкаў барона. Мабыць, тут. Партрэтаў не шкада. Хоць, безумоўна, каштоўнасць любой карціны ў тым, кім яна напісана, якім мастаком — Бруловым ці нейкім невядомым Шульцам, выканаўцам сямейных партрэтаў.

Рудкоўскі, не выявіўшы ніякай цікавасці да расказу пра мастацкія шэдэўры, пра Рафаэля і Рэпіна, адказаў з грубай іроніяй:

— Што, палкоўнік, баронскага дабра стала шкада? Дык ведай: народнае гэта дабро цяпер.

Пакрыўдзіла Багуновіча гэтая іронія — асабліва «палкоўнік». Але пасля прыйшлося ў Рудкоўскага і Калачыка прасіць сена для батарэйных коней. Пачухалі патыліцы, аднак далі. Цяпер трэба прасіць

зноў — і сена для коней, і хлеба для людзей. Калі салдат не накарміць сёння, заўтра, праз тыдзень ад палка застанецца пустое месца, куча металу, якую можна толькі пераплавіць, але якая без людзей не стрымае і аднаго варожага ўзвода.

У палац не хадзілі праз парадны ганак, на ім ляжала гурба снегу. Вецер біўся ў сцяну і ўзнімаў снежны віхор, адзіную сцежку, што вяла да чорнага ходу, да кухні, засыпала снегам, нідзе не было відаць ні душы, як і на перадавой, ні цывільных, ні салдат. Гэтая бязлюднасць зноў-такі амаль спалохала Багуновіча: у мястэчку, за нейкія чатыры вярсты адгэтуль, у немцаў, было даволі людна, адчынены былі крамы, хадзілі не толькі ваенныя, але і цывільныя.

Але калі Багуновіч увайшоў у калідор гаспадарчай часткі палаца, на яго дыхнула жытлом, ды такім, што ажно закружылася галава: з кухні цягнула даўно не чутымі смачнымі пахамі смажанага мяса, свежага хлеба ці блінцоў. Ён рана снедаў, па-салдацку; з'елі з Мірай нішчымную прасяную кашу, выпілі па кубку пахучага кіпятку, чай замянілі травы і самая водарная з траў — багун. (Міра па-дзіцячаму смяялася, калі пачула, што трава гэтая называецца багуном: «Багуновіч п'е багун. Цяпер я знаю, чаму пакахала цябе. Ты так смачна пахнеш».) Пахі з кухні выклікалі амаль балючы прыступ голаду: «закрычаў» страўнік ад спазмаў, пагнала сліну і ажно зазвінела ў галаве. Але розум перамог голад. Багуновіч узлаваўся: у салдат, што нясуць ахову першай лініі, не было снедання, а ў іх, новых гаспадароў маёнтка, такая раскоша! Што гэта — баль пад час чумы? Гаспадары, ліха ім! З'ядуць жывёлу з баронскіх хлявоў — а пасля што? Не, гэта нельга пакінуць так! Няхай яго асудзіць камітэт, рэўком, але варта аднавіць парадак, які існаваў пад час вайны: у прыфрантавой паласе ўлада належала камандзіру часці, якая займала дадзены ўчастак! Ды тут жа сумна ўсміхнуўся са сваёй рашучасці: а якая ў яго ўлада над уласным палком? Аднак... няўжо камунары штодня гатуюць такі абед? Думка гэтая так моцна абурыла яго, што ён з ваяўнічай рашучасцю накіраваўся на кухню: пабачыць усё сваімі вачамі! Рэзка адчыніў дзверы і... сумеўся. На кухні, каля доўгага стала, каля пліты, ад якой дыхала жарам, завіхаліся адны жанчыны, чалавек шэсць; некаторыя маладзейшыя былі без кофтачак — душна! Яны таксама ахнулі, убачыўшы нечаканага госця, пачалі хавацца за печку, закрывацца кофтачкамі. Але адна не збянтэжылася, хоць таксама была без кофтачкі.

— А-а, таварыш камандзір! Заходзь, заходзь, не бойся, пабачыш бабскую камуну,— з гасціннай усмешкай ласкавай гаспадыні пайшла яму насустрач, спынілася за якія два крокі, дзябёлая, расчырванелая,

ад яе, што ад печкі, дыхала жарам; у прарэзе палатнянай сарочкі, няшчыльна сцягнутай на шыі аборачкай, выразна віднеліся белыя поўныя грудзі.

Багуновіч не ведаў, куды адвесці вочы. Глядзеў на старую каля пліты, якая пякла ажно на трох скавародках пульхныя блінцы; мазала гарачую скавародку кавалкам сала, сала гэтае давала пах смажаніны. На пліце стаяла вялікая каструля з цестам, адтуль яна зачэрпвала драўляным палонікам рэдкае цеста, налівала на скавараду. Некалькі горак гатовых блінцоў ляжалі на стале. Жанчына сярэдніх год, што на доўгім стале качала галку густога белага цеста, пэўна, на пірагі, спакойна, не ўзнімаючы галавы, сказала:

— Стася! Прыкрыйся, бессаромніца.

Стася зарагатала.

— Ты думаеш, цётка Адэля, афіцэр не бачыў цыцак? Ого! Ты не знаеш іх! Паны такія! Іх жа маткі не кормяць. Карміцелькі. Дык яны змалку як прывыкнуць да чужых...

Стасю гэтую Багуновіч хараша ведаў. Яна амаль штодня трапляла яму на вочы. Усё роўна як падпільноўвала і вось гэтак заляцалася, асабліва старалася пры Міры. Толькі перад ёй Міра гублялася і пасля рабілася змрочнай — яна раўнавала. Гэта яму падабалася. Але, ашчаджаючы Мірыны пачуцці, ён не нагадваў ёй тэорыю «свабоднага кахання». Праўда, Стася была такой гуллівай не толькі з ім, але і з іншымі камандзірамі, з салдатамі, нават старога Пастушэнку не саромелася, прымушала чырванець. Але наўрад хто мог сказаць, калі быў не хвалько, не балбатун, не паклёпнік, што спаў з удавой; муж Стасін, батрак, салдат, загінуў яшчэ ў пятнаццатым годзе недзе ў Карпатах.

Багуновіч ведаў: вясковыя Стасю асуджалі за яе вольнасці, асабліва бабы, а свае, камунары, глядзелі на яе заляцанні да вайскоўцаў паблажліва, як на вясёлую гульню.

Старая, што пякла блінцы, сказала:

— Не старайся, Стася, у яго свая ёсць. Пекная паненка. Толькі не апранай яе ў шынельку, пан афіцэр.

Стася бліснула шырокімі шэрымі вачамі з падмалёванымі вугалем ці можа баранэсінымі фарбамі брывамі.

— Гэтая чарнявенькая агітатарка? У тае я адаб'ю яго — як піць даць,— і зноў зарагатала.

— Ты гэтак лёгка адбіваеш мужыкоў? Глядзі, выдзеруць табе бабы косы,— сказаў Багуновіч без усмешкі.

Жанчыны, што, надзеўшы кофтачкі, выйшлі з-за печкі, засмяяліся. Стася не збянтэжылася.

— Не выдзеруць. Я як ваўчыца: авечак блізка ад свайго логава не чапаю, дальніх хапаю... Ды тых, якія жырней... а свае... які з іх наедак! Камандзір палка — гэта набытак. Хоць ноч пабыць пад палкоўнікам.

Во чортава баба: ёй слова — яна табе дзесяць. Старая кухарка, паблажліва пасміхаючыся, паківала галавой.

— Во балаболка! Пачастуй лепш пана афіцэра блінцамі!

Стася ўзрадавалася такой прапанове і закамандавала, усё роўна што была тут за старэйшую:

— Праўда! Ану, бабы, падаць камандзіру блінцоў на залатым блюдзе!

Багуновіч не паспеў адмовіцца, як адна з маладзіц, напэўна, была ў барона пакаёўкай, цырымонна, з паклонам, паднесла да яго на вялікай талерцы з саксонскага фарфору цэлую гару блінцоў.

Пры такой сур'ёзнай і паважнай цырымоннасці адмовіцца ад пачастунку было немагчыма, гэта, бадай, пакрыўдзіла б жанчын. Усе яны глядзелі на яго, нават Стася змоўкла і сачыла пільна і... сур'ёзна, не страляючы вачамі. Ды і страўнік сапраўды такі крычаў: «Дай!»

— Каштуйце, пан афіцэр,— не ўзнімаючы вачэй, сказала тая, што паднесла талерку.— Грачнёвыя. З салам.

Багуновіч узяў блінец, звярнуў яго ў трубку, адкусіў і ажно спалохаўся, баяўся пракаўтнуць — каб не выдаць сваёй галоднасці. Гэта было нешта незвычайнае. Здалося, нічога больш смачнага ён ніколі не еў. З грачнёвай мукі, прапітаны тукам, з запечанымі дробнымі кавалачкамі сала, блінец проста раставаў у роце і ўліваўся жыццятворным сокам — не ў страўнік, не,— адразу ва ўсё цела, у кожную клетку яго, даючы асалоду, радасць, сілу.

Адразу падумаў пра Міру: накарміць бы яе такімі блінцамі, якая гэта была б радасць — для яго. Але, для яго, бо яна, пурытанка, магчыма, магла б і запярэчыць. Аднак падумаў, што яго становішча, яго гонар не дазваляе папрасіць у жанчын узяць блінцоў з сабой — нават для Шры. Ах, як яна нядобра кашляла? А цяпер, безумоўна, перажывае за свае словы — за Каледзіна. Не ўпершыню яна кідала яму такія абразлівыя словы, а пасля, бачыў, сама перажывала. У яго таксама кіпела крыўда да самага маёнтка. А тут, у душнай кухні, перад жанчынамі і блінцамі з салам, крыўда гэтая ўраз знікла і зноў апанавала яшчэ большая замілаванасць да дзяўчыны, яе сапраўды такі хлапчукоўскія наскокі здаліся цяпер проста смешнымі; жаласць да яе, галоднай і, напэўна, хворай, завалодала ім. І тут жа зноў узнікла раздражнёнасць супраць камунараў увогуле і супраць гэтых сытых баб, што гулліва, тэатральна частуюць яго. Яго салдаты

галадаюць, а тут блінцы з салам пякуць! Але праз момант засаромеўся свайго нядобрага пачуцця да гэтых людзей. Як можна! Ён, сынок адваката, з маленства жыў у чысціні, у дастатку, добра адзяваўся, вучыўся ў гімназіі, ва універсітэце, еў не толькі блінцы з салам, невядома, ці здаліся б у маленстве гэтыя блінцы такімі смачнымі... Дык якое ў яго права папракаць гэтых людзей?! Дзеля таго, каб гэтыя непісьменныя жанчыны адчулі сябе роўнымі з ім, афіцэрам, камандзірам палка, сталі гаспадынямі на баронскай кухні і па-чалавечаму накармілі сваіх дзяцей,— дзеля гэтага прадзеды і дзяды іх, бацькі і мужы вылілі рэкі поту, а потым яшчэ і мора крыві — на палях гэтай страшнай вайны. За што лёг у зямлю Стасін муж? За што леглі сотні салдат яго роты на Нарачы, пад Дзвінскам? Не, людзі гэтыя, як ніхто, маюць права на поўныя грудзі ўдыхнуць вецер свабоды. Як і салдаты яго палка, усёй арміі. Яго, камандзіра, нярэдка абуралі дэзерцірства, адсутнасць дысцыпліны, але, разважыўшы, ён засёды прыходзіў да высновы: людзі заваявалі волю крывёю, дык як жа можна яе абмяжоўваць? Ды каб і захацеў, то не далі б абмежаваць. Палохала яго адно: ці надоўга яна, воля? Як утрымаць яе, якімі сродкамі?

Задумаўшыся, не заўважыў, як з'еў адзін блінец, пацягнуўся па другі. Але схамянуўся: ці прыстойна?

— Частуйцеся, пан афіцэр. Частуйцеся.

— Не трэба — пан, калі ласка... Мы ўсе таварышы...

— -Камандзір — бальшавік, як наш Антон,— сказала Стася.

— З якой нагоды ў вас такі баль?

— Эх, дык заўтра ж — Новы год! — здзівіліся жанчыны.

Але, новы год! Васемнаццаты. Ён зусім забыўся. Міра — супраць старых свят. Ды і газеты пачалі выходзіць па еўрапейскім календары, У немцаў, у мястэчку, навагодні феерверк быў два тыдні назад. Дзяжурны ў тую ноч разбудзіў яго па трывозе, не разабраўшыся, што за агні на варожым баку.

Ударыла ў сэрца гарачая хваля ўспамінаў пра сваё маленства. Увесь час яму здавалася, што вайна аддаліла яго бязвоблачнае дзяцінства, юнацтва на цэлае стагоддзе, часта яму проста было страшна думаць пра тое шчасце, якое ён меў у сям'і адваката Багуновіча, дзе бацькі, асабліва маці, жылі дзеля дзяцей, рабілі ўсё, каб яны сытна паелі, цёпла і прыгожа адзеліся, любілі музыку, раслі сумленнымі людзьмі.

А ў гэты міг яно, мінулае, мірнае, добрае, неяк дзіўна прыблізілася. Ён усё роўна як убачыў клопаты маці на кухні разам з кухаркай цёткай Таццянай, прыгожую елку ў зале, якую ён убіраў з сястрой

і братам цацкамі і цукеркамі, трапяткое чаканне падарункаў, якія пакладзе пад елку Дзед Мароз у навагоднюю ноч.

Да спазмаў у горле захацелася паставіць хоць маленькую елачку для Міры і палажыць падарунак, які мог бы яе парадаваць.

Але які падарунак прыдумаеш? З-за сваёй сумленнасці, свайго аскетызму ён не адважыцца нават на тое, каб выпісаць з палкавога склада кілаграм мукі і спекчы хаця б такія вось блінцы, як пякуць гэтыя батрачкі, адчуўшы сябе гаспадынямі.

Хіба папрасіць у Рудкоўскага? Не! У Рудкоўскага ён папросіць мукі, але не для сябе — для палка.

— Дзе ваш Рудкоўскі? — адмовіўшыся ад трэцяга блінца, падзякаваўшы, спытаў Багуновіч у жанчын.

— Мітынгуе,— засмяялася Стася,— Во, няпраўду казалі, што мы, бабы, гаваркія, што нас ніхто не перагаворыць. Далі волю мужыкам — дык яны толькі і знаюць, што гавораць. Старога Калачыка сорак баб не перабрэша.

— Засядаюць мужчыны наверсе,— проста, без лішніх слоў, растлумачыла жанчына, што паднесла блінцы.

Стася зноў засмяялася:

— Жывём — як у раі: мужчыны языкі востраць, бабы баронскія канюшні чысцяць...

— Так, як ты адмянташыла свой язык, дык так нікому не завастрыць,— як бы пакрыўджаная за мужчын, сказала паўнагрудая маладзіца, адна з тых, што хаваліся за печчу, каб надзець кофтачку.

— А ты як хацела? Я, можа, камісарам вашым хачу быць. Хоць... наліха вы мне здаліся! Які з вас наедак! Узяць бы мне ўладу над вашымі мужыкамі! Якога захацела, таго і выбрала б, як царыца Кацярына.

— Цьфу-цьфу, бессаромніца! Бога ў цябе няма! — абурылася старая кухарка.

— Чаго захацела, бач яе! Я за свайго вочы табе выдзеру! — сур'ёзна папярэдзіла маладзіца.

Але Стасю ўгаманіць было няпроста, яна яўна іграла на яго, на Багуновіча (своеасаблівая форма звярнуць на сябе ўвагу), і гэта ёй, безумоўна, удавалася; больш вопытныя жанчыны разумелі ўдаву і паблажліва пасміхаліся.

— Ты — міраедка! — секанула Стася па маладзіцы.— А яшчэ ў камуну лезеш. У камуне ўсё трэба дзяліць пароўну...

— А ты хто? Брахалка! Балаболка! Распусціла язык. Рудкоўскі табе падрэжа яго...

— Баюся я твайго камісара! Скора ён пад маю дудку будзе скакаць.

— Пасаромейцеся пана афіцэра, жанкі.

Стася жартавала, а паўнагрудая маладзіца ўжо кіпела. Павеяла сваркай. Таму Багуновіч далікатна развітаўся, каб не быць сведкам жаночай сваркі, ведаў, што прысутнасць староннята чалавека ўзмацняе перажыванні людзей, якія пасварыліся без прычыны, проста так, чапляючыся за словы. Бачыў ён такія сваркі не толькі сярод непісьменных кабет, але і сярод адукаваных афіцэраў, калі людзі пасля размовы, якая пачыналася жартамі, хапаліся за рэвальверы.

## 3

Ён ішоў па цёмным у зімовы дзень калідоры першага паверха палаца, які, відаць, многа разоў перабудоўваўся, таму хады і пераходы набылі адмысловую форму, і думаў пра жыццё людзей, якіх рэвалюцыя зрабіла гаспадарамі гэтага старога палаца, навакольнай зямлі, дабра ў хлявах, свірнах.

Выхаванага ў дэмакратычнай сям'і, на дэмакратычнай літаратуры, пазнаўшага разам з народам, з сялянамі, батракамі, адзетымі ў шынялі, усе жахі вайны, Багуновіча радавала, што людзі гэтыя — і яго салдаты, і гэтыя былыя батрачкі — сталі вось такімі — сапраўды свабоднымі, незалежнымі, не гнуць спіны ні перад баронамі, ні перад палкоўнікамі (урэшце, ён для гэтых жанчын — палкоўнік). Але ці гатовы яны жыць камунай? У жартаўлівай сварцы жанчын ён адчуў той мікроб, які можа размножыцца і заразіць здаровы арганізм, разбурыць яго. Трэба разумны, умелы санітар, каб не даць успыхнуць хваробе індывідуалізму, прыватнасці: «Гэта маё, а гэта тваё, і майго не чапай!» Філасофіі такой тысячы гадоў, не так проста выкарчаваць яе з чалавечай свядомасці, з душ людскіх! Ён не верыў, што гэта можна зрабіць за месяцы ці нават за гады, спрачаўся з Мірай, захапляўся яе ўпэўненасцю ці злаваўся на яе наіўнасць і пакутаваў ад таго, што ў яго няма такой веры, як у яе, што яго, як іржа, раз'ядаюць сумненні.

Да Кастрычніка, да сустрэчы з Мірай усё здавалася прасцей; сумненняў у яго амаль не было, ён ішоў з салдатамі і на немцаў, і на сваіх генералаў, пайшоў супраць Карнілава і супраць Керанскага. Але нават не гэта яго ўстрывожыла і ўсхвалявала — не «мікроб», які верне тысячагадовую хваробу. Як і на сваёй пярэдняй лініі, дзе на ўчастку роты застаўся адзін унтэр Бураў, так і тут, на кухні, дзе пякліся смачныя блінцы і гуллівая кабета весела жартавала,— яго не проста ўстрывожыла — спалохала бесклапотнасць свабодных людзей перад

ворагам — страшным ворагам, узброеным да зубоў, у чым ён сёння пераканаўся сам. Ён прыняў братанне. Баяўся часам за Міру, але ўхваляў мудрасць бальшавікоў — пасылаць да немцаў такіх агітатараў. Разумеў, што нямецкі салдат — той жа рабочы і селянін. Аднак прускага лейтэнанта прадаўжаў ненавідзець гэтак жа, як кайзера.

Убачыўшы, як салдаты выцягваліся не толькі перад лейтэнантам, але і перад унтэрам, адчуў нядобрае пачуццё і да салдат і баяўся іх гэтак жа, як увосень чатырнаццатага, калі прыйшоў на фронт; тады, пасля разгрому арміі Самсонава, усе яны, рускія, баяліся «ап'янелых тэўтонцаў», іх нянавісці да славян, іх вывучкі, тактыкі, агнявых шквалаў крупаўскай артылерыі.

Паднімаючыся па параднай лесвіцы з прыкметна пашкоджанымі мармуровымі парэнчамі, Багуновіч думаў: ці можна пры такой свабодзе, калі любы салдат можа самадэмабілізавацца, абараніцца ад ворага знешняга?

У былой баронскай сталоўцы гулялі дзеці, звонкія галасы напаўнялі ўвесь палац; Багуновіч іх чуў яшчэ ўнізе, у калідоры. Крэслы былі перавернуты дагары ножкамі, нагрувашчаны адно на адно, утварыўшы барыкаду. Дзеці, напэўна, гулялі ў вайну, бо група з груп сутыкалася на доўгім абедзенным стале — хто каго скіне са стала.

Шыкоўны стол, інкруставаны. Праўда, дзеці былі босыя або ў лапцях. Аднак усё роўна ад інкрустацыі пры такім выкарыстанні стала мала што застанецца. Ды стала не было шкада. Пашукаў вачамі, ці няма ў «барыкадзе» карцін. Не, карцін не было ні на падлозе, ні на сценах, засталіся толькі плямы ад іх.

Багуновіч колькі хвілін стаяў у дзвярах, глядзеў на дзяцей. Збянтэжыў іх. Засаромеліся чужога чалавека, вайскоўца; малодшыя пачалі хавацца за крэслы, пад стол.

Толькі адзін, хлапчук гадоў васьмі, выйшаў наперад, смела спытаў:

— Ты камандзір?

— Камандзір.

— Я ведаю цябе. Ты на кані ехаў з шабляй. А дзе твая шабля?

— А ты немцаў не баішся? — нечакана для сябе спытаў Багуновіч.

— А чаго іх баяцца? Яны ж — людзі.

Адказ малога ашаламіў камандзіра палка. «Яны ж — людзі». Хлопчык! Ты верыш, што яны людзі! Гэта ж хараша. А я, абпалены вайной, выходзіць, не вельмі веру ў гэта? У каго ж ператварыла мяне вайна? Упершыню яму стала страшна за сябе.

Камітэт ці праўленне (Багуновіч не ведаў, як гэта называецца ў камуне) засядаў у баронскім кабінеце. Ён адчыніў туды дзверы знянацку, пайшоўшы на галасы. Галасы былі глухія, таму здалося, што людзі яшчэ далёка, за дваімі ці траімі дзвярмі. Ён бадай разгубіўся, убачыўшы чалавек шэсць камунараў, што сядзелі вакол вялікага пісьмовага стала. Сказаў:

— Прабачце.

— А-а, таварыш палкоўнік! — выгукнуў Рудкоўскі.— Заходзь, заходзь. Паслухай нашы мужыцкія справы.

Як часта і раней, Рудкоўскі звярнуўся да яго з іроніяй. Але цяпер іронія ў словах «таварыш палкоўнік» не зачапіла Багуновіча, зварот не здаўся здзеклівым, крыўдным. Падумаў, што зусім нядрэнна, каб ён быў палкоўнікам, савецкім, і меў поўную ўладу ў палку, тады яго полк быў бы не горш за нямецкі, што стаіць проціў, і ён не адчуваў бы страху. Пасміхнуўся са свайго жадання, успомніўшы Міру: якія словы пачуў бы ад яе, каб прызнаўся, што захацеў стаць палкоўнікам! Відаць, было б не толькі саркастычнае запытанне, ці не хоча ён да Каледзіна. Гнеў яе палаў бы і выбухаў, што пры пажары артсклада.

Парадаваўся, што лёс звёў яго з такой дзіцячай чысцінёй і непрымірымасцю. Ад яе сам робішся чысцейшым.

Неяк выйшла так, што раней ён у гэтым пакоі не быў, ні тады, калі афіцэраў запрашаў барон, ні тады, калі палкавы камітэт заняў маёнтак, палац, арыштаваў барона, ні тады, калі па настойлівым патрабаванні Рудкоўскага перад армейскім камітэтам і Саветам (Рудкоўскі ездзіў ажно ў Мінск) палац аддалі батракам Для арганізацыі першай камуны.

Першыя хвіліны ён разглядаў кабінет, прысеўшы на скураную канапу, пра якую падумаў, што такая, мабыць, стаяла ў старога князя Балконскага. Успамін пра Талстога зноў вярнуў на міг у маленства — кароткая і горкая кропля смутку ўпала на сэрца. Але было не да ўспамінаў. Звярнуў увагу, што кабінет загрувашчаны карцінамі — яны стаялі на падлозе ўздоўж сцяны, на той жа канапе, дзе ён прысеў, на кніжнай шафе. На падаконніку — бронзавыя скульптуры. Сабраў Рудкоўскі каштоўнасці і ахоўвае: сюды, відаць па ўсім, не заходзяць ні дзеці, ні жанчыны. Адносіны да матроса пацяплелі, і Багуновіч услухаўся, пра што камунары гавораць. Гаварылі пра падрыхтоўку плугоў, барон да сяўбы, гаварылі па-мужыцку спакойна, разважліва, упэўнена, быццам няма вайны, лінія фронту не праходзіць па іх землях і быццам у поле трэба выязджаць праз тыдзень-два. Моцна гэта ўразіла былога афіцэра, кранула і расхвалявала. Толькі на вайне, і асабліва цяпер, калі рэвалюцыя ўручыла яму цэлы полк,

Сяргей Валянцінавіч Багуновіч пазнаў цану хлеба. Есць хлеб — ёсць жыццё, радасць, ёсць армія. Не накармілі сёння салдат — з акопаў знікла баявая ахова. Не накарміць іх заўтра — і палка не стане, участак фронту будзе аголены. І вось гэтыя людзі гавораць пра тое, як вырасціць хлеб. Гавораць, як сапраўдныя гаспадары. Можа, толькі ў той міг вайсковец зразумеў увесь сэнс, усю сілу Дэкрэта аб зямлі і ўпершыню падумаў, як яны арганічна звязаны — Дэкрэт аб міры, які ён прачытаў дзесяткі разоў, якім жыў, і Дэкрэт аб зямлі, які яго, гараджаніна, крануў менш. Адносіны яго не толькі да Рудкоўскага, але да ўсіх гэтых людзей у кажухах і лапцях пацяплелі да брацкай, сыноўскай любові. Але ён — сын гэтых людзей, што адвечна расцілі хлеб, сын гэтага народа, які хораша карміў паноў (ды і яго, колішняга паніча) і заўсёды галадаў сам.

У Багуновіча ажно затуманіліся вочы, і ён з юнацкай гімназісцкай палымянасцю ў душы пакляўся, што ніколі не здрадзіць гэтаму народу.

А між тым Рудкоўскі і яго калегі гаварылі пра вельмі празаічныя рэчы: спрачаліся, якога каваля наняць — Мар'яна Кулагу ці Еську Буселя. Адны былі за Мар'яна: свой, вясковы, інструмент у яго пад рукой, гэта важна, бо ў баронскай кузні ўсё расцягнулі, скураныя мяхі і тыя парэзалі на боты, жалеза пакралі, адно кавадла ўцалела.

— Той жа Кулага і вывез яго,— гарачыўся стары Калачык, аднаму яму не сядзелася на месцы, ён падхопліваўся, прабягаў да дзвярэй і назад.

— Не злавіў — не злодзей. Затое з Мар'янам клопатаў не будзе. А Еську карміць трэба. Паспрабуй такога каваля накарміць! Сала ён не есць...

— Бусель кузню наладзіць, кузня нам усягды трэба. А Мар'яну наша кузня — што скула ў бок. Канкурэнцыя! — гэта Рудкоўскі, і яго довад пахістаў пераканanні прыхільнікаў свайго, вясковага каваля.

Багуновіч слухаў з цікавасцю, з такой жа, як на першым ваенным савеце арміі, калі быў выбраны камандзірам палка і калі перамір'е яшчэ не было падпісана, палкі, дывізіі вялі баявыя дзеянні, праўда, пасіўныя: слаба агрызаліся на нямецкі агонь.

Больш горача спрачаліся па другім пытанні — аб лесе. Усе згаджаліся, што лес трэба ахоўваць, што трэба наняць сваіх леснікоў, мужыцкіх, замест баронскіх, якіх выгналі. А то безгаспадарнасць прывядзе да таго, што лепшы «страявы» лес высекуць кулакі, якім ёсць на чым вывозіць, у іх добрыя коні. Ды і ўвогуле нельга, каб лес seклі хто хоча і дзе хоча, павінен быць парадак. Заспрачаліся пра іншае. Рудкоўскі прапанаваў падзяліць лес паміж камунай і сялом, як

і зямлю, тады кожны гаспадар будзе наводзіць свой парадак. Старшыня сялянскага Савета Калачык, якога Багуновіч раней, пры сустрэчах, прымаў не вельмі сур'ёзна — вясковы жартаўнік, скамарох,— раптам праявіў настойлівасць і — падумаў Багуновіч — мудрасць. Ён рашуча запярэчыў супраць раздзелу лесу. Лес — не толькі бервяно, без жартаў, сур'ёзна даводзіў стары, лес — гэта лес, паша для жывёлы, сенажаць, грыбы, ягады, радасць для дзяцей, прыгажосць для ўсіх, цяпер лес — народнае дабро, і таму дзяліць яго нельга, гэта князі ды бароны дзялілі, кожны сваё адгароджваў, вунь манахі — богавы служкі — у сваім лесе грыба не давалі падняць, ягаду сарваць. Што ж, і камуна ў свой лес не будзе пускаць вясковых? А калі з мястэчка людзі прыйдуць? У іх лесу няма. То іх тож не пусцім? Наша! Не чапай! Не, матрос, так не будзе. Занясло цябе. Паедзем у павятовы Савет — няхай рассудзяць. Во камандзір. Няхай ён скажа.

Багуновіч падтрымаў старога.

Рудкоўскі спачатку гарачыўся, але Калачык цвёрда трымаўся сваёй думкі, і большасць камітэтчыкаў, не адразу, паступова, з развагамі, са сваімі меркаваннямі, пачалі схіляцца да таго, што варта падтрымаць старшыню Савета. Рудкоўскі пачаў адступаць і рабіў гэта, як адзначыў Багуновіч, з дыпламатычнай хітрасцю. Прыхаваўшы ўсмешку, спытаў:

— Ты, дзед, у Кілаватага кілбасы на каляды не еў?

Кілаваты — кулак, і Рудкоўскі раней казаў Багуновічу, што сыны яго пераходзяць лінію фронту, можа, ходзяць да барона, можа, займаюцца кантрабандай — з'яўляюцца ў суседнім мястэчку запалкі нямецкія, голкі, ніткі, але дурнямі трэба лічыць нямецкае камандаванне, калі яно не зрабіла іх сваімі шпіёнамі. З гэтым нельга было не згадзіцца.

Багуновіч чакаў, што стары абразіцца. Любы прапаршчык за падобны намёк палез бы ў бутэльку.

Не, стары засмяяўся.

— Як не еў? Еў, братачка мой. Ласаваўся. Хто ад такіх кілбас адмовіцца, калі яго частуюць? На ўсё сяло пахлі.

— То-та, бачу, ты спрыяеш міраедам лес вывозіць. Ты ж знаеш: пакуль бядняк запражэ сваю дахляціну...

— Э-э, браце! Не гні — зломіш. За кілбасы мяне ніхто не купіць. А будзе лес наш, народны, паставім леснікоў — і ніхто дубца без патрэбы і дазволу не ссячэ. Во як зробім!

Пагадзіліся аб лесе вырашыць на агульным сходзе ўсіх сялян — камунараў, вяскоўцаў, местачкоўцаў.

Час ляцеў непрыкметна. Праз шырокае акно было відаць, як на дварэ гуляла завіруха. Вецер кідаў снег у шыбы, сухі, ён сыпаўся па шкле, шуршэў на цаглянай сцяне. Хоць у пакоі было не вельмі цёпла, але ў шынялі Багуновіч сагрэўся, і яму было ўтульна і хораша паміж кніг, карцін, побач з людзьмі, якія абгаворвалі вельмі важныя справы — як наладзіць новае жыццё, зусім новае — такое, якога яшчэ нідзе ніколі не было, хіба толькі што ў кнігах.

Але ў яго таксама не менш важныя справы і неадкладныя — як захаваць полк, яго баяздольнасць.

Багуновіч глянуў на гадзіннік. Мабыць, гэта паслужыла Рудкоўскаму сігналам; мужыцкая грубасць і матроская зухаватасць былі формай, адпаведнай часу і становішчу, а па сутнасці сваёй Рудкоўскі быў чалавек далікатны. Закрываючы сход, ён сказаў:

— На сёння хопіць, таварышы. Нагаварыліся ад пуза. Вунь камандзір чакае. Трэба яшчэ над ваеннай стратэгіяй падумаць.

Немагчыма было зразумець: сур'ёзна ён гэта сказаў ці з іроніяй. Урэшце, не варта звяртаць увагі. Няхай называе яго тактыку стратэгіяй, як хоча. Але без тактыкі нельга камандаваць і аддзяленнем.

Калі камунары выйшлі і яны засталіся ўтрох (старшыня Савета не адступаў ад матроса), Багуновіч падышоў да акна, угледзеўся ў белую каламуць.

— У ясную пагоду касцёл добра відаць? — разумеў недарэчнасць такога пытання, бо касцёл быў відзён і з аднапавярховага флігеля, дзе размяшчаўся штаб.

— Як на далоні.

— Правей касцёла, за могілкамі, стаіць іх батарэя. Раней яе не было.

Рудкоўскі і Калачык пераглянуліся паміж сабой, зразумеўшы адзін аднаго, пасміхнуліся. Багуновіч убачыў іх усмешкі і падумаў, што не з таго пачаў, атрымаецца, што ён хоча спалохаць гэтых людзей. Растлумачыў:

— Я толькі адтуль. Хадзіў з салдатамі, браталіся...

— А я ламаю галаву, чаму палкоўнік у салдацкім шынялі...

— Не іранізуйце, Рудкоўскі. Хто-хто, а вы павінны ведаць: на вайне не жартуюць. Перад намі новая нямецкая дывізія, хоць па ўмовах перамір'я...

— Дайце тэлеграму глаўкаверху. Ці ў Саўнарком, Леніну.

Багуновіч паглядзеў на Рудкоўскага. Но, здаецца, не іранізуе, раіць зусім сур'ёзна. Здзівіла хіба іншае: упэўненасць Рудкоўскага, што тэлеграму можна даць на самы верх, ураду, Леніну.

Багуновіч падумаў, што трэба знайсці больш даверлівую форму размовы. Запытаў проста:

— Вы не думаеце, што з касцёла на вас глядзіць барон Зэйфель?

— Няхай паглядзіць. Няхай аблізнецца,— весела сказаў Калачык.— Мы яму дулю пакажам,— і склаў фігу, выставіў у акно.

— Усё больш сур'ёзна, таварышы. Мы праяўляем бесклапотнасць...

— Мы?

— Напэўна, у Першую чаргу мы, вайскоўцы. Я знаю немцаў. Яны здольныя на любую правакацыю...

— Ты што — баішся, камандзір? І нас палохаеш?— сурова спытаў Рудкоўскі.

— Рудкоўскі, вы ведаеце, што засталося ад палка.

— Мы ўзнімем народ! — выгукнуў Калачык.

— З віламі, з тапарамі? — уедліва спытаў Багуновіч; яго пачала раздражняць легкадумнасць старога чалавека, мудрасцю якога ён захапляўся, калі размова ішла пра лес, пра зямлю, пра рамонт плугоў.

— Ты, сынок, не верыш у сілу народа,— і са смуткам заключыў:— Малады. Таго, што заваяваў крывёю, народ не аддасць. Косці пакладзе.

— Піліп Мартынавіч, гэта высокія словы, а я ацэньваю ваенную абстаноўку.

— У нас атрад у сорак штыкоў. Дайце нам вінтоўкі — і заўтра мы выставім сто пяцьдзесят. Немцы, канешне, могуць заняць маёнтак. Але якой цаной!

Гэта сказаў не Калачык — Рудкоўскі, у развагу якога, у рэалістычнасць Багуновіч верыў больш. Словы гэтыя зрабілі ўражанне. Ён паверыў: за сваю зямлю, за свабоду людзі мясцовыя будуць стаяць да апошняга. Вінтоўкі ў яго сяляне прасілі раней. Ён запытаў штаб арміі. Не дазволілі перадаць, хоць вінтовак хапае: большасць былых салдат таксама ўжо недзе рыхтуюцца араць зямлю.

Багуновіч адступіў ад акна, абышоў вакол стала і сеў у крэсла, у якім перад тым сядзеў Рудкоўскі; гэтым не зусім свядомым жэстам ён як бы ўзяў на сябе кіраўніцтва перагаворамі. Пачакаўшы, пакуль абодва сялянскія важакі селі насупраць, сказаў, гледзячы ў вочы Калачыку — трэба пераканаць яго, бо ён зусім не блазен, як здавалася раней:

— Вашых людзей трэба вучыць. А ў мяне абстраляны полк. Памажыце мне захаваць полк,— памаўчаў, чакаючы адказу, але яны маўчалі, тады ён сказаў галоўную прычыну, якую яны добра ведалі: — Людзі галадаюць.

— Зноў хлеб? — здзіўлена ўзмахнуў рудымі бровамі Калачык.

— Зноў хлеб!

— А дзе ўзяць? — і стары пацмокаў, паківаў галавой. Цмоканне гэтае чамусьці ўзлавала Багуновіча.

— У вас пякуць бліны з салам. А ў мяне сёння рота баявой аховы засталася без снедання.

— Ты нас не ўпікай, афіцэр! Блінцы нашы пачуў! Бач ты яго! Мы, можа, сто гадоў гэтых блінцоў чакалі. А роту тваю... маць яе... саломай трэба накарміць. Сынкі Кілаватага двух лепшых жарабкоў на нямецкі бок перагналі... сёння, уначы... Мы гэтую сволач самі зловім. Але твае куды глядзяць? Во вапрос! Якая ж ты ахова рэвалюцыі?! З-пад носа штаба коней вывелі!

— Не кіпі, дзядзька Піліп,— спыніў старога Рудкоўскі і павярнуўся да Багуновіча.— Мы збяром хлеб для арміі. Але ты дасі нам зброю! — прагучала гэта не як просьба, не як умова на перагаворах — як ультыматум.

Такі тон спачатку непрыемна ўразіў. Узнік лагічны адказ: «Я не гандляр зброяй! Я камандзір палка рэгулярнай арміі. Мне ніхто не дазволіць...»

Але Багуновіч не сказаў гэтага. Памаўчаў, падумаў і адказаў:

— Добра. Я дам вам вінтоўкі.

Пасля ўжо, пасля многіх іншых слоў, якія заключалі дамоўленасць, адчуў халадок ад думкі: «А што скажа палкавы камітэт?»

Усё роўна настрой дзіўным чынам перамяніўся.

Выйшаў з палаца ў завею, пачуў, як шумяць дрэвы парку, і захацелася радасна, па-хланчукоўску, галёкнуць і засмяяцца. Галоўнае, знікла адчуванне страху, якое з'явілася ад сустрэчы з немцамі, той сустрэчы, якая так узрадавала Міру. Дзіўна, як па-рознаму розныя людзі глядзяць на свет! Не толькі розныя людзі — адзін і той жа чалавек на працягу дня. Як ён сёння. Усё ж хораша! У Брэсце пачаліся мірныя перагаворы. Надыходзіць Новы год. Сапраўды — Новы, з вялікай літары, бо ўсё ў ім будзе новым на гэтай шматпакутнай зямлі.

Сяргей з пяшчотай падумаў пра Міру, з удзячнасцю і дабрынёй аб людзях, з якімі толькі сустрэўся.

Рудкоўскі прапанаваў яму паабедаць. Багуновіч прызнаўся, што жанчыны пачаставалі яго блінцамі. Стары Калачык весела смяяўся:

«Во салдацкі нюх мае чалавек! Во ўвішны! Пакуль мы з табой, Антон, агітавалі адзін аднаго, ён каля нашых баб на кухні аціраўся. А я думаю: адкуль пра блінцы знае?»

У штабе, калі не лічыць вартавога, толькі адзін чалавек працаваў — займаўся справамі палка. Як і ў іншыя многія дні. Начальнік штаба палкоўнік Пастушэнка. Падлічваў, планаваў, вычэрчваў графікі, схемы. Нястомны працаўнік. Чалавек гэты даўно здзіўляў Багуновіча. Палкоўніку пад шэсцьдзесят, ён старэйшы за яго, Багуновічавага, бацьку. У шаснаццатым прысланы са Стаўкі, назначаны камандзірам гэтага палка. Хадзілі чуткі, што за нейкую правінку быў высланы, нібыта з самім імператарам не згадзіўся ў нечым. Дваранін, не з бедных. Але з вышэйшым камандным саставам не вельмі сябраваў, не любілі Пастушэнку там. Трымаўся кампаніі сваіх афіцэраў, большасць з якіх у пяхотных часцях была з разначынцаў — з настаўнікаў, чыноўнікаў, сярэдняй буржуазіі. Гэтая частка афіцэраў лічылася найбольш рэвалюцыйнай да лютаўскага перавароту і горача вітала звяржэнне Мікалая крывавага, устанаўленне рэспублікі. Пастушэнка не ўзначальваў іх, але ішоў з імі, як роўны, прымаючы ўсе рэвалюцыйныя перамены ў арміі і ў краіне. А пасля палкоўнік пайшоў далей за многіх маладых афіцэраў — пайшоў за салдатамі. У чэрвені полк адмовіўся ад наступлення.

Палкоўнік абараняў салдат, не выдаў агітатараў-бальшавікоў і, нібыта трымаючыся ў цяні, здолеў зрабіць так, што казацкай сотні, якая была прыслана штабам фронту, каб абяззброіць полк і расфарміраваць, не ўдалося гэтага зрабіць.

Полк некаторы час не чапалі — гарачыя ліпеньскія дні ў Петраградзе, у Стаўцы, Часоваму ўраду было не да таго. А пасля, калі контррэвалюцыя арганізавалася і ўмацавалася, ваенны міністр Керанскі, стаўшы прэм'ерам, уласным загадам зняў Пастушэнку з камандавання палком і разжалаваў у капітаны.

Любы ва ўзросце Пастушэнкі падаў бы ў адстаўку ці нейкім іншым чынам з'ехаў бы з палка — хто вытрымаў бы такое ўніжэнне!

Пастушэнка застаўся ў палку, камандзірам батальёна.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі бальшавіцкі камітэт у ліку іншых абмяркоўваў і яго кандыдатуру на камандзіра. Ды Пастушэнка сам прапанаваў сябе на начальніка штаба.

«Я штабіст, таварышы, я штабіст»,— часта паўтараў ён.

Штабіст з яго сапраўды быў адменны.

Пастушэнка, накінуўшы кажушок на плечы, сядзеў за сталом і ўважліва вывучаў інтэнданцкія звесткі аб наяўнасці прадуктовага давольства. У яго з'явілася падазрэнне, што на складах не ўсё ладна, ва ўсялякім разе, улік даволі заблытаны. Не дзіва — многа новых людзей, малапісьменных. Але хацелася праверыць салдацкія размовы,

што хтось з інтэндантаў «спускае» муку і кансервы набок — прадае сялянам, местачкоўцам. Ён са смуткам думаў, што зладзеі пралазяць і ў рэвалюцыю, што яны ёсць у кожным класе і адрозніваюцца хіба што маштабамі ўкрадзенага. Пры царызме прамыслоўцы, пастаўшчыкі, інтэнданты кралі на мільёны рублёў, кралі ў салдат, што лілі кроў «за цара і айчыну». «Якая брыдота!» — думаў тады стары праўдалюб, талстовец. Цяпер нейкі мужык у шынялі крадзе ў сваіх таварышаў. Яму таксама няма апраўдання. Непісьменны? Несвядомы? Але ўсім — панам і мужыкам — з маленства даводзяць евангельскі запавет: «Не крадзі». «Не забі» — першы і галоўны запавет усіх рэлігій. Тыя, хто, па іх перакананнях, атрымаў уладу ад бога і часцей, чым просты люд, паўтараў у малітвах і пропаведзях усе добрыя запаветы, не толькі кралі — цацкоўвалі народ на народ і забілі не сотні, не тысячы — мільёны людзей.

Сумна было старому палкоўніку ад такіх думак. А яшчэ было сумна ад таго, што ён стары, з хворым сэрцам, і не здолее дажыць да ажыццяўлення ідэалаў свабоды, роўнасці і брацтва. Ён верыў у чалавечы розум, у дабрыню, у тое, што людзі збудуюць жыццё на новых асновах. Ён пайшоў да бальшавікоў таму, што паверыў: вучэнне іх, тэорыя, не разыходзіцца з практыкай. Бальшавікі не спыніліся, як спыніліся эсэры. Не толькі спыніліся — папаўзлі назад. Сволач Керанскі, які столькі крычаў аб высокіх ідэалах, дабраўшыся да ўлады, загадваў расстрэльваць салдат. Расстрэльвалі ротамі, батальёнамі. Без суда.

Пятру Пятровічу было холадна і няўтульна. Узнялася завіруха, вецер біў у вокны, выдзьмуваў цеплыню ад прапаленай раніцою грубкі.

Багуновіч з'явіўся ў штаб у добрым настроі. Захацелася яму прывітаць Пастушэнку гэтак жа, як Рудкоўскі прывітаў яго. Але калі ў адносінах да яго была іронія, то ён гэта зрабіў зусім сур'ёзна:

— Здравія желаю, таварыш палкоўнік.

Стары падхапіўся з крэсла, што салдат перад начальнікам, выгляд у яго стаў разгублены і спалоханы. Жаласліва папрасіў:

— Не трэба так жартаваць, Сяргей Валянцінавіч. Па-першае, я не палкоўнік...

— Па-першае, вы палкоўнік, Пятро Пятровіч. Няхай Керанскі сваімі загадамі падцірае пэўнае месца... Ніхто вас не пазбаўляў звання. А па-другое, па-другое... знаеце, пра што я думаю? Калі бальшавікі створаць сваю армію... рэвалюцыйную... яны мусяць вярнуцца да званняў... Можа, гэта будуць іншыя званні, але будуць! Не можа быць арміі без камандзіраў, якіх неяк трэба называць,— Багуновіч

весела азірнуўся.— Не выдавайце мяне Сцяпанаву. І Міры. Але я вам прызнаюся: сёння мне раптам захацелася стаць савецкім палкоўнікам... хоць ваенная кар'ера, як вы ведаеце, мяне не вабіць.

Пастушэнка расчуліўся, ажно ў вачах заблішчалі слёзы: сорак гадоў чалавек праслужыў у арміі.

— Дарагі мой! Зайздрошчу я вам... Аптымізму вашаму. Дай бог, дай бог стаць вам і палкоўнікам... І генералам... А я за вас хваляваўся, знаеце... Усё-такі гэта...

— Авантурна?

— Я інакш хацеў сказаць: рызыкоўна... Пад выглядам салдата...

— Рызыка была, безумоўна. Адзін з іх афіцэраў сказаў па-французску: «Гэты тып — бальшавіцкі шпіён».

— Што я вам казаў! Ах, галубчык!

— Але на іх трэба было глянуць не салдацкім вокам. Перад намі новая дывізія. Гэта мог убачыць толькі я. Так немцы выконваюць умовы перамір'я.

— Сяргей Валянцінавіч! Вы верылі, што яны будуць іх выконваць? Вораг наш без чэсці і сумлення.

— У Берліне сапраўды паўставалі рабочыя. Але рэвалюцыйнасць гэтых салдат убачыла толькі наша бальшавічка... Міра. Я не ўбачыў. Мы глядзелі рознымі вачамі... І я прызнаюся толькі вам: мне зрабілася страшна. Я не баязлівец. Але...

— Я разумею вас.

— Калі мы не заключым мір, будзе катастрофа. Мы страцім рэшткі нашай арміі. Папоўнім армію палонных. Ад гэтага мне стала страшна. Але, дзякуй богу, мы з вамі ніколі не панікавалі. Будзем дзейнічаць! Першае... тэлеграма штабу фронту аб тым, што супраць нас — новая часць.

Пастушэнка сеў да стала і пачаў пісаць.

— Другое... разведка! Арганізуем разведку. Не будзем святымі, калі праціўнік плюе на ўмовы перамір'я. Глыбокая разведка, Пятро Пятровіч! Мне толькі што сказаў Рудкоўскі... сынкі аднаго кулака пераходзяць лінію фронту... сёння перагналі туды коней... Злавіць! Выпытаць усё, што можна. Пад страхам смерці за шпіянаж. Нарэшце, чаму на той бок не могуць схадзіць нашы людзі? У кагосьці, напэўна, ёсць сваякі ў мястэчку ці яшчэ далей ў сёлах, у нямецкім тыле. Рудкоўскі паможа знайсці такога чалавека. Адным словам, разведка па ўсіх ваенных правілах! Нам жа лягчэй, мы на сваёй зямлі. Укамплектаваць узвод разведкі лепшымі салдатамі і падпарадкаваць начальніку штаба палка. Вам, Пятро Пятровіч. Сачыняйце загад.

Багуновіч хадзіў па прасторным пакоі ад акна да дзвярэй, абыходзячы доўгі стол, за якім сядзеў начштаба, і гаварыў гучна, выразна, кароткімі фразамі — як дыктаваў загад. Стары палкоўнік пазіраў на яго ўлюбёна, бадай захоплена сыпаў на паперу не літары — іерогліфы — стэнаграфічныя знакі. Кажушок яго споўз з плячэй на крэсла. На плячах палінялага фрэнча выразна выдзяляліся прамавугольнікі ад былых пагонаў. Багуновічу гэтыя плямы кінуліся ў вочы, ён спыніўся за спіной у Пастушэнкі і са стоенай усмешкай падумаў: які гвалт узнялі б камітэт і Міра, каб ён прызнаўся, што пашкадаваў палкоўніцкіх пагонаў!

Абышоў стол, сеў з другога боку, памачыў пяро ў чарніліцу, пачаў пісаць. Пісаў павольна, почырк у яго быў каліграфічны, папоўскі, як жартаваў некалі стары Багуновіч. Працягнуў лісток Пастушэнку. Той прачытаў уголас:

— «Петраград. Смольны. Леніну. Армія галадае. Распадаецца. Самадэмабілізуецца. Асобныя ўчасткі фронту аголены, нікім не ахоўваюцца. Стрымаць наступленне немцаў, калі яно пачнецца, немагчыма. Салдаты 136-га Кастрамскога палка чакаюць міру. Салдаты патрабуюць міру. Камандзір палка Багуновіч».

Пастушэнка здзіўлена паглядзеў на яго.

— Гэта можна?

— У рэвалюцыі ўсё можна, дарагі Пятро Пятровіч. Усе і кожны мае любое права.

— Вы думаеце, Ленін не знае пра становішча на фронце?

— Не сумняваюся, што знае. Пра гэта ўжо паўмесяца гавораць на з'ездзе па дэмабілізацыі арміі. Але лішняя тэлеграма з фронту не пашкодзіць... спадзяюся, паможа Леніну... Ён жа за мір. А ёсць праціўнікі міру...

— Вы рашучы чалавек, Сяргей Валянцінавіч.

— Не, я не быў рашучым. А трэба быць. Трэба, Пятро Пятровіч. Нам даверана жыццё людзей. Зараз мы з вамі выдамо яшчэ адзін загад. Але тут нам не абысціся без камітэта. Дзе Сцяпанаў?

— Яму нездаровіцца. Ён прылёг. Знаеце, такія хворыя пры такім атмасферным пераломе... Вунь як разгулялася пагодка!

Пастушэнка апраўдваў старшыню палкавога камітэта, што той ляжаў сярод дня. Кранула Багуновіча сваім клопатам. Увогуле Сяргею падабалася ўзаемная павага гэтых двух зусім розных людзей — двараніна і рабочага. Дэмакрат, ліберал, Багуновіч некалі, як і бацька яго, захапляўся ідэяй прымірэння класаў шляхам асветы і евангельскага ўдасканалення прыроды людзей. У вайну зразумеў, што гэта

прыгожая утопія, але ідэалы маладосці пакінулі свой след: ён стараўся ўбачыць у кожным чалавеку добрае і радаваўся чалавечай дабрыні.

Абараняць Сцяпанава не трэба: усе ведаюць, што ён хворы на сухоты. Хто іншы даўно быў бы ў тылавым шпіталі, а гэты фанатычны бальшавік не пакідае фронту.

Для Багуновіча Сцяпанаў такая ж легенда, як і Пастушэнка, толькі хіба з той розніцай, што з Пятром Пятровічам, нягледзячы на яго званні і ўзрост, ён даўно адчувае сябе роўным і паводзіць пасвойску, а Сцяпанава быццам баіцца, адчувае ў нечым, магчыма, самым галоўным, перавагу рабочага над сабой. Баіцца ён, напрыклад, сцяпанаўскай маўклівасці, панурасці, хоць яе не цяжка вытлумачыць — хворы чалавек. Невытлумачальнай, загадкавай бывае яго рэдкая, нечаканая, часам беспрычынная ўзбуджанасць — весялосць ці гнеўная раздражнёнасць.

Філат Прохаравіч Сцяпанаў у шостым годзе быў асуджаны да дзесяці гадоў катаргі. У шаснаццатым вызваліўся і сам, добраахвотна, папрасіўся на фронт. На трэцім годзе вайны царызм падшкрабаў рэшткі рэзерву, і людзей часта «галілі ў салдаты» нават без медыцынскіх камісій, добраахвотнікі ж, пры наяўнасці многіх тысяч дэзерціраў, былі дзівам, за іх хапаліся абедзвюма рукамі. Царскія служкі, мабыць, думалі, што былы палітвязень перавыхаваўся і гатовы праліць кроў за цара і айчыну. Ніхто, безумоўна, не падазраваў, што на фронт Сцяпанаў пайшоў са згоды партыйнага цэнтра, які праводзіў ленінскую тактыку пранікнення ў салдацкія масы.

Сцяпанаў, як і Пастушэнка, кватараваў тут жа, пры штабе. Спаў на кухні, на ляжанцы, дзе заўсёды было цёпла. Багуновіч памкнуўся быў паклікаць яго, але каля дзвярэй перадумаў. Вярнуўся да стала, зноў пачаў пісаць. Сачыніў абяцаны загад аб перадачы зброі сялянскаму атраду. Даў пачытаць Пастушэнку. Той не здзівіўся, але пашкроб патыліцу, уздыхнуў.

— Засудзяць нас за казённае дабро.

— Завошта? Калі мы гаворым пра рэвалюцыйную вайну, народ павінен быць узброены. Не бойцеся. Абы нас падтрымаў камітэт. Пайду да Сцяпанава.

Салдат-днявальны распальваў печку. Печка дыміла. Сцяпанаў натужліва кашляў і нязлосна лаяў салдата. Ён ляжаў, накрыўшыся шынялём, яго ліхаманіла. З'яўленню Багуновіча не здзівіўся. Камандзір палка не ўпершыню знаходзіў яго тут. Выяўляў незадаволенасць, што прыходзіцца вырашаць партыйныя і вайсковыя справы на кухні, дзе салдаты варылі здабытую ў сялян бульбу і сушылі анучы, аднак гэта яго не бянтэжыла, наадварот, лічыў, што афіцэра так і трэба

зближаць з салдатамі. Да таго ж камандзір гадоў на васемнаццаць маладзейшы, лічы, сын яго, няхай і гэта адчувае, не ў царскай арміі, дзе перад ім, бязвусым, выцягваліся барадатыя рабочыя і сяляне. Але калі следам за Багушэвічам на кухню ўвайшоў начальнік штаба, Сцяпанаў хутка падняўся, сеў на ляжанцы. Ды вышэй было больш дыму, і ён зноў цяжка закашляўся. Выплюнуў у брудную насоўку рудую слізь. Схіліўся.

— Галубчык мой,— сказаў Пастушэнка.— Нельга вам у дыме. З вашымі лёгкімі...

— Цягне мяне сёння на ляжанку... як старога дзеда,— вінавата прызнаўся Сцяпанаў.

— Ляглі б на маім ложку.

— Што вы, Пятро Пятровіч! — збянтэжыўся старшыня камітэта і змрочна панурыўся, мабыць, незадаволены, што размову пачалі з яго хваробы, не любіў, калі пра яе нагадвалі.

Між тым зноў пачаўся прыступ кашлю. Раздражнёны, Сцяпанаў падняўся, надзеў у рукавы шынель і пайшоў з кухні, кінуўшы салдату:

— Цвярской... ямской... такую тваю... печку не ўмееш распаліць!

Бывала, што ён раптоўна выходзіў зусім, калі з нечым не згаджаўся, але здаралася гэта пасля спрэчкі з камандзірам ці з членамі камітэта. Цяпер жа яго ўзлавала афіцэрская дабрыня. Не паклікалі. Прыйшлі да яго, як да паміраючага, каб узгадніць нешта, можа і не вельмі неадкладнае.

Багуновіч зразумеў гэта і перажываў сваю памылку.

Не, Сцяпанаў не пайшоў на двор, на вецер, у завею. Прыйшоў у агульны пакой штаба. Сеў на канапу каля печкі і без адзінага слова чакаў: з-за чаго гэтак паднялі яго?

Багуновіч падумаў, што паспешлівасць яго можа здасца гэтаму суроваму бальшавіку недарэчнай, больш таго — падазронай. Аднак трэба тлумачыць, калі патурбаваў чалавека.

— Галодных салдат нам не ўтрымаць. Дэзерцірства...

Сцяпанаў узняў галаву і перапыніў:

— Самадэмабілізацыя,— ён не любіў слова «дэзерцірства» ў дачыненні да арміі, якая стала на бок рэвалюцыі. А ўвогуле здзівіўся: пра харчаванне гаварылі штодня на ўсіх узроўнях — у ротах, у камітэтах, у штабе палка. Што ж новае здарылася? Багуновіч адчуў яго здзіўленне. Сказаў новае, у што раптам паверыў сам у часе размовы з Рудкоўскім і Калачыкам.

— Старая армія распадаецца. Што яе заменіць? Чырвонагвардзейцы былі ўдарнай сілай рэвалюцыі... З іх атрадаў, думаю,

павінна вырасці новая армія. Зброю старой арміі — у рукі новай. Так патрабуе гісторыя!

Сцяпанаў слухаў з цікавасцю, але насцярожана. У вуснах камандзіра гэта сапраўды новае. Дагэтуль Багуновіча, здаецца, хвалявала толькі адно — баяздольнасць палка, як яе захаваць. Сцяпанаву падабаўся такі клопат пра полк, але часам здаваўся і падазроным: ён, як і ўсе салдаты, не давяраў афіцэрам ці давяраў з аглядкай — куды хто з іх паверне? Куды ж нечакана павярнула выбранага імі камандзіра палка?

Багуновічу самому не падабалася, як ён гаварыў. Мірына тэрміналогія! А пра гісторыю — увогуле шкалярства, гімназісцкі выкрык. Каго ён уздумаў агітаваць такім чынам? Сцяпанава?

Здалося недарэчным нават тое, што ён стаяў пасярод пакоя, як агітатар. Сеў да стала і сказаў проста, з паваленай дзелавітасцю:

— Прашу згоды на наступны загад,— падняў паперу, але гаварыў, не заглядваючы ў яе.— Перадаць мясцоваму атраду Чырвонай гвардыі... вінтовак семдзесят, кулямётаў — два, ручных гранат — дзвесце... патронаў... патронаў нямнога...

— Аддамо трафейныя... вінтоўкі і патроны,— сказаў Пастушэнка.

— Правільна, аддамо трафейныя,— узрадаваўся Багуновіч падтрымцы начштаба.

А Сцяпанаў маўчаў. Дзіўна маўчаў. Заплюшчыў вочы, схіліўся, упёршыся далонямі ў калені, быццам яму схапіла жывот.

Сцяпанаў думаў.

Багуновічу не падабалася такая яго панурая маўклівасць, ён дапоўніў:

— Сялянскі камітэт дасць хлеб і фураж.

Сцяпанаў маўчаў. Ён ведаў адмову штаба фронту на

запыт аб перадачы часткі лёгкай зброі, на якую не хапае салдат, сялянскім атрадам. Чаму ж, з якой прычыны гэты афіцэр, прывучаны да строгай дысцыпліны, робіць такі смелы крок? Стары падпольшчык, навучаны турмой і катаргай любым праявам і чалавечай высакароднасці, і чалавечай нізасці, ён умеў быць асцярожным нават тады, калі хтось праяўляў самую высокую рэвалюцыйнасць.

— Мы не паднімем увесь наш арсенал. У нас мала людзей... і мала коней,— сказаў Пастушэнка, не тлумачачы — калі не паднімем, само самой зразумела: у выпадку адступлення.

Сцяпанаў пасміхнуўся ў свае калені, пасміхнуўся з сябе: ён даўно здзіўляўся, чаму больш верыць палкоўніку, двараніну, чым паручніку з адвакацкай сям'і. Аднак абодва яны разважаюць правільна,

практычна. І па-бальшавіцку. Сялянскія атрады не стрымаюць кайзераўскіх войск. Але яны пачнуць партызанскую вайну і пакажуць імперыялістам, наколькі сялянам дарагая ўлада Саветаў, тым самым будуць рэвалюцыянізаваць нямецкіх салдат, такіх жа сялян і рабочых.

Сцяпанаў адчуваў, што Багуновіча нервуе яго маўклівасць, Багуновіч у меншай ступені, чым нават палкоўнік, звыкся з салдацкім кантролем над дзеяннямі камандзіраў і нерваваўся гэтак не ўпершыню.

Сцяпанаў падняўся з канапы, ступіў да стала, весела засмяяўся.

— Давай твой загад.

Багуновіч сцяўся: было аднойчы, што Сцяпанаў вось так узяў загад і парваў; тады гэта моцна абразіла камандзіра, ён лічыў такі жэст беспардонным хамствам.

Гэты загад Сцяпанаў падпісаў.

5

Завіруха разгулялася на ўсю моц. Верхавіны старых сосен гойдаліся так, што рабілася страшна: настылыя, яны маглі зламацца і ўпасці на галовы.

Дрэвы натужліва рыпелі і трашчалі пад напорам ветру. А ўвесь бор гудзеў, як мора пры шматбальным шторме, калі хвалі б'юць у бераг з разбуральнай сілай.

Але ўнізе пад соснамі было да ўтульнасці зацішна. Даўно наезджаная дарога толькі прыцярушана снегам, не тое што ў полі, дзе дарогу перамялі гурбы снегу і коні правальваліся па калені.

У лесе конь ішоў лёгка. Зрэдку весела фыркаў. Тут жа адзываўся ззаду конь веставога. Салдата, які суправаджаў бы, прымусіў узяць Пастушэнка, прымусіў з настойлівасцю камандзірскай і бацькоўскай. Увогуле старому было дзіўным нечаканае Багуновічава жаданне ў такую непагадзь наведаць свой трэці батальён і суседні полк. Пастушэнка не любіў камандзіра гэтага палка эсэра Бульбу-Любецкага.

Багуновіч пасароме́ўся сказаць сапраўдную прычыну, чаму абавязкова трэба з'ездзіць да Бульбы. Здзівіў Пастушэнку і асабліва Сцяпанава запрашэннем прыйсці да яго, каб сустрэць Новы год.

Сцяпанаў усміхнуўся нават:

— Вы сур'ёзна?

— Няўжо я такі блазен, што магу жартаваць з такімі паважнымі людзьмі?

Прыцішыў лёгкі бег каня. Аслабіў ногі ў страмёнах, апусціўся ў сядле, як у крэсле, не па-кавалерыйску. Ведаў: салдат-казак з сотні, што прыдадзена была палку, ад якой цяпер засталося чалавек пяць,

астатнія дэзерціравалі, ці, як называе Сцяпанаў, самадэмабілізаваліся, асудзіць такую яго «пяхотную пасадку». Але было не да афіцэрскага гонару.

Прыемна, як у калысцы, гойдацца на спіне скакуна, які хадзіў не як усе чатырохногія, а неяк адменна: спружыніста выкідваў уперад адразу дзве, правыя ці левыя, нагі.

Багуновіч слухаў скрып сядла, удыхаў пах конскага поту, хвоі, свайго кажушка і папахі (скінуў шынель і шапку, у якіх хадзіў да немцаў) і думаў... Думаў пра Міру, пра бацькоў, пра Новы год. Але любая думка не адыходзіла ў бяскрайнасць мінулага ці будучыні, не гублялася ў прасторы, яна кружыла, рабіла вялікі ці малы круг, не адрываючыся ад эпіцэнтра, А эпіцэнтрам такім былі цяжкія, як ядро зямлі, думкі пра мір.

Багуновіч толькі што наведаў трэці батальён, якім камандаваў яго былы ротны фельдфебель Берасцень, бальшавік са стажам — кіраўнік выступлення гомельскіх чыгуначнікаў у пятым годзе. Але пра гэта ён, Багуновіч, даведаўся толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі і быў трохі пакрыўджаны і расчараваны сваёй блізарукасцю, што больш як за год не здолеў разгледзець, хто яго памочнік: пад выглядам паваротлівага па гаспадарчай частцы і строгага з салдатамі фельдфебеля хаваўся вопытны канспіратар, прапагандыст. Цяпер Берасцень — лепшы камандзір батальёна, у яго найбольш людзей, і ён, не назаляючы начальству, нейкім чынам умее карміць іх.

Батальён яго займае пазіцыі паміж вёскамі Стары Бор і Кацічы, у голым полі. Там свету белага не было відаць. Снег сляпіў і коней, і іх з казаком. Але Багуновіч не паехаў у вёску ў штаб, а звярнуў па цаліку да пярэдняй лініі акопаў. Ехаў з халадком на душы: калі нашай аховы няма і акопы забіла снегам, ён, заблудзіўшыся, можа апынуцца ў немцаў. Другі за дзень візіт да ворага ў розным выглядзе можа дрэнна кончыцца; загоняць у лагер палонных, а то і зусім могуць судзіць, як шпіёна.

Не, вартавыя спынілі. У ротным бліндажы, дзе гарэла чыгунная печка, было нямала салдат. Людзі разумелі, што і ў дні перамір'я, і ў завіруху пазіцыі пакідаць нельга, не так, як гэта зрабілі раніцой у другім батальёне. Хутка з'явіўся і сам Берасцень. Адбылася размова. Першае пытанне салдат: ці будзе падпісаны мір? калі?

Багуновіч расказаў, як яны, колькі дзён назад, сустрэлі наркома замежных спраў Савецкай рэспублікі Троцкага, які з дэлегацыяй праехаў праз станцыю ў Брзст-Літоўск для вядзення мірных перагавораў.

— Нарком сказаў усім, хто быў на станцыі: мы прывязём вам, таварышы, мір.

Салдаты радасна загаманілі.

Цяпер, едучы па лесе, слухаючы гул сосен і скрып сядла, Багуновіч з нядобрым асадкам у душы думаў пра тое, што сказаў ён салдатам няпраўду: не гаварыў такіх слоў нарком. Гэта яму, камандзіру палка, хацелася, каб нарком сказаў ім. І салдатам, якія толькі што глядзелі на яго прагнымі вачамі, ловячы кожнае слова, хацелася пачуць такое. Таму ён мусіў сваё і іх жаданне ўлажыць у вусны наркома — для большага аўтарытэту.

А ўвогуле ад сустрэчы з Троцкім у яго засталося супярэчлівае пачуццё.

Тэлеграма, што дэлегацыя праедзе праз іх станцыю, узрушыла ўсіх, але асабліва хваляваліся два чалавекі — Міра і начальнік станцыі літовец Баранскас. Загадкава маўклівы стары чыгуначнік, які ўсё перажыў і, здавалася, да ўсяго прывык — да вайны, да афіцэрскіх пагроз расстраляць за затрымку эшалонаў, да рэвалюцый, да салдацкага пагрому пакгауза, раптам зрабіўся, што дзіця — гаваркі, мітуслівы, хадзіў па пятах за ім, Багуновічам, быццам хацеў, у выпадку чаго, схавацца за камандзірам палка. А Міра... Міру ажно ліхаманіла, калі яна пачынала гаварыць пра Троцкага. Знайшла газеты з яго прамовамі, артыкуламі, перачытвала іх з алоўкам, робячы выпіскі. Калі Багуновіч паспрабаваў пажартаваць на гэты конт, дзяўчына гатова была кінуцца на яго з кулакамі; ва ўсялякім разе, не пасаромелася кінуць жорсткія словы, абвінавацiўшы ў буржуазным нігілізме, эсэраўскім анархізме і ў іншых смяротных грахах. Дзякуй богу, што ў яго хапіла мудрасці прыняць усё гэта з гумарам. Але і гумар нельга было выдаваць пры такой Мірынай сур'ёзнасці.

Сам ён таксама радаваўся, толькі ўпотай: калі едзе сам нарком, значыцца, перагаворы ідуць паспяхова і можна чакаць падпісання міру.

У яго і Пастушэнкі было нямала клопатаў: сувязь з нямецкім камандаваннем, рытуал сустрэчы наркома і шмат іншага. Але калі па сувязі былі пэўныя інструкцыі, то па працэдуры сустрэчы не было ніякіх указанняў. Можа нічога і не трэба? Да такой думкі схіляўся Сцяпанаў: не царскі міністр, народнаму камісару ўсе гэтыя ўшанаванні без патрэбы, ён такі ж чалавек, як усе. Але Пастушэнка разважаў інакш: на станцыі трэба нейкі каравул, для парадку ўрэшце, і камандзіру палка трэба зрабіць даклад наркому.

Багуновічу падабалася гэтая ідэя: ён скажа наркому, які едзе падпісваць мір, у якім стане полк, наколькі агалены фронт. На станцыйным пероне пастроілі ўзвод салдат. Гэта было дарэчы, бо, хоць прыбыццё спецыяльнага поезда «трымалася» ў сакрэце, на станцыі за

нейкую гадзіну яго стаянкі — пакуль ішлі тэлеграфныя перагаворы з нямецкімі ўладамі суседняй станцыі — сабраліся сотня салдат, сяляне з маёнтка, з вёскі. Людзі беглі задыханыя, узбуджаныя. На каго яны хацелі паглядзець — на поезд ці на Троцкага?

Вечарэла. Марозіла. На захадзе неба гарэла злавеснай чырванню.

Пакуль чакалі поезд на пероне, настылыя дошкі якога трашчалі і звінелі ад кожнага кроку (Баранскас увесь час бегаў), Багуновіч назіраў за Мірай. Яе ліхаманка самым натуральным чынам. Шчокі палалі, як чырвань неба, а вочы праменілі сонечную радасць.

Састаў быў з двух класных і аднаго паштовага вагона. З паравоза спусціліся два матросы ў лёгкіх для снежня бушлатах, з маўзерамі, драўляныя кабуры якіх стукалі ім па каленях.

Багуновіч і Пастушэнка прадставіліся матросам і спыталі, ці выйдзе нарком. Тыя паціснулі плячамі і пайшлі ў тэлеграфную. Нарэшце з задняга вагона выйшаў поўны чалавек у генеральскім шынялі. Пастушэнка пазнаў яго: генерал Самойла. Некалі яны сустракаліся. Багуновіч прадставіўся яму і, трохі раздражнёны няўвагай тых, хто знаходзіўся ў вагонах, да іх, хто стыне на пероне, даволі патрабавальна сказаў, што ім неабходна бачыць наркома.

Генерал падняўся ў першы вагон і праз нейкі час запрасіў туды іх. Увайшлі ў вагон пяцёра: Багуновіч, Пастушэнка, Сцяпанаў, Міра і ўпаўнаважаны франтавога камітэта Камінскі.

Іх сустрэў чалавек у залатым пенснэ, з шапкай густых чорных ускудлачаных валасоў, быццам забыўся прычасацца, з такой жа ўскудлачанай бародкай, якую ён раз-пораз гладзіў — лашчыў, як кацяня. Апрануты ён быў па-хатняму: на простай чорнай сарочцы куртка, падбітая заячым футрам. Рухі яго былі імклівыя, з характэрным жэстам правай рукі — жэстам прафесійнага прамоўцы.

Сустрэў Троцкі іх, як добрых знаёмых. Працягваў руку ўсё тым жа аратарскім жэстам. Вітаючыся з Мірай, весела засмяяўся, збянтэжыўшы дзяўчыну.

«Прашу вас, таварышы. Сядайце».

Але, людзі ваенныя, яны не маглі адразу прыняць такое дэмакратычнае запрашэнне. Багуновіч прадставіўся сам і прадставіў сваіх калег. Салон быў палацна-шыкоўны. Паўвагона. Доўгі стол пасярэдзіне, канапы, крэслы, абабітыя бардовым аксамітам, толькі са спінак спораны вензелі, але тканіна, не выцвілая пад вензелямі, выдавала іх рысунак. Гэта быў спецыяльна абсталяванні вагон былога міністра замежных спраў Сазонава.

Багуновіч намерыўся быў дакладваць пра становішча на іх участку фронту. Але яго нечакана перапыніла Міра. Заікаючыся ад хвалявання, яна папрасіла:

«Леў Давыдавіч... выступіце перад людзьмі. Глядзіце, колькі іх сабралася на станцыі!»

Троцкі, не зірнуўшы на вокны, куды кіўком галавы паказала Міра, наблізіўся да яе, мабыць, жадаючы лепш разгледзець, паглядзеў праз пенснэ, зняў яго і зноў гэтак жа недарэчна весела засмяяўся.

«Вы хто?»

«Агітатар камітэта арміі. Для работы з нямецкімі салдатамі».

«З такімі агітатарамі мы раздзьмуем пажар сусветнай рэвалюцыі»,— і раптам паляпаў Міру па шчацэ. Ласкава. Але Багуновіч убачыў, што Міру гэта абразіла, яна ажно пабялела і адступіла назад. Яго таксама непрыемна ўразіў такі паблажлівы жэст. Расхацелася дакладваць гэтаму весела-самаўпэўненаму чалавеку, сагрэтаму заячым футрам, у хораша напаленым шыкоўным салоне, аб тым, як галадае і замярзае армія.

Троцкі тлумачыў Міры ўжо сур'ёзна, мабыць зразумеўшы, што зрабіў не той жэст:

«Дзіця маё, у мяне нелады з горлам. А мне заўтра аднаму трэба перагаварыць ажно чатырох імперыялістычных шакалаў: Кюльмана, Чарніна, Папова і Талаатпашу. Гэтыя паны маюць вялікі вопыт дыпламатычнай дэмагогіі. Перагаворы будуць цяжкія. Вы павінны зразумець гэта... Нашай дэлегацыі...»

Тады гэтак жа нечакана, як Міра, пачаў гаварыць Пастушэнка. Сказаў, што армія, па сутнасці, развалілася і не здольная трымаць фронт, а тым больш спыніць нямецкае наступленне. Але стары таксама хваляваўся і сказаў у адным месцы не «таварыш нарком», а «гаспадзін нарком». Багуновіча гэтая памылка палкоўніка развесяліла. А Міра ажно перасмыкнулася. Зноў разгарэліся яе шчокі. Але ці толькі ад наркомаўскага паляпвання ці Пастушэнкавай памылкі? Багуновіч злавіў, як аглядае яна салон, як затрымала свой позірк на кубках, на вазе з пячэннем і цукеркамі, што стаяла на стале.

Пэўна, гэты яе позірк убачыў Троцкі і ў сувязі са скаргай Пастушэнкі на тое, што салдаты галадаюць, зразумеў па-свойму. Калі развіталіся, ён затрымаў Міру і даў ёй плітку шакаладу.

«Майму юнаму агітатару! Поспехаў вам «у распальванні пажару сусветнай рэвалюцыі»!»

Кроў ударыла Багуновіча ў галаву, зазвінела ў вушах. Калі дагэтуль ён на ўсё глядзеў з гумарам, у тым ліку і на Мірына хваляванне, то цяпер яго апанавала злосць на Троцкага. Як можна не разумець?

Як далёка трэба адысці ад гэтай рамантычнай дзяўчыны, каб не бачыць яе высокага парыву і так унізіць дурацкім шакаладам? А яна сапраўды такі разгубілася: выйшла з вагона, трымаючы шакалад у руцэ. Прыйшлося шаптаць ёй: «Схавай у кішэню».

Міра непрыкметна знікла — пайшла на кватэру, не дачакаўшыся адыходу спецпоезда.

Панура маўчаў Сцяпанаў, калі яны ішлі са станцыі ў маёнтак, у штаб. Уздыхнуў цяжка. Багуновіч здагадваўся, пра што думае рабочы, былы катаржанін. Зразумеў, безумоўна, гэта і палкоўнік, бо раптам сказаў пераканана, горача:

«Усё правільна! Усё правільна, панове! — зноў забыўся стары.— Едзе дэлегацыя вялікай краіны. На ўзроўні міністра. Не карайце мяне, не мае значэння, як гэтая дзяржаўная пасада называецца цяпер. Едзе весці перагаворы аб міры. З міністрамі Чацвярнога саюза. Што ж вы хочаце? Каб яны ехалі ў цяплушцы? З салдацкімі сухарамі? Не трэба раняць гонар Расійскай дзяржавы! Мы вялікая дзяржава, таварышы! Вялікая Русь! Багацейшая краіна свету! Няхай разораная... Але для сваіх дыпламатаў мы не пашкадуем... Каб трымалі гонар! Гонар рускага народа!»

Сцяпанаў раптам засмяяўся:

«Дзіўны вы чалавек, Пятро Пятровіч».

Хораша кранулі тады Багуновіча і словы двараніна, і словы рабочага, і ён падумаў, што гэтыя ж Пастушэнкавы словы ён скажа Міры, калі вернецца на кватэру, бо яе думкі, напэўна, пайшлі ў тым жа кірунку, што і ў Сцяпанава.

Ды Міра ў той вечар была ласкавая, добрая, даравала яму ўсе «панскія конікі», многа гаварыла, але на такія тэмы, што Багуновіч зразумеў: не хочацца ёй, каб ён пачынаў размову аб сустрэчы з наркомам, баіцца яна такой размовы — самое сябе баіцца. І ён, хораша разумеючы яе, ні разу пасля не ўспомніў пры ёй Троцкага, хоць газеты былі запоўнены яго імем. Яму ж асабістая поза Троцкага — эпізод з ляпаннем па шчацэ і з шакаладам, што тады абурыла,— пасля ўяўлялася смешнай гульнёй у Напалеона. Бачыў ён такіх «напалеонаў» і дома, у Мінску (Курлова, напрыклад), і ў Маскоўскім універсітэце, і асабліва на фронце. Усе яны выглядалі смешнымі. Амаль цалкам была размыта яго вера ў аўтарытэты, палітычныя, ваенныя, нават літаратурныя (да вучэння Талстога таксама ставіўся скептычна), аднаго Чэхава прызнаваў, бо Антон Паўлавіч ні разу не стаў у позу прапаведніка, ні ў адным творы. Багуновічу хацелася быць такім, як Чэхаў: проста любіць людзей. Проста любіць...

Троцкі ўспомніўся не толькі таму, што салдаты настойліва пыталіся пра мір. Успомніўся з іншай прычыны. Ці разумее Міра яго сённяшнюю задуму? Ці не палічыць панскім выбрыкам? Але яму вельмі хацелася зрабіць ёй хоць маленькае свята — сустрэць Новы год з шампанскім, з падарункам.

Неяк у размове яна прызналася, што ніколі не каштавала шампанскага. Ён здзівіўся: скончыла гімназію і не пакаштавала шампанскага? Сямейны закон? Але ж здолела яна разарваць усе іншыя каноны. Расказвала з гонарам, што бацька яе і брат — перадавыя людзі, рабочыя-чыгуначнікі, брат — бальшавік. Выходзіць, што і бальшавікі пурытане? Яна, між іншым, праявіла амаль дзіцячую наіўнасць — спытала здзіўлена:

«А ты піў?»

Ён засмяяўся.

«Ты спытай: чаго я не піў? Ад лепшых заморскіх вінаў да найгоршай самагонкі, якая пахла дзёгцем. Нават англійскую вадкасць для радыятараў аўтамабіляў аднойчы выпілі. Тыдзень жываты балелі».

Міра глядзела на яго спалоханымі вачамі:

«Якія вы... паны!»

«Якія?»

«Брыдкія. Разбэшчаныя. Як я пакахала цябе такога?»

Яе спалох насмяшыў і пацешыў яго.

Шампанскае можна было б дастаць і ў мястэчку — у гадшіяроўяўрэяў, там жа купіць і падарунак. Але гандляры не хочуць прызнаваць ніякіх папяровых грошай. Давай ім золата! А дзе ў яго золата? Адзін крыжык — падарунак маці, які ён усю вайну насіў на шыі. Міра яго высмеяла, прымусіла зняць, і ён пасля колькі дзён адчуваў сябе нядобра, не таму, што здрадзіў богу, у бога даўно не верыў; здавалася, што здрадзіў маці пад націскам іншаверкі-каханай: ад гэтага было нядобра. Не, крыжык і ў кішэні яму вельмі дарагі, і пазбавіцца яго ён не можа!

Вось чаму ён успомніў пра свайго суседа Бульбу-Любецкага. У гэтага эсэра заўсёды меліся самыя адменныя напіткі, закускі, адзенне, рэчы. Адкуль ён гэта браў — было загадкай для ўсіх армейскіх служб, як загадкай быў і сам Бульба, які доўга выдаваў сябе за нашчадка таго Бульбы, пра якога пісаў Гогаль; не толькі салдаты, але і некаторыя афіцэры верылі ў гэта. Тых, хто сумняваўся, Бульба тут жа выклікаў на дуэль. Яго баяліся. Чалавек гэты быў легендай усяго фронту.

У пятнаццатым годзе ў штаб другой арміі з'явіўся элегантны капітан с прызначэннем, падпісаным вялікім князем. З такімі паперамі

яму далі б самую бяспечную пасаду, але ён сам папрасіў самую небяспечную — камандзіра разведкі дывізіі. Праўда, хто іншы і тут здолеў бы адседзецца за салдацкімі спінамі. Бульба быў не такі. Ён сам хадзіў у нямецкі тыл і амаль кожны раз з поспехам — прыводзіў «языкоў», прыносіў важныя дакументы. Тады яны і пазнаёміліся: прапаршчык Багуновіч разы два папрасіўся з легендарным Бульбай у разведку.

Пра бясстрашнага разведчыка даведаліся немцы і абвясцілі ўзнагароду таму са сваіх афіцэраў ці салдат, хто зловіць Бульбу.

А ў канцы шаснаццатага года грымнуў гром: ваенная жандармерыя раскапала, што Бульба ніякі не Бульба, ніколі ваеннай акадэміі не канчаў, сам прысвоіў сабе званне, што ён дзяржаўны злачынца, якога ахранка шукае дзесяць гадоў,— вядомы эсэр-тэрарыст — Назар Любецкі. За забойства чарнігаўскага паліцмайстра яго асудзілі на смерць, але па дарозе з суда ў турму ён здолеў, скаваны кандаламі, збіць з саней двух жандараў, фурмана, выскачыць на гэтых конях з цэнтральнай вуліцы ў завулкі і там бясследна знікнуць, адных коней знайшлі.

У арміі быў дзікі канфуз: прызначэнне сапраўды такі падпісаў Мікалай Мікалаевіч. У дадатак за свае подзвігі на фронце Бульба меў ужо два афіцэрскія Георгіі і Уладзіміра. Пра яго пісалі газеты. За яго заступіўся ўсерасійскі авантурыст Распуцін.

Улічыўшы даўнасць гісторыі з паліцмайстрам і франтавы гераізм, імператар злітаваўся: пазбавіў Любецкага ўзнагарод, сарваў афіцэрскія пагоны і адаслаў у штрафны батальён — у «батальён смяротнікаў», адкуль мала хто вяртаўся жывым. Наконт Любецкага былі дадзены камандзірам спецыяльныя ўказанні: хутчэй падставіць яго пад нямецкія кулі.

У першай жа штыкавой атацы Бульба знік, цела яго не знайшлі. Лічылі, што ён перайшоў да немцаў, так і ў афіцыйным рапарце мусілі паведаміць, за што камандзір роты быў пазбаўлены афіцэрскіх пагонаў.

Але пасля Лютаўскай рэвалюцыі Бульба-Любецкі (цяпер ужо і ў афіцыйных дакументах яго прозвішча пісалася гэтак — здвоена) з'явіўся ў сваю дывізію ў тым жа званні капітана і з загадам Керанскага ў кішэні. Хадзілі чуткі, што па дарозе, недзе ў Віцебску, ён звёў рахункі з жандармскім палкоўнікам, які дакапаўся, хто ж такі Бульба. А былога камандзіра штрафнога батальёна ў прысутнасці афіцэраў адсцёбаў бізуном, растлумачыўшы — за што: той такім жа бізуном ударыў яго некалі.

«Я табе не быдла, сукін сын, царскі халуй. За адзін удар — налучай сем!»

Пасля яго баяліся нават генералы, асабліва калі пачулі, як ён з кабінета камандуючага арміяй гаварыў па тэлефоне з Керанскім і крычаў ваеннаму міністру: «Саша, храновіну гародзіш! Так камандуюць толькі дурні!»

У палітычным плане Бульба-Любецкі — абсалютны блытанік, у галаве яго пераблыталіся ўсе тэорыі — эсэраўскія, анархісцкія, бальшавіцкія. Ён лічыўся даручэнцам глаўкаверха, але згаджаўся з салдатамі-бальшавікамі, якія выкрывалі здрадніцкую сутнасць эсэра Керанскага, яго згодніцтва з кадэтамі, з буржуазіяй, злосна высмейваў Дырэкторыю.

«Рымскімі цэзарамі сябе ўяўляюць. Пігмеі. Крэціны. Большага балагана ва ўсёй гісторыі не было!»

Пасля Кастрычніка рэвалюцыйны камітэт арыштаваў большасць афіцэраў штаба арміі, а Бульбу-Любецкага рэкамендаваў камандзірам палка. Салдаты любілі яго за дэмакратычнасць і шалёную смеласць. За гэта ж, за смеласць — сам напрасіўся некалі з ім у разведку,— Бульба паважаў Багуновіча. І за адукаванасць. Любіў з ім паспрачацца. Прыязджаў у госці.

Міры ён не спадабаўся. Як ні хавала яна свае адносіны з Сяргеем, Бульба зразумеў іх адразу і даволі салёна жартаваў. Ды і пра палітыку разважаў так, што Міра сказала: «Анархіст».

Штаб Бульбы размяшчаўся ў лясніцтве. Ды было гэта не простае лясніцтва — паляўнічая сядзіба магната Хадкевіча, магчыма, кардон на мяжы з баронскімі ўладаннямі; кажуць, два ўладары, беларус і немец, з даўніх часоў вялі тайную вайну, хоць часам сустракаліся тут і разам палявалі то ў лесе аднаго, то ў лесе другога.

Акрамя будынкаў лясніцтва, тут стаяў драўляны двухпавярховы асабняк у швейцарскім стылі — для гаспадара і гасцей. Асабняк гэты яшчэ ўлетку, калі немцы пасля няўдалага рускага наступлення добра выраўнялі лінію фронту, занялі пад штаб палка.

Лясніцтва было на ўзлессі бору. Нешырокая града магутных сосен і алея ліп аддзялялі сядзібу ад ракі, што прыгожа вілася глыбока ўнізе, пад абрывам. За ракой рассцілаўся шырокі луг, а яшчэ далей — поле з раскіданымі хутарамі. Там, на стыку лугу і поля, праходзіла лінія акопаў. Бульба пахваляўся, што ніводзін палкавы штаб не размяшчаецца так блізка ад пярэдняга краю.

Даўно заняты вайскоўцамі, паляўнічы дом захаваў знешні бляск, магнацкае багацце. Сцены былі ўпрыгожаны рагамі аленяў і ласёў, на іх віселі даўнейшыя і сучасныя стрэльбы, на падлозе ў гасцінай ляжалі

мядзведжыя шкуры, праўда, прыкметна папсаваныя салдацкімі ботамі.

Бульба, што хан, ляжаў на скураных падушках перад камінам, у якім горача палалі бярозавыя дровы, і чытаў тоўстую кніжку. Убачыў Багуновіча — радасна падхапіўся, але спытаў з трывогай:

— Што цябе занясло ў такую непагадзь?

— Правяраў трэці батальён. Адтуль — да цябе. У лесе зацішна.

— У цябе яшчэ ёсць батальёны? Шчасліўчык! У мяне ні храна не засталося, з усяго палка ці нашкраблі б роту-другую. Ну, дзякую, што заглянуў. Мне было сумна. Сёння мы з табой нарэжамся да зялёных чорцікаў. Распранайся.

Багуновіч скінуў кароткі кажух і, калі наблізіўся да каміна, тады па-сапраўднаму адчуў, як моцна азяб. Мабыць, ажно кроў застыла, бо, адагрэтая полымем каміна, яна запульсавала так, што закалола ў пальцы рук і ног, у грудзі, застукала ў скроні.

— Наразацца я не стану, але чарку-другую вып'ю. Адубеў. У полі — шалёны вецер.

Бульба пайшоў да буфета. Быў ён па-мужыцку дзябёлы, каранасты, касалапы, ва ўсёй яго паставе адчувалася вялікая дужасць, хоць са спіны, з-за нейкай ледзь улоўнай паставы, што выдавала пера-жытае, яму можна было даць больш за трыццаць шэсць гадоў, якія ён меў.

Багуновіч падумаў, што ў гэтай паставе ёсць нешта да трагічнасці слабое, хоць раней заўсёды захапляўся сілай Бульбы, фізічнай і духоўнай.

Вярнуўся Бульба з пачатай бутэлькай «Напалеона», з сярэбранымі чаркамі. Упаў на падушкі.

— Адагрэў задніцу? Сядай. Грэй душу.

— Слухай. Як палкавы камітэт церпіць такое тваё жыццё? Мяне напэўна расстралялі б, каб я пачаў так жыць... калі людзі галадаюць.

— Камітэтчыкаў я патроху спайваю. Лаюцца. Пагражаюць. Але п'юць, гады. Чалавек, Сярожа, слабы.

— Я гэтага не сказаў бы.

— Ты — ідэаліст. А большасць людзей — рэалісты. Знаеш, у чым мая сіла? Я — рэаліст. Можа, адзін з усёй эсэраўскай вярхушкі. Нават Ворка Савінкаў меншы рэаліст, чым я.

Багуновіч успомніў, як даводзіла Міра, што ўсе эсэры — авантурысты ў палітыцы, падумаў: «Сказаць бы гэта Назару!» — і засмяяўся.

— Але Савінкаў — свіння, з-за кар'еры ён зарэжа бацьку роднага. Я аднойчы даў яму па мордзе. Ты чаго смяешся? Не верыш, што я рэаліст? Правільна. Не вер. Я такі ж ідыёт, як і большасць

людзей. Жраць хочаш? У буфеце хлеб і вяндліна. Вазьмі. Я забыўся... Раблюся алкаголікам: п'ю і не закусваю.

Па закусь Багуновіч не пайшоў. Забулькаў каньяк, і ён пачуў незвычайны водар, у якім, здавалася, таіліся ўсе спакусы свету, і, упаўшы на калені, як на малітве, працягнуў руку па чарку, зноў весела падумаўшы:

«Пабачыла б гэта Міра. Ох, як бы яна кляйміла нашы панскія вымудры».

Заціснуў чарку ў далонях і доўга ўдыхаў гаючы пах. Пасля кульнуў і праз хвіліну-другую пачуў, як каньяк разліўся па ўсіх жылах.

Але — о, парадокс! — з асалодай знікла весялосць, падумаў пра іншае: Міра мае рацыю, калі абвінавачвае, што ён прапітаны буржуазным духам, буржуазным бытам, забабонамі свету, які гніў і сваёй гніллю, сваімі мікробамі заражаў усё наваколл. Узяў кнігу, якая апынулася каля яго ног. Што чытае Бульба-Любецкі? Гісторыю Французскай рэвалюцыі?

— Хачу прасачыць аналогіі. І зразумець: колькі часу пратрымаюцца бальшавікі?

— Калі яны заключаць мір і ажыццявяць Дэкрэт аб зямлі... дадуць зямлю і волю — такая ўлада будзе вечнай.

Бульба здзівіўся і спытаў, здавалася, з пагрозай:

— Ты што? Уступіў у іх партыю?

— Не. Пакуль што не ўступіў.

— Чорт з табой. Уступай. Дазваляю. У сваю партыю не буду агітаваць, пакуль не стану на чале яе. Дзярмовыя ў нас лідэры. Крэціну Сашку Керанскаму бальшавікі геніяльна саданулі салдацкім ботам у зад. Вылецеў, што корак. Так яму, ідыёту, і трэба. Я што яму казаў? Рабі мяне міністрам унутраных спраў — я табе навяду парадак. Дык ён нават палкоўніка пашкадаваў. А пасля хацеў, каб я падтрымаў яго. А во табе! — Бульба склаў кукіш.— Свістун! Інстытутка! Педэраст!

Багуновіч чуў раней пра яго размовы з былым прэм'ерам і не вельмі верыў у гэтыя байкі, пасміхаўся з іх. А тут паверыў. Калі ён і Керанскі сапраўды старыя знаёмыя, то Назар Любецкі, сын дыякана, бясстрашны тэрарыст партыі, які ўмеў забіць і ўцячы ад смяротнага прыгавору, дзесяць гадоў хавацца і з'явіцца самазванцам ка фронт, мог сказаць, мог патрабаваць сабе высокі пост у лідэра партыі.

— І як бы ты наводзіў яго, парадак? Вешаў бы?

Бульба адказаў з жартаўлівым дакорам:

— Свіння ты, Сяргей. П'еш мой каньяк і гэтак думаеш пра мяне. Ніяк бы я яго не наводзіў — і тады быў бы парадак. Парадак там, дзе яго ніхто не наводзіць.

— Значыцца, анархія — маці парадку?

— Не паўтарай чужыя словы. Анархістам мяне назвала гэтая твая мадонна ў шынялі. Лёгка аддалася?

Больш за ўсё Багуновіч не любіў пошласці ў мужчынскіх размовах пра жанчын, нават акопнае жыццё не сапсавала яго; пошласць у адносінах да Міры асабліва непрыемна ўразіла. Баючыся, каб Бульба не пачаў нагрувашчваць брыдкасці, далікатна папрасіў:

— Не трэба, Назар. Я кахаю гэтую жанчыну. Яна — мая жонка.

Бульба-Любецкі здзівіўся.

— Не, ты гэта сур'ёзна? Ажаніўся? У наш час! Ідыёт!

— Чым дрэнны наш час? Канчаем вайну. Пачынаем новае жыццё.

— Лёгка ты яе канчаеш. І што ты думаеш рабіць у гэтым новым жыцці?

— Паедзем куды-небудзь у наша беларускае сяло і будзем вучыць дзяцей. Сялянскіх дзяцей. Сеяць разумнае, вечнае, добрае.

Бульба пільна ўгледзеўся ў яго, недаверліва спытаў:

— Ты здзекуешся з мяне?

— Абсалютна сур'ёзна.

Гаспадар наліў каньяку і, не прапаноўваючы, за што выпіць, хвіліну маўчаў, углядаючыся ў камін, пасля падняўся, не спяшаючыся, кінуў у агонь адно, другое бярозавыя палены; адтуль, ад каміна, сказаў:

— Зайздрошчу я табе, Багуновіч. Цэльны ты чалавек. А я... я зламаны. Душэўна. Я некалі таксама кахаў. Яе закатавалі, сволачы. У турме. Памерла ад сухот. Не! — сказаў рашуча, упаўшы на турэцкі пуфік.— Я не гатовы вучыць дзяцей. Мне хочацца яшчэ пачысціць свет ад дзярма маўзерам і кулямётам. Не. Я не забойца! Я асенізатар. Вып'ем. За цябе. І за яе. Яна калючая, што ёрш, але... Урэшце, кожны абараняецца, як умее.

Выпілі.

Багуновіч спытаў:

— Назар, у цябе ёсць шампанскае?

— Табе захацелася шампанскага?

— Не.

— Чакай. Ты хочаш зрабіць вяселле?

— Не, сустрэць Новы год. Яна ніколі не піла шампанскага.

— Божа, якая святая чысціня і наіўнасць! Толькі ж гэта буржуазныя штучкі, Сяргей,— шампанскае. Праклятая буржуазія! Як яна нас разлажыла! Не прыжывёмся мы ў пралетарыяце. Выплюне ён нас.

— Не блазнуй. І памажы яшчэ ў адным: адзець яе цяплей. Цеплыня не пашкодзіць і пралетарыю.

— Што хочаш? Футра? Паліто?

— Не. Футра яна не надзене. Казацкі кажушок.

— Будзе табе кажушок. Хочаш, жаночую бялізну дам? Французскую. Крык моды трынаццатага года.

Крык перад патопам.

— Дзе ты гэта бярэш?

Бульба засмяяўся.

— Ты не чытаеш Маркса. Ёсць у яго разуменне: экспрапрыяцыя экспрапрыятараў. Толькі бальшавікі замахнуліся на сусветную экспрапрыяцыю. А я гэта раблю лакальна. І бяскроўны. Збіраю даніну з тутэйшых гандляроў. Пачысціў нямецкія склады,— Бульба рагатнуў, але тут жа пазмрачнеў.— А ўвогуле ўсё дзярмо, Сярожа. Я ніколі нічога не баяўся. А тут сяджу і са страхам думаю... Падпішуць мір. Разыдуцца апошнія салдаты. А я куды? Губернатараў і паліцмайстраў не стала. Каго страляць? Пайсці на службу да Машы Спірыдонавай? Можаш ты ўявіць мяне ад'ютантам Машы? Смех. Хоць гэта адзіная эсэрка, якую я паважаў. Некалі мы з ёй заключылі пары: хто больш адстраляе саноўнікаў. Дабрацца хіба да манархіста Каледзіна? Шлёпнуць яго? Ці з Савінкавым звесці старыя рахункі? Але... стаміўся я. Ці абуржуазіўся... ад такога жыцця. Можа ў гэтае... як яго бальшавікі назвалі? — чэка падацца? Кажуць, яны вылаўліваюць былых жандараў і міністраў, як бяздомных сабак. Але лавіць тыпаў, пазбаўленых улады... Бр-р. Не па мне такая работа. Мярцвячына. А я люблю жывое дзела. У мяне казацкая кроў. Мне вольным атаманам трэба быць. Толькі дзе разгуляцца?

6

Начальнік станцыі Пятрас Баранскас сумаваў без справы. Станцыя была за два кіламетры ад пярэдняга краю, і на яе даўно не прыходзіў ніводзін эшалон. А некалі, да лета семнаццатага, калі фронт быў каля Ліды, гэтая маленькая станцыя здавалася яму не менш значнай, чым вузел Маладзечна. Прыезд спецпоезда з мірнай дэлегацыяй, які не толькі дайшоў да станцыі, але пайшоў і далей, на нямецкі бок, ажно да Брэст-Літоўска, быў для старога чыгуначнага служкі падзеяй, якая ўскалыхнула яго настолькі, што ён як бы абудзіўся ад сну. Раней хадзіў непаголены, не па форме апрануты. А

тут пагаліўся, пачысціў мундзір, фуражку, ліхтары, стрэлкі, сцяжкі, жэзлы. Кожны дзень сам расчышчаў снег, таму што іншых служачых на станцыі засталося чалавекі тры, не больш; тэлеграфісты былі вайскоўцы. Баранскас як бы рыхтаваўся да свята ці да вялікай рэвізіі. У яго пачаліся нават сваркі з жонкай, магчыма, праз тое, што ён пачаў прымушаць іх працаваць, дачку і жонку, чысціць, мыць.

Раней Багуновіч ніколі не чуў у доме голасу гаспадара, ды і гаспадыня гаварыла прыглушаным шэптам. Толькі іх шаснаццацігадовая дачка Юстына часам павышала голас на маці ці спявала.

Пані Альжбета была полька з усімі адменнымі якасцямі вернай каталічкі і шляхцянкі. Не ў прыклад свайму мужу, які выбіўся з мужыкоў, яна зневажала хамаў. Акрамя ўсяго іншага, яна таіла крыўду на рускіх. Пры набліжэнні фронту ёй з дачкой прыйшлося падацца ў бежанцы разам з мільённай арміяй іншых бежанцаў. Там, у глыбіні галоднай Расіі, хапіла пані начальніца ліха і, відаць, не здолела разабрацца, дзе была крыўда ад людзей, а дзе ад чыноўных зладзеяў, якія раскрадалі тыя мізэрныя крошкі, што адпускаліся для няшчасных уцекачоў ад Еайны па царскай ласцы ці па філантропіі вяльможных патранэс, што ахвяраваннямі на шпіталі, на бежанцаў паказвалі свой патрыятызм. Пані Альжбета дамаглася звароту назад, да мужа, хоць фронт стаяў каля самай станцыі і, калі ішлі ваенныя дзеянні, ім з дачкой прыходзілася падоўгу сядзець у халодным бліндажы за пакгаузам. Але яна абвясціла з рашучасцю зацятай полькі: лепш памрэ ад нямецкага снарада, чым яшчэ раз стане бежанкай.

На яе бяду, прыгожаму паручніку ўздумалася пасяліцца не ў фальварку, а ў доме начальніка станцыі. У свае няпоўныя сорак гадоў яка сама яшчэ ўпотай здзіралася на маладога камандзіра палка. А потым ўбачыла, што ў яго проста закахана гэтая малая дурніца Юстына. Альжбета спалохалася за дачку і не зводзіла з яе вачэй. Не здарылася б бяда. У франтавых афіцэраў яе засталося ні чэсці, ні сумлення.

Ды раптам з'явілася маленькая, ладна злепленая яўрэйка, і пан паручнік сышоўся з ёй. Спачатку Альжбета парадавалася: як бы аддалілася пагроза ад яе Юстынкі. А пасля была абражана, пачуцці вернай каталічкі былі абражаны: такі далікатны, культурны, адукавана афіцэр, праўда, праваслаўны (праваслаўных яна лічыла хамамі), прывёў у яе дом гэтую іудзейку, з якой не вянчаўся, не мог павянчацца. Хто яна яму? Няхай бы хоць абвясціў жонкай перад людзьмі! Каб дом быў не казённы, Альжбета паказала б ім дзверы. Але як пакажаш, калі ў ваенны час гаспадар усяго казённага — станцыі,

дома начальніка — ён, камандзір палка, што трымае абарону. Плюнуць бы на ўсё, ды яе дурань Пятрас нікуды не хоча ехаць; яна яго разумела: дваццаць гадоў прарабіў на гэтай станцыі.

А пасля Альжбета зноў спалохалася за дачку, убачыўшы, з якой варожасцю тая пачала адносіцца і да Багуновіча, і да агітатаркі. Трэба было, бадай, радавацца, што ў Юстынкі, як і ў яе, маці, такая вернасць богу і свайму пачуццю. Але ж дурная зусім, дзіця, як бы не натварыла бяды — не зрабіла што сабе ці ім, кватарантам.

Багуновіч таксама адразу адчуў перамену ў адносінах да сябе маці і дачкі. Але калі пыхлівая, дэманстратыўная непрыязнасць пані Альжбеты трохі забаўляла, то злосны, як у пакрыўджанага звярка, агонь у Юстыніных вачах, жаданне прашмыгнуць міма, не вітаючыся, не адказваючы на прывітанне, атручвалі яго шчасце ад кахання да Міры. Жанчын немагчыма зразумець. Спачатку ёй не хацелася ісці да начальніка станцыі. А потым варожасць гаспадыні і яе дачкі як бы пачала цешыць яе. На іх варожасць яна адказвала надзвычайнай ветлівасцю.

«Юстынка закахана ў цябе, Сярожа! А можа, і сама Альжбета. Які жах! Мне страшна робіцца, што ты так падабаешся жанчынам. Знойдзецца такая, што павядзе цябе ад мяне на павадку, як сабачку. Але я не прыватніца. Я без буржуазных забабонаў. У новым грамадстве не будзе ні твайго, ні майго. Усё наша».

Ён злаваўся:

«Мелеш лухту. Мне непрыемна слухаць такую брыдкасць. Я выхаваны на Тургеневе і Чэхаве».

Міра рагатала:

«Які феадал! Які феадал!»

Падагрэты каньяком, размовай з суседам, парадаксальна-анархісцкімі развагамі Бульбы-Любецкага, якія заўсёды чамусьці весялілі, Багуновіч вяртаўся ў найлепшым настроі, такога даўно не было, калі свет і жыццё пачынае здавацца цудоўным і ўсё абяцае радасці. Злева, ля калена, вісела цяжкая торба з пляшкамі, справа — лёгкі пакунак з кажушком для Міры. Сціхнуў вецер. На небе высыпалі зоркі. Мацнеў мароз. Снег звінеў пад падковамі ў коней. Сапраўдная навагодняя ноч. Некалі яна прыносіла многа радасці. Няхай жа прынясе і сёння! Няхай!..

Пад'ехалі да станцыі.

Багуновіч саскочыў з сядла, адвязаў торбу і пакунак, перадаў каня казаку, ад яго забраў маленькую елачку, якую ссеклі шабляй у лесе. Павіншаваў казака з Новым годам, пажадаў шчасця.

Той уздыхнуў. Зразумела — чаму.

— Мне, брат Мажаеў, таксама дадому хочацца. Не сумуй. Скора ўжо. Скора. Падпішуць мір...

— Дай бог.

— Выпі за маё здароўе,— ён захапіў у Бульбы пляшку спірту для казака і яго сяброў.

— Рады старацца, ваша благароддзе.

— Адвыкай ад благароддзя. Цяпер мы роўныя.

— Так точна!

Развітаўшыся з казаком, на міг з трывогай падумаў: куды падасца гэты надзвычай дысцыплінаваны салдат, калі дэмабілізуецца і прыедзе да сябе на Дон? У завіруху мітынгаў яго не цягне. А да Каледзіна не пацягне? Ды думкі такія былі адзін міг. Убачыў асветленае акно свайго пакоя — узрадаваўся. Але мільгаў лі за аледзянелымі шыбамі два цені — хто там у Міры? Уподбег кінуўся дадому.

У пярэдняй яго сустрэла Юстына. З вачэй яе сыпаліся маланкі, як з навальнічнага неба. Кінулася да яго са сціснутымі кулачкамі.

— Вы бардзо нядобры чалавек! У вас нема сэрца. Вы — гадкі! Вы паганы! — яна блытала польскія, рускія, беларускія словы, чаго раней не рабіла — гаварыла па-руску лепш за маці.

Багуновіч быў ашаломлены такім нечаканым наскокам і не мог здагадацца, што здарылася.

Урэшце Юстына растлумачыла:

— Яна плакала... Як яна плакала. Лаяла сябе, А лаяць трэба вас. У вас няма сэрца! Яна хворая. Яе так паліла, так паліла...

— Юстыначка! Маё добрае, слаўнае дзіця!

Багуновіч злавіў яе ручку, якой яна размахвала, і пацалаваў.

Збянтэжаная, дзяўчына ўспыхнула і пабегла па кухню.

Устрывожаны і ўзрадаваны, ён скінуў кажух, папаху, пахукаў на рукі, каб сагрэць іх, і з бояззю, пастаяўшы перад дзвярамі, ступіў у свой пакой.

Гарэла лямпа. Не іх, маленькая, настольная. Гаспадарская, дванаццацілінейная. У пакоі была пані Альжбета. Міра ляжала на ложку, косы яе былі шырока рассыпаны па падушцы.

Багуновіч кінуўся да ложка.

Гаспадыня сказала дакорліва:

— Ах, пан паручнік! Пан паручнік!

Міра ўбачыла яго, імкліва паднялася, але Альжбета рашуча, як непаслухмянаму дзіцяці, палажыла яе галаву назад на падушку.

— Не, не, любая мая! Ляжаць! Ляжаць! Я толькі што паставіла ёй банькі, напаіла ліпавым чаем. Яе так паліла, так паліла,— сказала жанчына тыя ж словы, што і яе дачка, але больш спакойна.

Багуновіч упаў перад ложкам на калені, асцярожна ўзяў Мірыну гарачую руку ў свае халодныя далоні.

Міра другой рукой пагладзіла яго валасы, шчаку.

— Дзе ты быў?

— Я ездзіў... у трэці батальён,— ведаючы, што яна не любіць Бульбу, адразу не прызнаўся, што быў у яго.

— Тут недалёка стралялі. Навошта стралялі? Каго забілі? Я так баялася. За цябе. Які гэта страх! Даруй мне, даруй, што я пакрыўдзіла цябе. Я больш не буду. Ніколі. Каб ты знаў, як я люблю цябе!

Яна саромелася сказаць гэтыя словы яму аднаму. Яна сказала іх пры жанчыне, якая яшчэ раніцою не адказала на яе прывітанне.

У Багуновіча стала солана ў горле; ён прыпаў вуснамі да Мірынай рукі, схіліўшы нізка галаву.

Альжбета, выцершы слёзы замілавання, сказала зноў-такі дакорліва:

— Мужчыны, дзіця маё, ніколі не цэняць, як мы іх кахаем, у іх няма сэрца,— і ўжо зусім строга: — Пан афіцэр, ад вас патыхае сцюжай. Адхіліцеся ад хворай.

Багуновіч паслухмяна падняўся, пакланіўся гаспадыні.

— Дзякую вам, пані Альжбета.

— Ах, што вы! Няма завошта. Я — маці, пане паручнік,— і, засаромленая і ўзрадаваная, пайшла з пакоя.

Міра папрасіла:

— Пацалуй мяне.

— Не, не, я халодны.

Ён спачатку прыпаў да гарачай грубкі, абняў яе, пагрэў рукі, грудзі, твар.

Міра сказала:

— Сярожа, як я баялася за цябе! Я ніколі не думала, што магу так... баяцца. Але я перажыла і шчасце. Ты знаеш, я многа гаварыла пра брацтва людзей, але, можа, толькі сёння па-сапраўднаму зразумела, што гэта такое, калі ўсе мы — браты і сёстры.

Пасля прыйшлі Пастушэнка і Сцяпанаў. Растлумачылі прычыну вячэрняй страляніны. Атрад Рудкоўскага злавіў кантрабандыстаў, што ішлі з нямецкага боку. Аднаго забілі, двух арыштавалі. Немцы не ўмяшаліся: бой быў на нашым баку, за добрую вярсту ад перадавой.

Сустракалі Новы год усе разам. Хоць Баранскасы па каталіцкім календары сустрэлі свой Новы год колькі дзён назад, усё роўна былі яны па-святочнаму ўзбуджаныя — і сам начальнік станцыі, і яго ганарлівая жонка, і Юстына. Накрылі стол у зале. Дадалі да пайкоў, што прынеслі вайскоўцы, прывёз Багуновіч, свае небагатыя прыпасы.

Убралі елачку. Запалілі свечкі. Але падагрэтае — для Міры — шампанскае пілі каля яе ложка.

Яна сядзела, захутаная гаспадыніным пледам, абкладзеная падушкамі; Юстына прычасала яе, упляла ў падстрыжаныя чорныя косы белы бант; з бантам гэтым, расчырванелая, яна выглядала маленькай дзяўчынкай, вочы яе, што росныя слівы, дзівосна блішчалі.

Яны — чатыры мужчыны і дзве жанчыны — стаялі ў цесным пакойчыку і ўсе віншавалі яе, чамусьці адну яе. Міра дзякавала і казала:

— Вы добрыя. Вы такія добрыя. Я люблю Вас.

Шампанскае яна піла маленькімі глыткамі, па колькі кропель, як бы прыслухоўвалася да смаку. Заключыла:

— А гэта смачна.

Усе засмяяліся з яе слоў. Усім было весела і радасна.

А пасля з ёй засталася Юстына. А яны сядзелі ў зале за святочным сталом. Толькі Багуновіч і Альжбета, па чарзе, хадзілі наведаць хворую. Ды Міра тут жа адсылала яго назад.

— Мне так хораша. Мне так хораша з Юстынай. Ідзі да людзей.

Потым прыйшла ў залу Юстына, шэптам паведаміла:

— Заснула.

Мужчыны на хвіліну змоўклі, пасля гаварылі напаўголаса; так гавораць далікатныя людзі, калі побач засынае дзіця.

Багуновічу было вельмі радасна ад гэтай чуласці, цеплыні людской, дабрыні. Успомніліся Мірыны словы пра брацтва. Ён адчуваў сябе ў першую ноч новага года зусім шчаслівым чалавекам. Ён верыў у шчасце.

## Раздзел другі
## ГЕНЕРАЛЬНЫ ШТАБ

### I

Конь, весела фыркаючы, бег лёгкім трушком. Фурман падганяў каня гэтак жа весела, не рускім ноканнем, а свістам і своеасаблівым цмоканнем. Падковы выбівалі ўкатаны снег, на фурмана і пасажыраў ляцелі дробныя льдзінкі.

На елках, што абступалі дарогу, ляжалі тоўстыя шапкі снегу, прыгнуўшы ніжнія галіны да самай зямлі, утапіўшы іх у снезе.

Дзень быў хмурны, але на дзіва ціхі, які бывае толькі тут, на Карэльскім перашыйку.

Уладзімір Ільіч з дзіцячай прагнай цікавасцю любаваўся зімовай прыродай. Ён адчуваў хараство зімы не розумам — сэрцам, усёй

істотай. Недалёка адгэтуль, у Разліве, ён пражыў мінулае лета і палюбіў карэльскія краявіды, зрадніўся з імі гэтак жа, як некалі ў юнацтве з волжскімі. З верасня не ўдавалася вырвацца за горад. Тры месяцы самай напружанай працы, калі трэба было займацца адначасова і тэорыяй, і практыкай рэвалюцыі і рабіць усё гета з выключнай энергіяй, з нечалавечай нястомнасцю. Пачала балець галава. Уладзімір Ільіч меў неасцярожнасць сказаць пра болі сястры. Маняша тут жа, безумоўна, выдала яго Надзеждзе Канстанцінаўне. А потым нехта з іх сказаў Аляксандры Міхайлаўне Калантай, і ўсе тры жанчыны вымусілі яго прасіць у Саўнаркома кароткі адпачынак і паехаць у санаторый «Халіла». Вырвацца было нялёгка. У гісторыі чалавецтва не было яшчэ вопыту будаўніцтва сацыялізму, пісаліся толькі праекты, да Маркса ўсе ўтапічныя. Практыка падкідвае такія праблемы, якія ніхто з тэарэтыкаў не мог прадугледзець. Трэба думаць. Трэба рашаць. А людзей мала. Не, людзей нямала. Рэвалюцыянераў — рабочых, салдат. Мала адукаваных бальшавікоў. Многія з тых, хто абвясціў сябе сацыялістамі, запляміліся згодніцтвам з буржуазіяй і працягваюць выступаць супраць рэвалюцыі, супраць дыктатуры пралетарыяту. А некаторыя з бальшавікоў бязбожна блытаюць і ў тэорыі, і ў практычнай рабоце. Неадкладнейшае пытанне сацыялістычнага будаўніцтва, умацавання Савецкай рэспублікі — падпісанне мірнага дагавора з Германіяй.

Яшчэ ў вагоне ў Леніна перастала балець галава. Уладзімір Ільіч адчуў сябе бадзёра, настрой узняўся, ён сапраўды па-дзіцячаму радаваўся снегу, елкам, хуткай яздзе і адчуваў удзячнасць жонцы і сястры за іх ініцыятыву. Шукаў магчымасці як-небудзь выказаць ім гэта. Толькі яшчэ ля станцыі Усікірка ён незадаволена пахмыкаў і разы два аглянуўся, калі пачуў ззаду фыркание другога каня і ўбачыў у санях, што ехалі следам, акрамя камісара Фінляндскай чыгункі, незнаёмага чалавека. Зразумеў, што асцярожны фін Рах'я прыхапіў ахову.

Хмыканне насцярожыла Надзежду Канстанцінаўну, якая не адразу сцяміла, чым Уладзімір Ільіч незадаволены.

Яны пасадзілі яго ўсярэдзіне вазка, хоць ён і супраціўляўся, казаў, што, калі занясе на ўхабе і першая выпадзе з саней жанчына, ён ніколі сабе не даруе гэтага. «Які я пасля гэтага джэнтльмен? Ганьба!»

Жанчыны думалі не пра ўхабы, а пра тое, што паміж імі Ільічу будзе цяплей. Кажушок з тых, што прынесла Калантай, ён узяў самы кароткі, старэнькі, ім дасталіся сапраўдныя футры. Праўда, Рах'я даў на станцыі яшчэ адзін кажух, але Уладзімір Ільіч адмовіўся надзець

яго, накрыў толькі ногі ўсім траім. Магчыма, з-за кажуха жанчыны так настойліва садзілі яго ўсярэдзіне, ведаючы, што калі сядзе з краю, то накрые ногі толькі ім. А так куды дзенешся, калі трэба думаць і пра Надзежду Канстанцінаўну, якая сядзела злева, і пра Марыю Ільінічну, што прытулілася да яго правага пляча. Колькі разоў ён інстынктыўна пацягваў кажух то да Надзі, то да Маняшы, але тут жа, угледзеўшы, што сваім клопатам сцягвае яго з другога блізкага чалавека, незадаволена хмыкаў. Хоць праз момант весела прыводзіў у думках палітычныя аналогіі. «Пры такой пазіцыі — з каго ні сцягнеш, накрыеш сябе».

— Ты чаго, Валодзя? — спытала Марыя Ільінічна.

— Як сказала жанчына? Цяпер няма чаго баяцца чалавека з ружжом? Выдатна сказала! У гэтым уся сутнасць рэвалюцыі. Чалавек з ружжом — гэта той жа рабочы, той жа селянін. Не стражнік. Не жандар.

У вагоне, дзе ехаў Ленін і яго спадарожнікі, ехалі іншыя пасажыры. Рах'я пераклаў Уладзіміру Ільічу размову дзвюх жанчын-фінак. На пытанне суседкі, як жанчына не пабаялася пайсці ў лес і насекчы дроў, тая адказала: «А чаго баяцца? Хіба цяпер так, як было, калі дрыжалі перад стражнікамі? Цяпер калі і стрэнеш салдата, дык ён паможа табе насекчы дроў і несці. Цяпер няма чаго больш баяцца чалавека з ружжом».

Ленін колькі мінут гаварыў пра прынцыпы новай, савецкай арміі, якая вырастае з Чырвонай гвардыі, якая будзе створана, нягледзячы ні на якія лявацкія фразы і ні на якія ўмовы нямецкіх імперыялістаў.

— Які б мы дагавор ні падпісалі — а мы падпішам яго! — мы створым рабоча-сялянскую армію. Без арміі рэвалюцыю задушаць.

Надзежда Канстанцінаўна разумела, што гэта не проста дарожная размова, так Уладзімір Ільіч працуе — у гутарцы з блізкімі людзьмі ці таварышамі па партыі правярае тэзісы будучага артыкула ці можа цэлай кнігі. Любіць, каб яму пярэчылі, спрачаліся з ім, у такой спрэчцы хораша шліфуюцца думкі.

Жанчыны слухалі моўчкі. Па-першае, яны былі згодны з усім, што ён казаў, а па-другое, яшчэ ў Петраградзе дамовіліся паміж сабой: у санаторыі стварыць такое жыццё, каб Уладзімір Ільіч як найменш працаваў і як найбольш адпачываў. У тое, што ён зусім можа не працаваць, не верылі. Чалавек гэты і ў сне працуе. У эміграцыі, помніла Надзежда Канстанцінаўна, ён разоў колькі расказваў раніцамі, што сніў палітычныя камбінацыі. Але ў сне яны былі няправільныя, згодніцкія, і Ленін смяяўся са сваіх сноў.

«Падумай, Надзюша, я згадзіўся з Мартавым. Не, ты можаш уявіць такое?» — і весела заліваўся смехам.

Марыя Ільінічна знайшла прычыну, каб адцягнуць брата ад працы.

— Валодзя! Снегіры!

Уладзімір Ільіч адразу ж пераключыў увагу з высокіх палітычных развагаў на снегіроў, што пырхнулі з яліны; зрабіў гэта з дзіцячай непасрэднасцю:

— Дзе? Дзе?

Павярнуўся назад, Убачыў снегіроў на другой яліне, яны купаліся ў снезе — чырвоныя камячкі ў белым снезе.

— Ах, снегіры! Краса нашай рускай зімы. Мы з табой, Надзюша, не бачылі іх сто гадоў. Калі я бачыў снегіроў апошні раз? Ты помніш, ці былі яны ў Шушанскім? Не, не было. Інакш я помніў бы. Я так хораша помню снегіроў у Сімбірску. Мы кармілі іх... з Сашам...

Успомніўшы брата, Уладзімір Ільіч змоўк. Марыя Ільінічна паклала сваю руку ў старэнькай пальчатцы, звязанай яшчэ маці, на братаву руку, пальчатак яму так і не набылі, прасілі, каб ён трымаў рукі ў кішэнях ці пад кажухом. Але звыклы да энергічнай жэстыкуляцыі, Ленін не пераносіў нерухомасці, ён і так быў заціснуты ў вазку, і спачатку, калі спрачаліся аб месцах, незадаволена пажартаваў: «Вы селі, як канваіры».

Хвілінку памаўчалі. Так было заўсёды, калі ўспаміналі Аляксандра ці маці.

Потым Надзежда Канстанцінаўна спытала:

— Табе не холадна, Валодзя?

Ленін пасміхнуўся, адказаў жартаўліва:

— Не, вы мяне прымусіце перасесці ў сані да таварыша Рах'я. Вы знаеце, як Рах'я ахоўваў нас у Разліве? О, гэта вялікі канспіратар! І здзіўляючая далікатнасць. Фінская. Ён не задаў ніводнага пытання не па сутнасці, хоць не скажаш, што яму характэрна фінская маўклівасць, пра якую расказваюць анекдоты, Не, ён вясёлы чалавек,— на момант задумаўся і зноў пра тое, што раптам занепакоіла:— Ці былі ў Шушанскім снегіры, Надзя?

— Здаецца, былі,

— Здаецца? Ці ты ўпэўнена?

— Далібог, не помню, Валодзя.

— Ах, якая ў нас памяць стала! Думаю, яны там летуюць. А ўлетку, калі столькі птаства і снягір мяняе афарбоўку, на яго не звяртаеш увагі. Для гэтага трэба быць арнітолагам. Спытаю ў Сталіна ці ў Свярдлова: бачылі яны ў Сібіры снегіроў? — і засмяяўся ад

нейкай сваёй думкі: — Сталін мог не бачыць. Але Якаў Міхайлавіч павінен быў убачыць. У яго вострае вока.

— Я спытаю ў Альмінскага,— сказала Марыя Ільінічна.— Міхаіл Сцяпанавіч усё знае.

Ленін пацёр рукі, знаёмы жэст: так ён робіць, калі ўспамінаюць пры ім таварышаў, якіх ён любіць.

— Альмінскі гісторык, эканаміст, фінансіст. Але не натураліст. Не, не натураліст.

— Ён эрудыт. Праўда, часам сумняваецца. Нядаў на я дала яму артыкул «Сацыяльная рэвалюцыя і Максім Горкі». Ён параіў паказаць табе.

— «Сацыяльная рэвалюцыя і Горкі»? Чартоўскі цікава! Гэта тое, што трэба для будаўніцтва новай культуры. Спадзяюся, ты захапіла артыкул з сабой?

Марыя Ільінічна сумелася — сказаць, што артыкул у яе, значыцца, парушыць іх з Надзяй змову: Надзежда Канстанцінаўна нахілілася і выразна паглядзела на залоўку, напамінаючы пра іх дагавор.

— Не, не ўзяла.

Уладзімір Ільіч зажмурыўся, як бы стрымліваючы смех.

— А чаго вы маргаеце адна адной? Не, вы кепскія канспіратары. Вось што я мушу вам сказаць. Артыкул ты мне пакажаш. «Правда» павінна даць такі матэрыял.

Жанчынам было весела. Ім было радасна ад таго, што вельмі дарагі чалавек такі бадзёры, радасна ўзбуджаны. Значыцца, марознае паветра зняло боль. А гэта галоўнае. Самае галоўнае.

Весела фыркаў конь. Дробныя льдзінкі ляцелі з-пад капытоў у твар, але гэта таксама было прыемна.

Ціхенька пасвістваў фурман, каб не перашкаджаць размове пасажыраў.

З дарогі напіліся смачнага чаю (такога ў Смольным не было) з яшчэ больш смачнымі булачкамі санаторнай выпечкі (такіх ва ўсім Петраградзе не было). Стомленым работнікам арганізоўвалі паездку ў «Халілу» на кароткі час, на тыдзень, не больш, і прасілі фінскіх таварышаў у першую чаргу падкарміць іх: у Фінляндыі не было так голадна, як у Петраградзе.

У цёплай сталоўцы за гарачым чаем добра адагрэліся. Там жа паспрачаліся з за пакояў — дзе каму жыць. Па просьбе Калантай дырэктар санаторыя выдзеліў Леніну асобны домік, на два пакоі: адзін вялікі, светлы, з вокнамі на бярозавы гай, другі маленькі, тыповая фінская спаленька. Ленін паглядзеў пакоі, пахмыкаў і

катэгарычна выказаўся, што ў вялікім пакоі будуць жыць яны, жанчыны, бо яму пакой гэты не падабаецца і вельмі даспадобы той, маленькі.

Сястра і жонка добра ведалі гэтую яго хітрасць — застацца аднаму, каб працаваць. Таму яны запярэчылі, не менш рашуча. Надзежда Канстанцінаўна, жанчына з тонкім пачуццём гумару, жартаўліва паскардзілася:

— Падумай, Маша, як можна жыць з такім упартым чалавекам.

Дасціпны гумарыст, Уладзімір Ільіч адказаў:

— Савецкі дэкрэт аб шлюбе і сям'і дазваляе развод. Не трэба прасіць свяцейшы сінод. А сінод, Надзюша, напэўна, адмовіў бы такім бязбожнікам, як мы.

Пасмяяліся з яго жарту. Але што датычыць пакояў, то довады Ільіча не памаглі, жанчыны стаялі цвёрда і на кампраміс не ішлі. Прыйшлося яму скарыцца, па-свойму выказаўшы незадаволенасць:

— Для карысці справы я ўмеў дамовіцца з самымі зацятымі апартуністамі. А вось з вамі, выходзіць, дамовіцца немагчыма.

— Лічы, што мы дамовіліся. Для карысці справы,— з гумарам заспакоіла яго сястра.

Пайшлі гуляць.

У санаторыі адпачывала чалавек пяць бальшавікоў з Петраграда. Яны адразу абкружылі Леніна. Сярод іх быў Муранаў, член рэдкалегіі «Праўды». Марыя Ільінічна папрасіла яго:

— Мацвей Канстанцінавіч, не займайце Ільіча справамі. Яму вельмі трэба адпачыць.

Яны, жанчыны, пайшлі ўперад, мужчыны засталіся ззаду.

Чулі, як голасна смяяўся Уладзімір Ільіч з нейкага вясёлага расказу; весяліў, відаць, Лашэвіч, які ўмеў пасмяшыць гісторыяй пра сваіх землякоў — адэсітаў. Хораша, што субяседнікі не ўцягваюць Ільіча ў сур'ёзныя палітычныя размовы, на якія ён траціць столькі энергіі, а заражаюць весялосцю; весялосць — найлепшыя лекі.

Але хутка смех сціхнуў.

Калі Надзежда Канстанцінаўна і Марыя Ільінічна, зрабіўшы круг па расчышчанай дарожцы, выйшлі з бакавой алеі, то ўбачылі, што мужчынская група парадзела і Леніна ў ёй не было.

Яны паглядзелі адна на адну, нявесела ўсміхнуліся, зразумеўшы: іх упэўненасць, што яны прымусяць Уладзіміра Ільіча толькі адпачываць, марная.

Марыя Ільінічна яшчэ паспрабавала як бы суцешыць сябе і братавую:

— Гуляе адзін?

— Не, Маша. Працуе. У яго нэсэсэры няскончаныя артыкулы, якія я не пасмела вылажыць.

Ленін сядзеў за сталом і пісаў з той хуткасцю, якая здзіўляла ўсіх, хто ўпершыню бачыў, як ён піша.

Надзежда Канстанцінаўна спынілася каля дзвярэй, маўкліва выказваючы дакор,

Уладзімір Ільіч глянуў на яе і весела сказаў:

— Ты знаеш, Муранаў кажа: снегіроў у Сібіры цэлыя чароды. Поўна снегіроў!

«Можна падумаць, што ён запісвае пра снегіроў»,— падумала Надзежда Канстанцінаўна, добра ведаючы гэтую даўнюю хітрасць Ільіча: размовай пра староннєе, бытавое адцягнуць увагу ад сваёй працы. Лепш яму ў такі момант не замінаць, бо думкі яго імкліва наплываюць адна на адну. Вунь як ён спяшаецца запісаць іх! А сам гаворыць:

— Есць снегіры! Дзіўна, чаму я не помню...

У момант, калі ён нізка схіліўся над паперай, Надзежда Канстанцінаўна, нічога не сказаўшы, ціхенька выйшла з пакоя.

Уладзімір Ільіч убачыў, што яе няма, дакараў сябе: «Ай-ай. Як нядобра»,— і яшчэ ніжэй схіліўся над сталом.

Ленін пісаў:

«Сацыялізм не толькі не аслабляе спаборніцтва, а наадварот, упершыню стварае магчымасць прымяніць яго сапраўды шырока, сапраўды ў масавым размеры, уцягнуць сапраўды большасць працоўных на арэну такой работы, дзе яны могуць праявіць сябе, разгарнуць свае здольнасці, выявіць таленты, якіх у народзе — непачатая крыніца і якія капіталізм мяў, давіў, душыў тысячамі і ідільёнамі,

Наша задача цяпер, калі сацыялістычны ўрад ва ўладзе,— арганізаваць спаборніцтва».

У працы «Як арганізаваць спаборніцтва?» Ленін аналізаваў становішча праз два месяцы пасля перамогі рэвалюцыі. Ленін заклікаў да спаборніцтва па выяўленні арганізацыйных талентаў рабочых і сялян, да спаборніцтва эканамічнай ініцыятывы працоўных. «Улік і кантроль — вось галоўная эканамічная задача кожнага Савета...» Ва ўліку і кантролі, паўсюдным, усеагульным, універсальным, за колькасцю працы і за размеркаваннем прадуктаў — у гэтым сутнасць сацыялістычных пераўтварэнняў. Ленін даводзіў, што трэба час, каб зламаць супраціўленне буржуазіі, і скіроўваў гнеўны саркастычны агонь крытыкі супраць інтэлігентаў, якія спалохаліся рэвалюцыі, якім хочацца застацца арганізатарамі і начальнікамі, хочацца па-ранейшаму камандаваць. Трэба зламаць іх супраціўленне!

Інтэлігенты даюць выдатныя парады і кіруючыя ўказанні, але аказваюцца да смешнага, да недарэчнага, да ганебнага «бязрукімі», няздольнымі правесці ў жыццё гэтыя парады і ўказанні, правесці практычны кантроль за тым, каб слова ператварылася ў справу. Во дзе без дапамогі, без кіруючай ролі практыкаў — арганізатараў з народа — не абысціся.

Ленін выказвае надзвычайную веру ў арганізатарскія таленты рабочых і сялян. І тут жа папярэджвае, што трэба змагацца супраць усялякага шабланізавання і спроб устанаўлення аднастайнасці зверху, да чаго так схільны інтэлігенты. Поўны прастор ініцыятыве мас, спаборніцтву мас!

«Бальшавікі толькі два месяцы ва ўладзе... а крок уперад да сацыялізму зроблен ужо велізарны»,— робіць вывад Уладзімір Ільіч у другім, там жа ў «Халіле» напісаным, артыкуле — «Запалоханыя крахам старога і змагары за новае». Але тут жа папярэджвае супраць сентыментальнага, недарэчнага, інтэлігенцкі-пошлага ўяўлення аб «увядзенні сацыялізму»: «Мы заўсёды ведалі, гаварылі, паўтаралі, што сацыялізму нельга «ўвесці», што ён вырастае ў ходзе самай напружанай, самай вострай, да шаленства, да роспачы вострай класавай барацьбы і грамадзянскай вайны...»

Не, Уладзімір Ільіч не пісаў у «Халіле» ўвесь час. Ён умеў і адпачываць. У першы ж дзень адвячоркам пайшоў па лесе на лыжах і не вярнуўся да змяркання. Устрывожаныя Рах'я і Муранаў мусілі ісці па следзе шукаць яго. Пасля вячэры гуляў з Лашэвічам у шахматы, выйграў тры партыі і весела смяяўся, калі партнёр выказваў свае перажыванні на адэскім жаргоне. Але і ў часе адпачынку, нават на кароткі час, ён не мог адысці ад думак пра рэвалюцыю і мір, пра арганізацыю ўлады ў цэнтры і на месцы. Нарадзілася новая дзяржава — сацыялістычная, якая не мела ўзораў, хіба што Парыжская камуна, але нельга, каб дзе-небудзь у велізарнай былой Расійскай імперыі паўтарылі яе памылку,— і Ленін узяў па сябе непамерны цяжар філосафа-марксіста, якому трэба растлумачыць усе сацыяльныя з'явы, унутраныя, расійскія, і міжнародныя, і адначасова — арганізатара-практыка, які павінен падказаць, як руйнаваць старыя буржуазныя інстытуты і стварыць новыя, савецкія. І ўсё гэта трэба рабіць адразу, размежаваць нельга. Рэвалюцыя не можа чакаць.

Пакуль іншыя таварышы гулялі ў шахматы, Уладзімір Ільіч пастаяў каля іх, пахныкаў на няправільныя хады, але нікому ходу не падказаў: нельга парушаць правілы гульні! Ведаў: толькі дрэнныя шахматысты лічаць, што яны збоку ўсё бачаць, і няпрошана лезуць з павучаннямі. Як Бухарын у палітыцы.

Пасля Ільіч адышоў у другі канец пакоя для адпачынку, дзе гарэла большая, чым у іншых месцах, лямпа (фіны таксама эканомілі керасін), сеў у крэсла і адразу выцягнуў з кішэні блакнот. І радок першы быў:

«Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом». Так пачыналіся тэзісы «З дзённіка публіцыста (тэмы для распрацоўкі)».

Сорак чатыры тэмы, кожная з якіх, па сучасным разуменні, магла б стаць асновай дысертацыі. І ўсе гэтыя тэмы неўзабаве былі распрацаваны.

Нішто не заставалася па-за ўвагай Ільіча.

«1 bis: Кватэры беднаты і яе харчаванне». А побач — «1 тер. Слабыя бакі неразгарнуўшайся Савецкай улады».

«11. Як «заваёўваць» на бок Расійскай сацыялістычнай рэспублікі Саветаў другія нацыі ўвогуле і нацыі, якія прыгняталіся дагэтуль велікаросамі, у асаблівасці? »

А крыху ніжэй:

«17. У чым сваяцтва паміж басякамі і інтэлігентамі? »

А пасля ажно дзесяць пунктаў аб вайне і міры.

«22. Правакацыя імперыялістаў: дай нам зручны повад хутчэй задушыць цябе, рэспубліка Саветаў!»

«25. Рэвалюцыйная фраза і рэвалюцыйны абавязак у пытанні аб рэвалюцыйнай вайне».

«28. Як трэба «падрыхтаваць» рэвалюцыйную вайну?»

«28. Спачатку перамагчы буржуазію ў Расіі, а потым ваяваць з буржуазіяй знешняй, замежнай, чужаземнай».

«29. Цяжкасці рэвалюцыі ў заходнееўрапейскіх «паразітычных » краінах ».

«31. Рэвалюцыі — лакаматывы гісторыі.

Разагнаць лакаматыў і ўтрымаць яго на рэйках».

У адным Ільіч падпарадкаваўся Надзеждзе Канстанцінаўне і Марыі Ільінічне: клаўся спаць не як у Смольным — часам у чатыры і пяць гадзін раніцы, а па-санаторнаму рана. Аднак і прачынаўся рана. У адну з раніц Надзежда Канстанцінаўна, прыкінуўшыся, што спіць, з іранічным замілаваннем сачыла, як Ільіч, цішком адзеўшыся, запаліў не лямпу, а свечку, якія меліся на ўсякі выпадак, паставіў яе на падлогу за сваім ложкам, а пасля, ходзячы на пальчыках, гарадзіў з крэслаў і сваёй коўдры заслону, каб адгарадзіць яе ложак ад стала, на які трэба паставіць свечку.

А пасля натхнёна пісаў.

Не выдаючы сябе ніводным рухам, яна ляжала і думала: ці ўсе паэты пішуць вершы з такім натхненнем, як Ільіч артыкулы па тэорыі

і практыцы рэвалюцыі? Ленін ствараў «Праект дэкрэта аб спажывецкіх камунах». У гэтай прозе была паэзія рэвалюцыі.

Не мог Старшыня Саўнаркома нават на такі кароткі час — некалькі дзён — адарвацца ад практычнай работы Савецкага ўрада. Санаторый не меў тэлефоннай сувязі з Петраградам, і Ленін патрабаваў, каб таварышы з Саўнаркома прыязджалі штодня і дакладвалі аб становішчы ў краіне і асабліва аб пачатку мірных перагавораў у Брэсце.

Перагаворы трывожылі больш, чым што. Якія б праблемы Ленін ні вырашаў, пра што ні пісаў бы, у падтэксце ўсяго напісанага і ў думках — у час працы і адпачынку — было адно: мір, перадышка.

Уладзімір Ільіч папрасіў, каб да яго прыехалі дэпутаты Устаноўчага сходу, бальшавікі. Таварышы з радасцю, безумоўна, паехалі да Леніна. Ён гутарыў з дэлегацыяй і з кожным таварышам. Акрамя таго, што неабходна выпрацаваць тактыку бальшавіцкай фракцыі ва Устаноўчым сходзе, які трэба неўзабаве адкрыць і ў якім, па апошніх падліках, партыя не будзе мець большасці месц, Леніну вельмі важна было даведацца, як на месцы, у партыйных арганізацыях, на заводах, у палках, адносяцца да той дыскусіі, якая мімаволі пачалася ў сувязі з перагаворамі аб міры.

Леніна трывожыла ўзнікненне апазіцыі. Нельга ў такі час, праз два месяцы пасля перамогі рэвалюцыі, дапусціць раскол у кіраўніцтве партыі, якая ўзяла ўладу, па самым галоўным пытанні стратэгіі рэвалюцыі — вайны і міру.

«Рэвалюцыйная вайна!» Ленін разумеў, што такі «яркі» лозунг можа захапіць, узняць многіх сумленных, работнікаў. Не ўсім была відаць надзвычай напружаная работа партыі, каб у жніўні — верасні заваяваць Саветы, зрабіць іх бальшавіцкімі. Але ўсе бачылі, ведаюць, як лёгка і бяскроўна была ўзята ўлада ў кастрычніку. І ўсіх радуе і захапляе пераможнае шэсце рэвалюцыі па вялікай краіне. Рабочыя, сяляне самых далёкіх ускраін пайшлі за бальшавікамі. Усюды ўлада пераходзіць да Саветаў, а таму таварышам здаецца: даволі пачаць «рэвалюцыйную вайну» супраць нямецкага імперыялізму, як там, на Захадзе, адразу ж пачнецца рэвалюцыя, нямецкія і аўстрыйскія салдаты павернуць штыкі ў другі бок, супраць кайзера, генералаў, буржуазіі, а потым рэвалюцыйны пажар перакінецца ў Францыю, Англію, зашугае па ўсёй Еўропе.

Наіўна. Ах, як наіўна!

Лідэр «левых» Бухарын — чалавек эмоцый. Ён нядрэнны літаратар, але слабы тэарэтык, блытанік. Яму варта было б пісаць раманы, а не займацца сур'ёзнай палітыкай. Рэвалюцыйную вайну

прыйдзецца весці супраць унутранай контррэвалюцыі, супраць сусветнага імперыялізму, калі ён паспрабуе задушыць маладую Рэспубліку Саветаў. А, напэўна, паспрабуе. Але для такой вайны трэба мець адменна новую — рэвалюцыйную армію. А каб стварыць яе — трэба перадышка. Хаця б некалькі месяцаў! «Левыя» кідаюць рэвалюцыйныя фразы, не вельмі ўнікаючы ў факты, не аналізуючы абстаноўку, не ўлічваючы настрой мас, салдацкіх, сялянскіх.

Ленін глыбока вывучаў такі настрой. Выступіць на з'ездзе па дэмабілізацыі арміі ён не здолеў. Але тыдзень назад у Наркамаце па ваенных справах склікалі нараду дэлегатаў з'езда — бальшавікоў. Ленін паехаў на гэтую нараду, выступіў там і там жа напісаў анкету з дзесяці пытанняў, на якія папрасіў дэлегатаў адказаць пісьмова. Вельмі важна было мець пісьмовыя адказы франтавікоў на такія, напрыклад, пытанні: Ці магчыма нямецкае наступленне зімой? Ці можа настрой нямецкіх салдат перашкодзіць наступленню або хаця б затрымаць яго? Ці здолеюць немцы ўзяць Петраград? Ці можа руская армія супрацьстаяць нямецкаму наступленню, утрымаць фронт? Ці можа яна адступаць у парадку, захоўваючы артылерыю? Каб армія магла галасаваць, за што яна выказалася б: за мір на анексіяністцкіх цяжкіх умовах ці за рэвалюцыйную вайну з крайнім напружаннем сіл?

Ваенныя амаль аднадушна пацвердзілі, што ваяваць нельга.

Па другі дзень Ленін дапаўняе парадак дня пасяджэння Саўнаркома пунктам: «Апытанне арміі ў сувязі з пытаннем аб рэвалюцыйнай вайне». Прымаецца пастанова: «Вынікі анкеты прызнаць вычэрпваючымі пытанне аб стане арміі і прыняць рэзалюцыю, прапанаваную У. Ільічом Леніным». А рэзалюцыя пацвярджала: ваяваць нельга!

Разам з тым Ленін не адмяняе і не здымае пастановы Саўнаркома, якая была прынята напярэдадні па дакладу аб ходзе мірных перагавораў; пастанова гэтая па прапанове Уладзіміра Ільіча тады не была апублікавана, каб не нашкодзіць перагаворам. У пастанове ўказвалася на неабходнасць весці прапаганду рэвалюцыйнай вайны і адначасова зацягваць перагаворы — каб выйграць час: у тыя дні ў Германіі нарасталі рэвалюцыйныя падзеі. Троцкі пасля ў гэтым і некаторых іншых тактычных хадах хацеў убачыць непаслядоўнасць і супярэчлівасць агульнай ленінскай стратэгіі.

Не, Ленін проста ўсё прадбачыў і ўсё ўзважваў на дакладных вагах тэарэтычнай мудрасці і рэвалюцыйнай інтуіцыі.

Анкета абяззбройвала прыхільнікаў «рэвалюцыйнай вайны», тыцкала іх у суровыя факты, хоць большасць гэтых людзей не лічыліся ні з якімі фактамі і, як цецерукі, таўклі сваё.

Прапаганда рэвалюцыйнай вайны зусім не азначала вядзенне яе. Прапаганда давала магчымасць маральна і фізічна рыхтавацца да такой вайны. Яна ўзнімала рабочых, сялян на абарону сацыялістычнай айчыны. Яна яўна падказвала бальшавікам на месцах на неабходнасць стварэння чырвонагвардзейскіх атрадаў — асновы новай арміі, паколькі, каб не дражніць немцаў у часе перагавораў аб міры, нельга друкаваць дэкрэты аб стварэнні Чырвонай Арміі.

Бухарын, Ломаў, Урыцкі гаварылі гучныя фразы аб рэвалюцыйнай вайне. Ленін працаваў. Ленін рыхтаваў краіну, армію да такой вайны на выпадак, калі імперыялісты вымусяць Савецкую рэспубліку весці яе.

Уладзімір Ільіч разумеў логіку «левых». Сапраўды, трыумфальнае шэсце рэвалюцыі ўскружыла маладым галовы. Яны ніяк не хацелі зразумець, што засталіся гіганцкай цяжкасці задачы, вырашэнне якіх не можа быць трыумфальным шэсцем з разгорнутымі сцягамі. Першая з гэтых задач — арганізацыя ўлады, вытворчасці. Толькі надзвычай цяжкай, напружанай доўгай працай, высокай самадысцыплінай можна перамагчы той развал эканомікі, грамадства, які зрабіла вайна. Для гэтага трэба працаваць і працаваць.

Другая задача — міжнародная. Сапраўды наіўна думаць, што мы адолеем міжнародны імперыялізм гэтак жа лёгка, як Керанскага. Два драпежнікі счапіліся паміж сабой, і гэтая акалічнасць дала нам магчымасць лёгка перамагчы; умовы, якія вельмі шчасліва склаліся, прыкрылі Савецкую рэспубліку ад міжнароднага імперыялізму. Але трэба помніць, што гэта ненадоўга, і выкарыстаць любую перадышку, каб арганізавацца, узброіцца.

Але, палітычныя і сацыяльныя карані фразы аб рэвалюцыйнай вайне не цяжка вытлумачыць. Аднак Уладзімір Ільіч перажываў з'яўленне апазіцыі ў партыі. Недарэчна гэта ў такі час. Не туды скіравана энергія людзей. Кожны з «левых» вядзе немалую арганізацыйную работу. Гэта пакуль што стрымлівала Леніна ўдарыць па апазіцыі з той жа сілай, з якой ён біў па любой апазіцыі да рэвалюцыі, у эміграцыі,— па Мартаву, Пляханаву, Троцкаму...

Троцкі... З Троцкім цяжэй. Нарком па замежных справах да паездкі ў Брэст выказаў на адным пасяджэнні свой лозунг: «Ні міру, ні вайны».

Любы адсталы салдат, селянін скажа, што гэта абсурд — ні міру, ні вайны, што такога становішча не можа быць. Але Леніна кароткі лозунг Троцкага ўстрывожыў больш, чым разважанні ўсіх прыхільнікаў рэвалюцыйнай вайны. Вонкава простая, формула гэтая ў сапраўднасці цёмная, злавесная, фарысейская, дваістая — і нашым, і

вашым, яна здольная збіць з панталыку не толькі непісьменных салдат, сялян, але, магчыма, і некаторых пралетарыяў, а ў галовах інтэлігентаў напэўна зробіць кашу. Проста і д'ябальскі хітра. Як заўсёды ўмеў Троцкі — простыя ісціны заблытаць настолькі, што нават светлыя галовы не маглі дайсці, дзе пачатак, дзе канец.

Троцкі пакуль што не выказаўся да канца. Што ён мае па ўвазе? Дэмабілізаваць старую армію? Раззброіцца перад немцамі? Пакажам свету: вось як мы ажыццяўляем дэкрэт рэвалюцыі аб міры! І... адкрыем немцам фронт? Бярыце Петраград, Маскву, Украіну... Бярыце нас голымі рукамі.

Не, Леў Давыдавіч, так раззбройвацца, так дэмабілізоўваць армію мы не будзем!

Колькі дзён назад Глаўкаверх Мікалай Васільевіч Крыленка, адзін з тых бальшавікоў, якія найбліжэй да арміі і найлепш ведаюць, наколькі гэта хворы арганізм, прапанаваў адвесці часці з Румынскага фронту. Ленін тут жа склікаў у Наркамваене нараду з прадстаўнікамі Генштаба і катэгарычна выказаўся супраць адводу войск Румынскага фронту. Больш таго, Уладзімір Ільіч прапанаваў тэрмінова паслаць на фронт чырвонагвардзейскія атрады Петраградскай і Маскоўскай ваенных акруг — пралетарскую гвардыю і неадкладна прыступіць да фарміравання дзесяці карпусоў новай, сацыялістычнай арміі. Там жа гаварыў ён аб неабходнасці наладзіць работу чыгунак, асабліва тых, што ідуць да фронту, і паслаць франтавым часцям хлеб і коней. Ленін ведаў, што спыніць нямецкае наступленне разваленая руская армія не можа, але затрымаць, знясіліць немцаў, якія не менш стомлены вайной, можа і тым самым прымусіць Вільгельма, Гертлінга і Імельмана падпісаць мірны дагавор. Трэба зрабіць усё, каб адступленне не было бегствам, каб адступаючая армія вывезла зброю, маёмасць. Не, Леў Давыдавіч, не можа быць «ні міру, ні вайны». Можа быць або мір, або вайна. Але нам трэба мір!

— Мы заключым мір, не зважаючы ні на левых, ні на правых! — упэўнена і, бадай, весела сказаў Уладзімір Ільіч.

Яго субяседнікам быў Гарбуноў. Ён прыехаў у санаторый са стосам газет, у тым ліку нямецкіх, хоць былі яны тыднёвай даўнасці, іх выменьвалі на лініі перамір'я: цераз Швецыю яны паступалі яшчэ пазней. Ленін прагледзеў спачатку нямецкія газеты, пасля петраградскія, бальшавіцкія, эсэраўскія. Адзначыў вялікімі клічнікамі і сваімі характэрнымі знакамі артыкулы, якія абавязкова трэба прачытаць больш уважліва. Усё гэта былі артыкулы аб вайне і міры. Прагпядаючы іх, ён думаў аб сітуацыі, якая складвалася.

Вылаяў левых эсэраў, якія ўваходзілі ва ўрад. Яшчэ зусім нядаўна яны былі за мір, а цяпер газетка іх затрубіла ў іншы рог.

— Боўтаюцца, як дзярмо ў палонцы.

Сакратар Саўнаркома прывёз нямала фактаў і дакументаў, пра якія трэба было далажыць Старшыні.

Ленін у першую чаргу спытаў:

— Што, Мікалай Пятровіч, чуваць з Брэста?

— Есць некалькі тэлеграм Троцкага. Прапанову аб пераносе перагавораў у Стакгольм немцы адхілілі, як вы, Уладзімір Ільіч, прадказвалі.

— Але няхай міжнародны пралетарыят ведае, што мы вядзём перагаворы пад нямецкімі штыкамі. Карэспандэнтаў нейтральных краін таксама не дапусцілі?

— Не дапусцілі.

— М-да... немцы хочуць узяць нас за горла. Загрудкі яны нас возьмуць. За горла не дамося. Задушаць нас — не! Не дамося!

— Немцы аднеслі пачатак перагавораў з восьмага на дзевятае студзеня. Есць падазрэнне, што немцы вядуць тайныя перагаворы з Цэнтральнай радай. Чакаецца прыезд Галубовіча. Ад канкрэтных нашых прапаноў радаўцы ўхіляюцца. Троцкі просіць дырэктыву: якую палітыку весці ў адносінах рады?

— Троцкі просіць дырэктывы? — здзівіўся Уладзімір Ільіч.— У Троцкага кароткая памяць. Дырэктывы яму дадзены цвёрдыя і ясныя. На Саўнаркоме. Мікалай Пятровіч, тэлеграфуйце ўкраінскім таварышам у Харкаў, каб яны паскорылі пасылку ў Брэст дэлегацыі ЦВК Саветаў Украіны. А Троцкаму дайце тэлеграму... Так, каб яе чыталі і немцы, хоць, думаю, яны чытаюць усе нашы шыфроўкі. Кайзераўскія бандыты ніколі не саромеліся любых сродкаў шпіянажу. А мы мусім карыстацца кодамі царскага Генштаба. Напомніце Троцкаму і немцам. Данбас у руках ЦВК, Чарнаморскі флот у ЦВК. Рэвалюцыйныя часці наступаюць на Кіеў. Усё гэта дае права ЦВК Саветаў Украіны мець свайго прадстаўніка ў мірнай дэлегацыі больш, чым тры рады, разам узятыя.

Так прайшлі пяць дзён ленінскага адпачынку.

Пяць дзён? На пяты дзень, дзесятага студзеня, Ленін ужо працаваў у сваім кабінеце ў Смольным.

Першачарговая пошта — з Брэста.

Стары сябра Фрыц Платэн, які ў красавіку памог вярнуцца ў Расію Уладзіміру Ільічу, правёз праз Германію групу палітэмігрантаў.

Тэлеграма парадавала Леніна. Едуць марксісцкі адукаваныя людзі, якіх так не хапае. Праўда, ці ўсе з іх здолеюць у новых умовах

уключыцца ў практычную работу? Многія гады эміграцыі адарвалі людзей ад рускай глебы. Некаторыя зрабіліся інтэлігентамі ў заходнім разуменні гэтага слова. А заходні інтэлігент горш за рускага, таго, што схільны замяняць справу дыскусіяй, работу — размовамі, схільны «за ўсё на свеце брацца і нічога не даводзіць да канца». Аднак што людзі вяртаюцца — гэта выдатна. Ды і сацыялісту Платэну карысна глянуць на рускую рэвалюцыю вачамі, а не толькі чытаць пра яе ў швейцарскіх, французскіх і нямецкіх буржуазных газетах. Колькі нагарадзілі там злоснай абывацельскай і дурной лухты!

Троцкі паведамляў: на аснове аналізу нямецкіх газет ён зрабіў вывад, што ў Германіі перамагае партыя прыхільнікаў вайны з Савецкай Расіяй.

Такую інфармацыю не назавеш прыемнай. Ленін паморшчыў лоб, робячы свае заўвагі на тэлеграме. Не ўласціва яму была падазронасць да таварышаў па партыі. Але, улічваючы пазіцыю Троцкага і ведаючы добра самога Троцкага, які выдатна ўмеў падбіраць факты для абароны ўласнай думкі, паведамленне яго здалося падазрона аб'ектыўным. Вельмі падобна на праўду. Аднак варта праверыць. Факт сур'ёзны. Перамога партыі вайны пацвердзіць ленінскі тэзіс аб труднасці рэвалюцыі на Захадзе, у Германіі ў тым ліку. Але ў той жа час падобныя звесткі напэўна натхняюць Бухарына, Ломава, Урыцкага ў іх прапагандзе рэвалюцыйнай вайны: хіба не бачыце, што мірыцца з імперыялістамі нельга? У «левых» свая логіка.

Ленін адарваўся ад тэлеграмы і паглядзеў на Бонч-Бруевіча, ён першы прыйшоў, як толькі Уладзімір Ільіч з'явіўся ў кабінеце,— прынёс паперы, якія, ведаў, адкласці на пазней нельга, і цяпер сядзеў насупраць, назіраючы па выразнай міміцы на твары, якое ўражанне робіць на Ільіча той ці іншы дакумент.

— Чыталі, Уладзімір Дзмітрыевіч? Яны хочуць схапіць нас за горла. Воўчымі зубамі. Каб адразу задушыць. Не даць ім поваду схапіць нас за горла — вось сутнасць нашай тактыкі.

— Прыязджаў са Стаўкі брат. Паверце, Уладзімір Ільіч, Міхаіл не песіміст. Генерал Бонч-Бруевіч заўсёды вельмі цвяроза ацэньваў ваенную абстаноўку. Але тое, што ён расказаў пра наш фронт, прызнаюся, мяне спалохала. Многія ўчасткі фронту зусім пакінуты войскамі і нікім не ахоўваюцца... Фронт адкрыты...

— Папрасіце ад Міхаіла Дзмітрыевіча дакладную. Думка начальніка штаба многа значыць. «Левых» фразёраў трэба біць фактамі. Ацэнкай становішча ваенспецамі. Бухарын і Радэк лічаць сябе ваеннымі стратэгамі,— Уладзімір Ільіч іранічна хмыкнуў і тут жа ўглыбіўся ў чытанне іншых папер,— Садуль просіцца на прыём?

Садуля трэба прыняць. У капітана светлая галава, хоць ён і з кампаніі сацыял-шавіністаў.

Уладзімір Ільіч зноў паглядзеў на кіраўніка спраў і нечакана весела прапанаваў:

— Уладзімір Дзмітрыевіч! Ведаеце што, баценька? Едзьце вы на адпачынак у Фінляндыю. Я выдатна адпачыў. Нават патаўсцеў. Булачкі. Малако. І снегіры. Калі вы бачылі снегіроў?..

2

Англія, Францыя, Амерыка не прызнавалі бальшавіцкі ўрад, але пасольствы з Петраграда не адклікалі. Па падказцы «лідэраў» не адклікалі сваіх пасольстваў і ўсе іншыя дзяржавы, вялікія і малыя,— Кітай, Японія, Румынія, Бельгія. Чакалі падзення бальшавікоў. Пасольствы памагалі контррэвалюцыі.

Саўнарком ведаў пра гэта, і некаторыя з «левых» патрабавалі высылкі пасольстваў. Ленін быў супраць высылкі. Гэта дало б буржуазіі лішні козыр супраць Савецкага ўрада і цалкам ізалявала б рэспубліку ад знешняга свету.

Пасля чакалі склікання Устаноўчага сходу, спадзяваліся, што сход зменіць характар улады, верне эсэраў і меншавікоў.

Між тым час ішоў, рэвалюцыя шырылася і паглыблялася.

Найбольш разумныя дыпламаты з буржуазных пасольстваў і місій разумелі, што яны самі паставілі сябе ў недарэчнае становішча, ілам, брудам ілжы і дэзінфармацыі заплываюць каналы сувязі з былым саюзнікам па вайне. Урэшце, галоўная задача дыпламатычных прадстаўніцтваў Антанты — перашкодзіць Расіі выйсці з вайны, любымі сродкамі перашкодзіць падпісанню міру з немцамі.

У пасольстваў было складанае і супярэчлівае становішча: не робячы ніводнага дэмаршу, які маглі б вытлумачыць хаця б як фармальнае, дэ-факта, прыззнанне ўрада Леніна, усё ж знайсці магчымасці кантактаў з гэтым урадам. За гэта ўзяліся як бы прыватным чынам, быццам бы па ўласнай ініцыятыве член французскай ваеннай місіі Жак Садуль, прадстаўнік амерыканскай місіі Чырвонага Крыжа палкоўнік Раймонд Робінс. Крыху пазней спахапіліся англічане і таксама прыслалі неафіцыйнага агента — Локарта. Але калі Локарт, шпіён, правакатар, арганізатар контррэвалюцыйных змоў, вёў двайную гульню, то Робінс быў сумленным і аб'ектыўным капіталістам, які многа ездзіў па Расіі і разумеў настрой мас... Ён стараўся пераканаць Вільсана і дзяржаўны дэпартамент, што Амерыцы выгадна прызнаць бальшавіцкі ўрад, устанавіць з ім mdus vivendi, што, маўляў, толькі

такім прызнаннем можна перашкодзіць заключэнне рускімі сепаратнага міру.

Яшчэ больш прадбачлівым і аб'ектыўным быў Жак Садуль. Ён, бадай, першы з афіцыйных асоб пасольстваў і місій устанавіў кантакты з Леніным, з іншымі членамі Савецкага ўрада. Садуль быў сацыялістам. Аднак у разгар сусветнай вайны, як і многія заходнія сацыялісты, ён быў «нацыянальным абаронцам», патрыётам Францыі, таму лічыў сваім абавязкам зрабіць усё магчымае, што можна пры яго становішчы, каб перашкодзіць падпісанню міру паміж Расіяй і Германіяй.

Ленін не першы раз прымаў Садуля.

За дзень да гэтага Ленін адмовіўся прыняць французскага сацыяліста Шарля Дзюма. На яго просьбу Уладзімір Ільіч адказаў пісьмом, у якім пісаў:

«Мы з жонкай з вялікім задавальненнем успамінаем пра той час, калі мы пазнаёміліся з Вамі ў Парыжы, на вуліцы Банье...

Я вельмі шкадую, што асабістыя адносіны паміж намі сталі немагчымымі, пасля таго як нас раздзялілі такія глыбокія палітычныя рознагалоссі. Я на працягу ўсёй вайны змагаўся супраць тэндэнцыі «нацыянальнай абароны», я заўсёды выступаў за раскол, пераканаы, што гэтая тэндэнцыя цалкам разбурае сацыялізм».

Да гэтага сацыяліста Ленін звярнуўся: «Дарагі грамадзянін Шарль Дзюма».

Жак Садуль на першай сустрэчы пачаў размову менавіта з гэтага — з формы звароту.

Вытанчаны, з напамаджанымі вусікамі афіцэр у шыкоўным мундзіры французскай кавалерыі, не прысядаючы, у пачцівай паставе малодшага перад старэйшым, што даецца не без добрага выхавання, Садуль абвясціў не без гонару:

— Хачу, каб вы ведалі: я сацыяліст.

— Я гэта ведаю,— з гасціннай усмешкай адказаў Уладзімір Ільіч.

— Вам не здаецца, што гэта стварае праблему звароту афіцэра саюзнай місіі да прэм'ера-сацыяліста?

— Удакладнім: сацыял-дэмакрата-бальшавіка. А больш дакладна: камуніста-бальшавіка.

— Ведаючы вашу барацьбу з намі, сацыялістамі-абаронцамі, і прачытаўшы дакументы рускай рэвалюцыі, я разумею розніцу паміж намі. Аднак гэта не рашае маёй праблемы.

Ленін на момант задумаўся.

— Давайце ў нашых адносінах прымем зварот, якім карысталіся ў часы Вялікай французскай рэвалюцыі.

— Грамадзянін?

— Так.

Садуль засмяяўся.

— Вы мудры чалавек, грамадзянін Ульянаў.

— Вы мяне паставілі ў цяжкае становішча. Я не знаю: ці трэба прэм'еру рабоча-сялянскага ўрада дзякаваць за такі камплімент.

Тады яны разам засмяяліся, як людзі, што хутка паразумеліся. На гэты раз Жак Садуль не быў такі парадна-прыгожы, ён прыйшоў у палявой форме, бо даўно зразумеў, што ў Смольным, дзе ўсё проста, у тым ліку і кабінет Леніна, і людзі простыя, энергічныя, у шынялях, рабочых тужурках, ветлівыя, але без усялякіх дыпламатычных хітрасцей,— з'яўляцца ў парадным мундзіры ці смокінгу недарэчна, выглядаеш белай варонай.

Уладзімір Ільіч прапанаваў госцю адзінае мяккае крэсла, у якім у час пасяджэнняў Саўнаркома нязменна сядзеў Троцкі — любіў камфорт.

Капітан Садуль у гэтым крэсле, закінуўшы нагу на нагу, выглядаў зусім па-цывільнаму, знікла ўсё ваеннае, і Ленін жартаўліва адзначыў гэта.

Уладзімір Ільіч сядзеў з другога боку невялічкага круглага стала — для сакратароў — на венскім крэсле, бокам, так, што левай рукой абапіраўся на спінку.

— Вы не баіцеся, таварыш Ленін,— Садуль, часам быццам забываючыся, усё ж звяртаўся са словам «таварыш», мабыць, жадаючы наблізіцца ці заваяваць прыхільнасць,— што можаце застацца ў меншасці ў сваёй партыі? Я чытаю рускія газеты, маю розную інфармацыю... словам, не з'яўляецца сакрэтам, што многія вашы калегі займаюць іншую пазіцыю,— Садуль далікатна не ўдакладніў — якую.

Удакладніў Ленін:

— Так. Група левых камуністаў выступае за рэвалюцыйную вайну. Мы не робім сакрэтаў са сваёй палітыкі, з нашых спрэчак па стратэгіі і тактыцы рэвалюцыі.

Садуля ўжо не здзіўляла надзвычайная ленінская шчырасць, здзіўлялі нечаканыя павароты яго палемічнага мыслення і вычарпальнасць адказу на любое пытанне. Ён чакаў такой вычарпальнасці ў адказе — баіцца Ленін ці не баіцца застацца ў меншасці.

Уладзімір Ільіч нахіліўся да субяседніка, як бы намерваючыся сказаць тайну, вочы яго прыжмурыліся.

— Скажыце, грамадзянін Садуль, як вы думаеце, якую пазіцыю займае пан Клемансо ў нашых спрэчках, за каго ён — за Леніна? За Бухарына?

Садуль здзівіўся і засмяяўся.

— Я не маю такой інфармацыі. Я ведаю адно: урад і народ Францыі хоча, каб Расія заставалася верная саюзніцкаму дагавору.

— Імперыялістычнаму дагавору? Вы добра ведаеце, што рэвалюцыя выкінула ўсе падобныя дагаворы на сметнік гісторыі. І вы добра ведаеце — не хітруйце, грамадзянін сацыяліст! — што Клемансо пляскаў бы ў ладкі, каб мы пачалі вайну, пра якую гавораць мае маладыя калегі. І Лойд Джордж і Вільсан радаваліся б. Англічане проста прапаноўвалі нашаму Глаўкаверху Крыленку па сто рублёў у месяц за кожнага рускага салдата, які застанецца на фронце і будзе весці хаця б акопную вайну. Які цынізм! Гандаль на крыві. Мы не гандлюем крывёю рабочых і сялян! Але рэвалюцыйную вайну з нашага боку імперыялісты віталі б не толькі таму, што рускі фронт памог бы англа-амерыкана-французскім драпежнікам загрызці нямецкага тыгра. Не! Яны пацíралі б рукі ад таго, што такая вайна стала б вельмі зручным повадам задушыць рускую рэвалюцыю. А калі гэта будзе зроблена рукамі Вільгельма, Гіндэнбурга — ах, як хараша для рэспектабельнага пана Клемансо! Ён не запляміць свае белыя пальчаткі крывёю рускіх рабочых і не пакліча на сябе гнеў французскага пралетарыяту.

— Вы не верыце ў рэвалюцыю ка Захадзе?

Ленін падняўся з крэсла, абышоў столік і стаў за два крокі ад госця, узяўшыся рукамі за лацканы свайго даволі паднашанага ўжо пінжака.

— А вы можаце даць гарантыю, што на другі дзень пасля абвяшчэння рэвалюцыйнай вайны французскі пралетарыят выйдзе на барыкады і французскія салдаты павернуць штыкі супраць сваёй буржуазіі, як зрабілі гэта рускія салдаты?

Садуль маўчаў.

— Я пытаю ў вас за Францыю. Не за Германію. Вы маўчыце. І яны маўчаць, нашы «левыя». Не, грамадзянін Садуль,— Ленін прайшоўся па кабінеце.— Я веру ў рэвалюцыю. Але Захад яшчэ толькі цяжарны рэвалюцыяй. А на пасторах Расіі нарадзілася здаровае дзіця — сацыялістычная Рэспубліка Саветаў. Што ж вы прапаноўваеце? Каб мы сваімі рукамі задушылі сваё дзіця? Нам кажуць: заключаючы мір, мы памагаем нямецкаму імперыялізму. А калі мы будзем ваяваць супраць яго? Кім бы мы сталі? Агентамі англа-французекага імперыялізму. Можа вы дакажаце мне, што ваш, французскі, імперыялізм

лепшы за нямецкі? — Ленін спыніўся перад капітанам, іранічна прыжмурыўшыся.

— Я не стану гэтага рабіць, таварыш Ленін.

— Не, вы, абаронцы, рабілі гэта ў пачатку вайны і на працягу вайны, калі лілася кроў рускіх, нямецкіх, французскіх рабочых. Вы даказвалі, што ваш імперыялізм — ах, якая цаца!

— Мы працверазелі, таварыш Ленін.

— Хто — мы? Вы асабіста? Аднак каторы раз вы даводзіце, што мы не павінны здраджваць пану Клемансо,— Ленін зняважліва хмыкнуў.

— Я гэта раблю па тых жа матывах, што і вашы калегі. Я спадзяюся на рэвалюцыю.

— Вы спадзеяцеся, але вы не можаце даць гарантыі. Ніхто не можа. А таму было б недаравальнай, падкрэсліваю, недаравальнай памылкай будаваць тактыку сацыялістычнага ўрада Расіі на варажбе: наступіць ці не наступіць еўрапейская рэвалюцыя, асабліва нямецкая, у бліжэйшыя месяцы. Не, марксісцкі правільны адзіны вывад: з часу перамогі сацыялістычнага ўрада ў адной з краін трэба вырашаць пытанне не з прынцыпу, якому з двух імперыялізмаў выгадней памагчы цяпер, а выключна, я падкрэсліваю, выключна з пункту гледжання найлепшых умоў для развіцця і ўмацавання сацыялістычнай рэвалюцыі, якая пачалася ўжо. Нам трэба канчаткова зламаць супраціўленне сваёй буржуазіі. А яно вылілася ў грамадзянскую вайну і ў неваенныя формы — у сабатаж, у подкуп агентаў буржуазіі, якія пралезлі ў рады сацыялістаў. Нам трэба рашыць гіганцкія задачы сацыялістычных пераўтварэнняў у разбуранай вайной краіне. А гэта задача не аднаго дня і не аднаго месяца. Для гэтага трэба час. Трэба перадышка! Есць і другі бок. Армія і народ стаміліся ад вайны. Рэвалюцыя дала народу зямлю і мір. Салдат хоча араць і засяваць зямлю, якую ён атрымаў. Салдат не пойдзе на вайну, якімі б ультрарэвалюцыйнымі лозунгамі мы ні заклікалі яго. Пры поўнай дэмакратызацыі арміі весці вайну супраць волі большасці салдат — авантура. На такую авантуру ідуць толькі імперыялісты. Мы не пойдзем!

— Прызнаюся, грамадзянін Ленін, што вашы довады прымушаюць задумацца. Логіка ваша, як кажуць, жалезная. Але вы не адказалі на маё пытанне.

— Ці не баюся я застацца ў меншасці? — Ленін на міг як бы задумаўся, яле тут жа ўпэўнена адказаў: — Не, не баюся! Я не магу застацца ў меншасці. За мной — мільёны салдат, рабочых, сялян.

— Я маю на ўвазе Цэнтральны Камітэт вашай партыі.

— Вы сапраўды хораша інфармаваны. Кім? Троцкім? У ЦК я заставаўся ў меншасці. У 1907 годзе, напрыклад. Тады большасць бальшавікоў была за байкот трэцяй Думы. Я абараняў удзел у ёй, я даказваў, што новыя ўмовы патрабуюць новых форм барацьбы. Мы павінны былі прайсці праз хлеў сталыпінскай Думы. Мы пройдзем і праз хлеў няхай сабе і ганебнага міру з немцамі. Марксізм патрабуе ўліку аб'ектыўных умоў. У чым карэнная змена гэтых умоў? Есць, жыве, умацоўваецца першая сацыялістычная рэспубліка. І таму цяпер вышэй за ўсё і для нас, і з міжнароднага сацыялістычнага пункту гледжання захаванне гэтай рэспублікі. І мы нікому не дамо ўцягнуць нас у лавушку, у працяг імперыялістычнай вайны.

Жак Садуль заглянуў у запісную кніжку. Відаць, некаторыя пытанні былі падрыхтаваны ім загадзя.

— Але ёсць яшчэ адна сіла, якая, безумоўна, скажа сваё слова аб вайне і міры. Я маю на ўвазе Устаноўчы сход, які склікаецца гэтымі днямі.

Ленін як бы стоена пасміхнуўся і, абышоўшы стол, сеў у сваё рабочае крэсла.

Садуль насцярожыўся: ці не дае гэтым прэм'ер зразумець, што аўдыенцыя скончана.

Не, Уладзімір Ільіч выбраў са стоса акуратна складзеных газет нумар «Правды», прыкметна зачытаны: грубая жоўтая папера пацерлася на зломах.

— Газеты нашы вы чытаеце не вельмі акуратна. Тыдзень назад у адным артыкуле я цытаваў вельмі вядомага сацыяліста. Пляханаў для вас аўтарытэт?

— О, безумоўна'

— Дык вось што гаварыў Пляханаў яшчэ ў тысяча дзевяцьсот трэцім годзе. Паслухайце, калі ласка. Вось тут. Дакладныя словы Пляханава: «Калі б у парыве рэвалюцыйнага энтузіязму народ выбраў вельмі добры парламент — свайго роду interuvable (бяспрыкладная палата), то нам варта было б старацца зрабіць яго доўгім парламентам; а калі б выбары былі няўдалымі, то нам трэба было б,— Ленін інтанацыяй падкрэсліў гэтыя і наступныя словы,—-старацца разагнаць яго не праз два гады, а калі можна, то праз два тыдні».

— Вы можаце разагнаць Устаноўчы сход? — амаль жахнуўся Садуль.

— Гэта будзе залежаць ад Устаноўчага сходу.

— Але ж гэта тэрор!

— Шкада, грамадзянін сацыяліст, што вы паўтараеце нашых меншавікоў і эсэраў. Некалі яны былі згодны з Пляханавым, а цяпер

крычаць пра «бальшавіцкі тэрор». А які тэрор чынілі яны самі пры Керанскім! У адну толькі мінскую турму Керанскі і Аўксенцьеў засадзілі тры тысячы салдат за «шкодную агітацыю». Гэта не тэрор? А расстрэл рукамі Карнілава цэлых палкоў за недастатковае натхненне ў вайне. Гэта што? Розніца толькі ў тым, што керанскія і ліберданы ў абдымку з Карнілавым рабілі тэрор супраць рабочых, салдат, сялян, а Савецкая ўлада прымае рашучыя меры супраць буржуазіі, памешчыкаў і іх прыслужнікаў. Я вам раю прыглядзецца да расійскай рэвалюцыі больш уважліва. Вы, мне здаецца, маглі б зразумець, што яна даўно пакончыла з парламентарызмам, які яшчэ нідзе не распальваў агонь рэвалюцыі, а заўсёды быў сродкам падману працоўных класаў. Расійская рэвалюцыя ў самым пачатку сваім, яшчэ ў пятым годзе, стварыла небывалыя яшчэ ў гісторыі развіцця сусветнай рэвалюцыі народныя арганізацыі. Гэта — Саветы. Яны — органы ўлады рабочых, салдат, сялян. Яны пакрылі густой сеткай усю краіну. Недарэмна буржуазія, памешчыкі вядуць смяртэльную барацьбу супраць Саветаў. Так, мы былі за Устаноўчы сход. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Тады Устаноўчы сход быў лепш за любыя органы ўлады Керанскага. Але цяпер Саветы, як усенародныя рэвалюцыйныя арганізацыі, сталі на тысячу галоў вышэй за любыя парламенты ўсяго свету. Што ж вы хочаце? Каб мы вярнуліся ад Саветаў да згодніцкага парламента?! Уся ўлада Саветам! — сказалі мы і змагаліся за гэта. А цяпер мы выконваем волю народа, які паўсюдна гаворыць: уся ўлада Саветам! Любое адступленне назад — здрада рэвалюцыі.

Садуль ні на адной сустрэчы нічога не занатоўваў, лічыў непрыстойным рэпарцёрства пры сустрэчы на такім узроўні, хоць да вайны быў журналістам. А тут запісаў нешта, папрасіўшы прабачэння. Пасля сказаў:

— Вы непахісны чалавек, грамадзянін Ленін. Мяне захапляе ваша пераконанасць. Пасля сустрэчы з вамі я адчуваю сябе бальшавіком.

— Французскія сацыялісты не заявяць мне пратэсту, калі я далучу вас да бальшавізму?

Садуль засмяяўся.

На развітанне Уладзімір Ільіч спытаў:

— Вы будзеце інфармаваць аб нашай гутарцы пасла?

Капітан сумеўся. Па сваім становішчы ён абавязаны гэта зрабіць. Але ён думаў яшчэ ў часе размовы, што многае з таго, што гаварыў Ленін, перадаць Нулансу немагчыма: не зразумее пасол, вытлумачыць дрэнна яго. Садуля, місію, ды і ўсё роўна не перадасць

нічога ўраду. Было ўжо, што Нуланс сказаў: «Мае дэпешы павінны прыносіць задавальненне Клемансо». Такі стыль саюзных дыпламатаў — маніць, скажаць факты, каб дагадзіць антыбальшавіцкім настроям сваіх кіраўнікоў. Лягчэй, прасцей і выгадней лісліўіць вялікім, чым прасвячаць іх, Дэпешы пасла неаднойчы ўжо раздражнялі Садуля. Не, не будзе ён перадаваць Нулансу змест усяе размовы. Навошта? Ды, відаць, і Ленін не хоча гэтага.

— Мой візіт носіць прыватны характар. Я не меў намеру інфармаваць свой урад.

— Прашу вас перадаць у любой форме... Мы не просім буржуазныя ўрады прызнаваць нас. Прыйдзе час — нас прызнаюць. Але не адказваць два месяцы на мірныя прапановы Савецкага ўрада, зробленыя ад імя вялікага народа, які праліў мора крыві у вайне, выконваючы саюзніцкі абавязак,— значыцца зневажаць гэты народ, у любові да каторага фарысейскі кляліся панове Лойд Джордж і Клемансо. Можаце не перадаваць гэта ўраду. Перадайце французскаму народу. І нашы мірныя прапановы. Наш зварот да ўрадаў і народаў. Мы былі супраць сепаратнага міру. Нас вымушаюць пайсці на такі мір. Перадаўшы гэта народу Францыі, вы зробіце карысную паслугу расійскай і сусветнай рэвалюцыі.

— Я абяцаю вам, таварыш Ленін, зрабіць гэта.

Уладзімір Ільіч, з'яўляючыся глыбокім псіхолагам, верыў у шчырасць Садуля, таму ахвотна і прымаў яго.

Ленін не памыліўся: пазней Жак Садуль стаў камуністам, сябрам Савецкага Саюза і аб'ектыўным гісторыкам Кастрычніка.

3

Над Нявой круціла завіруха. Вецер кідаў снег у вокны. У кабінеце было халадней, чым звычайна, хоць і дагэтуль тут не парагравалiся — у Смольным эканомілі паліва.

Уладзімір Ільіч накінуў паліто на плечы.

У завейны дзень не хапала святла: нявузкія вокны, але занадта тоўстыя сцены ў былым інстытуце «благородных девиц». Хацеў уключыць настольную лямпу, але электрычнасці не было. Усяго не хапае — хлеба, вугалю...

Пісаў амаль у паўзмроку, нізка схіліўшыся над сталом. Радаваўся, што выдалася нейкая шчаслівая паўза, калі няма наведвальнікаў, ніхто не ўваходзіць са сваіх, саўнаркомаўскіх, і можна прадоўжыць пачатую на світанні, паверхам ніжэй, у кватэры, працу над Дэкларацыяй правоў працоўнага і эксплуатуемага народа. Дэкларацыя

павінна быць гатова да склікання Устаноўчага сходу. З яго трыбуны яшчэ раз будзе абвешчана народам Расіі і ўсяму свету:

«Расія аб'яўляецца рэспублікай Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Уся ўлада ў цэнтры і на месцах належыць гэтым Саветам».

Не павінна заставацца ніякіх ілюзій наконт Устаноўчага сходу. Не можа быць іншага парламента, акрамя Саветаў, што створаны самім народам!

Ленін пісаў:

«...Устаноўчы сход цалкам далучаецца да праводзімай Савецкай уладай палітыкі разрыву тайных дагавораў, арганізацыі самага шырокага братання з рабочымі і сялянамі ваюючых цяпер паміж сабой армій і дасягнення, у што б там ні стала, рэвалюцыйнымі мерамі, дэмакратычнага міру паміж народамі, без анексій і без кантрыбуцый, на аснове свабоднага самавызначэння нацый».

Ленін не сумняваўся, што той Устаноўчы сход, які выбраны па дакастрычніцкіх спісках, не далучыцца да палітыкі Савецкай улады. Таму Дэкларацыя павінна быць апублікавана загадзя, да склікання сходу, каб яе прачыталі рабочыя, сяляне і самі пераканаліся, што Устаноўчы сход цягне назад, да керанскіх, чарновых, ліберданаў.

Хораша працавалася, з натхненнем. Супакойвалі свіст ветру, што далятаў у кабінет праз двайныя рамы, лёгкае шамаценне снегу па заінелых шыбах. Ды раптам насцярожыла цішыня ў самім будынку. Не было тут раней такой цішыні.

Уладзімір Ільіч прыслухаўся. Бывала, калі так прыслухоўваўся, працуючы на адзіноце, то і праз шчыльна зачыненыя дзверы чуў: Смольны гудзе, што вулей. Работа тут кіпіць. І гэта таксама радавала.

Здзівіўшыся нязвыклай цішыні, Ільіч падняўся з-за стала і выйшаў у пакой Кіраўніцтва справамі. За бар'ерам, у палавіне для наведвальнікаў,— ніводнай душы. І ў рабочай частцы, за сталамі, не ўсе супрацоўнікі. Такое нязвыклае малалюддзе нават каравульнага чырвонагвардзейца расслабіла: ён не стаяў, як звычайна, каля дзвярэй, а сядзеў ля бліжэйшага стала. Падхапіўся, убачыўшы Леніна, збянтэжыўся.

— Сядайце, таварыш,— сказаў яму Уладзімір Ільіч: Леніну з самага пачатку не падабалася, што вартавыя стаяць каля дзвярэй – не дэмакратычна, але Уладзімір Дзмітрыевіч Бонч-Бруевіч, які, мабыць, у брата-генерала навучыўся ваеннаму парадку, быў няўмольны, што датычылася бяспекі Леніна і членаў Саўнаркома.— Што сёння так ціха?

Супрацоўнікі як бы сумеліся, і Ленін насцярожыўся: ці не здарылася штосьць незвычайнае?

— Новы год, Уладзімір Ільіч,— растлумачыла Марыя Мікалаеўна Скрыпнік.— Людзям хочацца сустрэць Новы год, Традыцыя.

Ленін на міг задумаўся, потым радасна ажывіўся.

— Я жыву па новым календары, таму забыўся. Што ж, гэта выдатна, што людзі так рыхтуюцца сустрэць Новы год. Гэта выдатна,— і задаволена пацёр рукі.— Харошая традыцыя. Адна з тых, якую мы возьмем у новае жыццё.

Ленін хадзіў па пакоі ад бар'ера да дзвярэй і гаварыў пра традыцыі, шкодныя і карысныя. Выкрышталізавалася новая тэма. Ах, як многа трэба напісаць, растлумачыць, параіць! А часу не хапае. Увесь час і энергія ідуць на галоўнае, істотнае, кардынальнае, ад чаго залежыць лёс рэвалюцыі.

«А што ў такой рэвалюцыі, як наша, неістотнае? — думаў Ленін,— Але, безумоўна, у першую чаргу — зямля і мір, улік класавых сіл і саюзнікаў, фінансы і прадавольства».

У тэмах для распрацоўкі ён пісаў: «Размеркаванне працы і размеркаванне прадуктаў = ΣΣ». (Summa summarum — агульны вынік). І пасля кожнага з пытанняў, якія патрабавалі неадкладнай распрацоўкі, ставіў двукроп'е:

«Эканамічныя пытанні:

Нацыянальнае пытанне:

Палітычныя пытанні:

Арганізацыйныя пытанні:

Міжнародная палітыка:».

Але не могуць быць па-за ўвагай культура, традыцыі, псіхалогія. Колькі напласталася ў ёй, у псіхалогіі людзей, паразітычнага, прыгонніцкага, рабскага. Нават некаторыя сацыял-дэмакраты, савецкія работнікі, могуць, як кажуць, «наламаць дроў» у пытаннях, дзе, здавалася б, звычайная здаровая логіка павінна была б падказаць адзіна правільнае рашэнне. Яшчэ ў «Халіле» Надзежда Канстанцінаўна расказала Ільічу, што некаторыя работнікі Наркамата асветы выказваюцца супраць таго, каб вяртаць польскаму народу помнікі старыны і мастацтва, якія былі вывезены царызмам за стагоддзе раздзелу Польшчы і ў час нямецкага наступлення.

Вось якая яна жывучая, псіхалогія шавінізму і каланіялізму: чаму не хапнуць у слабейшага тое, што мне падабаецца?

Падумаўшы аб традыцыях і культуры, Ленін прыгадаў размову з жонкай і тут жа папрасіў Скрыпнік паставіць у парадак дня бліжэйшага пасяджэння Саўнаркома пытанне аб звароце Польшчы

скарбаў нацыянальнай культуры. Пры гэтым убачыў здзіўленне на тварах камісараў Кіраўніцтва справамі. Разумеў, чаму яны здзівіліся: уся Польшча акупіравана немцамі, невядома, калі будзе вызвалена,— і раптам такое пытанне. Але, відаць, гэта нялёгка зразумець, што рашэнне такое патрэбна не толькі польскаму народу, але і нам, расіянам,— тым «асветнікам», якія хочуць пакласці ў сваю кішэню чужое, і ўсім іншым, хто адурманены вялікадзяржаўным чадам.

Усе, хто прысутнічаў у пакоі, былі ў шынялях, тужурках, бушлатах.

— Холадна? — спытаў Ленін.

— Нічога, можна жыць, Уладзімір Ільіч,— адказаў камісар з матросаў, апрануты ў бушлат.— На палубе бывае халадней.

— На палубе!— не вытрымаў вартавы.— Пасядзелі б вы ў акопе...

Сказаўшы гэта, салдат зноў збянтэжыўся: як ён пры Леніне ляпнуў такое!

— Але, акоп — гэта тая нара, якая вяртае чалавека ў першабытнасць. Гэта — дзікасць. Таму мы за мір. Калі паўсюдна будзе скончана з буржуазным ладам, народы пабудуюць вечны мір,— сказаўшы гэта да ўсіх, Ленін звярнуўся да паставога: — У акоп вам, таварыш, не хочацца?

— А каму хочацца, таварыш Ленін? Канешне, калі трэба...

— Вось, вось. Калі трэба. А цяпер нам трэба мір, перадышка. Вы, таварыш, спытайце ў нашых «левых»: ці хочацца ім у акопы? Я параіў аднаму з іх з'ездзіць на фронт. Дык ён цяпер крычыць, што Ленін хоча выслаць яго з Петраграда, каб не даць весці агітацыю за рэвалюцыйную вайну.

Прысутныя засмяяліся.

У вялікім пакоі Кіраўніцтва справамі было халадней, чым у кабінеце.

Уладзімір Ільіч нацягнуў паліто глыбей.

— Холадна ўсё ж... Скажыце таварышу Бонч-Бруевічу... не, неадкладна — каменданту, што... як гэта ні цяжка... трэба знайсці магчымасць, каб палілі лепш. Папросім харкаўскіх таварышаў паслаць нам эшалоны з вугалем. Мы ім удзячны за хлеб. Вугаль у петраградскую зіму — той жа хлеб. Без вугалю мы загінем,— Ленін павярнуўся да Скрыпнік.— У гэты халодны апошні дзень старога года я з задавальненнем выпіў бы шклянку гарачага чаю... Моцнага. Марыя Мікалаеўна?

Але з чаем было няпроста. У буфеце не знайшлося кавалачка хлеба. Не было і цукру. Буфетчыца, былая работніца пякарні, са

слязьмі сказала, што не панясе яна Ільічу чай без хлеба і цукру — сорамна.

Сакратар Саўнаркома панесла чай сама.

Ленін быў ужо ў кабінеце. Пісаў.

Марыя Мікалаеўна ціха паставіла шклянку на стол, сумна ўздыхнула. Уладзімір Ільіч запытальна глянуў на яе.

— А хлеба няма. І цукру.

— Так, хлеба няма,— задумліва згадзіўся Ленін, думаючы зусім пра іншыя маштабы. Адпіў чаю. Пахваліў. Але дапіць усю шклянку яму не далі.

Увайшоў Гарбуноў з тэлеграмай ад Крыленкі. Вярхоўны камандуючы ўзброенымі сіламі рэспублікі паведамляў, што румынскія каралеўскія ўлады арыштавалі ваенна-рэвалюцыйны камітэт 49-й дывізіі, акружылі самую дывізію, спрабуюць раззброіць.

Моцна ўсхвалявала Леніна гэтая вестка. Прачытаўшы тэлеграму, ён кінуў яе на стол і імкліва прайшоўся па кабінеце. У моманты ўзрушанасці Ленін ужываў моцныя словы.

— Не, вы падумайце, таварыш Гарбуноў, якое беспардоннае нахабства прастытутак Антанты! Кароль і яго хеўра думаюць, што могуць беспакарана чыніць гвалт над рускімі салдатамі... Над тымі салдатамі, якія тры з палавінай гады пралівалі кроў, абараняючы Румынію, каб яе не разарвалі аўстра-нямецкія разбойнікі. І вось — удзячнасць! Ну, не, панове! За нашых салдат мы адсячэм вам руку!

Ленін сеў да круглага століка, хутка, але больш разборліва, чым звычайна, напісаў:

«У Народны камісарыят па ваенных справах

Прадпісваецца арыштаваць неадкладна ўсіх членаў румынскага пасольства і румынскай місіі, а таксама ўсяго саставу служачых пры ўсіх установах пасольства, консульства і іншых афіцыйных румынскіх устаноў».

— Мікалай Пятровіч! Падвойскаму і Дыбенку. Архітэрмінова! Пашліце матацыкліста!

Гарбуноў глянуў у паперы, і на твары яго адбілася здзіўленне, Ленін убачыў гэта і горача сказаў:

— Толькі так, таварыш Гарбуноў! На ўдар — ударам, на акцыю — акцыяй. Няхай ніхто не падумае, што нас можна біць. Мы нікому не дамо раззброіць рэвалюцыйныя часці! Панам імперыялістам не дамо ў крыўду ніводнага нашага чалавека. Ультыматум румынскаму ўраду ад Савета Народных Камісараў! З катэгарычным патрабаваннем неадкладнага вызвалення арыштаваных салдат і пакарання тых, хто творыць такое беззаконне. Скажыце Сталіну... Няхай паведаміць

Троцкаму, нашай дэлегацыі ў Брэст-Літоўску аб канфлікце з Румыніяй. Няма сумнення: румыны адважыліся на падобныя правакацыі, маючы падтрымку кіеўскай рады. Рада — каледзінцы, лакеі імперыялізму. Яны пойдуць на згоду з румынамі, з французамі і з кайзерам таксама.

Румынскі эпізод прымусіў зноў задумацца над суадносінамі сіл у грамадзянскай вайне, якая пачалася ўжо: Каледзін, рада, контррэвалюцыйныя змовы... Чакаць трэба і не такіх правакацый з любога боку і самых хітрых камбінацый сіл контррэвалюцыі, унутранай і знешняй. Таму надзвычай важна як можна хутчэй заключыць мір з Германіяй, каб атрымаць хоць нядоўгую перадышку. Недарэчна і крыўдна, што трэба траціць так многа энергіі, каб астудзіць гарачыя галовы «левых». Але жыццё — барацьба, толькі формы яе розныя. Хіба ўпершыню прыходзіцца змагацца адначасова з ворагамі і са сваімі — членамі адной партыі? Ён выдатна валодаў тактыкай кампрамісаў. Але ў пытанні міру кампрамісу быць не можа. Ні з Бухарыным, ні з Троцкім. Ні з «левымі», ні з «правымі». Ні з кім. Мір павінен быць падпісаны!

Калі Гарбуноў выйшаў, каб выканаць даручэнні, Уладзімір Ільіч некаторы час стаяў перад акном, глядзеў у белую каламуць на двары. Завея хораша супакоіла.

Ён быў чалавекам глыбокіх эмоцый, але ўмеў самыя цяжкія эмоцыі пераадолець цвярозай развагай, розумам. Любая падзея знаходзіцца ў дыялектычнай узаемазалежнасці з многімі іншымі падзеямі. Не была яшчэ дапісана Дэкларацыя правоў працоўнага і эксплуатуемага народа, не было яшчэ даклада дэлегацыі аб новых нямецкіх патрабаваннях, якія, па сутнасці, былі ўжо ультыматумам, але Ленін прадбачыў такі ультыматум, і ў галаве яго складваліся тэзісы аб неадкладнай неабходнасці сепаратнага анексіянісцкага міру. Ён прыводзіў у стройную сістэму думкі, якія выказаў Садулю, калегам па Саўнаркому і Цэнтральнаму Камітэту.

Колькі мінут Ленін напружана працаваў, хоць збоку магло здацца, што чалавек адпачывае, гледзячы ў акно, на дзівосны танец сняжынак. Аднак цяпер не час для чыстай тэорыі, любая думка патрабуе практычнага дзеяння.

Трэба, каб Выканаўчы Камітэт Саветаў і Саўнарком без лішніх дыскусій, да чаго схільны некаторыя таварышы, ухваліў арышт румынскага пасольства.

Уладзімір Ільіч пазваніў Свярдлову. З Якавам Міхайлавічам заўсёды лёгка дамаўляцца. У гэтага чалавека выдатнае бальшавіцкае чуццё, ён умеў зразумець любую ленінскую думку, як кажуць, з

паўслова. Ніхто, бадай, так горача не вядзе агітацыю за мір, як Свярдлоў, і ніхто так едка, саркастычна не выкрывае заскокі «левых» і «адмысловыя», як у авантурнага іграка, зігзагі Троцкага.

Сталін мнагазначна памаўчаў — думаў ці проста смактаў сваю люльку; у тэлефоннай трубцы гудзела і трашчала, магчыма, вецер замыкаў драты.

Ленін нецярпліва пакашляў.

— Канешне, я згодзен, таварыш Ленін,— выразна адказаў Сталін са сваім характэрным грузінскім акцэнтам.— Але...— і зноў памаўчаў,— думаю, што з ліку тых, хто падлягае арыхнту, трэба выключыць работнікаў такіх місій, як Чырвоны Крыж... карэспандэнтаў...

— Падвойскі дастаткова разумны чалавек, каб не чапаць Чырвоны Крыж...

— Аднак папярэдзіць трэба. Я пазваню таварышу Падвойскаму.

— Хоць... што робіць румынскі Чырвоны Крыж... калі яна ёсць, такая місія? Чым памаглі румыны галоднай Расіі?

— Не магу сказаць. Трэба праверыць,— зноў пасля доўгай паўзы адказаў Сталін.

Вешаючы трубку, Ленін усміхнуўся: сталінскі стыль размовы часам раздражняў, але часцей забаўляў — павольнасць такая не ўласціва грузінскаму тэмпераменту. Аднак калі Сталін браўся за нейкую справу, то можна не сумнявацца, што зроблена яна будзе акуратна і ў час, без зацяжак і адхіленняў налева ці направа.

Трэба было звязацца з Магілёвам, з Крыленкам, каб удакладніць дэталі і паведаміць тэкст ультыматуму, яго трэба перадаць румынам па ўсіх каналах, з іх армейская сувязь, магчыма, самая надзейная.

Ленін, што рабіў часта, сам пайшоў у апаратную: з камутатара лягчэй дазваніцца да Стаўкі.

Пакуль станцыя выклікала далёкі Магілёў, Уладзімір Ільіч убачыў, што ў адной з тэлефаністак заплаканы твар. Хто мог пакрыўдзіць дзяўчыну? А раптам нехта з камісараў Смольнага? Прышыбееўшчына — ох, якая яна жывучая! Дараваць чыноўніцкае хамства ў савецкім апараце нельга. Выкарчоўваць яго трэба з карэннем.

— Што з вамі? Вас хтосьці пакрыўдзіў? — звярнуўся Ленін да тэлефаністкі.

Дзяўчына расплакалася. Растлумачыла другая тэлефаністка, жанчына больш сталая:

— У яе маці цяжка захварэла. На станцыі Дно. А яна не можа выехаць. Не даюць білета.

Уладзімір Ільіч задумаўся.

— А калі я напішу начальніку вакзала, каб вам далі білет? Паможа гэта?

Дзяўчына заззяла і выгукнула з радаснай дзіцячай непасрэднасцю:

— Паможа, Уладзімір Ільіч!— і тут жа сумелася, бадай, спалохалася.— Ой! Як мне дзякаваць вам!

— Завошта? — здзівіўся Ленін, сядаючы побач з тэлефаністкай, да камутатарнага століка, і дастаючы з кішэні блакнот.

Справы наплывалі адна на адну. Але ў чатыры гадзіны, са спазненнем усяго ка колькі хвілін, Уладзімір Ільіч спусціўся на другі паверх, у сваю кватэру.

Абедалі на кухні, за невялічкім белым столікам. Дарэчы, там было цёпла, і можна было адагрэцца пасля даволі прахладнага кабінета. Уладзімір Ільіч пачуў гэтую прыемную цеплыню, якая пасля холаду бадзёрыць, задаволена пацёр рукі, пераступаючы з абцасаў ка насочкі — размінка ног. Збоку гледзячы, можна было падумаць, што чалавек толькі што зрабіў лёгкую і вясёлую работу і цяпер адпачываў у чаканні сытнага абеду. Ён сапраўды прайшоў да пліты, падняў крышку каструлі. Апетытна ўдыхнуў пару супу. Пахваліў:

— Ах, як смачна пахне! — і прызнаўся шчыра і проста: — Прагаладаўся сёння. Холадна.

— Ты замярзаў? — заклапочана спытала Надзежда Канстанцінаўна.

— Не. У кабінеце цёпла,— і сказаў іншую прычыну, чаму прагаладаўся: — Сёння ў саўнаркомаўскім буфеце не было хлеба.

Жанчына — работніца сталоўкі, якая па даручэнню Бонч-Бруевіча адказвала за харчаванне, цяжка ўздыхнула. Надзежда Канстанцінаўна і Марыя Ільінічна змаўчалі, але са смуткам падумалі, што паснедаў Ільіч а палове восьмай, а цяпер чатыры, і Старшыня Саўнаркома не здолеў атрымаць да чаю скібку чорнага хлеба.

Суп быў рэдзенькі — дзве бульбіны, жменя проса, але пахнуў сапраўды апетытна: умелая гаспадыня заправіла яго падсмажанай на нейкіх дзвюх лыжках алею цыбуляй і паклала іншыя, травяныя, адной ёй, валагодскай сялянцы, вядомыя прыправы.

Уладзімір Ільіч еў з «дзіцячым апетытам» — так неяк сказала работніца, якая добра ведала, як ядуць сялянскія дзеці. Хваліў суп, бянтэжачы гэтым кухарку, пахвалы такія яна чула нярэдка, верыла, што яны шчырыя, але перажывала, бо лічыла, што дрэнна корміць Леніна. Не яе віна. Аднак жа... Уся Расія ведае Леніна, а яна яму — прасяны суп з алеем, як беднаму мужыку. Сорамна будзе сказаць, калі вернецца ў сваю вёску.

— Прыязджайце да нас, Уладзімір Ільіч. Мы хоць і бедныя, але я вас такім абедам пачастую — пальчыкі абліжаце.

Уладзімір Ільіч весела засмяяўся.

— Прыеду. Абавязкова прыеду. А што? Збяромся ўлетку і паедзем. Праўда, Надзя?

Надзежда Канстанцінаўна ведала, што паехаць Ільічу шчыра хочацца. Як ён марыў у эміграцыі паездзіць па Расіі! Пабываць на поўдні, на Украіне, у Беларусі... Праплыць па Волзе... Рэаліст у палітыцы, Ільіч — чалавек захапленняў у побыце. Паэт. А яна, як многія жанчыны яе ўзросту, наадварот, больш рэалістычная ў штодзённым жыцці, у побыце. Яна добра разумее, што пры ўсім жаданні паездку такую ажыццявіць немагчыма, ва ўсялякім разе, у бліжэйшы час — пакуль вайна, разбурэнне, і ў Леніна на плячах такі цяжар — велізарная дзяржава з новым, не ўмацаваным яшчэ ладам, не кажучы ўжо пра разбураную эканоміку. Не так проста гэта — паехаць пры яго становішчы. У «Халілу» на пяць дзён выбрацца было праблемай. Але Надзежда Канстанцінаўна заўсёды ўмела падтрымаць і яго цвярозы рэалізм, і яго фантазіі, часам амаль дзіцячыя.

— Паедзем, Маша? — спытала яна залоўку.

— Паедзем, ахвотна згадзілася Марыя Ільінічна, добра разумеючы і жаданне брата, і жаданне Надзі даць Валодзю памарыць пра самае простае, чалавечае, і хоць на колькі хвілін адысці ад дзяржаўных клопатаў.

Работніца ўзрадавалася.

— Дык я напішу брату, каб ён парсючка падгадаваў. Кілбаска будзе.

— Міхайлаўна! Што гэта вы робіце з намі? — з жартаўлівай строгасцю спытаў Уладзімір Ільіч.

— А што? — спалохалася жанчына.

— Ды вы можаце нагнаць такі апетыт, што не хопіць супу...

Зразумела, што Ленін жартуе, аднак не засмяялася — уздыхнула:

— Каляды. Заўтра — Новы год. У сяле кілбасы ядуць...

Вясёлыя зморшчыш каля вачэй Уладзіміра Ільіча разгладзіліся, твар уміг пасур'ёзнеў.

— Вы часта елі іх?

— На каляды. Ды яшчэ на вялікдзень.

— Два разы ў год,— Ленін паклаў лыжку, выбіў пальцамі па стале знаёмы Надзеждзе Канстанцінаўне такт, задумліва працягнуў: — М-да... Не густа. Ты помніш, Надзя, швейцарскіх бюргераў? А вось — наш селянін... Але колькі ў яго аптымізму! — і да работніцы: —

Брату вы напішыце, каб гадаваў парсючка. Але не для нас. Для дзяцей. Каб яны елі мяса не толькі на вялікдзень.

Пасля колькіх хвілін абедзеннага адпачынку з размовамі пра страву, са смехам Ленін зноў пераключыўся на клопаты іншых маштабаў.

Марыя Ільінічна паспрабавала вярнуць яго ў адпачынак:

— Рабочыя Выбаргскага раёна запрашаюць цябе, Валодзя, і нас з Надзяй на сустрэчу Новага года.

— Да рабочых абавязкова поедзем. Я пастараюся правесці Саўнарком у тэмпе. Думаю, таварышы згодзяцца... перад Новым годам... Праўда, парадак дня папоўніўся архітэрміновым і цяжкім пытаннем. Румыны ўчынілі правакацыю супраць нашай рэвалюцыйнай дывізіі. Мы арыштавалі персанал румынскага пасольства. Маняша, прасачы, калі ласка, каб ультыматум Саўнаркома румынскаму ўраду з'явіўся ў «Правде» заўтра і абавязкова на першай паласе.

Размова пайшла, як было нярэдка, пра вялікія, часам незразумелыя для яе, непісьменнай, справы, і работніца ціха адышла ад стала, стала каля пліты, скрыжаваўшы на грудзях рукі. Уважліва слухала. Не, гэтая размова зразумелая! Вельмі зразумелая. За рускіх салдат Ленін арыштаваў румынскіх буржуяў! Так ім і трэба! Даволі свае паны і буржуі паздзекаваліся з народа, пагнаілі людзей у турмах. Дык яшчэ і чужыя хочуць! Бач ты іх, чаго захацелі!

«Так іх, дарагі таварыш Ленін! Так!» — думала жанчына, слухаючы падрабязнасці ўсяе гісторыі, якую Уладзімір Ільіч расказваў жонцы і сястры.

Аднак Саўнарком у той вечар не сабраўся. Леніну пазваніў нарком земляробства Андрэй Лукіч Калягаеў і сказаў, што члены ўрада — левыя эсэры — з'явіцца не могуць, у іх сваё, эсэраўскае, пасяджэнне. З якой нагоды такая тэрміновасць? І якія справы партыі эсэраў могуць быць важнейшыя за агульнадзяржаўныя?

Ленін паважаў Калягаева, чалавека дзелавога, сур'ёзнага, які ведаў сялянства і зямлю. Ленін любіў людзей праўдзівых, нават калі тыя і памыляліся ў сваіх поглядах, такім лічыў Калягаева. Але на гэты раз не паверыў леваму эсэру. З чыста вузкапартыйных меркаванняў Калягаеў маніў. У наркома хапіла тактоўнасці і Прыстойнасці пазваніць старшыні Саўнаркома, што ён і яго калегі не будуць на пасяджэнні. Але ў яго не хапіла духу сказаць праўду, што гэта звычайны сабатаж, недарэчная дэманстрацыя. На мінулым пасяджэнні Саўнаркома левыя эсэры ўзнялі вэрхал, ажно да пратэсту, у сувязі з тэлеграмай Леніна камандуючаму савецкімі войскамі па барацьбе з каледзіншчынай Антонаву-Аўсеенку.

Штаб Антонава знаходзіўся ў Харкаве. Рэвалюцыя перамагла. Але фабрыкі і заводы яшчэ знаходзіліся ў руках буржуазіі, рабочы кантроль над вытворчасцю не адразу і не паўсюдна ўступаў у сілу. У адказ на ўвядзенне васьмігадзіннага рабочага дня харкаўскія капіталісты затрымалі рабочым зарплату.

Рабочыя пайшлі да Антонава-Аўсеенкі, ведаючы, што ён — нарком Савецкага ўрада і яго прыслаў Ленін.

Харкаўскі рэўком, да якога звярнуўся Антонаў, праявіў нерашучасць. Тады камандуючы пачаў дзейнічаць па-рэвалюцыйнаму. Выклікаў да сябе ў поезд пятнаццаць буйнейшых капіталістаў і патрабаваў ад іх неадкладна знайсці адзін мільён рублёў і разлічыцца з рабочымі. Капіталісты адмовіліся.

Уладзімір Аляксандравіч, які быў асуджаны царызмам да смяротнай кары і ўцёк з самай страшнай катаргі, на якую заганялі «памілаваных» смяротнікаў, люта ненавідзеў эксплуатататараў, усіх прыслужнікаў царызму, але дзейнічаў у рэвалюцыі заўсёды законна і гуманна. Ён тут жа арыштаваў харкаўскіх капіталістаў, сказаўшы ім ветліва, не без гумару:

«Панове, калі заўтра вы не разлічыцеся з рабочымі, паслязаўтра я пашлю вас у шахту. Вам будзе карысна зведаць, як «лёгка» дастаецца хлеб рабочаму».

Грошы былі знойдзены. Але Ленін, атрымаўшы паведамленне пра гэты інцыдэнт, адразу, да таго яшчэ, як капіталісты былі вызвалены з-пад арышту, паслаў Антонаву-Аўсеенку тэлеграму:

«Ад усёй душы вітаю вашу энергічную дзейнасць і бязлітасную барацьбу з каледзінцамі. Цалкам ухваляю няўступлівасць да мясцовых угоднікаў, што збілі, здаецца, з панталыку частку бальшавікоў. Асабліва ўхваляю і вітаю арышт мільянераў-сабатажнікаў у вагоне 1 і 2 класаў. Раю адаслаць іх на паўгода на прымусовыя работы ў рудніках. Яшчэ раз вітаю вас за рашучасць і асуджаю тых, хто хістаецца».

Нехта з левых эсэраў «вынюхаў» гэтую тэлеграму. Нарком юстыцыі Штэйнберг зрабіў афіцыйнае запытанне на Саўнаркоме. Маўляў, Антонаў перавышае сваю ўладу, а Ленін яго падтрымлівае, больш таго, блаславўляе на незаконныя дзеянні.

Эсэры шукалі зачэпкі для абструкцыі. Выглядала смешна: людзі, якія нядаўна прызнавалі, па сутнасці, адзіны метад барацьбы — тэрор, кіданне бомб, раптам захацелі паказаць сябе законнікамі. Пашкадавалі капіталістаў. А рабочых, дарагія таварышы, вам не шкада?

Леніну вельмі хацелася даць учора бой левым эсэрам. Але ён не стаў граміць іх, ведаючы, што члены ўрада — бальшавікі падтрымаюць яго, ён тут жа, на пасяджэнні, пакуль нехта выступаў, напісаў і

прапанаваў праект пастановы аб узаемаадносінах Антонава-Аўсеенка з Савецкім урадам Украіны і з надзвычайным камісарам Саўнаркома на Украіне Сярго Арджанікідзе. Левыя эсэры згадзіліся з пастановай. Аднак, выходзіць, не супакоіліся. Хочацца ім памуціць ваду. Магчыма, не падабалася ім і другая тэлеграма, якую Ленін палічыў неабходным паслаць Антонаву адразу пасля пасяджэння, каб паведаміць сутнасць рашэння Саўнаркома. Уладзімір Ільіч не мог не падкрэсліць свайго ўхвалення дзеяннняў камандуючага. Пры пэўнай афіцыйнасці былі ў другой тэлеграме простыя чалавечыя словы, якія пацвярджалі першую: «СНК выказвае ўпэўненасць, што т. Антонаў будзе дзейнічаць далей, як і раней, у поўным кантакце з той цэнтральнай украінскай Савецкай уладай, каторую СНК вітаў, і з назначаным Саветам Народных Камісараў надзвычайным камісарам».

Размова з Калягаевым пры ўсёй яе карэктнасці сапсавала Ільічу настрой.

Хлапчукоўскія выбрыкі! Дурная абструкцыя! Нельга змагацца з анархічнай распушчанасцю, недысцыплінаванасцю ва ўсіх установах, калі дысцыпліны не будзе ў Саўнаркоме! Члены ўрада спазняліся на пасяджэнні, некаторыя без даволі ўважлівых прычын не з'яўляліся зусім. Троцкі, напрыклад, можа падняцца на самым гарачым пытанні. Сталін часта выходзіць курыць.

Яшчэ колькі дзён назад Уладзімір Ільіч дапоўніў парадак дня пытаннем аб адкрыцці пасяджэнняў Саўнаркома ў дакладна прызначаны час. Здаецца, усе дружна падтрымалі. І вось — калі ласка. Не толькі спазненне, ало сабатаж пасяджэння, якое вельмі патрэбна: «румынскае пытанне» проста немагчыма адкладваць.

Уладзімір Ільіч, трохі раздражнёны і заклапочаны, хадзіў па кабінеце. Электрастанцыя давала святло вельмі няроўна: то лямпачкі гарэлі нармальна, то напаўнакалу, калі немагчыма кагат чытаць. Часам святло гасла зусім. Тады выкарыстоўвалі свечкі, добра, што таварышы запасліся.

Люстра і настольная лямпа гарэлі цьмяна, у кабінеце, па сутнасці, стаяў паўзмрок.

Ленін думаў. Ён умеў засяродзіцца на адным, галоўным. Але гэта ўдавалася тады, калі садзіўся да стала і перад ім ляжала папера. Ці на трыбуне. А ў такім вось паўзмроку ці ў ложку, калі клаўся спаць, думаецца аб вельмі многім — аб самай высокай палітыцы і аб вельмі канкрэтных людзях — аб рабочых, салдатах, супрацоўніках, аб сваіх блізкіх.

«У Маняшы старэнькія бацінкі, а марозы мацнеюць. Як і дзе раздабыць ёй добрыя цёплыя боты?»

«Трэба напісаць аб прамове Вільсана ў кангрэсе. Яго чатырнаццаць пунктаў-умоў міру — падман з мэтай усыпіць пільнасць народаў і замаскіраваць змову імперыялістаў супраць рэспублікі Саветаў!»

«Адкрыццё Устаноўчага сходу актывізуе контррэвалюцыю. Магчыма спроба перавароту. Падняць чырвонагвардзейскія часці. Умацаваць асобы кулямётны батальён».

Успомніў, як нядаўна да яго прыходзіў ваенны ўрач і скардзіўся, што ад хлеба, які выпякаюць у Петраградзе, параненыя не ачуньваюць, а захворваюць горш — ад прымесяў, што дадаюць у муку для большага прыпёку. Дадаткі такія ўзаконены пры Керанскім. За пякарнямі слабы кантроль. «Што там дадаюць? Даручыць Шліхтэру праверыць. Хлеба мала, але хлеб павінен быць здаровы!»

Ніці лямпачак зрабіліся зусім чырвонымі. Ленін сумна паглядзеў на іх. Прыйдзецца зноў працаваць пры свечках.

«Таварышы Антонаў і Арджанікідзе! Вугалю! Вугалю! І хлеба! Богам прашу, хлеба! Інакш Піцер можа акалець».

«А Надзя кашляла мінулую ноч».

«Добра. Пастанову па Антонаву мы дапоўнім. Будзем ствараць рэвалюцыйныя трыбуналы, і яны неадкладна разглядваюць кожны выпадак назначэння на прымусовыя работы і або вызначаюць тэрмін прабывання на работах, або вызваляюць арыштаваных».

«Што ж, сёння будзем адпачываць. Новы год. Паедзем да рабочых».

Уладзімір Ільіч выйшаў у пакой Кіраўніцтва справамі.

— Марыя Мікалаеўна, Саўнаркома сёння не будзе. Пазваніце наркомам, каму можна... І ідзіце дадому. З Новым годам вас. Шчасця вам. Але дайце мне пратакол. Я. распішуся, што акуратна з'явіўся на пасяджэнне, якое не адбылося па віне левых эсэраў.

4

Новы год пачаўся ясным марозным днём. Ранішняе кеба сляпіла першароднай сінявой, такім яно рэдка бывала над Піцерам, дзе яго туманілі дымы тысячы комінаў, заводскіх і ў жылых дамах.

У тую раніцу таксама дыміліся коміны, але не так густа, дымы былі празрыста-белыя, не расплываліся, узнімаліся ў неба тонкімі слупамі і непрыкметна раставалі там — ні сажы, ні курадыму; не цяжка здагадацца, чаму так — большасць качагарак перайшла на дровы.

Выйшаўшы на прагулку перад тым, як падняцца ў кабінет, Уладзімір Ільіч палюбаваўся небам, але звярнуў увагу на асаблівасць дымоў і зноў падумаў пра вугаль, Дровы могуць сагрэць людзей, але на дровах не зварыш метал, не скуеш плуг і штык, Ды і дровы... Як іх

нарыхтаваць? На чым вывезці? Хоць, бадай, варта падумаць, ці нельга выкарыстаць рамізнікаў Падказаць Петраградскаму Савету, каб падлічылі, колькі ў горадзе коней. Чым іх кормяць? Ці няма такіх запасаў фуражу, з якіх можна было б адарваць частку для фронту?

Прыгожая раніца, але мароз бязлітасны. У такім паліто можна гуляць у студзені ў Жэневе, але нядоўга пагуляеш у Петраградзе. Надзець бы кажух, як у таго дворніка, што лянiва расчышчае снег.

Дворнікаў трэба прымусіць чысціць вуліцы. Учора ўвечары, пасля завеі, ледзь дабраліся на Выбаргскую старану. Горад можа так замесці, што не выйдзе ніводзін аўтамабіль, спыняцца трамваі.

Варта праверыць гатоўнасць аўтамабіляў ваеннай акругі і штаба Чырвонай гвардыі. Як з бензінам? Трэба, каб увесь бензін быў у адных руках. У аўтамабільным аддзеле ЦВК. Пад кантролем Свярдлова бензін не пацячэ не ў тыя рукі, направа ці налева.

Пасля бясслаўнага сканання Устаноўчага сходу трэба прымусіць Якава Міхайлавіча паехаць адпачыць і падлячыцца. Нядобра кашляе старшыня ВЦВК. Так кашлялі некаторыя таварышы ў эміграцыі. Ленін са смуткам падумаў пра тых, хто не вярнуўся з эміграцыі, з Сібіры, не дажыў да перамогі рэвалюцыі.

Кароткая прагулка ўзбадзёрыла і зарадзіла энергіяй. Ільіч весела павітаўся з вартавымі каля свайго кабінета, павіншаваў з Новым годам. Узрадавала гэта салдата і чырвонагвардзейца. Нейкі не надта разумны агітатар сказаў ім, што ўсе святы царкоўныя, у тым ліку і Новы год, адмяняюцца. Збянтэжыла гэта людзей. Як жа так? Новы год быццам бы і не царкоўнае свята.

Вецер на двары сціх, і ў кабінеце пацяплела. Ад цеплыні больш утульнасці. Ад цеплыні. І ад яснага неба за акном. Хутка ўзыдзе сонца, і ўсё ў кабінеце будзе заліта дзівосным святлом. Пры такім святле хораша працуецца.

Дзень быў такі, як, бадай, усе іншыя дні двух месяцаў жыцця рэспублікі: напружаная праца, якую немагчыма падрахаваць, можна хіба толькі ўявіць. Тэлеграмы, пісьмы, тэлефонныя размовы і людзі. Людзі, людзі...

Самыя розныя, з рознымі справамі: абсалютная большасць гэтых спраў патрабавала неадкладнага вырашэння.

І Ленін нічога не адкладваў, а калі даручаў справу некаму, то даваў грунтоўныя тлумачэнні, часта пісьмовыя.

Працавалася весела. Такі настрой, такі душэўны ўздым Уладзімір Ільіч любіў, бо бачыў, як яго настрой перадаваўся іншым: наркомам, кіраўнікам спраў, сакратарам, тэлефаністкам, наведвальнікам. А гэта стварала атмасферу агульнага натхнення.

Але ці думаў хто, як нялёгка чалавеку, які займаецца практычнымі пытаннямі нараджэння новага ладу, новай дзяржавы і адначасова, выкарыстоўваючы любую паўзу, абдумвае тэарэтычныя пытанні, пра якія абавязкова трэба напісаць, пра якія ніхто іншы не напіша? Дэкларацыю правоў працоўнага і эксплуатуемага народа трэба не пазней як паслязаўтра прадставіць ЦК, ЦВК, фракцыі бальшавікоў Устаноўчага сходу. А яна яшчэ не зусім гатова. Калі дапісаць? І тут жа, як марскія хвалі, захлынаюць думкі пра тэзісы аб міры. Трэба як можна хутчэй растлумачыць немагчымасць «рэвалюцыйнай вайны», прапаганду якой актыўна і адкрыта пачалі левыя.

А тут яшчэ такія інцыдэнты, як гэты, з румынамі. Не ўсе, выходзіць, разумеюць і ўхваляюць тыя рашучыя меры, якія трэба было прыняць і якія ўчора зроблены. Нават намесніку наркома замежных спраў Залкінду прыйшлося доўга і цярпліва даводзіць, што іншага рашэння быць не магло і не можа. Няхай ведаюць румыны, французы, кітайцы — урады ўсіх краін, куды вайна занесла рускіх салдат, што Савецкі ўрад нікому не дазволіць беспакарана чыніць гвалт над гэтымі людзьмі.

Ленін узрадаваўся прыезду ўкраінцаў і адразу іх прыняў. Па розных каналах — праз бальшавікоў, якія ехалі ў Харкаў, праз Антонава і Арджанікідзе — Ленін настойліва рэкамендаваў украінскім таварышам хутчэй накіраваць дэлегацыю ў Брэст-Літоўск на перагаворы аб міры. Леніну падабалася, што дэлегацыя ехала сур'ёзная, прадстаўнічая: старшыня ЦВК Украіны Мядзведзеў, народны сакратар па ваенных справах Шахрай, народны сакратар асветы Затонскі.

Украінцам таксама перадаўся ленінскі настрой — энергічнасць, шчырасць, брацкая сардэчнасць, цікавасць да ўсяго, што рабілася на Украіне. Самой формай размовы Уладзімір Ільіч выказваў сваю радасць з прычыны іх прыезду.

Першае яго пытанне было:

— Як украінскія рабочыя, сяляне, салдаты адносяцца да заключэння міру?

— Цяжка ўявіць рабочага, тым больш селяніна, які быў бы супраць міру,— адказаў Шахрай.

Ленін ускінуў угору палец.

— Выдатна! Рабочы і селянін — за мір! Толькі інтэлігенты, тыпу Бухарына і Радэка, могуць насіцца з ідэяй «рэвалюцыйнай вайны». А народам Савецкай Расіі і Савецкай Украіны трэба мір! І мы яго падпішам! Таму вельмі прашу: не зацягвайце свой ад'езд у Брэст-Літоўск. Ваша прысутнасць вельмі важная. Саўнарком праз сваю дэлегацыю дамогся, каб нямецкія, аўстрыйскія драпежнікі выслухалі

дэлегацыю Саветаў, якія ажыццяўляюць кантроль над большасцю Украіны. Мела значэнне пазіцыя Турцыі і Балгарыі, якія не могуць не лічыцца, што Чарнаморскі флот у Саветаў. Гэта вам сур'ёзны козыр. І вы ім біце. Чацвярны саюз трашчыць. Для Балгарыі і Турцыі заключэнне міру з Расіяй і Украінай — поўны выхад з вайны. Ім хочацца вырвацца з ільвіных абдымкаў Германіі, і мы павінны выкарыстаць супярэчнасці ў самой кааліцыі. Але самы важны ваш і наш козыр — крах рады. Калі ўкраінскім савецкім войскам удасца ў бліжэйшы час, да падпісання міру, узяць Кіеў, улада контррэвалюцыйнай рады стане фікцыяй. Немцы вымушаны будуць падпісаць мір з Савецкай Расіяй, з Савецкай Украінай. Магчыма, з Савецкай Эстоніяй. Учора ў Рэвелі сабраліся члены Эстляндскага камітэта партыі бальшавікоў. Я параіў таварышам падумаць над тым, каб абвясціць Эстонію незалежнай Савецкай рэспублікай. Гэта вельмі важна, каб паставіць кайзераўцаў перад фактам і сарваць іх намер анексіраваць прыбалтыйскія землі. Магчыма, да вас далучыцца дэлегацыя Эстоніі. Шкадую, што беларускія таварышы пакуль што не абвясцілі Беларускай Савецкай рэспублікі. На шляху нямецкай экспансіі стане саюз савецкіх рэспублік, саюз вызваленых ад эксплуатацыі народаў. У Брэст-Літоўску ваша найбліжэйшая практычная задача — паставіць пад сумненне паўнамоцтвы дэлегацыі рады, якая ў змове з Каледзіным, з Клемансо, з Румыніяй. Пазіцыя рады дала румынам смеласць пайсці на нахабную правакацыю супраць нашых часцей. У выпадку, калі Кіеў не будзе ўзяты і сітуацыя складзецца не ў нашу карысць, не даць змовіцца з немцамі за спіной у савецкіх дэлегацый. Архіцяжкая памылка Троцкага, што ён прызнаў паўнамоцтвы дэлегацыі рады.

Ленін называў факт прызнання мякка — памылкай, хоць, ведаючы пазіцыю Троцкага, усведамляў, што гэта не памылка, але суадносіны сіл у ЦК, дзе будзе рашацца лёс міру, не давалі магчымасці назваць некаторыя дзеянні сваіх калег па ўраду так, як называў выступленні некаторых з іх у эміграцыі. Там была тэорыя, тут практыка ў вельмі складаных умовах, у заблытаным клубку сацыяльных сіл у партыі, у краіне, у свеце. Аднак Ленін усё ж выказаў свае адносіны да «памылкі» Троцкага:

— Баюся, што нам дорага будзе каштаваць гэтая памылка,— памаўчаў, як бы задумаўся на міг, заключыў высновай: — Ад памылак ніхто не застрахаваны. Але ёсць памылкі і памылкі. Работнікі Харкаўскага Савета, безумоўна, памыляліся ў канфлікце рабочых з капіталістамі. Таварыш Антонаў вельмі правільна паправіў іх.

— ЦВК Саветаў Украіны падтрымаў Антонава.

— ЦВК паступіў па-бальшавіцку. А то левыя эсэры ўчора зрабілі забастоўку ў Саўнаркоме,— засмяяўся Ленін. Убачыў, што таварышы не ўсё зразумелі, растлумачыў: — Ім здалося, што сваёй тэлеграмай я ўмяшаўся ў суверэнныя правы Украіны.

— Уладзімір Ільіч, мы будзем рады такому «ўмяшанню»,— адказаў Уладзімір Пятровіч Затонскі, трыццацігадовы мужчына з інтэлігентным тварам, прыгожай высокай капой каштанавых валасоў.— Для нас многа значыць ленінскае слова.

Уладзімір Ільіч не любіў, калі наконт яго славасловілі. Але ў дадзеным выпадку парадаваўся за чалавека, пра якога нямала чуў, якога некалі крытыкаваў. Затонскі ў свой час хістаўся, цягнуўся да меншавікоў, а ў семнаццатым годзе, адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі, парваў з меншавікамі, уступіў у партыю бальшавікоў, узначаліў кастрычніцкае паўстанне ў Кіеве. Ленін упершыню сустрэўся з ім, але ўжо з першых слоў адчуў у Затонскім высокую адукаванасць, востры розум, дасціпнасць.

Размова вязалася вельмі арганічна.

Леніна надзвычай цікавіла становішча на Украіне. Барацьбу за мір нельга было адарваць ад умацавання Савецкай улады ў Расіі, і на Украіне, і ў Беларусі, і ў Эстоніі, і ў Закаўказзі.

Як арганізуюцца Саветы ў гарадах, у сёлах? Як Харкаў? Як Данбас? Ці ў надзейных руках Адэса і флот? Якія сацыяльныя сілы стаяць за Цэнтральнай радай? Яе ваенныя сілы? Як арганізоўваецца ўкраінская Чырвоная Армія?

Па ваенным становішчы ўкраінскія таварышы былі падрыхтаваны грунтоўна. Адказвалі на ўсе пытанні з веданнем справы. Уладзімір Ільіч увагай, з якой слухаў дэлегацыю, выказваў задаволенасць. Украінцаў здзівіла дэталёвае веданне Леніным раёна баявых дзеянняў супраць нацыяналістычных фарміраванняў Цэнтральнай рады, яго парады не толькі агульныя — па стратэгіі, але і тактычныя. Шахрай нават пажартаваў:

— Можна падумаць, Уладзімір Ільіч, што вы толькі што са штаба нашых войск і прайшлі з іх эскадронамі ад Харкава да Кіева.

Ленін ухваліў назначэнне камандуючым войскамі Украінскай Савецкай рэспублікі Юрыя Кацюбінскага. Уладзімір Ільіч хораша помніў дваццацідвухгадовага прапаршчыка, баявога камісара Петраградскага ВРК, начальніка Чырвонай гвардыі Маскоўска-Нарвскага раёна, які надзвычай энергічна дзейнічаў у рашучыя моманты Кастрычніцкага паўстання — сёмага, восьмага лістапада і асабліва адзінаццатага, у дзень юнкораўскага мяцяжу. У той дзень Кацюбінскі асабіста дакладваў Леніну аб баях супраць юнкераў. Уладзімір Ільіч яшчэ

раней ведаў, што камісар — сын вядомага пісьменніка, якога яны з Надзеждай Канстанцінаўнай з цікавасцю чыталі ў арыгінале, паўкраінску. Сказаў таварышам, што Міхайла Кацюбінскі можа ганарыцца такім сынам. Цяпер ён паўтарыў гэта дэлегацыі, дадаў:

— Наша шчасце, што ў рэвалюцыю ідуць такія інтэлігенты. Нам трэба змагацца за кожнага адукаванага чалавека, які адданы свайму народу, разумее яго душу.

Але Леніна цікавіла не толькі ваеннае становішча.

— Колькі ў раёнах, якія знаходзяцца пад кантролем Саветаў, здабываецца вугалю?

Даных такіх у дэлегацыі не было.

Уладзімір Ільіч, які сядзеў насупраць украінцаў за маленькім столікам, увачавідкі пазмрачнеў. Ускудлачыў бародку, пацёр скроні, як цёр, калі пачынаўся галаўны боль. Падняўся з крэсла, характэрна ўзяўшыся рукамі за лацканы пінжака, прайшоўся па кабінеце.

Мядзведзеў сказаў:

— Мы перадамо ў Харкаў, каб вам прыслалі, колькі мы здабываем вугалю.

— Калі ласка. І выплаўляем чыгуну. Сталі. І колькі можна сабраць хлеба. Таварышы ўкраінцы! Падтрымайце Петраград, Маскву. Інакш рэвалюцыю задушыць голад, ён — самы страшны контррэвалюцыянер, самы бязлітасны.

Ленін спыніўся перад картай былой Расійскай імперыі, задумліва правёў вачамі яд Петраграда да Уладзівастока, вярнуўся назад на захад, спыніў позірк на Украіне, як бы ўбачыў яе стэпавыя прасторы. Павярнуўся да дэлегацыі.

— Нам трэба пераканаць кожнага рабочага, кожнага партыйца, што ўлік і кантроль — галоўная, я падкрэсліў бы, самая галоўная эканамічная задача кожнага Савета, кожнага спажывецкага таварыства, фабрычна-заводскага камітэта. Улік і кантроль паўсюдна, усеагульны, універсальны: за колькасцю працы і размеркаваннем прадуктаў. У гэтым сутнасць сацыялістычных пераўтварэнняў. Пры пераходзе да сацыялізму ўлік і кантроль могуць быць толькі масавымі. Перамагчы перажыткі праклятага капіталістычнага грамадства можна ўдзелам масы рабочых, сялян, салдат ва ўліку ўсяго, што вытвараецца і спажываецца, у кантролі за багатымі, за зладзеямі, хуліганамі. У Расіі, ка Украіне хопіць хлеба, жалеза, лесу, воўны, калі мы ўстановім усенародны кантроль, дзелавы, практычны. Перамагчы эксплуатарскія класы трэба не толькі ў палітыцы, але і ў штодзённым эканамічным жыцці. Ніякай літасці ворагам народа, ворагам працоўных! Вось чаму я падтрымаў энергічныя рэвалюцыйныя дзеянні таварыша

Антонава супраць харкаўскіх капіталістаў, якія, безумоўна, усе каледзінцы, сабатажнікі. Як і ў барацьбе з Калядзіным, Цэнтральнай радай, мы павінны аб'яднаць нашы сілы ў барацьбе з голадам, які хапае кастлявай рукой авангард рэвалюцыі — пралетарыят Петраграда, Масквы. Мы ўдзячны ўкраінскім. Саветам за дапамогу. Але хлеба і вугалю нам трэба больш. Больш, таварышы! Думаю, што было б правільна, каб пры Саўнаркоме быў пастаянны прадстаўнік Украіны. Савецкі пасол. Мы паслалі да вас Сярго Арджанікідзе. Выдатны бальшавік! А вы пакіньце ў Петраградзе,— Ленін з добрай усмешкай паглядзеў па чарзе на членаў дэлегацыі,— таварыша Затонскага. Згодны, Уладзімір Пятровіч?

Затонскі ўзрадаваўся і сумеўся ад нечаканай прапановы.

— Лічу за гонар працаваць побач з вамі, Уладзімір Ільіч.

— Давайце будзем рашаць пытанні без кампліментаў і высокіх слоў, таварышы,— сказаў на гэта Ленін.— Такім павінен быць стыль работы ўсіх савецкіх устаноў.

Шахрай падтрымаў ідэю прадстаўніка Украіны пры Саўнаркоме. Мядзведзеў сказаў, што трэба параіцца з таварышамі ў Харкаве. Ленін згадзіўся:

— Безумоўна. Звяжыцеся па прамым провадзе. Але самае галоўнае — не адцягвайце выезд у Брэст. Я перадам Троцкаму, Крыленку, Залкінду, каб яны як мага хутчэй дамовіліся з немцамі аб вашым прыездзе.

5

Увайшоў Гарбуноў.

— Уладзімір Ільіч, з вамі хоча гаварыць амерыканскі пасол.— На твары сакратара было здзіўленне: звоніць асабіста сам пасол дзяржавы, якая не прызнае Савецкі ўрад і дагэтуль не зрабіла ніводнага кроку для кантактаў, калі не лічыць прыватнай ініцыятывы Робінса. Гарбуноў не здагадаўся аб прычыне нечаканага званка. Ленін адразу здагадаўся. Пасміхнуўся са здзіўлення сакратара і з вымушанага дэмаршу Фрэнсіса. Уявіў, як нялёгка было пыхліваму амерыканцу звярнуцца да прэм'ера Савецкага ўрада.

Леніну хапіла адной мінуты, каб выпрацаваць план размовы. У дыпламатыі маюць значэнне не толькі словы, іх змест, але і форма дыялога — тон, паўзы і многае іншае. Нельга ўзяць трубку занадта паспешліва, але нельга і выпрабоўваць самалюбства субяседніка.

Уладзімір Ільіч зняў трубку тэлефона, сказаў па-руску:

— Я слухаю.

У трубцы, дзе было менш староннiх шумаў, чым учора,— добрая пагода! — прагракатаў англiйскi барытон :

— Пан прэм'ер-мiнiстр?

Уладзiмiр Iльiч адказаў па-англiйску:

— Так, Ленiн. Я слухаю вас.

— Пан прэм'ер...— голас Фрэнсiса як перарваўся, не па вiне тэлефона, безумоўна. Ленiн адчуў, што дыпламатычны леў, якi з'еў зубы i злiзаў язык у размовах з каралямi, прэзiдэнтамi, прэм'ерамi, мiнiстрамi, пасламi, хвалюецца, зноў пасмiхнуўся, паўтарыў:

— Я слухаю вас, пан пасол.

— У якасцi дуаена дыпламатычнага корпуса я маю гонар прасiць вас, пан прэм'ер-мiнiстр, прыняць паслоў у шаснаццаць гадзiн. Мы лiчым сваiм абавязкам уручыць ураду вашай высокасцi мемарандум з прычыны беспрэцэдэнтнай акцыi — арышту нашага калегi пасланнiка Дзiамандзi i членаў румынскага пасольства.

Ленiн моўчкi i ўважлiва слухаў, адзначаючы, што хваляванне ў голасе Фрзнсiса знiкае i з'яўляюцца пагрозлiвыя ноткi чалавека, якi прывучыўся дыктаваць сваю волю цi, правiльней, волю сваёй краiны.

Ленiн сказаў спакойна, далiкатна:

— Пан пасол, я не пачынаю нашу з вамi размову з пратэсту i абурэння Савецкага ўрада дзеяннямi румынскiх улад. Я згодзен, што для таго, каб выслухаць думкi бакоў, патрэбна сустрэча. Роўна праз гадзiну я дам вам адказ аб магчымасцi прыёму мною паслоў.

Паклаўшы трубку, Ленiн весела паглядзеў на Гарбунова, якi, хоць i не разумеў па-англiйску, урэшце здагадаўся, што ўстурбавала пасла, аб чым iдзе размова.

— Што ж,— сказаў Уладзiмiр Iльiч, пацiраючы рукi — не ад задавальнення, ад некаторага ўзбуджэння,— будзем, Мiкалай Пятровiч, рыхтавацца да дыпламатычнага прыёму, вучыцца новай справе,— i, угледзеўшы, што Гарбуноў не ўсё разумее, растлумачыў: — Просiцца ўвесь корпус.

— З-за румын?

— Так.

— Будуць пратэставаць?

— Будуць. Але i мы будзем мець магчымасць выказаць пратэст i рашучасць абаранiць нашых салдат так, каб гэта стала вядома сусветнай грамадскасцi.

— Не наробяць шуму некаторыя з нашых?

— Хто? Бухарын? Урыцкi? Няхай пашумяць. Iх трэба прывучаць, што сусветная рэвалюцыя не адбудзецца заўтра. Нам прыйдзецца гаварыць з капiталiстамi не толькi мовай гармат. Нам прыйдзецца

садзіцца з імі за стол перагавораў так, як мы селі з нямецкімі імперыялістамі. І мы павінны навучыцца весці любыя перагаворы — аб міры, аб гандлі— лепш, чым вядзе іх Троцкі ў Брэсце. Не скажу, як доўга, але суіснаваць нам прыйдзецца. Таму вучыцеся арганізоўваць дыпламатычныя прыёмы, дарагі Мікалай Пятровіч,— засмяяўся Уладзімір Ільіч.

— Што для гэтага трэба?

— Сёння? — Ленін на міг задумаўся.— На пасты ў Смольны больш матросаў. Матросы робяць уражанне. А ў пакой сакратарыята — вешалкі для пасольскіх паліто і футраў. Не прымаць жа іх у футрах.

Што паслоў трэба абавязкова прыняць — Ленін вырашыў адразу, у момант размовы з Фрэнсісам. Паслы краін Антанты вымушаны былі пайсці на першы кантакт з Саўнаркомам. А гэта ўжо ў пэўным сэнсе ўскоснае прызнанне дэ-факта ўлады бальшавікоў — што пасля нехта з іх ні казаў бы. Нельга лічыць сур'ёзнымі лявацкія крыкі аб тым, што, маўляў, з буржуазіяй у пралетарскага ўрада не можа быць ніякіх кантактаў. Глупства! Жывучы на адной планеце, мы мусім суіснаваць, таварышы «левыя»!

Нарэшце, Ленін не баяўся, што пралетарыі свету асудзяць акцыю Саўнаркома ў адказ на румынскую правакацыю, на арышт рускіх рэвалюцыйных салдат. Наадварот, быў упэўнены, што салдаты краін, якія ваююць, ухваляць гэта. А таму трэба надаць інцыдэнту найбольшы рэзананс. Факт прыёму паслоў Старшынёй Саўнаркома раструбяць усе заходнія газеты. Сенсацыя. І гэта будзе нам на карысць.

Уладзімір Ільіч тут жа пазваніў Сталіну, праінфармаваў аб размове з Фрэнсісам і паўторна папрасіў неадкладна звязацца з Брэстам і перадаць дэлегацыі аб канфлікце з Румынскім каралеўствам, аб прынятых Саўнаркомам мерах. Учора Сталіну не ўдалося звязацца, ці, можа быць, ён не надаў інцыдэнту таго значэння, якое надаваў Ленін.

— Папрасіце, каб прадстаўнік дэлегацыі пасля чатырох быў каля прамога проваду. Мы перадамо аб выніках перагавораў з дыпламатычным корпусам.

Ленін звязваў усё ў адзін вузел. Тэрміновасць інфармацыі не столькі важная для дэлегацыі, каб улічваць усе аспекты ў перагаворах, колькі вельмі важная, каб пра рашучыя меры ў абароне рэвалюцыйнай дывізіі даведаліся немцы. Няхай трапіць у газеты чацвярнога саюза — як Савецкі ўрад дбае пра баяздольнасць франтавых часцей. Такія факты могуць прымусіць Кюльмана хутчэй падпісаць мір.

Што паслоў трэба прымаць — сумнення не было ні на міг. Але Фрэнсісу трэба было даць зразумець, што, па-першае, не яму назначаць час; па-другое, што прэм'ер лічыць неабходным параіцца з урадам. Трэба, каб прыём не быў малазначным фактам. Ленін раіўся з членамі ЦК, Саўнаркома. Амаль усе падтрымалі Старшыню Саўнаркома. Нават Мікалай Іванавіч Бухарын, які, як ніхто, умеў заблытаць любое самае простае пытанне, ствараць праблемы і ўчыняць абструкцыі, нечакана згадзіўся, што паслоў трэба прыняць.

Разважлівы Свярдлоў, калі Уладзімір Ільіч параіўся з ім, сказаў, што час прыёму не трэба мяняць. Фрэнсіс з-за сваёй тыпова амерыканскай самаўпэўненасці паведаміў паслам, што прыём будзе ў шаснаццаць. Па сучаснай тэлефоннай сувязі ў Петраградзе і з-за дэзарганізацыі кур'ерскай службы ў саміх пасольствах яму нялёгка будзе за нейкія дзве-тры гадзіны звязацца з усімі пасламі,

Ленін згадзіўся, што, паколькі мы зацікаўлены, каб прысутнічаў увесь корпус, ствараць цяжкасці не варта.

Роўна праз гадзіну Ленін пазваніў у амерыканскае пасольства. Але звязацца з Фрэнсісам не здалося. Тады Уладзімір Ільіч напісаў запіску на англійскай мове:

«Давіду Р. Фрэнсісу, амерыканскаму паслу 1.1.1918 г. Петраград

Сэр, не здолеўшы звязацца з Вамі па тэлефоне ў 2 гадзіны, як было дамоўлена, я пішу, каб паведаміць Вам, што я быў бы рады сустрэцца з Вамі ў маім кабінеце — Смольны інстытут, пакой 81 — сёння ў 4 гадзіны дня.

З павагай Ленін».

Гарбуноў паслаў запіску з кур'ерам-матацыклістам. Паслы з'явіліся амаль адначасова, паміж прыездам першага і апошняга не прайшло і пяці мінут. Такая пунктуальнасць здзіўляла ахову Смольнага, бо прадстаўнікі краін вялікіх і багатых прыехалі на аўтамабілях, а малых — у карэтах на палазах, запрэжаных парай ці тройкай коней,— як сто гадоў назад.

У вестыбюлі іх сустракаў Гарбуноў. Вестыбюль ачысцілі ад чырвонагвардзейцаў і наведвальнікаў, якіх там заўсёды было поўна. Але ўсё адно з калідораў і класных пакояў першага паверха выглядвала нямала цікаўных. Гэтыя як бы схаваныя людзі ў шынялях (прызнаўся пасля пасол адной малой дзяржавы) наганялі на дыпламатычных абывацеляў страх. Людзі, якія лічылі сябе знаўцамі Расіі, памногу гадоў жылі ў Петраградзе і былі сведкамі самай бяскроўнай рэвалюцыі, верылі абывацельскай хлусні газет сваіх краін аб дзікунстве і зверстве бальшавікоў.

Камендант Смольнага выбраў з каравула на пасты ў вестыбюлі і на трэцім паверсе самых рослых і прыгожых матросаў. Адзін з іх, па недагляду начальніка каравула, упрыгожыў сябе патроннай лентай — падперазаўся цераз плячо. Матрос, безумоўна, зрабіў гэта знарок, з пэўным сэнсам: вострыя кулі вытыркаліся з ленты і былі як бы нацэлены на буржуяў. Няхай бачаць нашу сілу! — так, напэўна, разважаў зухаваты матрос.

Тыповы амерыканец Фрэнсіс, пасівелы, але падобны на добрага спартсмена-бегуна, трымаўся ўпэўнена, незалежна і нават агрэсіўна: як акцёр, настройваў сябе на адпаведны лад, каб зрабіць уражанне; яму належала перадаць мемарандум і выказаць пратэст ад імя ўсяго корпуса.

Апрануты амерыканец быў у мядзведжае футра, даволі паліняпае, неахайна аблезлае, быццам знятае з джэк-лонданаўскага героя, шукальніка золата. Французскі пасол Нуланс, распаўнелы, чырванатвары, яўны аматар выпіць і смачна паесці, сваю сапсаваную постаць прыхарошыў элегантным паліто з сабаліным каўняром. Нізенькі, як хлапчанё, пасол Кітая апрануў нейкі зусім не кітайскі шынель са складкамі, як на спадніцы; шынель быў доўгі, да пят, і кітаец, каб не заблытацца ў ім, прыпадымаў полы зусім па-бабску.

Гарбуноў прывітаў гасцей па-руску. Фрэнсісу яго словы пераклаў пасол Грэцыі. Мікалай Пятровіч перайшоў на французскую мову. Місію перакладчыка тут жа паслужліва ўзяў на сябе Нуланс, хоць ведаў, як, дарэчы, ведалі і ў Саўнаркоме, што Фрэнсіс разумее і па-руску, і па-французску.

Гарбуноў павёў гасцей па шырокай лесвіцы з дзе-нідзе вышчарбленымі мармуровымі ўсходцамі. Вартавыя бачылі, як заднія, самыя «малыя»,— з тых краін, народы якіх жылі ў больш жахлівым жабрацтве, чым народы былой Расійскай імперыі, пераглядваліся паміж сабой і зларадна пасміхаліся: маўляў, дажылі бальшавікі...

Нуланс з уласцівым французу гумарам спытаў:

— Мы пойдзем да прэм'ера ў кажухах?

— Не, пан пасол. Вас распрануць, у прыёмнай Старшыні Саўнаркома.

Ленін стаяў пасярод кабінета, заклаўшы рукі за спіну. Нехарактэрны для яго жэст. Не так ён сустракаў наведвальнікаў. Але тут асаблівы выпадак. Уладзімір Ільіч не ведаў усіх тонкасцей дыпламатычнага буржуазнага этыкету. Падумаў, што нешта з яго прыйдзецца ўзяць кіраўнікам сацыялістычнай дзяржавы, але шмат што трэба будзе выкінуць, як выкінулі ўсе тытулы, усе звароты, якія дзялілі людзей на паноў і рабоў.

Ленін здагадваўся, што, вітаючыся, паслы Антанты руку яму не стануць пацiскаць. Ідуць не з дружалюбным візітам — з мемарандумам, з пратэстам. Поціск рукі сацыялістычнаму прэм'еру буржуазныя ўрады не даравалі б сваім паслам. Гэтыя першабытныя законы дыпламатыі Уладзімір Ільіч ведаў, таму і трымаў рукі за спіной, каб нікому з іх не здалося, што яму хочацца пацiснуць ім рукі.

Ленін не памыліўся. Як толькі Гарбуноў адчыніў дзверы і ветліва запрасіў: «Прашу вас, панове», першы ўвайшоў Дэвід Фрэнсіс і павітаўся кіўком галавы і звычайнымі словамі:

— Дзень добры.

Нават без звароту «сэр». Але, як бы адчуўшы няёмкасць, пачаў паспешліва прадстаўляць сваіх калег, што ўваходзілі, трымаючыся пэўнай чарговасці — хто за кім — і інтэрвалу. Аднак у кабінеце ўстаноўлены няпісаным этыкетам парадак парушылі. Кабінет невялікі, а паслоў больш за дзесяць, і ў кожнага з іх, апрача хіба пыхлівага і самаўлюбёнага пасланніка Англіі, была звычайная цікавасць — як найлепш разгледзець чалавека, які ўзняў, здавалася ім, адсталых расійскіх рабочых, сялян на такую рэвалюцыю, у якога хапіла мужнасці ўзначаліць першы ў гісторыі рабоча-сялянскі ўрад. Большасць з іх, верных служкаў свайго класа, ненавідзелі Леніна, але разам з тым па-чалавечаму не маглі не захапляцца ім. Амаль усе яны тады не сумняваліся, што бальшавікі доўга не пратрымаюцца, аднак, будучы людзьмі адукаванымі, разумелі, што, калі нават і знойдзецца нейкі Каледзін ці Карнілаў, які перавешае бальшавікоў, загоніць на катаргу, задушыць рэвалюцыю, якую ўзначаліў Ленін, самога Леніна ніхто ўжо з гісторыі не выкрасліць. Гэта сцяг, пад які ў любы час могуць стаць бедныя і галодныя іх уласных краін.

Упершыню сустрэцца з Леніным было сенсацыяй, падзеяй у жыцці, даволі аднастайным, кожнага з іх.

Пасол Эфіопіі, які добра ведаў сваё месца, расштурхаў «вышэйшых» калег і вылез наперад ажно за лінію, на якой спыніўся дуаен. Гэтак жа зрабілі паслы Партугаліі і Сербіі.

Глядзелі яны на Леніна як на прышэльца з іншай планеты ці з іншай эпохі — з будучай. З такой жа цікавасцю разглядалі і кабінет рабочага прэм'ера, па-спартанску просты — стол, крэслы, партрэт Карла Маркса.

Уладзімір Ільіч бачыў гэтую цікаўнасць, ведаў яе вытокі: адукаваныя буржуа калекцыяніруюць не толькі дарагія цацкі, але і назіранні, сустрэчы, размовы — для будучых мемуараў, якія кожны з іх пачне пісаць, атрымаўшы адстаўку. Ленін унутрана пасміхаўся, як пасміхаюцца дарослыя з забаваў дзяцей.

Фрэнсіс, які ў меншай меры калекцыяніраваў назіранні і ў якога быў нялёгкі абавязак, калі мець на ўвазе інструкцыі дзяржаўнага сакратара Лансінга: «Ніякіх афіцыйных кантактаў з урадам Леніна», пры ўсёй сваёй вялікадзяржаўнай фанабэрыі нерваваўся, кідаў на парушальнікаў этыкету гнеўныя позіркі. Ён спяшаўся хутчэй выканаць сваю місію. Раскрыў папку і, гледзячы ў тэкст мемарандума, але не чытаючы яго, сказаў:

— Пан прэм'ер-міністр, дыпламатычны корпус вымушаны быў прасіць Вас аб гэтым прыёме, каб выканаць свой саюзніцкі, чалавечы гуманны абавязак. Паслы здзіўлены і абураны арыштам пасланніка Дзіамандзі і членаў румынскага пасольства. Пан прэм'ер, я не помню ў гісторыі адносін цывілізаваных краін аналагічнага факта. Гэта недапушчальна. Нават пры абвяшчэнні вайны паслам гарантавана бяспека... Няхай пану прэм'ер-міністру будзе вядома, што гэта замацавана міжнароднымі канвенцыямі. Румынія — саюзнік Расіі. Арышт пасла саюзнай дзяржавы — увогуле беспрэцэдэнтны выпадак. Так робяць хіба тады, калі хочуць пачаць вайну. У Румыніі ёсць падставы абвяшчаць вайну...

— Так, гэта повад для вайны,— амаль пагрозліва падтрымаў дуаена Нуланс, які быў аўтарам мемарандума і галоўным ініцыятарам дыпламатычнага дэмаршу: Францыі, урад якой выношваў планы пранікнення на Украіну (ужо вяліся перагаворы з Цэнтральнай радай), вельмі патрэбна была дружба і падтрымка каралеўскай Румыніі, суседкі Украіны.

На твары Фрзнсіса мільгануў цень незадаволенасці, што яго перапынілі, хоць гэта і была падтрымка; незалежнасць французскага пасла, яго нежаданне лічыцца з лідэрствам найбагацейшай краіны даўно раздражнялі амерыканца.

Фрэнсіс кашлянуў, як бы правяраючы ноту, на якой трэба скончыць сваю заяву. Сапраўды, у голасе яго з'явіўся металічны звон:

— Мне даручана ўручыць ураду Расіі мемарандум дыпламатычнага корпуса. Мы патрабуем неадкладнага вызвалення пасланніка Дзіамандзі і ўсіх падданых яго вялікасці караля Румыніі.

Фрэнсіс падняў над чырвоным аксамітам папкі аркуш белай паперы з тэкстам мемарандума. Ён чакаў, каб Ленін падышоў і ўзяў мемарандум. Ленін не спяшаўся. Прыжмурыўшыся, ён усміхнуўся паслу Эфіопіі — прыгожаму негру, які ўсё яшчэ разглядаў яго з дзіцячай цікавасцю. Фрэнсісу прыйшлося пераступіць умоўную мяжу — зрабіць крок да Леніна. Тады і Ленін ступіў насустрач, прыняў мемарандум. Прабег вачамі па тэксту. Звярнуўся да паслоў:

— Пан дуаен! Панове! Я не хацеў бы напамінаць, што было ў гісторыі адносін паміж краінамі. У гісторыі праліта мора крыві рабочых і сялян. І кроў гэтая льецца па сённяшні дзень. Яна льецца па віне ўрадаў, якія называюць сябе цывілізаванымі...

Гэта быў адказ на закід Фрэнсіса, што, маўляў, Савецкі ўрад паступіў не як цывілізаваны.

Ленін, як кажуць у народзе, секануў па вачах так, што ў паслоў Антанты пасыпаліся іскры: яны ўскінулі галовы, пераглянуліся, заварушыліся і збіліся ў гурт, як бы спалохаўшыся за адзінства свайго фронту; з горла «англійскага льва» выбулькнуў нейкі дзіўны гук.

Паслы гатовы былі кінуцца ў бой за свае ўрады, каб пачаць даказваць, што не яны вінаватыя ў вайне — урад кайзера Вільгельма, імператара Іосіфа. Але ў іх была дамоўленасць: ні пры якіх паваротах размовы не пачынаць абмеркаванне звароту ўрада Расіі да ўрадаў і народаў краін, якія ваююць. Яшчэ ў канцы лістапада на нарадзе ў амерыканскім пасольстве дамовіліся на ноты Савецкага ўрада не адказваць, ні ў якія кантакты не ўступаць. Пачаць размову аб міры — азначала б уступіць з бальшавіцкім урадам у перагаворы. Ленін хітра штурхае на гэта. Які дыпламат! — падумалі некаторыя з паслоў. Нават тыя з іх, што не ведалі англійскай мовы, адчулі, што Ленін сказаў нешта незвычайнае, і пачалі перапытваць суседзяў.

Ленін знарок зрабіў паўзу: няхай запярэчыць.

Фрэнсіс змаўчаў.

— Па сутнасці мемарандума. Урад Савецкай Расіі не лічыць недапушчальным арышт дыпламатычнага прадстаўніка краіны, якая без абвяшчэння вайны адкрыла ваенныя дзеянні супраць рускай дывізіі. Мы вымушаны былі пайсці на гэтую крайнюю меру, бо не мелі іншай магчымасці вызваліць арыштаваных салдат. Для нас жыццё салдата даражэй, чым спакой, камфорт дыпламата. Думаю, як цывілізаваныя людзі, вы з гэтым згодзіцеся. Савецкі ўрад будзе любымі сродкамі абараняць рускіх салдат ад здзеку і гвалту. Да нас даходзяць звесткі, што гэты гвалт і здзек чыняць кітайскія ўлады над нашымі салдатамі ў Маньчжурыі. Я заяўляю пра гэта, карыстаючыся прысутнасцю пасла Кітая...

Кітаец нават не міргнуў вокам — зрабіў выгляд, што не разумее па-англійску, хоць выдатна ведаў гэтую мову.

— Мы падпісалі перамір'е з Германіяй. Мы падпішам мір. І мы патрабуем, каб рускі корпус у Францыі быў адведзены з фронту і вернуты дадому.

— Ваш урад цвёрда вырашыў заключыць сепаратны мір? — спытаў пасол нейтральнай Швецыі, не без хітрасці, бо добра ведаў аб

той барацьбе, якую вядзе Ленін у ЦК, у Саўнаркоме за заключэнне міру.

— Мы два месяцы чакаем адказу ад урадаў краін Антанты на нашы мірныя прапановы. Мы не можам больш чакаць. Міру патрабуе рускі народ, які сцёк крывёю і смяртэльна стаміўся ад вайны. У імя чаго працягваецца гэтая бойня?

Ленін яўна вымушаў паслоў пачаць размову аб міры. Але паслы Антанты ўсяляк ухіляліся ад яе. І Фрэнсіс, і Нуланс выразнымі позіркамі ў бок шведа і іншых нейтралаў давалі зразумець, што падобныя пытанні не да месца.

Ленін гэта бачыў.

Фрэнсіс настойліва паўтарыў:

— Пан прэм'ер-міністр, дыпламатычны корпус патрабуе вызвалення членаў румынскага пасольства.

— А Савецкі ўрад патрабуе вызвалення рускіх салдат. Ва ўрадаў, якія вы прадстаўляеце, даволі аўтарытэту і сілы, каб уздзейнічаць на румынскі ўрад.

— Мы абяцаем зрабіць належныя захады з мэтай уздзеяння на ўрад яго вялікасці караля Румыніі,— паабяцаў Нуланс.

— На такіх умовах я давяду ваш мемарандум да Савета Народных Камісараў і абяцаю дамагчыся згоды членаў урада на вызваленне румын. Не магу не адказаць на ваша сцверджанне, што арышт дыпламатычных прадстаўнікоў дае права Румыніі абвясціць нам вайну. Наступіў той час, панове, калі народы, якія вайны не жадаюць, здолеюць вайну прадухіліць, якія б канфліктныя сітуацыі ні ўзнікалі паміж дзяржавамі. Лёс міру ў руках народаў. Першым дэкрэтам сацыялістычнай рэвалюцыі быў Дэкрэт аб міры.

Зноў Ленін уцягваў іх у дыскусію, на якую паслы не мелі паўнамоцтваў.

Дуаен паспяшаўся падзякаваць Старшыні Саўнаркома за прыём дыпламатычнага корпуса.

Апранаючыся, некаторыя з іх мацалі кішэні сваіх футраў і паліто. Бара Круглова, тэлефаністка, дзяўчына цікаўная — вельмі ёй захацелася паглядзець на замежных дыпламатаў — і надзвычай назіральная, пасля абурылася ажно да слёз ад крыўды і абразы:

— Гэта ж яны правяралі, ці не ўкралі мы пальчаткі ці яшчэ што. А яшчэ — ло-с-рды! Цьфу на іх!

Гарбуноў расказаў пра абурэнне дзяўчыны Леніну. Уладзімір Ільіч смяяўся да слёз. Перадаў Варыны словы Свярдлову;

— А яшчэ, кажа, лорды. Цьфу на іх! Як вам падабаецца, Якаў Міхайлавіч! Наколькі вышэй Варына этыка за іх, лордскую, этыку. А

знаеце, я веру, што такія філістэры маглі баяцца за свае пальчаткі. Абывацельская логіка: маўляў, калі бальшавікі маглі экспрапрыіраваць зямлю, маёнткі, заводы і банкі, то чаму ім не сцягнуць у паслоў пальчаткі? Буржуа толькі так думае аб пралетарыях. Не здзіўлюся, калі ў нейкай газеце з'явіцца, што ў Фрэнсіса ў Смольным укралі пальчаткі ці галошы. Ах, як трапна Бара выявіла іх сутнасць! — і зноў смяяўся, задаволены вынікамі прыёму і Варыным абурэннем.

6

Гэтага чужаземца Уладзімір Ільіч, радасна ўзбуджаны, выйшаў сустракаць у пакой Кіраўніцтва справамі, дзе той толькі што распрануўся і, павесіўшы паліто на вешалку, прычэсваў свае каштанавыя валасы.

З'яўленне Леніна збянтэжыла Фрыца Платэна. Ён заціснуў грабянец у левай руцэ.

Яны моцна пацiснулі адзін аднаму рукі і колькі хвілін не выпускалі рук, разглядалі адзін аднаго і хораша, па-сяброўску ўсміхаліся. Захоплены як бы знянацку, вышэйшы ростам, малады, падобны на спартсмена, у элегантнай тройцы, сакратар Сацыял-дэмакратычнай партыі Швейцарыі адчуваў сябе няёмка ад такой сустрэчы і ад таго, што перад прысутнымі разглядае Леніна як бы з вышыні. Платэн раней і глыбей, чым хто з тагачасных заходніх сацыялістаў, усвядоміў усю геніяльнасць Леніна і веліч рускай рэвалюцыі, яе інтэрнацыянальнае значэнне. Уладзімір Ільіч у сваю чаргу паважаў Платэна. Там, у Швейцарыі, ім прыходзілася часам спрачацца, але марксіст Платэн быў пераконаны і інтэрнацыяналіст цвёрды, у яго не закружылася галава ад шавіністычнага, ура-патрыятычнага чаду ў гады вайны, як закружылася ў Шэйдэмана, Геда, Вандэрвельдэ.

— Дарагі Платэн, я рад вас бачыць. Гэта выдатна, што вы прыехалі ў Расію ў такі час, убачыце нашу рэвалюцыю ўласнымі вачамі. Я дзякую вам ад імя ўсіх таварышаў за тое, што вы памаглі нам прыехаць дадому ў красавіку. Наш прыезд тады быў вельмі своечасовы... А без вас, без вашай дапамогі нам прыйшлося б ехаць вельмі доўга... Троцкі дабіраўся з Нью-Йорка два месяцы...— Ленін пачаў гаварыць па-французску, але потым успомніў, што не ўсе прысутныя работнікі Саўнаркома ведаюць чужую мову, а Платэн нядрэнна ведае рускую, і перайшоў на родную мову:

— Таварыша Платэна вы ведаеце. Я дзякую нашаму госцю за дапамогу, якую ён аказваў рускім рэвалюцыянерам у Швейцарыі. Ад імя ЦК бальшавіцкай партыі і Саўнаркома я дзякую яму за тое, што

ён правёз найкарацейшым шляхам, праз Германію, новую групу палітэмігрантаў. Паездка праз Італію, Англію, Швецыю таварышам дорага каштавала б. Мы бедныя людзі.

Госць пасміхнуўся і сказаў па-нямецку:

— Ад Берліна немцы везлі нас у цяплушках, а садралі па тарыфу першага класа. Гэтыя кілбаснікі свайго не ўпусцяць. Няхай таварышы ведаюць, што мае бацькі немцы. Аднак у швейцарскіх немцаў псіхалогія іншая.

Ленін пераклаў, і работнікі Кіраўніцтва справамі пасмяяліся са стаўлення швейцарскага сацыял-дэмакрата да нямецкай сквапнасці.

Размова працягвалася ў кабінеце. Яны сядзелі насупраць адзін аднаго цераз маленькі столік, як добрыя старыя сябры, толькі Платэн сядзеў у простай паставе, захоўваючы этыкет госця, а Ленін паклаў руку на спінку крэсла, расслабіўся пасля напружанага дня. У гутарцы з такім госцем можна даць сабе і своеасаблівы адпачынак, такі «адпачынак» Уладзімір Ільіч дазваляў сабе ў гутарках са Свярдловым, Арцёмам, Бонч-Бруевічам, з роднымі, хоць і гаварыў пра такія ж сур'ёзныя рэчы, як і з іншымі. Але, з людзьмі блізкімі не патрабуецца такога высокага душэўнага напружання, як, напрыклад, у размовах з Бухарыным з яго ўяўна вобразным мысленнем. Ці з Троцкім з яго часта незразумелай талмудысцкай парадаксальнасцю.

— Дарагі Платэн, я дзякаваў вам афіцыйна, як савецкі прэм'ер. Перад вамі ў гэтым кабінеце быў увесь дыпламатычны корпус, і я мусіў прымаць як належнае «пан прэм'ер-міністр». Пан! Мы зрабілі рэвалюцыю, каб пакончыць з панамі, але формы адносін, моўныя формы, у розных сацыяльных пластах і асабліва ў міжнародных зносінах доўга яшчэ будуць панаваць старыя. Вы не ўяўляеце, якая грандыёзная работа праводзіцца нашай партыяй. А колькі яе, работы, наперадзе! Пастарайцеся ўбачыць самі і зразумець. Я буду вашым гідам і... вашым агітатарам,— Ленін засмяяўся.

— Я не дазволю сабе, таварыш Ленін, адрываць вас...

— Аднак мяне занесла ўбок. Як... як на ўхабе («ухаб» Уладзімір Ільіч сказаў па-руску). Вы не знаеце, што такое руская зімовая дарога, сані і што такое ўхаб... не знаходжу ні французскага, ні нямецкага слова. Пасля ўспомню. Ад фрау Надзі, як вы называлі яе, асаблівае дзякуй.

— Дапамогу вам я лічыў сваім інтэрнацыянальным абавязкам.

— За гэта і дзякуй. Зразумееце, які дарагі скарб для рэвалюцыі, для Рэспублікі Саветаў — кожны адукаваны марксіст і проста кожны сумленны адукаваны чалавек. Не контррэвалюцыянер. Не сабатажнік. Вярнуўся, напрыклад, Георгій Васільевіч Чычэрын. Мы яго

вырвалі з лонданскай турмы, куды яго засадзіў урад Лойд Джорджа за інтэрнацыянальную дзейнасць. Выдатны знаўца гісторыі міжнародных адносін! Энцыклапедыст! Гэта той чалавек, які патрэбны для арганізацыі савецкай дыпламатычнай службы. Троцкі ў гэтай справе дылетант. Аднак я вас загаварыў. Расказвайце вы, дарагі Платэн. Што на Захадзе? Які паварот у свядомасці мас? Што нарабіла вайна, руская рэвалюцыя? Мы атрымліваем газеты праз Швецыю і Фінляндыю. Нямецкія — праз фронт, у часе братання салдат. Усе газеты месячнай даўнасці. Да таго ж ніколі не трэба забываць, што гэта буржуазныя газеты, шавіністычныя. Вытыхаецца чад шавінізму ў сацыялістычным руху? У мяне, дарагі Платэн, столькі практычнай неадкладнай работы, што амаль не застаецца часу, каб заняцца тэорыяй.

— Вайна сур'ёзна працверазіла многіх нашых калег.

— Я пра гэта казаў яшчэ ў Цымервальдзе. Вайна працверазіла шмат каго. Кепска, што позна. Але лепш, чым ніколі.

— Аднак вайна нарадзіла другую з'яву: песімізм.

— У рабочых? — здзівіўся Ленін.

— Не. У інтэлігенцыі.

— Песімізм — хвароба рускай інтэлігенцыі. Але яна была вынікам паражэння рэвалюцыі пятага года. Мікробы песімізму пранiклі на Захад? Чаму? Куды больш? У Францыю? У Германію?

— Нават у нейтральную Швейцарыю. Але я быў нядаўна ў Італіі...

— Песімізм ад расчаравання вайной? Ад няведання выйсця? Ад адсутнасці ідэалу? Дарагі Платэн, гэта вынік здрады заходніх сацыял-дэмакратый марксізму, інтэрнацыяналізму.

— Магчыма, таварыш Ленін. Але я думаю, што прычына не адна. На Захадзе ўсё больш складана.

— Чым у Расіі, хочаце вы сказаць?

— Я слаба ведаю Расію.

— Не, Платэн, у нас не менш складана. У нас архіскладана. Вы не забывайце адну акалічнасць: тое, што на Захадзе называюць Расіяй,— гэта многанацыянальная краіна. Рэвалюцыя наша зрабіла трыумфальнае шэсце. Але майце на ўвазе, уладу лягчэй узяць, чым утрымаць. Імперыялістычныя драпежнікі выбіраюць момант, каб разарваць нас на часткі. Саўнарком абвясціў самастойнасць Фінляндыі, і фінская буржуазія роўна праз тыдзень пачала расправу над рэвалюцыйным пралетарыятам. У мяне да вас канкрэтнае пытанне. Можа ў бліжэйшы час выступіць пралетарыят Германіі? І перамагчы.

Для нас, у сувязі з барацьбой, якая ідзе вакол падпісання міру, гэта пытанне нумар адзін.

Платэн задумаўся.

— Цяжка сказаць, таварыш Ленін. Рэвалюцыі ўзнікаюць нечакана.

— Мы, марксісты, павінны ўмець прадбачыць рэвалюцыйную сітуацыю.

— Я ведаю Германію, але, відаць, не настолькі, каб зрабіць такі адказны прагноз. Пасля работы ў Рызе, працяглага знаёмства з вамі, з рускімі таварышамі мне здавалася, што я ведаю Расію. Але, прызнаюся, пасля Лютаўскай рэвалюцыі ваша Кастрычніцкая рэвалюцыя была для мяне нечаканасцю.

Ленін лёгка паляпаў пальцамі па стале і сказаў як бы жартам — з усмешкай:

— Платэн, вы не верылі ў бальшавікоў. І не ўзняліся да разумення нашых задач. Мы скаціліся б на пазіцыі меншавікоў і англійскіх трэд-юніяністаў, каб спыніліся на буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

Платэн засмяяўся.

— Пазнаю вашу непрымірымасць, таварыш Ленін.

— Але вы адыходзіце ад майго пытання.

— Ці можа быць рэвалюцыя ў Германіі?

— Так, так.

— У Швейцарыі яе не можа быць — гэта я магу сказаць пэўна. А прамысловасць у нас больш развітая, чым...

— Не чапайце Швейцарыю. Швейцарыя не сцякала крывёю. Ваша буржуазія прыдумала хітрыя формы падману і подкупу рабочых.

Ленін падняўся, прайшоўся па кабінеце ў задуме, сказаў па-руску:

— М-да... Рэвалюцыйная сітуацыя — штука архіскладаная,— і па-нямецку: — Прабачце, Платэн. Гэта, як кажуць, думкі ўслых.

— Я таксама думаю,— сказаў Платэн.— Я думаю, што нямецкая буржуазія не горш валодае майстэрствам падману і подкупу...

Ленін спыніўся перад госцем.

— Платэн, не забывайце, што Германія гэтак жа сцякае крывёю. Салдаты, яны ж сяляне і рабочыя, не бачаць канца вайны. Колькі можна ліць кроў? Завошта?

— А яшчэ я думаю... знаеце пра што? — спытаў трохі загадкава Платэн па-руску.

— Цікава,— Ленін сеў у крэсла, гатовы слухаць.

— У Германіі няма Леніна.

Уладзімір Ільіч па-сяброўску пагразіў Платэну пальцам.

— Вы перабольшваеце ролю асобы ў гісторыі.

— Наколькі помню, я чытаў у Маркса і, здаецца, у Леніна... Ролю асобы нельга перабольшваць. Але нельга і памяншаць. Хіба не так?

— Вы небяспечны палеміст, Платэн. І ўсё ж... Скажыце без дыпламатыі. Верыце вы ў блізкую рэвалюцыю ў Германіі? У Францыі?

— Не, не веру.

— Вы песіміст. Платэн. Але мне хацелася б, каб вашу думку пачулі нашы «левыя». Сустрэньцеся, калі ласка, з Бухарыным, з Урыцкім, з Ломавым, з Асінскім. І скажыце ім пра гэта. У гэтых людзей гарачыя галовы і ультрарэвалюцыйны запал. Вельмі неабходна, каб яны хоць трохі працверазелі. У нас — іншая крайнасць... У выніку трыумфальных перамог рэвалюцыі — занадта многа аптымізму. Часам невялікая доля песімізму бывае карыснай. Як разумна назначанае лякарства.

У кабінет адчыніў дзверы Падвойскі: наркомы заходзілі да Старшыні без дакладу, такі парадак быў заведзены Леніным.

— Можна, Уладзімір Ільіч? Не перашкоджу?

— Калі ласка, Мікалай Ільіч. Заходзьце і знаёмцеся. Таварыш Платэн. Яму вельмі цікава пазнаёміцца з першым савецкім генералам.

Высокі, па-вайсковаму падцягнуты, у салдацкай гімнасцёрцы, з шырокім, абветраным тварам, да якога не вельмі пасавала вузкая, клінком, «інтэлігенцкая» бародка, Падвойскі, знаходлівы і дасціпны ў размове з салдатамі, з рабочымі і з буржуямі, бясстрашны ў любых баях, гарачых — з кулямётамі, і халодных — з трыбуны, бянтэжыўся перад Леніным, хоць сустракаўся са Старшынёй Саўнаркома штодня, а часта два і тры разы на дзень. Для бянтэжлівасці Падвойскага была прычына. На чацвёрты дзень рэвалюцыі, калі Керанскі наступаў на Петраград і склалася нялёгкая сітуацыя, Ленін з'явіўся ў штаб акругі, дзе размясціўся ВРК, запатрабаваў, каб яму паставілі стол у кабінеце Пад Еойскага, і пачаў надзвычайную работу па мабілізацыі «ўсіх і ўсяго» для абароны. І хоць у план ваенных аперацый ён умешваўся даволі далікатна, маладога камандуючага нерваваў такі кантроль галавы ўрада. Гарачы Падвойскі двойчы «сарваўся». У першы дзень самалюбіва спытаў:

«Гэта што, недавер да нас?»

Ленін, пасміхаючыся, адказаў:

«Не недавер. Проста ўрад рабочых і сялян хоча знаць, як дзейнічаюць яго ваенныя ўлады».

На другі дзень інцыдэнт адбыўся цяжэйшы. Не згадзіўшыся з канкрэтным указаннем Леніна, Падвойскі патрабаваў, каб яго вызвалілі ад камандавання. Тады Ленін моцна ўзлаваўся і сказаў:

«Я вас аддам партыйнаму суду. Загадваю працягваць работу і не перашкаджаць работаць мне!»

Пасля Падвойскі зразумеў, што менавіта прысутнасць Леніна ў штабе, яго арганізатарская работа і яго ваенны талент памаглі чырвонаармейцам і рэвалюцыйным салдатам разграміць контррэвалюцыю ў самым зародку. І Мікалаю Ільічу было вельмі няёмка перад Уладзімірам Ільічом, ад таго ён і бянтэжыўся пры кожнай сустрэчы. А тут яшчэ чужаземец! Такі элегантны, як жаніх.

Паціскаючы Платэну руку, Падвойскі сарамліва запярэчыў Леніну:

— Што вы, Уладзімір Ільіч. Які я генерал! З генералаў мы сарвалі пагоны.

— Мы створым рабоча-сялянскую армію. І мы мусім ствараць свой генералітэт. Сутнасць не ў тым, як мы назавём вышэйшых камандзіраў,— і тут жа не без гонару: — Вось якія людзі рабілі рэвалюцыю! — Ахарактарызаваў наркома: — Таварыш Падвойскі — наш Дамброўскі,— каго любіў, тых Уладзімір Ільіч часта параўноўваў з героямі Парыжскай камуны.— Пад яго камандаваннем быў узяты штурмам Зімні. Прыняўшы камандаванне Петраградскай ваеннай акругай у першы ж дзень рэвалюцыі, таварыш Падвойскі правёў бліскучую аперацыю па ліквідацыі контррэвалюцыйнага мяцяжу Керанскага — Краснова. А цяпер... пакуль наш Глаўкаверх Крыленка стрымлівае канчатковы распад старой арміі і трымае фронт перад немцамі, Падвойскі ўзначальвае работу па стварэнні новай арміі. Мы назавём яе Чырвонай Арміяй. Гэта будзе армія новага тыпу. У гісторыі рэвалюцыі толькі Парыжская камуна набліжалася да прынцыпаў такой арміі. Але ў камунараў было вельмі мала часу, каб арганізавацца. Нам нельга паўтараць памылкі Камуны. Дарагі Платэн, вы не пакрыўдзіцеся, калі я скажу, што многія заходнія сацыялісты... нават яны!., ды і некаторыя нашы бальшавікі!., не разумеюць... не ўяўляюць сутнасці арміі сацыялістычнай рэвалюцыі? Мне хочацца, каб вы, Платэн, гэта зразумелі. Вам прасцей, вы ўбачыце рэвалюцыю сваімі вачамі. Мы вам паможам. Я раскажу вам адзін выпадак. Некалькі дзён назад я ехаў у вагоне Фінляндскай чыгункі. Размаўлялі фіны з адной пажылой жанчынай. Жывая такая вагонная гутарка. І раптам мой таварыш фін кажа мне: «Ведаеце, якую арыгінальную думку выказала гэтая бабуля? Яна сказала: «Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом». Калі я пачуў гэта, то

сказаў сабе: няхай сотні газет, як бы яны ні называліся — сацыялістычныя, паўсацыялістычныя... няхай самыя гучныя галасы крычаць нам: «дыктатары», «гвалтаўнікі» і гэтак далей і таму падобнае — усё гэта глупства. Галоўнае, што народныя масы, рабочыя, сяляне зразумелі: цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом, таму што ён абараняе працоўных. Але ён, чалавек з ружжом, будзе бязлітасны... павінен быць бязлітасны да эксплуатататараў, да ўсіх тых, хто хоча вярнуць стары лад, старыя парадкі. Нам казалі: бальшавікі асуджаны, яны не здолеюць ваяваць, абараняцца — у іх няма афіцэраў. Але калі гэтыя афіцэры пабачылі, як рабочыя білі Керанскага, б'юць Каледзіна, яны сказалі: чырвонагвардзейцы тактычна непісьменныя — гэта так, але калі гэтыя людзі павучацца, яны будуць мець непераможную армію. Вось так, дарагі Платэн,— і Уладзімір Ільіч павярнуўся ад госця да Падвойскага, сказаў з жартаўлівым папрокам: — А вы, Мікалай Ільіч, кажаце, што нам не трэба генералы. Ох, як трэба!

— Я ніколі не казаў, што нам не патрэбны ваенспецы.

— Рэжа мне вуха слова гэтае. Неяк я спытаў у Міхаіла Дзмітрыевіча Бонч-Бруевіча, як яму падабаецца наш зварот «таварыш ваенспец». Вы знаеце, перада мной і братам сваім генерал пачырванеў, як дзяўчына перад жаніхом. Я мусіў далікатна адвесці размову ў другі бок. Як мы з вамі будзем называць людзей, якія скончаць нашу савецкую акадэмію Генеральнага штаба? Ваенспец? Ах, як гучна! — Ленін іранічна прыжмурыўся, убачыўшы, што паставіў Падвойскага ў цяжкае становішча. Але тут жа ўспомніў пра госця і сказ а ў па-французску: — Прабачце, таварыш Платэн. Тут у нас тонкасці, якія цяжка зразумець. Але я вам пазней растлумачу.

— Калі ласка, не звяртайце на мяне ўвагі. Займайцеся сваімі справамі. Я разумею, як іх многа ў вас, неадкладных спраў! Мне, сацыялісту, цікава проста паглядзець, як кіруюць першай сацыялістычнай дзяржавай. Я буду вучыцца.

— Вы можаце павучыцца. Вы ведаеце рускую мову. Цяжка вучыцца без мовы. У выдатнага рускага пісьменніка Караленкі ёсць апавяданне аб тым, як рускі эмігрант, непісьменны, з сялян-духаборцаў, адстаў ад сваіх і заблудзіўся ў Нью-Йорку. Уявіце. Я халадзеў ад страху, калі чытаў. Гэта горш, чым заблудзіцца ў тайзе.

Падвойскі няблага некалі вывучыў французскую, але практыкі даўно не меў, таму размаўляць саромеўся. А можа, лічыў, што чужаземцу, хаця ён і сацыяліст, не абавязкова ведаць усе дэталі ваеннай арганізацыі. Справа іншая — прынцыпы, якія тлумачыць госцю Уладзімір Ільіч. Яны павінны быць вядомыя ўсяму свету:

рабочыя, салдаты іншых краін, калі паўстануць, будуць вучыцца ў рускай рэвалюцыі.

— Стварэнне новай арміі ідзе поўным ходам, Уладзімір Ільіч,— сказаў Падвойскі.— Сёння мы праводзім на фронт першы зводны атрад Чырвонай Арміі. З гэтым я прыехаў: напомніць вам пра запрашэнне чырвонаармейцаў прыехаць на провады атрада.

Ленін дастаў з кішэні камізэлькі гадзіннік.

— Дык час жа ехаць.

Платэн падняўся, зразумеўшы, што Старшыня Саўнаркома і нарком спяшаюцца.

Уладзімір Ільіч гасцінна паклаў яму руку на плячо, прымушаючы сесці назад у крэсла.

— Так, дарагі Платэн, мы спяшаемся. Але вы павінны паехаць з намі. Я і савецкі генерал Падвойскі,— зноў пажартаваў Ільіч,— запрашаем вас. Вам абавязкова трэба гэта пабачыць — людзей, што добраахвотна едуць на фронт. Першы атрад той арміі, пра якую я вам толькі што расказваў. Гэта незвычайныя людзі, Платэн! Сустрэча з імі асабіста мне заўсёды дае надзвычайны зарад энергіі.

— Я з радасцю паеду, таварыш Ленін. Я сапраўды хачу ўбачыць усё, каб расказаць сваім суайчыннікам аб рускай рэвалюцыі.

Ленін звярнуўся да Падвойскага:

— Аб провадах атрада павінны шырока даць газеты. Папрасіце, калі ласка, Марыю Мікалаеўну ці таварыша Гарбунова, каб пазванілі ў «Правду». І падалі нам аўтамабіль.

Падвойскі выйшаў.

Ленін зноў сеў насупраць Платэна і адказаў на яго словы пра абавязак расказаць суайчыннікам:

— Вашым суайчыннікам, што п'юць раніцой каву са смятанкай і цёплай булачкай, магчыма, нялёгка будзе зразумець энтузіязм людзей, што маюць на дзень паўфунта чорнага, з мякінай, хлеба. А вось рабочыя Германіі, Францыі, якія сербанулі горкага і салёнага, яны зразумеюць. Раскажыце ім. Абавязкова раскажыце. Рабочым трэба ведаць. Буржуазная прэса ачмурае людзей несусветнай лухтой.

Платэн засмяяўся, здзівіўшы Леніна: з чаго раптам смех?

— Прабачце, таварыш Ленін. Успамін. Нават мая маці баялася, што я еду ў Расію. Так яе напалохалі нашы газеты.

— Баялася? — Ленін таксама засмяяўся.— У нейтральнай Швейцарыі, дзе многія дзесяцігоддзі, з часоў Герцэна, жыло столькі рускіх эмігрантаў! Дык ці трэба здзіўляцца, калі саксонскі бюргер паверыць, што мы людаеды, што высокатытулаваных вяльмож пад-смажваем на патэльні і ямо без прысмакаў. Без гарчыцы. Ці з

гарчыцай. Якая розніца. Да гэтага не дапісаліся панове буржуазныя брахуны?

— Бадай дапісаліся.

— Вось вам і «дэмакратычная прэса»!

Вярнуўся Падвойскі.

— Аўтамабіль гатовы,— і, выкарыстаўшы паўзу, сказаў пра тое, што яго хвалявала і пра што ён ужо двойчы гаварыў на Саўнаркоме: — Уладзімір Ільіч, вы так гаварылі таварышу Платэну пра новую армію, што мне здалося: вы гатовы падпісаць дэкрэт ці маніфест аб стварэнні Чырвонай Арміі. Дарэчы, пазаўчора пастанову аб неабходнасці стварыць «магутную, моцна спаяную сацыялістычную армію» прыняў Петраградскі Савет.

— Савет прыняў правільную пастанову. I я гатоў падпісаць такі дэкрэт. Але не гатова сітуацыя, Мікалай Ільіч. Па-першае, такі дэкрэт зусім разваліць старую армію, і фронт будзе агалены. А мір мы яшчэ не падпісалі. Па-другое, гэта яўна насцярожыць немцаў на перагаворах. Па-трэцяе, створыць ілюзіі ў нашых «левых». Бухарын закрычыць яшчэ гучней, што з рэвалюцыйнай арміяй трэба тут жа пачынаць «рэвалюцыйную вайну». А гэта лухта. Антымарксісцкая.

Неўзабаве прыйшла Марыя Ільінічна Ульянава. Сакратар «Праўды» не магла даручыць паездку з Леніным камусьці іншаму. Яна была памочнікам брата і надзейным ахоўнікам. Ва ўсялякім разе, так яны лічылі — сястра і жонка, як напэўна лічаць усе жонкі і сёстры: іх прысутнасць як бы адводзіць ліха, што можа пагражаць роднаму чалавеку.

7

Міхайлаўскі манеж быў перапоўнены. Акрамя сямісот чалавек атрада, якіх праводзілі на фронт, прыйшлі прадстаўнікі многіх чырвонагвардзейскіх атрадаў, рабочыя заводаў, таварышы якіх добраахвотна ішлі абараняць рэвалюцыю, сем'і чырвонаармейцаў і проста цікаўныя.

Разнеслася чутка, што на мітынг прыехаў Ленін, і ўся дзвюхтысячная маса народа захвалявалася, як мора, шуганула хвалямі ў бок трыбуны.

Часовая трыбуна з невысокім бар'ерам, абабітым чырвонай тканінай, з лозунгам «Прывітанне першаму баявому атраду сацыялістычнай арміі!» знаходзілася амаль пасярод манежа. Людскія хвалі з усіх бакоў маглі б расплюшчыць хісткае дашчанае збудаванне, каб трыбуну не ачэпліваў ланцуг узброеных чырвонаармейцаў. Вінтоўкі ў іх былі на плячах, але яны. стаялі тварам да народа адзін

пры адным, некаторыя нават для моцы ланцуга трымаліся за рукі, другі атрад, без вінтовак, пэўна, рабочыя-партыйцы, гэтак жа, узяўшыся за рукі, утварыў у натоўпе вузкі калідор. Па гэтым калідоры прайшлі да трыбуны Ленін, Падвойскі, Платэн, Ульянава, Вільямс, Біці, работнікі Наркамата па ваенных справах, прадстаўнікі Петраградскага Савета, заводскіх камітэтаў.

Людское мора калыхалася, напірала на ланцугі аховы. Усюды чуліся воклічы:

— Ленін!

— Ленін!

— Дзе?

— Каторы?

А следам за правадыром рэвалюцыі і яго таварышамі прабіваўся да трыбуны чалавек у вайсковым кажушку. Яго спынялі, хапалі за кажух.

— Таварыш, нельга.

Ён вырываў кажух, адказваў з нахабнай упэўненасцю:

— Я камісар Смольнага.

Яму верылі: спецыяльных пропускаў не было, а мандат камісара ніхто не спытаў. Такім чынам, чалавек прабіўся да ланцуга чырвонаармейцаў, што акружаў трыбуну.

Гэта быў страшны чалавек: яму было даручана забіць Леніна. У дэталёва спланаванай эсэрамі акцыі ўдзельнічала некалькі контррэвалюцыйных афіцэраў і салдат. Гэтаму, што прабіваўся да трыбуны, адводзілася галоўная роля. Пад кажухом у яго была бомба, у кішэні наган.

Пасля тэрарыст напісаў мемуары, якія так і назваў — «Замах», але ў якіх не пасмеў назваць сапраўднае сваё прозвішча, схаваўся пад псеўданімам Г. Рэшатаў. А быў гэта паручнік Ушакоў.

Ленін з таварышамі падняўся на трыбуну. Яго пазналі. Нехта крыкнуў:

— Таварышу Леніну — ура!

Пакацілася такое магутнае, тысячагалосае «ўра», што, здавалася, сарвецца высокі купал манежа.

«Ён стаіць велічна і проста. Ён усміхаецца і цярпліва чакае»,— піша пра Леніна Рэшатаў-Ушакоў.

Дамо яму слова і далей, бо людзям нашага часу, нават тым, хто валодае добрай фантазіяй, цяжка ўявіць, які ўздым, якое натхненне нараджала ў рабочых, чырвонагвардзейцаў з'яўленне Уладзіміра Ільіча на мітынгах, яго палымяныя прамовы. А гэта словы чалавека, які ўсё бачыў сам,— відавочцы-ворага: «Людзі ў шэрагах крычаць і

крычаць, і не хочуць спыніцца, і цягнуць «ура», як малітву, і дух найвялікшага захаплення пануе над гэтым натоўпам і над гэтым чалавекам у незнаёмым, напаўасветленым цырку. І я чую, што я таксама крычу. Не рот разяўляю, як трэба рабіць, каб бачылі іншыя, што крычу; і не думаю благога, а нутром крычу, таму што крышыцца, таму што не магу не крычаць, таму што забыўся на ўсё, таму што рвецца з нутра нешта нястрымнае, стыхійнае, што затуманіла розум і рве душу, і нейкая сіла невядомая падхоплівае і нясе, і, здаецца, няма нічога — толькі адчуванне захапляючага прастору, неагляднай шырыні і бязмежнай радасці. Я бачу зусім блізка ад сябе добры і просты твар, усміхаюцца мне твар і вочы, якія гараць пяшчотай і любоўю».

Падвойскі, які вёў мітынг, абвясціў:

— Слова мае Старшыня Савета Народных Камісараў таварыш Ленін.

І зноў грыміць тысячагалосае «ўра», але нядоўга ўжо. Натоўп раптам змаўкае, як толькі Ленін падняў руку. Наступае надзвычайная цішыня. Прастуджаныя стрымліваюць кашаль, тояць дыханне.

Ніякіх тэхнічных сродкаў, якія ўзмацнялі б голас, не было. Але Леніна чулі ў самых дальніх кутках манежа.

— Таварышы! Я вітаю ў вашай асобе тых першых герояў — добраахвотнікаў сацыялістычнай арміі, каторыя створаць моцную рэвалюцыйную армію. І гэтая армія заклікаецца аберагаць заваёвы рэвалюцыі, нашу народную ўладу, Саветы салдацкіх, рабочых і сялянскіх дэпутатаў, увесь новы, сапраўды дэмакратычны лад ад усіх ворагаў народа, каторыя цяпер ужываюць усе сродкі, каб загубіць рэвалюцыю.

Рэшатаў-Ушакоў пісаў:

«Не помню ніводнага слова з таго, што ён сказаў тады. І ў той жа час ведаю, што кожнае з пачутых слоў тады нашу ў сабе».

У гэты момант яго камандзіры і хаўруснікі з «партызанскай шайкі», як ён называў сваю арганізацыю, займалі баявыя пазіцыі каля манежа і на дарозе, па якой праедзе Ленін назад у Смольны. Капітан, Тэхнолаг, Макс, Сёма — Ушакоў не адважыўся выдаць іх сапраўдныя прозвішчы,— адны з класавай нянавісці, другія, ашуканыя эсэраўскай хлуснёй, рыхтавалі найстрашнейшае злачынства.

Ленін кончыў прамову.

— Няхай таварышы, што накіроўваюцца ў акопы, падтрымаюць слабых, узнімуць дух тых, хто хістаецца, і натхняць сваім асабістым прыкладам усіх, хто стаміўся. Ужо прачынаюцца народы, ужо чуюць

гарачы заклік нашай рэвалюцыі, і мы хутка не будзем адзінокімі, у нашу армію ўвальюцца пралетарскія сілы іншых краін!

У канцы мітынгу слова папрасіў Альберт Вільямс. За нейкія сем месяцаў сваёй журналісцкай дзейнасці ў Расіі Вільямс пры ўсіх намаганнях вывучыў мову слаба. Але, шчыраму інтэрнацыяналісту, які быў у захапленні ад Кастрычніцкай рэвалюцыі, ад дзейнасці бальшавікоў, Леніна, яму хацелася на такім мітынгу прывітаць ад амерыканскіх рабочых-сацыялістаў рускіх рабочых, першых салдат сацыялістычнай арміі па-руску. Выходзіла ў яго не вельмі складна, палавіна слоў было англійскіх.

Уладзімір Ільіч пачаў падказваць яму рускія словы, перакладаць англійскія фразы. Слухачы хораша ажывіліся і прыйшлі яшчэ ў большае захапленне: усё Ільіч ведае! Усе мовы.

Калі Вільямс скончыў, недзе схаваны за людзьмі духавы аркестр зайграў «Інтэрнацыянал». Тысячы галасоў падхапілі яго мелодыю.

Ленін таксама спяваў.

У людзей блішчалі ў вачах слёзы — ад спеву гэтага, ад таго, што разам з імі спявае Ленін.

Чырвонаармейцам прыйшлося зноў працаваць да поту, каб рассунуць натоўп і зрабіць праход.

Выйшаўшы з манежа, Ленін затрымаўся каля машыны — размаўляў з Вільямсам і Біці, даваў ім парады, як лепш вывучаць рускую мову, расказваў, як ён у эміграцыі вывучаў англійскую, італьянскую.

Ушакоў у гэты міг спахапіўся: банда не даруе, што ён не выканаў яе задання. Тэрарыст, каб апраўдацца, пачынае актыўна камандаваць іншымі. Гульнёй у высакароднасць з'яўляецца яго сцвярджэнне, што бомбы ён не кінуў каля машыны таму, што не хацеў «забіць дарэмна многа людзей». Хлусня! Проста ён добра ўсведамляў, што будзе тут жа разарваны людзьмі на часткі — за сваё жахлівае злачынства.

«Мы яго спынім і заб'ём на мосце цераз Мойку».

Магчыма, Ушакоў быў п'яны, магчыма, розум яго сапраўды быў затуманены, таму ва ўспамінах ён блытае і месца мітынгу, і мост. Ды і сябе абяліць стараецца перад народам, хоць тут жа апраўдваецца перад арганізатарамі замаху — эсэрамі, якія, ведаў, жывуць, дзейнічаюць недзе і могуць адплаціць нават са сметніка, куды іх выкінула рэвалюцыя.

Фрыц Платэн быў вельмі ўзрушаны тым, што ўбачыў і пачуў на мітынгу. Калі яны селі з Леніным на заднім сядзенні, Марыя Ільінічна села наперадзе іх, і аўтамабіль асцярожна выбіраўся з натоўпу на свабодную ад людзей заснежаную вуліцу, Платэн сказаў:

— Дарагія таварышы! Здаецца, я, сацыяліст, толькі цяпер пачынаю разумець, што такое рабочы клас. І што такое рэвалюцыя. Пралетарская. Пра такі энтузіязм у Швейцарыі можна толькі марыць.

Задаволены мітынгам, Ленін у цемры ўпотай пасміхнуўся:

— Дарагі Платэн, не будзьце залішне самакрытычным. Пралетарыят... ён усюды пралетарыят. Яго трэба палітычна адукаваць. І правільна павесці.

Шафёр Цімох Гарахавік, сын беларускага селяніна, нядаўні рабочы «Сіменс і Гольске», вёў аўтамабіль павольна — пратораная рамізнікамі дарога слізкая і ўхабістая, не занясло б, вязе Леніна, не каго-небудзь. Гарахавік ганарыўся сваёй работай, з цікавасцю слухаў размовы Ільіча са сваімі спадарожнікамі, а ў тую паездку шкадаваў, што не ведае мовы, на якой гавораць Ільіч і яго госць.

Машына мінула Сімяонаўскі мост цераз Фантанку.

Піша Ушакоў-Рэшатаў:

«Аўтамабіль ідзе. Бомбай, толькі бомбай. Кідаюся ўперад — аўтамабіль павольна рухаецца. Амаль датыкаюся крыла. Ён у аўтамабілі. Ён глядзіць, у цемры я бачу вочы яго. Бомбу!.. Але чаму аўтамабіль адыходзіць, а бомба ў руках? Вось я бачу і ведаю, што бомба ў руках і аўтамабіль адыходзіць і што трэба бомбу ўзарваць. Быццам нехта звязаў рукі і ногі...

...І тут толькі зразумеў Капітан, што ён прайграў бітву. Салдаты яго «размякні» — ён не мог у гэтым не пераканацца, і ён пачаў адзінокую страляніну».

Тады і Ушакоў, зразумеўшы, што яго чакае, выхапіў рэвальвер і, страляючы, пабег за аўтамабілем.

Першая куля, відаць, Капітанава, трапіла ў кузаў. Гарахавіку і Марыі Ільінічне здалося, што з-пад шыны вылецеў лядзяш і ўдарыў у падножку ці ў крыло.

Ленін і Платэн былі заняты размовай.

Больш выразна ляснуў другі стрэл, і куля прасвістала над галовамі. Платэн, спартсмен і паляўнічы, раней, чым Ільіч, зразумеў, што страляюць па іх, і схапіў абедзвюма рукамі Леніна за галаву, за барашкавую шапку, рэзка нагнуў да пярэдняга сядзення.

Зноў дзынкнула куля і быццам разарвалася на перадзе — ажно зіхнулі іскры.

Платэн пачуў, што яму як бы абпаліла левую руку.

Гарахавік убачыў прабоіну ў ветравым шкле. Чуць прытармазіўшы, каб пры крутым павароце не перакуліць машыну, ён павярнуў у першы ж завулак.

Ленін, нязручна нахілены, па сутнасці, прыціснуты Платэнам, намацаў яго руку, каб вызваліць сваю гала ву, і адчуў, што пальчатка госця мокрая, цёпла мок рая. Рашуча выпрастаўся, устрывожана спытаў:

— Платэн, вы паранены?

— Здаецца, драпнула. Думаю, што глупства. Але вы... таварыш Ленін. Як можна! Без аховы... без эскорту... Нельга так рызыкаваць! Нельга!..

— Эскорт? — здзівіўся Уладзімір Ільіч.— Платэн, вы мысліце буржуазна-манархічнымі катэгорыямі. Прыдворнай лейб-гвардыі ў нас ніколі не будзе!

Пятляючы па вуліцах, Гарахавік гнаў машыну з хуткасцю, якую раней не дазваляў сабе, калі вёз Леніна.

Уладзімір Ільіч, як звычайна, ветліва павітаўся з новай зменай вартавых і прайшоў у кабінет.

У Саўнаркоме пра замах ніхто нічога не ведаў. Праз некалькі мінут, у восем гадзін, павінна пачацца пасяджэнне Саўнаркома.

Ленін сеў за рабочы стол і пачаў накідваць тэзісы свайго даклада аб правакацыі румынскіх улад, аб тых мерах, якія былі зроблены ў адносінах пасольства, і аб мемарандуме дыпламатычнага корпуса.

Увайшла задыханая Надзежда Канстанцінаўна. Так яна ніколі сюды не ўваходзіла.

Уладзіміра Ільіча ўстрывожыў жончын выгляд, яе задыханаму, той дзень ёй нездаровілася, і ён яшчэ ўдзень званіў Веры Міхайлаўне Вялічкінай-Бонч-Бруевіч, каб тая, як урач, наведала Надзежду Канстанцінаўну, але не гаварыла, што гэта яго просьба: Крупская не любіла ўрачэбных аглядаў.

— Што здарылася, Надзя?

— Ты пытаеш у мяне?! Валодзя! Маша сказала у цябе стралялі.

— Здаецца, стралялі.

— Божа мой! Ты гаворыш пра гэта з такім спакоем?

— А ты стала такая набожная? — пасміхнуўся Уладзімір Ільіч і падышоў да жонкі, сказаў сур'ёзна: — Надзя, кожны з нас, бальшавікоў, павінен быць гатовы што ў яго могуць страляць. Мы на фронце, і мы не можам ухіліцца ад небяспекі. Лёгка параніла Фрыца Платзна. Праявіце з Маняшай, калі ласка, клопат пра яго, ён — наш госць.

Увайшлі наркомы Скварцоў-Сцяпанаў і Луначарскі; абодва, далікатныя інтэлігенты, трохі збянтэжыліся, што перашкодзілі размове Ільіча з жонкай. Папрасілі прабачэння.

— Сядайце, таварышы,— Ленін паглядзеў на гадзіннік.— Праз пяць мінут пачнём працаваць. А ты, Надзя, ідзі да таварыша Платэна. Напаіце яго самым харошым чаем.

Ленін усё ж прымусіў Бонч-Бруевіча паехаць адпачыць у «Халілу», таму старшыні Надзвычайнай камісіі па ахове парадку і па барацьбе з пагромамі ў той дзень на працы не было. Камісары славутага 75-га пакоя Смольнага, выслухаўшы Гарахавіка, тут жа далажылі аб здарэнні Дзяржынскаму, які тры тыдні назад узначаліў Усерасійскую Надзвычайную Камісію (ВЧК).

Фелікс Эдмундавіч з'явіўся на Саўнарком са спазненнем, калі Ленін пачаў ужо даклад.

Дзяржынскі з парога, не прысядаючы, папрасіў слова для нечарговай заявы.

Ленін здагадаўся, пра што ён можа гаварыць, нахмурыўся, але слова даў.

— Таварышы, паўгадзіны назад быў зроблены замах на Уладзіміра Ільіча Леніна. Прашу дазволіць мне не прысутнічаць на пасяджэнні, каб заняцца расследаваннем.

Члены Саўнаркома падхапіліся.

— Дзе?

— Як гэта было?

— Уладзімір Ільіч? І вы маўчыце?!

Ленін падняў руку.

— Спакойна, таварышы! Адпусцім нашага Фук'е-Тэнвіля лавіць тэрарыстаў. А самі зоймемся справамі. Паведамляю... Пасля прыёму мной дыпламатаў і нашага ультыматуму Фрэнсіс прыслаў тэлеграму, у якой гаворыць, што ім заяўлены пратэст аб недапушчальнасці варожых дзеянняў урада Румыніі ў адносінах да рускіх войск. Таму прапаную: арыштаваных вызваліць. Ваша думка, таварышы?

Пасля пасяджэння Саўнаркома Ленін прымае Жака Садуля. Вельмі важна, каб аб наведванні Саўнаркома дыпламатамі Антанты інфармаваў французскую прэсу не толькі маркіз Нуланс, але і сацыяліст Садуль.

Апоўначы разам са Сталіным Ленін перадае рашэнне Саўнаркома аб падзеях апошніх дзён у Брэст, савецкай дэлегацыі.

З гадзіны да дзвюх ночы Уладзімір Ільіч гутарыць з Эгедэ-Нісенам, нарвежскім сацыялістам. Прадстаўніку рабочага руху прыйшлося доўга тлумачыць «буквар рэвалюцыі».

Дзесьці а палове трэцяй Ленін уласнаручна піша прадпісанне камісару Петрапаўлаўскай крэпасці аб вызваленні пасланніка Дзіамандзі і членаў пасольства. Пры гэтым падкрэслівае, каб ім абавязкова

заявілі, «што яны павінны прыняць усе меры для вызвалення акружаных і арыштаваных рускіх войск на фронце».

Ці скончыўся на гэтым рабочы дзень Старшыні Саўнаркома? Вядома толькі, што раніцой, у палавіне дзевятай, таго, другога, дня новага года ён быў у сваім рабочым кабінеце. На баявым пасту Рэвалюцыі.

## Раздзел трэці
## КАМАНДЗІРЫ ПАЛКОЎ

### I

Міра хварэла. Яе паліла. Яна моцна кашляла. Не трэба было быць урачом, каб паставіць дыягназ: запаленне лёгкіх. Першая гэта зрабіла пані Альжбета, яна яшчэ тры дні назад старалася не размаўляць з іншаверкай, камісаркай, якая без шлюбу жыве з афіцэрам,

Мірына хвароба, сустрэча Новага года, магчыма, кранальна-бацькоўскія адносіны да Міры старога палкоўніка Пастушэнкі, а можа, больш за ўсё нечаканая праява прыязнасці да кватаранткі яе ўласнай дачкі Юстыны перавярнулі ў пані Альжбеты ўсе ўяўленні, пахіснулі яе выхаваныя пэўным асяроддзем прынцыпы, шляхецкія і рэлігійныя перакананні.

Сама яна так не лічыла і моцна абурылася б, каб нехта хоць намякнуў, што яна ў нечым адступае ад сваёй рэлігіі. Не, веру ў пана Езуса і ва ўсё тое, што яна з маленства чула ад пана ксяндза, не маглі ў ёй пахіснуць усе рэвалюцыі ў свеце — так яна лічыла. А вось каб сказалі, што сэрца яе адтала пасля пакут і абраз эвакуацыі, што сэрца яе напоўнілася дабрынёй і спагадай, мацярынскай ласкай да дзяцей — па ўзросту Міра яе дачка, ды і пан паручнік не намнога старэйшы за яе сына, які, дзякуючы яе, матчыным, малітвам, служыць недзе ў Сібіры (няхай Сібір, няхай холад, абы не фронт!),— то з гэтым звонку пыхлівая полька, безумоўна, згадзілася б. Усе маткі такія. А дзеці ёсць дзеці. Яны могуць нарабіць глупства. Але ніколі не позна накіраваць іх на пуці ісціны. І лепш за ўсё дамагчыся гэтага можна дабрынёй і ласкай.

У пані не хапіла смеласці спытаць у бальшавіцкага камандзіра палка, якой ён веры, але яна пераканала сябе, што такі выхаваны мінчанін можа быць толькі католікам. І яна давала волю сваёй фантазіі — марыла, як павянчае іх у касцёле. Якое гэта шчасце будзе для іх, думала яна, далучыцца да адзінай у свеце прававернай царквы. І якое шчасце для яе, што яна паможа ім у гэтым! Пан Езус спіша палавіну грахоў.

Калі прывезены са шпіталя з Маладзечна ўрач пацвердзіў запаленне лёгкіх, Багуновіч, бадай, спалохаўся. Успомніў, як некалі сам, будучы гімназістам, хварэў на крупознае запаленне, як пакутліва доўга — здавалася яму тады — цягнулася хвароба і як уважліва, цярпліва яго лячылі: доктар, маці, цётка. Маці не адыходзіла ад ложка і на ноч перабралася ў яго пакой, спала на састаўленых крэслах. Ды ці спала? Калі б ён ні расплюшчваў вочы, яна тут жа схілялася над ім: «Што табе, Сярожа, хлопчык мой?»

Хто здолее так дзяжурыць каля Міры? Урач, акрамя тых ардынарных лекаў, якімі лячылі салдат, прызначыў малако. Гарачае малако.

«Добра туды пакласці лыжачку масла і лыжачку мёду. Паверце, самае лепшае лякарства».

Хто яму не верыў? Дзіцяці вядома, што ў такі галодны час малако з маслам і мёдам — найлепшае лякарства.

Але Сяргей убачыў, што ў Міры ад такога прызначэння сталі спалоханыя вочы. Зразумеў, пра што яна падумала. Дзе ў гэты час, у студзені, калі каровы яшчэ не пачалі цяліцца, узяць малака, не кажучы ўжо пра масла і мёд?

Ён таксама на нейкі час разгубіўся: сапраўды, дзе ўзяць? Але тут жа засаромеўся сваёй разгубленасці. Як гэта ён не можа дастаць шклянку малака чалавеку, што стаў такі ж дарагі, як маці, як сястра? Ды, нарэшце, проста сорамна думаць так пра сваіх людзей. Навокал жа свой народ, у дабрыню і шчырасць якога ён, народнік, заўсёды верыў. Было б горкім расчараваннем, каб ніхто не прадаў, не даў шклянкі малака для хворага чалавека.

Калі ўрач паехаў, Багуновіч пачаў апранаць афіцэрскую бекешу: на двары ціснуў добры студзеньскі мароз.

— Куды вы, таварыш палкоўнік?

Міра, акрамя навагодняга вечара, прадаўжала трымацца ў размове з ім жартаўліва-кеплівага тону, трохі паблажлівага, як гэта часта робяць жанчыны, якія ведаюць, што іх кахаюць. Але ў Міры гэта ішло яшчэ і ад маладога максімалізму, ад упэўненасці, што палітычна яна намнога больш адукаваная і павінна прасвячаць усіх навокал. Пасля бурнай размовы ў полі, калі ішлі ад немцаў, і яго мімавольнага, аднак шчырага прызнання, што ён зусім не супраць звання палкоўніка, што толькі з такім званнем ён меў бы маральнае і юрыдычна-вайсковае права камандаваць палком, Міра не ўпершыню вось так іранізавала: «Таварыш палкоўнік».

Сяргей прыняў такую гульню, зварот такі яго не крыўдзіў, урэшце, і сам ён дазволіў сабе такі жарт з сапраўдным палкоўнікам

Пастушэнкам, спалохаўшы гэтым старога. Ва ўсялякім разе, яго радавала, што Міра за дні сваёй хваробы ні разу не ўзлавалася ка яго апалітычнасць і ні разу, як раней, не кінула: «пан паручнік», вось гэта яго якраз крыўдзіла. Няхай ужо лепш будзе «таварыш палкоўнік». Таксама горкая іронія, але па іншай прычыне: ад палка мала што засталося.

Сяргей адказаў проста, на дзіва па-бытавому, па-хатняму, як некалі казала маме кухарка:

— Па малако.

У Міры расшырыліся і без таго вялікія чорныя вочы, а пачырванелы ад жару твар яшчэ мацней запалаў. Здаецца, ёй хацелася засмяяцца, але смех перапыніў натужлівы кашаль. Кашаль быў сухі. Аднак Сяргей чамусь падаў ёй ручнік. Яна выцерла патрэсканыя вусны і ўсё ж пажартавала:

— Куды? Калі ты лічыш, што раўчак за вадакачкай малочны, дык не забывайся, што ён замерз. Разам з гладышкай вазьмі сякеру, каб прарубіць палонку.

— Я пайду ў сяло.

— Ты ашалеў! Камандзір палка, як баба, будзе хадзіць з гладышкай і клянчыць конаўку малака. Не смей! Не трэба мне малако!

Гэта Міра сказала сур'ёзна, загадна. І гэта было новае. Раней яна часам здзекавалася з яго афіцэрскага гонару. А тут раптам упершыню спалохалася за яго камандзірскі аўтарытэт. Такі паварот крануў яго. Ён апусціўся перад ложкам на калені і пацалаваў яе гарачую руку. З самага пачатку іх збліжэння Міру бянтэжыла, калі ён цалаваў руку. Аднойчы нават сказала:

«Ніяк з цябе не выветрацца панскія прывычкі».

Цяпер яна таксама збянтэжылася, але неяк зусім інакш — быццам узрадавалася, ад радасці засаромелася і па-дзіцячаму заплюшчыла вочы.

Ён паглядзеў на яе цудоўнае, як у «Святой Цэцыліі» Карла Дольчы, аблічча і падумаў, што, акрамя хіба маці, у яго няма болей роднага, болей блізкага чалавека, як гэтая дзяўчына, пра існаванне якой ён нават не ведаў усяго паўтара месяца назад.

— Не бойся. Я нешта прыдумаю, каб не ўраніць свой гонар. Магу паслаць салдата...

Яна імкліва расплюшчыла вочы, ад узмаху веек яе не шугануў вецярок.

— Не бойся. Я не буду загадваць. Я папрашу. Я навучыўся прасіць. А людзі добрыя.

Так, можна папрасіць салдата. Але ён усё ж, як і Міра, трохі баяўся, што гэта недэмакратычна, што ён як бы хітрасцю ператварае паслухмянага салдата ў ардынарца, якія адменены спецыяльным загадам, хоць з загадам такім, як і з многімі іншымі, яму нялёгка было згадзіцца. Урэшце, ёсць у гэтым небяспека: самы надзейны салдат, згаладалы, можа выкарыстаць просьбу камандзіра дзеля ўласнай карысці. Сяляне нярэдка скардзяцца на кражы, якія робяць салдаты. А людзі тут, калі не лічыць двух-трох кулакоў, вельмі бедна жывуць, у некаторых дзеці галадаюць, колькі разоў ён мусіў памагаць ім з палкавога катла.

Можна папрасіць пані Альжбету. Цяпер яна не адмовіць. Цяпер яна добрая. Уласна кажучы, толькі дзякуючы яе варэнню, яе налісцікам з пшанічнай мукі і крухмалу, Міра хоць трохі ды есць, хоць неяк падтрымлівае свае сілы. Не карміць жа хворую салдацкімі абедамі — хлебам з мякінай і перакіслай капустай.

Але менавіта таму, што быў надзвычай удзячны пані Альжбеце і Юстыне, Багуновіч не мог звярнуцца яшчэ з адной просьбай, безумоўна, нялёгкай для іх, бо ў саміх іх малако ён бачыў вельмі рэдка; тады яшчэ, калі ў яго жыццё не ўвайшла Міра, сям'я начальніка станцыі разы два пачаставала яго ячменна-жалудовай кавай з малаком.

Урэшце, усе прычыны, з-за якіх ён не мог папрасіць кагось староннята, былі другараднымі. Бо ўсе іх як бы адхіляла адна, галоўная прычына, якая вымушала былога ганарлівага афіцэра, цяперашняга камандзіра палка, пайсці самому шукаць малако. З'явілася тое, чаго некалі з-за юнацкага эгаізму ён не разумеў у маці сваёй,— для чалавека, якога любіш больш, чым сябе, і які захварэў, усё хочацца зрабіць самому: з-пад зямлі дастаць малако, мёд, паставіць банькі, папарыць ногі... Што яшчэ назначыў стары ўрач? Які ў яго стомлены выгляд быў!

«Гэта ваша жонка, камандзір?» — спытаў ён, выйшаўшы ў залу, дзе Багуновіч чакаў, пакуль доктар з дапамогай пані Альжбеты аглядаў хворую.

«Мая жонка»,— адказаў ён, адчуваючы, што чырванее.

«Галубчык мой, як спадзе тэмпература, адашліце, гэтае няшчаснае дзіця да мамы. Яна сказала, што мінчанка. Рукой падаць. Не будзьце эгаістам. Давайце без жонак дап'ём сваю франтавую чашу. Падпішуць мір — паедзем да жонак».

Вось яшчэ адзін, хто ўбачыў вайну ў аперацыйных і трупярнях шпіталя, прагне міру гэтак жа, як ён, як салдаты.

Не стаў тлумачыць, што гэтае «няшчаснае дзіця» прыслаў рэўком арміі, каб яно несла сваім і нямецкім салдатам бальшавіцкую праўду

— так любіла казаць пра сваю місію Міра. Каб «агітавала за сусветную рэвалюцыю» — так часам кпіў ён, Багуновіч. Ніхто яе нікуды не здолее адаслаць. Ні да якой мамы. Яна лічыць сябе салдатам рэвалюцыі.

Снег галасіў пад ботамі. Стылі ногі. Вузкая вуліца вёскі выгіналася ўздоўж рэчкі — той, у якой «цячэ малако», як горка пажартавала Міра.

Занесеныя снегам, таму як бы прыплюснутыя да зямлі, хаты выглядалі сіратліва, адзінока, як бы нічым не звязаныя паміж сабой, ніякім жыццём. На вуліцы — ніводнага чалавека. Пуста — як у царстве мёртвых. Толькі там, дзе ў гародах раслі яблыні — чамусьці такія двары згрупаваліся ў дальнім ад маёнтка канцы вёскі,— было адчуванне нейкай еднасці чалавечага жытла. Ядналі дрэвы. Жывымі здаваліся і голыя вербы над рэчкай. У Багуновіча даўно, з маленства, было дзіўнае пачуццё: яму здавалася, што калі нават у самы моцны мароз дакрануцца да дрэва рукой, то пачуеш, што яно цёплае. Таму не хаты — дрэвы сведчылі аб прысутнасці жыцця, цеплыні.

Толькі ў вайну ўжо Багуновіч убачыў усё жахлівае жабрацтва польскіх, беларускіх, літоўскіх сялян, якіх да таго ж бязлітасна рабавала спачатку рускае «святое воінства», што памірала «за цара і айчыну», пасля — кайзераўскае; у часе некаторых удалых контрнаступленняў яны пераконваліся, як метадычна ўмелі рабаваць немцы: калі рускія салдаты былі дробнымі зладзеямі, дык нямецкія — разбойнікамі вышэйшага класа.

Ужо тады Багуновіч няспынна думаў пра сялян: «За што ваююць гэтыя людзі, калі іх апранаюць у шынялі?» І тым больш захапляўся гераізмам салдат. Ніводнага салдата свайго не даў у крыўду. Пра гэта ведала не толькі яго рота, але ўвесь полк, таму, напэўна, аднадушна назвалі яго імя, калі трэба было выбраць рэвалюцыйнага камандзіра.

Бедныя хаты ён абыходзіў — баяўся іх беднасці, баяўся выгляду рахітычных дзяцей, якія ўсюды глядзелі на яго галоднымі вачамі: дасць салдат нешта ці забярэ апошняе.

У багатыя кулацкія дамы — гэтых людзей ён ведаў з расказаў Рудкоўскага і Калачыка — не пайшоў з-за прынцыпу, хоць, няма сумнення, малако ёсць толькі ў гэтых абнесеных бярвенчатымі сценамі дварах: у хлявах, накрытых гонтай, чулася сытае рыканне кароў, рохканне свіней.

Яго цягнула ў тыя серадняцкія хаты, каля якіх меліся хоць маленькія сады; верыў у дабрыню людзей, што росцяць дрэвы. Але яму адразу не пашанцавала. У першай жа хаце, у якую ўвайшоў, яго якраз і сустрэла ажно пяць пар галодных дзіцячых вачэй. Адна з іх, старэйшая, гадоў дванаццаці, у лапцях і андараку сядзела за

кудзеляй, прала; чэцвёра, зусім малых, абадраных, на печы будавалі з лучынак адмысловыя фартыфікацыі, ім яўна не было чаго абуць, каб спусціцца хаця б на гліняную падлогу, якая гэтай маленькай гаспадыняй была акуратна падмецена.

У хаце было чыста, але пад чыстым абрусам на стале не ўзвышалася і маленькая горка — хаця б акрайчык хлеба. Пабаяўся спы таць, дзе бацька. Спытаў, дзе маці. Дзяўчына паслужліва падхапілася:

— Яна ў пуні, вее ячмень. Я паклічу, паночку.

Накінула кажушок і што мышка шмыгнула з хаты — не паспеў ён сказаць, што не трэба маці адрываць ад працы. Ён ведаў, што ў прыфрантавой паласе сяляне, у якіх не хапала рабочых рук, каб абмалаціць сабраную збажыну адразу і надзейна схаваць, малацілі яе малымі порцыямі: снапы кралі рэдка, а зерне выграбалі часта.

Багуновіч памацаў кішэні: ці няма сухара або драбка цукру? Пастушэнка не мог жыць без кіпню, а Сцяпанаў заварваў гэты кіпень падгарэлымі скарынкамі хлеба. Так камандаванне палка «чаёўнічала» ў штабе. Ведаючы гэта, Міра часам клала яму сухар і цукар.

У кішэні знайшлася толькі гільза патрона ад нагана. Магчыма, хлапчук, яму было сем-восем гадоў, узрадаваўся б гільзе, але дарыць такую цацку Багуновіч пасароме́ўся. Падарыў карандаш, які намацаў у бакавой кішэні фрэнча.

У хлопчыка загарэліся вочкі.

— Ух ты! Які алавец! — і ён тут жа нарысаваў на белым коміне смешнага чалавечка.

— Не пэцкай,— строга сказала сястрычка, малодшая, але пажаночаму практычная.— Будзе табе ад мамкі.

— Я прынясу табе паперы.

— Ух ты! Во пашэнціла! А я знаю цябе — ты камандзір!

— Яначка, хіба ж можна так! — з пакутлівай сарамлівасцю папракнула брата малодшая сястра.

У Багуновіча захраснуў у горле салёны камяк.

— Што вы будуеце?

— Крэпасць! — адказаў хлопчык.

— Царкву,— прапішчала самая малая.

— Царкву! — хмыкнуў будаўнік крэпасці.— Многа ты знаеш. Хіба царкву так будуюць? Дзядуня Калачык сказаў, што царкву бурыць будуць. На дровы.

— Надзярэ табе мамка вушы, Яначка,— з незвычайным шкадаваннем уздыхнула дзяўчынка.

Ад гэтай даросласці пяцігадовай жанчыны сапраўды хацелася плакаць: вочы набрынялі слязьмі.

— Будуйце, дзеці, лепш хату. Проста добрую хату, у якой вам будзе цёпла жыць.

Гэта ён сказаў не столькі ім, колькі сабе. У той міг яму сапраўды хацелася толькі аднаго — будаваць людзям хаты. Не, яму яшчэ хацелася вучыць дзяцей або лячыць хворых.

Маці дзяцей ускочыла ў хату апантана: хустка збілася з галавы, у бялявых валасах мякіна, асцё ячменю начаплялася на спадніцу, пашытую, мабыць, са старога андарака.

Стукнуўшы дзвярамі, тут жа прытулілася да вушака, задыхана хапала паветра, прыціснуўшы далоні да грудзей.

Была яна маладая, з прывабным тварам, але на твары гэтым ляжаў цень пакуты.

— Чаму ў вас такі спалоханы выгляд? Я вас спалохаў? Прабачце.

— Што вы, паночку! Я падумала: вы прыйшлі, каб сказаць пра майго Рыгора, паўтара года ні слыху ні дыху. Хоць бы вестачка, дзе галоўку паклаў.

Ведала, што ён камандзір палка, і па прастаце сваёй і непісьменнасці лічыла, напэўна, што да такога высокага чына прыходзяць звесткі пра салдат усяго вялізнага фронту.

Жанчына глядзела на яго са страхам і надзеяй.

Багуновічу стала няёмка і самотна.

— На жаль, не знаю я пра вашага Рыгора. Дайце яго апошні адрас. Я паспрабую высветліць.

Гаспадыня кінулася ў кут да стала, ускочыла на ўслон і дастала з-за іконы загорнутыя ў старую хусціну паперы.

Ён глядзеў, як ліхаманкава, застаўшыся стаяць на ўслоне пад іконамі, як статуя мадонны, яна зубамі развязала вузялок на хусціне, як дрыжалі яе рукі, калі яна сярод розных папер і салдацкіх пісем шукала апошняе. А Багуновічу стала нясцерпна сорамна, што з-за сваёй далікатнасці ён так жорстка зманіў няшчаснай салдатцы. Ён жа, як кожны франтавы афіцэр, добра ведаў, як адказвалі нават у першы год вайны на запытанні сямей пра тых, хто прапаў без весткі ці трапіў у палон. У лепшым выпадку — адпіскай. А цяпер, калі ўсё развалілася, усё дэзарганізавана — штабы, палявыя пошты,— гэта абсалютна безнадзейная справа. Ён можа напісаць. Не, ён абавязкова напіша — не можа яшчэ раз падмануць! Але будзе гэта пісьмо «на деревню дедушке».

Жанчына саскочыла з услона, дрыготкай рукой працягнула яму пісьмо.

Багуновіч памацаў кішэню, забыўшыся, што падарыў карандаш хлапцу. Звярнуўся да Янкі:

— Дай, калі ласка, карандаш.

Хлапец завагаўся — спалохаўся, што ён хоча забраць назад такую каштоўную рэч.

— Не бойся, я запішу адрас і вярну табе.

— Ужо выцыганіў? Ну, пачакай жа!

— Не, не, я падарыў яму.

Багуновіч запісаў нумар пошты, прозвішча, імя: Сухі Рыгор Мацвеевіч.

Вярнуўшы ёй пісьмо, а хлопцу карандаш, вінавата сказаў:

— Прабачце, я пайду.

— Але ж... паночку нешта хацеў?

Безумоўна, проста так, без патрэбы, ён не хадзіў бы па хатах, гэта яна, практычная сялянка, добра разумела. Таму нельга больш зманіць. Яна павінна паверыць у яго шчырасць!

Багуновіч даверліва паглядзеў жанчыне ў вочы.

— У нас захварэў таварыш... цяжка. Доктар прапісаў малако і мёд,— пра масла не адважыўся сказаць.— Вы не параілі б... у каго можна купіць?

Твар яе раптам расплыўся ад спагады, дабрыні і глыбока стоенай хітраватай усмешкі: здагадалася, для якога «таварыша» камандзір асабіста шукае малако і мёд; пра яго адносіны з Мірай у вёсцы не маглі не ведаць, асабліва жанчыны; Міра разы два выступала перад сялянамі.

Маладая салдатка па-старэчаму пляснула далонямі.

— Ой, паночку! Дзе вы купіце? Хіба ў нас так рана целяцца каровы? А мёд... У каго ён, мёд, цяпер? Салдаты дзікіх пчол выкурылі з-за мёду,— засаромелася, што так пра салдат, павярнулася да старэйшай дачкі, як бы просячы рады ў яе.— Хіба ў Кілаватага? Але не... да яго не хадзіце. У яго сына пад Новы год застрэлілі вашы. А другога пасадзілі. Стары што звер. П'е.

Сыноў кулака высачылі не салдаты палка — свае, сяляне, з атрада Рудкоўскага. Немцы заяўлялі пратэст за страляніну: маўляў, рускія парушаюць перамір'е. Прыйшлося пісаць тлумачэнне штабу фронту.

Рыгорыха выйшла следам за Багуновічам на двор гэтак жа лёгка апранутая, толькі хусціну абапнула. Вельмі ёй хацелася памагчы яму. Называла людзей, у якіх варта папытаць.

— Мёду ў старога Шкеля спытайце... як назад пойдзеце — за мастком злева... Каля яго хаты дзве ліпы. Ён багаты, але добры. Не такі воўк, як Кілаваты... Толькі каровы і ў яго не маглі ацяліцца. Ой, паночку! — ужо на вуліцы ўспомніла жанчына: — А вы ў камуне

спытайце. У маёнтку каровы рана целяцца. Галанкі. Кароў нямнога засталося, ды нейкая магла ацяліцца.

— Дзякую вам. Не стойце так. Холадна.

— А ліха нас не возьме, паночку. Баба — што сабака.

— Не трэба мне казаць «паночку». Які я пан?

Жанчына хораша ўсміхнулася.

— Мяне Галька пад бок штурхала, што так цяпер не гавораць... Дзеці вучаць. Дык прывычка ж, таварыш...

Каб замацаваць гэтае «таварыш» у яе свядомасці, Багуновіч працягнуў ёй на развітанне руку. Перад тым, як падаць яму сваю руку, салдатка выцерла яе аб сак.

Пра камуну ён падумаў у самым пачатку, яшчэ там, у доме начальніка станцыі, каля Мірынага ложка. Але яму ўжо тройчы прыйшлося звяртацца да Рудкоўскага ў моманты, калі зусім пусцеў палкавы склад — ні хлеба, ні бульбы, ні капусты. У тым, што полк застаўся баявой адзінкай, хоць усяго з трэццю штатнага саставу, была, лічыў камандзір, не яго заслуга і нават не камітэта, а заслуга матроса Рудкоўскага, старога вясёлага селяніна Калачыка і, магчыма, такіх вось салдатак, як гэтая Рыгорыха, што ад уласных дзяцей аднімаюць, каб накарміць салдат.

Таму прасіць у Рудкоўскага малака... Не. Не мог. А раптам не зразумее матрос і ўедліва высмее. Дзецям няма, а ён хоча каханку малаком паіць.

Перад новым, ажно на чатыры акны, пад бляхай, домам Шкеля пастаяў, але зайсці не адважыўся. Як тлумачыць такому багатаму гаспадару? Да такога лепш паслаць казака, які мог бы сказаць: прадайце мёд для камандзіра палка. Перад такімі сапраўды не трэба раняць гонар, каб не зларадпічалі: во да чаго давяла вас рэвалюцыя! Рэвалюцыю ён нікому не дазволіць аплёўваць, як бы блага ні было не толькі яму асабіста, але Міры, маці, бацьку, сястры, салдатам. Не сказаць, што ён рабіў яе, рэвалюцыю, але прыняў розумам, сэрцам, паверыў у бальшавіцкія прынцыпы свабоды, роўнасці, брацтва. Лютаўская рэвалюцыя ненадоўга пабратала яго з салдатамі. А пасля яго зноў вымусілі гнаць іх у атаку, на нямецкія кулямёты, і яму было сорамна перад імі, брыдка; каб хоць як апраўдацца, ён сам першы лез на гэтыя кулямёты, шукаючы смерці. Смерць пашкадавала яго. Цяпер яму хочацца жыць, як ніколі, ажно страшна робіцца ад такой прагі жыцця. Хочацца кахаць, скончыць універсітэт, вучыць дзяцей, мець сваіх.

Багуновіч намерыўся зайсці яшчэ ў адну серадняцкую хату, у двары якой прагульваліся карова і цялушка.

Але тут яму пашанцавала. З хаты гэтай выйшла Стася. Убачыла яго — і вочы яе загарэліся, як у кошкі, што ўбачыла мыш і рашыла пазабаўляцца. Весела засмяялася.

— Дзень добры, таварыш камандзір. Што гэта вас у такі мароз прымусіла гуляць? Што вы шукаеце? Хату для салдат? Самі?

— Малако.

— Што? — здзівілася Стася, ажно знік у вачах гуллівы бляск.— Малако? Якое малако? Чыё?

— Каровіна,— яму захацелася сказаць усю праўду.— Цяжка захварэла мая жонка...

— Жонка? У вас ёсць жонка?

— У мяне ёсць жонка.

— Гэта тая маленькая... агітатарка?

— Тая.

— Дзе ж вы павянчаліся? У якой царкве?

— Хіба для таго, каб з'яднацца двум чалавекам, трэба абавязкова поп і кадзіла? Хіба для гэтага мала кахання?

Цяпер яна глядзела на яго зусім сур'ёзна і ўжо з нейкім іншым здзіўленнем.

— А мне казалі, што вы не бальшавік. Гэта ж бальшавікі ў бога не вераць.

— А вы верыце?

Стася сумна засмяялася і сказала пра іншае — пра сваё, жаночае:

— Я верыла, што спакушу вас. Вы мне падабаліся,— прызналася і засаромелася: — Ой, што гэта вы робіце са мной?

— Нічога я не раблю. Я быў бы вам удзячны, каб вы сказалі, у каго можна купіць малако.

— Вам не сорамна хадзіць па хатах?

Сяргей на міг задумаўся: што ёй адказаць?

— Вы знаеце, Стася, мне не сорамна. Калі чалавеку, які табе дарагі, блага — для яго зробіш усё. Зрабіць хочацца іменна самому. Хіба вы не перажылі такое?

Стася раптам закрыла твар чырвонымі рукавіцамі-самавязкамі.

Вагуновічу здалося, што яна плача. Разумеў, чаму яна магла заплакаць, пашкадаваў, што так неасцярожна нагадаў удаве пра яе горкі лёс. Супакойваць не стаў.

Яна выцерла вочы рукавіцамі, уздыхнула:

— Божа, як даўно гэта было. Я зайздрошчу вашай жонцы. Яна шчаслівая.

— Я шчаслівы.

— Але ўсё адно самі не хадзіце. Абгаворацць бабы. Чаму вы не прыйшлі да нас? У камуне яшчэ не ўсіх кароў запусцілі. Запусцім. Дзецям малака не будзе,— яна крыва пасміхнулася з камунарскіх парадкаў.

Багуновіч зноў прызнаўся з нечаканай для сябе шчырасцю:

— Мне прыйдзецца прасіць у Рудкоўскага хлеб і бульбу для салдат. Каторы раз.

Стася жорстка ўпікнула:

— Сядзіць у вас панскае. Цяжка вам папрасіць мужыка. Не верыце, што ў нас ёсць сэрцы.

Яму зрабілася няёмка.

— Што вы!

— Ну, вось што, таварыш камандзір. Ідзіце займайцеся сваімі справамі. Малака я вашай...

— Міры,— падказаў ён.

— ...вашай Міры я сама прынясу. Мяне, праўда, не любіць пані начальніца. Набрахалі ёй, што, пакуль яна была ў бежанцах, я круціла з яе Пятрасам. Вот жа языкі! Не верце. Вельмі мне трэба яе лысы літвін! Які з яго мужчына! Стары дзед. Ну, з Альжбетай я дамоўлюся. Будзе прычына пагаварыць з ёй па душах. Так што ідзіце вучыце нашых страляць з кулямёта.

Багуновіч не ведаў, як дзякаваць.

Стася адмахнулася ад яго падзяк: маўляў, панскія штучкі! Але адчувалася, што па вуліцы ідзе з ім не без гонару, пазірала на вокны і, мабыць, шкадавала, што яны замерзлыя і мала хто ўбачыць, што яна гуляе з камандзірам палка.

А Сяргей расчулена думаў: недарэмна маці часта казала, што свет не без добрых людзей, і верыла, што гэта сапраўды так. Ён таксама пачынае верыць гэтаму нават тут, ка вайне. Выпадковая сустрэча памагла яму. Аднак пра мёд і масла сказаць не адважыўся. Падумаў, што Стася можа ўзяцца дастаць і такія ласункі. З яго боку гэта была б бесцырымонная эксплуатацыя яе дабрыні.

Спраў у яго сапраўды было многа. Як у дабрыню людзей, ён гэтак жа пачынаў верыць у сілу слова. Паназіраўшы, не мог не згадзіцца: у тым, што ў палку амаль спынілася самадэмабілізацыя і салдат засталося больш, чым у суседніх палках, немалая заслуга сухотніка Сцяпанава, які з раніцы да вечара — у ротах, ва ўзводах, спакойна, настойліва пераконвае салдат, што рэвалюцыю мала зрабіць — яе трэба абараніць ад ворагаў, знешніх і ўнутраных. Хораша ў яго атрымоўваецца, доказна. Пасля яго простыя словы як бы замацоўвае Міра сваімі палымянымі прамовамі аб сусветнай

рэвалюцыі, аб будучым грамадстве роўнасці і брацтва, тлумачэннямі навуковага сацыялізму, прац Маркса, Леніна.

Сяргей амаль не ведаў іх прац, акрамя хіба апошніх газетных артыкулаў Леніна, але са сваёй адукацыяй і вопытам не мог не ўлаўліваць супярэчнасці ў Мірыных разважаннях. Калі звяртаў на гэтыя супярэчнасці яе ўвагу, яна ўпарта не згаджалася, называла яго апартуністам, меншавіком (меншавік для яе было самае абразлівае слова), аднак пасля ўпотай пакутліва шукала адказы на яго хітрыя і складаныя пытанні. Ён адчуваў, наколькі драматычныя яе пошукі, сумненні. Такую душэўную драму яна перажыла пасля сустрэчы з Троцкім у вагоне. Да таго нярэдка спасылалася і на Леніна, і на Троцкага, ставіла іх імёны побач. Пасля ён ні разу не пачуў з яе вуснаў імя наркома па замежных справах. Міра яўна страціла веру ў яго высокі аўтарытэт.

Салдаты, магчыма, не вельмі ўнікалі ў навуковыя глыбіні, але пафас гэтай маленькай дзяўчыны, яе вера ў тое, пра што яна расказвала — будучыня ў яе расказах выглядала казачнай,— захаплялі іх, натхнялі, падтрымлівалі аслаблены дух.

Паступова сам ён зрабіўся амаль такім жа агітатарам, як Сцяпанаў і Міра. Праўда, у яго не было іх красамоўнасці і перакананасці ў бальшавіцкай праўдзе, але затое ў яго была іншая перавага — веданне вайсковай справы і псіхалогіі салдата. Салдаты, безумоўна, паважалі яго і Пастушэнку за тое, што ў такі час, калі армія рушыцца, развальваецца, яны, афіцэры, як капітаны карабля, які тоне, да канца застаюцца на баявым мосціку разам з камандай і застануцца, напэўна, нават тады, калі апошні радавы пакіне свой пост. Нялёгка пры такім становішчы матросы пакідаюць свайго капітана. Так, напэўна, і салдатам нялёгка пакінуць камандзіра, які, ведаюць, шчыра клапаціўся пра іх.

У тым, што даручаны ім участак фронту ахоўваецца цалкам баявымі батальёнамі і ротамі, хоць і моцна парадзелымі, не ў меншай меры, чым слова, мела значэнне і тое, што неяк удавалася карміць людзей.

Было і яшчэ адно. Багуновіч нялёгка адважыўся ўзброіць мясцовы сялянскі атрад. Аднак з'яўленне такога атрада, страявая вучоба хлопцаў у лапцях і кажухах, заняткі на стрэльбішчы, далей ад лініі фронту — каб немцы не заяўлялі пратэсты з-за страляніны,— усё гэта на дзіва ўзняло дысцыпліну. Цяпер Багуновіч аддаваў атраду Рудкоўскага не менш увагі, чым уласнаму палку.

У той дзень ён паабяцаў Антону асабіста правесці колькі заняткаў па кулямёту «Максім», навучыць разбіраць, збіраць, наладзіць, калі «заесць» затвор.

Падмануць Рудкоўскага і чырвонагвардзейцаў ён не мог. Ды як пакінуць Міру на доўгі час? А галоўнае — дзе дастаць мёд і масла? Паехаць за дванаццаць вёрст у мястэчка? Але наўрад ці можна там купіць дарагі харч у такі галодны час.

Самы надзейны адрас — Бульба-Любецкі. У эсэра заўсёды ўсё ёсць. Але Багуновіч ведаў, якім чынам яно дастаецца: з навакольных сялян, з яўрэяў-местачкоўцаў Бульба збірае даніну. Гэта аддае рабаўніцтвам. Але Бульба апраўдвае сябе тым, што бярэ з багатых. «Экспрапрыюю экспрапрыятараў»,— смяецца ён. Аднак полк яго ад такой «экспрапрыяцыі» разлажыўся. Учора камандзір трэцяга батальёна Берасцень данёс, што на ўчастку «бульбаўцаў» пярэдняя лінія акопаў нікім не ахоўваецца. Устрывожыла гэта іх з Пастушэнкам. Дамовіліся, што нехта з'ездзіць да суседа, каб высветліць абстаноўку.

Есць прычына для паездкі. Але Багуновіч сур'ёзна баяўся, што размова з Назарам можа скончыцца так, што будзе не да таго, каб прасіць масла і мёд. Бульба бывае цяжкі. Ды і брыдка прасіць нарабаванае. Бог пашкадаваў яго і не разбэсціў нават на вайне, яго маральныя прынцыпы, выхаваныя бацькамі, засталіся непарушнымі. Праўда, жыццё хістае іх. Моцна. Мімаволі пойдзеш на змову з сумленнем. Але адна справа папрасіць пад Новы год пляшку шампанскага. Гульня. Афіцэрскае шыкаванне. Зусім іншае — прасіць масла... Брыдка, безумоўна. Але, урэшце, ён паедзе не красці, не рабаваць. Прасіць. Для ўратавання роднага чалавека. «Свет не без добрых людзей».

Пастушэнка звычайна з зайздроснай бадзёрасцю працаваў над зводкамі і тактычнымі картамі, хоць ніякіх дзеянняў не было, у становішчы палка мянялася толькі колькасць людзей — выбывалі без баёў, праўда, у апошнія дні такія «страты» раўняліся двум-тром чалавекам у дзень, не больш. Ды мяняліся катастрафічна мізэрныя харчовыя і фуражныя запасы. Нават Сцяпанаў някрыўдна кпіў са штодзённай варажбы начальніка штаба над картамі, хоць разумеў, што проста стары не можа не працаваць, нудзіцца без работы. Выступаць перад салдатамі, як Сцяпанаў ці Міра, баіцца, сам прызнаўся: «Каб не наблытаць чаго, у мяне старыя ўяўленні».

На гэты раз палкоўнік сядзеў за сталом, над газетай, з неўласцівым яму панурым выглядам.

— Пошта? — узрадаваўся Багуновіч, бо пошты не было ўжо колькі дзён, нават дэпешы са штаба фронту і са Стаўкі не прыходзілі,

тэлеграф зрэдку адстукваў малазначныя ўказанні: «Вам паслана семдзесят пудоў аўса». Мізэрнасць. Праўда, і над аўсом думалі нямала — як яго спажыць: скарміць коням ці раздаць салдатам — няхай стаўкуць у ступах і вараць аўсяную кашу.

— Не, не пошта. А газета свежая,— адказаў Пастушэнка.— Прывёз сусед.

— А чаму ў вас такі выгляд, Пятро Пятровіч?

— Яны разагналі Устаноўчы сход.

— Хто?

— Бальшавікі.

— І вы... з-за гэтага ў такой жалобе? — здзівіўся Багуновіч. Раней яму здавалася, што да палітыкі Пастушэнка адносіўся спакойна, ва ўсялякім разе, трагедыю не рабіў ні з адной падзеі апошняга часу.

— А вы?.. Вас што... не кранае гэта? — дрыготкім голасам спытаў Пастушэнка.

— Абсалютна. Я знаў, што яго разгоняць. Тыдні два назад Міра паказала мне артыкул Леніна...

— Галубчык мой, я вас не разумею. Расія магла атрымаць парламент.

— Пятро Пятровіч, яшчэ два, калі не тры... гады назад я расчараваўся ва ўсіх парламентах свету. У нашых думскіх балбатунах. У французскім, англійскім парламентах. Да д'ябла парламенты, якія гоняць людзей на смерць! У акопы іх, свалачэй, гэтых краснабаеў! На аўсяную кашу! Вошай карміць!

Багуновіч рэдка так зрываўся, гаварыў з такой злосцю. Спахапіўся — і яму стала няёмка. Пастушэнка таксама здзівіўся, аднак як бы скінуў страшны цяжар, што гнуў яго да стала, выпрастаўся. Паспрабаваў спрачацца, але ўжо без роспачы, так, як спрачаліся часам раней.

— Але ж гэта народны сход! Сход, выбраны народам!

— Якім народам? Пасля таго народ зрабіў рэвалюцыю. Я патроху пачынаю разумець, што гэта такое, Пятро Пятровіч! Няўжо вы думаеце, што бальшавікі такія наіўныя, што, узяўшы ўладу, добраахвотна аддадуць яе тым жа людзям, якім яны, прабачце, далі выспятка ў мяккае месца. Чарнову, Керанскаму. Вы што... засумавалі па Керанскім?

Стары нахмурыўся.

— Вы мяне абражаеце.

— Прабачце, Пятро Пятровіч. І плюньце! Падумаеш, трагедыя! Разагналі Устаноўчы сход... Туды яму і дарога!

Пастушэнка глядзеў на яго, узбуджанага, расчырванелага з марозу, са здзіўленнем, нават трохі як бы са страхам, але, бадай, і з зайздрасцю, магчыма, зайздросціў яго маладосці і рашучасці.

— Выходзіць, я адзін такі... стары ёлуп, якому здалося, што свет перавярнуўся ў сувязі з гэтым разгонам...

Багуновіч раптам засмяяўся.

— Пятро Пятровіч, дарагі мой чалавек! Люблю я вас за шчырасць. Вы ўвесь — як на далоні.

Стары пачырванеў, як дзяўчына.

— А вы... вы знаеце, голубе, вы мяне здзіўляеце. Эвалюцыяй вашых поглядаў. Вас так прасвятляе гэтая дзяўчына? Дарэчы, як яна? Урач быў?

— Быў. Дрэнна ёй, хоць яна харобрыцца. Урач назначыў малако, мёд, масла. Малако я знайшоў. А мёд? Масла? Дзе іх узяць?

Пастушэнка панурыўся ўжо зусім інакш — як бы з адчуваннем сваёй віны, што не можа параіць, дзе ўзяць хвораму дзіцяці самыя неабходныя лекі.

— Паеду да Бульбы.

— Так, так, язджайце,— адразу згадзіўся палкоўнік, хоць нядаўна абураўся, што «авантурыст, самазванец і рабаўнік Бульба кампраметуе ўсё рускае афіцэрства». Не любіў Бульбу. Аднак смеласцю яго захапляўся, шкадаваў, што нядоўга будзе насіць такую ліхую галаву ў бурлівы час.

— Але ў мяне да вас просьба. Я абяцаў Рудкоўскаму правесці з яго людзьмі заняткі па «Максіму». Мне не хочацца падводзіць іх. Правядзіце, калі ласка, вы.

— Я? — спачатку спалохаўся Пятро Пятровіч, але тут жа падняўся, задумліва прайшоўся па пакоі, спыніўся каля акна, прахукаў у замёрзлай шыбе «вочка», паглядзеў на заінелыя ліпы.

Багуновіч добра ведаў натуру палкоўніка: задумаўся — значыцца, згадзіўся.

Пастушэнка павярнуўся ад акна.

— А што... нядобра, што я... быццам баюся гэтых людзей? Нядобра?

Багуновіч не сказаў ні слова, толькі плюснуў вачамі: відаць, нядобра.

— Ах,— спахапіўся Пастушэнка, мяняючы тэму размовы.— Галоўнай навіны я вам не сказаў. Наш сусед справа, дзевяноста трэці полк, адведзены. Яго месца заняў Першы Петраградскі пралетарскі полк... Чырвонай Арміі. Чырвонай! А мы з вамі якая армія, Сяргей Валянцінавіч? Белая? Шэрая?

— Шэра-бура-малінавая,— засмяяўся Багуновіч.

Пастушэнка ўздыхнуў.

— Зайздрошчу я вам. Вашаму аптымізму.

2

«Які там да д'ябла аптымізм! — падумаў Багуновіч праз нейкі час, калі казак вывеў яму з баронскай канюшні стаенніка і ён ускочыў у сядло і галопам паехаў са старога парку на добра пратораную дарогу, што вяла ў лес, які сінеў воддаль.— Які там аптымізм, калі душу кошкі драпаюць? Ах, Міра, Міра! Як недарэчы ты захварэла. А я марыў узяць адпускную, паехаць з табой у Мінск, прадставіць цябе бацькам. Не, не бойся. Яны добрыя, культурныя людзі. Яны прымуць цябе. Можа, мама ўпотай трохі пашкадуе... Не трэба, мамачка. Ты ж сама казала, што гэта забабоны. Як яны аплялі нас, усе гэтыя забабоны ўмоўныя, саслоўныя, нацыянальныя, рэлігійныя... Як здорава, што з'явіліся людзі, якія так смела рвуць іх».

Там, у штабе, яго, бадай, парадавала навіна, што ўчастак фронту побач заняў свежы полк.

А ў дарозе, калі ўехаў у бор і пусціў скакуна лёгкай рыссю, раптам у такт ёканню конскай селязёнкі цюкнула: па ўмовах перамір'я на фронт не павінны перакідвацца новыя часці. Бальшавікі, выходзіць, пачалі такую замену. Праўда, гэтую ўмову перамір'я першыя парушылі немцы, пра што ён сам даносіў у штаб фронту. Як жа разумець з'яўленне новай часці? Дэманстрацыя супраць нямецкага парушэння? Ці можа перагаворы ў Брэсце праваліліся? Успомніў, што тры дні назад, уначы, усяго адзін дыпламатычны вагон прайшоў з Брэста ў Петраград. У штабе палка была тэлеграма, але ў ёй не гаварылася, хто паедзе, таму ніхто з камандзіраў і членаў камітэта спецпоезд не сустракаў. Не прыдалі значэння: у адным вагоне мог ехаць дыпкур'ер. У Брэст ішло ажно тры вагоны. Цяпер Багуновіч звязаў з'яўленне новага палка са спецпоездам і пахаладзеў ад думкі, што перагаворы сапраўды па чыёйсьці віне, нашай ці нямецкай, сарваліся. Яго зноў апанаваў страх, што немцы могуць перайсці ў наступленне. Як тады, калі ён ішоў ад іх з Міраю пад Новы год. Але цяпер страх быў намнога мацнейшы, страшнейшы, незнаёмы дагэтуль,— перад магчымасцю варожага наступлення.

«Куды яе дзець, хворую? Адаслаць у шпіталь? Не паедзе. Ды і я не магу. Не магу! Я баюся. Паміраюць там, у шпіталі...»

Назара Бульбу-Любецкага Багуновіч знайшоў за лясніцкім гумном. Выглядаў капітан не такім элегантным, як пад Новы год, калі ляжаў на мядзведжай шкуры. Цяпер сам быў падобны на мядзведзя,

якога сярод зімы выгналі з бярлогі. Апрануты ў стары, падраны сялянскі кажух. Непаголены. З нездаровым шэра-прыпухлым тварам, пэўна, пасля перапою. Пануры. Ваўкадаў, пачуўшы чужога, кінуўся на Багуновіча, калі той быў яшчэ за гумном. Бульба пачаў мацюкацца: каго там чорт носіць?

Ваўкадаў так ашчэрыўся, што Сяргей на ўсялякі выпадак дастаў з кабуры наган і крыкнуў:

— Эй, хто там? Забярыце звера! А то застрэлю.

— Я табе застрэлю, такую тваю! Я цябе самога застрэлю! — Бульба выглянуў з-за гумна.— А-а, гэта ты? Рэкс! Свой! Хоць дурань, але свой!

«Нічога сабе сустракае госця»,— падумаў Багуновіч без крыўды. Аднак выгляд і настрой гаспадара насцярожыў.

— Аліс! Тэўтон! Узяць!

З сасонніку вылезла таўшчэзная істота ў даўжэзным нямецкім шынялі, у касцы, на якую была надзета кальчуга, яна закрывала твар і шыю.

Праз занесены сумётам плот пераскочыў другі ваўкадаў і кінуўся на чалавека.

Рэкс лёг на снег, напружыўся, нацэліўся, нецярпліва заскуголіў. Але Бульба стрымаў яго.

— Рэкс! На месца!

Тым часам Аліс наскочыла на чалавека ў шынялі. Счапіліся. Пакаціліся па снезе. Было відаць, як Аліс ірвала шынель, ажно ляцела ў снег шмаццё.

Багуновічу зрабілася жудасна ад гэтай недарэчнай гульні.

— Хто там?

— Мой разведчык — башкір Мустай.

— Ты і гэтага спусціш? — паказаў на Рэкса.

— Спушчу. Але пазней.

— Парвуць яны чалавека.

— Сяргей! Я лічыў цябе разумным афіцэрам. Ты што, ні разу не бачыў, як навучаюць сабак?

— Не бачыў.

— Да ну! А яшчэ — камандзір палка!

З гэтым анархістам, відаць, сёння не дамовіцца — уедлівы, злосны. І ўся ўвага яго — на сабаках.

— Наліха гэта табе?!

Аліс — па імені царыцы далі клічку,— мабыць, атрымала добрага кухталя, бо заенчыла і пачала адпаўзаць ад таго, на каго напала.

Бульба затупаў нагамі.

— Аліс! Аліс! Дзярмо сабачае! Баба ёсць баба! Аліс! Узяць! Узяць яго.

Але сучка, скуголячы ад болю і віны, паўзла да гаспадара, палахліва азіраючыся.

Разведчык падняўся і, пагрозліва расставіўшы рукі ў аўчынных рукавіцах, сунуўся за ёй.

Бульба павярнуўся да Рэкса, намерваючыся выпусціць яго.

Але Багуновіч спыніў:

— Назар! Спыні, калі ласка, гэтую гульню! Што за дзікае прадстаўленне?

— Хлюпікі вы, такую вашу...— аднак паслухаўся, крыкнуў: — Адбой!

Багуновіча ўразіла, з якой радасцю абодва сабакі кінуліся да гаспадара: жорсткая трэніроўка яўна была ім не даспадобы. Рэкс нават яго, чужога, абнюхаў даволі прыхільна: сябра гаспадара — яго сябра.

Башкір зняў кальчугу, адкрыў шырокі чырвоны твар.

— Ваша бродзь! Канчай, да?

— Я табе дам — «ваша бродзь»! Камісар стаіць, а ты мяне, сабачы сын, кампраметуеш.

Разведчык, набліжаючыся, шчыра і зусім па-панібрацку смяяўся.

— Мая — знае. Не камісар. Яго бродзь — ваша бродзь.

— Вот падлюга,— пасміхнуўся Бульба.— Усё знае. Але які разведчык! Колькі ён мне коней прыгнаў ад немцаў!

Пайшлі да лясніцтва.

— Ты пытаеш: на якое ліха мне такія сабакі? Я табе скажу — на якое. Ад палка майго, лічы, засталіся ножкі ды рожкі. Я... мае галаварэзы, асабістая гвардыя... ды камітэт, які пагражае расстраляць мяне. Учора адна рота, надзея і апора камітэта, знялася. Усе адразу. Ды яшчэ коней пагналі, сволачы. Скасіць бы сукіных сыноў з кулямёта.

— Лёгка ты косіш.

— Ні храна я не кашу. Каб касіць, трэба мець сілу, а я дагнаў іх удвух з Мустаем. Сцёбнуў нагайкай аднаго, другога. А трэці, бандзюга, з вінтоўкі ў мяне пальнуў. Бачыш, папаха прабіта? Але коней я ўсё ж вярнуў.

Бульба быў у сялянскім кажуху, але ў генеральскай папасе з чырвоным верхам і з чырвонай стужкай наўскось. Ніякай прабоіны не было відно. Бульба або «заліваў» — гэта ён добра ўмеў, або забыўся, што папаха на ім другая. Стрэліць па ім, безумоўна, маглі, калі ён

сцёбнуў нагайкай. Цяпер салдаты не даруюць такіх замашак. Багуновічу даўно хацелася сказаць сябру, каб не занадта даваў волю свайму анархізму.

— Наскочыш ты калі-небудзь...

— На што? На кулю? Падумаеш, спалохаў! Мяне асуджалі да пятлі, да кулі... А я замоўлены. За мяне мама моліцца.

— Дык навошта табе сабакі?

— А-а, сабакі. Скажу... Салдаты — да баб, да зямлі, якую мы далі ім...

— Хто — мы?

— Бальшавікі ўзялі нашу, эсэраўскую, зямельную праграму. Сам Ленін прызнаў...

— Праграмы ўсе пісалі — дай бог якія. Галава кружылася.

— Не заганяй мяне ў цянёты палітычнай спрэчкі. Я сам добра ведаю, што мы дзярмо. І правыя, і левыя. Ва ўсёй партыі эсэраў ёсць толькі адзін сапраўдны чалавек. Гэта — я.

— Здзіўляе твая сціпласць.

Бульба засмяяўся.

— Але куды падацца такому чалавеку ў гэты час разброду і хістанняў? За ротай у тыл? Не. Мала я розных гадаў адаслаў у тартарары. Я з'явіўся на свет, каб ачысціць яго ад поскудзі... Такая мая місія. Дык вось сабакі... Я набіраю атрад... партызанскі... добраахвотнікаў. Як Дзяніс Давыдаў. З ім перайду ў нямецкі тыл і добра паганяю тэўтонскую сволач. Выпушчу кроў кайзераўскім сабакам.

Яны дайшлі да ганка. Багуновіч ступіў ужо на ўсходцы. Пры гэтых словах рэзка павярнуўся, схапіў Бульбу за плячо, праткнуў пальцы ў дзірку кажуха, ірвануў за воўну.

— Ты — што? Не разумееш, што гэта правакацыя? Ты хочаш сарваць перамір'е? Мір?

— А ты так баішся ваяваць?

— Баюся!

— Абабіўся ты, брат. «Одну ночь с ней провозился — сам наутро бабой стал». А мне з бабамі няма чаго рабіць! — Бульба вырваў плячо, адступіў ад ганка, здалося, гатовы плюнуць і пайсці здзяйсняць сваю задуму.

Багуновіч, вышэйшы ростам, ды яшчэ стоячы на ганку, глядзеў зверху на нізкарослага, але каранастага, на дзіва ўчэпістага — у зямлю ўчэпістага, як чапляецца за яе лугавы дуб-адзіночка,— чалавека, які даўно захапляў, а цяпер страшыў. Твар яго, шэры, размякчаны ад перапою ці замілавання сабакамі, раптам стаў валявы, рашучы, злосны, ажно пабялелі вочы.

— Назар! Я мушу данесці штабу фронту!

— Пляваў я на твой штаб! І на цябе! Даносчыкі! Навучыліся даносы пісаць. Ні храна ў бальшавікоў не атрымаецца, калі яны будуць гарнуць да сябе такіх слюнцяеў, як ты! Я такіх вешаў бы!

Багуновіч таксама быў закіпеў, але якраз апошнія Бульбавы словы — пра павешанне — неяк дзіўна ўтаймавалі, нагадалі, дзеля чаго ён прыскакаў сюды. А з-за чаго яны разышліся? Як неразумныя хлапчукі. Як задзірыстыя пеўні. Хіба ён не чуў раней, як Бульба за гадзіну-дзве мог «выдаць» не адзін самыневерагодны пражэкт? Так, пэўна, і з атрадам гэтым. Зганяе чалавек злосць за ўчарашняе паражэнне сваё ў баталіі з дэзерцірамі.

Спытаў лагодна, з усмешкай:

— У каго ты навучыўся вешаць, народнік? У Мікалая Другога?

Бульба не пакрыўдзіўся — нечакана таксама засмяяўся.

— Не бойся. Цябе я не павесіў бы. Збяднее свет без такіх ідэалістаў, як ты. Ды і сумна будзе без дурняў. Чалавецтву патрэбны ідэалісты і... Ладна, прабач.

Памірыліся. Увайшлі ў тую ж паляўнічую залу, якая не здалася ўжо такой прыгожай і ўтульнай, як у навагодні вечар. У ёй відны былі сляды ўчарашняга балю: брудны посуд, недакуркі, шампуры на падпаленых і запляваных мядзведжых і воўчых шкурах. І было холадна. Не палілі ці выстудзілі?

Багуновіч падумаў, што, відаць, дэмабілізаваў сябе верны служка Бульбы, зямляк, чарнігаўскі селянін, хітры, немалады ўжо хахол, але надзвычай гаспадарлівы — усё ўмеў. Пры ім ніколі не было такога гармідару.

Бульба паморшчыўся і вылаяўся.

— Быдла!

Багуновічу хацелася сказаць, што калі эсэр так лае салдат, то выдае гэтым панскія замашкі куды горшыя, чым тыя, якія часам праяўляюцца ў яго і за якія Назар сячэ яго па вачах. Але пабаяўся, каб гаспадар зноў не разгневаўся. Бульбу бывае цяжка зразумець.

— Дзе твой Грыцук?

Бульба пыхцеў, як паравоз, перасоўваючы цяжкія крэслы, каб паставіць іх на месца і навесці хоць які парадак. Адказаў не адразу і вельмі злосна:

— Ты ведаеш, на чым пагараць бальшавікі? На тым жа зямельным дэкрэце. Я пераконваюся: аддаваць зямлю, усю і адразу, мужыкам нельга было. Цяпер іх не ўтрымаеш ні ў якай арміі, А без арміі... Якая ўлада без арміі? Запануе анархія. Кожны будзе — як я: што хачу — тое і малачу.

Але, не ўтрымалі Грыцука ні каньякі французскія, якія ён піў разам з Бульбай, ні смажаніна з дзічыны, рэшткі якой засталіся на шампурах. Уцёк Грыцук у свае Рэпкі, да зямлі, да дзяцей.

Думкі, накшталт тых, што выказаў Бульба, з'ўляліся і ў Багуновіча, яму таксама рабілася страшна ад развалу арміі, але адносіўся ён да салдат, што пакідалі фронт, інакш. Ва ўсялякім разе, нагайкай не пачаў бы сцёбаць, а тым больш страляць. Па сабе ведаў, як абрыдла вайна, акопнае жыццё, як хочацца самага звычайнага чалавечага жыцця.

Сказаў пра гэта Бульбе:

— Слухай, Назар. Табе хочацца проста жыць? Каб працаваць. Кахаць. Гадаваць дзяцей.

Бульба паглядзеў на яго і іранічна свіснуў:

— Не, не хочацца. Я табе казаў, дзеля чаго я з'явіўся на свет.

— Здзіўляюся.

— Здзіўляйся, чорт з табой. Я і жыву дзеля таго, каб здзіўляць абывацеляў.

Не, лепш яго не чапаць,

— Зараз запалім камін. І забудзем хоць на міг на

ўсе праблемы рэвалюцыі.

— Я не магу, Назар.

— Забыць? Не забывай, пакуль я цябе не напаю да свінскага стану...

Багуновіч сказаў, што прымусіла яго прыехаць да сябра. Гаварыў і баяўся, каб Бульба не пачаў здзекавацца з яго кахання, з яго трывогі за Мірына здароўе.

— Не, слухаў моўчкі. Толькі зноў зрабіўся пануры і з выгляду — да жалю адзінокі.

Пайшоў сам у пограб і свірны шукаць прысмакі. Прынёс мёд і замарожаны кумпяк аленя. Масла? Паабяцаў, што сам прывязе, калі не сёння ўвечары, то заўтра абавязкова. Такія нечаканыя клопаты дзіўна ўзбадзёрылі яго і неяк перайначылі, не было больш ні грубасцей, ні насмешак, зрабіўся сур'ёзны, па-сяброўску ўважлівы. Праводзячы Багуновіча, проста, неяк нават па-жаночаму, раіў:

— Ты ёй булён з аленіны звары. Дзічына — гэта лепш за ўсе лякарствы свету. Жывёлы, брат, яны мудрэйшыя за нас, ёлупаў цара нябеснага, знаюць, якія травы есці, каб не хварэць ні запаленнямі, ні хандрой.

Прыехалі знаёміцца новыя суседзі з Петраградскага палка Чырвонай Арміі. Пастушэнка не выдумаў: суседзі сапраўды называлі сябе так.

Багуновіч спачатку пажартаваў наконт арміі. А пасля, едучы ад Бульбы, думаў пра дзве арміі і ў бяссонную ноч — вельмі ж паліла Міру, ён сядзеў каля яе і, калі яна засынала, зноў думаў. Такое раздзяленне суседніх палкоў — полк старой арміі і полк новай — чамусьці абражала яго. Не пазнаёміўшыся яшчэ з суседзямі, ён настроіў сябе супраць іх.

Раніцой Міры стала лепш. Аднак ён пазваніў са станцыі Пастушэнку, што не з'явіцца ў штаб, будзе пры хворай. Нічым іншым займацца не хацелася.

А ў поўдзень прыскакаў веставы з запіскай ад Сцяпанава; суседзі хочуць пазнаёміцца з камандзірам.

Знарок пайшоў пехатой, каб не лічылі, што спяшаўся на іх выклік. Ды і хацелася астыць, падумаць, як паводзіць сябе; пасля бяссоннай ночы галава была чыгунная, балела патыліца. Не захварэць бы самому.

Прагулка па добрым марозе ўзбадзёрыла, зняла галаўны боль.

Камандзір Петраградскага палка — Іван Філарэтавіч Чарназёмаў — мужчына-асілак гадоў сарака пяці, з густымі бровамі, чорнымі валасамі, абсыпанымі інеем першай сівізны, з добрым сялянскім тварам, пабітым не воспай, а як бы іскрамі металу ці вугалю — так і ўеліся ў скуру цёмныя крапіны.

Багуновічу, калі пацiснуў яго дужую шурпатую руку, сапраўды здалося, што ад чалавека гэтага пахне гарачым металам і цёплым чарназёмам.

Відаць, ужо ён распытаў пра Багуновіча, бо паціскаў руку доўга, з добрай усмешкай, хоць з некаторай паблажлівасцю старэйшага.

Багуновічу ўвогуле камандзір спадабаўся. Каб ён прыехаў адзін, пэўна, яны сышліся б лягчэй. Але Чарназёмаў, як генерал, прывёз цэлую світу — ажно сем чалавек з ім. Да таго ж паблажлівая дабрыня — усмешка бацькі сыну — закранула самалюбства маладога камандзіра палка, нервова ўзбуджанага хваробай каханай і цяжкімі думкамі пра вайну.

«У чым твая перавага? — падумаў Багуновіч.— Што ты ўмееш каваць, а я не ўмею?» — чамусьці адразу вызначыў, што Чарназёмаў каваль, і, жадаючы паставіць яго на месца, ва ўпор спытаў пра гэта:

— Вы кавалём не рабілі, таварыш камандзір?

Чарназёмаў засмяяўся.

— А вока ў цябе, Сяргей Валянцінавіч, вострае. Малатабойцам быў. Кавалём. Механікам. Кім я ні быў! — і пачаў прадстаўляць сваю світу. Першага камісара: — Таварыш Скулань мог быць капітанам карабля, але рана трапіў на катаргу. Застаўся без прафесіі. Затое добра вывучыў азбуку марксізму.

Латыш гаварыў з моцным акцэнтам, гэта, пэўна, яго бянтэжыла, таму ён больш маўчаў, пакуль гаварылі іншыя, а калі што і казаў, то каротка, і фразы былі залішне простыя, правільныя для рускай мовы, багатай на адценні.

Весела каваль прадстаўляў сваіх таварышаў.

— Камандзір другога батальёна Сцяпан Гарчакоў. Не з князёў Гарчаковых. З пскоўскіх дзякоў. Але, не ў прыклад бацьку свайму, не ладзіў Сцёпа з богам, за што з гневам божым і сінодскім быў выстаўлены з духоўнай семінарыі і высланы памагаць паморам лавіць рыбу. Вялікі рабылоў! Хлебам не кармі — дай павудзіць рыбку.

Камандзіры гэтак жа весела пасміхаліся з такога прадстаўлення.

— Саша Сухін. Бач, як сугучна падабраў імя і прозвішча! — Чарназёмаў раптам характэрна заокаў: — Ніжненоўгародскі мукомол. Командзір першага. Між іншым, таксама піцерскі каваль. Адны кавалі. А пра каваля ты, Багуновіч, сказаў не таму, што ў цябе вока вострае. А каб напомніць нам: я афіцэр, франтавік. А вы хто? Кавалі.

Багуновіч ажно збянтэжыўся: во гэта праніклівасць!

— Што вы!

— Нічога, мы не крыўдуем. Але ты ведай: у Чырвонай Арміі палкамі будуць камандаваць кавалі.

Багуновічу моцна хацелася запярэчыць, што асабіста ён не верыць у армію без адукаваных афіцэраў. Але, хоць і настройваў сябе быць незалежным, дзёрзкім, сказаць гэтага не адважыўся. Адчуў, што Чарназёмаў палоніць сваім розумам і аўтарытэтам. Ды і Сцяпанаў, старшыня салдацкага камітэта, бачна па ім, ужо ўвесь пад уплывам гасцей, ажно зарумяніліся яго жоўтыя сухотныя шчокі. Сцяпанава можна зразумець: у гасцях — піцерцы, бальшавікі. А яму, беспартыйнаму, чаго «здымаць шапку» перад імі?

Багуновіч быў незадаволены сабой і раздражняўся на клопаты Пастушэнкі: палкоўніку хацелася напаіць гасцей чаем.

Селі за доўгі штабны стол.

Багуновіч сам прыбраў аператыўныя карты, зноў-такі не без дэманстрацыі — маўляў: чытаць вам іх без патрэбы, ды і наўрад ці ўмее хто з вас «чытаць» карту. Але гэта, здаецца, не заўважыў нават Чарназёмаў, чаму Сяргей пасля парадаваўся. Аднак усё роўна яму

хацелася... ну, калі не ўзяць рэванш за сваё паражэнне, то хаця б вярнуць сабе ролю гаспадара. Спытаў з яўным выклікам:

— Што ў Піцеры? Усё яшчэ расказваюць байкі пра блізкі мір?

— Чаму байкі? — насцярожыўся латыш.

Іншыя таксама насцярожыліся. Чарназёмаў глядзеў сваімі цыганскімі вачамі пранікліва, твар яго быў сур'ёзны, але вочы, здалося Сяргею, іранічна пасміхаліся, як вочы бацькі з неразумнай упартасці сына. Гэта выводзіла з раўнавагі, злавала.

— То чаму ж яго не падпісваюць? Цяжка памачыць пяро ў чарніла? Чаму прысылаюць на фронт свежыя часці? У парушэнне ўмоў перамір'я...

— А вы што — хочаце адкрыць фронт перад немцамі? Чым вы маглі заткнуць дзіркі, якія нарабілі? — знешне ветліва, але з нейкай унутранай непрыязню спытаў Гарчакоў.— У імперыялістаў воўчыя звычкі...

— Пачакай, Сцяпан,— перапыніў яго Чарназёмаў.— Давай спачатку высветлім пазіцыі,— і да Багуновіча: — З-за тваёй злосці я не зразумеў, за што ты — за вайну ці за мір?

— Я? Я сыты вайной во так! — Багуновіч секануў далоняй па шыі.

— Значыцца, мы аднадумцы. Хоць не ўсе... Сухін у нас за рэвалюцыйную вайну. І ў партыі такіх гарачых галоў нямала...

— Яны ваявалі, гэтыя гарачыя?

— Цяпер я зусім паверыў, што ты за мір. Дык ведай жа: Ленін за мір. Правадыр пралетарыяту настойліва дамагаецца яго падпісання.

— Але партыя ў нас дэмакратычная,— сказаў латыш.

— У вайне трэба не галасаваць, а дзейнічаць.

— Ты глядзі, які ён малайчына! — пахваліў Чарназёмаў.— У Піцер бы яго, да нашых «левых». Няхай бы пачулі думку франтавіка. Слухай, Саша.

Але пахвала такая зноў закранула самалюбства: хваляць, як хлапчука. Сяргей секануў:

— Няхай палітыканы займаюцца балбатнёй. А я думаю: чым салдат накарміць?

— Добры хлопец. Але адукоўваеш, Сцяпанаў, яго слаба. Бальшавікі не балбочуць. Яны дзейнічаюць. Прызнай: з'яўленне нашага і іншых палкоў — гэта не словы. Ты што ж думаеш? Калі мы падпісалі перамір'е, то можна, як таму гогалеўскаму герою, разявіць рот і чакаць, калі варэнік сам заляціць у рот? Не, брат.

Ого! А каваль адукаваны — Гогаля ведае.

— Шэсць дзён назад наш баявы атрад... ён стаў палком... праводзіў на фронт таварыш Ленін...— пачаў латыш.

— Сам Ленін? — усміхнуўся Багуновіч.

— Не чытаеш ты, паручнік, газет. Бальшавіцкіх,— зноў папракнуў Чарназёмаў.

Сказаць, што газеты пасля з'яўлення Міры ён чытае ўважліва, Багуновіч не мог. Выказаў папрок франтавому беспарадку:

— Нам лягчэй дастаць нямецкія газеты, чым атрымаць свае.

— Вы чытаеце па-нямецку? — як бы з падазронасцю спытаў Гарчакоў.

— На жаль, не,— і паглядзеў на Сцяпанава. Той змаўчаў. Сяргей у думках падзякаваў старшыні камітэта, што не сказаў пра Міру, якая чытае ўсім ім нямецкія газеты.

Латыш цярпліва пачакаў, пакуль яны перакінуліся гэтымі фразамі, і прадоўжыў:

— Таварыш Ленін выступіў перад нашым атрадам,— але тут жа паправіў сябе: — перад нашым палком... Таварыш Ленін сказаў: мір мы падпішам абавязкова. Але, так сказаў таварыш Ленін. І яшчэ сказаў: чырвонаармейцы — баявы атрад пралетарыяту Піцера — павінны падняць дух... у каго аслаб дух. «Затыкаць дзіркі» — няправільна сказаў таварыш Гарчакоў.

— Мы павінны замяніць часці, якія страцілі баяздольнасць,— дапоўніў Чарназёмаў.

— Гэта правільна. Так гаварыў таварыш Ленін.

Багуновіч падумаў пра суседа злева — пра полк

Бульбы, дзе сапраўды ўтварылася дзірка, пустата на некалькі кіламетраў шырынёй, прыкрытая хіба што заснежаным лесам, дзе амаль няма дарог, гэта адзінае, што можа перашкодзіць немцам зайсці ў тыл яго палку. Сказаць ім пра гэта? Не. Атрымаецца, што ён як бы даносіць на прадстаўніка партыі эсэраў, якіх бальшавікі не любяць. Ён так і не адважыўся спытаць у Бульбы: які ён эсэр — правы, левы? Назар «скланяе» аднолькава і тых, і тых, называе балбатунамі. Учора ён прывёз масла і доўга весяліў Міру яўна выдуманымі знарок для яе гісторыямі, у якія ён нібыта трапляў і апынаўся заўсёды ў смешным становішчы. Не саромеўся пасмяяцца з самога сябе. Не, Бульбу ён будзе абараняць, калі спатрэбіцца!

Аднак гэтых людзей не назавеш балбатунамі. Яны сапраўды дзейнічаюць. Латыш сказаў Сцяпанаву:

— Мы прышлём табе агітатараў... падняць дух...

Багуновіч не быў супраць агітатараў, ён верыў у сілу

слова. Бальшавіцкага. Так заўсёды папраўляла яго Міра. Цяпер, калі яна хворая, ды і Сцяпанаў адчувае сябе не лепшым чынам,— добрыя агітатары будуць дарэчы. Але ў ім усё яшчэ бушаваў маленькі чорцік пратэсту.

— Вы нам хлеб прышліце...

Чарназёмаў свіснуў.

— Ты бач, чаго захацеў! Мы ў цябе хацелі пазычыць. Ты знаеш, як жыве пралетарыят Петраграда, Масквы? Па колькі рабочы атрымоўвае хлеба...

Багуновіч гэта ведаў, і яму ўпершыню за ўсю размову зрабілася сорамна.

— Каб не тутэйшыя сяляне, мы таксама галадалі б.

— Рэквізуеце?

— Не, просім. Вымольваем.

Чарназёмаў засмяяўся.

— Харошы ты камандзір, Багуновіч. Каб цябе палітычна адукаваць...

— Магу вас расчараваць: мяне ніколькі не вабіць ваенная кар'ера.

— Шкада,— зусім шчыра сказаў прыхільнік «рэвалюцыйнай вайны» Сухін, які дагэтуль маўчаў, але так уважліва вывучаў Багуновіча, што таму ад яго позіркаў рабілася ажно ніякавата.

— Во, бачыш! Нават Саша цябе палюбіў. А ён буржуяў гэтых...

— Я не буржуй!

— Прабач.

Пастушэнка з дапамогай днявальнага падаў чай: па кубку кіпню, заваранага ліпавымі кветкамі і малінай — пах пайшоў царскі,— па скібцы хлеба і маленькім драбку цукру.

— Ты глядзі, як яны багата жывуць! — пажартаваў Чарназёмаў. Жарт яго прынялі і гаспадары, і госці. За чаем размова ішла спакойная, лагодная, сяброўская — пра марозы, пра сялян, пра немцаў — як вядуць сябе пад час перамір'я.

Выпіўшы свой кубак чаю, Чарназёмаў сказаў:

— А цяпер, гаспадар, пакажы нам пазіцыі палка.

— Гэта што — інспекцыя?

— Ну і гонару ў цябе! Мы павучыцца хочам, дзівак.

Падхапіўся стары Пастушэнка.

— Калі ласка, таварышы.

Багуновічу здалося, што стары палкоўнік нечаму вельмі ўзрадаваны. Не мог дацяміць — што яго радуе?

Госці прыехалі на дваіх санях. На гэтых санях паехалі на пазіцыі батальёнаў. З імі Багуновіч і Пастушэнка. Сцяпанава не ўзялі: на марозе страшна кашляе, задыхаецца чалавек.

Багуновіч раптам адчуў, што ён хвалюецца, што так не хваляваўся ўжо даўно. Як перад інспекцыйнай праверкай. Некалі, у пятнаццатым годзе, ён страшна перахваляваўся, калі стала вядома, што полк іх наведае вярхоўны — вялікі князь Мікалай Мікалаевіч. Ён не спаў колькі начэй. Марыў: вялікі князь прыйдзе на пазіцыі яго ўзвода і пахваліць яго, камандзіра, ці можа нават начэпіць афіцэрскага Георгія. Але тут жа апаноўваў страх: а раптам нешта не так? Высокае начальства, цэлая світа генералаў, можа ўбачыць тое, чаго сам ты ніколі не ўбачыш, хоць два тыдні ўжо дзень і ноч рыхтуешся да такога высокага агляду.

Тады ён быў жаўтароты прапаршчык, з яго яшчэ не выветрыўся чад ура-патрыятызму.

Вярхоўны наведаў полк, але на перадавой не з'явіўся. З такой інспекцыі ліберальныя афіцэры пасля кпілі. А ён, калі працверазеў, расказваў пра свае мары і страхі з бязлітаснай да сябе і са злоснай у адносінах да дзядзькі цара іроніяй.

І раптам цяпер, пасля рэвалюцыі, калі ён даўно вызваліўся ад любых ілюзій наконт уласнага лёсу,— амаль такое ж хваляванне. Перад кім? Перад кавалямі. Пасля, у размове з Мірай, згадзіўся з яе думкай: таму і хваляваўся, што інспекцыю праводзілі не генералы, а кавалі — камандзіры пралетарскага палка.

А ў дарозе, пакуль ехалі за станцыю, на пазіцыі другога батальёна, дзе пярэдняя лінія была за чвэрць вярсты ад нямецкіх акопаў, моцна злаваўся — на самога сябе. І на Пастушэнку — за тое, што стары сапраўды такі быццам радаваўся гэтай паездцы і зрабіўся ненатуральна гаваркі — расказваў гасцям усе падрабязнасці, што датычыліся размяшчэння палка, асаблівасці пазіцый перад кожным батальёнам, выказваў меркаванні аб сілах праціўніка. У ацэнцы гэтых сіл у Багуновіча былі прыкметныя разыходжанні з начальнікам штаба: лічыў, што агнявая магутнасць немцаў большая. Але аспрэчваць яго не стаў. Згадзіўся: няхай палкоўнік расказвае і далей, у яго палкавы маштаб і непараўнальна большы вопыт камандавання.

Аднак хваляванне не ўтаймоўвалася. Нікога ж не папярэдзілі, таму, безумоўна, была боязь, што ў бліндажах першай лініі не будзе салдат — як пад Новы год, калі яны з Мірай ішлі ад немцаў.

На яго здзіўленне, якое перарасло ў радасць (чаму ён супраціўляўся і ўнутрана фыркаў на гэтае нечаканае пачуццё?), людзей у бліндажах было больш, чым трэба. Тыя салдаты, што знаходзіліся ў

ахове, у караўле, мелі добрую баявую форму, хады зносін, стралковыя і кулямётныя гнёзды былі ачышчаны ад снегу.

Салдаты віталі камандзіра палка, начальніка штаба і гасцей з рэвалюцыйнай стрыманасцю — не цягнуліся ў струнку, не елі вачамі, але па вайсковай форме. Адказвалі гэтак жа — стрымана, але ветліва і па статуту.

У першым бліндажы камандзір узвода унтэр Бураў закамандаваў:

— Устаць! Смірна!— і далажыў: — Таварыш камандзір палка! Першы ўзвод другой лінейнай роты нясе ахову баявога ўчастка ад чыгункі да вышыні сто дванаццаць. На ўчастку ўсё спакойна. Прыходзілі нямецкія салдаты, трое, каб выменяць боты на махорку. Махорку далі...

— Але і боты ўзялі? — іранічна спытаў Багуновіч.

Унтэр вінавата пашкроб патыліцу.

— У той раз мы аднаго з іх у валёнкі абулі, адмарозіў герман ногі,— сказаў стары салдат, каб апраўдаць узвод.

— Во — пралетарская салідарнасць! — павучальна адказаў латыш.

Багуновіч слухаў тлумачэнні Пастушэнкі, а глядзеў на салдат, думаў пра іх лёс і адчуваў новы прыліў удзячнасці ім.

Калі выйшлі з бліндажа, малады Сухін, знешне маўклівы, але на самай справе даволі бурны, хмыкнуў:

— А парадачкі ў іх тут яшчэ царскія.

— Парадкі ваенныя,— асек яго Чарназёмаў. Камандзір рабочага палка слухаў тлумачэнні ўважліва, унікаў ва ўсе дэталі акопнабліндажнай тэхнікі, аховы пярэдняй лініі, арганізацыі абароны на выпадак, калі ваенныя дзеянні раптам маглі ўзнавіцца. Не саромеўся паказаць, што сапраўды вучыцца, а не інспектуе. Нават неяк палагаднеў, падабрэў, звяртаўся да Багуновіча з большай павагай, ва ўсялякім разе, ужо без крыўднай для Сяргея паблажлівасці старэйшага.

Ад гэтага ці, хутчэй, ад парадку ў батальёне лагаднеў і Багуновіч. Адмовіўся ад своеасаблівага пратэсту: няхай расказвае Пастушэнка. Пачаў ахвотна адказваць на пытанні гасцей. Не звяртаў асаблівай увагі на ўедлівыя заўвагі Сухіна. Пашкадаваў, што вечарэе і ён не можа паказаць гасцям яшчэ адну баявую часць, да якой меў дачыненне,— мясцовы чырвонагвардзейскі атрад Рудкоўскага: разышліся сяляне па хатах. Другім разам абавязкова пакажа.

Пад канец паездкі Багуновіч сказаў Чарназёмаву:

— А цяпер я хацеў бы пазнаёміцца з вашым палком.

Чарназёмаў і латыш пераглянуліся.

— Па вайсковай часці павучыцца ў нас яшчэ няма чаму. А павучыць вы нас можаце. Таму — калі ласка просім. Калі? Заўтра?

— Заўтра.

— У нас ёсць два дзесяткі вёрст палявога дроту Мы хацелі б устанавіць тэлефонную сувязь з вашым штабам.

Гэтаму і Багуновіч, і Пастушэнка ўзрадаваліся асабліва: адарванасць ад правага суседа — палка іншай дывізіі — іх заўсёды моцна трывожыла, яны добра ведалі, што стыкі армій, дывізій — тыя слабыя месцы, па якіх немцы на працягу вайны наносілі ўдары.

Немцаў, як ён сам казаў, Багуновіч адчуваў скурай. Пакуль ездзілі ўздоўж лініі фронту, магчыма, ён адзін убачыў, як бліскалі на сонцы нямецкія біноклі. Не адзін. Некалькі. Ці не замнога пад час перамір'я на невялічкім участку бінокляў? За кім і за чым яны сочаць? Ад такой думкі зрабілася трывожна на сэрцы.

4

Міры зноў стала горш, уначы яна трызніла, і Багуновічу не хацелася ехаць да суседзяў. Але не паехаць было няёмка — сам напрасіўся. Безумоўна, можна паслаць веставога з прабачэннем, нейкую прычыну можна выдумаць. Але яшчэ ўчора, калі развіталіся з гасцямі і пасля абмяркоўвалі нечаканую падзею дня, убачыў, што паехаць у першы полк новай арміі хочацца не толькі яму, але і Сцяпанаву, і Пастушэнку. Ды і Міра загарэлася гэтай ідэяй і цэлы вечар хваліла яго жаданне наведаць суседзяў, вельмі шкадавала, што хвароба не дазваляе ёй паехаць разам з імі, ачуняе — адразу паедзе. Гэта ж не хто-небудзь, не сяляне, апранутыя ў шынялі,— петраградскія пралетарыі, добраахвотнікі! Там, напэўна, не жменька, як у іх палку, партыйцаў-бальшавікоў, а добрага паўпалка. Раніцой яна і слухаць не захацела, што ён адкладзе паездку.

— Што ты выдумаў? Якое трызненне? Гэта я ў сне гаварыла. Мама казала, што я заўсёды гавару ў сне. Цікава, на якой мове я гавару ў сне? Часта сню, што гавару па-нямецку. Дзіўна. Неяк сніла, што я з табой гаварыла па-нямецку. А ты не разумеў, ты адказваў па-французску. Мне было страшна. Я ніяк не магла ўцяміць, чаму нам не гаварыць па-руску, каб мы разумелі адно аднаго. Сасніш жа такую бязглуздзіцу!

Сяргей папрасіў гаспадыню паглядзець хворую. Альжбета пакрыўдзілася.

— Пане паручнік, няўжо ж вы думаеце, што мы з Юстынай пакінем хворае дзіця? Як вам не сорамна! За каго вы нас лічыце? А яшчэ такі жэчны пан!

Але ад крыўды яе зрабілася хораша на душы. Заспакоены Багуновіч паехаў у штаб.

Толькі развідняла. Наваколле ахутваў марозны туман. Здаецца, трохі пацяплела, але ад туману такога было вельмі золка, не ратаваў і кажух. Здавалася, туман лез нават у боты, ногі вельмі хутка замерзлі.

Пастушэнка і Сцяпанаў былі ўжо апранутыя. Чакалі яго.

Пятро Пятровіч прапанаваў, што нядрэнна было б суседзям падарыць што-небудзь сімвалічнае. Як кажуць, на добрую дружбу. Пачалі думаць, што можна падарыць. Ды стары палкоўнік, відаць, усё прадумаў ужо: дастаў з шуфляды стала трафейны браўнінг. Браўнінг, пэўна, належаў высокаму нямецкаму чыну: ручка інкруставаная, на адным баку яе — вензель кайзера Вільгельма. Ці не сам кайзер дарыў яго свайму генералу?

Сцяпанаву падарунак не спадабаўся — не той сімвал: змагаемся за ажыццяўленне Дэкрэта аб міры, а дорым зброю, ды яшчэ нямецкую.

Багуновіч раней не бачыў гэтага браўнінга. Наўрад ці ён быў на складзе; там хавалася нямала трафейнай зброі — полк неаднойчы рабіў паспяховыя атакі. Але такую «цацку» даўно ўкралі б. Хутчэй за ўсё браўнінг належаў Пастушэнку, можа, сам некалі захапіў ці яму падарылі. Але палкоўнік ніколі не хваліўся такой рэччу і цяпер, відаць было па ім, ахвотна згаджаўся пазбавіцца ад яе. Багуновіч узяў браўнінг, з цікавасцю пачаў разглядаць.

— Класная штучка.

Пастушэнка папярэдзіў:

— Асцярожна. Зараджаны.

У гэты міг зазумерыў тэлефонны апарат.

Сувязь у штабе палка была мізэрная — не хапала дроту: толькі з дальнім трэцім батальёнам, з батарэяй гаўбіц і са станцыяй, дзе сядзеў ваенны тэлеграфіст.

Сігнал падаў апарат сувязі з батарэяй.

Пастушэнка ўзяў трубку. Слухаў — і твар яго прык метна бялеў. Не адрываючы трубку, сумна сказаў:

— Уначы зніклі дзве гаўбіцы. З запрэжкамі. Сляды вядуць на нямецкі бок. Знік прапаршчык Межань... з двума батарэйцамі.

Прадалі, сукіны сыны, гаўбіцы!

Багуновіч з браўнінгам у руцэ кінуўся да дзвярэй. Сігнуў з другога паверха флігеля па драўлянай лесвіцы так, што зазвінелі не толькі застылыя шыбы, але і бляха на даху. Ажно спалохана адскочылі ад яго коні. Ды лейцы былі прывязаны да ліпы. Салдат, які павінен

быў везці іх да суседзяў, недзе грэўся, пакуль камандзіры збіраліся. Багуновіч сунуў браўнінг у кішэню ка жуха і пачаў адвязваць лейцы.

Рукі калаціліся, не адразу ўправіўся з простым вузлом на лейцах. Гэта дало Пастушэнку час дабегчы да саней. Ведаючы, што спыніць камандзіра немагчыма, мудры стары адразу кулём паваліўся ў сані, на духмянае сена.

Багуновіч адвязаў лейцы, ускочыў у перадок саней, ударыў лейцамі па конях, галёкнуў на ўвесь парк. Каля аборы ледзь не збілі жанчыну з вёдрамі.

Пастушэнка не мог сцяміць, што надумаў Багуновіч, куды ён так апантана ляціць. Думае дагнаць камандзіра батарэі? Злаві вецер у полі. Толькі б ён, гарачая галава, не надумаўся ехаць да немцаў, выручаць гаўбіцы. Абсурд. Ганьба. Уніжэнне перад ворагам.

— Сяргей Валянцінавіч, голубе, што вы надумалі? Не трэба, прашу вас.

— За гаўбіцы я з яго душу вытрасу!

— З каго? З Межаня? Дзе вы яго знойдзеце?

У адказ Багуновіч злосна сцёбнуў па конях, быццам яны былі вінаватыя.

Не, да пярэдняга краю ён не паехаў. І дарогу, што вяла на батарэю, мінуў. Гнаў па сяле, у бок мястэчка.

Тады Пастушэнка зразумеў, куды камандзір едзе. На станцыю. Не на сваю. На гэтую станцыю з нямецкай назвай — па маёнтку,— якая была ўсяго за паўтары вярсты ад пярэдняга краю, паязды не прыходзілі, зрэдку ўночы праганялі колькі вагонаў. Прыфрантавой станцыяй сталі Пальчаны — за дзесяць вёрст у тыле іх палка. Там ішла разгрузка і пагрузка вайсковых эшалонаў. Туды цякла плынь сама дэмабілізаваных па меншай меры з пазіцый трох дывізій, каб ехаць на ўсход у любых вагонах — абы ехаць, не ісці пехатою. Двух камендантаў станцыі там ужо застрэлілі: капітана, назначанага яшчэ пры Керанскім, і новага, бальшавіка-матроса, які не спрабаваў вярнуць дэзерціраў назад у часці, не, толькі хацеў надаць стыхіі нейкі лад, узаконіць дэмабілізацыю. З таго часу на станцыі панавала анархія, там амаль адкрыта рабавалі вагоны, якія прыходзілі для франтавых часцей. Калі тыдні тры назад атрымалі тэлеграму са штаба тылу фронту, што палку пасланы вагон мукі, а вагон гэты знайшлі пусты, Багуновіч ірваўся сваімі сіламі навесці на станцыі парадак. Яго адгаварылі Пастушэнка, Сцяпанаў, увесь салдацкі камітэт: можа быць кровапраліцце. Ды і невядома, як вытлумачыць вышэйшае вайсковае начальства такое ўмяшанне ў справы не сваёй службы, не ў сваёй зоне.

Цяпер Пастушэнка з жахам уявіў, што можа здарыцца, калі камандзір у такім стане ўскочыць у перапоўненую салдатамі залу станцыі і знойдзе там Межаня. Здаецца, ён сунуў у кішэню браўнінг. Ды і свой рэвальвер пры ім.

— Сяргей Валянцінавіч! Не рабіце глупства.

— Палкоўнік! Вы называеце гэта глупствам? Прадаць немцу гарматы — глупства?

— Я — пра самасуд...

— Я ўсё магу дараваць. Усё. Вы самі называлі мяне талстоўцам. Але самая подлая здрада — прадаць ворагу зброю. Кулацкая морда! Не спыняйце мяне, Пятро Пятровіч! Не спыняйце! Інакш я пушчу кулю сабе ў лоб. Што засталося святое? Што? — і сцёбаў, сцёбаў лейцамі коней. З-пад іх ног ляцелі ледзяшы, выбітыя падковамі, часам балюча білі ў твар. Сані на ўхабах заносіла, ездакоў засыпала снежным пылам. Нічога гэтага Багуновіч не бачыў, не адчуваў. Агонь гневу затуманьваў розум.

Можа, ён не перажываў бы так балюча, каб гэта зрабілі непісьменныя, галодныя салдаты. Нарэшце, і афіцэр... любы з тых, што не прыняў рэвалюцыі, стаў яе ворагам. А гэты ж Межань пасля Лютаўскай рэвалюцыі выдаваў сябе за вялікага рэвалюцыянера, эсэра, крычаў на кожным мітынгу. Пасля Кастрычніка лез у камандзіры палка, эсэры галасавалі за яго, ды бальшавікі не падтрымалі. Сцяпанаў супраць выказаўся: з кулакоў. Мімаволі паверыш, што сутнасць чалавека вызначаецца яго класавай прыналежнасцю. Межань — сын ігуменскага кулака, добрага, відаць, кулака, бо нават бровар свой мае: стары Межань прывозіў на фронт спірт, бочкі спірту. Ці не за спірт недавучку-гімназіста, унтэрыка так хутка ўзвялі ў чын прапаршчыка? Але, Сцяпанаў мае рацыю: кулак ёсць кулак.

— Ну, падлюга, тваё шчасце, калі я не знайду цябе на станцыі!

— Сяргей Валянцінавіч! Богам прашу, астыньце.

Ды просьбы добрага старога не супакойвалі, а яшчэ больш распалялі Багуновіча. Можа, яму самому хацелася супакоіцца, таму лаянкай пачаў выпускаць пару: раптам мацюкнуўся па-акопнаму, па-салдацку, чаго ніколі не дазваляў сабе ў прысутнасці далікатнага Пастушэнкі.

Шчасця ў Межаня не было.

Яны дагналі яго з хаўруснікамі за якія дзве вярсты ад станцыі, на вуліцы невялічкай вёсачкі. Агледзеўшыся на тупат коней, пазнаўшы камандзіра, дэзерціры, усе трое, кінуліся да бліжэйшага двара з высокім парканам. Унтэры шмыгнулі ў брамку. А прапаршчыку, напэўна, «афіцэрскі гонар» перашкодзіў схавацца, як зайцу, ён вы-

рашыў сустрэць небяспеку тварам у твар. Стаяў, прытуліўшыся да шула, рашучы, ваяўнічы.

Багуновіч рэзка развярнуў коней перад дваром, і яны, каб не ўрэзацца ў вароты, уздыбіліся над гандляром гаўбіцамі, але, разумныя, не апусцілі на чалавека сваіх гарачых ад бегу капытоў, развярнуліся яшчэ больш, ламаючы агароджу перад хатай.

Багуновіч саскочыў з саней. Цяпер ён і Межань стаялі за нейкія тры крокі адзін перад адным, тварам у твар, абодва задыханыя, збялелыя.

— Гаўбіцы... Гаўбіцы дзе? Сволач! Застрэлю!

Магчыма, усё магло б скончыцца пагрозай і арыштам, бо браўнінга ў руках Багуновіча не было. Але Межань... Межань першы падняў крысо казацкай бекешы, яўна жадаючы дастаць з кабуры наган. Тады і Багуновіч успомніў пра браўнінг, які быў бліжэй — у кішэні кажуха.

Стары Пастушэнка, скаціўшыся з саней, упаў у снег, таму не паспеў, не мог паспець... спыніць ашалелага ад гневу камандзіра палка. Калі грымнулі стрэлы... адзін... другі, ён абхапіў Багуновіча за плечы, заламаў яго рукі назад.

— Сярожа! Сярожа! Сынок! Не трэба! Галубчык, не трэба...

Межань з вачамі, напоўненымі жудасцю, павольна спаўзаў на снег, сутаргава хапаўся той рукой, што шукала рэвальвер, за шула, стараючыся ўтрымацца на нагах. На белым кажуху, на жываце, расплывалася чорная пляма.

Багуновіч бачыў многа крыві, але свежая, яна заўсёды была алая. Чаму яго кроў чорная? Думка такая прымхліва жахнула. Паслухмяна аддаўшы Пастушэнку браўнінг, ён пайшоў па вуліцы, не бачачы сялян, што нясмела выглядалі з брамак — ка стрэлы. Яго ліхаманіла і ванітавала.

«Людскі тэлеграф» перадае звесткі з няменшай хуткасцю, чым любыя тэхнічныя сродкі, але скажае іх, бадай, горш, чым любыя апараты.

З маёнтка перадалі на станцыю, што камандзіра палка забілі, Баранскаса, які ў вайну страціў брата, бачыў тысячы смерцяў, калі фронт наблізіўся да яго станцыі, такая смерць — забойства салдатамі камандзіра, такога добрага, такога народнага афіцэра, забойства ў час, калі няма ні баёў з немцамі, ні рэвалюцыі,— цяжка ўразіла. Ён доўга не адважваўся пайсці на кватэру. А калі прыйшоў, пані Альжбета адразу ўбачыла па выразу яго твару, што здарылася нешта страшнае.

— Што здарылася, Пятрас? Што? Зноў вайна?

— Забілі пана паручніка.

Юстына, якая была пры гэтым, жахліва войкнула, потым заплакала наўзрыд. Альжбета кінулася да дачкі, прыціснула яе твар да сваіх грудзей, каб заглушыць рыданні, каб іх не пачула за сцяною Міра.

Супакоіўшы трохі Юстыну, забараніўшы ёй і мужу заходзіць да хворай, сама яна, аднак, палічыла сваім мацярынскім абавязкам наведаць Міру. Лічыла, што здолее спакваля падрыхтаваць яе да страшнай весткі, якую раней ці пазней трэба будзе паведаміць, не схаваеш такое.

Але як яна па выразу твару мужа ўбачыла, што прынёс ён страшнае, так і Міра на яе твары прачытала: здарылася жудаснае. Ды толькі ні пра што іншае — ні пра наступленне немцаў, ні пра контррэвалюцыю — яна не падумала. Пра яго аднаго падумала. Падхапілася на ложку.

— Што з ім? Што?

Альжбета не магла гаварыць, спазмы душылі горла, праз туман слёз яна бачыла збялелы Мірын твар і ненатуральна расшыраныя вочы, якія прамянілі такую пакуту, такі боль, што ў маці разрывалася сэрца. О, святы Езус, не дай перажыць такое самой ёй ці дачцэ яе!

— Ды скажыце ж вы! — у роспачы закрычала Міра.

Альжбета наблізілася, паспрабавала абняць дзяўчыну.

— Мужайся, дзіця маё.

Міра вызвалілася з абдымкаў, саскочыла з ложка, похапкі пачала адзявацца і толькі ўтрапёна паўтарала адно і тое ж пытанне:

— Дзе? Дзе ён? Дзе ён?

Альжбета не ведала, дзе ён. Паспрабавала стрымаць Міру, хоць добра разумела, што стрымаць немагчыма, што і сама яна, якой бы хворай ні была, вось гэтак жа кінулася б туды, дзе ён, каб знаць, што з ім.

Міра не чула ніякіх слоў, якімі жанчына спрабавала суцешыць ці супакоіць яе. Альжбета памагла ёй апрануцца. Але ж хіба можна адпусціць адну, такую аслабелую, з такім горам? Яшчэ ўпадзе на дарозе.

Марознае паветра разанула хворыя лёгкія, быццам прашыла іх кулямётнай чаргой. Міра задыхнулася. Яе павяло ўбок. Перад вачамі паплылі жоўта-зялёныя кругі. Няўжо ў яе няма сілы ісці? І яна ніколі ўжо не ўбачыць яго? Яшчэ большы страх апанаваў яе: ёй не хацелася верыць у смерць, яна ні разу не сказала пра смерць, ды і Альжбета таксама; уяўлялася, што ён паранены і яго могуць павезці некуды ў невядомае, адкуль не вяртаюцца і дзе немагчыма яго знайсці. Але, можа, страх даў сілу ўстаяць на нагах, не ўпасці. І боль у грудзях

заглушыў. Зямля пад нагамі стала цвёрдая, не хісталася, не плыла, ногі не слізгалі на пратоpанай дарозе.

Не адразу яна сцяміла, што яе падхапілі, падтрымалі ласкавыя рукі, з аднаго боку — мацярынскія, з другога — сястрынскія.

Юстына выскачыла адразу за маці і Мірай, нягледзячы на пярэчанні бацькі. Альжбета ўбачыла дачку, калі яна следам за ёй, з другога боку, падхапіла Міру, таму не запярэчыла, каб яна ішла з імі, парадавалася Юстынінай чуласці да чужога гора.

Цяпер дачка і маці трымалі дзяўчыну, якую яшчэ нядаўна не хацелі прызнаваць, пад рукі і, па сутнасці, неслі яе, маленькую, лёгкую.

На паўдарозе ад станцыі да маёнтка іх сустрэў знаёмы салдат — нярэдка прыходзіў пасыльным са штаба — і са сваёй сялянскай прастатой адразу бухнуў навіну, зусім іншую, чым тая, якую прынёс начальнік станцыі, бліжэйшую да ісціны, хоць перабольшаную, як перабольшваецца любая сенсацыя:

— Пастраляў камандзір батарэйцаў. Цяпер яго камітэтчыкі судзяць.

— Ён жывы? — закрычала Міра.

— Жывы. Але судзяць...

— Ён жывы! — прашаптала Міра... і павісла на руках у Альжбеты і Юстыны.

Салдат спачатку спалохаўся, пасля, атрымаўшы загад ад Альжбеты бегчы і вярнуцца з канём, на санях, мацюкнуўся:

— Калі б я быў царом, то і блізка баб да вайны не падпускаў бы.

5

У вялікім пакоі флігеля, дзе працаваў начальнік штаба і дзе рэдка калі было цёпла, на гэты раз ад духаты цяжка было дыхаць. Ва ўсялякім разе, так здавалася Багуновічу, ён пацеў і раздражнёна думаў: «На якога д'ябла напалілі?»

Было вельмі накурана. Твары салдат, якія сядзелі ля акна, расплываліся, што ў тумане. Увогуле для Багуновіча пасля таго, як Пастушэнка скруціў яму рукі з такой нечаканай для старога сілай, што правае плячо балела і цяпер, усё здавалася, як у тумане, як у сне. Выразна помнілася толькі брыдкае адчуванне ад уласнай блявоціны, адчуванне было такое, што ён забрудзіў, загадзіў сябе на ўсё жыццё не чым іншым — толькі гэтым ганебным ванітаваннем. Некалі ў чатырнаццатым, калі ён, малады, гарачы, ашалелы ад патрыятычных пачуццяў і гонару, павёў ва Усходняй Прусіі свой узвод у штыкавую атаку, выхапіў у параненага салдата вінтоўку і закалоў штыкам

нямецкага салдата, такога ж маладога, як сам, тады яго таксама ванітавала. Але тады яму было проста сорамна за сваю слабасць, ён з усяе сілы стараўся, каб слабасці яго не ўбачылі салдаты, не даведаліся пра яе афіцэры. Тады яго поўніла пачуццё выкананага абавязку, адчуванне, што ў ім нарадзіўся воін, а роды заўсёды пакутлівыя, тут не толькі будзеш ванітаваць, але і крывёю можаш сцячы.

Цяпер нічога падобнага не было — ніякага пробліску высокіх пачуццяў, адна брыдота. Смерцяў ён бачыў занадта многа і звыкнуўся, што паміраюць ад нямецкай кулі, ад рукі свайго салдата; у рэвалюцыю двух афіцэраў іх палка салдаты паднялі на штыкі. Не мог уцяміць, чаму так брыдка ад смерці, учыненай ім самім. Пакут сумлення не было, учынак свой ён апраўдваў, адчуваў: каб зараз сказалі, што яшчэ нехта, нават з прысутных тут, на судзе, прадаў немцам гарматы, ён, не задумваючыся аб сваім лёсе, гэтак жа пусціў бы кулю ў такую падлюгу. Ён абураўся, калі прадавалі кажухі, шапкі, махорку, коней, але ў тых дурняў ці дробных зладзеяў страляць яму не хацелася. Судзіць — мог судзіць, але не на смерць. За лрадажу гармат меншайкары не прызнаваў. Як за здраду, за шпіянаж.

Толькі ў нейкі міг, чамусьці ўспомніўшы маці, ён падумаў яе сэрцам: «Божа, няўжо так ачарсцвела твая душа на гэтай праклятай вайне? Ён (Межань) быў чалавек, і яму хацелася жыць». Адказаў маці: «Мама, я цябе разумею, магчыма, калі-небудзь я буду, як ты. Але цяпер я не мог інакш, не мог, табе гэтага ніколі не зразумець».

Было яшчэ адно вельмі непрыемнае адчуванне — страх, якога ён даўно не ведаў. Гэта быў не страх смерці, так, ва ўсялякім разе, вызначыў сам Сяргей Багуновіч, а страх ад таго, што яго асудзяць свае, людзі, якія сталі яго таварышамі не па форме звароту, а па сутнасці, па духу — па тым, што і ён, афіцэр, душой і сэрцам прыняў іх таварыства.

Страх гэты агідненькі з'явіўся тады, калі Пастушэнка, цяжка ўздыхаючы ўсю дарогу, прывёз яго, абмяклага, спустошанага, у штаб і Сцяпанаў, пачуўшы аб здарэнні, раптам моцна ўзлаваўся. Сцяпанаў, які рэдка лаяўся, бязлітасна мацюкаў яго.

«Зброю здай! Сапляк! Навучылі вас страляць... А ў каго страляць... Трэба ведаць, у каго страляць і калі страляць!»

Не, страх з'явіўся не ад слоў, не ад лаянкі, хутчэй за ўсё ад таго, што яго, камандзіра палка, абяззброілі, як злачынцу. Не ворагі абяззброілі. Свае. Таварышы.

І цяпер, перад салдацкім камітэтам, страшок гэты, як змяя, час ад часу лізаў халодным джалам ягонае сэрца. Не пусціла б змяя яд.

Здараецца гэта, як толькі ён сустракае позірк салдата Аляксея Шатруна. З гэтым салдатам у яго складаныя адносіны. Шатрун быў у яго роце ўвесь шаснаццаты год. Прыкідваўся зусім непісьменным, блазнаваў — гэткі ротны прыдурак, з якога ўсе смяяліся. Але Багуновіч першы «раскусіў», што не такі гэта дурань, што робіць ён знарок так, каб з яго смяяліся: усе вайсковыя статуты, устанаўленні, усю службу даводзіць да абсурду, калі сапраўды і дурню становіцца зразумелым, якія ганебна недарэчныя загады паступаюць, якой недарэчнай з'яўляецца ўся патрыятычная прапаганда, ды і ўвогуле ўсё, што робіцца на вайне. Такія дурыкі Шатруновы вельмі падрывалі дысцыпліну.

Багуновіч разумеў адкрытых агітатараў супраць вайны і, як умеў, ахоўваў іх ад палявой жандармерыі, нават неаднойчы ішоў на рызыку і заступаўся за арыштаваных. Разлажэнне дысцыпліны Шатруном яго раздражняла. Армія ёсць армія, і вайна ёсць вайна. А ён камандзір баявой роты. Раздражнёнасць перарасла ў непрыязь, і ён даволі часта караў непакорлівага салдата, караў часам жорстка — выстаўляў без чаргі на небяспечныя пасты, уласна кажучы, пад нямецкія кулі. Пасля яму было сорамна за гэта.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі «прыдурак» Шатрун размаскіраваўся. Перш за ўсё выявіў, што чалавек ён пісьменны, раскрыў і тое, што ён перакананы сацыял-дэмакрат, хітры агітатар; рукапісныя пракламацыі супраць вайны, што хадзілі ў роце і за якія камандзіра роты неаднойчы цягалі ў жандармерыю і нават у контрразведку, пісаліся Шатруном, які, так лічыў не толькі Багуновіч, «не ведаў» нават азбукі і прасіў каго-небудзь іншага напісаць пісьмо дадому.

Багуновіч адзін з першых сярод афіцэраў перайшоў на бок рэвалюцыі, яшчэ больш чула ставіўся да салдат. І ў адносінах з Шатруном стараўся быць роўным, добрым. Але ў душы адчуваў як бы абразу, што камедыянт гэты больш чым год так дурачыў яго, чалавека з універсітэцкай адукацыяй. Каб не сутыкацца, папрасіў перавесці яго ў другую роту. Потым, пры Керанскім, Шатруна арыштавалі, пасадзілі ў мінскую турму. Цяпер яны зноў сутыкнуліся: Шатрун — камандзір роты. Неяк рота яго была ў баявой ахове, Багуновіч праехаў па перадавой, праверыў і выявіў, што ахова нясецца дрэнна. Такой яна была, бадай, ва ўсіх батальёнах, хіба акрамя трэцяга. Але незадаволенасць сваю ён выказаў Шатруну. Не крычаў. Не пагражаў. Чым ён мог пагразіць бальшавіку, члену салдацкага камітэта? Ён высмеяў яго рэвалюцыйнасць:

«Калі ўсе рэвалюцыянеры спяць так, як вы. Шатрун, сусветная рэвалюцыя ўпадзе з неба. Як дар божы».

Шатрун, які раней на ўсе праборкі бязуліў, раптам збялеў.

«Ну, ты, камандзір, на свае афіцэрскія жарты забудзь. Не той час».

На камітэце Шатрун сядзеў, як ніколі маўклівы, панура-сур'ёзны, пазіраў спадылба, Багуновічу здавалася — зларадна. Ад гэтых яго позіркаў, напэўна, і з'явілася ганебна-брыдкае адчуванне страху. Злавіў сябе на тым, што баіцца глянуць у той бок, дзе Шатрун. Глядзеў на Рудкоўскага, які ўсім сваім выглядам падбадзёрваў яго: маўляў, правільна паступіў, нічога не бойся.

Прыйшоў Рудкоўскі сам? Ці Сцяпанаў запрасіў? Ніколі ж раней старшыня мясцовага рэўкома на салдацкі камітэт не запрашаўся. Як бы там ні было, прысутнасць Рудкоўскага давала некаторае заспакаенне. Нядаўна байцы мясцовага атрада застрэлілі сына кулака, які хадзіў да немцаў. Можа, ён хадзіў за кантрабандай, можа, шпіёніў — невядома. Але звычайныя непісьменныя сяляне не маглі яму дараваць. То ці мог ён застацца абыякавым, што камандзір батарэі прадаў гарматы? Такі мог усё прадаць — аднапалчан, чэсць, айчыну.

Са спазненнем увайшоў учарашні госць — камісар пралетарскага палка новай арміі, латыш. Багуновіч не мог успомніць яго прозвішча, але з'яўленню яго ўзрадаваўся, хоць і здзівіўся. Якім чынам Сцяпанаў так хутка перадаў аб падзеі суседзям? І каго ён збірае? Суддзяў? Адвакатаў? Дзе ты, адвакат Валянцін Вікенцьевіч Багуновіч? Што б ты сказаў? Не было ў тваёй практыцы такога прэцэдэнта, не магло быць. Вайна і рэвалюцыя перакрэслілі ўсе нормы і законы, паляцелі да д'ябла і рымскае кананічнае права, і ўсе зводы законаў, усё, што напісана ў дзесятках тамоў, якія ззялі залатымі карашкамі на паліцах бацькавай бібліятэкі. Па якім жа праве, па якіх законах будуць судзіць яго? Трыбуналы распушчаны. Смяротная кара адменена. Што ж чакае яго?

Сцяпанаў натужліва кашляў, харкаў у брудную хусціну і не першы раз папрасіў:

— Не курыце, таварышы!

Ды просьбы яго мелі кароткае дзеянне: на колькі хвілін цыгаркі хавалі ў рукавы шынялёў ці кажухоў і курылі, як школьнікі старэйшых класаў, што яшчэ трохі тояцца ад настаўніка, але ўжо не баяцца яго. А Багуновіч і гэтага не рабіў, ён скручваў цыгарку за цыгаркай і курыў па-салдацку — цягнуў да таго часу, пакуль «бычок» не падсмальваў вусы, не абпякаў вусны і пальцы.

Адкрыўшы пасяджэнне, каротка паведаміўшы, з якой прычыны так паспешліва скліканы камітэт, Сцяпанаў, чалавек немнагаслоўны, гэтак жа каротка выказаў свае адносіны да таго, што здарылася:

— Рэвалюцыя нікому не дала права тварыць самасуд.

Потым гаварыў Пастушэнка, доўга і вельмі ўсхвалявана. Аб становішчы ў палку. Аб клопатах маладога камандзіра ўмацаваць баяздольнасць. Аб хітрасці і каварстве ворага — якраз пра тое, пра што часта думаў Багуновіч. Слухаючы начальніка штаба, ён на нейкі момант забыўся, што судзяць яго, што Пастушэнка выступае адвакатам, як бацька, і турбаваўся за адно — за хворае сэрца палкоўніка: не трэба старому так хвалявацца.

Але той пачаў гаварыць пра Межаня, пра аблічча чалавека, які мог пайсці на такое — прадаць гарматы немцам, і голас яго загучаў гнеўна:

— Як назваць такога чалавека? Як? Тарас Бульба застрэліў за такое роднага сына.

Багуновіч успомніў Назара Бульбу, той таксама даганяў роту, што знялася з пазіцый, але не стрэліў, стрэлілі ў яго, прабілі папаху — і зноў варухнуўся страх, словы Сцяпанава «рэвалюцыя нікому не дала права тварыць самасуд» здаліся прысудам. Няхай прысуд. Няхай хоць расстрэл. Шкада толькі... маці і Міры.

Пастушэнка дагаварыўся да прыступу грудной жабы. Яму зрабілася блага. Яго вывелі падыхаць чыстым паветрам.

На маладых салдат, што не ведалі, як баліць сэрца, такое перажыванне адзінага сведкі зрабіла больш моцнае ўражанне, чым яго словы. Сцяпанаў сярдзіта кінуў папрок камітэтчыкам:

— Дакурыліся, такую вашу!..

Толькі пасля гэтага патушылі цыгаркі.

— Ваша слова, Багуновіч.

Ён падняўся па-вайсковаму. Выразна бачыў вочы кожнага. Добрыя ў латыша. Чамусьці спалоханыя ў камандзіра трэцяга батальёна Берасценя. Бліскуча-выразныя, што яўна выражалі падтрымку,— у Рудкоўскага. Па-ранейшаму спадылба, быццам бы хаваючы свае вочы, глядзеў адзін Шатрун. Ад гэтага яго позірку зноў захаладала ўсяродку.

— Я лічу, што выканаў свой абавязак...— яму хацелася сказаць «перад народам», «перад рэвалюцыяй», але ў апошні міг ён спалохаўся гэтых гучных слоў і, памаўчаўшы, дадаў: — Камандзіра.

— Дрэнна ты засвоіў абавязак рэвалюцыйнага камандзіра,— буркнуў Сцяпанаў, але ўжо без злосці.— Больш вам няма чаго сказаць?

— Калі яшчэ хто прадасць зброю немцам...

Сцяпанаў перапыніў яго:

— Ладна. Сядайце. Ваша слова, таварышы.

Усталявалася цішыня, здаецца, людзі нават перасталі дыхаць.

Багуновіч пачуў удары ўласнага сэрца і спалохаўся, каб іх не пачулі іншыя: вельмі ж гулкімі яны былі, як удары молата, ажно зазвінела ў вушах, закалола ў скроні.

Першым азваўся Рудкоўскі:

— Любы з нас застрэліў бы такога сукінага сына.

— Ты за сябе гавары! — чамусьці зноў узлаваўся Сцяпанаў і закашляўся.

— Я за сябе і кажу.

— Анархісты,— папракнуў Сцяпанаў і лагодна звярнуўся да камандзіра трэцяга батальёна:— Тваё слова, Берасцень...

Берасцень, заўсёды павольны, не адразу падняўся. Можа, таму, што ў гэты міг вярнуўся Пастушэнка, стаў у адчыненых дзвярах, адтуль пацягнула холадам, і ўсе прагна ўдыхалі свежае паветра.

Берасцень шкроб патыліцу і разважаў:

— Канешне, на самасуд права няма... Але як бы зрабіў я? Каб з майго батальёна... Не знаю. Тут яшчэ ўзрост трэба ўлічыць... Мне сорак... у мяне дзеці...

— Галубчык, мне шэсцьдзесят, а я даставаў рэвальвер... клянуся. Толькі Сяргей Валянцінавіч апярэдзіў мяне...

«Чаму стары так выгароджвае мяне? Ён жа лаяў мяне ўсю дарогу. Уздыхаў, ажно стагнаў!» — падумаў Багуновіч.

— Бугаенка.

— Перадаць штабу фронту. Няхай яны судзяць.

Камітэтчыкі незадаволена загудзелі: прызнавалі толькі свой суд, ніякіх штабоў!

— Шатрун.

Шатрун кінуў на падлогу патушаны недакурак, старанна расцёр яго ботам.

Гэты яго жэст асабліва спалохаў Багуновіча. Але Шатрун раптам падняў галаву, бадай весела і хітра бліснуў на падсуднага вачамі і гучна сказаў:

— Межань — контра. А з контрай — размова кароткая. Камандзіра апраўдаць!

І загучала гэтае слова:

— Апраўдаць.

— Апраўдаць.

Тады Багуновічу здалося, што флігель хіснуўся, пакой зноў напоўніўся густым туманам. Апанаваў іншы страх: не праявіць бы жаночую слабасць — не ўпасці ад галавакружэння, не страціць прытомнасць... ад шчасця.

Ды Пастушэнка, як бы ўбачыўшы, у якім ён стане, абняў яго і гэтым вярнуў сілу, адчуванне рэальнасці і здольнасць сказаць:

— Дзякую, таварышы. Да смерці не забуду...

**Частка другая**

# УРОК ГІСТОРЫІ

## Раздзел першы
## НЯСПЫННАЯ БІТВА

### I

Студзеньскія хваляванні рабочых у Германіі і Аўстра-Венгрыі, бурныя выступленні балгарскага народа за мір з Расіяй вымушалі дэлегацыі Чацвярнога саюза манеўраваць на перагаворах у Брэсце. Кюльману, Чарпіну, Папову і нават Талаат-пашы прыйшлося сказаць нямала, прыгожых прамоў аб імкненні іх урадаў да міру, аб павазе да іншых народаў, асабліва да тых, землі якіх тапталі боты кайзераўскіх салдат,— палякаў, літоўцаў, латышоў, украінцаў (беларусаў, як нацыю, не ўспаміналі), аб праве гэтых народаў на дзяржаўнасць, на самавызначэнне. Словы, словы... Вялікі том таннай дэмагогіі.

Генералы гаварылі больш канкрэтна і рашуча. Прадстаўнік партыі вайны, выхаванец прускай ваеннай школы, у якой здаўна прывівалася нянавісць да славян, самаўпэўнены і ап'янелы ад перамог усходняга фронту, дзе ён быў начальнікам штаба (супраць іх фронту ў рускіх не знайшлося нават другога Брусілава), генерал Гофман на пасяджэнні палітычнай камісіі прад'явіў савецкай дэлегацыі карту, на ёй былі акрэслены землі, якія Германія «вымушана» ўтрымліваць за сабой. Гэта была нахабная анексія ўсяе Польшчы, значнай часткі Літвы, Латвіі, Эстоніі, Беларусі з захаваннем жорсткага акупацыйнага рэжыму над народамі, ушчэнт разоранымі вайной, даведзенымі да галечы. Дыпламатычны туман, што, маўляў, такая лінія дыктуецца «ваеннымі меркаваннямі», нікога не мог увесці ў зман. Тым больш, што тут жа выступіў Кюльман і даў зразумець, што ад таго, як рускія паставяцца да апошніх нямецкіх прапаноў, будзе залежаць, ці ўдасца падпісаць мір.

Па сутнасці, гэта быў ультыматум, хаця і замаскіраваны яшчэ.

Карта абурыла членаў савецкай дэлегацыі. А кіраўнік яе — Леў Троцкі, майстра лагічных камбінацый, адразу сцяміў, што немцы далі яму моцны козыр супраць Леніна, для абароны тэзіса «ні вайны, ні міру».

Ленін змагаўся за мір без анексій і кантрыбуцый. Як прапагандысцкі лозунг, думаў Троцкі, гэта выдатна. Але трэба лічыць наіўнымі імперыялістаў, каб спадзявацца, што яны калі-небудзь згодзяцца на такі мір. Хто ж большы рэаліст у палітыцы — ён, Троцкі, ці Ленін?

Якой жа тактыкі вам цяпер трымацца, Уладзімір Ільіч? Прыняць нямецкія ўмовы, анексіяністкі мір? Вядома, што вы гатовы пайсці і на гэта ў імя сваёй фантастычнай ідэі перамогі і ўмацавання рэвалюцыі ў адной краіне — у адсталай Расіі. Але ідэя гэтая — падпісанне такога міру — не завалодала, як вы вучылі, масамі. Што вам скажа партыя, калі вы прапануеце падпісаць такі рабаўніцкі мір?

Троцкі афіцыйна выказаў абурэнне «картай Гофмана», але ўпотай паціраў рукі ад задавальнення. Лёс народаў, якія застануцца пад кайзераўскай акупацыяй, яго мала турбаваў. Што б ні здарылася ў палітычнай барацьбе, у рэвалюцыі, якімі б ахвярамі і стратамі падзея ні пагражала, але калі яна працавала на яго «тэорыю рэвалюцыі» — ён тут жа падхопліваў любы такі факт і жангліраваў ім з майстэрствам фокусніка, штукара.

Троцкі ведаў гісторыю дыпламатыі і трымаўся правіла: аб усім інфармаваць свой урад. Але ва ўмовах рэвалюцыі ён выкінуў прэч другое правіла дыпламатыі: гэтак жа дакладна выконваць указанні свайго ўрада. Гэтае правіла ён лічыў феадальна-буржуазным. Анархіст па сваёй чалавечай сутнасці, Троцкі прысвоіў сабе права па-свойму вытлумачваць інструкцыі і ўказанні Савецкага Урада, Старшыні Саўнаркома Леніна.

Па заканчэнні пасяджэння Троцкі адразу ж пайшоў да тэлеграфнага апарата. На час перагавораў немцы наладзілі лінію прамой сувязі з Петраградам. Але ў дэлегацыі ўжо ведалі, што для адкрытага тэксту немцы давалі канал неадкладна, шыфроўкі ж трымалі па многа гадзін.

Троцкі паведаміў адкрыта аб нямецкіх патрабаваннях, выказаў сваё абурэнне, але тут жа развіў свой «план», сутнасць якога даўно была вядома: ад падпісання міру адмовіцца, вайну спыніць, армію дэмабілізаваць.

Не, Троцкі зусім не збіраўся пераконваць Леніна і яго аднадумцаў. Ён «іграў» на публіку. На савецкую прэсу — з мэтай падбадзёрыць «левых». І на нямецкую прэсу, а праз яе — на сусветную. Пра яго пазіцыю павінны ведаць французы, амерыканцы... Асабліва амерыканцы.

Ленін, атрымаўшы «асобае пісьмо», нават не абурыўся: даўно пазіцыя кіраўніка дэлегацыі не была тайнай ні для ЦК і Саўнаркома, ні для немцаў. Але Ленін ведаў надзвычайную актыўнасць Троцкага, яго анархічнасць: паведаміў і будзе лічыць пытанне ўзгодненым, каб вырашаць яго па-свойму.

Ленін адказвае шыфроўкай, упэўнены, што тэлеграма будзе прачытана немцамі. Трэба астудзіць Троцкага і збіць з панталыку Кюльмана і Гофмана.

«Ваш план мне ўяўляецца дыскутабельным. Ці нельга толькі адкласці некалькі яго канчатковае правядзенне, прыняўшы апошняе рашэнне пасля спецыяльнага пасяджэння ЦВК тут?»

Ленін дае зразумець: калі вам, Троцкі, мала інструкцый Саўнаркома — пытанне выносіцца ў ЦВК.

«Мне б хацелася параіцца спачатку са Сталіным, перш чым адказаць на Ваша пытанне».

Ленін падкрэслівае, наколькі гэта сур'ёзна — пытанне аб тэрыторыях, аб лёсе народаў, якія жывуць на іх, таму і лічыць неабходным параіцца з наркомам па справах нацыянальнасцей. І тут жа, у гэтай сувязі, пра самае галоўнае, што мае дачыненне да перагавораў,— аб прадстаўніцтве Украіны:

«Сёння выязджае да Вас дэлегацыя харкаўскага ўкраінскага ЦВК, якая запэўніла мяне, што кіеўская Рада дыхае на ладан». Каб Троцкі і немцы ведалі, што дэлегацыя Рады ў Брэсце нікога ўжо не прадстаўляе!

Ленін перадаў гэты тэкст а пятай гадзіне дня. Апоўначы, параіўшыся з іншымі членамі Саўнаркома, Ленін тэлеграфуе:

«Перадайце Троцкаму. Просьба назначыць перапынак і выехаць у Піцер».

Троцкі хмыкнуў на тэлеграму — на подпісы: «Ленін. Сталін». З Леніным ён не мог не лічыцца. Але каб яму, другому чалавеку ва ўрадзе, як ён лічыў сваё месца, загадваў Сталін, калі назначаць перапынак у рабоце дэлегацыі і калі выязджаць у Петраград! Гэта біла па яго самалюбстве. Сталіна Троцкі не прызнаваў за марксіета-тэарэтыка. Практык. І ўвогуле ігнараваў: бурсак, недавучка. Ігнараваў ён не толькі Сталіна, з таго ж лідэра «левых», з якім сябраваў у Нью-Йорку і з якім цяпер уступіў у блок,— з Бухарына здзекаваўся: выскачка. Пасля ён напіша: «Я ніколі не прымаў Бухарына сур'ёзна». Адукаванымі марксістамі ён лічыў толькі сябе і Зіноўева. Мог бы яшчэ быць Каменеў, ды гэты балбатун і франдзёр моцна падмачыў сябе ў гісторыі з Вікжэлем. Без яго, Троцкага, падказкі нічога разумнага не могуць зрабіць. Сваёй авантурай толькі ўмацавалі пазіцыі Леніна ў ЦК. Ленін любую прамашку праціўнікаў адразу бачыць і выдатна ўмее павярнуць супраць саміх арганізатараў акцыі. У адносінах з Леніным трэба вуха трымаць востра, не аслабляць пільнасці. Ленін далікатны: «Просьба назначыць перапынак».

Пасля хвіліны раздражнёнасці подпісам Сталіна Троцкі задаволена пасміхнуўся.

Зацягванне перагавораў — не на карысць Леніну. Любая адтэрміноўка дае час аб'яднацца прыхільнікам «рэвалюцыйнай вайны», якіх ён, Троцкі, тайна натхняе. З Брэста, дзе немцы перахопліваюць кожную тэлеграму, ды і дыпкур'ерам даверыцца нельга, уплываць на ход барацьбы, згуртоўваць аднадумцаў сваіх цяжка. Некалькі дзён прабывання ў Петраградзе пры яго энергіі, актыўнасці і пры яго памочніках дазволяць яму нямала зрабіць для прапаганды сваёй тэорыі рэвалюцыі і міру. Памочнікаў у розных савецкіх органах у яго нямала. Зноў узлавана падумаў пра Каменева, што той авантурай у Вікжэлі выпусціў са сваіх рук ЦВК. Са Свярдловым кашы не зварыш. Цяпер прыходзіцца Каменева выцягваць — з трудом удалося пераканаць членаў Саўнаркома ўключыць яго ў склад дэлегацыі.

Нягледзячы на позні час, Троцкі даручыў сакратару дэлегацыі Льву Міхайлавічу Карахану неадкладна звязацца з ад'ютантам Гофмана: калі немцы могуць даць паравоз і адкрыць лінію для спецпоезда, у якім кіраўнік дэлегацыі павінен выехаць для кансультацыі са сваім урадам?

Здаралася, што трэба было патраціць нямала часу і энергіі, каб паслаць кур'ера з поштай.

Для Троцкага паравоз далі праз гадзіну-паўтары, не больш, пасярод ночы.

Спецпоезд з двух вагонаў на павышанай хуткасці імчаў на ўсход. Была глухая зімовая ноч. Другая палавіна яе. За акном у заснежанай прасторы мільгалі рэдкія цьмяныя абрысы нейкіх будынкаў, мабыць, вясковых хат, гумнаў. Але ніводнага жывога агеньчыка. Мёртвая зямля. Як пустыня. Можа, праўда яна амярцвела, гэтая зямля, адкуль многія, ратуючыся ад немцаў, падаліся ў бежанцы ў цэнтральныя губерні Расіі?

Думка такая бліснула на міг. Доўга не затрымалася. Троцкі многа гаварыў і пісаў пра народ, але ўвогуле больш аб пралетарыяце, сялянства ж ён лічыў рэакцыйным класам, таму думаць пра нейкіх адсталых беларусаў, палякаў ці літоўцаў — дарэмна траціць разумовую энергію, якая патрэбна для больш важных лагічных пабудоў — на выпрацоўку стратэгіі сусветнай рэвалюцыі.

Так ён паступаў заўсёды. Суадносіў сваю персону толькі з глабальнымі сусветнымі падзеямі. А ў сапраўднасці, як усялякім смяротным, валодалі ім самыя звычайныя чалавечыя пачуцці, і думкі былі пабытовыя, сумбурныя і дробныя.

Салон-вагон на спецыяльных рысорах пагойдвала мякка, прыемна, але хістала з боку ў бок больш, чым у звычайным поездзе.

Троцкі трохі баяўся гэтага гойдання. Дарэчы, баяўся ён і перагона ад Брэста да лініі фронту, да першай сваёй станцыі, дзе падавалі рускі паравоз. У поўнай бяспецы, больш таго — гаспадаром, ён адчуваў сябе толькі ў Расіі, нягледзячы на тое, што там яшчэ бурліла рэвалюцыя і зусім не было такога парадку, як у немцаў. Там кожны салдат, кожны чыгуначнік адчувае сябе гаспадаром. Чаму ж яму, наркому, не адчуваць сябе гаспадаром?

Але ўвогуле, лежачы ў халаце на мяккай міністэрскай канапе, Троцкі адчуваў асалоду ад язды, ад камфорту. Ён любіў камфорт. Што зробіш — прывычка, як кажуць, другая натура. Ён смачна і сытна павячэраў, у Петраградзе так не павячэраеш, нават дома, у сям'і,— не панясеш прадукты з запасаў дэлегацыі; дэлегацыя ўсё ж забяспечана па асобых нормах. Ды і ў Брэсце пры іншых членах дэлегацыі прыходзілася стрымліваць сябе, падаваць прыклад: трэба эканоміць, Расія галадае.

Раздражняў пах стэарыну — непрыемны смурод нямецкай хіміі. Гэта не тое што руская васковая свечка, ад якой пахне мёдам і полем, тым стэпам у Таўрыі, дзе прайшло яго маленства.

Лаяў немцаў: далі паравоз без дынама-машыны. Ці знарок не падключылі? Хацелася пачытаць нямецкія газеты, каб у Петраградзе паказаць сваю дасведчанасць перад Леніным, членамі Саўнаркома.

Прыгадаў Амерыку. Пашкадаваў, што жыць ў Нью-Йорку прыйшлося нядоўга, усяго тры месяцы. А яму падабалася там. Упершыню ён меў на кватэры тэлефон, рэфрыжэратар. Еўропа яшчэ да такога камфорту не дайшла. А Расія і за сто гадоў не дойдзе. Ён, Троцкі, з цікавасцю вывучаў палітыку, эканоміку самай багатай імперыялістычнай дзяржавы.

Амерыканскія сацыялісты яму не спадабаліся. Сустракаўся з імі мала. Большую сувязь меў з газетамі, яны ахвотна друкавалі яго, давалі заробак. Асабліва спадабалася, як прэса пісала пра яго ролю ў рускай рэвалюцыі.

Але, шмат чаго можна пабачыць у той праклятай Амерыцы! Якая тэхніка! Які камфорт! Расіі да такога ўзроўню трэба будзе тупаць дзвесце гадоў. Таму смешнымі здаюцца перакананні Леніна, што ў Расіі, у адной Расіі, без сусветнай рэвалюцыі, якая дала б магчымасць размеркаваць прадукцыйныя сілы, можна пабудаваць сацыялізм.

З высокай матэрыі думкі спаўзлі да грубага матэрыялізму. Троцкаму было трыццаць восем гадоў — мужчына, поўны моцы. А тут яшчэ добры харч, вячэра з паўпляшкай кахецінскага. І ўжо амаль два

тыдні, як ён выехаў з Петраграда, ад сям'і. Смачна пацягнуўшыся, так, што трэснулі суставы, ён падумаў пра сустрэчу з Наталляй, жонкай; ён адбіў яе ў таварыша па эміграцыі, кахаў, быў удзячны, што яна нарадзіла двух сыноў — Лёву і Сярожу, якімі ён ганарыўся: добрыя хлопцы растуць!

Ды тут жа грэшныя думкі папаўзлі ў мінулае. Слабы чалавек, што зробіш! А ўрэшце, нельга ўвесь час жыць у свеце высокіх матэрый: рэвалюцыя, сацыялізм, мір. Чалавек ёсць чалавек. Троцкі ўспомніў сваю першую жонку, Аляксандру Львоўну. Ён ажаніўся з ёй у маскоўскай турме, калі ім было па дваццаць гадоў. Менш як праз два гады ён пакінуў маладую жанчыну з дзвюма дзяўчынкамі-немаўлятамі ў суровай Сібіры, на Лене, а сам уцёк з ссылкі і пасля кароткай супынкі ў Самары, у сям'і Кржыжаноўскага, агента «Іскры», які зрабіў яму замежны пашпарт, лёгка, без прыгод, дабраўся да Вены.

(Пасля ў мемуарах Троцкі абалье Глеба Максімільянавіча і яго жонку брудам.)

Успамінаць Аляксандру Львоўну і дзяўчат ён раней не любіў — лішнія эмоцыі; усю сваю любоў ён аддаў сынам. Але цяпер яны ў Петраградзе, улетку семнаццатага года ён пабачыў дачок, яны захоплена слухалі яго выступленне; добрыя дзяўчаты выраслі, адной семнаццаць год, другой — шаснаццаты.

Цяпер, у вагоне, Троцкі падумаў, што трэба ўзяць іх пад свой уплыў: такім чынам можна выканаць і свой бацькоўскі абавязак, і мець верных памочнікаў.

(Сапраўды, яму ўдалося зрабіць з Ніны і Зіны зацятых трацкістак і гэтым скалечыць ім жыццё.)

Але ў тую ноч і пра дзяцей сваіх ён думаў нядоўга. Больш прыемнымі былі ўспаміны пра далёкае мінулае.

З асаблівай асалодай прыгадаў першае юнацкае каханне — да тамбоўскай дзяўчыны, што батрачыла ў маёнтку бацькі. Ап'янілі мацней за кахецінскае ўспаміны пра спатканні з той дзяўчынай у стэпе. Ляжаў І ўдыхаў пах пшаніцы, спелых кавуноў і яблыкаў, адчуваў смак дзявочых вуснаў, гарачыню яе грудзей. Пасля ён прызнаецца, што «прырода і людзі мала займалі месца ў маім жыцці», аднак юнацтва сваё любіў успамінаць.

Разам з тамбоўкай усплылі з глыбіні гадоў многія іншыя ўспаміны. Даўно ўжо ён з такім замілаваннем не прыгадваў Яноўку — маёнтак пад Херсонам. Райскі куток, дзе сапраўды можна было стаць паэтам. Такі стэп, такі прастор! І такая вольнасць, нягледзячы на

бацькаву ашчаднасць: нідзе бацька не выкінуў лішняй капейкі. Але ім, дзецям, не адмаўляў ні ў чым, хоць выхоўваў сурова, у працы.

Маёнтак Бранштэйн купіў у польскага пана, які прайграўся ў карты. Купіў танна — дом стары, сотня дзесяцін запушчанай зямлі. Але Яноўка хутка расквітнела. «Мудры чалавек мой бацька»,— з усмешкай падумаў Троцкі.

Сапраўды мудры. Пачаў са ста дзесяцін, а праз трыццаць гадоў, перад рэвалюцыяй, меў шэсць тысяч. Магнат!

Але Троцкі думаў не пра гэтую мудрасць. Калі ён зрабіў сябе рэвалюцыянерам, то тады, у маладосці, яму часам рабілася сорамна, што бацькавы батракі — беззямельныя з Магілёўшчыны, Арлоўшчыны, Чарнігаўшчыны — улетку, пад гарачым украінскім сонцам, у краі, адкуль вывозіліся тысячы пудоў пшаніцы, кавуны, дыні, яблыкі, хварэлі на цынгу і курыную слепату.

Ды пазней сумленне яго змоўкла. Бацька, безумоўна, быў эксплуататар. Але і заводчык Марозаў быў эксплуататар, а памагаў праз Горкага сацыял-дэмакратам. Бацька памог яму заняць віднае месца сярод галодных эмігрантаў. З бацькавай дапамогай яму ўдалося арганізаваць у Вене сваю газету і праз яе заявіць пра сябе ўсёй Еўропе.

Троцкі пад стук колаў, гойданне вагона ў заснежанай безлюддзі беларускай зямлі думаў пра іншую мудрасць бацькі. Сам ён хадзіў у сінагогу, а дзяцей хрысціў — каб адкрыць ім дарогу ва універсітэт. Аляксандр, Вольга, Лізавета...

А як ён выхоўваў іх, дзяцей! Рабіў сам, загнаў працай у магілу жонку і патрабаваў ад дзяцей: працаваць дык працаваць, вучыцца дык вучыцца! Але, можа, найбольшую ўдзячнасць бацьку ён адчуваў за тое, што стары не адгароджваў іх ад народа, патрабаваў, каб яны гаварылі па-руску, па-ўкраінску.

Многа гадоў Давід Бранштэйн трымаў у маёнтку механіка Івана Васільевіча, але не проста служкай, а як члена сям'і: чалавек гэты заўсёды сядзеў з імі за адным сталом у будні і ў свята. Пазней Троцкі сцяміў, што бацьку трэба быў не толькі танны і добры механік, але і чалавек, які вучыў бы дзяцей рускай мове. Як гэта пасля спатрэбілася! Наколькі вышэй ён адчуваў сябе за шмат якіх сваіх калег і ў вучылішчы (заўсёды па рускай мове меў вышэйшы бал), і пазней, калі браўся за пяро і калі гаварыў з трыбуны.

Ён, юны Лёва, умеў сябраваць і з батракамі.

Іван Васільевіч і «маскалька» тая... «Як жа гэта яе імя? Здаецца, Аня. Недаравальна, брат, забываць тых, хто памагаў табе пазнаваць свет. Старэем»,— пасміхнуўся нарком. Аня тая, бадай, была лепшай

настаўніцай рускай мовы, у непісьменнай сялянкі быў надзвычайны лінгвістычны талент, больш тонкі, чым у настаўнікаў рэальнага вучылішча. Здаецца, менавіта яна, тая дзяўчына, дала яму і ўрокі жаночай эмансіпацыі — пра вызваленне жанчын ён нядрэнна пісаў, калі яшчэ вывучаў матэматыку ў Адэскім універсітэце.

Бацька яго сапраўды ў пэўных адносінах быў прагрэсіўны: чытаў Талмуд, але кіраваўся логікай жыцця.

З уласцівым яму гумарам Троцкі падумаў: «Гэта адзінае, што звязвае мяне з капіталізмам — рамантыка маленства і юнацтва. Не баюся прызнацца. Неафіта з мяне нішто не зробіць; я верны адной рэлігіі — сацыялізму».

Троцкі пасміхнуўся са сваіх юнацкіх мар. Кім толькі ён не збіраўся стаць! Спачатку — мастаком. Безумоўна, вялікім. Як Рафаэль. У рэальным вучылішчы ён выявіў, што ніякіх мастацкіх здольнасцей не мае, і ўзненавідзеў урокі рысавання. Але ў гэты час паставіў сабе мэту стаць паэтам. Украінскім. Не меншым, чым Тарас Шаўчэнка. З той хіба розніцай, што яго цягнула да сатырычнага жанру. І ён начамі перакладаў на ўкраінскую мову байкі Крылова.

Пасля Лёва адкрыў у сабе «выдатныя» матэматычныя здольнасці. Паступіў вольным слухачом у Адэскі універсітэт. Здольнасці, здаецца, былі, але матэматыка патрабавала надзвычай цяжкай, цярплівай працы. «Ці стаў бы я вялікім матэматыкам, каб падаўся ў навуку? — зноўтакі не без гумару падумаў узбуджаны прыемнымі ўспамінамі ён і адказаў сам сабе зусім сур'ёзна, без усялякага гумару: — Не, другім Эйнштэйнам я магу стаць толькі ў палітыцы».

Але тут жа пазмрачнеў — успомніў Леніна. Геніяльнасць Леніна як тактыка рэвалюцыі нельга не прызнаць.

Занадта ўжо верыць у пабудову сацыялізму ў Расіі. Крайнасці змыкаюцца: залішне цвярозы рэаліст і ў той жа час рамантык. «Па пытанні міру мы дамо вам, таварыш Ленін, рашучы бой. Калі разумна падтрымаць «левых», няцяжка заваяваць большасць партыі. І вы застанецеся з меншасцю...»

Ад такой, вельмі прыемнай для яго, перспектывы Троцкі задаволена пацёр ляжкі, жывот, зноў смачна пацягнуўся, як і ад успаміну пра Аню.

Ён распрацоўваў дэталі даўно прыдуманай ім палітычнай камбінацыі, асноўнай мэтай якой было адно: ультрарэвалюцыйным трэскам узняць уласную ролю ў рэвалюцыі, у партыі, прыцягнуць да сваёй асобы ўвагу сусветнай грамадскасці. Чым гэта можа скончыцца для народа, для краіны — пра гэта ён думаў даволі абстрактна, у плане сваёй схемы «перманентнай рэвалюцыі», у якой сялянству адводзілася

месца за хлявамі гісторыі. Салдаты — гэта, безумоўна, сіла, якую з рахунку не скінеш. Але сілу гэтую проста нейтралізаваць — дэмабілізаваць армію, раззброіцца. Ленін палохае наступленнем нямецкага імперыялізму. Бухарын, які ў тэорыі нямала наблытаў, нядрэнна гальванізуе і ўздымае тэзіс аб «міжнароднай палявой рэвалюцыі».

«Гэта варта падтрымаць, таварыш Троцкі!»

Троцкі любіў свой псеўданім. Ён нярэдка ўспамінаў старшага наглядчыка адэскай турмы, прозвішча якога запазычыў, калі, уцякаючы з ссылкі, запаўняў чысты, перададзены яму сібірскімі сацыял-дэмакратамі бланк пашпарта. Былі ў яго пасля іншыя псеўданімы і клічкі — Акцыд, Ота, Пяро — але ад прозвішча турэмнага наглядчыка ён так і не адмовіўся.

Троцкі зноў узлаваўся на немцаў. Чортавы скупярдзяі, не маглі падключыць дынама-машыну, каб было святло. Пры гойданні вагона многа не напішаш, але некаторыя думкі варта выстраіць у пэўную сістэму, каб можна было апублікаваць. Працаўнік у яго сур'ёзны і з надзвычайнай працаздольнасцю. Ленін, безумоўна, пачне прапаганду міру ў прэсе. «Левыя» будуць яму адказваць. Але, акрамя хіба Радэка, у іх няма такіх палемістаў, як ён, Троцкі. З парадаксальнай віртуознасцю ён здольны аспрэчваць, што двойчы два — чатыры. Троцкі ганарыўся сваім аратарскім талентам. Але ўсведамляў, што нават пры яго красамоўнасці вуснымі прамовамі вялікай аўдыторыі не заваюеш, ды яшчэ пры такой сітуацыі, калі ён вымушаны знаходзіцца ў Брэсце. Там не выступіш. Патрэбна трыбуна ў партыйнай прэсе.

Работа ў дэлегацыі, пасада наркома па замежных справах абмяжоўваюць яго магчымасці ва ўнутрыпартыйнай барацьбе. Але як кіраўнік дэлегацыі ён можа нямала зрабіць, каб правесці свой план. Да таго ж прабыванне ў Брэсце яму імпанавала ў іншым плане — імя яго не сыходзіла са старонак газет усяго свету, як і імя Леніна. Яму было даспадобы, што імёны іх часта стаяць побач і што яго, як і Леніна, буржуазная прэса, як кажуць па-царкоўнаму, «предает анафеме».

Лаянкі, інсінуацыі, выдумкі буржуазных пісак яго забаўлялі і цешылі, асабліва калі пісалі не пра яго, а пра іншых членаў урада.

Тых, хто паспрабаваў пісаць залішне брудна пра яго, ён трохі астудзіў. Адразу пасля Кастрычніка радыёстанцыя з Эйфелевай вежы пачала перадаваць паклёпы на членаў Савецкага Урада і ў тым ліку распісвалі «парыжскія прыгоды» Троцкага. Французскія журналісты ведалі яго. Але і ён ведаў іх, у тым ліку прэм'ера Клемансо, які таксама быў журналістам, і некаторых яго міністраў. І ён адказаў ім праз Царскасельскую радыёстанцыю памфлетамі з такімі пікантнымі падрабязнасцямі аб жыцці Клемансо, з якіх, перахапіўшы перадачы,

уся нямецкая прэса пацяшалася. Французы мусілі адразу ж змяніць тон: інтымных бакоў яго жыцця і жыцця іншых членаў урада больш не чапалі.

Палітычныя выдумкі не хвалявалі. На такія выдумкі ён і сам быў вялікі мастак. Ён вёз з сабой выразкі з газет, нямецкіх, аўстрыйскіх, французскіх, пэўным чынам падабраўшы, каб паказаць жонцы, сыну, сябрам: няхай пабачаць, як многа сусветная прэса аддае ўвагі яму!

Закалыханы сябелюбнымі думкамі і гойданнем вагона, Троцкі заснуў. Пабудзіў яго нямецкі кантроль на лініі перамір'я. Нямецкі маёр, агледзеўшы вагон, папрасіў прабачэння ў пана міністра, пачціва казырнуў.

А праз тры вярсты на сваёй станцыі, акрамя заспанага начальніка станцыі, ніхто з вайскоўцаў яго не сустрэў; такая абыякавасць кранула яго самалюбства, але Троцкі заспакоіў сябе тым, што гэта толькі пацвярджае яго думку: армію такую трэба як Можна хутчэй разагнаць. Няхай урабляюць зямлю і плодзяць дзяцей.

Рабочы дзень у Петраградзе Троцкі пачаў, па сутнасці, з прыёму Раймонда Робінса. Былі, безумоўна, з раніцы іншыя справы, але свае, унутраныя. Была, напрыклад, шырокая інфармацыя Залкінда аб усім тым, што адбылося за час адсутнасці наркома. Троцкі стараўся не выявіць асаблівай цікавасці да прыёму Леніным дыпламатычнага корпуса. Але праніклівы Залкінд зразумеў, што менавіта гэта найбольш цікавіць Троцкага — змест усёй гутаркі, усе яе дэталі. Троцкі нават не стрымаўся — зрабіў папрок: чаму намеснік наркома па замежных справах не прысутнічаў на прыёме?

— Не запрасілі.

— Майце на ўвазе, Залкінд. Залежыць ад нас, каб нас не забывалі, не абыходзілі, калі вырашаюцца справы, якія хоць у якой ступені тычацца Наркамата па замежных справах. Пытанні такія могуць быць у Леніна, у Сталіна, у Крыленкі, у Скварцова-Сцяпанава... Але нішто не павінна вырашацца без нас з вамі.

— Разумею, Леў Давыдавіч,— і пастараўся загладзіць сваю прамашку інфармацыяй, якой не магло быць у газетах, ды і ў афіцыйных, сакрэтных дакументах таксама. Галоўнае ў расказе памочніка — змены «умонастроений» калег, расстаноўка сіл у барацьбе за мір, якая мела адбыцца. Троцкі любіў самыя нечаканыя камбінацыі груповак; увогуле групаўшчына была яго стыхіяй.

Чаго-небудзь новага Залкінд не сказаў: Троцкі парадаваўся, што, знаходзячыся ў Брэсце, ён, бадай, беспамылкова, тэарэтычным шляхам, утварыў усе гэтыя камбінацыі. Ён ведаў людзей і ўмеў прадказаць іх дзеянні.

Тактычныя хады толькі аднаго чалавека яму цяжка было адгадваць — Леніна, хоць стратэгія яго ўсім вядомая, Ленін не робіць тайны са сваёй палітыкі і, можа, як ніхто, давярае таварышам па партыі, калегам.

Званок Робінса з просьбай прыняць яго ўзняў настрой Троцкага. Перш за ўсё пацешыла самалюбства: хутка ж разнеслася вестка аб яго прыездзе! Але яшчэ больш пацешыла, што адным з першых чужаземцаў просіцца не нейкі дробны камерсант Швецыі ці Грэцыі, а прадстаўнік Амерыкі.

Троцкі ўжо неаднойчы сустракаўся з Робінсам да сваёй паездкі ў Брэст. Ведаў, што мільянер Робінс — чалавек шырокіх і незалежных поглядаў, ён не трымае сябе ў дыпламатычных рамках, выказваецца нечакана смела, часам даволі прагрэсіўна ў адносінах рускай рэвалюцыі.

Па шырыні і смеласці, з якой ён, кіраўнік місіі Чырвонага Крыжа, узнімае пытанні амерыкана-рускіх адносін, робіць прапановы, відаць, наколькі значны яго ўплыў, калі не непасрэдна на дзяржаўны дэпартамент, на Вільсана, то на тыя колы Амерыкі, у якіх ёсць сродак скіраваць знешнюю палітыку свайго ўрада ў інтарэсах гэтых колаў, а інтарэсы іх у Расіі даўнія. Адным словам. Робінс дзейнічае, як дзелавы чалавек. Недарэмна ён з бедняка стаў мільянерам.

Робінс падабаўся Троцкаму. Самалюбства падказвала, што Робінс той чалавек, праз якога можна заявіць пра сябе не толькі Амерыцы, але ўсяму свету: няхай ведаюць, хто робіць знешнюю палітыку Савецкай рэспублікі! Была ўпэўненасць, што ў Робінса ёсць каналы сувязі з Амерыкай паміма тых, якімі карыстаецца асцярожны пасол Фрэнсіс. Ва ўсялякім разе, рашучасці і смеласці ў яго больш, чым нават у сацыяліста Садуля.

Робінсу таксама вельмі патрэбны быў Троцкі. Усе даволі энергічныя кантакты палкоўніка з членамі Савецкага Урада дыктаваліся не жаданнем сабраць сенсацыйны матэрыял для мемуараў аб рускай рэвалюцыі, хоць часам ён маскіраваў сваю дзейнасць такой вузкай цікавасцю. Але гэта разлічвалася на наіўных і даверлівых.

Герой Кландайка быў занадта практычным чалавекам, каб траціць столькі энергіі дзеля будучых мемуараў. Кіраўнік місіі Чырвонага Крыжа ўзяўся за больш складаную задачу: любым чынам перашкодзіць Савецкаму Ураду заключыць мір з немцамі. Не, Робінс не быў крыважэрным імперыялістам. Чалавек ён быў гуманны, у Яго балела сэрца, калі ён бачыў галодных дзяцей. Але ён, як, між іншым, і сацыяліст Садуль, лічыў, што ўдзел Расіі ў вайне да поўнай перамогі Антанты наблізіць гэтую перамогу і паможа ўратаваць жыцці

тысячам амерыканскіх, французскіх, англійскіх, нямецкіх, аўстрыйскіх, рускіх салдат, а рускі народ уратуе яшчэ і ад голаду, які ўжо хапае кашчавай рукой мільёны людзей.

Сустрэчы з Леніным пераканалі Робінса, што бальшавіцкі прэм'ер непахісна стаіць за мір, толькі ў міры бачыць уратаванне Савецкай рэспублікі. Робінс выказаў захапленне такой пераконанасцю, але для сябе зрабіў вывад, што гэтага чалавека пераканаць немагчыма.

Іншая рэч — Троцкі. Размовы з Троцкім, пры наяўнасці розных думак у бальшавіцкай партыі па пытаннях вайны, міру і сусветнай рэвалюцыі, давалі Робінсу надзею, што яго дыпламатычныя захады не дарэмныя, што ён можа аказаць паслугу прэзідэнту Вільсану большую, чым той думае.

Вось чаму палкоўніка асабліва цікавіла асоба Троцкага і перагаворы, якія ён вёў у Брэсце. Але да Брэста не дабярэшся. Нечаканы прыезд Троцкага ў Петраград — гэта дарунак божы. Прабыванне яго можа быць кароткім. Таму — сустрэцца абавязкова і як можна хутчэй!

Калі Ленін прапанаваў наркаматам перабрацца з надзвычай перапоўненага Смольнага ў будынкі адпаведных былых міністэрстваў, Троцкі на Саўнаркоме выказваў сумненні, разважаў: ці не аддаліць гэта народныя камісарыяты ад народа? Рабочым, салдатам ненавісныя міністэрскія асабнякі. Але была гэта звычайная дэмагогія. У сапраўднасці Леў Давыдавіч радаваўся такому перасяленню. Па-першае, далей ад Леніна, які меў звычай нечакана зайсці да таго ці іншага наркома, унікнуць у яго справы. Троцкі не любіў гэтых наведванняў Старшыні Саўнаркома. Лічыў, што парады, падказкі патрэбны іншым членам урада. Ён жа, Троцкі, здольны ва ўсім разабрацца сам.

Па-другое, Міністэрства замежных спраў — гэта прастор, камфорт. Праўда, пампезную сазонаўскую мэблю нарком загадаў замяніць на простую, дэмакратычную, адаслаў у Эрмітаж усе дарагія габелены. Але вялікі персідскі дыван на падлозе застаўся. Багатыя шторы таксама.

Менш мэблі, меншыя сталы, дываны, крэслы, безумоўна, сапсавалі інтэр'ер, эстэтычнаму густу Троцкага даспадобы было старое, але яго ультрарэвалюцыйныя прынцыпы патрабавалі руйнаваць усё старое. Мадэрнізацыя зрабіла кабінет яшчэ больш прасторным. Стадыён з зялёна-залацістым полем дывана. А вялікі кабінет узвялічвае яго гаспадара. З адчуваннем сваёй велічы Троцкі хадзіў па мяккім дыване, заклаўшы рукі за спіну. Майстра экспромтаў, да размовы з

Робінсам ён, аднак, рыхтаваўся. Нават думаць стараўся па-англійску, шліфуючы найбольш значныя фразы, якія належала сказаць. Спыніўся перад кніжнай шафай, узяў руска-англійскі слоўнік, праверыў значэнне некаторых спецыяльных слоў, пагартаў англійскую энцыклапедыю.

Пасля нецярпліва стаяў каля акна, выглядаючы, калі падыдзе знаёмы «форд» са сцяжкамі — Чырвонага Крыжа і амерыканскім, паласатым.

Раймонд Робінс знешне быў павольным чалавекам. Ніякай мітуслівасці. Спакой і разважлівасць. Хоць, напэўна, у маладосці шукальнік золата меў іншы тэмперамент. Гады і становішча наклалі свой адбітак.

Троцкаму такой паважлівасці не хапала, хоць ён стараўся мець яе, залішняя энергія часам рабіла яго мітуслівым, крыклівым.

Але вялікі кабінет, усведамленне значнасці свайго становішча і павага да госця (за павагу ён іранічна ўпікнуў сябе: маўляў, трацiш, таварыш, класавую нянавісць!) зрабілі яго на пачатку сустрэчы афіцыйным, дыпламатычна асцярожным.

Павіталіся яны, як старыя знаёмыя. Робінс, які раней наведваў наркома ў Смольным, з цікавасцю агледзеў кабінет, але нічога не сказаў пра новае рабочае месца наркома. Своеасаблівая тактоўнасць? Ці, будучы дзелавым чалавекам, не траціў лішніх слоў на фармальную ветлівасць? Сказаў ён камплімент гаспадару кабінета. Хітры камплімент — адразу падводзіў да сутнасці размовы:

— Пан народны камісар мае бадзёры выгляд. Хоць я адчуваю вашу стомленасць. Нялёгкая справа — падпісаць мір?

— Нялёгкая,— згадзіўся Троцкі.— Пачаць вайну лягчэй.

— Вам здаецца так. Войны таксама пачынаюцца няпроста. Імперыялістычныя, як вы іх называеце. Я ведаю, як нялёгка было майму ўраду ўступіць у вайну. Толькі саюзніцкі абавязак...

Троцкі запрасіў Робінса сядаць на мяккую канапу за круглым столікам. Сам сеў у крэсла насупраць. Ён пісаў у артыкуле, чаму Амерыка ўступіла ў вайну, пісаў з марксісцкіх пазіцый: баялася, што здабычу раздзеляць без яе. Але госцю гэтага не сказаў — не далікатна. Цяпер у яго была іншая задача: заваяваць папулярнасць не ў рускага пралетарыяту, а ў Робінса, а праз яго — у амерыканскай грамадскасці. Аднак рабіць гэта трэба вельмі дыпламатычна. Няхай ведаюць яго рэвалюцыйнасць!

— Нялёгка заключыць мір з імперыялістамі. Але пралетарыят можа скончыць вайну ў любы час.

Робінс не ведаў яшчэ сутнасці тэзіса Троцкага «ні міру, ні вайны», таму на яго пафасныя словы не звярнуў асаблівай увагі, падумаў толькі, што Ленін сказаў бы пра гэта інакш — з нейкім асаблівым, простым і зразумелым тэарэтычным абгрунтаваннем; за ходам ленінскай думкі заўсёды цікава сачыць.

Робінс быў тонкі дыпламат, але паколькі выступаў ён не як прадстаўнік пасольства, то дазваляў сабе ісці да мэты наўпрасцяк, з ваеннай ці камерцыйнай грубаватасцю.

— Мне здавалася, што немцы ў іх становішчы ахвотна падпішуць мір з Расіяй. Не разумею, што хочуць вытаргаваць Гогенцолерны?

Ведаў ён аб нямецкіх прэтэнзіях, бо знаёміўся з сакрэтнай інфармацыяй, якую атрымоўвала пасольства. У Брэсце, у штабе Гофмана, знаходзіўся англійскі агент, але натуральна, што яго інфармацыя даходзіла праз Швецыю з вялікім спазненнем.

Троцкі злавіў сябе за язык — чуць не выдаў сутнасць нямецкага ультыматуму. Безумоўна, Савецкі Урад не робіць тайны з перагавораў, аднак пэўныя дэталі не могуць не быць нейкі час сакрэтам. Выдаць іх раней, чым ён дaложыць Саўнаркому, Леніну, было б неасцярожным учынкам. Але разам з тым Робінс павінен ведаць яго адносіны да нямецкіх патрабаванняў, якія раней ці пазней усё адно стануць вядомымі.

Троцкі сказаў катэгарычна, самаўпэўнена:

— Я ніколі не падпішу недэмакратычнага міру!

Робінс трохі не падскочыў на канапе. Пасля ён прызнаваўся, наколькі ўзрадавалі яго такая заява наркома па замежных справах і яго самалюбіва-амбіцыйны тон.

Ніводзін міністр замежных спраў не адважыўся б на падобную заяву без згоды ўрада!

Апраўданы любыя намаганні, каб пачуць такое. Робінс перайшоў у наступленне:

— Пан народны камісар, спадзяюся, што вы знаёмы з прамовай прэзідэнта Вільсана ў кангрэсе. Я перадаў поўны тэкст яе пану Леніну.

— Так, Ленін прыслаў прамову дэлегацыі, і мы азнаёміліся...

— Згадзіцеся, што гэта вельмі сур'ёзны дакумент. Гэта — праграма міру.

— Пан Робінс, не здаецца вам, што вы забываецеся, што я адзін з тых, хто выпрацоўваў нашу, бальшавіцкую, праграму міру,— нагадаў Троцкі пра сваё месца ў Савецкім Урадзе і ў гісторыі.

— Пан Троцкі, я гэтага не забываю. Але я не бачу супярэчнасці паміж праграмай Вільсана і прапановамі Савецкага Урада.

Троцкі ўсё яшчэ паказваў сваю рэвалюцыйнасць:

— Розніца ёсць. Мы за тое, каб справу міру ўзялі ў свае рукі народы...

— Я гатовы згадзіцца, што вайна можа быць імперыялістычнай, як вы сцвярджаеце. Але мір... Мір — дабро ў першую чаргу для тых, хто ў акопах. Для рабочых і сялян. Бачыце, як я засвоіў бальшавіцкую тэрміналогію,— пажартаваў Робінс.— Пан народны камісар, вы, безумоўна, звярнулі ўвагу на пункт шосты праграмы прэзідэнта. Ён прысвечаны Расіі. У ім гарантуецца атрыманне Расіяй «поўнай і бесперашкоднай магчымасці прыняць незалежнае рашэнне адносна яе ўласнага палітычнага развіцця і яе нацыянальнай палітыкі». Гэта сур'ёзная заява.

Калі тыдзень назад Робінс, уручаючы тэкст прамовы Вільсана, звярнуў увагу Леніна на гэтыя словы, Ленін адразу ж парыраваў: «Пан Робінс, рабочым і сялянам Расіі не патрэбны гарантыі для свайго самастойнага палітычнага развіцця ні ад якіх добрых і багатых дзядзькоў. I не ім гарантуе самастойнасць развіцця пан Вільсан. Ён падбадзёрвае, заахвочвае рускую контррэвалюцыю. Так я разумею словы, ад якіх вы прыйшлі ў захапленне».

Робінс ажно разгубіўся тады ад такога «недыпламатычнага адказу». Але Ленін прымусіў яго прачытаць словы Вільсана з іншых пазіцый — з пазіцый людзей, якія ўзялі ў Расіі ўладу.

Троцкі адказаў інакш:

— Я вывучыў гэты пункт прамовы прэзідэнта, як і ўсе іншыя. Тут ёсць аснова для дыялога.

— Робінс задаволена каўзануўся на канапе: о, якая істотная розніца паміж думкамі кіраўніка ўрада і чалавека, якому даручана знешняя палітыка і які вядзе перагаворы з немцамі!

Выкарыстоўваць яго настрой трэба з ходу. Робінс добра ведаў уплывовасць Троцкага, яго лідэрства ў немалой групе членаў ЦК.

— Пан Троцкі, я не дыпламат, як вам вядома. Я — прадстаўнік дзелавых колаў. Пракляты імперыяліст. Я ніколі не любіў дыпламатычных хітрыкаў. Але заўсёды, з-за сваёй «праклятаму» быў чалавекам слова і справы. Магчыма, пры нашых ранейшых сустрэчах я стараўся быць дыпламатам. Сёння ж хачу спытаць у вас, як кажуць, адкрытым тэкстам. Што дасць Расіі мір з Германіяй? Страту значных тэрыторый? — Робінс раскрываў сваю дасведчанасць.— Уплату кантрыбуцыі? А ў выніку яшчэ большы развал, анархію і голад. Голад! Пан нарком, голад — страшнейшы вораг любога ладу... любой манархіі і

любой рэвалюцыі. Місія Чырвонага Крыжа склала карту раёнаў Расіі, дзе ўжо галадаюць. Гэта вялікія раёны. Не хапае не толькі хлеба. Няма вугалю. Солі. Запалак. Карасіну. Тканіны. Абутку. Дзе вы можаце ўсё гэта ўзяць, каб накарміць, абагрэць і адзець мільёны людзей? Хто гэта ў сённяшнім свеце мае? Толькі мая краіна. Амерыка патрабуе нямнога — трымаць фронт супраць немцаў, нават без наступальных аперацый. Прыміце нашых ваенных саветнікаў. І нашых спецыялістаў. За два месяцы мы наладзім вам здабычу вугалю ў Данбасе, здабычу нафты ў Баку. Арганізуем работу чыгунак. Дамо пшаніцу. І закідаем вашых мужыкоў дабротнымі таварамі. Дайце нам толькі карты...

Троцкі не спускаў вачэй з Робінса, як бы жадаючы пераканацца, наколькі ўсё гэта шчыра і сур'ёзна.

— Ад імя каго робяцца такія прапановы? Ад Чырвонага Крыжа?

— Пан народны камісар, я мог бы пакрыўдзіцца як кіраўнік місіі за такое стаўленне да самай гуманнай арганізацыі.

— Прабачце.

— Але я не ўніжаюся да пустой амбіцыі. Я не скажу, што раблю такія адказныя прапановы ад імя прэзідэнта. Але магу запэўніць вас, што такі план падтрымаюць вельмі ўплывовыя колы Злучаных Штатаў.

Троцкі зрабіў выгляд, што глыбока задумаўся.

Робінс далікатна памаўчаў, даючы магчымасць яму падумаць.

— Мы абмяркуем вашы прапановы.

— Для людзей, якіх я павінен інфармаваць, важна асабістая думка чалавека, які накіроўвае знешнюю палітыку ўрада.

Троцкі самалюбіва засмяяўся.

— О, вы не «пракляты імперыяліст». Вы — вялікі дыпламат, пан мільянер.

— Дзякую за камплімент, пан камісар.

— Я сказаў вам упачатку: асабіста я ніколі не падпішу недэмакратычнага міру. А немцы прад'яўляюць ультыматум. Думаю, што мы вымушаны будзем прыняць ваш план. Я баюся сказаць за Уладзівасток. А Мурманск і Архангельск мы можам даць пад ваш... часовы кантроль.

Для Робінса гэта была перамога. Можна было біць у барабаны. Але палкоўнік быў не з тых людзей, любую перамогу ён умеў замацоўваць. Трэба націснуць на самалюбства Троцкага. Якім чынам?

— Мне здаецца, вам нялёгка будзе пераканаць вашага прэм'ера. Пан Ленін залішне захоплены ідэяй міру з немцамі. Я не хацеў бы, каб вы перадалі... але ў мяне такое ўражанне, што ён аслеплены гэтай ідэяй і не бачыць, што робіцца навокал.

— У сацыялістычным урадзе рашэнні прымаюцца калегіяльна.

Сапраўды патрэбны барабаны! Але не, лепш яшчэ чуць-чуць націснуць:

— Гаварыць з вашым прэм'ерам цікава, але нялёгка. Калі я сказаў яму пра нашу гутарку аб арганізацыі работы Транссібірскай чыгункі і аб вашай згодзе ўзяць буйнога амерыканскага спецыяліста ў памочнікі наркома шляхоў зносін, ведаеце, што адказаў мне пан Ленін?

Троцкі насцярожыўся.

— Ён сказаў: наш нарком вялікі гумарыст.

Робінс убачыў, як перасмыкнулася ў Троцкага левая шчака. Здаецца, пацэліў ён трапна. Але Троцкі не выдаў сябе: каб паказаць, што ён сапраўды не пазбаўлены гумару, весела засмяяўся.

— Праўда, потым Ленін... з хітрай усмешкай сказаў: Троцкі не дагаварыў вам. Мы згодны ўзяць вашага чалавека з умовай, што вы возьмеце рускага бальшавіка памочнікам свайго міністра. З гэтага я вывеў, што сам Ленін не меншы гумарыст. Не запатрабуе ён за Архангельск і Мурманск пасады міністраў у амерыканскім урадзе? Мяне забаўляе такая перспектыва: рускія бальшавікі на Капіталійскім узвышшы!

З гэтага жарту яны пасмяяліся разам. Але Троцкі падумаў: «З гэтым мільянерам нельга быць да канца шчырым. Здаецца, ён зачараваны Леніным».

Пасля гэтага візіту Раймонд Робінс у адным са сваіх данясенняў дэпартаменту пісаў: «Я быў задаволены, што менавіта ён працягвае Брэсцкую канферэнцыю... Я быў задаволены, таму што я знаў яго. Ён быў нешта накшталт «прымадонны». Я знаў, што Троцкі зацягвае канферэнцыю наколькі гэта магчыма, таму што яна давала найбольш поўнае задавальненне яго эгаізму (эгацэнтрызму). Ён быў у цэнтры сусветных падзей... ён красамоўнічаў перад самай шырокай аўдыторыяй, на якую мог разлічваць раней і ў будучым».

І той жа Робінс праз два месяцы, ад'язджаючы з Расіі, напісаў Леніну: «Ваша прароцкая праніклівасць і геніяльнае кіраўніцтва дазволілі савецкай уладзе ўмацавацца ва ўсёй Расіі, і я ўпэўнены, што гэты новы стваральны орган дэмакратычнага ўкладу жыцця людзей натхніць і рушыць уперад справу свабоды ва ўсім свеце».

2

«Мірныя перагаворы ў Брэст-Літоўску ў поўнай меры высветлілі, у сучасны момант, к 7.1.1918, што ў германскага ўрада (які поўнасцю вядзе на паваду астатнія ўрады 4-рнога саюза) безумоўна ўзяла верх

ваенная партыя, якая па сутнасці справы прад'явіла ўжо Расіі ультыматум (з дня на дзень трэба чакаць, неабходна чакаць і яго фармальнага прад'яўлення). Ультыматум гэты такі вось: альбо далейшая вайна, альбо анексіяніcцкі мір, г. зн. мір на ўмове, што мы аддаём усе занятыя намі землі, германцы захоўваюць усе занятыя імі землі і накладаюць на нас кантрыбуцыю (прыкрытую выглядам платы на ўтрыманне палонных), кантрыбуцыю размерам прыблізна ў 3 мільярды рублёў з растэрміноўкай плацяжу на некалькі гадоў».

Ленін памакнуў пяро ў чарніліцу, тоўста вывеў лічбу наступнага тэзіса, але пяро застыла, нацэленае на паперу.

Лёгка пісаць факты. Нялёгка даць ім філасофскае тлумачэнне. А трэба напісаць так, каб пераканаць людзей. Ох, як трэба пераканаць усіх, хто памыляецца ў самым галоўным — у пытанні аб міры!

Ленін задумаўся.

У Смольным было нязвыкла ціха: позні час, дванаццатая гадзіна ночы. Але Уладзімір Ільіч праз прачыненыя дзверы пачуў ціхі шэпт у пакоі сакратарыята. Там таксама апусцела, засталіся толькі вартавыя ды дзяжурны сакратар — Юлія Паўлаўна Сяргеева, гаманкая вясёлая беларуска. Леніну падабаліся і яе характар, і яе беларускі акцэнт з цвёрдым «р» і мяккім «ц»: «трапіш», «зара», «іграюць». Гэта, безумоўна, яна шэпчацца з вартавымі.

Ленін, калі пісаў, не звяртаў увагі нават на дзённы гул галасоў і тупат соцень ног на «палубах» грандыёзнага карабля рэвалюцыі — Смольнага. Шэпт яму не асабліва перашкаджаў. Можна пайсці і зачыніць дзверы шчыльней, але з-за далікатнасці ён не рабіў гэтага, ведаючы, што такі яго жэст збянтэжыць людзей у прыёмнай і яны будуць напружана маўчаць, пакуль ён будзе працаваць у кабінеце. А працаваць яму прыйдзецца позна. Тэзісы аб неадкладным заключэнні міру павінны быць гатовы да заўтра!

Пасля кароткага роздуму Ленін напісаў:

«Перад сацыялістычным урадам Расіі паўстае пытанне, якое патрабуе неадкладнага вырашэння, ці прыняць цяпер гэты анексіяніcцкі мір або весці адразу рэвалюцыйную вайну».

І зноў спыніўся.

Што, аднак, перашкаджае працаваць, як заўсёды,— з той імклівасцю, калі пяро, нават пры яго хуткім пісанні, не паспявае за думкай? Баліць галава? Так, галава баліць — быў вельмі цяжкі дзень. Шаснаццаць гадзін работы з кароткімі паўзамі.

Уладзімір Ільіч падняўся з-за стала, прайшоўся па кабінеце, спружынячы нагамі, каб трохі размяць іх. Звыкла спыніўся каля акна, спачатку каля таго, што выходзіла на Лафонскую плошчу.

Удзень разглядванне плошчы, перспектывы Петраграда давала і адпачынак — у залежнасці ад задачы,— і яснасць думкі. Цяпер было пуста, заснежана, цёмна — дзе-нідзе далёкія агеньчыкі. Горад без вугалю і хлеба рана засынае. Не, не рана засынае гэты горад. Колькі ў гэты час не спіць контррэвалюцыянераў, буржуяў... Не толькі не спяць — шэпчуцца, змаўляюцца.

Уладзімір Ільіч перайшоў да акна, з якога відзён быў галоўны пад'езд Смольнага. Цьмяна гарэлі газавыя ліхтары. Хадзілі чырвонаармейцы, з-за калон выглядвалі дулы гармат. Гэтая зусім ваенная карціна — гарматы, чырвонаармейцы (Ленін не ўпершыню ўжо байцоў рабочага атрада, што ахоўваў Смольны, называў чырвонаармейцамі) — як бы адкрыла самую шырокую перспектыву.

Ленін мысленна напісаў:

«На стварэнне сапраўды трывалай і ідэйна моцнай сацыялістычнай рабоча-сялянскай арміі патрэбны, па меншай меры, месяцы і месяцы»,— і тут жа спытаў: — Няўжо такая простая ісціна не зразумелая вам, таварыш Бухарын?

Пастаяў каля акна — трохі сцішыўся боль у галаве. Але не пакідала пачуццё трывогі. Яно так рэдка было ў яго, ён заўсёды супраціўляўся такому настрою: ніколі і ні ў чым не дазваляў сабе раскісаць.

Аднак ад чаго яно, гэтае пачуццё? Што здарылася?

Гадзіну назад скончылася пасяджэнне Саўнаркома.

Леніну здалося, што цэнтральным стане пытанне аб мірных перагаворах. Але яно прайшло звычайным сярод мноства іншых, нічым асаблівым не выдзелілася.

Троцкі зрабіў кароткі і падазрона аб'ектыўны даклад аб ультыматуме Гофмана — усё тое, што толькі што лягло на паперу ў аснову аднаго з тэзісаў. Троцкі не выказаў нават сваёй пазіцыі. Толькі Каменеў, якога Троцкі прывёз з сабой — навошта? за ад'ютанта? — з незразумелай мэтай паведаміў аб «левых» поглядах членаў дэлегацыі Іофе і Радэка. А якая пазіцыя ў самога Каменева, каторы ўжо неаднойчы шкодзіў рэвалюцыі? Наркомы, якія ў пытанні вайны схіляюцца да «левых», таксама змаўчалі, ніякай дыскусіі не пачалі, толькі высветлілі ў кіраўніка дэлегацыі некаторыя працэдурныя пытанні перагавораў.

Праўда, Ленін бачыў, як у членаў урада пазмрачнелі твары ад паведамлення, што ў Германіі яўна перамагае партыя вайны. Але які вывад з гэтага зробяць «левыя», іх малады лідэр Бухарын? Дзе яны збіраюцца выступіць супраць яго, Леніна, дзе дадуць бой? У ЦК? На заўтрашняй нарадзе бальшавікоў — дэлегатаў Трэцяга з'езда, якую

«левыя» хочуць ператварыць у партыйную канферэнцыю? Так, безумоўна, заўтра.

«Што ж, я і мае аднадумцы... мы прымем гэты бой. І мы выйграем яго, таварышы і панове!» — звярнуўся Ільіч у думках і да членаў сваёй партыі, і да ворагаў — да ўсіх, каму хочацца ўцягнуць рэспубліку ў вайну.

Але да бою, як і ўвогуле да вайны, трэба рыхтавацца! Тэзісы! Да заўтрашняй нарады яны абавязкова павінны быць гатовыя! Гэта тая зброя, якая паможа згуртаваць армію прыхільнікаў, абаронцаў міру.

Ленін не сумняваўся, што сярод радавых членаў партыі такіх людзей абсалютная большасць, але левыя крыкуны збіваюць іх з панталыку. Трэба ў тэзісах разбіць усе «тэорыі» Бухарына, Радэка, левых эсэраў. І Троцкага. Ён пакуль што не выступіў публічна, але настойліва і хітра праводзіць не менш авантурную лінію. Усёй партыі трэба даказаць, што марксізм патрабуе ўліку аб'ектыўных умоў і іх змен. А карэнная змена — у стварэнні Рэспублікі Саветаў. Таму ўся наша тактыка павінна быць падначалена аднаму прынцыпу: «Як больш правільна і надзейна можна забяспечыць сацыялістычнай рэвалюцыі магчымасць умацавацца...»

Гэта адказ вам, «тэарэтык» Троцкі. Чакаць склаўшы рукі рэвалюцыі ў Германіі, у Францыі — гэта значыць пахаваць сваю ўласную. А таму абсурдна адкрыць немцам фронт. Вільгельм і Гіндэнбург толькі гэтага і чакаюць. Аднак пісаць. Трэба пісаць. У галаве думак — вадаспад. Але яны стануць зброяй, калі лягуць на паперу.

Уладзімір Ільіч вярнуўся да стала. Прачытаў напісанае. Не, логіка разважанняў патрабуе, каб менавіта пра гэта было сказана раней, чым пра факт нямецкага ўльтыматуму, чытач павінен асэнсаваць ультыматум тэарэтычна ўзброеным. Адзіна правільны марксісцкі вывад такі:

«Становішча спраў з сацыялістычнай рэвалюцыяй у Расіі павінна быць пакладзена ў аснову ўсякага вызначэння міжнародных задач нашай Савецкай улады».

Ленін узрадаваўся, што думка паплыла звыкла хутка і хораша выстройвалася. Пяро проста ляцела, здавалася, не датыкалася да паперы, аднак пакідала словы, сказы, абзацы, навечна занатоўвала ленінскую думку.

«Наша прапагандысцкая дзейнасць наогул і арганізацыя братання ў асаблівасці павінны быць узмоцнены і развіты. Але было б памылкай пабудаваць тактыку сацыялістычнага ўрада Расіі на спробах вызначыць, надыдзе еўрапейская і асабліва германская сацыялістычная рэвалюцыя ў бліжэйшыя паўгода (або падобны

кароткі тэрмін) ці не надыдзе. Паколькі вызначыць гэтага нельга ні ў якім разе, то ўсе падобныя спробы, аб'ектыўна, звяліся б да сляпой азартнай ігры».

Раптам думка перапынілася. Адцягнуў увагу дзіўны гук: недзе, не ў прыёмнай, далёка недзе, магчыма, у бяссонным 75-м пакоі, пачала кляцаць машынка.

Дзіўна. Ніколі ён не звяртаў увагі на машынку, якая ўдзень, што кулямёт, страчыла побач, за сцяной. А тут... Ці то начная цішыня гэтак абвастрыла гукі? Ці проста стомленасць? Нервы. Галава такі баліць.

Не дзіва было стаміцца.

Пазаўчора — адкрыццё і роспуск Устаноўчага сходу. Перад гэтым незвычайная работа ў сувязі з тым, што контррэвалюцыя рыхтавала выступленне ў абарону сходу. Толькі за апошнія два дні напісаў некалькі артыкулаў, многа разоў выступіў. На пасяджэнні ЦВК па Устаноўчаму сходу выступаў пяць ці шэсць разоў.

Сёння спадзяваўся на «ціхі» дзень, на спакойную работу. Ціхі! Гэты «ціхі» дзень прывёў да цяжкага эмацыянальнага ўзрушэння, да глыбокага абурэння, да таго, што ён сарваўся на лаянку. Нядобра. Але што зробіш, у яго нервы, як і ў кожнага чалавека.

...З раніцы Ленін прымаў балгарскага сацыял-дэмакрата Рамана Аўрамава.

З ім Ленін быў знаёмы яшчэ па эміграцыі. Пасля Другога з'езда Аўрамаў стаў бальшавіком і некаторы час працаваў у бальшавіцкім ЦК членам гаспадарчай камісіі.

Але на прыём да Старшыні Саўнаркома ён з'явіўся не ад балгарскіх сацыял-дэмакратаў, а як прадстаўнік урада «цара балгар» Фердынанда Кабургскага, па волі якога ўдзячны Расіі народ быў уцягнуты ў вайну супраць братоў сваіх.

Аўрамава прызвалі ў армію і паслалі на фронт. У канцы семнаццатага года царскія служкі, якія пільна сачылі за сацыялістам і мелі дакладнае дасье на яго, успомнілі пра сувязь Аўрамава з Леніным і тут жа знайшлі яго, паднялі ранг — паслалі ў Германію ў камісію па абмену ваеннапалоннымі і ў камісію па эканамічных пытаннях, якую ўзначальваў знаўца Расіі граф Мірбах. Ад урада цара Фердынанда Аўрамаву было спецыяльнае важнае і далікатнае заданне — паспрабаваць дамовіцца з бальшавіцкім урадам аб закупе ў рускіх чарнаморскіх партах збожжа і карасіну. Вайна давяла Балгарыю да голаду, народ, салдаты ўздымаліся на заклік: «Зробім, як рускія браты!» Трон хістаўся. Фердынанд хацеў уратаваць яго рускім хлебам, купленым з дапамогай балгарскага бальшавіка.

За дзень да гэтага Ленін гутарыў з Аўрамавым ажно дзве гадзіны.

Аўрамаў прыехаў з Берліна, працаваў у сумеснай з немцамі камісіі, быў даволі адукаваным эканамістам, меў вострае гаспадарлівае вока і, безумоўна, мог даць звесткі пра эканоміку Германіі больш шырокія, глыбокія і дакладныя, чым тыя, што змяшчаліся ў газетах. Ваенная цэнзура працэджвала падобныя матэрыялы праз такое густое педантычна-нямецкае сіта, якога, бадай, не мела ніводная з краін Антанты. У французскіх газетах часам яшчэ можна было прачытаць што-небудзь, вартае ленінскай увагі — увагі эканаміста і ваеннага стратэга. У немцаў — толькі хітрая дэзінфармацыя.

Акрамя сваёй работы ў камісіях, Аўрамаў меў кантакты з нямецкімі сацыял-дэмакратамі. Перад ад'ездам у Петраград сустракаўся з Каўцкім, з Гаазе, з Мерынгам. Яны перадалі Леніну «гарачыя прыветы», але Каўцкі даручыў сказаць, каб Ленін не разлічваў на рэвалюцыйную дапамогу з боку Германіі. «Нямецкі народ — не рэвалюцыйны народ»,— сказаў лідэр «незалежных».

З гэтага Аўрамаў пачаў гутарку.

Такі «прывет» Каўцкага ўзлаваў Леніна.

— Паўстанне арміі, голад народа ў іх на носе, а яны, гэтыя старыя бабы і баязліўцы, паклёпнічаюць на нямецкі народ, сцвярджаюць, што ён не здольны на рэвалюцыю.

Ленін лепш за Каўцкага ведаў, разумеў, што разлічваць на нямецкую рэвалюцыю ў бліжэйшы час нельга. Але няве'е ва ўласны народ, у нямецкі пралетарыят яго моцна абурыла.

Увогуле для Леніна Аўрамаў быў найкаштоўнейшы субяседнік, інфарматар больш дасведчаны, чым Платэн. Раман Аўрамаў нанюхаўся ўсяго, на розных франтах і ў розных тылах, ён ведаў чацвярны хлеў і яго быдла знутры. Таму Ленін засыпаў яго пытаннямі.

«Я быў падвергнуты літаральна ўраганнаму абстрэлу,— успамінае Аўрамаў.— Ленін хацеў ведаць усё да самых падрабязнасцей». Што ў Германіі? У Балгарыі? У Аўстра-Венгрыі? У якім становішчы прамысловасць? Як з вугалем, з металам? Як з хлебам? Ага, немцы, дзякуючы ўліку і кантролю (іменна ўліку і кантролю!) за нарміраваннем, трымаюцца. Чэхі, венгры, балгары галадаюць. За авантуры Раманавых, гогенцолернаў, Габсбургаў і кабургаў разлічваюцца народы.

Рускія палонныя выкарыстоўваюцца на самых цяжкіх работах.

Ленін тут жа пазваніў Троцкаму:

— Леў Давыдавіч, вернецеся ў Брэст — заявіце ад імя Савецкага Урада немцам пратэст супраць бесчалавечнай эксплуатацыі нашых

палонных. Рускія салдаты працуюць у шахтах па чатырнаццаць гадзін і маюць самы мізэрны паёк. У паўтара раза меншы, чым палонныя англічане. Скажыце, што гэта рабства. І мы заяўляем: ганьба рабаўласнікам! Адкуль звесткі? З вельмі надзейных крыніц. Так, так, з вельмі надзейных.

Балгарына крануў ленінскі клопат аб яго рэпутацыі і бяспецы: Уладзімір Ільіч не называе яго прозвішча, разумеючы, што ён ваенны чалавек і яму, у выпадку чаго, лёгка могуць прышыць разглашэнне сакрэтаў.

Аўрамаў таксама праявіў чалавечую тактоўнасць: не стаў пасля такой шчырай сяброўскай размовы аднадумцаў змешваць зусім розныя свае місіі — тое, што ішло ад пераканання, з тым, што належала зрабіць па абавязку афіцэра і дыпламата краіны, якая ваявала з Расіяй.

Абавязак свой Аўрамаў выканаў сёння. Папрасіў прадаць Балгарыі хлеб.

Уладзіміра Ільіча просьба такая здзівіла.

Галодным балгарам варта было памагчы. Але Балгарыя не падпісала яшчэ нават міру, а Фердынанд хоча ўмацаваць сваё становішча за кошт рускага хлеба. Ці не занадта цынічна? А хто паможа галодным рускім рабочым? Пакланіцца Амерыцы, як прапануе Робінс і з чым, здаецца, згаджаецца Троцкі? Нарком па замежных справах гатовы нават аддаць пад амерыканскі кантроль Транссібірскую чыгунку. Які гандляр народным дабром! Занадта вялікі кавалак — ад Уладзівастока да... Да якога пункта, Леў Давыдавіч, вы хочаце ўстанавіць гэты кантроль? Ці не да Петраграда?

Ленін падняўся з крэсла, на якім сядзеў насупраць Аўрамава. Цяпер перад ім быў не госць-аднадумец, а дыпламат варожай дзяржавы. Што ж адказаць пасланніку цара Фердынанда?

Ленін прайшоўся па кабінеце і раптам адчыніў дзверы ў пакой сакратарыята, якія заўсёды шчыльна зачыняліся, калі ў старшыні быў наведвальнік. Паклікаў:

— Таварыш Кізас!

Увайшла супрацоўніца.

— Анна Пятроўна,— звярнуўся да яе Уладзімір Ільіч.— Прынясіце нам з буфета па порцыі хлеба. Калі ён ёсць там.

— І чаю?

— Так, і чаю.

Аўрамаў, да якога не дайшла яшчэ ленінская думка, збянтэжана маўчаў.

Ленін прайшоў да свайго рабочага месца за сталом, сеў у крэсла. Спытаў з афіцыйнай далікатнасцю:

— Ў гасцініцы не холадна?

— Холадна, Уладзімір Ільіч.

— Суровая зіма. Вельмі суровая зіма. А вугалю няма. Я скажу таварышам, каб вам знайшлі цяплейшую кватэру.

— Дзякую. Прашу вас не турбавацца.

Кізас увайшла, несучы талерачкі, на якіх стаялі шклянкі бледнага чаю і ляжалі тоненькія скібкі чорнага, пад колер бурага вугалю, хлеба.

Жанчына паставіла хлеб і чай перад Аўрамавым.

— Калі ласка,— сказаў Ленін госцю.— Прашу пакаштаваць хлеб, якім харчуецца пралетарыят Петраграда. Не выключаю, што рабочыя пякарні, з якой бяруць хлеб для Смольнага, стараюцца выпякаць яго лепшым, чым іншыя пякарні.

Аўрамаў зразумеў, што гэта адказ Леніна на яго просьбу прадаць хлеб, і яму зрабілася сорамна за нахабства людзей, што даручылі яму такую місію. Ацеслівы хлеб комам стаяў у горле.

Ленін еў хлеб з апетытам. Але чай яму не далі дапіць.

Зазваніў тэлефон. Уладзімір Ільіч узяў трубку. І раптам Аўрамаў угледзеў, як змяніўся ў Леніна твар — уміг наліўся гнеўнай чырванню, такога Леніна ён яшчэ ніколі не бачыў, у самых гарачых дыспутах, якія вяліся ў Жэневе.

Старшыня ўрада закрычаў у трубку:

— Таварыш Урыцкі! Што ў вас творыцца ў горадзе? Вы старшыня камісіі па ахове Петраграда. І вы мне спакойна дакладваеце аб такой подлай правакацыі. Так, так спакойна... Неадкладна знайдзіце і арыштуйце гэтых анархістаў! Неадкладна!

Паклаўшы трубку, Ленін тут жа паклікаў сакратара.

— Бонч-Бруевіча да мяне! Дзе Бонч-Бруевіч? Чаму старшыня камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй дагэтуль не ведае, што ў Марыінскай бальніцы адбылося гнюснейшае забойства? У бальніцы! Савецкая ўлада нікому не дазволіць чыніць самасуды! Неадкладна знайдзіце мне Бонч-Бруевіча! Звяжыце мяне з Дыбенкам! Рэвалюцыю топча анархія, а ім — хоць бы што!

Ленін быў настолькі ўзбуджаны, што забыўся на прысутнасць Аўрамава. Аўрамаў, збянтэжаны, што мімаволі стаў сведкам незвычайнай падзеі, але і зацікаўлены — што ж здарылася? — адышоў у дальні куток кабінета да акна.

Колькі дзён назад спецыяльнай пастановай Саўнаркома былыя міністры Часовага ўрада кадэты Какошкін і Шынгароў, якія захва-

рэлі, былі пераведзены з Петрапаўлаўскай крэпасці ў бальніцу. У мінулую ноч матросы-анархісты ўварваліся ў бальніцу і забілі іх там.

Забойства гэтае надзвычай уразіла і абурыла Уладзіміра Ільіча. Ён ніяк не мог супакоіцца. Званіў па тэлефоне. Некага інфармаваў. Некага лаяў. Патрабаваў тлумачэнняў, дзеянняў.

У кабінет шпарка ўвайшоў Бонч-Бруевіч.

Уладзімір Ільіч накінуўся на яго:

— Чым вы заняты? Чым занята ваша камісія? Вы ведаеце, што здарылася?

— Я ведаю...

— Чаму не дакладваеце?

— Я ездзіў у бальніцу і правёў пярвічнае следства.

Ленін паспакайнеў, голас яго вярнуўся ў рэчышча

звыклага дзелавога тону:

— Урад назначае следчую камісію: Бонч-Бруевіч, Дыбенка, Штэйнберг. Неадкладна пачніце самае пільнае расследаванне. Віноўных арыштаваць абавязкова! Тут жа падрыхтуйце тэкст тэрміновай тэлеграмы. Усім камісарыятам, усім старшыням раённых Саветаў Петраграда і прыгарадаў. Камісіі па ахове Петраграда. Штабу Чырвонай гвардыі, ВЧК, камісарам вакзалаў... Абсалютна неадкладна падняць на ногі ўсе сілы, якія ёсць, і адшукаць забойцаў!

Бонч-Бруевіч хутка выйшаў.

А Ленін нейкую хвіліну сядзеў за сталом, масіруючы пальцамі скроні. У галаву ўдарыў боль. Аўрамаў баяўся паварушыцца. Але Уладзімір Ільіч успомніў пра чужога сведку і доўга, строга і пільна глядзеў на яго, як бы вывучаў: як балгарын прыняў гэтую падзею і як можа расказваць пра яе? Мабыць, зразумеўшы, што той страшна збянтэжаны і ўсім выглядам сваім паказвае, што нічога не заўважыў і нікому нічога не скажа, Ленін усміхнуўся. Потым наблізіўся да Аўрамава і коратка, адным сказам, растлумачыў сутнасць справы, якая вывела яго з раўнавагі. Між іншым кінуў:

— Плады анархізму. Анархія — злейшы вораг рэвалюцыі,— і, мабыць, яшчэ раз падкрэсліваючы, як трэба ахоўваць рэвалюцыю і яе штаб, бо ў першае наведванне Смольнага Аўрамаў спытаў, навошта такія строгасці — браневікі, гарматы ля пад'езда, кулямёты ў вокнах,— Ленін ужо з хітраватай усмешкай сказаў: — А без пропуска вас са Смольнага не выпусцяць.

Сеў да стала, адарваў шматок паперы, напісаў пропуск.

— Я скажу, каб вам далі аўтамабіль даехаць у гасцініцу.

Уладзімір Ільіч зразумеў, што перашкаджае яму не далёкі стук машынкі, адрываюць ад неадкладнай працы думкі пра забойства

міністраў. Анархію неабходна задушыць у зародку! Пры волі, якую дала рэвалюцыя, пры слабасці Савецкай улады, яе органаў унутранага парадку — гэта страшная стыхія, разгул анархіі. Яе адразу ж пачынае выкарыстоўваць контррэвалюцыя, як было з пагромамі вінных падвалаў.

Ленін рэдка турбаваў работнікаў Саўнаркома ўначы. Але тут адчуў, што, каб скончыць тэзісы аб міры, яму патрэбны даклад аб расследаванні сённяшняй падзеі.

Выйшаў у сакратарыят. Папрасіў Сяргееву знайсці Бонч-Бруевіча.

Камісары 75-га пакоя знайшлі свайго кіраўніка ў казарме флоцкага гвардзейскага экіпажа, дзе анархісты таксама зрабілі завaруху.

Уладзімір Дзмітрыевіч тут жа звязаўся з Леніным па тэлефоне і каротка далажыў аб рабоце, якую прарабіла надзвычайная камісія. Паабяцаў праз паўгадзіны з'явіцца, каб расказаць пра ўсё падрабязна.

Ленін пераканаўся, што камісія працуе, нягледзячы на ноч,— і сапраўды заспакоіўся і здолеў пераключыць увагу на тэарэтычнае і практычнае абгрунтаванне неабходнасці неадкладнага падпісання няшчаснага міру.

Сціхла машынка. Ці ён шчыльна зачыніў дзверы? Ва ўсялякім разе, нейкі час нішто не перашкаджала цячэнню думкі. І галава, здаецца, перастала балець. Не, галава баліць. Але трэба ўмець не прыслухоўвацца да таго, што ў цябе баліць. Ён гэта ўмеў, калі вось так пагружаўся ў працу.

Ленін пісаў:

«Беднейшае сялянства ў Расіі здольна падтрымаць сацыялістычную рэвалюцыю, кіруемую рабочым класам, але яно не здольна неадкладна, у даны момант пайсці на сур'ёзную рэвалюцыйную вайну. Ігнараваць гэтыя аб'ектыўныя суадносіны класавых сіл па данаму пытанню было б згубнай памылкай».

Няхай яго апаненты паспрабуюць аспрэчыць два дзесяткі тэзісаў! Такія эквілібрысты, як Бухарын, безумоўна, паспрабуюць гэта зрабіць. Але члены партыі будуць мець магчымасць параўнаць іх доказы, іх тэорыі і разабрацца, дзе праўда, за кім трэба пайсці.

Ленін верыў у здаровы рэалізм рабочых, салдат, на іх разлічваў тэзісы, таму і пісаў да празрыстасці прос та — каб зразумеў любы, нават непісьменны, чалавек.

Ленін уяўляў, ведаў наперад аргументы сваіх апанентаў і разбіваў іх. Ён гаварыў бязлітасна суровую праўду:

«Калі ж германская рэвалюцыя ў бліжэйшыя месяцы не адбудзецца, то ход падзей, пры прадаўжэнні вайны, будзе непазбежна такі, што мацнейшыя паражэнні прымусяць Расію заключыць яшчэ больш нявыгадны сепаратны мір, прычым мір гэты будзе заключай не сацыялістычным урадам, а якім-небудзь іншым (напрыклад, блокам буржуазнай Рады з чарноўцамі або што-небудзь падобнае)».

Ленін пісаў дваццаты тэзіс, калі прыйшоў Бонч-Бруевіч.

— Хвіліначку пасядзіце, Уладзімір Дзмітрыевіч. Не, не, не выходзьце. Пасядзіце тут.

Кіраўнік спраў прайшоў у дальні куток і стаіўся там, каб не перашкодзіць. Але глядзеў, як на твары Леніна, у маршчынах яго лба, у вачах, на вуснах адбіваецца тое, пра што ён піша. Бонч-Бруевіч бачыў гэта не ўпершыню, здзіўляўся і захапляўся такому выяўленню думкі на абліччы; хоць чытай на твары.

Ленін размашыста падкрэсліў вядомыя нам словы, сабраў раскіданыя па стале лісткі, падняўся з крэсла, трымаючы лісткі ў руцэ. Яўна задаволены, паказаў іх Бонч-Бруевічу.

— Тэзісы аб міры. Партыі трэба зброя супраць левых фразёраў. Супраць пазіцыі Троцкага.

Склаў лісты, беражліва, як важнейшы дакумент, схаваў іх ва ўнутраную кішэню пінжака. З ласкавай прыжмуранасцю агледзеў кіраўніка спраў. Мабыць, трохі адчуваў няёмкасць за ранішнюю гнеўную ўспышку сваю.

— Уладзімір Дзмітрыевіч, у вас выгляд вучня, якога паставілі ў кут. Не трэба, баценька. Сядайце і расказвайце, што зроблена камісіяй.

Бонч-Бруевіч пачаў расказваць аб выніках следства.

— Спачуванне сем'ям нябожчыкаў вынеслі? Сказалі, што віноўныя будуць пакараны па ўсёй строгасці рэвалюцыйнага закона? Прасачыце за пахаваннем. Кадэты і эсэры могуць выкарыстаць пахаванне для дэманстрацыі супраць Савецкага Урада. Вы кажаце: арыштаваны падазроныя матросы. На чым грунтуецца падазронасць? Абавязкова вочная стаўка з персаналам бальніцы! За самасуд — суровае пакаранне. Але каб ніхто не пацярпеў з невіноўных. Перадайце Штэйнбергу, што ён нясе персанальную адказнасць за вядзенне следства. Матросам гвардзейскага экіпажа, пра анархічны настрой якіх вы толькі што расказалі, перадайце ад імя ўрада, што яны адказваюць за жыццё арыштаваных афіцэраў і за самасуд панясуць суровую кару. А ўвогуле пашліце ў экіпаж надзейных бальшавікоў. Аддзяліце здаровую частку матросаў ад анархістаў. Анархістаў раззбройце.

Атрымаўшы ўказанні па розных пытаннях, не толькі наконт анархістаў, хоць забойства Шынгарова і Какошкіна, відно было, усё яшчэ моцна хвалявала Уладзіміра Ільіча, Бонч-Бруевіч на развітанне спытаў:

— Ці не пара вам адпачываць, Уладзімір Ільіч? Поўнач.

— Я яшчэ павінен прыняць Грымлунда.

— Уладзімір Ільіч, я вымушаны буду паставіць на Саўнаркоме пытанне аб рэжыме работы старшыні.

Ленін нахмурыўся, але тут жа пасміхнуўся.

— Таварыш Бонч-Бруевіч! Не рабіцеся бюракратам. Адпачываць, баценька, будзем, калі завяршым рэвалюцыю, умацуем уладу рабочых.

— А мяне вы адаслалі ў «Халілу».

Ленін засмяяўся.

— Вы немагчымы чалавек, Уладзімір Дзмітрыевіч.

3

«Левыя» адчувалі сябе пераможцамі. Пасля сканчэння нарады лідэры «левых» не разыходзіліся. Яны стоўпіліся ў пярэднім кутку залы, за сталом для прэзідыума, вакол Бухарына і шумна, са смехам, з жартамі, працягвалі размову. Праўда, у прысутнасці Леніна яны не выказвалі сваёй радасці вынікамі галасавання, яны вялі як бы абстрактную размову — размову людзей, якія адпачываюць пасля напружанай працы. Але радасць іх адчувалася ва ўсім — як яны гаварылі, аб чым гаварылі, як смяяліся, якім выглядаў Мікалай Іванавіч Бухарын. Ён стаяў у цэнтры групы, даволі кругленькі для сваіх трыццаці гадоў і галоднага часу, расчырванелы ад узбуджанасці — ад задаволенасці, мабыць, сваёй палымянай, глыбокай, як ён лічыў, прамовай, якая, безумоўна, згуртавала прыхільнікаў рэвалюцыйнай вайны і дала ім перамогу над самім Леніным. Трыццаць два чалавекі прагаласавалі за яго, Бухарына, і толькі пятнаццаць — за пазіцыю Леніна. Шаснаццаць галасоў сабраў Троцкі. Але Троцкі, тэорыя яго, бліжэй, значна бліжэй да іх, «левых», з Троцкім можна аб'яднацца і ў ЦК, і на канферэнцыі, склікання якой яны будуць патрабаваць, паколькі не ўдалося ператварыць у канферэнцыю гэтую нараду ЦК з дэлегатамі Трэцяга з'езда Саветаў і кіраўнікамі буйных партыйных арганізацый.

Ленін таксама затрымаўся ў зале, у другім канцы, каля дзвярэй. Затрымалі яго не столькі аднадумцы, колькі тыя «левыя», якім, магчыма, стала сорамна за бестактоўна-шумную рэакцыю Бухарына, Ломава, Асінскага, Касіёра... і ўсіх тых, што як бы, пасля нарады,

захапілі прэзідыум. Безумоўна, ленінцам таксама хацелася падтрымаць, падбадзёрыць правадыра партыі.

Першым па-рабочаму проста і шчыра пра гэта сказаў Фёдар Андрэевіч Арцём:

— Не перажывайце, Уладзімір Ільіч. Гэтым наша барацьба за мір не канчаецца.

Ленін у праходзе паміж бязладна рассунутымі венскімі крэсламі з удзячнасцю сціснуў локаць свайго вернага аднадумца, якога любіў за яго рабочы гарт, сказаў ціха:

— Таварыш Арцём, я перажываю не за сябе. За іх. Чаму яны радуюцца? Магчымасці пахаваць Савецкую ўладу?

Такога не скажаш гучна, на поўны голас, тым больш афіцыйна, з трыбуны. У яго вялікае пачуццё адказнасці за свае словы. І тактоўнасць. А галоўнае — пры любой, самай вострай палеміцы нельга сказаць такога, што дало б гэтым маладым і гарачым галовам повад для расколу. Нельга забываць, што людзі гэта розныя і не надта разбіраюцца ў тэорыі. Ва ўсёй групы «левых» ёсць адна добрая якасць — іх маладосць. Урэшце трэба разумець, што рэвалюцыйны гонар маладых не дазваляе ім зміршыцца з нахабнымі прыцязаннямі імперыялістаў.

Уладзімір Ільіч быў удзячны Арцёму, іншым аднадумцам за падтрымку не толькі з трыбуны, але і за шчырую сяброўскую спагаду. Але ён зусім не адчуваў сябе пераможаным. Наадварот. Ён радаваўся свайму настрою. З'явілася ранейшая ваяўнічасць байца — тая, якой ён заўсёды вызначаўся ў эміграцыі. Толькі яго цяперашняе становішча вымушае да большай дыпламатыі. Аднак тэзісамі ён пачаў новы этап прапаганды ў партыі за падпісанне міру. А вынікі галасавання на гэтай прыватнай нарадзе роўна нічога не значаць, ні для каго яны не з'яўляюцца абавязковымі. Асабіста для яго яны толькі прасвятлілі настрой некаторых кіраўнікоў Маскоўскай і Петраградскай арганізацый. Таго ж Бубнава, Касіёра, Бронскага. А настрой трэба ведаць.

Затрымаў яго на выхадзе, між іншым, Бубнаў. Мабыць, яму хацелася хоць неяк апраўдацца.

— Уладзімір Ільіч! Я стаю на старой пазіцыі Леніна! — выгукнуў Андрэй Сяргеевіч.

— У тым і бяда, што вы хочаце стаяць на старой тактычнай пазіцыі і ўпарта не жадаеце бачыць, як стварылася новая аб'ектыўная пазіцыя. Паўтараючы старыя лозунгі, вы не ўлічваеце нават, што мы, бальшавікі, цяпер усе сталі абаронцамі. Адбылася карэнная перамена — створана рэспубліка рабочых і сялян. Рэспубліка Саветаў.

Дзяржынскі праз усю сваю рэвалюцыйную дзейнасць быў верным ленінцам і ненавідзеў апазіцыю. Ён не прымыкаў да Бухарына, не ўступаў у саюз з «левымі»... Фелікс Эдмундавіч перажываў недарэчнасць становішча, якое складвалася. Аднак ён шчыра быў перакананы, што рэвалюцыя павінна развівацца толькі так — шляхам рэвалюцыйнай вайны пралетарыяту, які першы перамог, супраць імперыялізму, у даным выпадку нямецкага. Акрамя таго, яму больш, чым каму іншаму, балела, што той мір, які заклікае падпісаць Ленін, аддае нямецкім імперыялістам на гвалт Польшчу, Беларусь, Літву.

Дзяржынскі не выступаў на нарадзе. Многія з ленінскіх тэзісаў аб міры зрабілі на яго моцнае ўражанне. Але з апошнім тэзісам, які Уладзімір Ільіч не зачытваў — тлумачыў вусна, ён не мог ніяк згадзіцца.

Каля Леніна быў і Троцкі. Ён не радаваўся ні перамозе «левых», ні сваёй перамозе. Троцкі, можа, адзін з усіх апанентаў Леніна зразумеў, які гэта сур'ёзны дакумент — ленінскія тэзісы аб міры. Бухарын сорак хвілін трубіў пра рэвалюцыйную вайну экспромтам. Сам ён, Троцкі, таксама звыкла практыкаваўся ў красамоўстве. Паланіў слухачоў сваімі доказамі. Але слухачоў было менш сямі дзесяткаў. Што з яго доказаў яны запомнілі? Ленін жа напісаў грунтоўную тэарэтычную работу, якую прачытае, будзе вывучаць уся партыя. Калі толькі паспеў пры яго занятасці? Троцкі папракнуў сябе, што ў Брэсце ён мала напісаў, хоць палітычная камісія засядала адну-дзве гадзіны, ды і то не кожны дзень.

Троцкі думаў, якім чынам нейтралізаваць уздзеянне ленінскіх тэзісаў. Падбіць Леніна, каб ён хутчэй апублікаваў тэзісы. Вось што трэба. Тады такія груганы, як Бухарын, Асінскі, Радэк, пачнуць аспрэчваць кожны сказ, кожнае палажэнне, заблытаюць, зацьмяць простыя і ясныя ісціны настолькі, што звычайнаму радавому члену партыі, рабочаму, які з марксісцкай тэорыі засвоіў хіба толькі лозунг рэвалюцыі, а тым больш непісьменнаму селяніну будзе немагчыма разабрацца, хто ж большы рэвалюцыянер — Ленін ці Бухарын. А ў выніку большасць можа падтрымаць яго, Троцкага, пазіцыю. О, як яму хацелася, каб хоць адзін стратэгічны напрамак рэвалюцыі быў вызначаны яго тэорыяй! Пакуль што на ўсіх этапах, ад лютага да кастрычніка і пасля, у перыяд свайго пераможнага шэсця, як называе гэта Ленін, рэвалюцыя развіваецца па ленінскай тэорыі, па ленінскім плане. А яму, Троцкаму, адводзілася роля практыка, выканаўцы. Ён павінен сваёй рукой падпісаць мір, неабходнасць якога так горача і — нельга не згадзіцца — абгрунтавана даводзіць Ленін.

Дзяржынскі слухаў Леніна, не перапыняючы, было відно, як Старшыні ВЧК хочацца зразумець усю логіку ленінскіх доказаў. Дзяржынскі, практык і рэаліст, з адным згаджаўся: з тымі ўзброенымі сіламі, якімі валодае рэспубліка (а іх, па сутнасці, няма), ніякай вайны, тым больш рэвалюцыйнай, весці нельга, гэта сапраўды абсурдна.

— Таварыш Дзяржынскі, наязджайце на фронт... напрыклад, на Мінскі ўчастак... да сябе на радзіму... і паглядзіце на армію — што ад яе засталося. Думаю, вы не станеце, як Асінскі, крычаць, што я хачу адаслаць вас на фронт?

— Што вы, Уладзімір Ільіч! Я прынімаю вашу аргументацыю. Я хачу зразумець іншае...

Далікатнасці Дзяржынскага Троцкі не меў; любога субяседніка ён мог перапыніць на паўслове і заглушыць сваім красамоўствам. Так ён і зрабіў.

— Фелікс! — да сваіх калег па Саўнаркому, за выключэннем Леніна і некаторых старых, як Скварцоў-Сцяпанаў, Троцкі звяртаўся фамільярна, па-панібрацку, часам заваёўваючы гэтым пэўныя сімпатыі ў тых, хто кляваў на такую танную прыманку.— Не мучай Уладзіміра Ільіча. Заўтра работа Леніна з'явіцца ў «Правде». Мы вывучым яе, і тады размова можа быць больш прадметнай. На пасяджэнні ЦК, напрыклад.

Ленін нічога не адказаў на тыраду Троцкага. Гэта насцярожыла Троцкага, і ён упэўнена і настойліва параіў:

— Тэзісы абавязкова трэба апублікаваць!

— Заўтра? — Ленін прыжмурана ўгледзеўся ў Троцкага, напэўна, адгадваючы тайны сэнс нечаканага клопату наркома па замежных справах аб прапагандзе яго працы.— І вы лічыце, што гэта паможа вам у перагаворах з немцамі?

Троцкі адчуў, што Ленін заганяе яго ў кут.

— Мы не робім тайны з нашай палітыкі.

— Мы ператварыліся б у наіўных прасцякоў, каб адкрывалі ўсе свае тайны,— Ленін задумаўся.— Не. Тэзісы мы не будзем публікаваць. Па крайняй меры, да прад'яўлення немцамі афіцыйнага ультыматуму. Мы пазнаёмім з тэзісамі дэлегатаў з'езда Саветаў. Разашлём партыйным арганізацыям.

Троцкі ўнутрана перасмыкнуўся. О, Леніна немагчыма збіць з тропу! У яго ўсё прадумана. І стратэгія, і тактыка. Апублікаваныя адразу, тэзісы маглі б стаць звычайным артыкулам, якіх зараз па пытанні міру і вайны з'яўляецца нямала ва ўсіх газетах, бальшавіцкіх, эсэраўскіх, меншавіцкіх, і іх сапраўды адкрыта дзяўблі б апаненты. Зусім іншая рэч, калі гэта пойдзе як дакумент ЦК, Саўнаркома —

афіцыйны дакумент партыі, урада. Па ім можа быць дыскусія. Але гэта будзе дыскусія зусім іншага характару. Пры такой сітуацыі і Бухарыну, і яму, Троцкаму, прыйдзецца выпрацоўваць іншую тактыку і нямала патраціць энергіі, каб аспрэчыць ленінскія погляды. Трэба перашкодзіць, каб тэзісы сталі агульнапартыйным дакументам. Трэба дамагчыся рашэння ЦК аб неабходнасці іх публікацыі. Ленін, які строга трымаецца партыйнай дысцыпліны, падпарадкуецца рашэнню ЦК.

4

Праз тры дні, на пасяджэнні Цэнтральнага Камітэта дваццаць чацвёртага студзеня, «левыя» не адчувалі ўжо сябе пераможцамі. Не трымаліся асобна ад іншых, не шумелі, не смяяліся. Не групаваліся вакол свайго лідэра. Наадварот, больш звярталіся да Свярдлова, ён быў у цэнтры ўвагі ў сувязі са з'ездам Саветаў, што адкрыўся напярэдадні.

Спакойную, дзелавую натуральнасць узаемаадносін можна было растлумачыць тым, што амаль усе члены ЦК учора бачыліся на з'ездзе і цяпер, перад пасяджэннем, як бы працягваюць раней пачатыя размовы, не разбіваючыся пры гэтым на групы ў залежнасці ад таго, якую хто пазіцыю займае па пытанні міру, хоць пытанне гэтае мелася быць галоўным сёння, з-за яго і склікана надзвычайнае пасяджэнне. Троцкі, адзін з першых, адчуў перамену ў настроі «левых». Яны быццам пасварыліся паміж сабой. Не, сваркі не было, інакш Майсей Саламонавіч Урыцкі інфармаваў бы яго, Троцкага, аб тым, што адбылося. Проста Бухарын і яго прыхільнікі разгубіліся. Ленінскія тэзісы, над якімі яны не маглі не думаць — не пустыя ж галовы! — якія не маглі не вывучаць тры дні, і тая авацыя, якую наладзілі дэлегаты з'езда — рабочыя і салдаты — толькі адной прапанове Свярдлова выбраць Леніна ганаровым старшынёй з'езда, безумоўна, зрабілі на ўсіх гэтых людзей уражанне. Нават ён, Троцкі, пры ўсім сваім скептыцызме да розуму і аўтарытэту ўсіх іншых, акрамя свайго ўласнага, не мог застацца спакойным. У яго варухнулася і добрае пачуццё гонару — што і ён побач з Леніным, што частка апладысментаў адрасавана і яму, і нядобрае пачуццё — зайздрасць. Дарэчы, ён не глушыў гэтае пачуццё, даваў яму волю, бо яно пэўным чынам прасвятляла яго вельмі складаныя адносіны да таго, за кім ідзе партыя.

Падумаўшы пра разгубленасць «левых», Троцкі адчуў знявагу да Бухарына і яго групы. Але яго моцна непакоіла, куды хто з іх можа павярнуць. Ад гэтага будуць залежаць вынікі галасавання. Урэшце, галоўнае — не даць Леніну набраць большасць галасоў за неадкладнае

падпісанне міру. Пэўную работу Троцкаму ўдалося правесці. Але не хапала часу — дні былі запоўнены бясконцымі пасяджэннямі, не было нават калі запрасіць надзейных людзей на шклянку чаю. Аднак яшчэ на з'ездзе Саветаў ён дамовіўся, каб старшынстваваць сёння даручылі яму — пасяджэнні ЦК, не ў прыклад пасяджэнням Саўнаркома, дзе нязменна старшынстваваў Ленін, вялі па чарзе члены Палітбюро. Ён, Троцкі, маўляў, з-за адсутнасці даўно не карыстаўся сваім правам.

Сабраліся ў класным пакоі Смольнага, дзе пастаянна з невялікім апаратам прадавала Стасава, сакратар ЦК. У пакоі стаяла некалькі сталоў, каля якіх і паселі члены і кандыдаты ў члены ЦК, выбранага Шостым з'ездам. Збор быў найбольш поўны — шаснаццаць чалавек. З членаў не было толькі Берзіна і Смілгі. «Левыя» паставілі пытанне аб запрашэнні Касіёра, ім патрэбен быў даклад пра пазіцыю Петраградскага камітэта, які выступіў супраць мірнага дагавору.

Стэнаграфістак не было, ніхто тады не думаў, як праз многа гадоў і дзесяцігоддзяў гісторыкам будзе не хапаць такой стэнаграмы. Добра, што нястомная працаўніца Елена Дзмітрыеўна Стасава нязменна са жніўня 1917 года запісвала ў свой запаветны сшытак усе пасяджэнні Цэнтральнага Камітэта, на якіх прысутнічала. Рабіла яна гэта лепш за тэхнічных сакратароў, больш дакладна і пісьменна.

Старэйшая рэвалюцыянерка з капой сівых ужо, але ўсё яшчэ прыгожых валасоў, у круглых акулярах у срэбранай, пад колер сівізны, аправе, сядзела за асобным сталом. Блізка ад яе не садзіліся — яна не любіла курцоў.

Стасава таксама трапіла пад уплыў «левых», яна шчыра баялася, што без рэвалюцыі на Захадзе руская рэвалюцыя загіне, але яна часцей, чым хто з мужчын, сустракалася з піцерскімі работніцамі і ведала, як ім хочацца міру, як многія з іх чакаюць з фронту мужоў і братоў. Таму пасяджэнне, на якім вырашаўся лёс міру, яе хвалявала асабліва, па-жаночаму. Яна не толькі падрыхтавала пяро і чарніла, але і завостраныя карандашы, каб запісаць без «правалаў». Старанна працерла хусцінкай акуляры.

Ленін сеў каля яе стала. Ленін таксама пакутаваў ад курцоў. Адзін Сталін сваёй люлькай мог задыміць любую залу.

Пасля хуткага вырашэння пытанняў аб дапушчэнні Касіёра і аб рэкамендацыях на кіруючыя пасты ў прафсаюзы ў сувязі са з'ездам прафесійных саюзаў перайшлі да трэцяга пункта, самага кароткага па сваёй пратакольнай фармуліроўцы: Аб міры.

«Першым бярэ слова таварыш Ленін»,— запісала Стасава.

Ленін. Таварышы, на нарадзе дваццаць першага вызначыліся тры пункты гледжання. Прадстаўнікі пазіцый выказалі свае довады.

Але дакумент ёсць адзін — мае тэзісы аб неадкладным заключэнні сепаратнага і анексіянісцкага міру. Як зробім сёння? Ці абмяркуем тэзісы па пунктах? Ці зноў будзем пачынаць агульную дыскусію?

Троцкі. Я — за агульную дыскусію.

Урыцкі. Я падтрымліваю Троцкага.

Свярдлоў. Зноў, значыцца, будзем агітаваць адзін аднаго за мір ці за вайну?

Ломаў. За рэвалюцыйную вайну, таварыш Свярдлоў!

Ленін. Галасуйце, Леў Давыдавіч... Так. Большасць за дыскусію. У такім разе дазвольце пачаць яе. Пазіцыі кожнай групы вядомыя. Сепаратны анексіянісцкі мір. Рэвалюцыйная вайна. І трэцяя... трэцяя... Аб'явіць, што вайну спыняем, армію дэмабілізаваць, але міру не падпісваць. Геніяльна!

Бухарын. Уладзімір Ільіч, можна без іроніі?

Ленін (вельмі сур'ёзна). Давайце без іроніі. Якая можа быць іронія, калі вырашаецца пытанне аб жыцці ці смерці сацыялістычнай рэспублікі?!

Калантай. Навошта так драматызаваць?

Ленін. Мы пачалі дыскусію. Я абяцаю вельмі ўважліва выслухаць конскага з вас.

Троцкі. Прашу ўвагі.

Ленін. Таварышы! Я не буду паўтараць свае тэзісы, у вас ёсць іх тэкст. Адразу ўступаю ў панеміку са сваімі апанентамі. Першае тэарэтычнае панажэнне, у якім таварышы блытаюцца. Падкрэсліваю. Бальшавікі ніколі не адмаўляліся ад абароны айчыны. Але абарона айчыны павінна ўлічваць пэўную канкрэтную абстаноўку, якая ёсць цяпер, а менавіта: абарона сацыялістычнай рэспублікі ад вельмі яшчэ моцнага міжнароднага імперыялізму. Яснасць павінна быць толькі ў тым, як у даны момант, у данай абстаноўцы мы можам абараніць нашу сацыялістычную айчыну. Абараняюцца па-рознаму, таварышы. Безумоўна, наступленне — лепшая абарона. Але ніхто не аспрэчвае, што пры цяперашнім стане рускай арміі мы не толькі не можам наступаць... Я скажу больш суровую праўду: мы не здолеем нават адступаць. Армія надзвычай стомлена вайной... Конскі састаў такі, што мы не здолеем адвесці артылерыю, калі ў наступленне пяройдуць немцы. А яны будуць наступаць! Становішча немцаў на астравах Балтыйскага мора настолькі добрае, што пры наступленні яны здолеюць узяць Рэвель і Петраград голымі рукамі.

Працягваючы ў такіх умовах вайну, мы надзвычай узмоцнім нямецкі імперыялізм. Мір прыйдзецца ўсё роўна заключаць, але тады ён будзе яшчэ горшы, бо заключаць яго будзем не мы, нас змятуць

аб'яднаныя сілы контррэвалюцыі... ды проста салдаты, якія пабягуць з фронту. Хто пацерпіць урад, які давядзе да такога развалу, да такой ганьбы?!

Бубнаў. А той мір, які вы прапануеце, не ганьба?

Ленін. Безумоўна, мір, які мы вымушаны заключыць зараз,— мір пахабны, гвалтоўны. Але я здзіўляюся, што таварышы не разумеюць простай ісціны, якую я вымушаны паўтарыць: калі пачнецца вайна, наш урад будзе змецены. Мы апіраемся не толькі на пралетарыят, але і на беднейшае сялянства. Калі мы пачнём вайну, сяляне адыдуць ад нас. Армія распадзецца канчаткова. А новай арміі мы яшчэ не стварылі. З якімі сіламі мы будзем ваяваць? Перад намі драпежнік, узброены да зубоў. Імперыялістычны драпежнік, які толькі і чакае зручнага выпадку, каб задушыць рускую рэвалюцыю, ад трыумфальнага шэсця якой у маладых сяброў, што называюць сябе левымі (я апынуўся ў «правых»!), закружыліся галовы. Яны сталі забываць, дзякуючы чаму мы пасля Кастрычніка мелі некалькі месяцаў найвялікшага трыумфу. Нельга забываць, што міжнародная кан'юнктура, якая склалася вельмі выгадна для нас, прыкрыла нас ад імперыялізму. Наша рэвалюцыя — няхай гета гучыць парадаксальна — патрапіла ў шчаслівы момант, калі на чацвёртым годзе вайны краіны, што ваююць паміж сабой, знясіленыя, зайшлі ў тупік. Імперыялістычныя драпежнікі пакуль што не могуць аб'яднацца супраць нас. Гэта мы павінны выкарыстаць, а не прыкрывацца рэвалюцыйнай фразай, не лічыць, што і з міжнародным імперыялізмам мы расправімся гэтак жа лёгка, як з Керанскім ці з Карнілавым. Не, таварышы, так не будзе. Мы ведаем, як англійскія, французскія імперыялісты зацікаўлены, каб вайна прадаўжалася. Яны гатовы плаціць па сто рублёў за кожнага рускага салдата, які застаўся б у акопах. Але салдат не застаецца. Салдат не можа застацца. Армія развальваецца. А новай арміі, паўтараю, у нас яшчэ няма. Таварышы, якія стаяць на пазіцыі «рэвалюцыйнай вайны», даказваюць, што мы будзем знаходзіцца ў грамадзянскай вайне з нямецкім імперыялізмам і тым самым разбудзім рэвалюцыю ў Германіі. Але гэта наіўна, гэта падобна на дзіцячую развагу:

«Я магу рабіць любое глупства — Карл Лібкнехт мяне выручыць». Таварышы! Германія толькі цяжарная рэвалюцыяй. А ў нас нарадзілася выдатнае здаровае дзіця — сацыялістычная рэспубліка. І мы яго можам загубіць, па сутнасці, задушыць уласнымі рукамі, пачаўшы рэвалюцыйную вайну. Гэта авантура — думаць, што супраць рэвалюцыі Гіндэнбург і Гофман не адважацца наступаць. Не, таварышы, без стварэння новай арміі — рэвалюцыйнай арміі ніякай

рэвалюцыйнай вайны мы весці не можам. Не можам мы весці яе і без умацавання Савецкай улады, без правядзення сацыяльных рэформ, без наладжвання работы чыгунак... Без хлеба. Без металу. А каб мець усё гэта — трэба час. Трэба перадышка!

Тое, што прапануе таварыш Троцкі — вайну спыніць, мір не падпісваць, армію дэмабілізаваць,— гэта інтэрнацыянальная палітычная дэманстрацыя, не больш. Каб зрабіць такую прапанову, трэба забыць, што каля нашага мірнага хатняга звера ляжыць тыгр, які тут жа выкарыстае гэтую сітуацыю — адкрыты фронт і непадпісаны мір. Аднабаковым загадам утыркаць штык у зямлю вайну скончыць нельга! Троцкі даводзіць, што немец не можа наступаць. А я пытаюся: «А калі ён пачне наступаць?» Можам мы рызыкаваць? Можам мы ставіць на карту лёс рускай рэвалюцыі? Мы, людзі, якія стаяць за абарону сацыялістычнай айчыны? Кожнаму селяніну зразумела, што калі арміі няма, а побач з вамі — страшны драпежнік, то самае разумнае заключыць з ім мір, няхай кароткі, няхай ганебны, але які дасць вам сабраць сілы ці хаця б у парадку адступіць. Нямецкага драпежніка на «ўра» мы не возьмем! Безумоўна, мы робім паварот направа, які вядзе праз вельмі брудны хлеў. Але мы павінны гэта зрабіць. Яшчэ раз паўтараю: калі немцы пачнуць наступаць, то мы будзем вымушаны падпісаць любы мір і тады, безумоўна, ён будзе горшым. Для ўратавання сацыялістычнай рэспублікі тры мільярды кантрыбуцыі не вельмі дарагая цана!

Бухарын. Дарагая цана — не сама кантрыбуцыя, дарагая цана — уніжэнне рэвалюцыянераў перад імперыялістамі.

Ленін (горача). Рэвалюцыянер, які не хоча, калі барацьба патрабуе, паўзці на пузе па грязі,— не рэвалюцыянер, а балбатун. Не таму я прапаную так ісці, што гэта мне падабаецца, а таму, што іншай дарогі няма.

Бухарын (выслухаў Леніна далікатна, з паблажлівай усмешкай). Дарога ёсць, таварышы. Я ўважліва слухаў тэзісы Леніна на нарадзе, яшчэ з большай увагай прачытаў іх. Я высока цаню ленінскую логіку. Але тут я ўгледжваю істотныя супярэчнасці. Таварыш Ленін гаворыць, што мы стаім на пазіцыі абароны. Так. Але абарона мае на ўвазе рэвалюцыйную вайну, гэта раней даказваў і сам Ленін. Цяпер жа, па яго логіцы, выходзіць, што такой вайной мы паможам не міжнароднаму пралетарыяту, а імперыялістам. Другая памылка Уладзіміра Ільіча: ён хоча ўратаваць Расійскую Савецкую Рэспубліку без рэвалюцыі на Захадзе...

Ленін. Вы гарантуеце рэвалюцыю ў Германіі? А калі яе не будзе? Што тады? Аддамо нашу рэвалюцыю на з'ядзенне імперыялістам? Дзеля чаго мы бралі ўладу?

Бухарын. Дзеля сусветнай рэвалюцыі. Расійскую Сацыялістычную Рэспубліку неабходна разглядваць з пункту гледжання інтэрнацыяналізму, у плане агульнага фронту барацьбы класаў. Мы пайшлі першыя і перамаглі, у другіх краінах атрады стаяць на адным месцы, а ў трэціх, як у Германіі, Аўстра-Венгрыі, яны толькі пачалі рухацца. Падпісаўшы мір з кайзерам, мы спынім гэты рух, мы сарвём барацьбу. Нямецкія сацыял-дэмакраты зацікаўлены ў тым, каб мы не падпісвалі дагавору. Рабочыя Вены выйшлі на вуліцу з лозунгамі, на якіх напісана патрабаванне дэмакратычнага міру. А таварыш Ленін прапануе падпісаць анексіяніісцкі мір і выплаціць немцам кантрыбуцыю. Зможа гэта ўзняць пралетарскі рух у Германіі? Не, таварышы! Захоўваючы сваю сацыялістычную рэспубліку, мы трацім шансы на міжнародную рэвалюцыю. Няхай немцы нас паб'юць, няхай прасунуцца на сто вёрст. Для нас важна, як гэта адаб'ецца на міжнародным руху...

Ленін. А калі яны возьмуць Петраград, Маскву?

Бухарын. Гэта яшчэ больш узбударажыць заходнееўрапейскія "масы.

Лені н (хмыкае). Для ўзбударажання мас мы гатовы задушыць сваё дзіця? Здаровае дзіця.

Бухарын. Я гатовы адступіць, Уладзімір Ільіч. Я гатовы згадзіцца, што пачынаць рэвалюцыйную вайну пры цяперашнім стапе арміі мы не можам. Таму я лічу, што ў данай сітуацыі пазіцыя Троцкага самая правільная.

Такі нечаканы паварот лідэра «левых» здзівіў Леніна і нават некаторых аднадумцаў Бухарына, Але Ленін не выдаў свайго здзіўлення, наадварот, схіліў галаву, прыкрыў левай рукой рот, бародку, пачаў размашыста, здавалася, не кірыліцай — іерогліфамі запісваць у блакнот думкі Бухарына ці свае ўласныя ў сувязі з яго «паваротам».

Бухарын. Дарэмна таварыш Ленін... мне здалося, нават з іроніяй... гаварыў супраць палітычнай дэманстрацыі. Адмова ад вайны, братанне з'яўляюцца моцным элементам разлажэння арміі. Карнілава мы адолелі разлажэннем яго арміі, іменна палітычнай дэманстрацыяй. Той жа метад мы прыменім і да нямецкай арміі...

Урыцкі. Таварыш Ленін робіць тую ж памылку, што і ў пятнаццатым годзе, калі ён даводзіў, што магчыма перамога сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі без рэвалюцыі на Захадзе. Гэта нацыянальная абмежаванасць — глядзець з пункту гледжання Расіі, а не з між-

народнага. Канечне, я згодзен, мы не можам весці рэвалюцыйнай вайны. Пачаўшы яе, мы страцім армію — салдаты-сяляне тут жа разбягуцца. Але, падпісаўшы мір, мы страцім пралетарыят, які не прымірыцца з такім мірам, палічыць гэта адыходам ад нашай лініі, здрадай сусветнай рэвалюцыі. Адмаўляючыся ад падпісання міру, праводзячы дэмабілізацыю арміі, робячы, як называе гэта таварыш Ленін, палітычную дэманстрацыю, мы, безумоўна, адкрываем шлях немцам. Але тады — няма сумнення — у народа прачнецца інстынкт самазахавання і народ... сам народ пачне рэвалюцыйную вайну. Што ж датычыць палітычнай дэманстрацыі, то ўся палітыка Народнага Камісарыята замежных спраў была не чым іншым, як палітычнай дэманстрацыяй...

У Троцкага ўчасціўся пульс і расчырванеліся шчокі. Троцкі разумеў, што тэзісы Леніна абяззброілі «левых», утаймавалі іх ваяўнічасць, а работа, якую ён, Троцкі, правёў за гэтыя дні (карысна быць у Петраградзе), наблізіла нават самога Бухарына да яго, бо іншай пазіцыі ў таго, пасля прызнання немагчымасці рэвалюцыйнай вайны, няма. Яго ж, Троцкага, формула дае прастор для любых, самых левых і самых правых, тэорый. Таму «левыя» ступілі пад яго сцяг. Утвараецца, па сутнасці, блок, новы блок... супраць Леніна. Есць ад чаго ўчасціцца яго сэрцу. Але ні ў якім разе нельга паказаць, што гэта супраць Леніна. Некаторыя залішне раскрываюць карты. Пакуль што яму без патрэбы, каб нехта даказваў што знешнюю палітыку Савецкага Урада накіроўваў адзін ён, Троцкі.

Троцкі спачатку намерваўся ўсіх паслухаць, без сваіх саркастычных заўваг ціха, каб пасля «падбіць рахунак» і гэтым узняць свой аўтарытэт. Але пасля «павароту» «левых» ён паспяшаўся выступіць.

Троцкі доўга і заглыблена тэарэтызаваў аб адносінах рэвалюцыйнай вайны да сусветнага інтэрнацыянальнага саюзу пралетарыяту, аб суадносінах сіл рускай рэвалюцыі і пралетарскага руху на Захадзе. Ускосна аспрэчваў ленінскі тэзіс аб «шчаслівай кан'юнктуры», якая склалася ў выніку вайны дзвюх груп імперыялістычных драпежнікаў і памагла рускай рэвалюцыі трыумфальна шэстваваць па вялікай краіне. Затым ён гэтак жа доўга гаварыў аб рабоце камісіі ў Брэсце, аб тым, напрыклад, што яму, Троцкаму, ніяк не ўдаецца намацаць сутнасць узаемных адносін Аўстра-Венгрыі і Германіі, іх супярэчнасцей у падыходзе да міру.

Троцкі. Не маглі мы намацаць і таго, наколькі вялікія сілы супраціўлення Германіі. Нямецкі народ не ведае ўмоў міру. Цэнзура фальсіфікуе перагаворы. А ўсё пытанне ў даны момант заключаецца ў суадносінах сіл. Незалежна ад таго, ці будзем мы актыўна ваяваць, ці

выйдзем з вайны — мы ўсё роўна будзем удзельнічаць у вайне. Таму мы павінны ўзважыць, што нам больш выгадна сёння. Ператварыць усе нашы сілы ў сілы ваенныя — гэта утопія. Таму пытанне аб рэвалюцыйнай вайне з'яўляецца нерэальным пытаннем. Усе мы, таварыш Ленін у тым ліку, згадзіліся, што старую армію трэба распусціць. Але распусціць армію — не значыць падпісаць мір...

Свярдлоў. Гэта значыць — падпісаць прыгавор Савецкай рэспублікі.

Калантай. Немец не здолее наступаць.

Свярдлоў (уздыхнуўшы). Усе мы стратэгі. Але не пашкодзіла б запытаць пра гэта ў Гіндэнбурга — будзе ці не будзе немец наступаць.

Ломаў. Мяне здзіўляюць падобныя жарты. Вырашаецца лёс сусветнай рэвалюцыі...

Сяргееў (Арцём). А можа, лепш спачатку падумаць пра лёс свайго роднага дзіцяці?

Урыцкі. Рускую рэвалюцыю можа ўратаваць толькі рэвалюцыя сусветная! Дзеля яе мы можам пайсці і на смерць...

Муранаў. Мы можам пайсці на смерць. А вось селянін... ды і пралетарый наш, рускі...

Ломаў. Мацвей Канстанцінавіч, гэта — ідэалогія мяшочнікаў. Сялянства мы павінны паднімаць да сябе, а не апускацца да яго.

Ленін. Але нельга не ўлічваць настрой і інтарэсы класа, які мы хочам падняць да сябе. Сялянства неймаверна стамілася ад крывавай вайны. Яно хоча ўрабляць зямлю, якую яму дала рэвалюцыя... сеяць хлеб... Ваяваць без хлеба нельга — гэтак жа, як і без патронаў...

Троцкі (цярпліва выслухаў нечаканы дыялог, але, як толькі ў размову ўступіў Ленін, тут жа ўспомніў пра свае старшынскія абавязкі). Таварышы, прадоўжым агульную дыскусію... Непадпісанне міру, палітычная дэманстрацыя, як гэта называе таварыш Ленін, узніме рух у Германіі, і гэта, Якаў Міхайлавіч, стрымае Гіндэнбурга і Гофмана ад наступлення. Колькі б мы ні мудрылі, якую б тактыку ні вынаходзілі, ратаваць нас можа толькі еўрапейская рэвалюцыя.

Сталін. Пазіцыя Троцкага не ёсць пазіцыя. Я не назваў бы яе і палітычнай дэманстрацыяй. Больш правільна назваць яе палітычнай дэмагогіяй.

Стасава (уражаная, адрываецца ад свайго сшытка). Таварыш Кабо!

Троцкі (з іроніяй). Таварыш Сталін — адкрыты чалавек, гэта робіць яму гонар.

Сталін (не адказвае ка словы Стасавай і Троцкага). Давайце глянем праўдзе ў вочы і не будзем напускаць туману. Рэвалюцыйнага

руху на Захадзе няма, мы не ведаем канкрэтных фактаў. Есць патэнцыя, а з патэнцыяй мы не можам лічыцца, рашаючы лёс сваёй рэвалюцыі. Калі немцы пачнуць наступаць, у нас узніме галаву контррэвалюцыя, яна створыць унутраны фронт. А Германія будзе наступаць і можа наступаць, у яе хапае сілы, у яе ёсць свае карнілаўскія войскі — гвардыя, якую дагэтуль кайзер трымае ў рэзерве. У кастрычніку мы гаварылі пра свяшчэнную вайну... пра рэвалюцыйную вайну, бо верылі, што адно слова «мір» падніме рэвалюцыю на Захадзе. Але Захад можа ўзбударажыць не рэвалюцыйная вайна, не лозунг Троцкага «ні міру, ні вайны», а ўмацаванне нашай рэвалюцыі, правядзенне намі сацыялістычных рэформ. А для гэтага трэба час, трэба перадышка, пра якую гаворыць таварыш Ленін.

У гэтым наш ратунак, а не ў палітыцы, якую прапануюць Бухарын і Троцкі.

Сталін не ўпершыню ашаламляў партыйных інтэлігентаў, такіх, як Стасава, катэгарычнасцю сваіх выказванняў. Адказваць яму не заўсёды адважваўся нават задзірысты Бухарын.

Сталіна паправіў Ленін у сваім другім выступленні, указаў на памылковасць сцвярджэння свайго аднадумца, што рэвалюцыйнага руху на Захадзе няма, ёсць толькі патэнцыя. Паправіў Ленін і Зіноўева, які быў за мір, але ў той жа час даводзіў, што «мы стаім перад цяжкай хірургічнай аперацыяй, бо мірам мы ўзмацнім шавінізм у Германіі і на некаторы час аслабляем рух усюды на Захадзе. Але далей віднеецца другая перспектыва — гэта гібель сацыялістычнай рэспублікі».

«Левыя», па сутнасці, спаўзлі на пазіцыю Троцкага. Толькі Бухарын спрабаваў развіць тэзіс «ні міру, ні вайны», прапанаваўшы лозунг «акопнага міру», які, маўляў, «падпішуць» самі салдаты.

Троцкі адчуваў сябе пераможцам. Заспакоены і задаволены, ён думаў пра тое, як бы хутчэй закончыць гэтыя ўвогуле ўжо бясплодныя спрэчкі — перад ад'ездам у Брэст у яго многа самых розных спраў, у наркамаце і дома. Але трэба паставіць пытанне так, каб галасаванне пацвердзіла яго пазіцыю і ў той жа час прымусіла Леніна паставіць на галасаванне «неабходнасць падпісання анексіяніsцкага міру».

Троцкі не сумняваўся, што за Леніна прагаласуе меншасць. Троцкаму вельмі хацелася, каб і тут, у ЦК, як і на нарадзе, Ленін апынуўся ў меншасці.

Троцкі ставіць пытанне: ці будзем мы заклікаць да рэвалюцыйнай вайны?

«За» прагаласавалі двое, супраць — адзінаццаць.

Моцна падзейнічалі ленінскія тэзісы!

«Левыя» адчувалі сябе так, быццам плюхнуліся ў лужыну. Не глядзелі адзін на аднаго.

Бухарын шумна збіраў са стала свае паперы.

Далікатна маўчалі прыхільнікі Леніна: радавацца не было прычыны, дыскусія паказала, што да перамогі яшчэ далёка.

Троцкі адчуў, што ў яго зноў учасціўся пульс: які ж ход зробіць Ленін? Чаму ён маўчыць? Не ў яго характары гэта!

Ленін хвіліну сядзеў моўчкі. Ленін абдумваў і далёкую стратэгію, і блізкую тактыку. Ні члены ЦК, ні буйныя арганізацыі — Петраградская, Маскоўская — не гатовы прыняць анексіянісцкі мір. Людзей трэба пераканаць, трэба пераадолець супраціўленне ў ЦК і дамагчыся пералому ў настроі той часткі мас, што ідзе за прапагандыстамі рэвалюцыйнай вайны, а для гэтага патрэбны некаторы час.

Ленін сказаў:

— Прапаную паставіць на галасаванне, што мы ўсяляк зацягваем падпісанне міру.

За яго прапанову прагаласавала дванаццаць чалавек.

Троцкі адчуў расчараванне. Каб нейтралізаваць нават гэтую «перамогу ь Леніна, Троцкі пайшоў у адкрыты бой:

— У такім разе я прапаную паставіць на галасаванне наступную формулу: вайну мы спыняем, міру не заключаем, армію дэмабілізуем.

За яго прапанову прагаласавала дзевяць, супраць — сем.

Вынікі галасавання развязалі Троцкаму рукі. Але — дзіўна — пераможцам сябе ён адчуваў у меншай ступені, чым пад час дыскусіі, калі «левыя» павярнулі ў яго бок.

А праз некалькі гадзін у Таўрычаскім палацы слупок яго настрою ўпаў яшчэ ніжэй.

Ленін прыехаў на другое пасяджэнне з'езда са спазненнем. Ён з'явіўся ў прэзідыуме, калі Свярдлоў чытаў «Дэкларацыю правоў працоўнага і эксплуатуемага народа».

Уладзімір Ільіч хацеў прайсці непрыкметна, сесці з краю. Але зала... тысяча чалавек падхапілася ў адным парыве і наладзіла такую авацыю, што, здавалася, гойдаліся грувасткія крышталёвыя люстры.

З розных канцоў крычалі:

«Ура — таварышу Леніну!»

Хваля энтузіязму падняла нават левых эсэраў, і яны мусілі вітаць правадыра рэвалюцыі.

Авацыя ў той вечар узнікала яшчэ двойчы: калі Свярдлоў даў слова Леніну для даклада аб дзейнасці Саўнаркома і калі Ленін

скончыў свой даклад. І пад час даклада апладысменты ўспыхвалі многа разоў.

На другі дзень Троцкі зноў адчуваў сябе пераможцам, калі на аб'яднаным пасяджэнні Цэнтральных камітэтаў бальшавікоў і левых эсэраў не толькі левыя камуністы, але і левыя эсэры падтрымалі яго пазіцыю.

Але ў дзень свайго ад'езду ў Брэст Троцкі быў раздражнёны, узлаваны на сваіх прыхільнікаў за іх бяздзейнасць, якая, ка яго думку, выявілася ў іх слабым уплыве на дэлегатаў з'езда. На з'езд уплываў Свярдлоў, большасць дэлегатаў ішла за ім. Ён, Троцкі, нямала патраціў энергіі, каб зацямніць пытанне аб міры. А рэзалюцыя па прапанове Свярдлова была прынята кароткая і ясная: з'езд ухваляе палітыку Саўнаркома (значыцца, чытай — Леніна) па пытанні аб міры і прадастаўляе яму ў гэтым пытанні самыя шырокія Паўна моцтвы. Саўнаркому. Значыцца, зноў-такі Леніну, бо ва ўрадзе ў яго ледзь не аднадушная падтрымка, калі не лічыць яго, Троцкага, і левага эсэра Штэйнберга. Нават Калягаеў рашуча не выступіў супраць міру.

Выходзіць, што не галасаванне ў ЦК развязала рукі яму, Троцкаму, а рэзалюцыя з'езда рабочых і салдацкіх дэпутатаў (у канцы да гэтага з'езда далучыўся з'езд сялянскіх дэпутатаў) перадала Леніну вельмі шырокія паўнамоцтвы ў вырашэнні лёсу міру.

У той жа дзень Ленін запрасіў да сябе Троцкага і Каменева, каб даць інструкцыі перад іх ад'ездам у Брэст.

Уладзімір Ільіч не мог дараваць Каменеву дзве яго цяжкія здрады ў самыя адказныя моманты рэвалюцыі І з лістапада не меў з ім ніякіх кантактаў. Але ў той дзень настроены ён быў добразычліва нават да Каменева. Гутарыў з абодвума па-сяброўску шчыра і даверліва. Яшчэ і яшчэ раз, пашыраючы і паглыбляючы логіку сваіх доказаў, тлумачыў членам дэлегацыі, што другой альтэрнатывы міру няма, трэба зразумець: міру патрабуе народ, усё шматмільённае сялянства вялікай краіны, ды і рабочы клас не менш стаміўся ад вайны.

— Усе прыгожыя заклікі да рэвалюцыйнай вайны — гэта чысцейшае фразёрства. Не можам мы ваяваць, Леў Давыдавіч! Вы выдатна гэта разумееце.

— Так, ваяваць мы не можам,— згадзіўся Троцкі.

У палеміку з Леніным у гэты раз ён не ўступаў,

сваёй пазіцыі не абараняў. А Каменеў увогуле больш маўчаў, хоць зусім не быў маўклівым. Падкрэсліваў сваё становішча падначаленага і пакрыўджанага.

Троцкі хоць і не маўчаў, але таксама падкрэсліваў, што ён добра разумее, што ў гэтым кабінеце не месца для палітычнай дыскусіі, што ў старшыні ўрада ёсць поўнае права даць указанні наркому, кіраўніку дэлегацыі, членам гэтай дэлегацыі. Але яму было б прасцей, каб Ленін рабіў гэта афіцыйна і катэгарычна. Такая ж даверлівасць як бы расслабляла. Ва ўсялякім разе, у нейкі момант Троцкі адчуў гэтую расслабленасць, якая яўна абяззбройвала, і насцярожыўся, узмацніў сваю пільнасць. О, з Леніным трэба трымаць вуха востра! Ён не забывае ніводнага слова.

— Немцы не дабіраюцца да вашых партфеляў?

Троцкі не зразумеў ці зрабіў выгляд, што не зразумеў, аб чым размова, здзівіўся:

— У якім сэнсе?

— Не правяраюць, што ў іх? Не шпіёняць?

— Шпіёняць, безумоўна, шпіёняць. Але да праверкі партфеляў не дайшло.

— Немцы ўмеюць гэта рабіць далікатна, крадуць культурна,— Ленін засмяяўся, мабыць, нейкаму ўспаміну.— Вазьміце экземпляр маіх тэзісаў, пазнаёмце членаў дэлегацыі. Скажыце Радэку, што члену дэлегацыі не дазволена друкаваць артыкулы ў нямецкай газеце, няхай і сацыял-дэмакратычнай, аб яго ўласнай пазіцыі. У дэлегацыі пазіцыя павінна быць адна, выпрацаваная ЦВК і Саўнаркомам. Радэк споўз далёка ўлева. Тое, што ён піша,— гэта авантура. Перадайце яму маю прынцыповую нязгоду з усімі яго палажэннямі. Хоць лепш я сам напішу яму.

Ленін выдраў з блакнота лісток, памакнуў пяро ў чарніла, з меншай хуткасцю, чым звычайна, напісаў:

«Дарагі Радэк! Троцкі ці Каменеў паведаміць Вам мой пункт гледжання. Я з Вамі прынцыпова ў корані не згодзен: Вы трапляеце ў лавушку, якую імперыялісты абедзвюх груп ставяць Рэспубліцы Саветаў.

З найлепшым прыветам Ваш Ленін».

Уладзімір Ільіч напісаў гэта па-нямецку не без тайнай думкі: калі кемлівы, няхай, сцяміць, што не яму, чужаземцу, з такім апломбам, з такой катэгарычнасцю меркаваць аб рускіх справах, аб настроі рускага народа і штурхаць яго ў новую бойню.

Перадаў пісьмо Троцкаму.

— Леў Давыдавіч, растлумачце Радэку маю пазіцыю больш падрабязна. Перадайце ўсім таварышам прывет. І давайце на развітанне цвёрда дамовімся. Мы можам спрачацца ў сябе дома, можам мець розныя думкі. Але мы павінны рабіць справу, якая нам даверана

рэвалюцыяй. Некаторыя таварышы забываюць, што ў эміграцыі можна было рашаць словамі... Цяпер — трэба рашаць справамі. Важнейшая са спраў Рэспублікі Саветаў — выхад з вайны, атрыманне мірнай передышкі. Леў Давыдавіч, Леў Барысавіч, я прашу вас... помніць і выконваць дырэктыву Саўнаркома. Мы трымаемся да ультыматуму немцаў, пасля ультыматуму мы здаёмся і без ад цяжа к, неадкладна падпісваем мір.

5

Непамерна самалюбівы, што было ў яго натуры ад прыроды і замацавалася пэўным асяроддзем і выхаваннем, Лёва Бранштэйн заўсёды прагнуў лідэрства. Ён хварэў, калі яго адціскалі на другія ролі, і не даравaў таму, хто гэта рабіў, незалежна ад таго, ці рабілася гэта больш высокім розумам, ці па нізкіх матывах, шляхам інтрыг, якіх нямала было ў тым дробнабуржуазным акружэнні, дзе прайшла яго маладосць. Пазней, стаўшы «марксістам», Троцкі доўга не мог пагадзіцца, што ёсць у Расіі розумы, вышэйшыя за яго ўласны.

Ён лідэрстваваў у бацькавым маёнтку. Хацеў быць лідэрам у Адэскім рэальным вучылішчы Святога Паўла. Паспрабаваў узначаліць «бунт» супраць дэспатызму настаўнікаў: першым свіснуў на ўроку. За гэта яго выключылі. Але бацькавы грошы хутка аднавілі яго вучобу ў вучылішчы. Пасля гэтага зорка лідэрства яго патухла. Тады ён плюнуў на аднакласнікаў: абывацелі! — і пачаў шукаць іншых сяброў. Адэсітаў, скептычна настроеных да ўсяго на свеце, нічым нельга было здзівіць — ні геніяльнасцю, ні дурнотай, да ўсяго яны адносіліся з вясёлай іроніяй — аднолькава як да цара, да губернатараў, так і да грэчаскіх і яўрэйскіх вундэркіндаў.

«Ты лепшы студэнт? Ну і што? Ты сацыяліст? Скажы, якая персона! Бачылі мы не такіх сацыялістаў!»

Але Лёва Бранштэйн думаў інакш: развітаўшыся з марай стаць вялікім паэтам, паставіў сабе мэту — стаць вялікім рэвалюцыянерам.

Былі ў яго якасці, якія часам прыцягвалі моладзь,— рашучасць у прыняцці рашэнняў, настойлівасць у дасягненні мэты, непамерная самаўпэўненасць.

Агітатарам супраць самадзяржаўя ён стаў, не маючы ніякіх палітычных поглядаў.

У адной сваёй кароткай біяграфіі з уласцівай яму іроніяй да ўсяго Троцкі прызнаўся, што, прыйшоўшы агітатарам да мікалаеўскіх рабочых, ён уяўлення не меў пра марксізм, нават «Камуністычнага маніфеста» не чытаў.

Пазней ён букварскі нядрэнна засвоіў марксізм. Ва ўсялякім разе, сацыял-дэмакраты — інтэлігенты, асабліва эмігранты, прызналі яго веды, яго літаратурныя і аратарскія здольнасці. Але ў пытаннях будаўніцтва партыі, у выпрацоўцы яе стратэгіі і тактыкі ў кожны канкрэтны гістарычны момант Троцкі хістаўся, што маятнік, з поўнай амплітудай,— ад левых да самых правых; ад Леніна да Мартава, ад Пляханава да Кауцкага.

Згараючы ад самалюбства, ад велічы, ад незадаволенай прагі лідэрства, Троцкі бясконца скажчваў розныя групы, групкі, блокі. Арганізаваць падобных сабе самалюбцаў ён умеў. Але ненадоўга. Маючы хісткі теарэтычны падмурак, адарваныя ад рускай глебы, ад партыйных арганізацый у Расіі, ад барацьбы пралетарыяту, блокі Троцкага гэтак жа хутка развальваліся, як і ствараліся. Многія гады Троцкі ў саюзе з апартуністамі розных масцей вёў жорсткую, часта даволі грубую па форме барацьбу супраць Леніна, бальшавіцкай партыі, яе асноў. Яшчэ ў пятым годзе Ленін называў Троцкага пустазвонам. «Калі пустазвон Троцкі піша цяпер...»

«Троцкі цягнецца за меншавікамі, прыкрываючыся асабліва звонкай фразай»,— пісаў Уладзімір Ільіч наконт артыкула Троцкага ў нямецкай газеце аб унутрыпартыйнай барацьбе ў Расіі. Было гэта ў 1910 годзе.

«Рэкламіруючы сваю фракцыю, Троцкі не саромеецца расказваць немцам, што «партыя» распадаецца, абедзве фракцыі распадаюцца, а ён, Троцкі, адзін усё выратоўвае».

«Троцкі групуе ўсіх ворагаў марксізму, аб'ядноўваючы Патрэсава і Максімава, якія ненавідзяць «ленінска-пляханаўскі» (як яны любяць казаць) блок».

«З Троцкім нельга спрачацца па сутнасці, бо ў яго няма ніякіх поглядаў...»

Іроцкі святкаваў перамогу, калі яму ўдалося стварыць у жніўні 1912 года «блок (саюз) ліквідатараў, Троцкага, латышоў, бундаўцаў, каўказцаў».

Троцкі нарэшце дабраўся да лідэрства. Хадзіў пераможцам.

Ленін пісаў:

«Праслаўлялася «шматлікасць» удзельнікаў гэтага блока, праслаўляўся саюз «марксістаў розных напрамкаў», праслаўлялася «адзінства» і нефракцыйнасць; пасылаліся громы супроць «раскольнікаў», прыхільнікаў студзеньскай 1912 года канферэнцыі».

Супраць той канферэнцыі, якая выключыла ліквідатараў і яго, Троцкага, з партыі.

Не прайшло і двух гадоў, як трацкісцкі блок затрашчаў і развалiўся.

«Жнiвеньскi блок аказаўся,— як мы гаварылi тады ж, у жнiўнi 1912 года,— пустым прыкрыццём лiквiдатараў. Ён разарваны»,— пiсаў Уладзiмiр Iльiч у сакавiку 1914 года ў артыкуле «Распад «Жнiвеньскага» блока».

А праз два месяцы ў рабоце «Аб парушэннi адзiнства, што прыкрываецца крыкамi пра адзiнства» Ленiн са знiшчальным сарказмам выставiў напаказ не толькi рускiм сацыял-дэмакратам i рабочым, але i ўсёй сусветнай сацыялiстычнай грамадскасцi чалавечую i палiтычную сутнасць Троцкага.

«Троцкi любiць гучныя i пустыя фразы...»

«Не ўсё тое золата, што блiшчыць. Многа бляску i шуму ў фразах Троцкага, але зместу ў iх няма».

«Спрабуючы цяпер пераканаць рабочых не выконваць рашэнняў таго «цэлага», якое прызнаюць марксiсты-праўдзiсты, Троцкi спрабуе дэзарганiзаваць рух i выклiкаць раскол».

«...Ды гэта ж цалкам прыёмы Наздрова або Iудушкi Галаўлёва».

У заключным раздзеле Ленiн каротка i вобразна дае i бiяграфiю руху, i бiяграфiю Троцкага: «Старыя ўдзельнiкi марксiсцкага руху ў Расii добра ведаюць фiгуру Троцкага, i для iх не варта гаварыць аб ёй. Але маладое рабочае пакаленне не ведае яе, i гаварыць прыходзiцца, бо гэта — тыповая фiгура для ўсiх тых пяцi заграніЧных групак, якiя фактычна таксама хiстаюцца памiж лiквiдатарамi i партыяй».

«Троцкi быў заўзятым «iскраўцам» у 1901-1903 гадах, i Разанаў назваў яго ролю на з'ездзе 1903 г. роляй «ленiнскай дубiнкi». У канцы 1903 года Троцкi — заўзяты меншавiк, г. зн. якi ад iскраўцаў перабег да «эканамiстаў»; ён абвяшчае, што «памiж старой i новай «Искрой» ляжыць бяздонне». У 1904-1905 годзе ён адыходзiць ад меншавiкоў i займае хiсткае становiшча, то супрацоўнiчаючы з Мартынавым («эканамiстам»), то абвяшчаючы недарэчна-левую «перманентную рэвалюцыю». У 1906-1907 годзе ён падыходзiць да бальшавiкоў i вясной 1907 года заяўляе сябе салiдарным з Розай Люксембург.

У эпоху распаду, пасля доўгiх «нефракцыйных» хiстанняў, ён зноў iдзе ўправа i ў жнiўнi 1912 года ўваходзiць у блок з лiквiдатарамi. Цяпер зноў адыходзiць ад iх, паўтараючы, аднак, па сутнасцi справы iх жа iдэйкi.

Такiя тыпы характэрныя, як абломкi ўчарашнiх гiстарычных утварэнняў i фармацый, калi масавы рабочы рух у Расii яшчэ спаў i любой групцы «прасторна» было паказваць сабой плынь, групу,

фракцыю,— адным словам, «дзярясаву», якая талкуе пра аб'яднанне з іншымі».

Нават тады, калі зацяжная крывавая вайна працверазіла многіх сацыял-шавіністаў, калі паўсюдна нарастаў рэвалюцыйны рух, Троцкі працягваў блытаць і напускаць туману ў адносінах да вайны.

У лютым семнаццатага года Уладзімір Ільіч пісаў Аляксандры Міхайлаўне Калантай: «Наколькі было прыемна даведацца ад Вас аб перамозе Н. Ів. і Паўлава ў «Новом мире»...— настолькі ж сумна паведамленне аб блоку Троцкага з правымі для барацьбы супроць Н. Ів. Гэткая свіння гэты Троцкі — левыя фразы і блок з правымі супроць цымервальдскіх левых?!»

Троцкі сінеў ад гневу, чытаючы ленінскія характарыстыкі. Ён лічыў сябе вышэй за ўсіх, самым разумным, самым рэвалюцыйным, а яго раптам так пляжаць, так раздзяюць перад сусветнай сацыялістычнай грамадскасцю! А мысліў ён толькі сусветнымі катэгорыямі, ігнараваць ленінскую крытыку ён мог яшчэ ў 1903 годзе. Пасля ж рэвалюцыі 1905-1907 гадоў, пасля Пражскай канферэнцыі, Цымервальда Троцкі пры ўсім сваім самалюбстве, пры ўсім захапленні ўласнай персонай мусіў прызнаць, што Ленін — найвышэйшы рэвалюцыйны аўтарытэт. Троцкі добра разумеў: што б ні здарылася, як бы ні пайшло развіццё рэвалюцыі, як бы ні склаўся лёс самога Леніна, тэарэтычныя работы яго ніхто і нішто ўжо не выкрасліць з гісторыі развіцця марксізму, яны будуць жыць дзесяцігоддзі, стагоддзі. І гэтак жа доўга будзе жыць ленінская ацэнка яго, Троцкага, дзейнасці.

Троцкі кіпеў. Але, маючы даволі гнуткі розум, пераканаўшыся за шмат гадоў, на многіх гістарычных паваротах, што не яго, а ленінскія прагнозы заўсёды апраўдваліся, Ленін умеў бачыць далёка наперадзе, Ленін здолеў арганізаваць самую рэвалюцыйную партыю, за Леніным пайшоў пралетарыят і салдаты, Троцкі вырашыў, што не час весці адкрытую барацьбу з Леніным, бо закрэсліш самога сябе, што трэба вяртацца ў партыю, з якой выключыла яго Пражская канферэнцыя. Да такой думкі ён прыйшоў вяртаючыся вясной семнаццатага года з Амерыкі. Атлантычныя хвалі хараша гойдалі, супакойвалі, акіянскі вецер цверазіў ад ліквідатарскага пахмелля.

Але вярнуўся ў партыю Троцкі не адразу — тры месяцы вёў гандаль.

Красавіцкая канферэнцыя па прапанове Леніна прынімае рэзалюцыю «Аб аб'яднанні інтэрнацыяналістаў супраць дробнабуржуазнага абарончага блоку». Гэта быў ленінскі стратэгічны ход: усе сацыял-дэмакраты, якія супраць вайны, павінны аб'яднацца супраць

буржуазнага ўрада Львова — Керанскага. Такім чынам можна ізаляваць меншавіцка-эсэраўскіх згоднікаў, выкрыць іх перад рабочымі і салдатамі.

«Міжраённы» яшчэ ў сакавіку, да звароту з эміграцыі Троцкага, выступілі з прапановай зліць свае арганізацыі з бальшавіцкімі.

Ленін у маі пайшоў на канферэнцыю «міжраёнцаў».

Ленін прапанаваў: «Аб'яднанне пажадана неадкладна». І тут жа напісаў умовы аб'яднання. Але далей Уладзімір Ільіч занатаваў ход абмеркавання:

«Троцкі (які ўзяў слова без чаргі пасля мяне...)

«З рэзалюцыяй я згодзен цалкам,— але разам з тым я згодзен пастолькі, паколькі рускі бальшавізм інтэрнацыяналізаваўся. Бальшавікі разбальшавічыліся — і я называцца бальшавіком не магу».

Шосты з'езд прыняў чатыры тысячы «міжраёнцаў» у партыю. Троцкага і яго прыхільнікаў Урыцкага і Іофе выбралі ў ЦК.

Троцкі вырашыў вучыцца ў Леніна. Але вучыцца па-свойму. Па-першае, пастарацца самому быць бліжэй да прызнанага правадыра рэвалюцыі ці заўсёды трымаць каля яго каго-небудзь са «сваіх людзей». Па-другое, рабіць так, каб у Леніна было як можна больш цяжкасцей, глядзець, як ён будзе пераадольваць гэтыя перашкоды, якія тактычныя хады выпрацоўваць,— і на гэтым вучыцца «мастацтву барацьбы».

Пры адсутнасці Леніна Троцкі, бесцырымонна адштурхоўваючы ўсіх іншых, імкнуўся заняць месца лідэра.

Калі пасля ліпеньскіх падзей Ленін, адразу зразумеўшы абстаноўку, згадзіўся з рашэннем ЦК, што яму і іншым таварышам трэба ісці ў падполле, Троцкі застаўся ў Савеце. Ён не баяўся, што яго застрэляць. Яму не было чаго баяцца. У першы дзень ліпеньскіх падзей ён ратаваў ад разгневанага натоўпу міністра Чарнова. Міністр працы меншавік Скобелеў быў яго блізкім сябрам па эміграцыі. Нарэшце, эсэраўска-меншавіцкія пісакі настолькі выявілі сваю недасведчанасць, што залічылі Троцкага ў лік тых, хто разам з Леніным «ехаў у пламбіраваным вагоне». У выпадку арышту яму так проста было даказаць, што ў тыя дні, калі Ленін ехаў з Швейцарыі ў Расію, ён яшчэ гуляў па Нью-Йорку.

Але было галоўнае: Троцкі спадзяваўся, што, застаўшыся на легальным становішчы ў Петраградскім Савеце, ён здолее ўзяць у свае рукі кіраўніцтва партыяй.

Пераканаўшыся, што партыяй па-ранейшаму, з Разліва, кіруе Ленін, Троцкі публікуе артыкул з апраўданнем ліпеньскіх падзей, з лявацкімі заклікамі і... не хаваецца ад паліцыі. Часовы ўрад садзіць

яго ў «Кресты». Мімаволі ўзнікае думка, што Троцкі пасадзіў сябе сам. З якой мэтай? Магчыма, яму хацелася ўпрыгожыць сваю біяграфію яшчэ адным арыштам: во, маўляў, Ленін хаваецца, а яго, Троцкага, садзяць у турму. Ці вельмі можа быць, што гэта быў ход, накшталт таго, які ён зрабіў у 1905 годзе.

Пры нарастанні першай рускай рэвалюцыі Троцкі вёў актыўную дзейнасць у Петраградскім Савеце, нейкі час быў яго старшынёй. Але калі ў снежні 1905 года моцна дыхнула порахам, калі ўсюды пачалі вырастаць барыкады, Троцкі, майстар канспірацыі, раптам апынуўся ў турме. І ў той час, калі царызм душыў рэвалюцыю, калі тысячы рабочых, сялян, матросаў расстрэльвалі без следства і суда, Троцкі, як ён сам пасля напіша ў мемуарах, «особых неудобств» у турме не адчуваў. Двойчы на тыдзень яго наведвала маладая жонка Наталля Сядова. На працэсе прысутнічалі бацька і маці, буйныя херсонскія землеўладальнікі. Троцкі атрымаў ссылку. Усяго ссылку. Ехаў ён у гэтую ссылку, маючы пад падэшвай чысты бланк пашпарта, а ў абцасах — залатоўкі.

У Бярозаве, тым самым, дзе адбываў ссылку Меншыкаў, Троцкі прытвараецца хворым, адстае ад партыі, якую гналі ажно некуды за палярны круг, праз тры дні наймае коней, фурмана і едзе семсот вёрст праз тайгу, па Паўночным Урале, да чыгункі. І царская жандармерыя, якая мела вельмі багаты вопыт у вышукванні ўцекачоў, ніяк «не магла» дагнаць яго! З першай буйной станцыі, з Казані ці Ніжняга, «адважны ўцякач» дае адкрытым тэкстам тэлеграму жонцы ў Пецярбург: «Сустракай мяне». І зноў-такі ахранка глухая і сляпая. Сядова выязджае насустрач, перасаджваецца ў поезд, якім едзе муж, знаходзіць яго ў вагоне другога класса, уручае яму замежны пашпарт. Праз колькі дзён Троцкі гуляе па Стакгольме.

У меншавіцка-эсэраўскім савеце ў Троцкага было нямала сяброў, таму сядзеў ён у «Крестах» не без камфорту: Сядова штодня насіла яму перадачы. Калі іншыя арыштаваныя вырашылі, у знак пратэсту, што ім доўга не прад'яўляюць абвінавачанне, абвясціць галадоўку, Троцкі выказаўся супраць галадоўкі і сарваў яе.

Ленін быў за байкот дэмакратычнай нарады. Каменеў за удзел у ёй. Троцкі, як рабіў ён гэта часта, займаў пазіцыю «і вашым, і нашым» — дваіста-няпэўную. Але калі большасць ЦК выказалася за ўдзел у нарадзе, Троцкі, не запытаўшы згоды Леніна, тут жа выказаўся за з'яўленне Леніна на дэмакратычную нараду, падкрэсліваючы: «Разам з Зіноўевым». Троцкі разумеў, што, калі іх арыштуюць, Зіноўеву, як і самому яму, Троцкаму (адпачыў у «Крестах» два месяцы — і ўсё), нічога не пагражае. А Леніну?

Цяпер вядома, што «ахранка» Часовага ўрада рыхтавала забойства Леніна.

Троцкі быў у такіх блізкіх адносінах з Каменевым і Зіноўевым, што не мог не ведаць, што сваю нязгоду з ленінскім планам узброенага паўстання, якую яны выказалі на пасяджэнні дзесятага кастрычніка, нязгоду з рашэннем абсалютнай большасці ЦК (акрамя іх дваіх), гэтыя штрэйкбрэхеры і здраднікі, палітычныя абывацелі, напалоханыя рэвалюцыяй, вынесуць у друк, у непартыйную газету, і гэтым выдадуць Керанскаму план паўстання.

Так стварылася найцяжэйшая, крытычная сітуацыя для рэвалюцыі, з якой мог вывесці партыю толькі стратэгічны геній Леніна.

Уладзімір Ільіч тут жа піша «Пісьмо да членаў партыі бальшавікоў» і «Пісьмо ў ЦК РСДРП(б)», поўныя гневу супраць здраднікаў: «Я гавару прама, што таварышамі іх абодвух больш не лічу і ўсімі сіламі і перад ЦК і перад з'ездам буду змагацца за выключэнне абодвух з партыі».

Патрабуе неадкладнага рашэння ЦК, дае праект пастановы: «Прызнаўшы поўны састаў штрэйкбрэхерства ў выступленні Зіноўева і Каменева ў непартыйным друку, ЦК выключае абодвух з партыі».

Троцкі робіць усё магчымае, каб уратаваць «сваіх людзей».

Праз два дні, трыццаць першага кастрычніка, Троцкі робіць заяву ў Петраградскім Савеце, што ні бальшавікі, ні Петраградскі Савет паўстання і выступленняў на бліжэйшыя дні не назначалі. Ніхто яму не даручаў рабіць такія заявы, ніхто за язык не цягнуў. Гэта тое адмаўленне, якое для ворага з'яўляецца найлепшым пацвярджэннем.

Троцкі вымагае ад Зіноўева выступлення ў прэсе, і той друкуе ў «Рабочем пути» фарысейскую заяву, якая таксама, па сутнасці, з'яўляецца пацвярджэннем таго, пра што яны напісалі з Каменевым.

«Па шэрагу абставін я вымушаны адмовіцца зараз ад падрабязнага адказу на паленіку. Скажу толькі, што сапраўдныя мае погляды па спрэчным пытанні вельмі далёкія ад тых, якія аспрэчвае т. Ленін. Далучаючыся да ўчарашняй заявы т. Троцкага ў Петр. Савеце раб. і салдацкіх дэпутатаў, я думаю, што мы цалкам можам самкнуць рады і адкласці нашу спрэчку да больш спрыяльных абставін».

Была праведзена моцная «апрацоўка» членаў ЦК, каб не прыняць ленінскае патрабаванне аб выключэнні штрэйкбрэхераў з партыі. Нават Сталін пахіснуўся. У прыпісцы «Ад рэдакцыі» пад заявай Зіноўева Сталін напісаў: «Мы ў сваю чаргу выказваем надзею, што зробленай заявай т. Зіноўева (а таксама заявай Каменева ў Савеце) пытанне можна лічыць вычарпаным. Рэзкасць тону артыкула т. Леніна не мяняе таго, што ў асноўным мы застаёмся аднадумцамі».

Гарачы і пыхлівы Каменеў, «абражаны» вызначэннямі, якія даў Зіноўеву і яму Ленін, падаў заяву аб выхадзе з ЦК.

Аднак гэта быў блеф, танная дэманстрацыя чалавека без гонару і сумлення. Нікуды штрэйкбрэхер не пайшоў, бо гэта было нявыгадна Троцкаму, аслабляла яго пазіцыі.

Увечары дваццаць чацвёртага кастрычніка, калі Леніна не было яшчэ ў Смольным, Троцкі, верны сваёй натуры, сваёй тактыцы, сам, нікім не ўпаўнаважаны, выступае ў ролі «кіраўніка паўстання». Ва ўсялякім разе, яму здалося, што ён кіруе. У сапраўднасці ён рабіў толькі тое, што заўсёды ўмеў рабіць — збіраў па тэлефоне інфармацыю і груба крычаў на камісараў Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, якія стаялі на чале баявых атрадаў, гатовыя ісці ў бой.

Як «кіраваў» Троцкі паўстаннем, можна ўявіць і па тым, што адзіным яго памочнікам у тую ноч, які не адступаў ні на крок, быў Каменеў — той, што за колькі дзён выдаў ворагу план наступлення, зрабіў здраду, за якую расстралялі б у любой арміі.

Троцкі і Каменеў вельмі актыўнічалі ў той дзень.

Пратакол пасяджэння ЦК данёс дзве прапановы Каменева.

Першая: сёння без асобай пастановы ЦК ніводзін член ЦК не можа пайсці са Смольнага. Нібыта ўсё правільна: адказны момант! Але адна акалічнасць: Леніна не было яшчэ ў Смольным і не многія ведалі, дзе Ільіч. Ці не хацеў «тактык» Каменеў, ведаючы дысцыплінаванасць Леніна, такой пастановай вымусіць яго дабірацца ў Смольны ў час, калі на вуліцах яшчэ поўна было казакаў, юнкераў, шпіёнаў Керанскага?

Другая прапанова Каменева: у выпадку разгрому Смольнага мець апорны пункт на «Аўроры» і развесці масты, каб выйсці ў заліў.

Ён думаў не аб перамозе — аб разгроме і аб тым, каб у выпадку паражэння з найменшай небяспекай, пад аховай матросаў і гармат крэйсера пакінуць поле бою, уцячы ў Фінляндыю ці Швецыю.

Ленінскі план паўстання ажыццявіўся. Рэвалюцыя перамагла. Ленін у такі рашучы момант асабліва дбаў пра адзінства партыі, таму пад націскам групы Троцкага згадзіўся, каб рэкамендаваць Другому з'езду Саветаў Старшынёй ЦВК Каменева. Але займаў гэты высокі пост штрэйкбрэхер адзін тыдзень.

У крытычны момант наступлення Керанскага на Петраград, юнкерскага мяцяжу ў сталіцы і жорсткіх баёў у Маскве Вікжэль (саюз чыгуначнікаў) звярнуўся з ультыматыўным патрабаваннем аб стварэнні новага ўрада з удзелам усіх дэмакратычных партый — «ад бальшавікоў да народных сацыялістаў уключна». Гэта значыла — з удзелам меншавікоў, эсэраў і ўсіх тых, што памагалі контррэвалюцыі,

Керанскаму. На чацверты дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі Вікжэль меў яшчэ сілу, пад яго кантролем былі чыгункі і тэлеграф. Па тэлеграфе ён выступіў са зваротам «Усім, усім, усім!» — і пагразіў, што калі яго ўмовы не прымуць, то будзе спынены рух на ўсіх чыгунках. Забастоўка паставіла б у цяжкае становішча пралетарыят Масквы, якому трэба было неадкладна памагчы рэвалюцыйнымі часцямі. Ленін гэта разумеў, як ніхто.

«Перагаворы павінны былі быць як дыпламатычнае прыкрыццё ваенных дзеянняў...» «Трэба прыйсці на дапамогу масквічам, і перамога наша забяспечана»,— сказаў Уладзімір Ільіч на пасяджэнні ЦК.

Але штрэйкбрэхеры заставаліся штрэйкбрэхерамі, іх цягнула на змову са згоднікамі, з буржуазіяй. Каменеў, Зіноўеў, Разанаў, Рыкаў, Нагін, Мілюцін выступілі за стварэнне так званага «аднароднага сацыялістычнага ўрада». Утварылася новая апазіцыя. Меншавікі і эсэры, акрыленыя падтрымкай Каменева, Зіноўева, іншых згоднікаў, патрабавалі спыніць супраціўленне войскам Керанскага, утварыць урад без Леніна і... Троцкага.

Што датычыць Троцкага, то гэта было не што іншае, як тактычны ход. Сам Троцкі і яго сябры рабілі ўсё, каб імя Троцкага звязваць з Леніным. Такім чынам Троцкаму стваралася папулярнасць у рабочых і сялян.

Патрабаванне яго вываду з «аднароднага ўрада» было тым жа блефам, туманам.

Большасць ЦК прагаласавала за рэзалюцыю, напісаную Ільічом.

Ленін пісаў рашуча, бескампрамісна: «Цэнтральны Камітэт прызнае, што апазіцыя, якая склалася ўнутры ЦК, цалкам адыходзіць ад усіх асноўных пазіцый бальшавізму і пралетарскай класавай барацьбы ўвогуле, паўтараючы глыбока немарксісцкія слоўцы аб немагчымасці сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі...»

«Цэнтральны Камітэт пацвярджае, што без здрады лозунгу Савецкай улады нельга адмаўляцца ад чыста бальшавіцкага ўрада, калі большасць ІІ Усерасійскага з'езда Саветаў, нікога не выключаючы са з'езда, уручыла ўладу гэтаму ўраду».

Апазіцыя пагарэла.

Каменеў і Зіноўеў зноў падалі заявы аб выхадзе з ЦК.

На пасаду Старшыні ЦВК Ленін прапанаваў Свярдлова.

Прыйшлося Троцкаму зноў ратаваць сваіх верных збраяносцаў. Хітрага Зіноўева ён угаварыў адразу, той адклікаў сваю заяву праз некалькі дзён. Аднак яго «Пісьмо да таварышаў» — дакумент, цікавы надзвычайным спалучэннем крывадушнасці, фарысейства, узвышэння сваёй персоны і нахабнасці ў адносінах ЦК і Леніна.

«Мы пайшлі на вялікую ахвяру, выступаючы з адкрытым пратэстам супраць большасці нашага ЦК і патрабаваннем пагаднення». І тут жа: «Наша права, наш абавязак перасцерагаць партыю ад памылак».

Які «дабрадзей»!

Пазней Каменеў, Рыкаў, Мілюцін і Нагін таксама пажадалі вярнуцца ў ЦК. Але Ленін катэгарычна выступіў супраць: «Мы па сваім пачынанні яго (пісьмо чацвёркі) у друку не змяшчаем, а ім адказваем пісьмова, што назад іх не прынімаем».

Штрэйкбрэхер Каменеў застаўся без працы. Але ненадоўга. Троцкі ўзяў яго ў Наркамат замежных спраў і дамогся ўключэння ў склад мірнай дэлегацыі.

У пытанні міру Зіноўеў быў нібыта прыхільнікам Леніна. Але ўсе выступленні яго на пасяджэннях ЦК, ЦВК, у прэсе адзначаны хістаннямі і блытанінай. Аднак гэта не перашкодзіла Троцкаму пасля ўзнімаць ролю Зіноўева да нябёс. На Сёмым экстранным з'ездзе партыі, які ратыфікаваў з такой цяжкасцю падпісаны Брэсцкі мір, Троцкі, апраўдваючыся, выкручваючыся і абвінавачваючы ўсіх, у тым ліку нават Леніна, у непаслядоўнасці, некалькі разоў паўтарыў, што, маўляў, адзін толькі Зіноўеў з самага пачатку і да канца, без хістанняў, быў за падпісанне міру.

6

На адным з пасяджэнняў, на якім прысутнічалі ўсе дэлегацыі, Троцкі ў сваім, як заўсёды, гарачым выступленні з прэтэнзіяй на сарказм сказаў грубасць генералу Гофману, зрабіў намёк на тое, што калі нямецкі пралетарыят паўстане, то ён перавешае сваіх генералаў на тэлеграфных слупах, як зрабілі гэта рускія рабочыя і салдаты...

Без таго поўны і чырвоны твар генерала Гофмана — яму не трэба было чакаць перакладу, ён нядрэнна валодаў рускай мовай — уміг наліўся бураковай чырванню.

Кіраўнік нямецкай дэлегацыі стукнуў далонню па стале, перапыніў Троцкага:

— Іх пратэстз!

Троцкі, якога, здавалася, ніколі нічога не бянтэжыла, на момант сумеўся.

Прыціхлі маладыя і нахабныя члены дэлегацыі Цэнтральнай рады, якія гучна перамаўляліся паміж сабой, дэманструючы нежаданне слухаць бальшавіцкага міністра. Чакалі скандалу. Прагнулі скандалу.

У Міхаіла Мікалаевіча Пакроўскага сціснулася сэрца, ён лепш, чым хто, ведаў, што дыпламаты не гавораць такой мовай нават тады,

калі ўручаюць ноты з абвяшчэннем вайны. Тым больш гэта недапушчальна ка мірных перагаворах.

Пра гэта ж, стоена ўздыхнуўшы, падумаў і ваенны кансультант савецкай дэлегацыі генерал Самойла. Рускі генерал даўно і добра ведаў Гофмана, яны шмат гадоў вывучалі адзін аднаго завочна і вочна, бо да вайны займалі прыкладна аднолькавыя пасады: Гофман узначальваў рускі аддзел нямецкага генштаба, Самойла — аператыўнае ўпраўленне рускага генштаба і лічыўся лепшым знаўцам нямецкай і аўстра-венгерскай армій. Самойла добра ведаў юнкерска-прускую фанабэрыстасць, пыхлівасць і зацятасць Гофмана, яго паталагічную нянавісць да славян, якіх ён лічыў «гноем для ўгнаення нямецкай культуры». У перагаворах нельга не ўлічваць асабістыя якасці партнёра. Таму пяцідзесяцігадовы рускі генерал, якому хацелася сумленна служыць роднаму народу, але які не вельмі яшчэ разбіраўся ў мэтах бальшавіцкага ўрада, не мог уцяміць, навошта Троцкаму такі тон, такія заявы. Недурны ж, здаецца, чалавек, даволі адукаваны, па-еўрапейску выхаваны, валодае некалькімі мовамі.

Далікатны Іофе спалохаўся, ажно пабялеў. Толькі авантурна настроеныя «левакі» Каменеў і Радэк былі ў захапленні ад смеласці свайго кіраўніка.

Не менш за Іофе спалохаўся міністр замежных спраў Аўстра-Венгрыі граф Чарнін. Навошта бальшавікам такія недарэчныя заявы, калі ім патрэбны мір?

Пыхлівы прусак Гофман можа разарваць перагаворы і пачаць наступленне на фронце. А гэтага Чарнін баяўся. Асцярожны і разумны міністр добра ведаў, што яго галодная, знясіленая вайной імперыя трашчыць і развальваецца. Толькі мір можа ўратаваць Аўстра-Венгрыю ці хаця б адцягнуць поўнае крушэнне. Граф Чарнін, насуперак немцам, за якімі ён мусіў ісці, насуперак свайму імператару і ўраду, быў, бадай, адзіным з кіраўнікоў дэлегацыі Чацвярнога саюза, які гатовы быў прыняць ленінскія прапановы аб міры без анексій і кантрыбуцый.

Статс-сакратар Рыхард фон Кюльман таксама зморшчыўся, як ад зубнога болю, ад гэтай недарэчнай сутычкі Гофмана з Троцкім.

Пазаўчора была нарада ў кайзера, дзе ваенныя патрабавалі разрыву перагавораў з Троцкім. Ім, рэалістам — рэйхсканцлеру Гертлінгу і яму, Кюльману,— удалося ўгаварыць Вільгельма не рабіць гэтага: яны лепш, чым ваенныя, разумелі становішча ў імперыі і баяліся, што разрыў перагавораў выкліча буру.

Грубасць Троцкага ўмацоўвае пазіцыі Гіндэнбурга і Гофмана. Кюльману важна было зразумець, чаго дамагаецца Троцкі. Што яму хочацца? Што вынікае з падобных выпадаў — сіла ці слабасць?

Граф Чарнін тут жа ўзяў слова і, прымяніўшы ўсе свае дыпламатычныя якасці — хітрасць, вопыт, далікатнасць, дасціпнасць, можа, у першую чаргу дасціпнасць,— пажартаваў з таго, як ён будзе вісець на слупе,— утаймаваў раз'юшанага Гофмана.

Пасяджэнне прадаўжалася.

Гэта была не толькі правакацыйная бестактоўнасць Троцкага, але і гнюсны паклёп на Кастрычніцкую рэвалюцыю — самую бяскроўную ў гісторыі. Хто, каго, дзе ў перыяд пераможнага шэсця рэвалюцыі вешаў? Гісторыя не ведае ніводнага такога выпадку. Пазней, калі разгарэлася грамадзянская вайна, гэта рабілі дзянікінцы і калчакоўцы — вешалі на слупах камуністаў-камісараў, чырвонаармейцаў, проста рабочых і сялян. Адказам на белы тэрор быў чырвоны тэрор.

Троцкі рабіў усё, каб перагаворы сарвалі немцы, каб ніхто не ўпікнуў яго, гэтым ён дапамог бы Бухарыну і ўсім «левым», пацвердзіў бы іх тэзіс, што з імперыялістамі ніякія перагаворы весці немагчыма. Сам ён, між іншым, так не думаў. Але яму важна было арганізаваць яшчэ адзін блок супраць Леніна.

На першай стадыі перагавораў, калі дэлегацыю ўзначальваў Адольф Абрамавіч Іофе, у Брэсцкай крэпасці панавала зусім іншая атмасфера.

Манархіст Гофман не без хітрасці іграў дэмакрата і шчодрага гаспадара. Савецкай дэлегацыі прапанавалі харчавацца ў сталоўцы афіцэрскага сходу разам з дэлегацыямі Чацвярнога саюза. Акуратна з'яўляўся туды і сам Гофман. За сняданкамі і абедамі вяліся вясёлыя гутаркі. У складзе дэлегацыі была адзіная жанчына — левая эсэрка Анастасія Біцэнка. Гофмана гэта забаўляла, ён з рыцарскай галантнасцю, часам даволі назойлівай, заляцаўся да яе, казаў кампліменты, хоць жанчына, якая кідала бомбы, адказвала генералу зусім не падамску. Але Гофман умеў усё ператварыць у жарт. Разам з тым ён быў сур'ёзным і падкрэслена ўважлівым да людзей, з розумам і ведамі якіх не мог не лічыцца,— з Пакроўскім, з Самойлам. Праўда, рускага генерала» якога лічыў ахвярай, Гофман нярэдка сустракаў бестактоўнаўедлівым пытаннем:

— Не давялі вас яшчэ бальшавікі?

Папярэднік Самойлы генерал Скалон там жа, у Брэсце, застрэліўся ў кароткім перапынку паміж пасяджэннямі. У паперах яго засталося пісьмо жонцы, якая здраджвала яму, гэта было прычынай самагубства. Аднак нямецкая прэса доўга і бестактоўна смакавала

смерць «члена рускай дэлегацыі», хоць Скалон быў толькі ваенным кансультантам.

Упачатку дэлегацыя мела нейкую свабоду для паездак: не адна, разам з нямецкімі афіцэрамі, магла выязджаць з крэпасці ў горад, ездзіла нават у Варшаву. У самой цытадэлі., у яе ўнутранай частцы, не многа было месц, забароненых для прагулак,— каля Белага Палаца, дзе размяшчаўся штаб Гофмана, каля некаторых казармаў; нельга было выходзіць за брамы, у перадмаставыя ўмацаванні. Асабліва чамусьці пільна ахоўвалася Кобрынская старана.

З прыездам Троцкага ўсё змянілася. Ён забараніў членам дэлегацыі карыстацца нямецкімі аўтамабілямі і наведваць афіцэрскі клуб. Харчавацца пачалі самастойна, у адведзеным для дэлегацыі блоку. Гэта ізалявала дэлегацыю. А ў той час Галубовіч, а пазней Сяўрук і Лявіцкі са сваімі казакамі (некаторыя з Цэнтральнай рады хадзілі ў экзатычных світках, чырвоных шырокіх штанах) наладжвалі з нямецкімі і аўстрыйскімі афіцэрамі шумныя папойкі. З савецкай дэлегацыяй радаўцы пазбягалі сустрэч, уплываць на іх было цяжка — каб аб'яднацца супраць немцаў, хоць з Сеўруком Троцкі сустракаўся некалькі разоў, але заўсёды адзін на адзін, без палітычных і ваенных дарадцаў.

Натуральна, што з Гофманам у Троцкага былі напружаныя адносіны, неафіцыйна яны не сустракаліся. Але Троцкі часам прагульваўся па ачышчаных з нямецкай акуратнасцю ад снегу дарожках з прадстаўніком Генеральнага штаба маёрам Брыкманам. Маёр часта ездзіў у Берлін і ў стаўку камандуючага Усходнім фронтам прынца Леапольда Баварскага. Пра што гаварылі паміж сабой Троцкі і Брыкман — гісторыі невядома. Але ў час перагавораў у газеце правых сацыялдэмакратаў — у газеце Кауцкага — з'явіўся артыкул, у якім нічога не гаварылася пра Леніна, але многа — аб надзвычайных якасцях Троцкага, па сутнасці, даводзілася, што гэта, маўляў, адзіны чалавек, які мог бы ўзначаліць дэмакратычны, сацыялістычны, у разуменні правых, урад Расіі.

Начальнік аператыўнага аддзела Стаўкі, пасля, пры Керанскім,— генерал-кватармайстар арміі і фронту Аляксандр Аляксандравіч Самойла выдатна ведаў стан рускай арміі, разумеў, што, у выпадку нямецкага наступлення, яна разваліцца, вораг захопіць велізарную ваенную маёмасць і гэта модна аслабіць абараназдольнасць краіны. Ён прыкладаў немалыя намаганні, каб на нарадах, якія Троцкі любіў праводзіць, давесці пра гэта кіраўніку дэлегацыі і яе членам. Але Троцкі не заўсёды выслухоўваў генерала да канца, перапыняў уедлівымі, амаль абразлівымі рэплікамі. Ваенны кансультант не меў нават

дарадчага голасу ў палітычнай камісіі. Гэта моцна біла па самалюбстве генерала: з яго думкай лічыліся галоўнакамандуючыя — вялікі князь, цар... Толькі вернасць рускаму народу давала Самойлу сілу.выконваць свае нялёгкія абавязкі. Але Троцкі не хацеў слухаць не толькі былога царскага генерала — вучонага-марксіста Пакроўскага ён выслухоўваў з пагардлівай усмешкай, нецярпліва, хоць Міхаіл Мікалаевіч у той час сам быў у палоне лявацкіх настрояў. Леанід Барысавіч Красін, які паспрабаваў пярэчыць Троцкаму, прабыў у Брэсце ўсяго чатыры дні.

Троцкі слухаў толькі самога сябе, свае доўгія практыкаванні ў красамоўстве. Слухаў Радэка. З Каменева нязлосна жартаваў, адчуваючы яго залежнасць.

Найвялікшай прыемнасцю для Троцкага былі баталіі з Гофманам, асабліва калі ўдавалася мажнога генерала — тыповага тэўтонскага рыцара — узлаваць; пыхлівы прусак, рыжы ад прыроды, ад гневу так чырванеў, што, здавалася, вось-вось успыхнуць яго валасы, шчокі. Супакойвалі яго сваёй разважлівасцю абодва міністры — Кюльман і Чарнін.

У канцы студзеня — пачатку лютага рабочыя Берліна і Вены выйшлі на вуліцы, патрабуючы міру і хлеба.

Савецкая дэлегацыя з Брэста слала ў Петраград тэлеграмы аб гэтых падзеях, яўна перабольшваючы значэнне выступленняў нямецкага і аўстрыйскага пралетарыяту: ішлі са сцягамі і лозунгамі, не з вінтоўкамі — салдаты рабочых не падтрымалі.

Нельга вінаваціць членаў дэлегацыі за вялікі аптымізм: інфармацыя ў іх была абмежаваная, яны не мелі нават магчымасці купіць усе газеты, чыталі толькі тыя, што дазваляў Гофман, а вера ў нямецкую рэвалюцыю была залішняя, усе чакалі дапамогі еўрапейскага пралетарыяту, спадзяваліся на такую дапамогу, шмат хто з іх лічыў, што толькі рэвалюцыя на Захадзе можа ўратаваць рускую рэвалюцыю. Савецкую ўладу.

Выступленням у Германіі і Аўстра-Венгрыі ўзрадаваліся не толькі «левыя». Першага лютага «Правда» выйшла з вялізнай «шапкай»:

«Пажар сусветнай пралетарскай рэвалюцыі разгараецца! Паўстаў нямецкі пралетарыят. У Берліне — Савет рабочых дэпутатаў. Гібель капіталізму непазбежна! Сонца сацыялізму ўзыходзіць! Перамога пачэснага міру забяспечана! Няхай жыве сусветная пралетарская рэвалюцыя! Няхай жыве сусветная рабочая Рэспубліка Саветаў!»

Па першых паведамленнях Ленін таксама паверыў у рэвалюцыю ў Германіі. Але Ленін заставаўся рэалістам, ён не даў волі эмоцыям, а прадаўжаў пільна сачыць за падзеямі, аналізаваць іх.

Немцы перапынілі тэлеграфную сувязь дэлегацыі са Смольным.

Трэцяга лютага Ленін уласнаручна піша зварот:

«Па радыё ўсім.

Мірнай дэлегацыі ў Брэст-Літоўску асабліва.

Мы таксама вельмі ўсхваляваны адсутнасцю праваду, у чым, здаецца, вінаваты немцы. Кіеўская Рада пала. Уся ўлада на Украіне ў руках Савета».

Менавіта пра гэта ў першую чаргу павінны былі ведаць народ, армія і асабліва дэлегацыя ў Брэсце, якая абавязана падпісаць мір. Такі ход ленінскай думкі, Гэтаму ён падпарадкоўвае ўсю іншую інфармацыю: «У Фінляндыі справы буржуазных контррэвалюцыянераў безнадзейныя... На Доне 46 казацкіх палкоў на з'ездзе ў станіцы Ка менскай аб'явілі сябе ўрадам, ваююць з Каледзіным».

Толькі паведаміўшы тое, што давала важкія аргументы савецкай дэлегацыі і выбівала іх у Гофмана, Ленін інфармуе, што «сярод піцерскіх рабочых вялікі ўздым энтузіязму ў сувязі з утварэннем Савета рабочых дэпутатаў у Берліне». І вельмі асцярожна ў канцы: «Ходзяць чуткі, што Карл Лібкнехт вызвалены і хутка стане на чале нямецкага ўрада».

На другі дзень, чацвёртага лютага, Ленін зноў шле радыёграму «Усім, усім». Ленін ставіць іншую мэту: памагчы нямецкім рабочым, якіх запалохалі жахамі рускай рэвалюцыі.

У радыёграме Уладзімір Ільіч інфармаваў перш за ўсё рабочых свету і асабліва нямецкіх сацыялістаў: «Рад заграні́чных газет паведамляюць ілжывыя звесткі пра жахі і хаос у Петраградзе і інш.

Усе гэтыя звесткі абсалютна няправільныя. У Петраградзе і Маскве паўнейшы спакой. Ніякіх арыштаў сацыялістаў не зроблена».

Перадапошні абзац адрасаваўся свайму народу — са спакойнай развагай І праўдзівасцю:

«Звесткі з Германіі скудныя. Яўна, што германцы скрываюць праўду аб рэвалюцыйным руху ў Германіі. Троцкі тэлеграфуе ў Петраград з Брэст-Літоўска, што немцы зацягваюць перагаворы».

У той дзень Троцкі атрымаў ад немцаў сувязь і паслаў Саўнаркому такую тэлеграму:

«Нямецкая прэса стала трубіць, нібыта мы ўвогуле не хочам міру, а толькі клапоцімся аб перанясенні рэвалюцыі ў іншыя краіны. Гэтыя аслы не могуць зразумець, што менавіта з пункту гледжання развіцця еўрапейскай рэвалюцыі хутчэйшы мір для нас мае велізарнае значэнне».

Ленін верыў дэлегацыі. А Троцкі між тым маніў, уводзіў урад у зман — і наконт уласнай пазіцыі, і наконт пазіцыі дэлегацый Чацвярнога саюза.

Адной тэлеграмы яму здалося мала, ён у той жа дзень шле другую асабіста Леніну: «У нямецкі друк пранікла недарэчнае паведамленне аб тым, што мы збіраемся дэманстрацыйна не падпісаць мірнага дагавору. Якая дзікая лухта!»

Зусім інакш, чым Ленін, павёў сябе Бухарын і яго прыхільнікі. Людзі, якія спадзяваліся толькі на рэвалюцыю на Захадзе і былі ў палоне рэвалюцыйнага фразёрства, з першымі ж звесткамі аб выступленнях у Германіі павялі бестактоўную нахабную прапаганду супраць Леніна. Яны яўна хацелі ўзяць рэванш за сваё паражэнне на Трэцім з'ездзе Саветаў.

Заява Бухарына, Ломава, Асінскага, Пятакова, Красцінскага ў ЦК з патрабаваннем неадкладна склікаць партыйную канферэнцыю была, па сутнасці, ультыматумам прыхільнікам Леніна. У заяве гаварылася, што канферэнцыя неабходна для канчатковага і яснага вырашэння гэтага пытання гістарычнай для міжнароднага пралетарыяту важнасці «І ў сувязі з тым, што ў рэзалюцыі, якая ўнесена ад імя бальшавіцкай фракцыі на з'ездзе Саветаў... не маецца прамога ўказання на недапушчальнасць падпісання дагавору 29 студзеня (10 лютага) і ў той жа час прадастаўлены неабмежаваныя паўнамоцтвы Савету Народных Камісараў па пытанні аб заключэнні міру, г. зн. выходзіць і права падпісаць «пахабны мір».

У выпадку падпісання міру без канферэнцыі ўся група пагражала пакінуць адказныя пасты ў партыі і органах улады.

Ленін выступіў супраць канферэнцыі, якая ў той сітуацыі, пры тэрміновым скліканні, не магла выявіць думку партыі. Няма сэнсу ў канферэнцыі, сказаў Ільіч на пасяджэнні ЦК першага лютага, таму што рашэнні яе не могуць быць абавязковымі для ЦК.

Ленін дамагаецца пастановы аб скліканні партыйнага з'езда. Але, каб заспакоіць крыклівых апанентаў сваіх, дыпламатычна згаджаецца на правядзенне тэрміновай нарады — «для лоўлі думак». Зноў — каторы раз! — заклікае прыхільнікаў рэвалюцыйнай вайны «з'ездзіць на фронт і там на ўласныя вочы пераканацца ў поўнай немагчымасці вядзення вайны».

Праз два дні адбылася нарада ЦК з прадстаўнікамі Петраградскага і Маскоўскага камітэтаў — Касіёрам, Фенігштэйнам, Асінскім, Стукавым. Усе яны былі «левыя». Каго прадстаўляў Спундэ, дагэтуль не ўстаноўлена, але здагадацца лёгка: Спундэ быў вухам Троцкага, яго інфарматарам, запасным, на выпадак, калі Зіноўеў, які любіў

паляжаць на мяккай канапе з грэлачкай, будзе адсутнічаць, Троцкі добра ведаў звычкі Зіноўева.

Ніхто не паклапаціўся, каб вёўся пратакол. Толькі Уладзімір Ільіч уласнаручна запісваў некаторыя палажэнні з выступленняў і склаў табліцу галасавання, разбіўшы ўдзельнікаў на чатыры групы. Галасаванне было складанае. Не проста за мір ці за вайну. Належала выказаць свае адносіны па дзесяці важнейшых пытаннях знешняй палітыкі Савецкай дзяржавы. Пытанні прапанаваў Ленін. Першым сярод іх было: «Ці дапусцімы ўвогуле мір паміж сацыялістычнымі і імперыялістычнымі дзяржавамі?» Далей ішло: «Ці дапусціма зараз падпісаць нямецкі анексіяністцкі мір?» «Зацягваць перагаворы ці не?» «Ці разарваць перагаворы неадкладна?» «Ці трэба ствараць Чырвоную Армію?»

Зразумеўшы, што Ленін «перахітрыў» іх, загнаў у кут — вымушае адказамі вывернуць сваю сутнасць, лідэры «левых» Бухарын і Урыцкі і «прыхільнік» Леніна Зіноўеў уцяклі да галасавання, палахліва пакінулі «поле бою».

Ленін размашыста і буйна, праз усю табліцу, так і напісаў: «Пайшоў да галасавання» — насупраць прозвішча Зіноўева і трохі драбней «Пайшлі да галасавання» перад прозвішчамі Бухарына і Урыцкага, аб'яднаўшы траіх фігурнай дужкай.

Асінскі і Стукаў адказалі адмоўна нават на першае пытанне: ці можа быць мір паміж сацыялістычнай і імперыялістычнай дзяржавамі?

За адно толькі прагаласавалі ўсе, акрамя, безумоўна, тых, што ўцяклі,— за стварэнне Чырвонай Арміі. Але пытанне гэтае было як бы кантрольнае: яшчэ пяць дзён назад, дваццаць восьмага студзеня, Уладзімір Ільіч падпісаў дэкрэт Саўнаркома аб стварэнні Чырвонай Арміі. Нямецкі ультыматум зрабіў непатрэбным дыпламатычны манеўр — ствараць новую армію без афіцыйнага абвяшчэння. Няхай «партыя вайны» ў Германіі ведае, што з развалам старой рускай арміі Савецкая рэспубліка не застанецца без узброеных сіл! Няхай ведаюць, што зацяжка перагавораў мояса даць нам час умацаваць фронт!

Адным словам, Уладзімір Ільіч усё скіроўваў на тое, каб хутчэй падпісаць мір і адначасова ўмацаваць Савецкую ўладу палітычна, эканамічна і абаронна.

Аляксандр Аляксандравіч Самойла верна выконваў прысягу айчыне і нямала зрабіў для рускай арміі. Бальшавікі не патрабавалі ад яго прысягі. Але, перайшоўшы на бок Савецкай улады, ён прысягнуў сам сабе: гэтак жа верна прадаўжаць служыць свайму народу, а значыцца, і ўраду, якому народ даверыў кіраўніцтва

краінай. Маючы немалы вопыт вядзення разведкі, ён і ў Брэсце не спаў у шапку. Зблізіўся з «радаўцамі», якія, напэўна, спадзяваліся, што царскі генерал бліжэй да іх, чым да бальшавікоў, і праз яго можна выведаць сакрэты савецкай дэлегацыі.

Генерал прыняў запрашэнне Міколы Любінскага на вячэру і, умеючы разумна выпіць, выведаў ад п'яных «Казакаў», што Цэнтральная рада гатова падпісаць з немцамі і аўстрыйцамі сепаратны мір. Таму перапынены перагаворы, Кюльман і Чарнін выехалі ў Берлін.

Устрывожаны Самойла ў той жа вечар далажыў пра гэта Троцкаму.

Троцкі прыняў яго ў цёплым шыкоўным халаце і ў звычайных армейскіх валёнках: у блоках было холадна; халодныя адносіны паміж Гофманам і Троцкім адбіліся нават на гэтым — грубкі ў пакоях савецкай дэлегацыі пачалі паліць з залішняй нямецкай ашчаднасцю.

Нарком выслухаў генерала ўважліва, але са спакойнай паблажлівай усмешкай, якая ўжо неаднойчы абражала чалавека, што скончыў не горшую, не толькі на яго думку, ваенную акадэмію, якога ніхто ніколі не лічыў прафанам і за думку якога перад вайной і ў вайну дорага заплацілі б разведкі варожых генштабоў.

Троцкі не ўпершыню слухаў так ваеннага кансультанта. Ён аглядаў поўную постаць Самойлы з «класавай грэблівасцю», мабыць, лічыў, што так павінен глядзець галодны пралетарый на сытага буржуя. І не верыць яму. Ні ў чым.

На гэты раз Троцкі быццам бы паверыў, бо заспакоіў Самойлу без заўсёднага саркастычна-гуллівага тону — сур'ёзна:

— Ленін тэлеграфуе, што Рада дыхае на ладан. Што такое дагавор, падпісаны трупам?

— Але я не сумняваюся, што ў дагаворы абавязкова будзе пункт, які дасць права немцам увесці на Украіну войскі. Гэта паставіць нас у цяжкае становішча. Калі нават улада Цэнтральнай рады падзе на ўсёй Украіне, немцы могуць доўга прызнаваць толькі той урад, які падпісаў выгадны ім дагавор. Нельга недаацэньваць значэнне дагавораў.

Троцкі задумаўся.

— Што вы прапануеце?

Яны абыходзіліся без зваротаў: Троцкі ніколі не сказаў генералу «таварыш Самойла», у сваю чаргу генерал ніяк не мог прымусіць сябе казаць яму «таварыш нарком», як звярталіся да Троцкага іншыя.

— Выкрыць змову Сеўрука і Лявіцкага з Гофманам. Заявіць пратэст. Паспрабаваць дастаць праект дагавора...

Вусны Троцкага скрывіліся ў знаёмай саркастычнай усмешцы. Пранікліва-назіральны Самойла зразумеў, што Троцкі падумаў: маўляў, недабіты генерал дае яму, вялікаму рэвалюцыянеру, палітычную параду.

Але Троцкі нечакана зноў зрабіўся сур'ёзны і, пахадзіўшы ў задуме па прасторным пакоі, сказаў:

— Тэлеграфуйце ў штаб Заходняга фронту... з перадачай Галоўкаверху... Тэкст такі. Запішыце. Абстаноўка складваецца так, што паказвае на поўную магчымасць, нават у бліжэйшыя дні, рашэння нямецкага галоўнага камандавання перапыніць перамір'е і аднавіць варожыя дзеянні. Лічу неабходным правесці самым паскораным чынам меры па вывазу ў тыл артылерыі і матэрыяльнай часткі.

У Самойлы спалохана расшырыліся вочы. Упершыню ён сказаў інтымна-даверліва, шэптам:

— Леў Давыдавіч! А калі Гофман чытае нашы шыфроўкі?

Троцкі спыніўся перад генералам і зноў грэбліва паглядзеў на яго акруглены пад фрэнчам жывот.

— Генерал! У вас хвароба. Шпіёнаманія. Але мяне здзіўляе не гэта. Дзіўна, што царызм не навучыў вас выконваць загады.

Адзін з нямногіх у складзе дэлегацыі, хто найлепш разумеў пагрозу і найбольш быў заклапочаны лёсам краіны і арміі, але хто быў пазбаўлены права даводзіць сваю думку, Самойла з сумным настроем пакінуў пакой наркома, пайшоў да тэлеграфіста, разам з ім зашыфраваў тэлеграму і перадаў яе. Было гэта шостага лютага.

Троцкі не толькі не паслухаўся парады Самойлы — адкрытым пратэстам перашкодзіць сакрэтнай змове, але не давёў папярэджанне кансультанта да дэлегацыі, не паведаміў пра яго Саўнаркому. Ведаў, што Ленін не задаволены яго, Троцкага, прызнаннем дэлегацыі Рады, таму рабіў выгляд, што роля яе настолькі мізэрная, што не вартая нават сур'ёзнай інфармацыі.

У гэты час у Брэст нарэшце прыехалі прадстаўнікі дэлегацыі ЦВК Саветаў Украіны Мядзведзеў і Шахрай. Як ні стараўся Уладзімір Ільіч, каб яны выехалі хутчэй і сказалі сваё слова ад імя ўкраінскага народа, немцы не без уплыву радаўцаў зрабілі ўсё, каб затрымаць іх прыезд.

Троцкі іх прыезду не надаў належнага значэння — таго, якое надаваў Ленін. Ён, па сутнасці, ігнараваў савецкіх украінцаў, як ігнараваў кожнага, у кім не бачыў аднадумца, саюзніка.

Сама дэлегацыя, без штату, без тэхнічных сродкаў, у варожым акружэнні немцаў і «радаўцаў», пры абыякавасці Троцкага, была ў Брэсцкай цытадэлі, па сутнасці, бездапаможнай. Да таго ж члены

дэлегацыі не мелі цвёрдай палітычнай пазіцыі. Лідэр украінскіх левых сацыял-дэмакратаў, якія не заўсёды стаялі на ленінскіх пазіцыях, Яхім Мядзведзеў быў па натуры лянівы і хваравіты, недарэмна ён хутка сышоў з палітычнай арэны. Энергічны і дзейны Васіль Шахрай ужо тады меў сімптомы нацыяналістычнай хваробы, за што пазней яго выключылі з бальшавіцкай партыі. Уладзімір Затонскі па хваробе не здолеў прыехаць.

Дзевятага лютага на дзённым пасяджэнні палітычнай камісіі Троцкі без уласцівай яму настойлівасці і пафаснасці ўзняў пытанне аб прызнанні дэлегацыі Савецкай Украіны.

Тут жа падхапіўся заўсёды стрымана-вежлівы Кюльман і нязвыкла горача сцёбнуў Троцкага, як кажуць, па вачах:

— Я лічу патрэбным устанавіць, што пан прадстаўнік рускай дэлегацыі дагэтуль не ўказаў на тое, што разам з дэлегацыяй Кіеўскай рады мае прэтэнзію гаварыць ад імя ўкраінскага народа яшчэ і другая дэлегацыя.

Вельмі магчыма, што Кюльман ведаў пра крытыку Леніным пазіцыі Троцкага ў адносінах дэлегацыі Рады.

Троцкі мусіў пракаўтнуць жабу. Але чалавек гэты ўмеў выкручвацца з любой сітуацыі і любы паварот выкарыстаць для ўласнай карысці.

Запатрабаваўшы перапынак, ён правёў нараду сваёй дэлегацыі з удзелам Мядзведзева і Шахрая і прапанаваў тэкст тэлеграмы ў Петраград: «Калі мы да пяці гадзін вечара атрымаем ад вас дакладнае і праверанае паведамленне, што Кіеў у руках савецкага народа, гэта можа мець вялікае значэнне для перагавораў».

З Петраграда адказалі праз нейкія дзве-тры гадзіны — вельмі аператыўна, калі мець на ўвазе, што ўсе тэлеграмы з Брэста дакладваліся Леніну і амаль усе адказы пісаліся ці дыктаваліся Леніным: нельга не ўлічыць і той акалічнасці, што «праваду» часта не было — немцы ўсяляк чынілі перашкоду сувязі, а такую тэлеграму ўвогуле маглі затрымаць.

У адкрытай тэлеграме гаварылася:

«Учора 8 лютага а дзесятай гадзіне ночы атрымалі з Кіева ад галоўнакамандуючага Мураўёва афіцыйнае паведамленне аб узяцці Пячорскага раёна і ўцёках рэшткаў Рады... Усё гэта было ў 20 гадзін 8 лютага; ад Рады не засталося нічога, акрамя сумнага ўспаміну... Як бачыце, дэлегацыя Кіеўскай Рады ў Брэсце ўяўляе пустое месца. У Кіеў, як і ў Харкаў, будзе перададзена ваша патрабаванне аб рэгулярным інфармаванні Брэста».

Троцкі рабіў выгляд, што ён раіцца з Саўнаркомам. Але, атрымаўшы гэтае вельмі валенае паведамленне, ён не паварушыў пальцам. А па ўсёй логіцы перагавораў павінен быў запатрабаваць ад Кюльмана і Чарніна тэрміновага пасяджэння палітычнай камісіі, каб з дакументам у руках апратэставаць паўнамоцтвы дэлегацыі Рады.

Немцы, безумоўна, пачыталі тэлеграму, бо тут жа, тайна ад савецкай дэлегацыі, з надзвычайнай паспешлівасцю, зрабіўшы значныя ўступкі пыхлівым нацыяналістам, падпісалі дагавор з Радай.

Пра акцыю гэтую першы даведаўся Самойла: граф Чарнін, мабыць, узрадаваны, што радаўцы не патрабавалі ад Аўстра-Венгрыі кампенсацыі — Усходняй Галіцыі і Букавіны,— наладжваў прыём.

Усхваляваны кансультант зноў пайшоў да кіраўніка дэлегацыі. Троцкі ніякай заклапочанасці не выявіў, не сабраў нават дэлегацыю, каб параіцца. Ён прадыктаваў Самойлу тэлеграму аб падзеі, якая адбылася. Пытаўся, што рабіць. Але тут жа з незразумелай катэгарычнасцю паведамляў, што наша «канчатковае рашэнне будзе вынесена заўтра ўвечары». Незразумела, на каго разлічвалася гэтае амаль пагрозлівае сцвярджэнне — на Саўнарком ці на немцаў.

Усю ноч у Брэсцкай крэпасці, палохаючы нямецкіх вартавых, па-запарожску балявалі «дыпламаты» Віннічэнкі і Пятлюры, якія ў гэты час уцякалі з Кіева насустрач нямецкаму і аўстрыйскаму войску, пад ахову кайзера Вільгельма і імператара Карла.

Хлеб і мір! Гэта быў клопат не толькі кожнага дня — кожнай гадзіны, кожнай хвіліны. Вырашэнне любога пытання арганізацыі Савецкай улады абавязкова і вельмі чэпка звязвалася з мірам і хлебам. Уся велізарная разумовая энергія Леніна, якой хапіла, каб ускалыхнуць, узрушыць свет, цяпер была скіравана на гэтыя, такія простыя, разуменні. Простыя, калі мір і хлеб ёсць, але якія складаныя, калі іх няма! Ленін нярэдка адчуваў і казаў блізкім людзям, што, магчыма, лягчэй было напісаць у Разліве «Дзяржаву і рэвалюцыю», чым раздабыць лішнюю тысячу пудоў хлеба для Петраграда і арміі.

Учора былі прадстаўнікі Савета народных упаўнаважаных Фінляндыі. Буржуазія душыць фінскую рэвалюцыю голадам. Прыйшлося ўключаць у парадак дня сённяшняга пасяджэння Саўнаркома: «Хадайніцтва Фінляндыі аб хлебе». Але дзе яго ўзяць? Дзе — вядома. У сялян. Як узяць?

Тры дні назад па яго, Леніна, ідэі, не без бою з левымі эсэрамі, прыйшлося выдаткаваць з урадавага фонду дзвесце тысяч рублёў для арганізацыі і ўтрымання сацыялістычнага атрада пры Надзвычайнай камісіі па абароне Петраграда.

А ўчора нарадзілася новая ідэя: знайсці сто мільёнаў рублёў для «Цэнтратканіны», каб пусціць усе фабрыкі, нарабіць мануфактуры і выменяць на яе хлеб.

Але сто мільёнаў — не сто рублёў, іх трэба знайсці ў дзяржаўным казначэйстве — з нечага выкраіць, урэзаўшы на іншыя патрэбы. А галоўнае — правесці праз Саўнарком. Левыя эсэры, якія выдаюць сябе за абаронцаў сялянства, павінны падтрымаць, хоць апошнім часам здараецца, што дзеянні іх не ўкладваюцца ў логіку іх жа праграмы. Могуць выступіць супраць некаторыя «эканамісты» — Пятакоў, Неўскі. Бо грошай сапраўды такі няма.

Некалькі гадзін назад Ленін выступіў на з'ездзе зямельных камітэтаў, сярод іншага сказаў і пра гэта:

«Грошай няма, вось дзе наша слабасць, вось чаму мы слабыя і чаму пакутуе наша краіна».

Усё так. Аднак сто мільёнаў трэба знайсці. Хлеб — самая магутная зброя рэвалюцыі.

У той жа дзень Ленін даў яшчэ адно распараджэнне, якое мела важнае дачыненне да хлеба. Ды і да міру таксама.

Рэвалюцыя зрабіла небывала гуманны акт: вызваліла з-пад варты ваеннапалонных. Будзьце роўнымі сярод роўных, глядзіце, вучыцеся, як рускі пралетарыят бярэ ўладу!

У пошуках хлеба і работы ваеннапалонныя наваднілі Петраград. Асабліва наехала многа афіцэраў. Паступаюць звесткі, што некаторыя з іх ідуць на сувязь, на кантакты з рускім контррэвалюцыйным афіцэрствам — каледзінцамі, карнілаўцамі.

Ленін напісаў Падвойскаму:

«З прычыны прадуктовых цяжкасцей і небяспекі контррэвалюцыйных выступленняў прадпісваю прыняць неадкладна самыя рашучыя і экстранныя меры для высылкі з Петраграда ўсіх ваеннапалонных, у першую чаргу афіцэраў».

У змаганні з контррэвалюцыяй ніякіх дыскусій быць не можа. Прадпісанне Старшыні Саўнаркома павінна быць законам! Але жыццё паказвае, што бухарынцы, левыя эсэры могуць учыніць абструкцыю з любой нагоды, па любой пазіцыі. Калі выступілі супраць міру, то могуць гэтак жа лёгка выступіць супраць пошукаў грошай, закупу хлеба, высылкі палонных. У такіх выпадках вельмі важна, каб любую ідэю хораша зразумелі і падтрымлівалі, без хістанняў, без агаворак, блізкія і надзейныя таварышы.

Ленін запрасіў да сябе Свярдлова і Сталіна, каб параіцца з імі.

Наконт палонных Якаў Міхайлавіч спытаў:

— Своечасова гэта, Уладзімір Ільіч? Немцы і аўстрыйцы не прычэпяцца? Перад самым падпісаннем міру...

Мір мы падпішам, калі не сёння, то заўтра абавязкова! Мы пратэставалі супраць рабскай эксплуатацыі рускіх палонных. А ў нас палонныя маюць поўную волю. Будзе падпісаны мір, мы іх як можна хутчэй вернем на радзіму. Няхай прапагандуюць нашу рэвалюцыю. А пакуль што статус ваеннапалонных — унутраная справа краіны, якая ўзяла іх у палон. Мы пайшлі далей усіх міжнародных канвенцый. Але калі некаторыя з ваеннапалонных намерваюцца выступіць супраць рэвалюцыі...

— Прадпісанне Падвойскаму павінна быць сакрэтным дакументам. Мы залішне многа даём у друк,— сказаў Сталін.

— Наконт палонных Сталін мае рацыю, гэта справа чыста ваенная,— згадзіўся Уладзімір Ільіч, але, на хвіліну задумаўшыся, сказаў: — А ўвогуле таіцца ад рабочых мы не будзем. Усе дэкрэты Савецкай улады рабочыя і сяляне павінны ведаць. Пакуль што друк наш, бальшавіцкі, слаба прапагандуе іх. А меншавіцкія і эсэраўскія газеты маюць залішнюю свабоду, каб аплёўваць нашы дэкрэты. Мы задыхаемся без паперы, яны ж маюць яе. Гэта абсалютна ненармальна. Усе запасы паперы трэба нацыяналізаваць. Папера, як і порах, павінна быць у руках дзяржавы.

Гаварылі пра хлеб.

Ленін крытыкаваў камісарыяты, якія мала што робяць, каб хутчэй перавесці металічныя заводы на выраб тавараў, прыгодных, каб мяняць іх на хлеб.

— Дамо сялу плугі, косы, сярпы, паркаль — і мы атрымаем хлеб. Больш таго: гэта будзе практычнае ўмацаванне саюзу пралетарыяту і сялянства,— Ленін агледзеў сваіх паплечнікаў, прыжмурыўшыся адначасова весела і заклапочана, як ён рабіў гэта ў хвіліны напружання мыслі.— Аднак з металічнымі заводамі прасцей. Грошы на ваенныя заказы мы выкарыстаем на мірную прадукцыю. Дзе ўзяць сто мільёнаў для «Цэнтратканіны» ?

Увайшоў Мікалай Пятровіч Гарбуноў, паклаў перад Леніным паперку. Уладзімір Ільіч прачытаў, і на твар яго як бы ўпаў цень, весялосць у вачах знікла, зморшчыш пад вачамі і на лбе паглыбіліся. Сказаў Свярдлову і Сталіну:

— Ад Троцкага. Па сутнасці, паўтор учарашняй тэлеграмы. Не разумею, чаму ён так дамагаецца інструкцый — што рабіць у сувязі з падпісаннем немцамі дагавору з Радай. Інструкцыі яму дадзены дастаткова ясныя і падрабязныя. А потым — гэтыя заявы. Яны — што ультыматум Саўнаркому.— Ленін прачытаў: — «Сёння каля шасці

гадзін намі будзе дадзены канчатковы адказ. Неабходна, каб ён у сутнасці сваёй стаў вядомы ўсяму свету. Прыміце неабходныя да таго меры». Як гэта разумець? Вы што-небудзь разумееце, Якаў Міхайлавіч? — Ленін перадаў тэлеграму Свярдлову.

Якаў Міхайлавіч пачытаў, пакруціў галавой, аддаў паперу Сталіну. Пакуль той чытаў, Свярдлоў сказаў з іранічнай усмешкай:

— Ох, Пяро! Гэта тое «пяро», якое перад тым, як напісаць, пырскае чарнілам і ставіць кляксы. Троцкі залішне думае пра тое, як увайсці ў гісторыю. Яму абавязкова патрэбна сусветная аўдыторыя. Не менш.

— А я не веру Троцкаму! — катэгарычна пракаменціраваў тэлеграму Сталін, кладучы паперу на стол. Уладзімір Ільіч падняўся і адышоў да акна, пастаяў там у задуме.

Зімовы вячэрні змрок ахутваў Петраград. Аднак бязвоблачнае неба было яшчэ светлае. І Ленін зноў падумаў, што ў небе мала дымоў. Уявіў, як мерзнуць у халодных кватэрах дзеці. Толькі мір можа даць хлеб і вугаль!

Адказаў Сталіну ад акна:

— Не верыць таварышам па рабоце мы не можам. Гэта разваліць савецкі апарат.

Перасмыкнуў плячамі, як скінуў з іх цяжар, хутка вярнуўся да стала, сеў, на бланку з грыфам «Совет Народных Комиссаров» энергічна напісаў:

«Брэст-Літоўск. Руская мірная дэлегацыя. Троцкаму. Наш пункт гледжання вам вядомы; ён толькі ўмацаваўся за апошні час і асабліва пасля пісьма Іофе. Паўтараем яшчэ раз, што ад Кіеўскай Рады нічога не засталося і што немцы вымушаны будуць прызнаць факт, калі яны яшчэ не прызналі яго.

Ленін».

Напісаўшы гэта, Уладзімір Ільіч памахаў лістком у паветры, прачытаў тэкст і працягнуў тэлеграму Сталіну.

— Іосіф Вісарыёнавіч, прасачыце ў апаратнай, каб перадалі як можна хутчэй.

Сталін прабег вачамі па тэксце.

— Мне хочацца, Уладзімір Ільіч, дапісаць адзін сказ: «Інфармуйце нас часцей». Троцкі павінен адчуваць кантроль урада.

— Калі ласка, дапішыце.

Сталін дапісаў у канцы, перад подпісам «Ленін», гэтыя словы, а пад адрасам напісаў: «Адказ» — і паставіў дату і час: «28/1, 6 гадзін 30 мінут вечара».

Сталін паставіў петраградскі час і дату па старым стылі. А без дзесяці шэсць па берлінскім часе дзесятага лютага ў Брэсцкай крэпасці пачалося апошняе пасяджэнне дэлегацый на мірных перагаворах.

Немцы, пераадолеўшы страх графа Чэрніна, яшчэ напярэдадні адкрыта прад'явілі свой ультыматум.

Троцкі двойчы паведаміў з двухсэнсавымі прыпіскамі пра дагавор з Радай і вельмі туманна — аб ультыматуме: «Сёння Кюльман і Чарнін падвялі вынікі ўсім спрэчкам, якія праходзілі да гэтага часу...»

Троцкі добра помніў інструкцыю Леніна: «Мы зацягваем перагаворы да прад'яўлення ультыматуму. Пасля ультыматуму мы здаём і падпісваем анексіяністцкі мір».

Апраўдваючы свой ультыматум і падбадзёрваючы знясіленых вайной саюзнікаў — аўстрыйцаў і балгар, Гофман пачаў са злоснай заявы:

— Канчаючы бясплодную дыскусію, якую мы тут доўга вялі, я павінен ад імя майго імператара і ўрада заявіць рашучы пратэст рускаму ўраду ў сувязі са значным, у апошнія дні, павелічэннем колькасці рускіх войск на тэрыторыі Фінляндыі.

Гэта была мана: ніякія новыя часці ў тыя дні ў Фінляндыю не пасылаліся.

Следам за Гофманам выступіў Кюльман. Статс-сакратар гаварыў не так злосна, як генерал,— дыпламатычна:

— Дэлегацыі Чацвярнога саюза ехалі ў Брэст-Літоўск з самымі чыстымі і самымі міралюбівымі намерамі. З такой жа шчырасцю мы заключылі перамір'е. Але рускі ўрад на ўсім працягу перамір'я выкарыстоўваў яго толькі з адной мэтай — каб падбухторыць нямецкіх салдат супраць афіцэраў і генералаў, каб перанесці беспарадкі, якія мелі месца ў Расіі, у Германію, Аўстра-Венгрыю... Урад яго вялікасці кайзера не можа мірыцца больш з такім становішчам. Сённяшняе пасяджэнне сур'ёзнае і адказнае. Ад імя саюзных з Германіяй дэлегацый я прапаную закончыць агульную дыскусію і абмяркоўваць толькі пункты, што даюць магчымасць прыйсці да пэўных вынікаў.

Не пярэчачы Гофману, бо на апошняй нарадзе ваенных падтрымаў кайзер, Кюльман, аднак, спрабаваў уратаваць перагаворы. Гертлінг і ён баяліся аднаўлення вайны.

Усяго некалькі гадзін назад у адказ на катэгарычную тэлеграму Вільгельма, у якой патрабавалася «Троцкага неадкладна паставіць перад пастулатам — заключэнне міру на маіх умовах»,— рэйхсканцлер, па яго, Кюльмана, просьбе згадзіўся паслаць кайзеру тэлеграму, у якой, між іншым, яны нагадалі, што «забастоўка, якая толькі што скончылася, паказала моцнае бражэнне» і што «народ лічыць,

правільна ці няправільна, што інтарэсы Германіі патрабуюць заключэння міру». Больш таго, яны адважыліся на «бунт»; Гертлінг згадзіўся падпісаць наступнае: «Як мне гэта ні балюча, але я буду прасіць вашу высокасць, у выпадку, калі ваша высокасць будзе настойваць на выстаўленых патрабаваннях аб ачышчэнні Ліфляндыі і Эстляндыі, як cnditi sine qua nn (абсалютна неабходную ўмову) для міру з Троцкім, зняць з пана фон Кюльмана і з мяне адказнасць за далейшае правядзенне палітыкі вашай вялікасці і літасціва прыняць ад нас назад мандат на завяршэнне мірных перагавораў».

Троцкі выслухаў заяву Кюльмана з саркастычнай ухмылкай.

Міхаіл Мікалаевіч Пакроўскі тройчы піў ваду: да таго часу ён адышоў ад лявацкіх поглядаў Бухарына і цалкам падтрымліваў Леніна, а тут раптам адчуў, што мір пад пагрозай; гэта яго моцна ўсхвалявала.

З надзвычайным спакоем, не без дасціпнасці адказаўшы на абвінавачванні Гофмана і Кюльмана, Троцкі заявіў:

— Мы выходзім з вайны, але вымушаны адмовіцца ад падпісання мірнага дагавору.

Немцы збянтэжыліся. Але яшчэ больш — аўстрыйцы. Граф Чарнін проста такі спалохаўся. Ён не разумеў такой дыпламатыі: «Што робіць гэты чалавек? Ён што, звар'яцеў? Усё сведчыць, што Ленін — за мір. Чаго ж дамагаецца Троцкі? Няўжо ў бальшавікоў такая дэмакратыя? Мяне за такое павесілі б».

Троцкі папрасіў кароткі перапынак. У час перапынку генерал Самойла перадаў яму тэлеграму Лента. Але Троцкі нават не прачытаў яе членам дэлегацыі. Аднак пастараўся, каб заяву, загадзя напісаную ім, падпісалі члены дэлегацыі — левы эсэр Карэлін, які толькі што быў назначаны ў дэлегацыю і не вельмі разбіраўся ў тонкасцях перагавораў, не надта пісьменная Біцэнка, верны аднадумец Іофе, разгублены Пакроўскі...

Аднавілася пасяджэнне — і Троцкі прачытаў гэтую заяву:

— Іменем Савета Народных Камісараў Урад Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі гэтым даводзіць да ведама ўрадаў і народаў, якія ваююць з намі, саюзных і нейтральных краін, што, адмаўляючыся ад падпісання анексіяністкага дагавору, Расія абвяшчае са свайго боку стан вайны з Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Турцыяй, Балгарыяй — спыненым. Расійскім войскам аддаецца адначасова загад аб поўнай дэмабілізацыі па ўсіх лініях фронту.

Такая афіцыйная заява — гэта не тое, што выступленне ў дыскусіі, не пафасная прамова, якіх сказана тут дзесяткі. Яна збянтэ-

жыла нават радаўцаў. Адразу радасць сваю выявіў хіба толькі адзін ваяўнічы Гофман: во адкрываецца магчымасць для яго войска!

Кюльман узрадаваўся не менш за Гофмана: начальніку штаба Усходняга фронту нічога не пагражала, а яму і Гертлінгу пасля іх тэлеграмы кайзеру пагражала адстаўка. Парадаксальна: і'х ратаваў Троцкі!

Кюльману хацелася зарагатаць. Але хітры і асцярожны дыпламат падкрэслена ветліва і далікатна ўдакладніў сутнасць таго, што абвясціў Троцкі:

— Наколькі я зразумеў пры чытанні заявы пана камісара па замежных справах,— сказаў нямецкі міністр,— істотнай часткай гэтай заявы з'яўляецца тое, што рускі ўрад зараз жа намераны аддаць загад аб поўнай дэмабілізацыі рускай арміі і ў той жа самы час адмаўляецца падпісаць якое б то ні было пагадненне з дэлегацыямі праціўнікаў...

Але, думаючы пра гісторыю і сваё месца ў ёй, пра сваю «дыпламатычную сумленнасць», Кюльман палічыў неабходным папярэдзіць рускіх. Ён сказаў:

— Ваенныя дзеянні, нягледзячы на прадаўжэнне стану вайны, спынены на аснове існуючага яшчэ дагавору аб перамір'і, але пры адпадзенні гэтага дагавору ваенныя дзеянні аўтаматычна аднаўляюцца... Тыя абставіны, што адзін з бакоў дэмабілізуе свае арміі, ні з фактычнага, ні з прававога боку нічога не зменяць у гэтым ваенным становішчы.

Троцкі ігнараваў гэтую пагрозу. Аднак ён вельмі спрытна ўмеў прыкрываць сябе словамі. Ён зноў выступіў з некароткай прамовай, у якой сказаў: ён, маўляў, разумее, што імперыялістычныя ўрады ў барацьбе з Савецкай Расіяй, відаць, «будуць і надалей апірацца на дапамогу пушак і вінтовак».

— Але я не веру, што гэта ўратуе вас, панове. Я веру, што першае ж ваша наступленне прывядзе да выбуху гневу вашых салдат, пралетарыяў вашых краін, і вы будзеце выкінуты на сметнік гісторыі.

Нягледзячы на гэтую апошнюю зусім непачцівую прамову наркома, граф Чарнін усё ж прапанаваў правесці заўтра яшчэ адно пасяджэнне палітычнай камісіі.

Але Троцкі адмовіўся.

Немцы, на гэты раз усе — ваенныя і дыпламаты, гатовы былі пляскаць у далоні.

Праз колькі хвілін тэлеграфныя апараты адстуквалі іх радасць у такіх словах:

«Тут амаль усе лічаць, што для нас увогуле не магло адбыцца нічога больш спрыяльнага, чым рашэнне Троцкага. Безумоўна, на першы погляд яно ашаламляльнае. Гэтым рашэннем Троцкі адмаўляецца ад усіх пераваг краіны, што вядзе вайну і заключае мір. Пры заключэнні міру мы ўсё-такі павінны былі б зрабіць яму розныя сур'ёзныя ўступкі. Цяпер мы здолеем усё ўрэгуляваць па нашым уласным жаданні».

Гэта з тэлеграмы Лерснера, намесніка Кюльмана.

А Троцкі адразу пасля пасяджэння паслаў такую тэлеграму: «Петраград. Старшыні Саўнаркома Леніну. Перагаворы закончыліся. Сёння пасля канчатковага высвятлення непрымальнасці аўстра-нямецкіх умоў наша дэлегацыя заявіла, што выходзім з імперыялістычнай вайны, дэмабілізуем сваю армію і адмаўляемся падпісаць анексіяніцкі дагавор. Згодна з зробленай заявай выдайце неадкладна загад аб спыненні стану вайны з Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Турцыяй, Балгарыяй і аб дэмабілізацыі на ўсіх франтах. Нарком Троцкі».

Нахабства Троцкага межавала са здзекам. Ён адзін дыктаваў ураду, цешачы сябе сваёй вялікасцю.

Але Троцкі разумеў, што «рэкамендацыі» яго Леніным будуць адхілены.

Таму перад самым ад'ездам з Брэста, у дзесяць гадзін вечара, ён шле яшчэ адну тэлеграму — у Магілёў, цераз галаву Саўнаркома, Галоўнакамандуючаму:

«Згодна з зробленай дэлегацыяй заявай выдайце неадкладна гэтай ноччу загад аб спыненні стану вайны... і аб дэмабілізацыі на ўсіх франтах».

Мікалай Васільевіч Крыленка, якога вельмі хваляваў развал старой арміі, якому хацелася хутчэй пазбавіцца ад хворага арганізма і пачаць будаваць новую армію, зразумеў, што мір падпісаны. У радыёграме «Усім, усім, усім» за подпісам Галоўкаверха так і гаварылася:

«Мір. Вайна скончана. Расія больш не ваюе... Дэмабілізацыя арміі гэтым аб'яўляецца».

## Раздзел другі
## ВЯСЕЛЛЕ

### I

Дзень быў сонечны, з лёгкім бадзёрым марозам. Дні два назад выпаў свежы снег, і зіма іскрылася ва ўсім сваім характве — ззяла снегам, блакітам неба, нізкім сонцам. І звінела. Чым яна звінела?

Аб звоне сказала Міра — што яна чуе дзіўны звон, быццам усюды навокал павешаны срэбраныя званочкі.

Сяргей засмяяўся:

— Гэта ў цябе ў вушах яшчэ звініць. Пасля хваробы.

— Не, не ў вушах,— па-дзіцячаму заўпарцілася яна.— У мяне музыкальны слых.

Так, зіма была яшчэ ў сіле. Але гэта быў адзін з тых лютаўскіх дзён, калі па нейкіх вельмі няўлоўных прыкметах, якія яшчэ нельга ўбачыць, адчуваецца вясна. Не ўпаў са страхі ні адзін капеж, няма дзе яшчэ напіцца вераб'ю... І аднак... можа, менавіта ў іх, у вераб'ях, якія таўкліся на шлаку, высыпаным з нямецкага паравоза, што даставіў раніцой вагоны ўрадавага саставу, у іх чырыканні, у любоўным звоне іх крыльцаў і адчувалася яна, вясна. Відаць, чорны шлак награваўся ўжо ад сонца, і вераб'ям было цёпла ў ім.

У той час, як Міра, прагна ўдыхаючы паветра, любавалася прасторам, блізкім сасняком, запарушаным снегам, Багуновіч глядзеў на вераб'ёў, бо думаў пра поезд, які ён на гэты раз пайшоў сустракаць. Але ў ранішніх прыцемках не свяцілася ніводнае вагоннае акно. Пасажыры спалі. Правяраць іх ніхто каманды не даваў. Багуновіч нават адчуў некаторую няёмкасць перад нарадам салдат, якіх падняў у такую рань. Праўда, з вагона выглянуў нейкі служачы ў паўвайсковай форме, заспана спытаў у Баранскаса, у таго ў руках быў чыгуначны ліхтар: калі пададуць рускі паравоз?

Багуновіч спытаў у яго:

— З чым вяртаемся?

Служачы зрабіў выгляд, што не зразумеў пытання, і, зябка перасмыкнуўшы плячамі, асцярожна, без стуку, зачыніў перад камандзірам палка дзверы.

Багуновічу з самага досвітку карцела хутчэй пайсці ў штаб. Але Міра яшчэ ўчора сказала, што хопіць ёй «прытварацца хворай», трэба выходзіць, трэба брацца за працу; апошнія дні яна прагна чытала газеты, рыхтуючыся пайсці да немцаў. Мірыны планы, па разуменні Багуновіча, былі не па яе яшчэ сіле пасля цяжкай хваробы: яна намервалася спачатку наведаць суседзяў — піцерскіх бальшавікоў, паехаць у палітаддзел рэўкома арміі, каб атрымаць інструкцыі і прапагандысцкі матэрыял.

Што сілы яе яшчэ слабенькія — Сяргей пераканаўся па тым, як яна рыхтавалася да першага выхаду з цёплага пакоя; пакуль яна хварэла, Баранскасы не шкадавалі паліва.

Збіралася Міра не па-салдацку, як раней. Але і не па-жаночаму, як некалі маці яго ў тэатр ці ў госці. Яна проста доўга і без патрэбы

хадзіла з пакоя на кухню і назад, не дала ні яму, ні Альжбеце, ні Юстыне памагчы ёй гатаваць няхітры сняданак. Усё рабіла сама. А пасля падшывала спадніцу, бо пахудзела, і ўвогуле доўга падганяла адзенне, надаючы яму большую ўвагу, чым рабіла гэта раней.

Сяргей зразумеў: баялася яшчэ за свае сілы. Прапанаваў выклікаць са штаба веставога на конях, як яна хоча — у санях ці ў сядле.

Яна адмовілася, ёй хацелася праверыць сябе.

На двор Міра выходзіла ўжо тры дні, тут, на станцыі. Але дні тыя не былі такімі чароўна-іскрыстымі.

Яна дыхала на поўныя грудзі.

Сяргей сказаў ёй — так некалі гаварыла яму, малому, маці:

— Не хапай марознае паветра. Прыкрый рот шалікам, дыхай праз нос.

Міра засмяялася, кепліва спытала:

— Так вучыла цябе твая мамачка? Так?

Сяргея часам крыўдзілі яе насмешліва-зняважлівыя адносіны да яго бацькоў, мабыць, яна лічыла, што ёй, пралетарцы, належыць ставіцца да паноў толькі гэтак. А што яны паны — няма сумнення: кватэра ў цэнтры Мінска на Захар'еўскай, побач з гатэлем «Еўропа», кінематографам «Эдэн», у лепшым шматпавярховым доме, які яна добра помніла, бо кожны дзень хадзіла міма — у Марыінскую гімназію. Сем пакояў! А ў яе доме, на Нямецкай, у драўляным доміку адзінаццаць душ. Як селядцоў. У гімназіі першыя два гады яна выдавала сябе за дачку купца — трымала гонар. Хітрая полька Ванда Патаржынская набівалася ў сяброўкі, вельмі дамагалася, каб яна запрасіла аднакласніц на чай. Пазней, увайшоўшы ў сацыял-дэмакратычны падпольны гурток, яна сказала праклятым буржуйкам праўду — чыя яна дачка — і гэтым як бы адплаціла за ўсе свае ўніжэнні, сацыяльныя, нацыянальныя. Была восень шаснаццатага года, узнімалася залітая крывёй краіна, нават дочкі памешчыкаў і банкіраў пасталі дэмакраткамі — больш не адносіліся зняважліва да дачкі бляхара, якая, дарэчы, была першай вучаніцай у класе.

Сяргей не адказаў на яе закід пра мамачку. Але Міра не сунімалася:

— Мая мамачка мяне так не вучыла. Мая мамачка толькі ў гімназію збірала мяне, як пані. О, як яна баялася, каб з-пад маёй спаднічкі не ўбачылі не першай свежасці каруначкі маіх панталонаў! Мама мыла іх штодня. Мама нярэдка сцёбала мяне ручнікам, калі я бегала па снезе босая. А калі я, малая, пачала адну зіму страшэнна кашляць, усе палічылі, што ў мяне сухоты, і выдзелілі мне асобны кубак і талерку, я, абражаная, пайшла на двор, доўга хадзіла босая па

снезе, каб хутчэй памерці. І я перастала кашляць. Відаць, у мяне быў банальны коклюш.

Да яе хваробы яны напэўна пасварыліся б — з-за такой Мірынай упартасці. Але цяпер... Асабліва пасля таго, як яна, хворая, кінулася ў маёнтак і, пачуўшы, што ён забіты, страціла вось тут, на дарозе, прытомнасць... Не, цяпер ён ніколі да смерці не пакрыўдзіцца на яе, бо добра ведае, што ўсе зачэпістыя словы яе — простая гульня, дзіцячая гарэзлівасць. Цяпер яго каханне набыло зусім новую якасць. Цяпер гэта нешта нязмерна большае, чым тая «половая любовь», пра якую ён многа чытаў ва універсітэце і тут, на фронце. Ён месяц не дакранаўся да яе, але адчуваў, як з кожным днём яна робіцца ўсё даражэйшая для яго. Як сястра. Як маці.

— Не ідзі так хутка — ты задыхаешся.

Яна асляпіла яго дзіўна белазубай, у гэтым моры зімовага святла, усмешкай:

— У тваіх новых ботах слізкія падэшвы — і ты баішся ўпасці.

— Калі ты будзеш хапаць так паветра, я схаплю цябе на рукі і панясу.

Тады яна ўвогуле пабегла ўперад. Але праз дзесятак крокаў спынілася, павярнулася, задыхана папрасіла:

— Дагані. Схапі. Панясі.

Сяргей дагнаў яе і падхапіў на рукі.

Міра не вырывалася. Яна даверліва і ласкава абхапіла яго шыю, наблізіўшы свой твар да яго вачэй, і прыціхла — як захлынулася ад шчасця.

Ён здзівіўся: якая яна лёгкая! Як дзіця. Ад думкі такой нарадзілася новае пачуццё. У розны час, у розных сітуацыях былі пачуцці закаханага, брата і... сына. Дзіўна, але гэта так. Нават тады, калі яна хварэла, калі яе паліла да страты прытомнасці і ён са страхам і стараннасцю міласэрнай сястры з дапамогай Юстыны і Альясбеты даглядаў яе, сядзеў каля яе доўгімі бяссоннымі начамі, яна ўяўлялася яму то маці, то маленькай сястрой, але ніколі — дачкой. А тут раптам, калі ўзяў яе на рукі на лясной дарозе, Багуновіч адчуў сябе бацькам, бо з'явіўся напэўна ж бацькоўскі — іншага вызначэння гэтаму пачуццю ён не знайшоў — страх за яе — за жыццё яе, за здароўе, за будучыню, за шчасце. Пачуццё гэтае было зусім нялёгкае, нярадаснае, бо ён падумаў: а ці ёсць у яго сіла, вопыт, уменне і ўсё іншае, каб вось так адказваць за яе? Нешта падобнае, але ў зусім іншым плане — грамадскім — ён перажыў, калі яго выбралі камандзірам палка. Тады ён не адзін дзень пакутліва думаў: ці ёсць у яго маральнае права браць на сябе адказнасць за жыццё дзвюх тысяч чалавек? Тады яшчэ

ў палку было нямала людзей. Цяпер ён думаў не пра свае права. Права ёсць, бо ёсць воля, брацтва і ёсць іх узаемнае каханне. Але чым ён забяспечыць сваё каханне, сваю адказнасць? Ён ужо выйшаў з узросту, калі аддаюцца аднаму каханню, хоць у першыя дні іх збліжэння жыў толькі ім, гэтым непаўторным захапляючым пачуццём. Але за час яе хваробы выспелі іншыя калоссі з таго зерня, імя якому каханне. Можа, яшчэ два тыдні назад, можа, нават тыдзень ён пачаў бы па-юнацку даводзіць даўнюю мудрасць: «З мілай рай і ў шалашы». Што, маўляў, акрамя сонца і зорнага неба, хлеба і вады, нічога ім не трэба, асабліва ў такі час, калі рэвалюцыя рушыць усе тысячагадовыя ўяўленні аб жыцці, багацці, аб усіх іншых каштоўнасцях, у тым ліку і аб шлюбе, сям'і. Так, міне іншым, даводзіла яму ўвесь час Міра, і ён у душы згаджаўся, хоць супраць шмат чаго і пярэчыў.

Але, для шчасця ім не трэба палацы, зямля, маёмасць, акрамя хіба адзення, што на іх,— гімнасцёрак, ботаў, аўчын... Упершыню, несучы яе, як роднае дзіця, ён падумаў, што трэба адно: каб ён па-бацькоўску умеў засланіць яе ад любой небяспекі, любой нягоды. А гэта, безумоўна, вельмі няпроста ў свеце, дзе страсці людскія разбушаваліся, што акіян у самы грозны шторм.

— Ты прыгожы,— сур'ёзна, без усмешкі, сказала Міра, пільна ўзіраючыся ў яго вочы.— Вочы ў цябе — што сённяшняе неба.

— А ў цябе...— Багуновіч не здолеў знайсці параўнанне.

— У мяне — што чорная ноч. Ці вір, у якім топяцца.

— Лічы, што я ўтапіўся ў ім,— пажартаваў Сяргей.

Міра не засмяялася. Спытала гэтак жа сур'ёзна:

— Пра што ты думаеш? Я ў вачах тваіх убачыла думкі, толькі не паспела прачытаць іх. Яны мільгалі так хутка. Як у сінераме...

— Я думаў пра цябе.

— Не думай пра мяне многа. Гэта небяспечна.

— Для каго?

— Для мяне,— і пасля кароткай паўзы дадала: — І для цябе.

— Ты робішся забабоннай.

Міра засмяялася.

— Раблюся. Бо ты сам верыш у невядомыя сілы.

Ім перашкодзіў салдат. Ён нечакана вылез на дарогу з густога ельніку, зацярушанага пазаўчарашнім снегам, за якую паўсотню крокаў наперадзе ў іх.

Багуновіч, трохі збянтэжаны, апусціў Міру на дарогу.

Салдат таксама як збянтэжыўся, бо вельмі хутка пайшоў наперад і на ўзлеску павярнуў з бальшака на палявую пратораную дарогу, што вяла на пазіцыі трэцяга батальёна.

Салдат здаўся незнаёмым; у сваім палку Багуновіч ведаў у твар бадай што ўсіх людзей; папаўнення даўно не было.

Безумоўна, вітаць камандзіра цяпер зусім неабавязкова. Да таго ж, калі гэта чужы салдат, то ён і не ведае яго, Багуновіча. Калі свой, то праявіў добрую далікатнасць, якую можна зразумець,— зрабіў выгляд, што не бачыў, як камандзір палка нёс на руках па лесе дзяўчыну.

Але ўсё ж нешта не падабалася ў салдату. Не адразу сцяміў — што. Калі той аддаліўся і схаваўся за паваротам — успомніў: боты! Новыя. А ў палку даўно не выдавалі новых ботаў. І як бы нярускага фасону, нярускім шаўцом пашытыя. Хоць што тут дзіўнага? У час перамір'я і братання паміж салдатамі, нашымі і нямецкімі, ідзе такая мена, такі гандаль... Што там боты! Гарматы прадалі...

Успамін пра забойства Межаня ўзрушыў яго, як ужо неаднойчы; Міра, Альжбета і Юстына даўно прыкмецілі, як яго «выбівае з сядла» тая гісторыя, і дамовіліся паміж сабой не нагадваць пра яе. Думкі пераключаліся на іншае, і Багуновіч забыўся на нечаканую сустрэчу. Падумаеш, дзіва: салдат з лесу выйшаў і збянтэжыўся, убачыўшы камандзіра, ды яшчэ ў такой лірычнай кампазіцыі.

Багуновіча нават развесяліла ўяўленне, як салдат можа расказваць пра ўбачанае. За рэпутацыю сваю ён не баяўся. Ён верыў салдатам, бо салдаты паверылі яму. Але расказ, напэўна, будзе вясёлы.

Ля канюшні, дзе стаялі палкавыя коні, тоўпілася мнагавата салдат і цяперашніх гаспадароў маёнтка — былых батракоў барона. Багуновіча гэта трохі здзівіла. Але потым ён падумаў, што ў такі сонечны вясёлы дзень — гэта натуральна. Відаць, вырашылі прагуляць коней, а прагулка коней — заўсёды падзея, асабліва для дзяцей. Ды і старыя сяляне любяць коней, у кожнага з іх жыве даўняя мара аб добрым кані. Ці, можа, ажарабілася кабыла Звязда, незвычайная прыгажуня? Кабылу гэтую англійскай крыві салдаты недзе ўкралі — Багуновіч падазраваў, што ў немцаў, але нехта сачыніў легенду, што Звязда са стайні былога камандуючага фронтам Эверта, там, маўляў, яе бачылі. Як яна з Мінска апынулася на фронце — ніхто не цікавіўся, у рэвалюцыю ўсё магло быць. Сцяпанаў, праўда, нязлосна мацюкнуўся наконт салдат:

— Марадзёрствуюць, сукіны дзеці.

Пастушэнка хітра пасміхнуўся:

— На тое і сатварыў бог каня, каб людзі пераязджалі на ім з тылу на фронт. Пасля паедуць назад, у тыл. А якое цяпер мае значэнне, каму конь належаў раней.

Сцяпанаў трохі з падазронасцю адносіўся да поўнага ігнараванння палкоўнікам, дваранінам, прыватнай уласнасці. Магчыма, рабочы лічыў, што кожны, хто быў ці мог быць эксплуатататарам,— хапуга і скнара. Багуновіч разумеў Пятра Пятровіча, бо нават у яго, маладога, на фронце наступала вось гэтакая ж абыякавасць да ўсяго, з-за чаго людзі забівалі адзін аднаго,— да грошай, багацця, адзення, харчу, нават да навукі, мастацтва. Усё — лухта, мішура, думаў неаднойчы. Таму вельмі зразумеў, калі Пастушэнка неяк даверліва сказаў:

«Галубчык мой, у маім узросце сумленныя людзі ішлі ў манастыр».

Звязда была палкавой славутасцю, недарэмна ёй і мянушку такую далі. Калі сапраўды ажарабілася — не дзіва, што сабралася столькі салдат і сялян. Урэшце, гэта, магчыма, адзінае, чаму можна парадавацца,— нараджэнню новага жыцця.

Багуновіч сказаў пра гэта Міры, але яна, здаецца, не зразумела. Яна жыла блізкім выступленнем перад салдатамі, не сумнявалася, што Сцяпанаў адразу ж дасць ёй такое даручэнне. І, напэўна, пасля працяглага перапынку хвалявалася, хоць за час хваробы прачытала нямала марксісцкай літаратуры, газет.

Міра адразу пайшла да старшыні камітэта, якому зноў нядужылася — кашаль душыў яго на любую перамену надвор'я, на пагоду гэтак жа, як на завіруху.

Багуновіч увайшоў у агульны пакой штаба і ўбачыў там звыклую карціну: начальнік штаба сядзеў за доўгім сталом і, як звычайна, працаваў. Здзівіла трохі хіба адно: стол быў завалены вялікай колькасцю папер, чаго Пастушэнка не любіў; парадак у яго заўсёды быў адменны і на сталах, і ў шафах, і ў сейфе.

Яны праз стол павіталіся за руку. Але Багуновічу здалося, што палкоўнік залішне хутка апусціў вочы ў паперы. Зноў нешта здарылася. Разагналі яшчэ адзін Устаноўчы сход, ці што?

Пра сход Багуновіч успомніў з гумарам і весела, з адценнем жарту, папрасіў:

— Пятро Пятровіч, гляньце мне ў вочы.

Пастушэнка падняў галаву, вінавата ўсміхнуўся.

— Пятро Пятровіч! Вашы вочы!.. Што здарылася?

— Вы што — хіба не ведаеце? Мір. І поўная дэмабілізацыя.

Багуновіч падхапіўся.

— Мір?! Дык гэта ж радасць! Якая радасць! А ў вас сумныя вочы. Чаму? Пятро Пятровіч! — малады камандзір хутка абышоў стол, абняў сівога палкоўніка.— Мне на руках хочацца хадзіць. Нарэшце! Нарэшце! Аб'явілі людзям?

— Так, радасць,— згадзіўся Пастушэнка.— Даволі крыві, сірочых слёз. У імя гэтага народ выкінуў з карэты гісторыі Раманавых і керанскіх. Для салдат гэта вялікая радасць. Мір і зямля. Што яшчэ трэба?

Багуновіч адступіў крок назад, агледзеў начальніка штаба, стары ажно апусціў вочы, як дзяўчына.

— Аднак я не адчуваю гэтай радасці ў вас, Пятро Пятровіч. Чаму? Як я вас ведаю — вы заўсёды выступалі супраць гэтай бяссэнсавай бойні. Былі разжалаваны Керанскім за свае погляды.

Пастушэнка сеў, знясілена неяк, зусім па-старэчаму, нацягнуў на плечы бекешу, нібы яму зрабілася холадна, утаропіў вочы ў паперы. Але праз нейкі момант як бы засароме́ўся свайго ўчынку — што быццам хаваецца ён нечага — і павярнуўся да Багуновіча: твар яго, як заўсёды, быў адкрыты, прыветлівы, вочы шчырыя.

Сяргей даўно казаў, што не сустракаў ён больш шчырых вачэй, чым у Пастушэнкі. Міры неяк сказаў. Тая нават раўніва спытала: «А мае — што, няшчырыя?»

Пятро Пятровіч пачаў гаварыць не так, як толькі што — абы адказаць на пытанне, а з той даверлівасцю і шчырасцю, якая даўно ўжо зблізіла старога і маладога афіцэраў да брацкай роднасці.

— Сяргей Валянцінавіч, голубе мой. Канечне, я радуюся. За салдат, за народ мой. Але я чалавек... і ў мяне свае эмоцыі. Я трыццаць гадоў у арміі... Зразумейце, што гэта значыць. Я ведаў, што калі-небудзь прыйдзецца пайсці ў адстаўку. Дзеля гэтага мы з Мар'яй Пятроўнай купілі ў мяне на радзіме, у Харкаўскай губерні, невялічкі маёнтачак. Самі разумееце, у маёнтак той я не паеду. Хто мяне там чакае? Маруся ў Маскву паехала, да дачкі, да ўнукаў. А я... скажу вам шчыра... не хочацца мне ў Маскву... Што рабіць там? Унукаў няньчыць? Немалыя яны ўжо, старэйшаму дванаццаць. А я адчуваю сябе яшчэ маладым... яшчэ здольным нешта рабіць...— сказаў гэта і тут жа засмяяўся нявесела.— Што вы падумалі? Закукарэкаў стары певень? Які там певень! Стары лапаць. Нічога я не магу ўжо рабіць. Адваяваўся.

Багуновіч слухаў моўчкі, не перапыняючы, не ведаючы сваю рэакцыю на словы палкоўніка, але добра разумеючы яго.

Пастушэнку гэтая яго сур'ёзная ўважлівасць, напэўна, збянтэжыла, ён зноў павярнуўся да стала, паважыў у руках тоўстую папку, сказаў, быццам апраўдваючыся:

— Вось рыхтую паперы для здачы. Каму мы іх здамо? Ваенны архіў застаўся? Не знаеце? Архіў трэба захаваць. І зусім не трэба так

адразу аглашаць дакументы арміі, якой не стане. Як і тайныя дагаворы.

Бальшавікі робяць памылку...— і азірнуўся на дзверы,— Прабачце... Я дэмакрат, але старамодны. Шмат чаго не разумею.

Багуновіч не адказаў пра архіў і дагаворы, яго сапраўды гэта не цікавіла. Вярнуўся назад, на другі бок стала, сеў на сваё звыклае месца — насупраць начальніка штаба. Памаўчаў, бо ўгледзеў, што ў Пастушэнкі дрыжаць рукі, белыя такія, з тонкімі музыкальнымі пальцамі, але як пакрытыя галінамі сіняга дрэва — тоўстымі венамі.

Да шчымлівага болю ў сэрцы зрабілася шкада старога.

— Чулі, што Чарназёмаў расказваў?

— Што?

— Што гаварыў Ленін, праводзячы атрад на фронт. Што яны — аснова новай арміі. І я веру — бальшавікі створаць новую армію, Ленін падпісаў ужо дэкрэт. Не можа жыць дзяржава без арміі. Яны называюць яе рабоча-сялянскай. Быццам старая армія не з рабочых, не з сялян... Справа ў тым, у чыіх руках яна была, хто камандаваў... Няхай камандуюць рабочыя... Такім, як наш Сцяпанаў, можна даверыць. Але думаю, што Саветы не могуць не выкарыстаць вопыт такіх людзей, як вы. Гэта было б неразумна. Больш таго, гэта стварыла б ім вялікія цяжкасці.

У палкоўніка павесялелі вочы.

— Вы так думаеце?

— Перакананы. Недарэмна і слова новае з'явілася: ваенспец.

— Ваен-спец,— павольна, працяжна паўтарыў Пастушэнка нязвыклае слова, як бы правяраючы яго гучанне, потым вымавіў яго хутка: — Ваенспец,— і паківаў галавой, пасміхнуўся нейкай думцы, якую, магчыма, хацеў выказаць. Але перашкодзіла Міра. Яна ўвайшла ў пакой радасна ўзбуджаная. Не павітаўшыся нават з Пастушэнкам, весела спытала:

— Вы чулі? Мір! Мне трэба напісаць лістоўку — зварот да салдат. Дзе папера?

— Да чаго цяпер вы будзеце заклікаць іх? — далікатна спытаў Пастушэнка.

— Калі вернуцца дадому, каб тут жа забіралі зямлю, жывёлу ў памешчыкаў, у кулакоў. А хто будзе супраць — таго пад ногаць, як акопных вошай, да сценкі... каб сволач гэтая, контра...

На бледных шчоках Пастушэнкі выступілі бураковыя плямы. Ён падняўся, сказаў далікатна, але голас яго дзіўна задрыжаў:

— Дзіця маё! Навошта так? Навошта такая жорсткасць? Хіба мала крыві? — і выйшаў з пакоя.

Міра здзівілася.

— Ён — што? Пакрыўдзіўся? Ён не рады міру?

Багуновіч уздыхнуў.

Міра ўзлавалася.

— Не разумею я вашых панскіх уздыхаў!

Багуновіч ступіў да яе, абняў за плечы, падвёў да таго акна, з якога была відка чырвоная абора, каля якой тоўпіліся салдаты і сяляне. Цяпер ён зразумеў, што не жарабок дзівосны з'явіўся на свет — людзі развітваюцца, бо салдаты збіраюцца дадому. Паспешліва збіраюцца.

— А ты зразумей... зразумей. Чалавек трыццаць гадоў у войску. А цяпер куды? У маёнтак, які ён купіў за сумленны заробак, паехаць не можа...

— Ах, яму маёнтка шкада?

— Не. Не маёнтка. Ты ж бачыла, што Пятру Пятровічу нічога не шкада. Яму цяжка ад няпэўнасці... Куды падзецца? А ты — пад ногаць. Да сценкі... Што ж, і яго да сценкі? Здарава збяднее Расія, калі паставім такіх, як Пятро Пятровіч, да сценкі.

— Не збяднее.

— Ты здзіўляеш мяне. Ты ж добрая. І разумная. Ты — жанчына... Маці будучая...

— Змоўкні, калі ласка! — жорстка загадала Міра.

І сама змоўкла. Але ад акна не адышла. Стаяла побач і цяжка дыхала, як пры запаленні лёгкіх.

Доўга стаялі яны моўчкі. З канюшні такі вывелі Звязду, і салдат вадзіў яе на доўгім повадзе. А следам чародкай вераб'ёў беглі дзеці. Адна самая маленькая, гадзікі чатыры, у хустцы і доўгай матчынай світцы, бясконца спатыкалася і падала. Але тут жа падхоплівалася і бегла за старэйшымі. Было ад яе падзенняў, ад яе ўпартасці і смешна, і кранальна.

Сяргей ажно ўздрыгнуў на Мірын голас, такі ён быў нязвыкла чужы, не па-жаночаму жорсткі:

— У яго няпэўнасць... А ў мяне — пэўнасць? Яму цяжка. Падумаеш, у яго душа! А ў мяне што — балалайка? Мне, можа, у сто разоў цяжэй, аднак я не хныкаю...

— Ад чаго табе цяжэй? — вельмі асцярожна і ціха, амаль шэптам, спытаў Багуновіч.

— Ад чаго? — і здзекліва: — Ад радасці. Поўная дэ-ма-бі-лі-зацыя! Ты паляціш у сваё цёплае гняздо. А я... я куды?

Сяргей, вельмі здзіўлены, павярнуўся да яе.

— Як — куды? Ты што гэта! Мы ж пра ўсё дамовіліся. Ты што, гуляла са мной, што кошка з мышанём? — ад аднае гэтае думкі яго скаланула, апякло жарам.

— Не гуляла. Але добра знаю, што твае бацькі... твая мамачка нізавошта не дасць згоды на тваю жаніцьбу... з франтавой дзеўкай... яўрэйкай...

— Не смей! — крыкнуў ён.

— І ты паслухаешся яе. Знаю я вас, буржуяў! Вы добрыя, пакуль мы вам трэба.

— Ты не верыш мне? — Сяргея ажно пачало ліхаманіць ад такіх яе слоў. Чаму раптам? Чым яны выкліканы? Ці даўно ён нёс яе на руках? І вочы яе свяціліся шчасцем.

— Пры чым тут верыш ці не верыш,— мякчэй, з большай развaжлівасцю сказала Міра.— Законы класа...

— Хадзем сёння павянчаемся!

Яна адступіла ад яго на два крокі, чорныя вочы яе, якія і так здаваліся цэлымі азёрамі на схудалым ад хваробы твары, расшырыліся і сыпалі іскры гневу.

— Пан паручнік! Вы часта забываецеся, што адбылося ў Расіі. І — хто я такая.

Але Сяргей схапіў абедзве яе рукі, моцна, напэўна, да болю, бо яна зморшчылася, сціснуў іх.

— Вянец — прывычнае слова. Канечне, мы ўступім у грамадзянскі шлюб. У Савеце.

Міра асцярожна вызваліла рукі, адышла да стала, гэтак жа асцярожна, быццам ёй забалела, села на высокае крэсла, схілілася і закрыла твар рукамі.

— Што з табой?

Яна адказала не адразу:

— Прабач. І дай мне пабыць адной.

Ён схапіў папаху, выбег у калідор. Там убачыў Пастушэнку. Палкоўнік сядзеў на чурбане перад грубкай, у якой жарка гарэлі бярозавыя дровы. Сяргей папрасіў яго:

— Дайце ёй пабыць адной. Яна сказала, не падумаўшы...

— Я разумею, галубчык. Хіба я што... Вас прашу... не трэба яе крыўдзіць. Не трэба.

— Я не крыўдзіў. І не пакрыўджу!

2

Савет размяшчаўся ў адзіным на ўсё сяло цагляным будынку — у былой валаснoй управе. Але Пілiп Калачык не любіў там сядзець. Злыя

языкі пляскалі, што ён, як дзіця, баіцца застацца без маткі — Рудкоўскага. Стары хітра пасміхаўся. І сапраўды не адступаў ад маладога бальшавіка, хадзіў за ім, як кароткі цень, катаўся, як Калачык.

Рудкоўскі часам злаваўся, калі быў не ў гуморы.

— Чаго ты, дзед, наступаеш мне на пяты? Людзі смяюцца.

— Братачка мой! Дык вучуся яе.

— Чаму?

— Кіраваць дзяржавай.

— Знайшоў настаўніка! Я што — міністрам быў, ці што?

— А чорт цябе знае, можа, і быў там, у Піцеры. Недарэмна ў цябе галава пасівела. У такія гады! Ай-яй, у мяне і то менш тае сівізны.

— Не плач па маёй галаве. А вучыцца трэба кіраваць адным сялом, адным сельскім Саветам, а не дзяржавай...

— Хто ведае, Антонка, хто ведае. Можа, мяне Ленін да сябе ў памочнікі пазаве.

— Трэба Леніну такія памочнікі!

— Не кажы, Антонка. Сніў я ўчора сон. Выйшаў я, братачка, з воласці, іду па вуліцы, а настрэчу чалавек. Не наш, адзеты пагарадскому. Але знаёмы, як брат усё роўна. Хто такі, думаю. І раптам пазнаю. Ён! Холадна, а ён у картузіку. Здарова, Пілiп Міхайлаў. А я па цябе. Збірайся ў Піцер, паможаш, кажа, мне. А то сабралася там многа разумнікаў, ды такога, як ты, няма ніводнага. Ах ты, бог мой, думаю. Як жа так? Ды тут чорт прынёс Кілавацiху. Загаласіла на ўсю вуліцу дурная баба. І Ленін знік. Як спарыўся ці ўзнёсся за воблакі. Вешчы сон, Антонка.

Сон Рудкоўскі выслухаў з цікавасцю: Калачык вядомы на ўсю ваколіцу выдумшчык. Але не прамінуў кальнуць старога:

— А знаеш, чаго знік правадыр пралетарыяту? Учуяў, што ты кілбасы ў кулака еў.

— А штоб табе добра было! Колькі ты будзеш тыя кілбасы памінаць? У мяне ад іх адна соль у горле засталася. А Леніна, Антонка, я праўда бачыў у сне. Хачу папу расказаць... каб ён растлумачыў...

Рудкоўскі гнеўна пачырванеў, шрам на шчацэ ажно фіялетавы зрабіўся. Сурова падняўся, узвысіўся, малады, рослы, над нізкім старым, які сцяўся і зрабіўся яшчэ меншы, зморшчыў твар — ад страху ці ад натугі, каб не засмяяцца.

— Дадумайся мне, стары баламут, яшчэ да папа пайсці! Узнаю — адразу вычышчу з ячэйкі!

— Злы ты, Антон. Недарэмна цябе баяцца дзеўкі. Нават удовы. Стася і тая баіцца цябе. Ты хочаш адразу ўсіх перакаваць. А мы, старыя, някоўкія, мы можам паламацца. Сагнеш нас, а мы — трэсь.

— Баішся трэснуць — да папа ідзі, да Кілаватага, а не ў партыю бальшавікоў.

Калачык, які дагэтуль пасміхаўся, раптам сярдзіта закрычаў:

— Антон! Ты добра знаеш, з кім мне па дарозе, а з кім не па дарозе. Не сцёбай па вачах!

Калі стары пачынаў злаваць, Рудкоўскі бянтэжыўся, бо ў такія хвіліны ўспамінаў, што па ўзросту Піліп Міхайлавіч — бацька яму, што яшчэ ў шостым годзе ён падняў батракоў на барона, бунтаўшчыкі спалілі свіран з хлебам, і казакі спаласавалі яго нагайкамі, а пасля пасадзілі ў віленскую турму.

У той сонечны лютаўскі дзень батракі прасушвалі ў свірне насенне. Зерне таяла патроху — то салдаты выпрасяць, то нехта са сваіх вынесе,— і Рудкоўскі пачаў ахоўваць насенне з надзвычайнай пільнасцю, калаціўся над кожным фунтам: хутка вясна. Першая калектыўная сяўба. Трэба мець чым пасеяць! Каб было што жаць!

Калачык круціўся побач. Паміж імі зноў адбывалася нялёгкая размова. Калачык сказаў, што частку баронскага насення трэба раздаць беднякам з сяла, якім далі зямлю, але якім не будзе чым пасеяць.

Рудкоўскі разумеў, што трэба. Але былы матрос хацеў як можна хутчэй уступіць у камунізм. Ён верыў, што самы блізкі шлях туды — праз камуну. Колькі ён сілы прылажыў, колькі слоў патраціў, каб пераканаць у гэтым батракоў, каб утрымаць іх у маёнтку, арганізаваць камуну. Ён добра разумеў: недасеў, недарод — і ўсе яго намаганні рушацца, камуна разваліцца, батракі, якія маюць права на зямлю, падзеляць яе і стануць тымі ж сялянамі, хто бедным, а хто сярэднім, а хто, чаго добрага, і ў кулакі можа з цягам часу выбіцца. Ён ведаў злавесную сілу прыватнай уласнасці, баяўся яе, гэтай сілы, і ненавідзеў.

Ад раздвоенасці пачуццяў — даць ці не даць — Рудкоўскі быў асабліва злосны. Ён сказаў Калачыку яшчэ ў свірне:

— У Кілаватага ды Войціка ямы выграбі і раздай бедным. Ты — Савецкая ўлада.

Яго падтрымалі маладыя батрачкі, што веялі ячмень і грэчку.

Абодва зразумелі, што могуць пасварыцца пры людзях, таму выйшлі са свірна на двор. Пасля прыцемкаў сонца і снег асляпілі іх, яны жмурыліся, асабліва смешна — Калачык, твар яго зморшчыўся, сплюснуўся, як печаны яблык.

— Братка ты мой, у Кілаватага сына забілі. Ён пасля таго — што звер. Сунься да яго — сабак нацкуе, з дубальтоўкі, калі хочаш, пекане.

— Баішся за сваю старую с...? — уедліва кінуў Рудкоўскі.

— А што ты думаеш? І баюся.

— Рэвалюцыянер — нічога не скажаш! Кулакоў табе шкада? Можа, і барона шкадуеш?

— Антон! — узлаваўся ўрэшце і Калачык — не да смяшкоў было, занадта сур'ёзная справа.

— Ды ты знаеш, што такое класавая барацьба? — грымеў на ўвесь гаспадарчы двор Рудкоўскі.

Тут і знайшоў іх Багуновіч. Перашкодзіў спрэчцы.

Яны змоўклі перад камандзірам палка, як хлапчукі, якіх захапілі знянацку, калі яны тузалі адзін аднаго за чубы.

Адчуваючы, што яго прыход чамусьці збянтэжыў мясцовых кіраўнікоў, Багуновіч, разгублены ад свайго нечаканага рашэння, пачаў без дальніх падыходаў, уступаў — аб пагодзе, аб здароўі... Адразу да справы:

— А я да вас па дапамогу...

— Зноў — хлеба?! — аяшо вызверыўся Рудкоўскі.

Багуновіч сцяміў, што перад яго прыходам адбылася

нялёгкая размова пра хлеб, і, паколькі на гэты раз прыйшоў не па хлеб, набыў упэўненасць.

— Не, не хлеба. Хачу... ажаніцца. Але каб аформіць па закону... Па савецкаму. Не ісці ж нам у царкву...

І раптам насцярожаныя, напружаныя, заведзеныя на крутую размову, можа, нават на сварку, людзі ўсё роўна як расталі пад яркім лютаўскім сонцам. Твары іх расплыліся ад дабрэйшых усмешак.

— А каб табе добра было! Каб у цябе куча дзяцей была! — весела выгукнуў Калачык.

А Рудкоўскі сказаў з хітрай іроніяй, паказаўшы на старога:

— Дык во ён перад табой — наш архімандрыт.

Калачык, здаецца, не на жарт спалохаўся, накінуўся на свайго ідэйнага павадыра:

— А братачка ты мой, Антон! Што гэта ты з мяне робіш? Папа? Я і падступіцца да такога дзела не ўмею. Першы ж шлюб! Што трэба? Рыза? Кадзіла?

— Я табе накадзілю! — прыгразіў Рудкоўскі.— Чалавек з сур'ёзнай справай прыйшоў, а ты дурыкі строіш, стары баламут.

— Антонка! Далібог жа, не знаю, як гэта па-новаму рабіць. Праўда, што трэба,— ужо зусім сур'ёзна сказаў старшыня Савета, звяртаючыся адначасова і да Рудкоўскага, і да Багуновіча.

Багуновіч сам не ведаў, што трэба. Ён і царкоўнага парадку шлюбу не помніў: блізкіх нікога не жаніў, не выдаваў замуж, вянчанне бачыў, калі вучыўся яшчэ ў гімназіі; ва універсітэце стаў

пераконаным атэістам і царкву не наведваў. Праўда, пазней, на фронце, хадзіў у царкву разам са сваімі салдатамі, і богаслужэнне хвалявала яго, можа, таму што так блізка была смерць, падсцерагала кожны дзень, неаднойчы адразу з царквы змянялі таварышаў на пярэдняй лініі акопаў — няхай і яны памоляцца! — і мусілі з ходу атакаваць ці контратакаваць немцаў. На фронце афіцэры жаніліся рэдка, ва ўсялякім разе, ён толькі чуў пра такія «акопныя вяселлі». А новага, савецкага, парадку ўступлення ў шлюб — дык яго, мусіць, і няма яшчэ. Каму цяпер да шлюбаў!

Рудкоўскі задумліва пашкроб патыліцу, ссунуўшы на вочы сваю матроскую бесказырку; усю зіму чалавек прахадзіў у лёгкай бесказырцы, разоў колькі, у самыя лютыя марозы, Багуновіч бачыў яго ў зімовай салдацкай шапцы.

— А што трэба? Кніга трэба, каб запісваць, хто нарадзіўся, ажаніўся, памёр... Каб не поп запісваў... Улада каб запісвала.

— Дык і кнігі ж няма, Антонка.

— Значыцца, дрэнная ты ўлада. Кнігі і тае не маеш.

— А каб табе добра было, Антон! — ужо весела, бадай, з захапленнем гукнуў Калачык і сказаў Багуновічу: — Во вучыцель-мучыцель.

— Мала ў маёнтку гросбухаў? — вёў сваё матрос.— Увесь баронскі кабінет завалены.

— Праўда, кнігу знойдзем,— згадзіўся Калачык і пашкроб патыліцу, ссунуўшы аблезлую заячую шапку такім жа жэстам, як Рудкоўскі бесказырку,— усё роўна што перадражніў, аднак з сур'ёзнай заклапочанасцю спытаў: — Няўжо адна толькі кніжка трэба?

— А што яшчэ?

— О не, Антон, так, браце мой, не пойдзе! — з рашучай і вельмі сур'ёзнай разважлівасцю запярэчыў стары.

— А як пойдзе?

— А так пойдзе... Каб бацькі былі...

— Якія бацькі? Што ты гародзіш!

— Няма бацькоў — няхай маладыя выберуць сабе, хто — бацьку, хто — маці. І дружкі каб былі. Без сведкаў вянчаць не буду! -

— Ну, табе такі трэба было ў папы падавацца,— кінуў лагодна Рудкоўскі, у душы згадзіўшыся з тым, што патрабаваў Калачык. Сапраўды, трэба ж нейкі рытуал. На караблі вунь якія рытуалы — з любой нагоды: пад'ём флага, сустрэча госця, начальніка, ваеннага карабля саюзнай дзяржавы...

Багуновіч таксама згадзіўся, што ў старога селяніна — разумная народная логіка, і, каб не траціць час, сказаў:

— Будуць бацькі... Будуць дружкі. Калі прыходзіць?

— Сёння?

— Абавязкова сёння.

Калачык, прыжмурыўшыся, паглядзеў на нізкае зімовае сонца.

— Гадзінкі праз дзве. Трэба, братачка, падрыхтавацца.

— Куды?

— Куды, Антон? — заклапочана спытаў Калачык у свайго маладога сябра.

— Не ў тваю ж аблезлую валасць,— буркнуў той.

Калачык ажно заззяў увесь, засвяціўся.

— Во, праўда! Во, брат, галава! У зале! Таварыш камандзір! У зале, дзе паны балявалі, павянчаем вас... І зробім першае савецкае вяселле.

— Можна гадзіны праз тры? — спытаў Багуновіч, адчуўшы раптам, як затахкала сэрца, кроў ударыла ў скроні — даўно ўжо так не хваляваўся. Лішняя гадзіна трэба была, каб прывезці Бульбу-Любецкага. Чамусьці вельмі захацелася, каб за дружка быў Назар. Ды і нявесце даць час падрыхтавацца.

Да палаца прыехалі на дваіх санях. Так трэба было, так зрабіла Альжбета ці так атрымалася выпадкова — гэтага Багуновіч не ведаў,— але ў вазку, які некалі належаў камандзіру палка, ехалі Міра і Альжбета. У звычайных сялянскіх санях яны трое: Юстына, Назар і ён, жаніх. Сяргей за час падрыхтоўкі і арганізацыі цырыманіялу супакоіўся і цяпер іранічна пасміхаўся са свайго вяселля. Не, не з жаніцьбы. Шлюб з Мірай хваляваў па-ранейшаму. Пасміхаўся ён з фармальнасцей.

«А можа, і не трэба адмяняць тое, што з'яўляецца народнай традыцыяй? — з'явілася думка.— Можа, традыцыі трэба расшыраць, паглыбляць, вызваляць ад рабскіх, рэлігійных, класавых, нацыянальных забабонаў?» Ведаў, што думка гэтая не яго — бацькі яго, адваката, народніка. Трохі туманна спрабаваў па дарозе выказаць гэта Бульбе. Але той, як заўсёды, максіміліст: усё трэба зруйнаваць! Аднак — дзіўная супярэчлівасць! — да вяселля яго і нават да ўсіх гэтых цырымоніі Назар паставіўся з нечаканай для Сяргея сур'ёзнасцю. Кпіў, смяяўся, але неяк так, што не кранаў самога вяселля, нічым не абражаў пачуццяў жаніха. Па-рыцарску ўвіхаўся каля баяркі Юстыны, весела, але з адданасцю сур'ёзнага акцёра сам уваходзіў у ролю дружкі.

Дзяўчына, выхаваная маці ў лепшых шляхецкіх манерах, закаханая некалі, да з'яўлення Міры, у пана паручніка, змірыўшыся з крушэннем свайго кахання, трымалася з пачцівым гонарам, але — бачыў

Багуновіч — уся трымцела ад хвалявання праз такую ўвагу пана капітана — проста такі дзюмаўскага героя, які забіў губернатара, уцёк з турмы і здольны зрабіць немаведама якія ўчынкі, асабліва ў імя кахання. Кахання да яе. Адзін Багуновіч бачыў, адчуваў, што ёй, нябозе, уяўлялася. Шкадаваў Юстыну, але і захапляўся яе жаноцкасцю. Магчыма, у гэты момант у ёй нараджаецца жанчына: з нязграбнага падлетка, калі ўсе пачуцці, як лава з вулкана, выкідваліся на паверхню (так было са з'яўленнем Міры), Юстына на вачах ператвараецца ў дарослую дзяўчыну, у яе больш жаноцкай дыпламатыі, акцёрства, чым, напрыклад, у Міры, якой хочацца адразу, адным махам, разбурыць усе ўмоўнасці старога свету.

Назіранні гэтыя разам з Назаравымі жартамі захапілі настолькі, што на нейкі міг Сяргей забыўся, куды і навошта яны едуць.

Каля палаца было бязлюдна, толькі трое салдат стаялі недалёка ад флігеля, дзе размяшчаўся штаб, мабыць, служба не дазваляла ім адлучацца.

Да параднага ганка, па якім яшчэ нядаўна хадзілі барон і яго госці, была пачышчана дарожка, і дзверы, якія, здаецца, не адчыняліся з таго дня, як уначы знікла баронская сям'я, былі прыадчынены. Іх гасцінна адчыніў нехта нябачны, як толькі коні спыніліся перад ганкам.

Назар саскочыў з саней, галантна працягнуў руку Юстыне. Альжбета, трымаючы Міру за руку, памагла ёй сысці з вазка. Рабіла яна гэта і дзеля паважнасці — каб нявеста не скакала казой, і, магчыма, сапраўды дапамагаючы; адзетая ў Юстыніна бальнае плацце, якое было ёй да пят, Міра блыталася ў ім, ва ўсялякім разе, адчувала сябе не вельмі ёмка.

Альжбета гэтак жа — за руку — падвяла яе да Багуновіча.

— Нрынімайце ваш скарб, пан паручнік,— сказала яна папольску.

Магчыма, Міры пачуліся ноткі гумару ў гэтых словах, бо яна, сярдзіта глянуўшы на жаніха, нервова засмяялася:

— Ну і камедыя! — і, падабраўшы рукой падол, першая, пасалдацку размашыста закрочыла да ганка.

У Багуновіча ёкнула сэрца: сапсуе ўрачыстасць.

Альжбеце, Юстыне і яму прыйшлося патраціць нямала часу, каб угаварыць яе надзець гэтае плацце і ўвогуле згадзіцца на гэтую «камедыю», як яна з самага пачатку называла ўсё, што ён задумаў, пра што дамовіўся з мясцовымі кіраўнікамі. Здаецца, угаварыў яе маўклівы начальнік станцыі, хоць сказаў Пятрэс Баранскас усяго нейкія дзве фразы.

— Шлюб, дачка, справа сур'ёзная. І ўсё гэта,— кіўнуў ён на даччыно плацце,— патрэбна не адной табе...

Пасля ўжо, успамінаючы пра гэта, Багуновіч здагадаўся, што Міру кранула, уразіла: зварот «дачка» і «ты», так фамільярна далікатны літовец ніколі не звяртаўся. Магчыма, ёй зрабілася сорамна . за сваю ўпартасць, за капрызнасць — горшую, як у тых паненак.

Сяргей дагнаў нявесту на ганку, пайшоў побач. Перад дзвярмі яны спыніліся: каму праходзіць першаму?

Тады тая ж нябачная рука адчыніла дзве палавінкі шырокіх парадных дзвярэй, і яны ўвайшлі разам у прыцемнены пасля сонечнага зіхатлівага дня вестыбюль.

Іх сустрэў стары з шырокай белай барадой. Багуновічу неяк паказалі на яго, паведаміўшы, што гэта баронскі служка, лакей, у камуну яго не прынялі. Але стары быў не ў лакейскай ліўрэі, а ў палатнянай з вышытай манішкай сялянскай кашулі, у белых суконных нагавіцах, запраўленых у наваксаваныя боты.

Стары з гонарам пакланіўся і сказаў па-руску:

— Ваши пальто, господа,— але тут жа паправіўся і вымавіў па-беларуску: — Таварышы...

Другім чалавекам, якога ўбачылі Багуновіч і Міра, была Стася. Яна стаяла каля мармуровай лесвіцы, па-святочнаму ўбраная — вышываная кофтачка, чорная спадніца,— і весела ўсміхалася.

Міра баялася і не любіла гэтую спрытную, галасістую, часам сварлівую, часам празмерна вясёлую ўдаву, хоць сама сабе не магла растлумачыць, за што не любіць яе. Няўжо толькі за тое, што яна часцей, чым хто іншы, трапляла на вочы, калі яны ішлі з Сяргеем, і залішне незалежна размаўляла з камандзірам палка? Пра тое, што гэта рэўнасць, звычайная, жаночая, яна, рэвалюцыянерка, не дазваляла сабе і думаць.

Калі яны распрануліся, Стася пачала іх строіць усё роўна што камандзір салдат — дзе каму станавіцца. Толькі што без гучных каманд, а з прыглушаным смехам, які таксама не спадабаўся Міры.

— Таварыш камандзір, вазьміце нявесту пад руку! — загадала Стася так уладна, што яны мусілі падначаліцца. Удава прыдзірліва агледзела іх, наблізілася і англійскімі булаўкамі прыкалола ім да грудзей чырвоныя банты, спачатку Міры, пасля яму, затым — Бульбе-Любецкаму і Юстыне. Альжбеце сказала прабачліва:

— Вам, пані Баранскене, не абавязкова.

Вельмі можа быць, што пяты бант не быў падрыхтаваны.

— А цяпер ідзіце за мной.

Павяла іх наверх па нядаўна вымытых (былі яшчэ слізкія) мармуровых усходах параднай лесвіцы.

На другім паверсе перад дзвярмі, за якімі чуўся гул галасоў, Стася яшчэ раз агледзела іх і рашуча адчыніла дзверы.

У Багуновіча захапіла дыханне, і ён тут жа адчуў, як затрымцела Мірына рука, яка мацней прыціснулася да яго фрэнча, нібы просячы ратунку.

Вялікая зала была поўная людзей. Людзі павярнуліся да іх, сур'ёзныя, цікаўныя, сціхлі. Багуновіч падумаў, што нават у той дзень, калі дзялілі зямлю, людзей тут было менш. Цяпер прысутнічаюць не толькі гаспадары маёнтка, былыя батракі, цяперашнія камунары, не толькі вяскоўцы, але і многія салдаты яго палка. Усе перамяшаліся, усіх з'яднала цікавасць да першага савецкага вяселля. Гэта ўсхвалявала яшчэ больш.

Стася закамандавала:

— Ану, бабы, расступіцеся!

У цэнтры было больш жанчын і дзяцей — дзяўчатак.

Людзі расступіліся, утварыўшы жывы калідор, у канцы якога, здалося, далёка-далёка Багуновіч убачыў стол, накрыты чырвонай тканінай. За сталом стаяў Калачык у чорнай сацінавай «талстоўцы» (наконт колеру сарочкі было нямала спрэчак, але іншай у старшыні Савета не знайшлося). На Багуновіча адзенне якраз зрабіла ўражанне: проста, урачыста, чорная сарочка хораша адцяняла белыя, акуратна прычэсаныя валасы старога і яго з такой нагоды падстрыжаную барodку. Калачык здаўся волхвам, добрым чарадзеем, які гатовы зрабіць цуд. Ён хораша, на поўны твар, усміхаўся. Піліп Міхайлавіч разумеў, што яму належыць быць сур'ёзным, як таму папу, але характар не дазваляў яму набыць такую сур'ёзнасць. Праз гэта Рудкоўскі, які стаяў збоку ад стала побач з Пастушэнкам і Сцяпанавым, незадаволена хмурыўся.

Стася кіўнула ім і пайшла да стала.

Яны пайшлі за ёй. Альжбета ішла апошняя, адзінокая. Відаць, з гэтай прычыны жанчыны пачалі шаптацца, гукаць Альжбету, яўна жадаючы нешта падказаць ёй. Ды яна, мабыць, здагадалася. Не даходзячы да стала, збочыла да групы Рудкоўскага — Пастушэнкі.

Маладыя спыніліся перад маленькім саматканым дыванчыкам, што ляжаў перад сталом.

Угледзеўшы дыванчык, Міра, якая некалі ў гімназіі прачытала нямала раманаў, незадаволена падумала, што дыванчык — атрыбут царкоўны. Банты яна ўхваліла, дыван — не, не хацелася станавіцца на яго. Але як абыдзеш? Тым часам Стася ўзяла Пастушэнку за рукаў

фрэнча і падвяла да Альжбеты, паставіла побач. Стары палкоўнік пачырванеў, усё роўна што дзяўчына — ад гонару і хвалявання. Зала зашумела, ухваляючы: цяпер усё быццам бы як мае быць — у маладой ёсць маці, у жаніха — бацька. І дружкі на месцы.

Касалапага, учэпістага, як лугавы дуб, Бульбу-Любецкага, што шчодра раздаваў гарэзліва-вясёлыя позіркі і ўсмешкі, разглядалі з асаблівай цікавасцю: мала хто яго ведаў, ды і ўбачылі, што чалавек вясёлы, а вясёлых любяць.

Старэйшыя сялянкі, што стаялі бліжэй да стала, хорам зашапталі:

— Першая... першая станавіся на пасцілачку. Твой верх будзе... Смялей ступай!

Ад гэтай нечаканай падказкі Міра, якая не гублялася нават перад анархічна настроенымі салдатамі, збянтэжылася. Як бы вінавата паглядзела на Сяргея. Ён падбадзёрыў яе ўсмешкай, і яна першая ступіла на дыванчык.

Бабы задаволена зашумелі.

Калачык не вытрымаў сваёй паважнай ролі і весела выгукнуў:

— А-а, каб вам добра было!

Тым часам Стася сунула ў рукі нявесты нешта маленькае, што здалося срэбнай манеткай, Міра не адразу сцяміла, што гэта.

— Пярсцёнак. Калі скажу — абмяняйцеся,— і папракнула: — Што дзеці, нічога не падрыхтавалі.

Перадала такі ж пярсцёнак Сяргею, які на яе папрокі вінавата ўсміхаўся.

Пярсцёнкі былі самаробныя — выбітыя нейкім мясцовым майстрам са срэбраных грывеннікаў. Міры хацелася запярэчыць, ёй здалося, што калі дыванчык, на які яна першая ступіла, яшчэ можна вытлумачыць як народную традыцыю, то пярсцёнкі пэўна ж з царкоўнага абраду, за такое, чаго добрага, і з партыі можна паляцець.

Яна паглядзела на Сцяпанава, на Рудкоўскага, урэшце, яны тут старэйшыя бальшавікі. Як яны адносяцца да пярсцёнкаў? Дзіўна, што на тварах іх не з'явілася нават усмешак, абодва яны сур'ёзна засяроджаныя, уважлівыя. Як заваражыла іх гэтая напорыстая шляхцянка, цяпер няма сумнення: яна — не хто іншы — выдумала ўсю гэтую цырымонію. Выходзіць, што рэгістрацыя шлюбу па ленінскім дэкрэце можа быць з пярсцёнкамі? Не, нешта тут не так. Але як пайсці супраць народа, які ўхваляе ўсё гэта? Бальшавікі павінны быць з народам. А можа, у яе пачынаецца перараджэнне пад уплывам гэтага паніча, інтэлігента, адвакацкага сынка? Яшчэ месяц назад яна ўедліва высмейвала яго старамодныя дамастроеўскія

ўяўленні аб шлюбе, сям'і, дзецях. Што ж змянілася за два месяцы, як яны знаёмыя? Хіба незразумела, што змянілася? Проста яна пакахала гэтага чалавека, пакахала так, што стаў ён даражэйшы за маці, за бацьку, сясцёр і братоў яе шматлікіх. Так, яна змянілася. Яна мусіла змяніцца і згадзіцца з яго думкай. Ён неяк сказаў, што калі ў грамадстве, якое яны хочуць пабудаваць, не будзе... не павінна быць кахання, то ён не хоча жыць у такім грамадстве. Тады яна здзекліва смяялася з яго: «Які кансерватар! Падумаеш, напалохаў. Пражывуць без цябе».

Цяпер яна згодна, што проста немагчыма адмяніць, знішчыць такое пачуццё, як каханне, як любоў да дзяцей. Гэта так хораша, так прыгожа — кахаць! А потым... потым нарадзіць дзіця. Яго сына. Няхай жа робяць што хочуць — вянчаюць, пяюць «вечныя леты», абы толькі ён... яе Сярожа, Сярожачка... яе нарачоны... дадзены лёсам ці выпадкам, быў побач і вось так ласкава, пяшчотна сціскаў пальцы яе рукі. Яна адчувае яго цеплыню, яго хваляванне. А ён, ён, безумоўна, таксама адчувае кожны яе душэўны рух, бо сціскае пальцы не бяздумна, а з водгукам на яе рухі, жадаючы то супакоіць, то ўзбадзёрыць.

Урэшце, сапраўды, калі Сцяпанаў і Рудкоўскі маўчаць, значыцца, удава гэтая робіць тое, што трэба. І ўсе людзі. І гэты смешны стары, які так весела падміргвае — усё роўна што заляцаецца. Вось ён зрабіўся сур'ёзны і пачаў гаварыць звонка, зусім маладым голасам:

— Таварышы і грамадзяне! Сёння ў нас асаблівы дзень... першае вяселле... наша... народнае.

— Савецкае,— ціха падказаў Рудкоўскі.

— Во — савецкае! — як узрадаваўся Калачык.— Вянчаюцца...

Рудкоўскі кашлянуў.

— А каб табе!..— смешна зморшчыўся стары.— То як жа?

— Бяруць шлюб.

— Во галава! Дык заўсёды ж так гаварылі. Бяруць шлюб... па савецкім законе грамадзянін Багуновіч Сяргей Валянцінавіч і грамадзянка...— Калачык першы раз глянуў у паперку.— Шкляр Міра Навумаўна...— і сур'ёзна і проста звярнуўся да Багуновіча: — Скажы нам, отроча Сяргей, ці кахаеш ты дзяўчыну, якую выбраў сабе?

Багуновічу чамусьці ўспомніўся Тарас Бульба, можа, таму, што ў патыліцу яму яўна ўсхвалявана дыхаў чалавек, які абвяшчаў сябе нашчадкам Бульбы, і ён адказаў сур'ёзна і ўрачыста:

— Кахаю, бацька.

Грамада ўзарвалася радаснымі воплескамі. Узрадаваны, што ўсё ідзе лепш, чым яго вучылі, увайшоўшы ў ролю, Піліп Калачык свяшчэнна-ўрачыста падняў рукі, просячы цішыні.

— Отроковіца Мірослава, ці кахаеш ты свайго нарачонага?

Міру неяк дзіўна ўразіла, што гэты хітры селянін не толькі вянчае, але яшчэ непрыкметна і перахрысціў яе. Аднак ёй спадабалася старажытнаславянскае імя. Яна адказала з радаснай усмешкай:

— Кахаю, таварыш...

Ёй таксама запляскалі.

— Дружкі... вы ж і сведкі! Ці пацвярджаеце вы іх каханне?

Юстына не чакала такога звароту і збянтэжылася. Але яе выручыў Бульба-Любецкі. Спытаў з вясёлай гарэзлівасцю:

— Пацвердзім, Юста? Ладна, пацвердзім. За добры магарыч. Чуеш, палкоўнік? — і лёгка штурхнуў Багуновіча ў плячо.

Зала грымнула смехам. Калачыка гэта таксама моцна рассмяшыла, але ён натужліва стрымліваўся, ад чаго твар яго смешна сплюшчыўся, ажно бародка, што клінок, вытыркнулася ўперад, нацэлілася на маладых.

— А каб вам добра было! — разрадзіў сябе стары звыклымі словамі.— Тады абмяняйцеся пярсцёнкамі.

Міра хацела перадаць пярсцёнак, які сціскала ў жмені, але Сяргей узяў яе правую руку, расціснуў пальцы... Ды тут жа сумеўся: помніў, што вянчальны пярсцёнак надзяюць на правую руку, але на які палец — забыўся. Тут добрая фея, на дапамогу з'явілася Стася.

Надзела яму і Міры пярсцёнкі на безыменныя пальцы.

— Абвяшчаю вас мужам і жонкай. Жывіце ў згодзе і шчасці сто гадоў.

— А Піліпка, халера табе ў бок! — зіхнуўшы, здзіўлена гукнула нейкая старая.— Так гэта ж ты, каб табе добра, робіш лепш за таго папа. Такі талан!

Людзі зноў весела засмяяліся. Пачуліся іншыя жарты пра здольнасці Калачыка. Ён таксама смяяўся. Але яму належала давесці справу да канца, і ён зноў урачыста ўзняў рукі.

— Жывіце... І каб вам куча дзяцей...

Ад рогату задрыжалі шыбы. Адзін Рудкоўскі ўсміхаўся стрымана, трохі асуджаючы старшыню: не можа стары, каб не паблазнаваць. Але тут жа падумаў: «А можа, рэгістраваць шлюб і трэба так — весела?»

— А цяпер, маладыя, каб саюз ваш быў моцны, распішыцеся ў гэтай кніжцы,— сказаў Калачык і павярнуў да іх тоўсты гросбух —

баронскую бухгалтарскую кнігу, дзе «дэбіт», «крэдыт», «сальда» і іншыя ўліковыя тэрміны былі надрукаваны па-нямецку.

Міра прачытала бухгалтарскія словы, і яны развесялілі яе; распісваючыся, упершыню за ўсю цырымонію ціха засмяялася.

— Сведкам і дружкам таксама трэба паставіць свае подпісы.

Распісаліся Юстына і Бульба-Любецкі. І тут Калачык як бы разгубіўся і мусіў звярнуцца да Рудкоўскага:

— А тым, хто за бацькоў, трэба?

Рудкоўскі пацікнуў плячамі. Але пачуўся голас Пастушэнкі:

— Да, да, галубчык, я хачу распісацца. Да. За бацьку. Дазваляеш, Сярожа?

— Богам прашу, Пятро Пятровіч.

Міра асудзіла мужа: стары селянін абышоўся без бога, а ён, інтэлігент, не мог, успомніў такі бога.

У старога палкоўніка калацілася рука, калі ён ставіў свой подпіс. Даўно ўжо не хваляваўся, падпісваючы самыя сур'ёзныя дакументы па службе — тыя, ад якіх залежала жыццё людзей.

Цырымонія першага бесцаркоўнага ўступлення ў шлюб здалася яму сімвалічнай і больш урачыстай, чым вянчанне ў царкве. «Якія малайцы! Як хораша ўсё прадумалі. Таленавітыя людзі!» — з замілаваннем падумаў палкоўнік, адчуўшы яшчэ большую любасць да народа, якому ён, нашчадак запарожцаў, заўсёды верна служыў.

Распісаўшыся, Пятро Пятровіч прачула сказаў:

— Віншую вас, дзеці. Вялікага вам шчасця, самага светлага! — і пацалаваў спачатку Міру, пасля — Сяргея.

Жанчын гэта расчуліла. Старэйшыя ўсхліпнулі. Калачык выгукнуў:

— А каб вам добра было! — і таксама выцер вочы рукавом сваёй чорнай сацінавай сарочкі.

3

А на другі дзень прыйшло пахмелле. Горкае. У Багуновіча сапраўды балела галава. Збяднеў гуляка Назар Бульба-Любецкі, пачысціўшы ў навакольных мястэчках усе вінныя паграбы. На такую выключную ўрачыстасць, як вяселле сябра, прывёз адзіную пляшку шампанскага — для жанчын; мужчыны ж мусілі піць прывезены ім нейкі ванючы армейскі спірт, ад якога моцна патыхала карасінам.

Раніцою Сяргею, калі ён умываўся на кухні, далікатна вымавіла пані Альжбета: непрыгожа, пан паручнік, маладому перапіваць.

Ён адчуў сябе вінаватым і папрасіў прабачэння ў гаспадыні. Альжбета адразу падабрэла, бо вышэй за ўсё на свеце ставіла шляхетнасць.

— Не ў мяне прасіце — у жонкі.

Вярнуўшыся ў пакой, папрасіў прабачэння ў Міры.

Яна шчасліва засмяялася.

— Што ты, Сярожа! Вы з Назарам такія цікавыя былі — што маладыя малпы.

Такой жа вясёлай яна была па дарозе ў штаб: яны паехалі ў тым жа вазку, з тым жа салдатам, што вёз яе ўчора да шлюбу.

Яшчэ больш прасветленая вярнулася жанчына, наведаўшы казарму другога батальёна — барак, дзе некалі жылі батракі; хораша пагутарыла з салдатамі — расказала ім пра мір.

Калі Пастушэнка, які напэўна ж здагадаўся пра яе пачуцці, далікатна выйшаў з пакоя, Міра прыціснулася да мужа, прашаптала:

— Сярожа, любы мой, каб ты знаў, як гэта хораша быць жонкай: не трэба баяцца, што цябе абразяць.

Багуновіч ажно скалануўся. Які ж ён дурань! Не бачыў, што два месяцы яна жыла пад гэтым страхам. І вельмі можа быць, што абражалі. Салдаты ёсць салдаты. Ды і сяляне з іх маральным максімалізмам. Але яна маўчала. Сяргей лаяў сябе, што так доўга не мог дадумацца да такой простай рэчы — аформіць іх адносіны хоць якім-небудзь чынам, па любым законе — царкоўным, свецкім, савецкім.

А праз нейкую гадзіну прыйшло яно — цяжкае пахмелле ў выглядзе тэлеграмы з штаба фронту, у якой гаварылася, што дэмабілізацыя, якую яны рыхтавалі з Пастушэнкам, адмяняецца, мір у Брэсце не падпісаны.

Спачатку Багуновіч быў як бы ў стане шоку — аглушаны, раздушаны, з адчуваннем, што нехта, бязлітасны, вельмі злосна пажартаваў з яго, з Міры, з усіх... З усяго народа. Як можна так жартаваць?!

А калі прыехалі суседзі — Чарназёмаў і Скулань — з той жа весткай, Багуновіч узарваўся. Змёўшы са стала спісы салдат, закрычаў:

— Я перастаю паважаць урад, які дэкрэтуе мір народу і не падпісвае яго... Ваш Ленін...

— Не смей! — спалохана закрычала Міра.

Флегматычны латыш Скулань схапіўся за кабуру нагана.

— Калі ты скажаш плеха аб таварыш Ленін, я застрэлю цябе.

Паміж імі стаў Чарназёмаў, па-бацькоўску разводзячы іх сваімі дужымі кавальскімі рукамі, у скуру якіх уеліся вугаль і метал.

— Спакойна, таварышы, спакойна... Во пеўні маладыя! Ай-яй. Задзяўбуць адзін аднаго, калі хочаш.

З другога боку ўлагоджваў Пастушэнка:

— Сяргей Валянцінавіч, галубчык, не трэба. Вазьміце сябе ў рукі. Нельга ж так...

Багуновіч знясілена апусціўся на крэсла, абапёрся на стол, сціснуў рукамі галаву, пачуў пад далонямі ўдары пульса ў скронях, удары, якія неслі востры боль у галаву, у грудзі.

Чарназёмаў сеў побач, паклаў свае вялікія рукі на стол перад яго, Багуновіча, вачамі. Дзіўныя рукі. Дзіўна спакойныя. І словы ў яго асаблівыя. Нягледзячы на звон у вушах, на востры боль у галаве, Багуновіч адразу пачуў іх. Чарназёмаў сказаў, відаць, Міры:

— Дрэнна вы палітычна прасвячаеце свайго камандзіра. Кожнаму салдату вядома, што Ленін за мір... Супраць міру — «левыя». І Троцкі. Ён вёў перагаворы...

Багуновіч успомніў чалавека, які ў вагоне так абразліва сунуў Міры шакалад, і зноў выбухнуў гневам:

— Расстраляць яго мала, вашага Троцкага!..

— Не смей! — зноў крыкнула Міра.

Зноў абурыўся Скулань:

— Ты — за каго? За каго ты?

— Я? — Сяргей падхапіўся.— Я — за народ. За рускі народ. І за латышскі! І за латышскі, чорт вазьмі! За беларускі. За яўрэйскі. Я за тых, хто не хоча паміраць. А ты за каго? Ты скінуў адных ідалаў, каб кланяцца іншым... Падумаеш — Тро-о-ц-кі! Святыня...

Чарназёмаў, лёгка ўзяўшы Багуновіча за локаць, прымушаў сесці, пасміхаючыся і ківаючы галавой:

— Во не думаў, што ты такі гарачы. Мы лічылі цябе самым спакойным камандзірам. Ты ад чаго разышоўся? Ты ведаеш, якія ўмовы немцы паставілі? Не. І я не ведаю... Можа, яны такія, што і мы з табой не падпісалі б мір.

Багуновіч сеў, павярнуўся да камандзіра Петраградскага палка, зазірнуў у вочы, што глядзелі проста і ласкава з-пад рудых абпаленых броваў, якія няроўна адрасталі. Вочы гэтыя дзіўна супакойвалі.

— Ад чаго я разышоўся? Я вам скажу, Іван Філарэтавіч, ад чаго. Я тры з палавінай гады забіваў. Я па горла ў крыві. Я захлынаюся ў крыві. Гэта вы можаце зразумець?

Чарназёмаў стоена ўздыхнуў:

— Гэта, сынок, я магу зразумець.

Словы яго супакоілі. Ці, можа, не так словы, як доўгая паўза — усё роўна як хвіліна ўшанавання памяці тых, хто загінуў. А потым,

магчыма, кожны баяўся парушыць яе, гэтую мірную цішыню, усе разумелі: лепш памаўчаць, чым сварыцца, ды яшчэ гэтак — з выхадам на высокую палітыку, закранаючы людзей, якіх ніхто з іх асабіста не ведаў і таму не мог мець уласнага меркавання. Эмоцыі — дрэнны дарадчык ў любой спрэчцы, у палітычнай — тым больш.

Багуновічу стала сорамна за сваю нястрыманасць. Аднак і латыш — таксама эфіоп. Прадстаўнік такой спакойнай нацыі, а хапаецца, д'ябал, за наган. Добра, што Чарназёмаў не даў волю сваім эмоцыям. А ён, Багуновіч, бачыў, што каваль можа быць гарачым. Валявы камандзір: у яго пралетарскім палку — дысцыпліна, якой ён, кадравы афіцэр, пазайздросціў.

У цішыні пачуў Сяргей, як за спіной у яго трывожна дыша Міра. Зразумеў: баіцца за яго, баіцца, што за такія яго выказванні піцерскія бальшавікі прышыюць яму контррэвалюцыю. А яна ж, як ніхто, ведае, што хоць ён і беспартыйны, але ўсёй душой — за рэвалюцыю.

Сяргею стала шкада жонкі: за адны суткі ён колькі разоў ужо адзначыў, што яна ўсё больш і больш робіцца падобнай на яго маці, у ёй як бы абудзілася раптам уся жаноцкасць.

А яшчэ ён падумаў: добра, што няма Сцяпанава, пазаўчора старшыня палкавога камітэта гаварыў з ім наконт уступлення ў партыю. Харошы бальшавік, нічога не скажаш,— гатовы быў зганіць увесь бальшавіцкі ўрад.

Першы пасля маўчання адазваўся Чарназёмаў:

— Ну, пашумелі — і хопіць. А цяпер давайце спакойна падумаем.

— Аб чым?

— Аб тым, напрыклад, што будзем рабіць, калі немцы пачнуць наступленне.

Багуновіч успомніў батарэі, якія ўгледзеў, калі хадзілі да немцаў, успомніў данясенні разведчыкаў, што перад імі свежая дывізія, уявіў карціну нямецкага наступлення і, бадай, упершыню за ўсю вайну жахнуўся. Падняўся, усхвалявана прайшоўся па пакоі, спыніўся на другім баку стала, насупраць Чарназёмава. Сціснула горла, ён не адразу здолеў сказаць:

— Іван Філарэтавіч, калі немцы пачнуць наступаць, мы будзем змецены за гадзіну бою.

Чарназёмаў апусціў галаву — як бы задумаўся, што адказаць на гэта. Потым узняў галаву, бліснуў вачамі, агледзеўшы адразу ўсіх — Пастушэнку, Скуланя, Міру. Аднак спыніў позірк на Багуновічу.

— Што ж ты прапануеш? Адкрыць фронт без супраціўлення? Здаць немцам Петраград, Маскву? Няхай кайзер душыць рэвалюцыю?

На гэта Багуновіч не меў што адказаць. Спытаў няўпэўнена:

— А вы што прапануеце?

— Трэба стаяць насмерць! — адказаў Скулань.

— Навошта палохаеш людзей, Арвід? — ціха паправіў свайго камісара Чарназёмаў.— Будзем стаяць на жыццё. Трэба затрымаць немцаў. Да падыходу новых палкоў Чырвонай Арміі. Рабочых палкоў. Няма сумнення, што наша супраціўленне выкліча абурэнне нямецкіх салдат, якіх генералы кінуць у новую бойню. Два месяцы перамір'я, братанне, бальшавіцкая агітацыя — усё гэта не магло не прасвятліць іх мазгі. Хіба не так?

— Калі вы дэзерціруеце ўсе, Петраградскі полк усё адно будзе абараняць свой участак.,. Да апошняга байца! — усё з той жа рашучасцю, можа, залішне пафасна, сказаў латыш.— Таварыш Ленін як сказаў? Цяпер мы ўсе абаронцы...

— Мы не дэзерціры! — абурыўся Пастушэнка, але тут жа панізіў голас і ўсё роўна як растлумачыў: — Мы — ваенныя людзі, галубчык. Мы прысягалі... народу, рэвалюцыі. Канечне, мы будзем стаяць... Калі будзе загад...

Багуновіч прытуліўся да касяка акна, адчуваючы сябе бездапаможна знясіленым, загнаным у кут, з якога не было выйсця. Усё яшчэ кіпела злосць на ўрад, на галоўнае камандаванне. Што там робіцца наверсе? Адна рука не ведае, што робіць другая? Такога нават пры Керанскім не было. Аддаць загад аб дэмабілізацыі і праз суткі адмяніць. Чым яны думаюць?

Але агонь пад катлом патухаў. Ён разумеў, што паварот такі адбыўся не з-за чыйгосьці дзівацтва ці шаленства. І не з-за памылкі ад'ютанта ці тэлеграфіста. Нешта ж пэўна адбылося. Пятро Пятровіч сказаў разумна. Мы — ваенныя людзі. Так, мы гатовы абараняць свае пазіцыі. Але з кім, палкоўнік Пастушэнка? З кім? Праз тыдзень-другі мы застанёмся з вамі ўдвух. Ну, яшчэ Сцяпанаў, Міра... Можа, некалькі камітэтчыкаў-бальшавікоў, калі камітэт прагаласуе. Гэтымі сіламі вы хочаце спыніць немцаў? Наіўна. Неразумна. А што разумна? Што?

Чаму вы глядзіце на мяне? Чакаеце, што скажу я? Смешна. Панове... таварышы, я не фельдмаршал Кутузаў. Я ўсяго толькі паручнік Багуновіч, які ўзненавідзеў вайну праз тры месяцы пасля таго, як трапіў на яе, па дурасці сваёй, вольнапісаным. Калі вы хочаце ведаць, то салдаты выбралі мяне камандзірам за тое, што я ненавідзеў вайну. Я згадзіўся, паверыўшы ў мір. Я думаў, што памагу ім хутчэй скончыць вайну. А цяпер я павінен павесці іх на смерць?

Аднак яны сапраўды чакаюць, што я скажу. А што сказаць? Скласці з сябе камандаванне? Стаць дэзерцірам? Не! Дэзерцірам я не стану!

«Я знаю, што гэтага не даруеш і ты мне»,— сказаў ён Міры, набліжаючыся да яе, насцярожанай, бадай, спалоханай. Раптам вельмі захацелася ўзяць яе за руку і павесці з гэтага пакоя, дзе зноў запахла крывёю, ад лініі фронту, далёка-далёка, дзе цішыня, мір, спакой. А дзе ён, спакой? «Покой нам только снится».

Сяргей узяў Мірыну руку і, на здзіўленне ўсім і самому сабе, сказаў:

— Учора я ажаніўся. Гэта — мая жонка. Павіншуйце нас.

Былі моцныя лютаўскія маразы. Можа, апошнія перад прадвеснем. У такі сабачы холад нават у самы разгар вайны фронт заміраў, людзі, як краты, забіраліся ў зямлянкі, у падзямелле. Афіцэры пілі гарэлку і рэзаліся ў карты. Салдаты ў сваіх норах, там, дзе былі печкі і дровы, дасыпалі тая гадзіны, якія недаспалі ў час баёў.

Цяпер было не да сну. Багуновічу не спалася і ўначы, ды і астатнія, бачыў, былі даволі ўзбуджаныя, хоць да таго, што падпісанне міру сарвана, адносіліся па-рознаму: з горыччу, расчараваннем, недаўменнем, а некаторыя — з радасцю; радаваліся галоўным чынам эсэры. Багуновіча іх радасць не проста абурала, бо, здавалася, людзі гэтыя аплёўваюць тое, што робіць чалавека чалавекам. «Няўжо і Назар радуецца?» — думаў ён. Але заглянуць да суседа не было часу, ды і з'явілася нейкая боязь пакідаць полк. А раптам самае страшнае здарыцца, калі ён будзе адсутнічаць?

З цямна да цямна ён ездзіў з батальёна ў батальён, хадзіў з роты ў роту, прымушаў салдат чысціць акопы, прывесці ў парадак зброю, умацаваць кулямётныя гнёзды, пазіцыю батарэі, навучаў новых кулямётчыкаў і артылерыстаў замест тых, што самі сябе дэмабілізавалі; дэзерціравалі — слова было непапулярнае, бо, па сутнасці, Рэвалюцыя, Дэкрэты аб міры і аб зямлі як бы далі кожнаму свабоду вырашаць — заставацца ў арміі ці хутчэй ехаць дзяліць і араць зямлю.

Радавала хіба адно, што было амаль нечаканасцю: вучыліся салдаты новым ваенным спецыяльнасцям ахвотна. Можа, таму, што большасць такіх заняткаў праходзіла ў бліндажах, у цяплыні; батальёны займалі пазіцыі блізка ад лесу, і дроў хапала.

Але працаваць на марозе салдаты не хацелі. Гэта засмучала. Ён разумеў людзей, бо і сам амаль са страхам думаў раніцамі, што прыйдзецца нямала гадзін правесці пад нябеснай крышай, пад прыгожым, але вельмі ж астылым блакітам; здавалася, нават сонца выпраменьвала не цяплыню, а холад.

Аднак без працы немагчыма адрамантаваць даволі запушчаныя за два з палавінай месяцы перамір'я ўмацаванні. А без іх прыйдзецца або ўцякаць, падмазаўшы пяткі, ад першай жа нямецкай атакі, або паміраць бясслаўна, падставіўшы сябе пад нямецкія кулі.

Тое, што фронт, у выпадку нямецкага наступлення, утрымаць немагчыма — гэта Багуновіч ведаў, як «ойча наш». Але маюць рацыю Чарназёмаў, Скулань ды і свае — Пастушэнка, Сцяпанаў: кайзераўцам трэба паказаць, што рускія не страцілі здольнасці абараняць сваю радзіму, што паход немцаў у глыбіню рускіх зямель, на Петраград, Маскву не будзе трыумфальным, што за кожную вярсту новай тэрыторыі ім прыйдзецца дорага плаціць.

Толькі ў такім разе могуць працверазець нямецкія салдаты. Толькі ў такім разе!

Ён спрачаўся ў думках з самім сабой, з урадам, з Рудкоўскім, з Бульбай, з унтэрамі, з салдатамі, якія хаваліся ад работ, і з жонкай, якая спрабуе даказаць, што наступаць немцы не могуць, бо, як толькі будзе загад, салдаты, якія пазналі, што такое мір, пабраталіся з рускімі салдатамі, набраліся рэвалюцыйнага духу, тут жа павернуць штыкі супраць сваіх генералаў, афіцэраў. Ён хацеў верыць у гэта, але не мог. І Пастушэнка не верыў. Нават Сцяпанаў гатоў быў паверыць. Але яны з палкоўнікам лепш ведалі механізмы ваеннай машыны, асабліва нямецкай. «Заесці» гэтыя механізмы можа толькі наша супраціўленне. Першыя ж удары будуць зроблены па ўсіх правілах прускай ваеннай стратэгіі і тактыкі — на знішчэнне рэшткаў рускай арміі. На поўны разгром яе.

Міра таксама ўсе дні была ў ротах і ўзводах, вяла агітацыю.

Багуновіч папрасіў яе:

— Калі ласка, не ўбівай салдатам у галовы, што немцы не здолеюць наступаць. Ты будзеш аказваць дрэнную паслугу мне, камандзіру. Мы перашкодзім адно аднаму.

Міра спачатку разгубілася:

— Дык пра што ж мне гаварыць?

— Пра што? Я табе скажу — пра што. Мне вельмі спадабаліся словы Скуланя ці Чарназёмава, не помню, хто з іх гаварыў, ды гэта не мае значэння. Помніш, яны сказалі... Ленін вучыць, што цяпер усе мы сталі абаронцамі. Мы абавязаны абараняць Айчыну! Сацыялістычную. Было б добра, каб ты знайшла ў газетах ленінскае выступленне. Я хацеў бы пачытаць сам, уласнымі вачамі. Цяпер гэта вельмі важна, зразумей! Для мяне. Для салдат... Для ўсіх нас.

Міра здзівілася і ўзрадавалася: рэдка ён праяўляў такую цікавасць да работ Леніна, Маркса. Газетныя выступленні, праўда, чытаў.

А каб кнігі іх пачытаў, дзе тэорыя рэвалюцыі... Заўсёды адбіваўся жартам:

— Я лепш пачытаю Чэхава. Мудрэйшы пісьменнік, я табе скажу.

У пачатку іх зблiжэння Міра спрачалася да ахрыпласці. Пасля зразумела, што Сяргей дражніцца, бо ўбачыла неяк, што ўпотай ад яе заглядвае ён і ў марксісцкую літаратуру, якую яна прывозіла з аддзела агітацыі армейскага камітэта.

Пад вечар Багуновіч заглянуў у штаб — узнаць аб выніках паездкі інтэндантаў на армейскія склады. Божа літасцівы! Якія інтэнданты?! Непісьменныя яфрэйтары! З гэтай службы не засталося ніводнага афіцэра. Таму ён мусіў паслаць туды Пастушэнку. Парадаваўся, што таму ўдалося выбіць трохі патронаў, снарадаў і аўса. Авёс не толькі фураж, салдаты навучыліся абдзіраць авёс у ступах і варыць кашу. Голад усяму навучыць.

Чарназёмаву ён ахвотна расказваў пра свае справы па тэлефоне, па сутнасці, дакладваў, быццам каваль быў яго начальнікам; у іх нават выпрацаваўся код размовы — на выпадак таго, калі нямецкія разведчыкі могуць падключыцца да дроту. Цяпер ён не сумняваўся, што тады, калі ішлі з Мірай у штаб і ён падхапіў яе на рукі, з лесу выйшаў не рускі салдат — нямецкі. Пасля ахоўныя пасты пужалі варожых лазутчыкаў свістам — страляць Багуновіч строга забараніў: не даць немцам ніводнай, нават самай маленькай зачэпкі, каб сарваць перамір'е.

За правы свой фланг, дзе побач Петраградскі полк, можна было не турбавацца: гэтыя, трэба верыць, будуць стаяць насмерць. Трывожыў Бульба. Багуновіч двойчы пасылаў да яго веставога. Назар спачатку адказаў пісьмовым жартам, пасля лаянкай: «Сярожа! Свет — бардак! Плюнь на ўсё. Пайшлі яны...» — далей ішоў салёны салдацкі выраз, але незразумела было, хто — яны.

Яўна быў п'яны. Трэба з'ездзіць. Абавязкова трэба з'ездзіць.

Багуновіч лаяў штабы дывізіі і арміі, якія не давалі абсалютна ніякіх звестак ні аб стане абароны суседніх участкаў фронту, ні разведаных аб праціўніку: хто стаіць перад ім? Добра, што хлопцы Рудкоўскага яшчэ раней схадзілі ў нямецкі тыл і штосьці прынеслі. Звесткі мала суцяшалі, але ўсё ж ён не адчуваў сябе сляпым і глухім. Ва ўсялякім разе, ён, камандзір, ведае, колькі батарэй можа ўдарыць па яго палку. Іншыя пры такой разладжанасці разведкі і гэтага, напэўна, не ведаюць.

Шаснаццатага лютага мароз аслаб, нахмурыла. Пырхаў сняжок.Уначы Багуновічу прыйшла думка змяніць пазіцыю батарэі, падцягнуць пушкі бліжэй, каб у выпадку нямецкай «псіхічнай» атакі маглі біць карцеччу.

Батарэйцам такая замена пазіцыі не спадабалася, бо трэба было вылазіць з абжытых зямлянак на пустое месца, дзе, пакуль укрыцці не пабудуюць, няма нават як пагрэцца. Батарэйцы ціха, без шуму, без бунту адмовіліся выконваць загад. Прыйшлося шукаць Сцяпанава, каб атрымаць рашэнне палкавога камітэта. Добра, што Сцяпанаў усе яго захады па абароне ўчастка палка лічыць правільнымі. Аднак усё роўна Багуновіч лічыў, што ў такі час падобная дэмакратыя не да месца. Сказаў пра гэта Сцяпанаву, Пастушэнку.

Палкоўнік змаўчаў. Сцяпанаў, які чуў пра гэта неаднойчы, сказаў без злосці, як бы з жалем, шкадаваннем:

— Ох, наляціш ты, Сяргей Валянцінавіч, на салдацкую кулю. Не ўсе ў рэвалюцыі разумныя, не ўсе адразу могуць сцяміць, што ты ім жа дабра хочаш.

Багуновіч не стаў спрачацца, толькі падумаў: «Добра, што Міра не чуе пра гэта».

Настрой яму сапсавала не абмежаванасць яго камандзірскай улады. Іншае.

Яго радавала, што, нягледзячы на магчымасць аднаўлення ваенных дзеянняў, самадэмабілізацыі было на дзіва мала, адзінкі дэзерціравалі, менш, чым у час трывалага перамір'я. Хацелася зразумець прычыну такой з'явы. Засталіся самыя свядомыя салдаты, якія разумеюць сваю адказнасць гэтак жа, як разумеюць ён, Пастушэнка, Сцяпанаў, камітэтчыкі-бальшавікі? Ці, можа, салдат стрымлівае яго расправа над дэзерцірам Межанем? Успамінаць Межаня было непрыемна, але Багуновіч пераконваў сябе, што ў любой арміі, у выключных выпадках, можа ўзнікаць сітуацыя, якая патрабуе і такой суровай меры. Больш турбавала, што лёгка вызваліўся ад пакут сумлення — чалавека забіў, не зайца! Ачарсцвеў, значыцца, і ён. Гэта палохала.

І раптам — як абухом па галаве звестка, што пасярод дня дэзерціраваў амаль увесь гаўбічны ўзвод. Гэта тым больш было незразумела, што са старой пазіцыі ён зняў пушкі, а гаўбіцы заставаліся там жа, каля цёплых зямлянак.

Багуновіч быў у штабе, калі звестку гэтую прынёс камандзір гарматы унтэр Рамашоў, член батарэйнага камітэта. Мабыць, ён моцна пабялеў, бо Пастушэнка папрасіў:

— Не трэба, Сяргей Валянцінавіч, голубе мой.

Палкоўнік, пэўна, думаў, што ён кінецца за батарэйцамі гэтак жа, як за Межанем.

Не, кінуцца другі раз ён не мог. Не было сілы нават на гнеў. Наступіла знясіленасць, з'явілася надзвычай небяспечнае пачуццё безвыходнасці, беспрасветнасці. А што, калі вось так здымуцца з перадавой усе роты, батарэі, батальёны?

Рамашова злосна распякаў Сцяпанаў: як ён, бальшавік, не ўбачыў змовы, не папярэдзіў такога масавага дэзерцірства?!

Кропляй суцяшэння было хіба адно, што Сцяпанаў ужываў тое ж слова — дэзерцірства, гаварыць якое некалі забараніў яму, каб не злаваць салдат.

Трэба было заткнуць шчыліну. Што што, а гарматы, калі спатрэбіцца, павінны біць усе — пушкі, гаўбіцы. Як і кулямёты. Але кім заткнуць? Дзе тыя людзі, якіх Молена за дзень, за тыдзень навучыць страляць з гаўбіцы? Кулямётчыкаў навучыць прасцей.

Але, як кажуць, бяда не ходзіць адна. Калі Багуновіч не вельмі ахвотна і без ведання мэты сабраўся ехаць на батарэю (Пастушэнка тут жа выказаў жаданне ехаць з ім), прыйшоў тэлеграфіст і з ленты спалоханым голасам прачытаў тэлеграму са штаба фронту:

«Нямецкае камандаванне заявіла, што яно аднаўляе ваенныя дзеянні васемнаццатага ў дванаццаць гадзін дня. Забяспечце эвакуацыю матэрыяльных каштоўнасцей арміі, артылерыі і арсенала — у першую чаргу».

У Багуновіча пераняло дыханне, памлелі ногі. Не, ён не спалохаўся. Ён, можа, адзіны, хто ні на міг не сумняваўся, што немцы пачнуць наступленне, і рыхтаваўся да гэтага актыўна, дзейсна. Але ўсё ж тэлеграма яго ашаламіла. Перш за ўсё тэрмінам, пасля — указаннямі штаба. Ашаламленне перайшло ў абурэнне, і ён, пры тэлеграфісце, ужываючы самыя моцныя словы, пачаў выказваць сваё абурэнне:

— Сволачы! Па ўмовах перамір'я яны павінны былі заявіць аб гэтым за тыдзень. А нашы... тупагаловыя дурні! Я без вас ведаю, што пры адступленні трэба вывезці ў першую чаргу. Вы скажыце, што нам рабіць тут, на лініі фронту. Што нам рабіць? — крыкнуў ён Пастушэнку, спыніўшыся перад ім.

Стары палкоўнік, можа, упершыню ў жыцці не адказаў з армейскай дакладнасцю і інтэлігентнай далікатнасцю, а толькі паціснуў плячамі; ён таксама не ўяўляў, што можна рабіць у такой сітуацыі, як разумець тэлеграму: абараняцца? адступаць?

Сцяпанаў таксама нічога не сказаў, але моцна закашляўся. Адвярнуўшыся ў кут, выплюнуў макроту ў брудневатую хусціну,

падышоў да тэлефонаў і пачаў круціць ручку апарата сувязі з Пралетарскім палком. На другім канцы дроту яму адказаў Скулань.

Сцяпанаў спытаў без вітання, без звычайных уступных слоў:

— Вы маеце тэлеграму?

— Так, мы маем,— адказаў Скулань гучна, каб перакрычаць шумы.

— Што будзеце рабіць?

— Петраградскі пралетарскі полк будзе стаяць насмерць,— выразна, як прадыктаваў, адказаў латыш.

Сцяпанаў прыкрыў далонню трубку і паведаміў, бадай, з радасцю:

— Яны будуць стаяць...— толькі слова «смерць» не сказаў, палічыў, што яно лішняе.

Гэтая спакойная радасць сухотнага старшыні камітэта, што суседзі застаюцца верныя слову, надзвычай уразіла Багуновіча. Яму зрабілася сорамна за сваю нявытрыманасць. Раскрычаўся, як істэрычная паненка.

— Мы хочам сустрэцца,— крычаў між тым у трубку Сцяпанаў і, выслухаўшы адказ, паведаміў: — Чарназёмаў і Скулань прыедуць да нас увечары.

Але раней, чым прыехалі пралетарцы, з'явіўся Бульба-Любецкі. На падпітку. Вясёлы, ліхі, як казацкі атаман. Шапка па-заліхвацку ссунута набакір, бекеша расшпілена. Але Багуновіч, які лепш, чым хто, ведаў сябра, адразу адзначыў, што ўсё гэта паказное, У сапраўднасці Назар не толькі разгублены, але, бадай, спалоханы, хоць з жыцця яго і ўсіх паводзін можна было вывесці, што чалавек гэты ніколі нічога не баяўся. Ні бога, ні чорта, ні ўлады, ні немцаў.

Бульба спытаў з парога, не павітаўшыся:

— Чулі? Яны хочуць укусіць нас за с... Тэўтонскія сабакі! Кайзераўскія халуі!

Пастушэнка без слоў падняў са стала тэлеграфную ленту.

— Яны не ўкусіць хочуць. Задушыць.

— Няўжо яны думаюць, што мы падставім ім свае кадыкі? — сказаў Багуновіч.

Бульба здзівіўся яго спакою.

— Што ты будзеш рабіць?

— Ваяваць,— гэтак жа спакойна адказаў Багуновіч.

— З кім? — закрычаў Бульба.— Колькі ў цябе штыкоў?

— Пяцьсот чатырнаццаць,— адказаў Пастушэнка; яшчэ ўчора начштаба патрабаваў ад батальённых дакладныя спісы асабовага складу.

— Адкуль? Дзе вы іх узялі? — не паверыў Бульба.

— Трохі менш,— удакладніў Багуновіч, маючы на ўвазе дэзерцірства гаўбічнага ўзвода.— Але ў нас ёсць добры рэзэрв — партызанскі атрад Рудкоўскага.

— Ну, ты проста Давыдаў! — скептычна выказаў сваё захапленне Бульба, але тут жа зноў як бы ўсумніўся: — Чым вы трымаеце гэтую сялянскую стыхію? У мяне... добра, калі набярэцца сотня. Полк,— хмыкнуў зняважліва.— Рэвалюцыя ўсіх дэмабілізавала. І нельга вініць іх! — і тут жа спытаў заклапочана і панура: — З кім ваяваць, Сяргей? Дарагі мой Давыдаў!

Кінуў папаху на стол, з разгону плюхнуўся на цвёрдае крэсла.

Багуновіч абышоў стол, стаў у Бульбы за спіной. Выслухаў пакручастую сябраву лаянку, паморшчыўся ад яе, убачыў, што і Пастушэнку яна не спадабалася, і, безумоўна, не таму, што ў іх такія ўжо па-жаноцку далікатныя вушы, проста абодва адчулі, што чалавек выплёсквае сваю роспач, можа, нават страх.

Калі Бульба вычарпаў набор нецэнзурных слоў, Сяргей сказаў:

— Не пакрыўдзішся, калі я зраблю табе адну прапанову?

— Давай! Я знаю — гэта прысуд вялікаму Бульбе! Але я не паненка. Я не пакрыўдзіўся, калі мяне асудзілі да смяротнай кары. Ад любога прысуду я раблюся толькі злейшы.

— У такім разе лепш маўчаць. Злосць твая нам без патрэбы, асабліва цяпер.

— Не ламайся, як салонная дзеўка. Пачаў — кажы.

Але Багуновіч яшчэ нейкі час думаў. Пасля адышоў да грубкі, прытуліўся спіной да гарачага кафелю і рашуча, як старэйшы камандзір, сказаў:

— Пастаў надзейны ўзвод на шляху, ля Былінкі. Задача яго: пратрымацца гадзіны дзве, не даць немцам зайсці ў тыл майго трэцяга батальёна. А сам... сам бяры батарэйцаў, запрагай гарматы і давай да мяне... камандзірам аб'яднанай батарэі.

Бульба не павярнуўся да Багуновіча, не здзівіўся, толькі нахіліўся над сталом, як бы схаваў вочы ад уважлівых вачэй Пастушэнкі, які сядзеў насупраць. Спытаў глуха:

— А як жа пазіцыя палка?

— За тваім палком што? Пушча. У пушчы нямнога дарог. Іх перакрые Рудкоўскі са сваім атрадам. А тут — чыгунка, за дзесяць кіламетраў на станцыі — армейскія склады. Трэба думаць не толькі пра ўласныя пазіцыі...

Тады Бульба крута, разам з крэслам, павярнуўся да свайго будучага камандзіра і сказаў, трохі, праўда, блазнуючы, але яўна з захапленнем і згодай:

— Не! Ты — не Давыдаў. Ты — Кутузаў. Стратэг! А я — дзярмо... А яшчэ хацеў вытаргаваць у Сашкі пост міністра. Міністр, такую тваю! — і засмяяўся; была ў гэтым смеху знявага да сябе, было і заспакаенне душэўнае, радасць, што ёсць хоць нейкае выйсце.

За познім салдацкім абедам, аздобленым чаркай гарэлкі, якую прывёз Назар, правялі нешта накшталт ваеннага савета. Прысутнічалі камандзіры батальёнаў, некаторыя члены камітэта. Згода Бульбы перайсці ў яго полк з гарматамі і камандаваць батарэяй заспакоіла Багуновіча. Рэшту дня ён пражыў, пракамандаваў так, быццам атрымаў значнае падмацаванне.

Прыехаў на станцыю позна ўвечары і... вельмі ўстрывожыўся: не было дома Міры. Яго з'яўленне без жонкі ўстрывожыла Альжбету і Юстыну: дзе яна? Не праверыўшы, ці дома яна, адпусціў салдата-веставога, той вярнуўся з коньмі ў маёнтак.

Пайшоў на станцыю, пазваніў у штаб. Адказаў дзяжурны член камітэта: у сувязі з заявай немцаў вырашылі, што каля апаратаў уначы будзе дзяжурыць нехта адказны і дасведчаны. Хацелася папрасіць, каб паклікалі Пастушэнку, сказаць яму. Не адважыўся — пасаромеўся. Раней, калі Міра затрымлівалася ў ба тальёнах, ён жа не ўзнімаў такой трывогі.

Раней страх апаноўваў яго толькі тады, калі яка ішла да немцаў. А што, калі зноў пайшла да іх? Не, не, да такой безразважнасці яна не магла дайсці. Яна ж і раней, у самыя добрыя часы перамір'я, хадзіла толькі з дазволу камітэта.

Аднак неспакой яго вырас да самых страшных уяўленняў. Узрушанасць кватаранта заўважыў нават флегматычны Баранскас, які выкарыстаў прыход камандзіра на станцыю, каб параіцца, што рабіць з армейскай маёмасцю, якая накапілася ў станцыйным пакгаузе. Яна была адрасавана часцям, якія даўно былі пераведзены на другія ўчасткі вялікага фронту ці зусім расфарміраваны. З-за неразбярыхі, разрыву сувязей, асабліва ў інтэнданцкай службе, на тэлеграмы начальніка станцыі ніхто не адказваў. А быў нават такі адказ: звяртайцеся ва ўпраўленне па ўліку трафеяў. Нехта, мабыць, глянуўшы на ваенную карту, палічыў, што станцыя адбіта ў немцаў. Аднак жа ад кастрычніка рускія часці не вялі ніякіх наступальных дзеянняў, два з палавінай месяцы цягнецца афіцыйнае перамір'е. Якім бюракратам трэба быць, каб так адказаць, скардзіўся Баранскас.

У пакгаузе былі нават кажухі.

Багуновіч горка папракнуў чыгуначнага службіста: салдаты мерзнуць, а кажухі гніюць! Заўтра ж аддаць кажухі салдатам яго палка. Так, пад яго адказнасць!

Баранскас здзівіўся і трохі спалохаўся, з якой рашучасцю малады камандзір распарадзіўся чужой маёмасцю. За ўсю сваю доўгую паўвайсковую службу на прыфрантавой станцыі ён не ведаў выпадку, каб нават генералы давалі такія смелыя загады.

Мабыць, Баранскас не адразу сцяміў, што Багуновіч дзейнічае так, каб не пакінуць немцам нават чуркі дроў, нарыхтаваных для паравозаў. Чыгунныя печкі? Разбіць! Цэмент? Ёсць нават цэмент? Замачыць! Рэйкі? Што можна зрабіць з рэйкамі? Нічога? Не, утапіць у рэчцы касцылі і гайкі! Караеш? Раздаць сялянам!

— Пан паручнік! — замаліў начальнік станцыі.

— Баранскас! Заўтра ўвечары ў пакгаузе павінны застацца адны мышы... Вы ж самі ўпэўнены, што вагонаў ніхто нам не дасць.

— Вы жорсткі чалавек, таварыш камандзір.

— Не. Я добры чалавек. Я гатовы спаліць... утапіць усё, што можа служыць вайне... ворагу... А думаю я зараз пра адно: дзе мая жонка?

— Я вас разумею. Але ў мяне іншы клопат. Мая Альжбета сказала: памру, а ў тыл не паеду.

— Што ж яе спалохала ў Паволжы? Такая душэўная жанчына!

Стары, лысы чыгуначнік пачырванеў ад пахвалы ягонай жонцы.

— Акрамя таго, што яе называлі пшэчкай і смяяліся з яе рускага вымаўлення, іншай абразы, здаецца, не было. Але ж гэта — дробязь. Тайны жаночай псіхалогіі, хіба няпраўда?

Багуновіч падумаў пра тайны Мірынай псіхалогіі. Тайны ёсць, але чароўныя тайны. Аднак гэта мала супакоіла. Дзе яна?

Размова з Баранскасам напомніла пра нямецкіх лазутчыкаў. Ды і свае салдаты... тыя, што дэзерціруюць. За вайну ён, калі не ўсё бачыў, можа, то чуў пра ўсё — і пра самыя высокія подзвігі, і пра самыя брыдкія, нізкія злачынствы, якія чынілі салдаты і нават афіцэры.

Думка, што нехта можа ўчыніць гвалт над яго жонкай, давяла да такой душэўнай пакуты, якую ён не перажываў ніколі.

Не вытрымаў: пазваніў дзяжурнаму ў штаб і папрасіў прыслаць веставога з яго канём. Імчаць! Аднаму ва ўсе бакі, ва ўсе батальёны, па ўсіх дарогах!

Але не паспеў прыехаць веставы, як Міра з'явілася на станцыі. Яе прывёз Скулань. Яна забрыла ажно да суседзяў, у Пралетарскі

полк, і паўдня вывучала, як пастаўлена бальшавіцкая агітацыя ў петраградцаў.

Багуновіч уявіў маладога латыша, бадай, яго равесніка, з прыгожай каштанавай барадой і адчуў паганенькае пачуццё рэўнасці. Розумам усведамляў, што прыніжае гэтым пачуццём і сябе і жонку. Але адолець яго не мог. Чаго ён, гэты чортаў латыш, не пабачыўся з ім, не зайшоў пагрэцца, так хутка паехаў назад?

Раздражнёна папракнуў Міру: як можна ў такі час, нічога не сказаўшы, без суправаджэння забірацца бог ведае куды? Яна прызнавала сябе вінаватай. Але гэта толькі вярэдзіла рану рэўнасці. Асабліва не спадабалася, як яна пачала расказваць аб Петраградскім палку — узбуджана і радасна. А чаму радавацца? Чаму? Што паслязаўтра немцы абрушаць на нас свой агонь? Ён спытаў, ці ведае яна пра нямецкае наступленне. Ведае.

— Дык чаму ж ты радуешся? — спытаў ён амаль злосна.

— Я не радуюся. Я радуюся за тых людзей, Сярожа, гэта сапраўдныя рэвалюцыянеры!

— Гэта — мішэні для нямецкіх пушак!

Міра крыкнула ў роспачы:

— Сярожа! Не трэба так! Не трэба так! Я прашу цябе.

Стала шкада яе. Урэшце, не трэба забываць, што яна жанчына. Якая жанчына? Дзіця! І дагэтуль вайну бачыла толькі ў мінскім шпіталі, дзе рабіла па заданні бальшавіцкай арганізацыі; партыя пасылала сваіх людзей ва ўсе ваенныя ўстановы, таму і атрымала падтрымку салдат.

Яны ішлі да кватэры моўчкі, абое вінаватыя.

Рэўнасць у Сяргея знікла, але сапраўды засталася як бы вінаватасць за сваё абразлівае пачуццё, за дурныя думкі. Да чаго ж недасканалы яшчэ чалавек! Да чаго ж ён цёмны раб розных забабонаў, якія вякамі ўніжалі яго, фарміравалі такую ж рабскую псіхалогію.

У пакоі, асцярожна абыходзячы тое, галоўнае, што хвалявала абаіх, яны гаварылі пра розныя бытавыя дробязі.

Сяргея трывожыла, што яна больш не расказвае пра свой паход да пралетарцаў — безумоўна, адчула, што яму не спадабалася гэта. Ён выбіраў зручны момант, каб неяк тактоўна вярнуць яе да таго радаснага расказу.

Прыйшоў Баранскас, які пасля таго, як з'явілася Міра, далікатна пакінуў іх у дзяжурным пакоі станцыі.

Загады камандзіра аб знішчэнні маёмасці, за якую ён адказваў, моцна ўсхвалявалі яго. Яму хацелася шмат што высветліць. Як што рабіць? З якімі людзьмі? Якія дакументы для свайго апраўдання ён

атрымае? Ва ўласнай кватэры ён адчуваў сябе больш упэўнена: у выпадку чаго паможа рашучая Альжбета, ды і кватарант тут, напэўна, «скіне мундзір».

Баранскас запрасіў Багуновіча на сваю палавіну. Добра, што Альжбета побач, але нежаночая гэта справа — іх ваенныя клопаты. Жонка і дачка сядзелі ў спальні. А яны гутарылі ў гасцінай, без чаю.

На гэты раз начальніка станцыі ўразіла абыякавасць камандзіра, які гадзіну назад аддаваў такія рашучыя загады. Цяпер ён выглядаў страшэнна змораным чалавекам, які слухаў і, здавалася, мала што чуў, адказваў неўпапад і думаў хіба пра адно: рабіце, як хочаце, толькі пакіньце мяне ў спакоі.

Баранскас здзівіўся такой розніцы ў паводзінах аднаго і таго ж чалавека, але не пакрыўдзіўся. Адчуваў: нешта іншае, тое, што кранае мацней, глыбей, усхвалявала камандзіра. Са свайго нялёгкага вопыту ён ведаў, што часта прычынай такой узрушанасці бывае родная жонка. Ах, гэтыя жанчыны! І без іх немагчыма, і з імі нялёгка!

Стары нават настроіўся супраць Міры: рана ты паказваеш кіпцюркі, а галоўнае, не ў час выбіваеш такога чалавека з раўнавагі.

Багуновіч вярнуўся ў свой пакой.

Міра сядзела на ложку, захутаўшыся ў коўдру.

— Зноў перамерзла? — сказаў Сяргей з папрокам.— Глядзі, хварэць больш не дам! Няма калі!

Яна ціхенька засмяялася. Смех яе растапіў апошнія льдзінкі яго рэўнасці, крыўды, злосці — за бяздумны ўчынак яе. Хоць чаму, уласна кажучы, бяздумны? Напэўна, у яе была душэўная патрэба схадзіць да петраградцаў.

— Я скіпячу чай.

— Дзякую. Не хачу. Мяне добра накармілі.

Зноў варухнулася ў ім нядобрае, ён хмыкнуў:

— Накармілі! Яны такія багачы?

— Сярожа! Я не панскага роду. Грачнёвая каша з алеем — найлепшы ласунак.

Хараша яна ўмее супакойваць! Самымі звычайнымі словамі.

Багуновіч прысеў да стала, дастаў паперу, завастрыў сцізорыкам каляровыя карандашы. Хацелася перанесці на паперу тое, што склалася за цяжкі дзень у галаве,— схему бою і схему вываду людзей з-пад агню. Што пасля нядоўгага бою прыйдзецца адступаць — сумненняў не было. Але бой павінен быць такі, каб немцы запомнілі яго. І адступленне каб не ператварылася ва ўцёкі, у панічнае бегства соцень людзей. Кутузаўскае павінна быць адступленне, пераможнае.

Найменшыя страты — вось іх перамога ў такой сітуацыі. А гэта ў значнай ступені залежыць ад яго камандзірскага ўмення.

Як ніколі раней, Багуновіч адчуў сваю асаблівую адказнасць за жыццё кожнага чалавека. Гэта памагло яму засяродзіцца і пачаць складаць экспазіцыю.

Адчуваў на сабе пільны Мірын позірк. Але дзіўна — позірк яе, закаханы, замілаваны, не перашкаджаў, наадварот, супакойваў, нараджаў упэўненасць, што полк здолее добра агрызнуцца і без панікі адступіць.

Ды раптам Міра ціха паклікала яго:

— Сяр-рожа!

— Ай?

— Ты не баішся?

— Каго?

— Іх.

— Немцаў? Мілая мая, я салдат, я больш трох гадоў на фронце.

Ды раптам як штосьць ударыла яго ў патыліцу. Уміг выбіла ўсе схемы, усе разлікі. Ён падхапіўся, ступіў да ложка. І па вачах, чорных, бліскучых, больш глыбокіх, чым звычайна, убачыў, што здагадка яго правільная.

— Ты баішся?

— Баюся,— ціха прызналася яна, але тут жа апраўдвацца пачала: — Баюся. Але не за сябе. Не за сябе, Сярожа. За яго.

— За каго?— здзівіўся ён, што яна сказала «за яго», а не «за цябе».

— За таго, хто ва мне. За твайго сына...

Нейкі міг Сяргей стаяў ашаломлены. Потым упаў перад ложкам на калені, уткнуўся тварам у яе жывот, быццам хацеў і праз коўдру пачуць у ёй новае жыццё.

— Міра! Mafemme aimёe! — не ўпершыню самыя пяшчотныя словы ён гаварыў ёй па-французску.— Мая дарагая жонка! — ён паўтараў гэтыя не самыя ласкавыя — вельмі звычайныя словы па-беларуску, ад чаго яны набывалі асаблівы сэнс.

Яна палажыла яму руку на галаву, пагладзіла валасы, ён схапіў яе рукі і пацалаваў адну, другую...

— Міра? Любая мая! Не бойся. Заўтра ты паедзеш у Мінск. Да маіх бацькоў. Ці да сваіх. Як хочаш... Жыві, дзе хочаш.

Тады яна бадай груба адняла свае рукі і сказала жорстка, са звонам у голасе:

— Божа! Якія вы слюнцяі, паны! Як лёгка раскісаеце. Нікуды я не паеду! Я — салдат рэвалюцыі!

## Раздзел трэці
## ТРЫВОЖНЫЯ БУДНІ

### I

Пасля абеду Уладзімір Ільіч затрымаўся ў сваёй кватэры, каб трохі адпачыць. Так патрабавалі ад яго Надзежда Канстанцінаўна і Марыя Ільінічна. Калі хтось з іх меў час, яго літаральна каравулілі. Ён пасміхаўся з іх настойлівасці, жартаваў:

— Што ж, пасядзім пад дамашнім арыштам. Але я на вас паскарджуся Саўнаркому, майце на ўвазе,

У той дзень у жонкі і сястры былі пільныя справы, у Маняшы — у рэдакцыі «Правды», у Надзі — у Наркамаце асветы. Але ён паабяцаў ім паўгадзіны адпачыць. Калі ён абяцаў з такой сур'ёзнасцю, жанчыны верылі яму.

Удзень, за рэдкім выключэннем, калі толькі здаралася, што нядужылася, Уладзімір Ільіч ніколі не лажыўся, лічыў гэта абломаўшчынай: дзённы сон расслабляў цела і мозг. А ў яго наперадзе самая напружаная праца — пасяджэнне Саўнаркома. Яго прыходзіцца праводзіць амаль штодня, бо набіраецца безліч пытанняў, якія нельга адкласці, вырашаць іх трэба з рэвалюцыйнай тэрміновасцю.

Ён падняўся да сябе ў рабочы кабінет. Праходзячы праз пакой упраўлення справамі, убачыў Марыю Мікалаеўну Скрыпнік і ўспомніў пра яе просьбу — паехаць на Украіну да бацькоў разам з Мядзведзевым, Шахраем, якія вярнуліся з Брэста, і Варашылавым, якога ён, Ленін, камандзіраваў у Данбас, на дапамогу Антонаву-Аўсеенку.

Уладзімір Ільіч разумеў яе жаданне ехаць у неспакойны час у кампаніі сваіх таварышаў, такіх рыцараў, як камісар Петраградскага ВРК Клімент Варашылаў; чалавек гэты ў свае трыццаць сем гадоў можа, як юнак, чырванець перад жанчынамі, што заўважылі супрацоўніцы Саўнаркома, але, калі меркаваць па яго падпольнай дзейнасці і па рабоце ў рэвалюцыі, ніколі не «чырванеў» перад ворагамі.

Ленін спыніўся перад Гарбуновым:

— Мікалай Пятровіч, напішыце, калі ласка, ад майго імя распараджэнне начальніку Мікалаеўскага вакзала, каб ён прадаставіў чатырохмеснае купэ таварышам Скрыпнік, Варашылаву, Мядзведзеву, Шахраю. Ім трэба тэрмінова выехаць у Харкаў.

У кабінеце на стале Леніна чакалі тэрміновыя дакументы — парадак дня Саўнаркома, больш трыццаці пытанняў, праекты дэкрэтаў, якія трэба яшчэ калегіяльна абмеркаваць і якія ўжо разгледжаны на Саўнаркоме і іх неабходна падпісаць, яны будуць рэгламентаваць

новае жыццё, накіроўваць яго па сацыялістычным шляху, закрэсліваючы старыя царскія законы, правілы, нормы. Дэкрэты дыктатуры пралетарыяту!

Уладзімір Ільіч уважліва прачытаў парадак дня. Колькі пытанняў выкрасліў, некаторыя, наадварот, падкрэсліў, адзначаючы іх выключную важнасць.

Большасць пытанняў было гаспадарчых, эканамічных — мірных.

Напрыклад, аб'яўленне капіталаў пазыка-ашчадных, дапаможных, пенсійных, эмерытальных кас недатыкальнымі. Ці асігнаванне ста тысяч рублёў на Паўночную экспедыцыю СНК па ахове скарбаў РСФСР, якія знаходзіліся ў Архангельскай губерні. Хоць наўрад ці «мірнае» гэтае пытанне. Скарб трэба захаваць не толькі ад сваіх зладзеяў, але і ад замежных: на Архангельск «вострыць зубы» англічане. У выпадку іх высадкі не даць ім захапіць народныя багацці. Не даць ім вывезці ні грама золата, ніводнай карціны.

Крыленка і Падвойскі вельмі своечасова папрасілі прыняць дэкрэт аб выплаце сутачных дэмабілізаваным салдатам, якія часова застаюцца ў сваіх часцях. Архіважна затрымаць у франтавых часцях людзей, якія ў выпадку нямецкага наступлення маглі б аказаць хоць якое-небудзь супраціўленне, хоць такое, каб Вільгельм і Гіндэнбург зразумелі, што наш фронт не адкрыты, як паабяцаў ім гэта Троцкі сваёй формулай «ні міру, ні вайны».

Ад думкі пра мір у Леніна трывожна ёкнула сэрца. Непадпісанне Троцкім міру насуперак яснай дырэктыве Саўнаркома падобна на грандыёзную правакацыю. За такое наркома трэба аддаваць суду, партыйнаму — абавязкова. Каб не пазіцыя «левых» камуністаў і левых эсэраў, якія падтрымліваюць авантуру Троцкага, Ленін патрабаваў бы партыйнага суда. Але ў такой сітуацыі ўдар па Троцкаму можа прывесці да адстаўкі наркомаў-эсэраў, да расколу ў ЦК бальшавіцкай партыі. А гэта непажадана ў такі адказны час. Гэтым карыстаецца Троцкі. З Брэста ён вярнуўся з выглядам пераможцы. Вясёлы. Як заўсёды ўпэўнены ў правільнасці свайго рашэння.

Леніна абурала такая нахабная самаўпэўненасць. Але пры сваім становішчы главы ўрада ён мусіў вельмі спакойна выслухоўваць даклад кіраўніка дэлегацыі. Так, нямецкія імперыялісты — разбойнікі, навязвалі яны архіцяжкі мір. Аднак няма сумнення, што ён быў бы лягчэйшы, чым той, які прыйдзецца заключаць, калі немцы пачнуць ваенныя дзеянні. «Ваяваць» можа толькі Бухарын і яго левыя фразёры. На паперы. У безадказных выступленнях. Рэспубліка ваяваць не можа. Непісьменныя салдаты гэта выдатна разумеюць, а да высокаадукаваных інтэлігентаў, якія называюць сябе марксістамі,

гэта не даходзіць, ніяк нельга ўцяльмяшыць простыя ісціны ў іх занадта мудрыя галовы.

Троцкі даводзіў, што нямецкі генштаб не адважыцца аднавіць ваенныя дзеянні — пабаіцца працоўных. Наступаць на рэспубліку рабочых і сялян, якая абвясціла аб міры і дэмабілізуе сваю армію,— гэта такая подласць, якую пралетарыят Германіі ніколі не даруе.

Ленін хацеў верыць... Ленін верыў у рэвалюцыйнасць нямецкіх рабочых. Аднак рэвалюцыйная сітуацыя — рэч даволі складаная, яна патрабуе спалучэння многіх фактараў. У Германіі чагось не хапае. Чаго? Ах, як мала часу! А так патрэбна прааналізаваць становішча ў краінах, якія ваююць. Англію і Францыю корміць багатая Амерыка. Выступленні пралетарыяту ў гэтых краінах эпізадычныя і ў няпоўнай меры скіраваны супраць вайны — не выветрыўся яшчэ чад ура-патрыятызму. У Германіі становішча іншае. І аднак усе спадзяванні нашы на блізкую рэвалюцыю не апраўдваюцца. У чым прычына? Раскол сацыял-дэмакратыі? Зараза нацыянал-шавінізму? Слабасць інтэрнацыяналістаў? Знаходжанне ў турме Карла Лібкнехта?

Учора Ленін яшчэ раз прынімаў Рамана Аўрамава, які паехаў у Берлін. Яны абгаварылі многія праблемы сацыял-дэмакратычнага руху і адносін з Германіяй, паколькі Аўрамаў — член эканамічнай камісіі Чацвярнога саюза. Але, можа, самае галоўнае ў іх размове — гэта яго, Леніна, даручэнне Аўрамаву перадаць арганізатару групы «Спартак» Тышке, што нямецкія таварышы не павінны ні на міг забываць: далейшае ўмацаванне Савецкай улады ў Расіі з'яўляецца справай і абавязкам не толькі рускіх, але і нямецкіх рабочых.

Будзе найвялікшым шчасцем, калі генералітэт кайзера з боязі рэвалюцыйнага выбуху не адважыцца кінуць свае войскі на Расію. Паступленню на ўсходзе маглі б перашкодзіць актыўныя дзеянні войск Антанты на захадзе. Але актыўнасці такой няма. Наадварот, усё — ад прамовы Вільсана да дзеянняў нават такіх дыпламатаў, як Робінс і Садуль,— гаворыць за тое, што былыя саюзнікі Расіі вельмі зацікаўлены, каб немцы пайшлі на Савецкую Расію. Жак Садуль у гутарцы тры дні назад даў зразумець, што пасол Нуланс і яго калегі надзвычай узрадаваліся таму, што мірныя перагаворы сарваліся. Гэтак жа радуецца, безумоўна, і Клемансо.

Чартоўскі хочацца верыць, што немцы не стануць наступаць! Няхай бы адчуваў сябе пераможцам Троцкі, абы не вайна!

Але вялікі рэвалюцыйны рамантык, Ленін заўсёды заставаўся самым цвярозым рэалістам.

Троцкі набраўся нахабства выказаць незадавальненне супраць таго, што Ленін адмяніў загад Крыленкі аб дэмабілізацыі арміі, які Глаўкаверх аддаў па тэлеграме Троцкага з Брэста.

Стрымліваючы гнеў, Уладзімір Ільіч адказаў:

— Мабілізацыя і дэмабілізацыя арміі — прэрагатыва ўрада, а не асобнага міністра, нават калі ён міністр замежных спраў і самы мудры ва ўрадзе.

Гнеўны ленінскі сарказм, схаваны за стоенай ветлівасцю, Троцкі даўно, з эміграцыі, навучыўся чуйна лавіць і разумець.

Нарком мусіў панізіць голас. Але не супакоіўся — падбухторыў Урыцкага зрабіць запыт на пасяджэнні Саўнаркома. Зачэпкай было распараджэнне Леніна аб закрыцці вячэрняй газеты «Эхо», якая апублікавала загад Крыленка

Ленін адказаў, што планы дэмабілізацыі, як і мабілізацыі, нават у самай спакойнай абстаноўцы з'яўляюцца ваеннай тайнай. Ён прачытаў нядаўняе пісьмо начальніка штаба арміі Міхаіла Дзмітрыевіча Бонч-Бруевіча, які звяртае ўвагу на недапушчальнасць публікацыі таго, што мае сакрэтнае значэнне.

Члены ўрада згадзіліся з Леніным. Троцкі хітра маўчаў; за яго гаварылі хаўруснікі.

Усе гэтыя дні Леніну было непрыемна размаўляць з Троцкім, па ўсіх замежных справах ён, цераз галаву наркома, звяртаўся да Чычэрына. Георгій Васільевіч актыўна і кампетэнтна ўключыўся ў работу наркамата, арганізуючы гэтую работу зусім па-новаму.

Троцкі гэта адчуў і пазбягаў сустрэч з Леніным, нават не з'явіўся на два пасяджэнні Саўнаркома. Займаўся тым, што згуртоўваў сваіх аднадумцаў і падбухторваў левых крыкуноў. Сам ён, між іншым, таксама не вельмі верыў, што немцы не будуць наступаць. Больш таго, яму хацелася, каб яны аднавілі ваенныя дзеянні. Тады Леніну прыйшлося б згадзіцца з «левымі» і пачаць рэвалюцыйную вайну. Ляснула б яго тэорыя перадышкі, а заадно — і яго тэорыя перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі ў адной краіне, такой мужыцкай, дзікай, як Расія.

Ленін глыбока задумаўся. Не, трывожыць яго не Троцкі ў выпадку нямецкага наступлення. Пры ўсёй сваёй самаўпэўненасці ён плюхнецца ў лужыну і мусіць вызваліць пост наркома па замежных справах. Трывожаць «левыя», якія зноў актывізаваліся і з новай сілай даводзяць, што ніякага міру з імперыялістамі быць не можа.

Леніна моцна ўстрывожыла, што, нягледзячы на яго тэлеграму, якую паслалі ў Стаўку раніцой адзінаццатага, Мікалай Васільевіч Крыленка ўсё-такі аддаў загад аб дэмабілізацыі арміі. Прыйшлося

адмяняць яго загад рашэннем Саўнаркома. Дзеянні камандуючага пацвярджаюць думку, што трэба сачыць пільна не толькі за «левымі», але і за ваеннымі патрэбен большы кантроль. Дэмакратыя — вялікая заваёва рэвалюцыі, аднак у арміі яна павінна мець пэўныя межы.

Крыленку можна зразумець: яму хацелася хутчэй пазбавіцца ад старой арміі. А пазбаўляцца зараз нельга. Нельга, таварышы! Трэба зрабіць максімум намаганняў для ўмацавання абароны рэспублікі!

Уладзімір Ільіч успомніў учарашняе пасяджэнне Саўнаркома, дзе па яго прапанове абмеркавалі стратэгічнае становішча на моры ў выпадку актыўных дзеянняў Германіі. Было суцешна, што абмеркаванне прайшло вельмі сур'ёзна. Дыбенка зрабіў грунтоўны даклад, хоць, магчыма, трохі з ухілам да самазаспакаення, да перабольшання баявой гатоўнасці рускага флоту. Безумоўна, матросы — апора рэвалюцыі. Але матросы — тыя ж сяляне, ім таксама хочацца дадому, дзе дзеляць памешчыцкія землі. Знамянальна, што ніхто, нават з левых эсэраў, не ўчыніў ніякай абструкцыі пастанове, усе пагадзіліся з неабходнасцю ўмацавання марскіх рубяжоў, асабліва на подступах да Петраграда.

У сённяшнім парадку — абвяшчэнне чыгунак на ваенным становішчы. Як пройдзе гэтая ідэя? Падвойскі, Свярдлоў, Сталін і Дзяржынскі, з якімі Уладзімір Ільіч паспеў параіцца, падтрымалі такую важную меру ва ўмацаванні абароны. Чыгунка з засіллем на ёй вікжэлеўцаў-меншавікоў, эсэраў можа стаць ахілесавай пятой пры абароне, а тым больш — пры адступленні арміі. Без наладжанай чыгункі накопленая ў прыфрантавой зоне ваенная маёмасць апынецца ў немцаў. Дапусціць гэтага ніяк нельга! Ваеннае становішча. Ваенная дысцыпліна. Падначаленне чыгуначных чыноўнікаў камандзірам і салдацкім Саветам! Толькі так перад пагрозай нямецкага нашэсця! Відаць, дэкрэт гэты пройдзе нялёгка. Хто можа выступіць супраць? Штэйнберг? Добра загадзя ведаць апанентаў і іх аргументы. З тактычных меркаванняў Ленін перанёс пытанне аб чыгунках з ліку першых у сярэдзіну парадку дня. Быццам бы радавое — побач з асігнаваннем 25 тысяч рублёў Савету горада Сольцы на неадкладныя патрэбы насельніцтва.

З ліку дэкрэтаў, якія ўжо абмяркоўваліся, але патрабавалі подпісу Старшыні Саўнаркома, Уладзімір Ільіч яшчэ раз перачытаў «Дэкрэт аб прымусовым занятці для дзяржаўных і грамадскіх патрэб будынкаў і памяшканняў у Петраградзе».

Да такіх дакументаў у Старшыні Саўнаркома была асаблівая ўвага. Такі дэкрэт не павінен даваць ніякай падставы для беззаконных высяленняў грамадзян. Лягчэй канфіскаваць завод, фабрыку,

маёнтак, там усё ясна — экспрапрыяцыя эксплуататараў, заводчыкаў, памешчыкаў. З жылымі памяшканнямі цяжэй. Тут можа лёгка здарыцца, што экспрапрыяцыя домаўласніка закране кватэранаймальнікаў — інтэлігенцыю і нават рабочых. Справядлівае размеркаванне жылля не менш важна, чым размеркаванне хлеба.

У дэкрэта гэтага была свая гісторыя, яна пачалася эпізодам, які спачатку Леніна абурыў, а цяпер развесяліў. Выпраўляючы асобныя пункты, робячы іх больш дакладнымі, Уладзімір Ільіч прыгадаў гэты сапраўды такі камічны эпізод.

Тыдні два назад нарком сацыяльнай апекі Аляксандра Міхайлаўна Калантай вырашыла заняць пад шпіталь Аляксандра-Неўскую лаўру. Манахі запратэставалі. Выкарыстаўшы свае адносіны з Дыбенкам, Калантай папрасіла ў яго атрад матросаў, і тыя паспрабавалі заняць лаўру гвалтам. Манахі ўчынілі бойку і адстаялі сваю абіцель. Добра, што матросы аказаліся свядомыя і ніхто з іх не схапіўся за зброю.

Ленін, калі даведаўся пра гэты інцыдэнт, вельмі абурыўся. Запрасіў Калантай і зрабіў ёй вымову.

— Гэта самачынства, якое ганьбіць Савецкую ўладу. Нікому не дазволена рабіць падобныя высяленні, тым больш не ўзгадніўшы з СНК!

Аляксандра Міхайлаўна павінілася. Аднак упартасць у яе, настойлівасць тыпова жаночая, ад намераў сваіх яна рэдка калі адступала, пра гэта Уладзімір Ільіч ведаў яшчэ ў эміграцыі.

Калантай папрасіла, каб пытанне было вынесена на Саўнарком. Ленін лёгка згадзіўся, каб указаць усім іншым наркомам на недапушчальнасць падобных анархісцкіх дзеянняў. Людзей трэба вучыць, выхоўваць.

На Саўнаркоме, нечакана для яго, большасць наркомаў выказалася за занятце лаўры: для інвалідаў вайны таўстапузых служкаў бога можна і пацiснуць.

Уладзімір Ільіч зразумеў, што Калантай перахітрыла яго: добра «папрацавала» са сваімі калегамі. Яе агітатарскія здольнасці развеселілі. Старшыня Саўнаркома мусіў згадзіцца з большасцю. Але тут жа прапанаваў прыняць дзве пастановы. Першая абавязвала Калантай звярнуцца да насельніцтва з адозвай, у якой растлумачыць, што Аляксандра-Неўская лаўра займаецца для знявечаных воінаў, апублікаваць адозву ў нядзельных нумарах газет і расклеіць па ўсім Петраградзе асобнымі лістоўкамі — не менш як трыста тысяч экземпляраў. Другой пастановай лаўра перадавалася «Саюзу знявечаных воінаў».

Пастанова гэтая і стала асновай дэкрэта, які належала падпісаць. Аднак неабходны папраўкі.

Спачатку Леніну хацелася дапісаць пункт, які абмяжоўваў бы права армейскіх часцей на заняцце будынкаў. Каб рабілася гэта толькі Саветамі. Але потым падумаў, што дэкрэт гэты таксама лажыцца ў сістэму мер па абароне рэспублікі і Петраграда. Пры сітуацыі, якая можа ўзнікнуць, армія... Чырвоная Армія павінна мець усе неабходныя правы.

Прыгадаўшы Калантай і Дыбенку, Уладзімір Ільіч ласкава пасміхнуўся.

Аляксандра Міхайлаўна ў свае сорак пяць гадоў закахалася ў трыццацігадовага матроса-барадача. Але — «любви все возрасты покорны, ее порывы благотворны».

Ленін верыў у мудрасць радкоў паэта і праяўляў надзвычайную далікатнасць. Такімі ж далікатнымі былі ўсе іншыя наркомы. Яны як бы не заўважалі, што Аляксандра Міхайлаўна і Павел Яфімавіч заўсёды садзіліся побач і яна нярэдка закахана клала сваю руку на яго руку. Было ў гэтым нешта юнацкае, што хораша кранала і радавала.

Уладзіміру Ільічу было непрыемна, калі аднойчы Троцкі не вельмі тактоўна пажартаваў з іх адносін.

Троцкаму бракуе культуры. У адносінах з людзьмі. А ў палітыцы?.. Гэта ж чысцейшая анархія — калі нарком не жадае лічыцца з рашэннем свайго ўрада!

Вярнулася думка да Брэста, да Троцкага — і Ленін пасля колькіх хвілін душэўнага адпачынку, калі згадваліся тыя таварышы, якія могуць памыляцца, але якія ніколі не падвядуць, зноў адчуў не проста раздражнёнасць, а глыбокі палітычны неспакой.

Такі стан перашкаджаў працаваць.

Ленін выйшаў у агульны пакой, каб у размове з супрацоўнікамі Саўнаркома вярнуць душэўную раўнавагу. Але думкі пра мір не адыходзілі. Успомніў пункт учарашняга парадку дня пасяджэння Саўнаркома — звярнуўся да Гарбунова:

— Мікалай Пятровіч, перадайце, калі ласка, Чычэрыну: на перагаворах з нямецкай дэлегацыяй аб абмене цывільнымі палоннымі ісці на любыя ўступкі, якія не закранаюць інтарэсаў саміх інтэрніраваных. Рускія людзі павінны вярнуцца ў Савецкую Расію! Немцаў няхай вяртаюць усіх, хто не мае віны перад Савецкай уладай. Нават тых, хто асуджаны манархічнымі трыбуналамі. Апублікаваннем тайных дагавораў мы раскрылі царскія сакрэты.

Пасяджэнне ішло лёгка, нават весела. У Леніна пад вечар узняўся настрой. Прыём рабочых з прыфрантавога Мінска даў добры

зарад аптымізму. Рабочыя верылі ў мір, іх цікавілі формы кіравання аднятымі ў капіталістаў заводамі — металічным і скураным.

Хораша настроіла І размова з Міхаілам Сяргеевічам Кедравым, камісарам па дэмабілізацыі старой арміі, які прынёс ад інжынера Графтыё праект будаўніцтва Волхаўскай ГЭС.

Тыдні тры назад Ленін папрасіў такі праект.

Кедраў — урач, журналіст, ваенны — думаў пра мір, пра арганізацыю эканомікі, пра работу для ўчарашніх салдат. Чаго варта яго думка, што ў сацыялістычнай дзяржаве не павінна быць беспрацоўных! «Левым» такі б клопат аб міры, аб людзях!

Ленін жартаваў — і наркомы жартавалі нават пры абмеркаванні самых сур'ёзных пытанняў.

Праўда, жыў маленькі неспакой за абвяшчэнне чыгунак на ваенным становішчы. Але і тут, як кажуць, пашанцавала.

Пытанне гэтае прайшло лёгка. Пры абмеркаванні яго ўвагу адцягнула іншае. Паступілі звесткі аб магчымым выступленні нямецкіх ваеннапалонных. Трывожны сігнал. Палонных яўна падбухторваюць. Ленін разумеў, якая гэта парахавая бочка — Многія тысячы немцаў і аўстрыйцаў. Рэвалюцыя выпусціла іх з-пад аховы, з-за калючага дроту, немцы свабодна ходзяць па горадзе, афіцэры жывуць на кватэрах.

Саўнарком яшчэ колькі дзён назад прыняў рашэнне аб эвакуацыі ўсіх палонных. Галоўная прычына — надзвычайныя цяжкасці з хлебам; выйшла так, што рускія рабочыя атрымоўвалі паёк меншы за немцаў, бо ў адносінах палонных стараліся выконваць міжнародную канвенцыю — бадай, адзіны з дагавораў, падпісаны царскім урадам.

Эвакуацыя многіх тысяч людзей на ўсход, у хлебныя губерні, памагла б ратаваць сталіцу ад голаду.

Але Ленін думаў і пра іншае, не менш важнае,— пра абарону Петраграда.

Эвакуацыя праходзіла цяжка. Не толькі з-за адсутнасці вагонаў, але і з-за супраціўлення саміх палонных, сярод якіх пусцілі правакацыйныя чуткі, што іх хочуць выслаць у Сібір. Немцы-салдаты гатовы былі галадаць разам з рускімі, але ў Петраградзе, блізка ад радзімы. А сярод афіцэраў, што стала вядома пазней, працавалі агенты нямецкай разведкі.

Па загаду Леніна паднялі на ногі ЧК, Камітэт па барацьбе з пагромамі, чырвонагвардзейскія атрады. Парадак у горадзе быў падарваны нядаўнімі анархісцкімі выступленнямі флоцкіх экіпажаў. Многіх матросаў, якія да таго ахоўвалі рэвалюцыю, прыйшлося пасылаць на Данецкі фронт, на падмацаванне Антонаву-Аўсеенку і

Украінскай Чырвонай Арміі, другіх вярнулі на караблі, дзе бальшавіцкія камітэты трымалі рэвалюцыйную дысцыпліну.

Дзяржынскі, Урыцкі, Бонч-Бруевіч працавалі дзень і ноч. Фелікс Эдмундавіч проста знямог. Прыйшлося прыймаць наконт яго спецыяльнае рашэнне — прымусіць паехаць адпачыць пяць дзён. У Саўнаркоме адчувалася адсутнасць Бонч-Бруевіча, але, калі Уладзімір Дзмітрыевіч з'яўляўся з дакладам, Ленін зноў і зноў нагадваў яму, што важней, чым бяспека Петраграда, спраў няма.

На падыходзе да пытання пра чыгункі сакратар Саўнаркома падала запіску Троцкаму, і ён паспешліва выйшаў. З тым, што Троцкі мог пакінуць пасяджэнне ў любы час, звыкліся, на яго выхад не звярнулі ўвагі. Троцкі смяяўся з пастановы, якую, дарэчы, прынялі аднагалосна,— аб штрафе ў дзесяць рублёў за спазненне на пасяджэнне ці за адсутнасць на ім, і штрафу не плаціў; работнікі кіраўніцтва справамі маглі напомніць аб штрафе любому наркому, Троцкага баяліся — бязлітаснага сарказму яго баяліся, часам даволі грубага.

Чыгункі былі абвешчаны на ваенным становішчы, члены ўрада, нават левыя эсэры, згадзіліся з неабходнасцю такой меры.

Была поўнач.

Ленін заставаўся ў кабінеце. У цішыні чытаў французскія і англійскія газеты, якія з тыднёвым спазненнем прысылалі са Стакгольма.

Толькі ў такі час можна пачытаць, удзень хіба што прагледзеў загалоўкі ды адзначыў карандашом, што заслугоўвае асаблівай увагі.

У англічан, як і ў немцаў, адчуваецца моцная ваенная цэнзура, у французаў вальней, іх газеты пішуць і аб антываенных выступленнях. Есць такія выступленні. Але больш пакуль што эканамічных стачак. Заходні рабочы хоча есці хлеб з маслам нават у вайну. Адным словам, як і раней, ніводнае паведамленне не гаварыла пра блізкі рэвалюцыйны ўзрыў.

Няўжо «левыя» не чытаюць французскіх газет? На што яны спадзяюцца, заклікаючы да рэвалюцыйнай вайны? Як гэта небяспечна, калі людзі трымаюцца адной тэорыі, адных догм і лозунгаў і не хочуць бачыць таго, што робіцца навокал, ігнаруюць жывую практыку, тыя канкрэтныя ўмовы, якімі абумоўлена развіццё рэвалюцыі.

Цяпер памагчы пралетарскім рэвалюцыянерам на Захадзе, нацыянальна-вызваленчаму руху на Усходзе можа толькі Расійская Рэспубліка Саветаў, яе ўмацаванне, яе поспехі ў арганізацыі эканомікі на абсалютна новай аснове. Як гэта, здаецца, проста! І як, выходзіць, цяжка зразумець такую ісціну некаторым людзям!

Апартунізм, любы — левы і правы,— што цяжкія гіры. Няўжо да Бухарына, да Ломава гіры гэтыя прыкуты так моцна, што іх немагчыма збіць?

Законы барацьбы нярэдка аб'ядноўваюць апартуністаў усіх масцей. Троцкі, які займае нібыта «правую» пазіцыю, гатовы пайсці на паклон да англа-амерыканскага імперыялізму, аддаць ім Уладзівасток, Мурманск, у пытанні вайны і міру цесна змыкаецца з «левымі». Заканамерная з'ява! «Правыя» спаўзаюць улева, левыя, што маятнік, хістаюцца ва ўсе бакі. Можна было з дапамогай Троцкага сарваць мірныя перагаворы — пайшлі на змову з Троцкім.

Ленін адарваўся ад газет, задумаўся. Яму не хацелася б карыстацца такім словам, як змова, але іншага няма для вызначэння авантуры ў Брэсце.

Нечакана ў кабінет увайшоў Троцкі, ніколі не з'яўляўся так позна. Выгляд у яго быў як бы разгублены, чаго з Троцкім ніколі не здаралася, ён не губляўся ні ў якой сітуацыі. Ленін зразумеў, што здарылася незвычайнае. Сціснулася сэрца: вайна!

— Прашу прабачыць, Уладзімір Ільіч,— перапрасіў Троцкі.— Я адлучаўся ў наркамат. Мяне выклікалі. Тэлеграма ад генерала Самойлы, які знаходзіцца ў Брэсце... застаўся, каб ліквідаваць справы дэлегацыі, разлічыцца з немцамі.

Ленін не пажадаў, каб тэлеграму чытаў Троцкі,— рашуча працягнуў руку.

«Сёння ў 19 гадзін 30 мінут ад генерала Гофмана мне афіцыйна заяўлена, што 18 лютага ў 12 гадзін заканчваецца заключанае Расійскай Рэспублікай перамір'е і пачынаецца зноў стан вайны».

Кроў ударыла ў галаву. Гэта была ўжо не проста раздражнёнасць супраць Троцкага, з якой Ленін працаваў апошнія пяць дзён.

Уладзімір Ільіч трохі не скамечыў паперу, пальцы сціснуліся. Аднак спахапіўся. Яго становішча прымушае да стрыманасці. Дастаў з камізэлькі гадзіннік. Адзначыў, што Троцкі прабыў у наркамаце больш дзвюх гадзін. І не пазваніў. Чым ён займаўся там, атрымаўшы такую архітэрміновую тэлеграму? Звязваўся з немцамі? Правяраў?

Заспакоены раўнавагай Леніна, які ніводным рухам не выдаў свайго душэўнага стану, Троцкі плюхнуўся ў крэсла каля стала Старшыні Саўнаркома і з уласцівай яму самаўпэўненасцю сказаў:

— Думаю, што гэта правакацыя, Пузаты Самойла гэты — царскі выкармак. Контрразведчык. Шпіён. Невядома толькі — чый зараз. У Брэсце ён нюхаўся з Гофманам. Прагульваўся з графам Чарніным. Я не здзіўлюся, калі ён застанецца ў немцаў, учыніўшы нам правакацыю.

Ленін не ведаў асабіста Самойлу, але помніў, якую характарыстыку давалі генералу Крыленка і браты Бонч-Бруевічы.

У іншы час Ленін, напэўна, абурыўся б такім ганьбаваннем чалавека, ваеннага спецыяліста. Але цяпер ён не ўткнуў у паклёп Троцкага на Самойлу — не пра гэта думаў.

Ленін падумаў: усё ў тэлеграме праўда — і ўжо прыкідваў, што належыць зрабіць, каб абараніцца ад гэтай злавеснай праўды.

— Дапускаю іншы варыянт — што тэлеграма не ад Самойлы. Я спрабаваў звязацца з ім — немцы сувязі не далі. Магчыма, што Гофман вырашыў нас спалохаць, каб прымусіць прыняць ганебны мір. Але мы не з баязлівых. Няхай паспрабуе Гофман наступаць... Паглядзім, што з гэтага выйдзе. Нямецкі рабочы клас тут жа ўзніме сцягі рэвалюцыі.

«Якая дэмагогія!» — Ленін паморшчыўся. Выйшаў з-за стала, прайшоўся да дзвярэй і адтуль сказаў, стрымліваючы гнеў:

— Таварыш Троцкі! Даволі рэвалюцыйных фраз! Мы іх сказалі больш, чым трэба.

Троцкі, заўсёды самаўпэўнены, тут сумеўся, бо адчуў у голасе Леніна буру.

— Немцы пачнуць наступленне! У гэтым няма сумнення. Нямецкі рабочы клас нас не ратуе. Ратавацца трэба самім. Заключэннем міру! — Уладзімір Ільіч спыніўся перад Троцкім і сказаў токам камандзіра на полі бою: — Зараз жа тэлеграфуйце Кюльману наш пратэст. Па ўмовах перамір'я яны павінны аб'явіць аб аднаўленні вайны за тыдзень. А не за суткі. З сямі дзён немцы ўкралі ў нас пяць. Гэта бандыцкі прыём. Але мы мусім скарыцца перад разбойнікамі. Перадайце, што мы прынімаем брэсцкія ўмовы міру!..

— Без рашэння ЦК? — асцярожна спытаў Троцкі.

Ленін зноў паглядзеў на гадзіннік і цяжка ўздыхнуў: склікаць зараз ЦК нялёгка. Ды, бадай, і не трэба — паднімеш людзей з ложкаў, «левыя» з'явяцца раздражнёныя, запатрабуюць тлумачэння абстаноўкі; да тэлеграмы могуць аднесціся гэтак жа, як Троцкі: ліпа, маўляў.

Уладзімір Ільіч раптам узяў крэсла, паставіў яго бліжэй да наркома па замежных справах і яшчэ раз паспрабаваў пагутарыць з той таварыскай даверлівасцю, з якой размаўляў з гэтым чалавекам перад яго апошняй паездкай у Брэст.

— Леў Давыдавіч, я прашу зразумець. Гуляць у вайну і мір мы далей не можам. Мы ставім на карту не што-небудзь — рэвалюцыю, Савецкую ўладу. Партыя, пралетарыят не даруюць нам гэтага.

— У партыі наконт міру розныя думкі, Уладзімір Ільіч,— холадна адказаў Троцкі.

Здаралася, што гаварыў Троцкі шчыра, умеў і любіў паразважаць, паспрачацца. Цяпер жа сваім лаканічным адказам даў зразумець, што ленінскай шчырасці не прынімае, што ў яго ёсць свая пэўная думка, якую ён адзін на адзін не жадае нават выказваць.

Леніну зрабілася сумна. Высветліўшы некаторыя дыпламатычныя дэталі, Уладзімір Ільіч паспяшаўся развітацца з начным наведвальнікам.

Троцкі паехаў спаць.

Ленін пайшоў у тэлеграфную, каб звязацца з Магілёвам, са штабам Галоўнага камандуючага — перадаць ім тэлеграму Самойлы, запытаць, як вядуць сябе немцы на лініі фронту, параіць павысіць пільнасць на выпадак раптоўнай атакі: цяпер ад кайзераўцаў можна чакаць любой правакацыі, наступленне яны могуць пачаць раней, чым абвясцілі. Няхай армія будзе гатова да аднаўлення вайны!

2

Яшчэ да снедання Ленін наведаў Свярдлова. Старшыню ЦВК заява Гофмана ўстрывожыла гэтак жа, як і Старшыню Саўнаркома. Аднак гарачы і адначасова спакойны, калі трэба, да таго спакойны, што нічым не парушальны спакой гэты часам на пасяджэннях ЦВК даводзіў меншавікоў і эсэраў да прыступаў шаленства, Якаў Міхайлавіч разважыў, што патрабаваць склікання Цэнтральнага Камітэта неадкладна, раніцой, не трэба. Няхай кожны з членаў атрымае інфармацыю па сваіх каналах і «пераварыць» яе. Удзень, напэўна, будзе больш яснасці.

— Пакуль што яе гэтак жа мала ў нас з вамі, Уладзімір Ільіч, як і ў нашых апанентаў.

— Але я баюся, што Троцкі пры яго настроі, які я заўважыў уначы, будзе не праясняць, а цямніць. Пры сваёй энергіі і ўплывовасці пачне «ціснуць» на Іофе, на Урыцкага... Ды і на Бухарына, ап'янелага ад сваёй тэорыі «перманентнай сялянскай вайны», якая з'яўляецца утопіяй, абсурдам.

— Нам таксама карысна пагутарыць і з нашымі аднадумцамі, і з нашымі апанентамі. Я адчуваю, што мае адбыцца нялёгкі бой. Да яго трэба падрыхтавацца. Даручыце мне, Уладзімір Ільіч, перагаварыць з таварышамі.

Ленін згадзіўся.

Пачаўся звычайны рабочы дзень з незлічоным мноствам спраў, наведвальнікаў, папер. Але дзень гэты адрозніваўся ад іншых тым, што любое пытанне — ці то падпарадкаванне флотаў, Чарнаморскага і Балтыйскага, ці то вываз хлеба з Украіны — Ленін звязваў з

магчымым нямецкім наступленнем і вырашаў з улікам такой надзвычай небяспечнай сітуацыі.

Марыя Мікалаеўна Скрыпнік не здолела паехаць разам з Варашылавым. А выехаць ёй трэба — адпачыць, палячыцца. Ленін з размовы з Бонч-Бруевічам даведаўся, што Скрыпнік мае намер лячыцца не ў Харкаве — у Кіеве.

Уладзімір Ільіч нават гэтую паездку маленькай худзенькай жанчыны звязаў з падзеяй, ад якой залежаў лёс рэвалюцыі. Тут жа запрасіў Марыю Мікалаеўну да сябе ў кабінет.

— Вы хочаце паехаць у Кіеў?

— Так, Уладзімір Ільіч. Мне здаецца, нідзе я так не адпачну. Вы не знаеце, як я люблю Кіеў!

Ленін пранікліва паглядзеў на жанчыну.

— Мне непрыемна вам казаць, але можа здарыцца, што пан Віннічэнка, радаўцы памогуць немцам выбіць з Кіева савецкія часці. Мір не падпісаны, і немцы заявілі аб аднаўленні вайны. З Радай у іх дагавор... Узяць Кіеў — іх агульная мэта.

— Мне трэба застацца? — спытала Марыя Мікалаеўна.

— Не, не. Вы абавязкова павінны паехаць. Але перадайце гэта Мікалаю Аляксеевічу, харкаўскім таварышам. А наконт Кіева я проста хацеў папярэдзіць.

За час сумеснай работы Скрыпнік добра пазнала Уладзіміра Ільіча, умела разумець не толькі любую выказаную ім думку, але і «чытаць» нявыказанае.

— Тым больш мне трэба ехаць у Кіеў.

— Тым больш?

— У падполлі — лепшы адпачынак, Уладзімір Ільіч.

Ленін адкінуўся на спінку крэсла і засмяяўся.

— Хораша вы сказалі: у падполлі — лепшы адпачынак. У такім разе майце бальшавіцкі наказ: калі вам прыйдзецца зноў апынуцца ў падполлі — барацьба, бязлітасная барацьба супраць акупантаў! Перадайце гэта кіеўскім таварышам. У кайзераўцаў і іх прыслужнікаў не павінна быць ніводнага спакойнага дня. Трэба падняць украінскіх рабочых, сялян на партызанскую вайну супраць імперыялістычных рабаўнікоў. Народ узнімаецца. Такой будзе наша рэвалюцыйная вайна. Нас вымушаюць пайсці на яе.

— Я прынімаю гэта, Уладзімір Ільіч, як Ваша даручэнне... партыйнае даручэнне...

— Не, не! Вы едзеце адпачываць, лячыцца. Я не маю права даваць вам даручэнні. Але я прашу вас помніць гэта. Я спадзяюся на вас.

— Я не пашкадую жыцця.

Ленін дакорліва паківаў галавой.

— Не трэба так, Марыя Мікалаеўна. Жыццё трэба шкадаваць. І здароўе. Жыццё, здароўе бальшавікоў — зброя рэвалюцыі.

— Я проста хацела сказаць, што абавязкова паеду ў Кіеў. У любым выпадку.

— Выдатна,— ухваліў Ленін.— Мы дамо вам адкрыты ліст СНК, каб вам паўсюдна аказвалі садзейнічанне. Усе савецкія органы, усе ваенныя. Скажыце Мікалаю Пятровічу, каб падрыхтаваў такі ліст.

(Скрыпнік выканала дадзенае Леніну абяцанне — яна працавала ў кіеўскім падполлі пад час нямецкай акупацыі.)

Адначасова Ленін думаў пра вялікую стратэгію будучай абароны. Супраць нямецкага ўтаржэння на Украіну трэба мець моцны паўднёва-ўсходні заслон, які прыкрываў бы Адэсу, Крым, Чарнаморскі флот, Данбас.

Ідэя такая ўзнікла раней — у адказ на правакацыі былога саюзніка — каралеўскай Румыніі, якая старалася знішчыць рэвалюцыйныя атрады ў Бесарабіі. Але цяпер, калі з'явілася пагроза нямецкага нашэсця, моцны савецкі кулак на поўдні набываў зусім іншае стратэгічнае значэнне.

Рашэнне нельга адкладваць. Параіўшыся з Дыбенкам і Падвойскім, Ленін тут жа, у іх прысутнасці, прадыктаваў тэлеграму:

«Румчарод[1] Юдоўскаму для перадачы... Мураўёву, Адэса галоўнакамандуючаму Мураўёву, Румынскай вярхоўнай калегіі, народнаму сакратарыяту Украінскай рэспублікі, Антонаву.

З прычыны сур'ёзнасці становішча на Руска-Румынскім фронце і неабходнасці экстраннай падтрымкі рэвалюцыйных атрадаў у Бесарабіі галоўнакамандуючы Мураўёў і яго паўночная армія перадаюцца ў распараджэнне Румынскай вярхоўнай калегіі. Мы ні на мінуту не сумняваемся, што доблесныя героі вызвалення Кіева не затрымаюцца выканаць свой рэвалюцыйны абавязак.

Старшыня Саўнаркома Ленін» Увечары семнаццатага лютага сабраўся Цэнтральны Камітэт. Бухарын і яго аднадумцы перад пачаткам пасяджэння трымаліся насцярожана. Яны нават селі побач, як бы ахоўваючы адзін аднаго. Магчыма, баяліся, што Ленін, які, напэўна, мае большую інфармацыю, градам фактаў прымусіць іх прыкрывацца ненадзейным парасонам усё тых жа фраз, займаць абарону. А людзі гэтыя настолькі былі ўпэўнены ў сваёй непа-

---

[1] Румчарод — Цэнтральны выканаўчы камітэт Саветаў Румынскага фронту, Чарнаморскага флоту і Адэскай вобласці.— Рэд.

грэшнасці, што лічылі абарону ганьбай, ім хацелася наступаць у любой баталіі; яны ж лічылі толькі сябе сапраўднымі рэвалюцыянерамі.

Ленін прыйшоў засяроджана-задумлівы, павітаўся стрымана, ухіліўся ад усялякіх пабочных размоў, што для яго было неўласціва; звычайна яго хапала на ўсё: на сур'ёзны адказ — аднаму, на дасціпны жарт — другому. Вельмі можа быць, што гэтая глыбокая задумлівасць Уладзіміра Ільіча і насцярожыла «левых»: значыцца, сітуацыя больш складаная, чым яны ўяўляюць.

Але «левых» збіваў з панталыку Троцкі. Ён быў вясёлы, звыкла развязны, фамільярны.

Калі меркаваць па Троцкім, то нічога асаблівага не здарылася, бо хто-хто, а Леў Давыдавіч заўсёды пра ўсё даведваўся першы, тым больш пра міжнародныя справы, урэшце, гэта яго службовы абавязак. Безумоўна, Бухарыну, рэдактару «Правды», інфармацыі паступае не менш, але, як кажуць, не з першых рук.

Чаму ж такі задумлівы Ленін?

Бухарын, карыстаючыся адсутнасцю Елены Дзмітрыеўны Стасавай, якая ахоўвала парадак вядзення пасяджэнняў, памкнуўся захапіць старшынства.

Свярдлоў з далікатнай настойлівасцю прысёк яго узурпатарства:

— Мікалай Іванавіч, наколькі я помню, вы старшынствавалі на мінулым пасяджэнні? Здаецца, мая чарга. Так?

Маўчаннем члены ЦК пацвердзілі, што Свярдлоў мае рацыю: парадак ёсць парадак.

— Што ж, пачнём работу,— сказаў Якаў Міхайлавіч.— Папярэджваю: на доўгую дыскусію часу няма. Дыскусій мы правялі больш, чым трэба. Належыць прыняць канкрэтнае рашэнне па важнейшым пытанні: мір ці вайна?

Бухарын дакорліва паківаў галавой.

— Нельга так упрашчаць. Якая вайна? Войны розныя...

Ленін папрасіў слова. Але Троцкі бесцырымонна перапыніў яго:

— Я хачу зрабіць нечарговае паведамленне, каб членам ЦК было зразумела. Я па-ранейшаму лічу правакацыяй Самойлы ці Гофмана заяву аб аднаўленні ваенных дзеянняў. Я ўчора яшчэ даў радыё нямецкаму ўраду, штабу Гофмана з просьбай растлумачыць непаразуменне. Адказу няма. Тэлеграфнай сувязі не даюць ні з Брэстам, ні з Берлінам.

— Гэтага вам мала? — спытаў Ленін і звярнуўся да членаў ЦК: — Я ні на ёту не сумняваюся, што заўтра немцы пачнуць наступленне. Не трэба нас закалыхваць, таварыш Троцкі. Бесклапотнасць можа дорага абысціся.

— У страху вялікія вочы,— кінуў Урыцкі.

Ленін не адказаў на гэты бестактоўны выпад; «левыя» нярэдка вялі сябе, як гімназісты на класнай сходцы.

Ленін прадаўжаў:

— Якаў Міхайлавіч правільна сказаў: слоў было даволі, самых гучных фраз. А з фактамі нашы маладыя таварышы не хацелі лічыцца. А факты — вось яны... спыненне немцамі ўсялякіх зносін і відавочная актывізацыя іх часцей на лініі фронту. Троцкі стараецца нас закалыхаць. Не, таварышы! Цяпер мы не можам не лічыцца з фактамі. Скажам проста: еўрапейская рэвалюцыя, насуперак нашаму жаданню, пасмела запазніцца, а нямецкі імперыялізм, насуперак нашаму жаданню, пасмеў наступаць.

— Яшчэ не пасмеў,— сказаў Троцкі.

— Калі наступленне пачнецца, мы апынёмся перад катастрофай. Час рэвалюцыйных фраз мінуў. Наступіў час, каб дзейнічаць. Хадземце да рабочых, да сялян, і мы пачуем адзін адказ, што мы не можам весці вайну ні ў якім разе, у нас няма арміі, няма фізічных сіл. Масы зразумеюць нас і апраўдаюць падпісанне самага няшчаснага міру...

«Левыя» абурана заварушыліся, але змаўчалі — паважалі Леніна пры ўсёй сваёй нязгодзе з ім: Ленін ёсць Ленін.

— Таварышы, не падпісаць міру — значыцца, паддацца на правакацыю рускай буржуазіі, якая чакае наступлення немцаў, якая спадзяецца з дапамогай нямецкіх штыкоў звергнуць Савецкую ўладу. У сваіх студзеньскіх тэзісах я пісаў, што калі мы адмовімся падпісаць той мір, які нам прапанавалі, то паражэнне прымусіць Расію заключыць яшчэ больш нявыгадны сепаратны мір. І вельмі можа быць — падпіша яго іншы ўрад. Калі мы не звернемся сёння з нашай згодай прыняць брэсцкія ўмовы і будзем мець шырокае нямецкае наступленне, мы будзем вымушаны, я не сумняваюся ў гэтым, у бліжэйшыя дні прыняць больш цяжкія ўмовы, якія нам прадыктуюць. Калі толькі мы не хочам здаць рэвалюцыю на злом. Трэба сёння ж, неадкладна, не трацячы час на дыскусіі, звярнуцца да ўрада імперыялістычнай Германіі аб нашай згодзе ўступіць у новыя перагаворы для падпісання міру. Іншага выйсця ў нас няма.

За Леніным выступіў Троцкі. З непатрэбным у такой вузкай аўдыторыі пафасам ён сказаў, што не верыць у магчымасць нямецкага наступлення.

— У Германіі спыненне вайны было сустрэта з радасцю. Я веру, што наступленне выкліча сур'ёзны ўзрыў нямецкага пралетарыяту. Таму зусім лагічна, каб мы пачакалі, які эфект зробіць наступленне, калі яно ўвогуле будзе, я ўсё яшчэ сумняваюся ў яго магчымасці,

думаю, што Гофман разлічвае на псіхалагічны эфект. Урыцкі правільна вызначыў стан некаторых таварышаў: у страху вялікія вочы. У рэвалюцыянераў не павінна быць страху ні перад якімі выпрабаваннямі.

«Якая дэмагогія»,— зноў падумаў Уладзімір Ільіч.

— Наступленне? Добра, няхай будзе наступленне. Масы — і ў нас, і ў Германіі — глыбей зразумеюць сутнасць імперыялізму. Мірнымі перагаворамі мы многіх збілі з панталыку. Масы павінны пераварыць сітуацыю. Падпісанне міру цяпер жа, да наступлення, толькі ўнясе сумбур у нашы рады...

Бухарын гаварыў больш асцярожна, чым звычайна, як бы з аглядкай, без пафасу і гучных фраз.

Ленін адразу адзначыў, што Бухарын раптам злез са свайго канька — ні слова пра тое, што ў адказ на нямецкае наступленне трэба тут жа ўзняць на «рэвалюцыйную вайну» сялянства. Лідэр «левых» стараўся адцягнуць увагу ад практычнага рашэння тэарэтычнымі разважаннямі.

Бухарын сказаў:

— Згода ка мір пры даных умовах з'яўляецца капітуляцыяй перадавога атрада міжнароднага пралетарыяту перад міжнароднай буржуазіяй. Гісторыя не даруе нам.

Ленін выслухаў Бухарына да канца, але тут жа ўзяў слова паўторна.

— Давайце ўнясём яснасць, таварышы. Першая недакладнасць у выступленні Бухарына: нямецкая буржуазія ў даных умовах не ёсць «міжнародная», бо англа-французскія капіталісты вітаюць наша адмаўленне падпісаць мір. Гэта мы добра ведаем. Цяпер пра капітуляцыю. Капітуляцыя, безумоўна, рэч ганебная. Але агульнапрызнаная ісціна гэтая не вырашае кожнага асобнага палажэння, бо капітуляцыяй можна назваць ухіленне ад бою пры яўна нявыгадных умовах, а такая капітуляцыя — абавязак сур'ёзнага рэвалюцыянера. Мы не можам кідацца ў бой, загадзя ведаючы, што сілы праціўніка значна... непамерна перавышаюць нашы. І апошняе... Перадавым атрадам мы з'яўляемся ў сэнсе рэвалюцыйнага пачыну... Але каб мы сталі перадавым атрадам у сэнсе ваеннай схваткі з сіламі перадавога імперыялізму, гэта было б авантурай, недастойнай марксістаў. Нашым першым дэкрэтам быў Дэкрэт аб міры. На нашым сцягу заўсёды будзе: мір! Войны мы будзем весці толькі абараняючы сацыялістычную айчыну.

Свярдлоў зноў напомніў, што час патрабуе не дыскусіі, а канкрэтнага рашэння. З ім згадзіліся.

У пачатку галасавалася, па сутнасці, адзіная выразна выказаная ленінская думка:

— За неадкладную прапанову Германіі ўступіць у новыя перагаворы для падпісання міру.

«За» прагаласавалі Ленін, Сталін, Свярдлоў, Сакольнікаў, Смілга. («Прыхільнік» Леніна ў пытанні міру Зіноўеў на пасяджэнне не з'явіўся, хоць знаходзіўся ў Петраградзе,— ляжаў на канапе.)

Шэсць іншых членаў — Бухарын, Ломаў, Троцкі, Урыцкі, Іофе, Красцінскі — прагаласавалі супраць.

Ленін не здзівіўся, суадносіны сіл ён добра ведаў, але ў гэты позні час раптам адчуў моцную стомленасць, што накапілася за ўвесь доўгі і цяжкі дзень. Магчыма, адчуванне такое прыйшло ад думкі, што наперадзе новы этап складанай і недарэчнай барацьбы, на якую трэба траціць нямала сілы — той сілы, якая так патрэбна для абароны рэспублікі.

Але, успомніўшы, што на сённяшнім пасяджэнні «левыя» ні слова не сказалі ў абарону сваёй тэорыі, Уладзімір Ільіч нечакана прапанаваў:

— Што ж... у такім разе давайце галасаваць за рэвалюцыйную вайну..

Бухарын нечакана абурыўся:

— Пры такой пастаноўцы я адмаўляюся ад удзелу ў галасаванні.

Ломаў сказаў Леніну:

— Гэта несур'ёзна, Уладзімір Ільіч.

— Я заўсёды даказваў, што гэта несур'ёзна,— адказаў Ленін са стоенай іроніяй і амаль ужо весела: адмову «левых» галасаваць за рэвалюцыйную вайну можна, бадай, лічыць перамогай; нямецкае наступленне, напэўна, працверазіць гэтых людзей. Але якая цана будзе заплачана за іх цвярозасць?

Ленін з ранейшай увагай пачаў сачыць не толькі за тым, як хто галасуе, але і за выразамі твараў членаў ЦК, за іх рэакцыяй на словы, заўвагі. Зручны момант для пастаноўкі вельмі важнага для абароны пытання: аказваць усялякае супраціўленне ў выпадку нямецкага наступлення. Усе галасуюць за супраціўленне. Гэта ўжо, бадай, пачатак павароту, падумаў Ленін.

Стомленасць адступае, ён забываецца на яе.

Але Троцкі ў гэты міг лічыць інакш: «левыя» размяклі, разгубіліся, іх трэба падбадзёрыць, падштурхнуць, даць зразумець, што пазіцыя іх падобна на капітуляцыю перад Леніным.

Троцкі прапануе прагаласаваць за тое, каб пачакаць з узнаўленнем перагавораў аб міры, пакуль у дастатковай меры не

праявіцца нямецкае наступленне і пакуль не выявіцца яго ўплыў на рабочы рух.

«За» галасуе шасцёрка Бухарына — Троцкага.

Якаў Міхайлавіч Свярдлоў зразумеў ход ленінскай думкі: ставіць на галасаванне пытанні, супраць якіх цяжка выступіць. Ён прапануе выказацца, ці дапусціла ў прынцыпе падпісанне міру з імперыялістычнай Германіяй. «Левыя» крычалі, што з імперыялістамі ў пралетарыяту не можа быць ніякіх пагадненняў, ніякага міру — толькі вайна. Ленін увесь час даказваў абсурднасць такой тэорыі.

Усе члены ЦК выказаліся за дапусцімасць падпісання міру. Гэта яшчэ адна ступень у працверазенні ад «левага» чаду.

Але павінна быць яснасць па асноўным пытанні:

— Калі мы будзем мець як факт нямецкае наступленне, а рэвалюцыйнага ўздыму ў Германіі і Аўстрыі не наступіць, ці заключаем мы мір?

Бухарын, Ломаў, Урыцкі, Красцінскі стрымліваюцца ад галасавання. Адзін Іофе галасуе супраць.

Мяккі і добры чалавек, Іофе дрыжаў перад Троцкім. У Адольфа Абрамавіча было цяжкае псіхічнае захворванне, якое выявілася яшчэ тады, калі яны разам з Троцкім у Вене выпускалі трацкісцкую «Праўду». Адзін Троцкі ведаў пра хваробу, якую Іофе таіў, і подлым чынам карыстаўся страхам няшчаснага таварыша. (У 20-я гады Іофе быў савецкім паслом у Германіі, у Японіі, але Троцкі і там не даваў яму спакою, прымушаючы выступаць у абарону трацкізму. Іофе не вытрымаў гэтага і застрэліўся.)

Троцкі, здзівіўшы і спалохаўшы Іофе, нечакана падае свой голас за мір. Леніна гэта не здзіўляе: Троцкі дастаткова разумны і хітры, каб пасля Брэста выказвацца супраць міру з агаворкай, якая вынікала з яго ўпэўненасці ў рэвалюцыі ў Германіі. Троцкі рыхтаваў «бяскроўнае» адступленне ад сваёй пазіцыі «ні вайны, ні міру».

Як бы там ні было, але ЦК большасцю ў адзін голас выказаўся за мір.

Дамовіліся вынікі галасавання лічыць партыйнай і дзяржаўнай тайнай. Ніякай інфармацыі!

Але Ломаў (Апокаў) у тую ж ноч паслаў састаўленую ім табліцу галасавання Маскоўскаму абласному камітэту РСДРП, які ў той час трымаўся самых левых поглядаў. На адвароце табліцы Ломаў напісаў: «Сакрэтна. Толькі вузкаму саставу бюро партыі... Паведамляю пад адказнасць вузкага саставу бюро партыі з патрабаваннем найстражэйшай тайны. Асабліва строга — персанальна хто як галасаваў, бо

большасць з галасаваўшых — члены ўрада і ўзнаць вынікі для Германіі вельмі важна».

Такія прыватныя прыпіскі робяцца, калі хочуць, каб тайна была адразу вядома.

Так ішло заігрыванне з людзьмі, якія праз колькі дзён выкажуць недавер Цэнтральнаму Камітэту. Людзі гэтыя заявяць: «У інтарэсах міжнароднай рэвалюцыі мы лічым мэтазгодным ісці на магчымасць страты Савецкай улады, якая становіцца цяпер чыста фармальнай».

Ленін назаве гэта «странным и чудовищным».

## Раздзел чацвёрты
## КРОЎ НА СНЕЗЕ

### I

Яны падняліся з тыповай нямецкай пунктуальнасцю — роўна ў дванаццаць. Спачатку адна шарэнга па нячутнай, як бы цудадзейнай, камандзе вырасла з белага, некранутага (ён падаў учора) снегу — шэрыя, у рагатых касках, усё роўна што дагістарычныя істоты. Вінтоўкі з кінжальнымі штыкамі яны трымалі, як для штыкавой атакі.

За першай шарэнгай узнялася другая, трэцяя. Далей шарэнгі нельга было палічыць. Утварылася страшная сцяна.

Ударылі барабаны — і сцяна калыхнулася, закрыўшы паўнеба, рушыла па заснежаным полі да рускіх акопаў. Гэта не быў парадны марш; па глыбокім снезе нельга было ісці вядомым з часоў Фрыдрыха трыумфальным крокам. Гэта была псіхічная атака. Багуновіч бачыў такія атакі яшчэ ў пятнаццатым годзе, пасля немцы, здавалася, адмовіліся ад іх, перайшлі да атак з перабежкамі, рассыпанымі ланцугамі.

Не парадна — злавесна-пагрозліва — грымелі барабаны, заглушаючы шоргат снегу пад сотнямі ног і ўсе іншыя гукі, хоць ніякіх гукаў, бадай, не было — стаяў ціхі і... мірны дзень...

Спачатку Багуновіч па-ваеннаму прафесійна здзівіўся: як удалося нямецкаму камандаванню так нябачна і бясшумна накапіць такую масу пяхоты ў акопах пярэдняга краю? Пасля апанаваў страх, больш глыбокі, чым той, які перажыў увосень чатырнаццатага, калі маладым прапаршчыкам упершыню павёў свой узвод у атаку. Той страх быў толькі за сябе, за сваё жыццё. Гэты ж — за ўсіх: за Міру, за Пастушэнку, за салдат, за краіну, за рэвалюцыю... За ўсіх ён у адказе. А што ён можа, такі маленькі, нікчэмны, усяго адна баявая адзінка, нават не з вінтоўкай — з наганам?! Вунь той кулямётчык значыць

куды больш, чым ён, камандзір палка, бо сувязь у яго толькі з бліжэйшымі салдатамі, кіраваць палком пад час контратакі ў яго няма ні сілы, ні сродкаў. Ён, бадай, сам паставіў сябе ў нялепшае тактычнае становішча, калі гадзіну назад перанёс палкавы камандны пункт са станцыі, дзе той размяшчаўся па экспазіцыі начальніка штаба, у бліндаж першай лініі.

Па ўсіх правілах ваеннай тэорыі і практыкі гэта было неразумна, супраць гэтага пратэставаў стары тактык Пастушэнка. Але Багуновіч, добра ўсведамляючы, што ніякі план бою ў такой сітуацыі немагчымы, верыў у цуд. Жыло ў ім не яго — Мірына перакананне, што людзі настолькі паразумнелі, што не стануць страляць адзін у аднаго, калоць штыкамі. Больш проста: верыў, што немцы выйдуць з белым флагам, уступяць у перагаворы. А калі атакуюць, то ён павінен быць побач са сваімі салдатамі, якіх стрымаў ад дэмабілізацыі і зноў паслаў у акопы. Ён павінен нешта прыдумаць, каб выручыць гэтых людзей з бяды. Яму здалося, што за вярсту ад акопаў, у адноснай бяспецы, прыдумаць нешта такое ён не здолее.

Петраградцы сказалі: будуць стаяць насмерць. З салдацкай салідарнасці з суседзямі ён прымусіў свой моцна парадзелы полк заняць абарону. Але зусім не хацелася стаяць насмерць... Яму, як ніколі, хацелася жыць, таму трэба зрабіць нешта незвычайнае, сапраўды цудадзейнае, каб усе ў яго палку засталіся жыць. Не толькі ў палку. Страшна стала думаць, што ад яго каманды загінуць людзі. Хто б яны ні былі — свае, рускія, ці немцы.

Але калыхнулася шэрая сцяна, засланіўшы паўнеба — як яны блізка ў біноклі! — і Багуновіч у той жа міг зразумеў, што цуд не здарыцца, будзе страшнае пабоішча, якое для яго і яго салдат скончыцца разгромам, катастрофай.

Што ён павінен зрабіць? Даць каманду адступаць, уцякаць, паказваючы ворагу спіны? Немцы, безумоўна, ка гэта разлічваюць, таму і паднялі адразу столькі салдат, аглушаюць барабанным громам. Магчыма, ім таксама не хочацца забіваць. Але ж яны ідуць, каб захапіць нашу зямлю, нашы гарады... Мінск, да якога так блізка, дзе яго бацькі, а потым, можа, і Петраград, Маскву...

Калі разам са сваёй ротай, палком, дывізіяй паручнік Багуновіч уцякаў улетку шаснаццатага пад Пінскам, тады не было гэтага страху за Мінск, за Маскву, за народ.

Нагнуўшыся, падбег белы, што снег, камандзір другога батальёна.

— Што будзем рабіць, Сяргей Валянцінавіч? — ніколі не звяртаўся так проста, па-свойску, па-цывільнаму.

Багуновіч адарваў бінокль ад вачэй і амаль узрадаваўся, што шэры вал, які коціцца на іх, яшчэ далёка, што маецца нейкая хвіліна, каб падумаць. Чамусьці звярнуў увагу, што вецер слабы, але па полі ў бок немцаў плывуць струмені пазёмкі.

Гэты адарваны, узняты ў паветра снег здаўся сінім, хоць неба было зацягнута нізкімі шэрымі хмарамі. Не інакш як ад хмар злавесная хваля людзей, ашчаціненая штыкамі, была такой змрочна-шэрай, хоць у сапраўднасці шынялі ў немцаў зеленаватыя.

Што рабіць? Што рабіць? Стаяць насмерць? Не, супраць гэтага пратэстуе ўся яго істота. Стаяць насмерць трэба тады, калі ёсць хоць які-небудзь шанц спыніць навалу, атрымаць падмацаванне. Ён жа разумеў, што спыніць немцаў яны бяссільныя, на дапамогу ніхто не прыйдзе. Хіба Бульба сваёй батарэяй можа прыкрыць іх панічнае адступленне, уцёкі. Значыцца, бегчы — як зайцам? Не, і гэтага ён не прымаў.

Верачы ў цуд, ён загадаў без каманды не адкрываць агонь. Дзіўна, што яго яшчэ слухаюцца. Ніводнага стрэлу. Але гэта ненадоўга. Яшчэ хвіліна — і ў кагосьці не вытрымаюць нервы, хтось стрэліць. А можа здарыцца іншае — салдаты падхопяцца і пабягуць самі — да станцыі, да маёнтка. Ратуйся — хто як можа. Ганебна! Не, для салдат не ганебна. Ганебна для яго. Што ў такім разе рабіць яму? Пабегчы за імі ён не здолее. Застацца, як капітану карабля, які тоне, да канца. Але ж не здавацца ў палон. Тануць... тануць... з дапамогай уласнага нагана. Божа! Толькі ж, здаецца, пачалося жыццё, прыйшло шчасце... Ад думкі, што ў яго няма іншага выйсця, захаладала ўсяродку. Але недзе ў падсвядомасці такі варыянт здаваўся бадай што ратункам — каб салдаты пабеглі. Ратункам ад ганьбы. Яны знялі б адказнасць з яго за свае жыцці, за сваю кроў. Але ніхто не ўзнімаў над заснежанымі брустверамі нават галавы. Стаіліся, прыціхлі, як заварожаныя, зачараваныя відовішчам нямецкіх шарэнг ці громам іх барабанаў.

— Што рабіць? Будзем ваяваць!

Камандзір батальёна ўздыхнуў:

— Сатруць яны нас у снежны пыл, камандзір. Эх, была не была! Пайду сам лягу за кулямёт. Пагрэюся апошні раз. Весялей паміраць будзе.

Яго асуджанасць моцна скаланула Багуновіча. У сэрца ўдарыў новы страх, але ўжо не за полк, не за сябе, не за лёс краіны, за аднаго вельмі дарагога чалавека — за Міру.

Было, што ён пашкадаваў, прыняўшы рашэнне перанесці свой камандны пункт сюды, у акопы,— пашкадаваў у той міг, калі Міра

рашуча сказала, што пойдзе з імі — з мужам, Пастушэнкам, Сцяпанавым. Спрабавалі адгаварыць яе — яна і слухаць не стала.

— Мне сорамна, што я не зрабіла гэтага раней. Сяджу, як пісарка пры штабе!.. А дзе павінен быць бальшавіцкі агітатар?

Сяргей спахапіўся: Міра толькі што была побач — і раптам яе не стала. Ах, вунь дзе мільгае яе чырвоная касынка, выбіваючыся з-пад каўняра,— каля кулямёта. Зрабілася крышачку спакайней, што жонка як бы пад аховай самай надзейнай зброі — кулямёта.

Як павольна, аднак, яны ідуць! Не спяшаюцца. Глыбокі снег. А куды ім спяшацца? Пад нашы кулямёты?

Няўжо засталося адно, няўхільнае,— даць каманду адкрыць агонь? Парадзеюць іх шарэнгі. Сцяна, напэўна, ляжа ў снег. Але ў немцаў ёсць іншая сіла — іх артылерыя. Ад яе агню не схаваешся. На ўчастку батальёна ўсяго тры надзейныя бліндажы, па адным у кожнай роце. Ды і ў тыя не палезеш, калі не хочаш у палон. Выходзіць, усё роўна выйсце тое ж самае — бегчы ў тыл усім, хто ўратуецца ад снарадаў.

Багуновіч, чуць схіліўшы галаву, прайшоў нейкія пяць крокаў па ачышчаным ад снегу акопе, упаў грудзьмі на бруствер побач з Пастушэнкам.

— Што будзем рабіць, Пятро Пятровіч?

— Я малюся богу, галубчык.

Сяргея апанавала злосць: вопытны, мудры, спакойны чалавек, які нямала панюхаў пораху, палкоўнік не прыдумаў у такі момант нічога больш дзейснага, як малітва. Спытаў з іроніяй, якую ніколі раней не дазваляў сабе ў адносінах да Пастушэнкі:

— Спадзеяцеся, што бог паможа нам?

— Нам нічога не паможа, Сяргей Валянцінавіч.

— Я даю каманду адкрыць агонь,— са злоснай рашучасцю сказаў Багуновіч.

Ён выпрастаўся на поўны рост, глянуў у адзін бок, пасля ў другі — куды пайшоў камандзір батальёна, і... скалануўся. Ужо воддаль ад акопа насустрач злавеснай сцяне, што з калыханнем набліжалася, бегла маленькая постаць у салдацкім шынялі — як хлапчанё неразумнае — і махала чырвонай касынкай, як бы вітала чужых салдат.

Першая шарэнга немцаў усё роўна што натыкнулася на нябачны дрот, парушыла строй, у ёй, у сцяне, як бы ўтварыліся праломы.

Сяргей ірвануўся на бруствер.

— Мі-ра!

Але Пастушэнка схапіў яго за руку.

— Не трэба, дарагі мой. Не вылазьце. Вы не спыніце яе. Пабяжыце самі — будзе горш. Па адной ёй не будуць страляць. Не будуць... Яе могуць толькі ўзяць у палон.

Тым часам маленькая касынка, хоць і аддалялася, здавалася, запалымнела вялікім чырвоным сцягам — Міра, спыніўшыся крокаў за пяцьдзесят ад немцаў, высока ўзняла касынку над галавой і махала ёй.

З нашых акопаў не было чуваць яе слоў, вецер нёс іх у той бок. Моцна задыханая, яна паспела сказаць усяго тры слоевы:

— Геносз дойчэ золдатэн!

З нямецкага боку сакатнула кулямётная чарга, і жанчына ў шынялі ўпала, як падкошаная, у снег.

Вецер не пагнаў яе касынку ў нямецкі бок, яна плыла ўздоўж лініі фронту — па снежнай роўнядзі каціўся маленькі чырвоны клубочак, і не аднаму рускаму салдату здалося, што гэта паплыў струмень алай крыві агітатаркі.

Багуновіч драпаў пальцамі бруствер, ногі слізгалі па абледзянелай сцяне акопа.

Але Пастушэнка не даў яму вылезці — схапіў за плечы, пацягнуў назад у акоп.

— Не вылазьце, галубчык! Не вылазьце! Чым вы паможаце? Якія звяры! Якія звяры! Па жанчыне!

Вырваўшыся з рук палкоўніка, Сяргей не палез на бруствер — кінуўся у бліндаж, крутнуў ручку тэлефоннага апарата сувязі з батарэяй.

— Назар? Агонь, Назар! Агонь! Крышы іх, гадаў!

Калі выскачыў з бліндажа, пачуў, як захлынаціся рускія кулямёты, цяжка бухалі вінтовачныя стрэлы. Каб адпомсціць, салдаты гатовы былі кінуцца ўрукапашную. Стрымала іх хіба батарэя.

З шэлестам, як чарада невядомых птушак, праляцелі над акопам гаўбічныя снарады. Там, дзе залегла жывая сцяна, узвіхрыліся султаны снегу і зямлі.

Але яшчэ праз мінуту многагалоса рыкнулі нямецкія батарэі. Снарады іх, без прыстрэлкі, накрылі акопы.

2

Апрытомнеў Багуновіч гадзіны праз тры. Здолеў расплюшчыць вочы. Быў паўзмрок, але не начны, бо дзесьці недалёка прабівалася дзённае святло. Свядомасць вярталася не адразу — успамін пра тое, што адбылося. Спачатку ў галаве, якая, здавалася, распухла ад болю, цяжка, як валун, варухнулася самая простая думка: дзе ён, што з ім?

На якім ён свеце? На гэтым? На тым? Апрытомнеўшы, чалавеку заўсёды хочацца высветліць сваё месца на зямлі — геаграфію і становішча, бо перш-наперш уключаецца інстынкт самааховы: толькі даведаўшыся, што з табой, дзе ты апынуўся, можна шукаць паратунак. Боль, менавіта боль — мёртвым не баліць! — засведчыў, што ён жывы. Але дзе апынуўся? У акопе? У бліндажы? Змрок — як у бліндажы. Але чамусьці моцна патыхае стайняй. Адкуль? Чаму?

За вайну ён добра ўведаў, як пахне смерць — трупы, свежая кроў, чалавечая і конская, гангрэнозныя раны. Ніколі яны не пахлі канюшняй. Канём, яго потам і гноем пахла жыццё: хлеў, дзе коні стаяць, ранняя вясна, калі возяць гной на поле, свежая ралля, а тут, на вайне,— перадышка, калі не трэба забіваць, а займаешся вельмі мірнай працай — чысціш свайго скакуна, які толькі што, ў разведцы, уратаваў цябе ад смерці, ад палону, ці таго артылерыйскага цяжкавоза, што ў асенняе бездарожжа, непралазную гразь памог пры адступленні, якое ператваралася ва ўцёкі, вывезці гарматы.

Чаму так моцна пахне коньмі? І пры гэтым нязвыклая глухая цішыня — ніводнага гуку: ні галасоў, ні фыркання, ні звону цугляў.

«Дзе я? Што са мной?»

Ранены, безумоўна. Куды? У галаву? Так, галава баліць страшэнна. У ёй як бы ўтварылася пустата, тая нічыйная палаca, якая прастрэльваецца ворагам, таму немагчыма яе прайсці, прабегчы. Можна хіба перапаўзці. Так паўзла яго свядомасць — цераз правал, пустэчу — туды, назад, дзе было неба, людзі, гукі... Гукі... Ён пачуў іх — злавесны гром барабанаў. І тады памяць прарвала плаціну болю і пераадолела мёртвую зону. Усё раптам усплыло. Нямецкая атака. Маленькая постаць з чырвонай касынкай у руцэ... А потым... потым касынка кацілася па снезе...

На міг крывавы туман засланіў свядомасць, зноў утварыўся правал, бездань... Але ўсяго на міг. Тут жа быццам прарвалася ў яго мозг вунь тое блізкае дзённае святло, і падзеі выстраіліся ў іх лагічнай паслядоўнасці.

Міра! Міра хацела спыніць шэрую страшную сцяну сваім словам. Яна так верыла ў слова!..

Дзяўчынка мая наіўная! Жонка мая!

Багуновіч заплакаў, застагнаў ад болю, ад фізічнага і душэўнага.

Адразу ж над ім схіліўся знаёмы твар. Вельмі знаёмы. Але Сяргей не адразу пазнаў Пастушэнку, так той змяніўся — стары дзядуля без шапкі, з ускудлачанымі сівымі валасамі; па маршчыністых шчоках яго цяклі слёзы. Пастушэнка спытаў:

— Баліць, сынок?

Нічога ваеннага ў Пятра Пятровіча не засталося, толькі бацькоўскае — з глыбокім пакутлівым болем за неразумных дзяцей.

Сяргей прачытаў гэты боль. Аднак уразіла іншае: ён бачыў, што Пастушэнка гаворыць, але ніводнага слова яго не пачуў.

Спытаў сам:

— Дзе мы?

Свайго голасу таксама не пачуў. І тады толькі сцяміў, што цішыня такая ад таго, што ён аглух.

Памяццю пачуў свіст нямецкіх снарадаў, успомніў, як яго падкінула і, здавалася, доўга матляла ў паветры, але там, у небе, ён яшчэ нейкі час «трымаўся на нагах», а потым перавярнула і каменем кінула ўніз, ударыла галавой аб мёрзлы бруствер акопа. Ад удару ён страціў прытомнасць. І, выходзіць, аглух.

— Выпі вады, сынок.

Па вуснах Пятра Пятровіча і па фляжцы, якую той тут жа, працягнуўшы руку, узяў у некага збоку, каго не было відаць — нейкім патаемным чуццём Багуновіч пачуў прысутнасць навокал іншых людзей,— ён зразумеў, што сказаў палкоўнік.

З'явілася жаданне піць.

Мяккія ласкавыя рукі прыўзнялі яго галаву. Пастушэнка паднёс да вуснаў пляшку. Ён прагна каўтнуў ледзяной вады і закашляўся. Ад кашлю, ад натугі боль ударыў з новай сілай і на нейкі момант ён зноў праваліўся ў беспрытомнасць. Але рукі не апусцілі галаву, паднялі яе яшчэ вышэй, яго амаль пасадзілі.

Калі свядомасць вярнулася, Сяргей убачыў твар чалавека, які падтрымліваў яго галаву,— жаночы твар, з вялікімі сумнымі вачамі. Таксама знаёмы твар, вельмі знаёмы, але зноў-такі не адразу пазнаў, хто гэтая жанчына. А пазнаў — Стася! — і вельмі ўзрадаваўся, што яна тут, быццам паверыў, што толькі яна можа вярнуць яму жыццё, сілу. Але тут жа ўдарыла іншая думка: а навошта яму жыццё, калі няма Міры? Напэўна, ён заплакаў, бо Стася правяла сваёй мяккай далонню па яго абмарожаных пачарнелых шчоках. І дотыкам гэтым сапраўды вярнула яму сілу. Багуновіч зусім свядома ўбачыў, дзе знаходзіцца сам ён, іншыя людзі — у знаёмай баронскай канюшні, дзе разам з коньмі камуны стаялі іх штабныя коні.

З вачэй яго патрохі спаўзала плёнка крывавага туману. Цяпер ён бачыў, што дзённае святло цэдзіцца праз маленькія вокны стайні, і ўбачыў, што ў дальніх стойлах стаяла некалькі коней, бестурботна едучы сена, а бліжэй да яго, на падлозе, на гнаі, сядзелі людзі. Ён нават здолеў адзначыць, што салдат яго палка нямнога, большасць — батракі, камунары, старыя жанчыны, дзеці.

«Навошта яны сабраліся тут?» — няўцямна падумаў Сяргей. Прысутнасць салдат ён разумеў: іх, як і яго, як Пастушэнку, узялі ў палон і зачынілі ў канюшні перад тым, як пагрузіць у вагоны і адаслаць у Германію, у лагер ваеннапалонных. Але навошта тут жанчыны? Ён спытаў пра гэта, не пачуўшы свайго голасу. Па тым, як Стася пачала адказваць яму — з абурэннем нешта тлумачыць, зразумеў, што голас у яго не страчаны, што людзі чуюць яго, і ўзрадаваўся гэтаму.

З трудом падняў руку, дакрануўся да свайго вуха, каб паказаць, што нічога не чуе. Убачыў вочы Пятра Пятровіча, напоўненыя такой пакутай і болем, што зрабілася шкада старога чалавека, які сапраўды такі быў яму тут, на фронце, бацькам. Можа, сілы не хапіла сказаць, можа, толькі падумаў:

«Вам баліць за мяне, дарагі Пятро Пятровіч? Не трэба, не перажывайце. Я ўсё зрабіў на зямлі...»

Але тут жа ўспомніў Міру, яе смерць, і горкі камяк распухнуў у горле да таго, што не было як дыхаць, перад вачамі паплыў на гэты раз жоўта-зялёны туман, праз які імкліва ляцела чырвоная касынка — як язык гарачага полымя. Яна заслоніць Пастушэнку, Стасю, усіх людзей... Не, не засланіла, праляцела міма. З туману, які паступова бялеў, зноў выплылі заклапочаныя Стасіны вочы. Жанчына сама паіла яго, але ўжо не ледзяной вадой, а цёплай, з пахам яблык — узварам, пляшку якога захапіла з камунарскай кухні адна старая практычная жанчына і цяпер аддала, каб напаіць знявечанага камандзіра.

Узвар Багуновіч выпіў прагна; пітво вяртала сілы. Яму не хацелася жыць, але ў той жа час страшна было правальвацца ў непрытомнасць. Лепш сустрэць смерць у поўнай свядомасці, з расплюшчанымі вачамі, як належыць салдату!

Цёплае пітво вярнула сілу, але дало моцны боль ва ўсім целе; Багуновіч зразумеў, што ён моцна скачанеў, усё ў ім застыла, нават кроў, і цяпер, растаючы, балюча калола тысячамі іголак у ногі, у рукі, у твар, у грудзі.

Толькі пасля ён даведаўся, што немцы доўга не падбіралі раненых, а палонных дзве гадзіны трымалі ў полі, на сцюдзёным ветры.

Боль у целе як бы адцягнуў боль у галаве. Свядомасць прасвятлілася не толькі да ўспрымання ўласных адчуванняў, але і да ўспрымання ўсяго навакольнага.

Адбылося самае страшнае з таго, чаго ён баяўся.

Камандзір адчуваў сябе вінаватым. Нельга было з такім парадзелым палком займаць абарону. Але ж петраградцы занялі. Што ў іх?

Трывога за суседзяў — бадай, самае рэальнае вяртанне з небыцця ў жыццё. Няхай яно страшнае, жыццё, і перспектыва ва ўсіх іх змрочная — палон, але думка пра суседзяў звязалася з думкай аб лёсе ўсяго фронту, рэспублікі.

Няўжо немцы пройдуць маршам? Няўжо няма сілы, якая спыніць іх?

Паварушыўшы распухлымі вуснамі, Багуновіч спытаў.

— Што ў суседзяў? Дзе батарэя?

Пастушэнка сумна паківаў галавой.

Адчыніліся вароты канюшні, упусціўшы шырокую раку дзённага святла.

Аддзяленне салдат без касак, у шарсцяных падшлемніках, што туга абцягвалі галовы, гэта рабіла іх падобнымі на сярэдневяковых рыцараў, якія надзявалі панцырныя сеткі,— уподбег кінулася ўнутр канюшні. Выгляд іх, імклівасць спалохалі жанчын, тыя кінуліся з праходу ў стойлы, да сцен, пад драбіны, у якія закладвалі сена. У праходзе засталіся Пастушэнка, Стася і Багуновіч. Стася прытуліла кантужанага камандзіра да жэрдак стойла.

Сяргей памацаў кабуру — каб бараніць жанчын, калі салдаты пачнуць чыніць гвалт. Але кабура была пустая. Забраць зброю немцы не забыліся. Хацелася плакаць ад бяссілля. Ды салдаты нікога не кранулі. Яны прабеглі ў глыбіню стайні і вярнуліся назад, ведучы за аброць ці за грыву коней.

Багуновіч з палёгкай падумаў: выводзяць коней — значыцца, маюць намер доўга трымаць тут палонных. Гэта яго трохі ўсцешыла, бо адчуваў, што сам пакуль што не здолее ўстаць на ногі, пайсці; яго мусяць несці жанчыны ці стары Пастушэнка з такімі ж старымі камунарамі; салдаты, па іх відаць, тут усе раненыя, здаровых, напэўна, адразу пагналі ў тыл. Яму не хацелася такога ўніжэння — каб яго неслі. А пакончыць з сабой няпроста без зброі.

Разам з тым з'явілася надзея, што пройдзе яшчэ гадзіна-другая — і ён здолее стаяць на нагах. Тады ён зноў адчуе сябе салдатам. Ды раптам знадворку вярнуліся тыя ж салдаты. Гэтак жа ўподбег. Цяпер кожны з іх нёс пузаты чырвоны балон. Салдаты расстаўлялі балоны па ўсёй даўжыні праходу стайні, з пэўным інтэрвалам — па-нямецку, акуратна.

Багуновіч, глухі, з кантужанай галавой, не адразу сцяміў, што гэта такое, навошта патрэбны ў канюшні балоны. Ажно пакуль не ўбачыў, як устрывожыўся Пятро Пятровіч. Ускудлачаны, у разарванай бекешы палкоўнік кінуўся да салдат, схапіў аднаго за плячо, нешта тлумачыў, паказваючы ў той куток, дзе стоўпіліся батракі. Ды

другі салдат груба адпіхнуў старога, так, што ён зваліўся побач з Багуновічам. Але тут жа падхапіўся і, працягнуўшы рукі да камунараў, закрычаў:

— Людзі!.. Таварышы!.. Яны хочуць задушыць нас газам!

Багуновіч нібы пачуў гэты крык. Не, не пачуў — здагадаўся па тым, як падхапіліся людзі, што сядзелі перад ім. А можа, па іншым: раптам звярнуў увагу, што ў кожнага салдата вісіць цераз плячо цяжкая зялёная торба.

Балонаў такіх паручнік Багуновіч не бачыў сярод трафеяў. А торбы... торбу такую сам насіў яшчэ ў пятнаццатым годзе. Нямецкія процівагазы. Іх выдавалі афіцэрам, пакуль не нарабілі сваіх, рускіх. Аднак пры нямецкіх газавых атаках процівагазаў заўсёды не хапала, і салдаты паміралі ў страшных пакутах.

У яго не хапіла сілы абурыцца, бо ён не мог падняцца і, не чуючы свайго голасу, не надта верыў, што крык яго пачуюць іншыя. Ды хіба паможа крыкам?!

Ён зноў павольна, з прыступам ташнаты, правальваўся ў непрытомнасць — быццам апускаўся ў ваду, захлынаўся ёй, знясілены і абыякавы: усё роўна не выплыць. Канец. Боль зноў ударыў у галаву, у сэрца. Няхай бы яно разарвалася, сэрца, чым паміраць ад газу. Але памяць не памірала. Успаміны абрушыліся з сілай вадаспада. Салдаты... Маці... Міра... Міра! Як яна верыла ў нямецкіх салдат, у рэвалюцыю ў Германіі! Вось у гэтых салдат!.. Што абарвалі тваё жыццё куляй, а нас задушаць газам. Газам! Божа мой! Што не гэта робіцца?

Нямецкі салдат, што стаяў перад Багуновічам, выцягнуўся, так выцягваюцца перад высокім начальствам ці па камандзе «смірна». Сапраўды, тут жа з'явілася начальства — два нямецкія афіцэры, маёр і лейтэнант.

Аблічча маёра здалося Багуновічу знаёмым. Ад напружання памяці — дзе мог раней бачыць гэтага афіцэра? — ён зноў як усплыў на паверхню, у рэальны свет, дзе праз адчыненыя вароты лілося святло, пахла гноем і спалохана мітусіліся людзі, толькі галасоў іх не чуў — нема і глуха, як у магіле.

Пастушэнка, відно было па яго ўзбуджанай мініцы, нешта горача даводзіў маёру.

Багуновіч пазнаў маёра, як толькі побач з ім з'явіўся манах, у доўгай, да пят, сутане. Сын барона Зэйфеля — Ёган, багаслоў! А нямецкі маёр — малодшы сын, былы капітан штаба стаўкі, той, што некалі, інспектуючы іх дывізію, у карцёжнай гульні вычысціў кішэні і кашалькі ледзьве не ва ўсіх афіцэраў.

І тут з'явілася зусім іншае, жыццёвае пачуццё — гнеў, нянавісць, пагарда.

«Сукін сын! Здраднік! Шпіён! Якія ж твае заслугі перад нямецкай арміяй, калі табе далі маёра?!»

Ужо з іншым намерам, з іншай рашучасцю, перамагаючы боль у руцэ, Багуновіч мацаў кабуру, забыўшыся, што яна пустая. Аднак тут перад яго вачамі адбылося жахлівае...

Пастушэнка, убачыўшы афіцэраў і таксама, мабыць, не пазнаўшы Зэйфеля, кінуўся да яго:

— Пан маёр! Што хочуць рабіць вашы салдаты? Гэта ж газ! — паказаў ён на балон.— Яны хочуць пусціць газ на людзей? Але ж гэта мірныя людзі, тутэйшыя сяляне, батракі!.. А салдаты... салдаты — вашы палонныя. Іх абараняе канвенцыя, якую падпісала і Германія.

Маёр нямецкай арміі маўчаў, нібы не чуў гэтых слоў — аглядаў канюшню, спыніў позірк на выбітым акне, паказаў салдату на гэтае акно, сказаў па-нямецку:

— Забіць! Дошкамі!

Салдат кінуўся выконваць загад.

А стары палкоўнік рускай арміі з вострым болем у сэрцы, з роспаччу і страхам прасіў пераможцу злітавацца над няшчаснымі старымі, жанчынамі.

— Тут жа дзеці! Пан маёр!

Маёр даў загад лейтэнанту, каб дзяцей да пятнаццаці год вывелі з канюшні.

— Іх віна яшчэ невялікая,— сказаў ён, як бы апраўдваючыся.

Падышоў манах — і Пастушэнка, гэтак жа як Багуновіч, толькі цяпер пазнаў, хто намерваецца зрабіць такое страшнае злачынства.

Стары закрычаў ужо іншым голасам, з гневам:

— Барон Зэйфель! Вы хочаце адпомсціць сваім батракам?! Адумайцеся! Што вы робіце? Пан багаслоў! Спыніце вашага брата! Вечнае пракляцце ўпадзе не толькі на вашу сям'ю, але на ўсю нямецкую армію, на ўсю нацыю...

У афіцэра і манаха аднолькава пагардліва скрывіліся вусны. Ёган Зэйфель сказаў, сумна ўздыхнуўшы:

— Не турбуйцеся за нямецкую нацыю, пан палкоўнік. У немцаў ёсць бог.

— Місія нямецкай арміі і народа — знішчыць заразу бальшавізму,— жорстка кінуў Артур Зэйфель; рускія афіцэры за картамі называлі яго ласкава — Арцюша, Арцюха.

— Хто тут бальшавікі? — здзівіўся Пастушэнка.

— Вы! Вы — першы бальшавік! — рыцарская паважнасць і спакой пакінулі маёра, і ён пачаў так крычаць, што ажно пасінеў.— Вы! Здраднік цару і айчыне! Вы прадаліся быдлу! За што яны вас купілі? Ванючы дваранін! Няшчасны плебей!

Пастушэнка моўчкі выслухаў брудную лаянку. Але нават Багуновіч, нічога не чуючы, убачыў, як змяніўся за гэтую хвіліну Пятро Пятровіч. Са старога, спалоханага за жыццё людзей чалавека, разгубленага, бездапаможна мітуслівага, ён ператварыўся ў ранейшага камандзіра палка, баявога афіцэра, гордага, незалежнага, адваленага, які ніколі не схіляў галаву ні перад начальствам, ні перад варожымі кулямі.

Палкоўнік адказаў выразна, гучна:

— Сукін ты сын! Тэўтонскі пёс! Ты не дваранін. Ты ванючы клоп! Вякамі вы елі хлеб, паліты потам славян, смакталі кроў з нашага народа і служылі ворагам Расіі. Я плюю ў тваю шпіёнскую морду! Жанчын пашкадуй, кат!

У барона задрыжалі вусны. Не расціскаючы іх, ён прашыпеў:

— За вашы заслугі перад рускім народам я дару вам, палкоўнік, смерць ад нямецкай кулі... не ад газу,— і пачаў павольна выцягваць з кабуры рэвальвер.

Манах паспрабаваў спыніць брата. Той груба адпіхнуў яго.

Стася кінулася, каб загарадзіць Пастушэнку сабой, але маёр ударыў яе па твары рэвальверам. Яна ўпала.

Барон стрэліў двойчы з халоднасцю прафесійнага ката, толькі грэбліва скрывіўшы твар,— стрэліў старому чалавеку ў грудзі, у жывот.

Пастушэнка, закрыўшы далонню сэрца, адступіў крокі на два, прытуліўся спіной да цаглянага слупа і пачаў павольна асядаць на зямлю. Загаласілі жанчыны.

Багуновіч, ірвануўшыся да забойцы, ад болю і шоку страціў прытомнасць.

Зэйфель тыцкнуў у яго наском бота, кінуўшы па-нямецку лейтэнанту:

— Гэтага, калі ачуняе, будзем судзіць, як шпіёна. А потым гэтак жа цынічна-грэбліва паказаў ботам

на Стасю:

— А гэтую — салдатам на забаву.

У перадсмяротнай цішыні застукалі малаткі — салдаты забівалі вокны канюшні.

## Частка трэцяя

## УРАТАВАННЕ

### Раздзел першы
### УЛЬТЫМАТУМЫ

I

Дзень пачаўся цяжка і трывожна, хоць нішто не парушала парадку работы ў Саўнаркоме. Смольны жыў да таго часу даволі ўжо ўладкаваным жыццём. Кожны ведаў сваё месца; не было мітынгаў, гулу галасоў, тупання многіх соцень ботаў — таго, чым поўніліся калідоры і класныя пакоі былога інстытута ў першыя два месяцы Савецкай улады. Але — дзіўна! — цішыня не памагала засяродзіцца.

Ленін яшчэ ўдзень весела сказаў Гарбунову, што пры шуме рэвалюцыі яму працавалася лепш. Але добра разумеў, што прычына не ў гэтым. Цяжкая галава і трывожнае адчуванне засталіся з бяссоннай ночы. Ён лёг у чатыры гадзіны, такое здаралася нярэдка, але раней ён умеў прымусіць сябе заснуць і колькі гадзін паспаць, каб прачнуцца бадзёрым, гатовым працаваць з заўсёднай энергіяй.

Мінулую ноч яму, бадай, не ўдалося заснуць, задрамаў хіба на нейкую гадзіну, ды і ў дрымоце той узбуджаны мозг прадаўжаў работу.

Вынікі ўчарашняга пасяджэння ЦК маглі ўвогуле задаволіць. «Левыя» мусілі адступіць: ніводзін не прагаласаваў за рэвалюцыйную вайну. Нерваваўся Троцкі — рушылася яго пазіцыя. Але перамога ў палітычнай палеміцы — гэта не ўсё цяпер, пасля рэвалюцыі. Перамога справай — вось што трэба. А да такой перамогі далёка: большасць у адзін голас за фармуліроўку: «заключаем мір, калі будзем мець як факт нямецкае наступленне». Як факт... Дзіўна і сумна, што людзі, якія жадаюць вырашаць лёс рускай рэвалюцыі, разважалі, што дзеці: некаторыя верылі, што заява Гофмана — блеф, правакацыя, што можна склаўшы рукі чакаць наступлення, чакаць, якое ўражанне яно зробіць у самой Германіі. Гэта не тэарэтычная блытаніна. Гэта ўжо практычнае злачынства, калі дзеля доказу сваіх памылковых тэорый людзі гатовы ахвяраваць рэвалюцыяй, Савецкай уладай.

Нямецкае наступленне пачнецца сёння апоўдні — Ленін не сумняваўся ў гэтым ні хвіліны. Сваёй багатай фантазіяй, інтуіцыяй стратэга і тактыка Уладзімір Ільіч уявіў, як яно разгорнецца. Немцы кінуць новыя дывізіі, тэхнічна ўзброеныя, на рускую армію, знясіленую,

галодную, на дзве трэці дэмабілізаваную. Баі. Ахвяры. Кроў. Зноў кроў...

Ён думаў пра спакутаваных рускіх салдат, якіх па ўсёй былой Расійскай імперыі чакаюць маці, жонкі, дзеці. І чакае зямля! Як ім хочацца парабіць на ёй!

Ратунак адзін — мір! Толькі мір. Іншага выйсця няма. Але немцы напэўна прадыктуюць больш жорсткія ўмовы. Прыймаць любыя ўмовы! Дзеля гэтага — абвясціць вайну рэвалюцыйнаму фразёрству, палітыцы Троцкага, які, па сутнасці, не верыць ні ў рускі пралетарыят, ні ў нямецкі, ігнаруе сялянства! Трэба пачаць адкрытую барацьбу з фразёрамі і палітычнымі дылетантамі, блытанікамі. Каб ведалі партыя, рабочы клас, армія!

У бяссонную ноч пачаў складвацца план артыкула супраць рэвалюцыйнай фразы. Ленін бязлітасна выкрываў, раздзяваў і выстаўляў голымі на «свет божы» Бухарына і яго прыхільнікаў, а заадно развенчваў дэмагогію Троцкага аб тым, што, маўляў, ён ратаваў Савецкую рэспубліку ад ганьбы, сарваўшы падпісанне міру, і даў штуршок еўрапейскай рэвалюцыі. Беспардонная дэмагогія! На такую эквілібрыстыку здольны толькі Троцкі.

Вельмі хацелася падняцца і запісаць свае думкі, якія складваліся ў ёмкія фармуліроўкі. Тое, што з'яўляецца ўначы, удзень як бы прытупляецца, траціць вастрыню.

Раскрыць карані фразёрства: «рэвалюцыйная фраза часцей за ўсё бывае хваробай рэвалюцыйных партый пры такіх абставінах, калі гэтыя партыі прама ці ўскосна ажыццяўляюць сувязь, злучэнне, спляценне пралетарскіх і дробнабуржуазных элементаў і калі ход рэвалюцыйных падзей паказвае буйныя і хуткія зломы».

Абавязкова сказаць, што рэвалюцыйная фраза нараджаецца суб'ектывізмам: «Пачуцце, пажаданне, гнеў, абурэнне — вось адзіны змест гэтага лозунга...»

Не, спачатку пра сутнасць самой фразы! «Рэвалюцыйная фраза ёсць паўтарэнне рэвалюцыйных лозунгаў без уліку аб'ектыўных акалічнасцей, пры даным павароце падзей, пры даным становішчы рэчаў, маючых месца. Лозунгі надзвычай добрыя, захапляючыя, ап'яняючыя,— глебы пад імі няма,— вось сутнасць рэвалюцыйнай фразы».

Ах, як хацелася запісаць уначы! Не адважыўся. Разбудзіць жонку было шкада. Надзя, безумоўна, не спала да яго прыходу. І пасля доўга слухала, што ён не спіць, яна як бы ўмела чуць яго думкі. Ціха паклікала, перапыніўшы яго працу:

— Валодзя, ты не спіш?

Ён стаіўся, не адгукнуўся.

Яна сказала:

— Не спіць,— уздыхнула і хвілін праз колькі заснула.

Следам, здаецца, і ён задрамаў.

А цяпер, у кабінеце, Ленін быў незадаволены, што не запісаў прадуманы ад пачатку да канца артыкул. Паспрабаваў пісаць — не атрымалася. Да трывогі за тое, што мае сёння адбыцца і што можа стаць смяртэльнай пагрозай для рэспублікі, дадалася боязь, што ў такі момант у яго не хопіць сілы і часу на напісанне вельмі патрэбных для адкрытай палемікі артыкулаў.

За снеданнем Уладзімір Ільіч сказаў жонцы і сястры:

— Калі я ў студзені казаў ім, што рэвалюцыйная фраза аб рэвалюцыйнай вайне можа загубіць нашу рэвалюцыю, яны дакаралі мяне за рэзкасць палемікі.

Надзежда Канстанцінаўна і Марыя Ільінічна добра разумелі, хто «яны», і гэтак жа зразумелі, пра што Ленін думае, з-за чаго не спаў уначы: «завёўся» на палеміку, як у эміграцыі.

— Я гэта зрабіў у мяккай таварыскай форме. А сёння глыбока асуджаю сваю мяккасць.

Ленін загарнуў блакнот. Не, для тэорыі — ноч, удзень трэба займацца практычнай работай, яе нельга адкласці нават на гадзіну.

Запрасіў Бонч-Бруевіча.

У кіраўніка спраў быў стомлены выгляд, шэры твар, чырвоныя вочы — у яго таксама была бяссонная ноч. Ён выконваў свае абавязкі старшыні камісіі па барацьбе з пагромамі. Разам з Дзяржынскім і работнікамі ЧК, з камісарамі 75-га пакоя яны ачышчалі горад ад контррэвалюцыі. Гэта было ўказанне Леніна: ніякім сілам не даць узняцца супраць Савецкай улады, выкарыстаўшы нямецкае наступленне. У такі момант патрэбна асаблівая пільнасць.

— Як паводзяць сябе палонныя? — спытаў Ленін.

— Чэкісты выявілі змову нямецкіх афіцэраў з рускімі.

— Спеліся ўчарашнія ворагі? Супраць дыктатуры пралетарыяту буржуазія пойдзе на змову з самім д'яблам. Газеты эсэраў, меншавікоў поўныя праклёнаў немцам, а за кулісамі ідзе подлая змова. Паны «ўра-патрыёты» гатовы прадаць Расію Вільгельму. Прададуць каму хочаце, абы звергнуць Савецкую ўладу. Афіцэраў арыштаваць!

— Збіраем доказы, Уладзімір Ільіч.

Ленін паглядзеў на свайго старога таварыша, які звычайна разумеў яго з паўслова, са строгасцю настаўніка.

— Уладзімір Дзмітрыевіч. Разрывам перамір'я нямецкае камандаванне закрэсліла наш акт вызвалення палонных. Афіцэраў арыштаваць! Салдат выслаць у лагеры ваеннапалонных. Інакш мы можам

мецъ паўстанне немцаў у Петраградзе. Да яго тут жа далучыцца айчынная буржуазія. Не, бадай, наадварот: руская контррэвалюцыя выкарыстае немцаў. Не дайце ім зрабіць гэтага. Разбіце траянскага каня, пакуль не позна. Перадайце Дзяржынскаму і Урыцкаму —самыя рашучыя дзеянні па ачышчэнні Петраграда? Узніміце рабочыя атрады...— Ленін на міг задумаўся, пільна ўгледзеўся ў вочы Бонч-Бруевіча.— І ведаеце што, баценька? Падварушыце вы камісію па арганізацыі Чырвонай Арміі.

— Уладзімір Ільіч...

— Ведаю, ведаю, што вы загружаны вось так,— паказаў рукой вышэй галавы.— Колькі гадзін спалі?

— Гадзіны дзве.

— Нікуды не варта. Я вас пасаджу пад хатні арышт...— вочы Леніна знаёма смяяліся, з аблічча знікла бяссонная ноч, ён весела растлумачыў, калі гэта здарыцца: — Як толькі адолеем контррэвалюцыю і... падпішам мір з немцамі. Добра, лічыце з гэтага моманту камісарам камісіі па стварэнні Чырвонай Арміі Леніна. Можаце, працаваць пад маім кіраўніцтвам? — ужо зусім весела спытаў Уладзімір Ільіч.

Бонч-Бруевіч засмяяўся

— Пры такім старшыні!..

— Калі ласка, без кампліментаў,— Ленін падняўся з крэсла, прыўзняўся на насочкі, залажыў рукі пад пахі, абышоў стол, спыніўся перад кіраўніком спраў, сказаў ціха, як тайну: — Вы ўмееце гаварыць з рабочымі, Уладзімір Дзмітрыевіч...

— Гэта ж таксама камплімент.

Ленін не прыняў жарту, сказаў сур'ёзна:

— Можа здарыцца... напэўна, здарыцца, што ў бліжэйшыя дні нам прыйдзецца пасылаць на фронт многія рабочыя атрады... тысячы бальшавікоў...

Бонч-Бруевіч зразумеў, што Ленін такім чынам тлумачыць, навошта патрэбна падварушыць камісію, і разам з тым як бы апраўдваецца, чаму надзвычай перагружанаму чалавеку дае яшчэ адно вельмі адказнае даручэнне. Уладзіміру Дзмітрыевічу стала няёмка, што ён быццам бы паспрабаваў адмовіцца ад ленінскага задання. Хто-хто, а ён добра ведае, як Ленін умее глядзець уперад, ён не помніў выпадку, каб правадыр рэвалюцыі памыліўся ў палітыцы.

У кабінет увайшоў Сталін. Быў ён у фрэнчы, у цяжкіх з выгляду ботах, якія, аднак, ніколі не грукалі, нават на каменнай лесвіцы, і не рыпелі. У левай руцэ Сталін трымаў пагашаную перад тым, як зайсці да Леніна, трубку.

Ленін ступіў насустрач наркому, пацiснуў руку. Прывітаў жартам:

— Таварыш Кабо, ёсць у грузін прыказка: на лаўца і звер бяжыць?

Сталін нарысаваў трубкай на вусах і шчоках усмешку, але, пачуўшы, як ад трубкі моцна патыхае тытунём, тут жа схаваў яе ў нагрудную кішэню фрэнча.

— У грузін, таварыш Ленін, усё ёсць, як і ў кожнага народа.

— Гэта архіважна, каб нарком па справах нацыянальнасцей быў пераконаным інтэрнацыяналістам,— сказаў Ленін, звяртаючыся да Бонч-Бруевіча, які, павітаўшыся са Сталіным, стаяў у задуме, чакаў новых указанняў. Ленін, угледзеўшы, што Уладзімір Дзмітрыевіч не выяўляе сваёй, уласцівай яму дасціпнасці, зразумеў, як моцна чалавек стомлены; самога Уладзіміра Ільіча радавала, што ён раптам выйшаў з падобнага цяжкага стану, зарадзіўся зноў энергіяй, зноў гатовы працаваць хоць суткі.

Наблізіўшыся да Бонч-Бруевіча, Уладзімір Ільіч сказаў са змоўніцкай таямнічасцю:

— Ведаеце, што я вам, баценька, параю? Знайдзіце ціхі куточак і паспіце гадзінку. А потым з патроенай сілай возьмецеся за пагромшчыкаў.

Бонч-Бруевіч выйшаў.

Ленін вярнуўся ў рабочае крэсла, сеў, падсунуў да сябе ліст паперы з грыфам: «Председатель Совета Народных Комиссаров».

— Іосіф Вісарыёнавіч, апошні тыдзень мы з вамі займаліся Грузіяй у сувязі з акупацыяй туркамі Батума і Карса. Сёння нам належыць заняцца Эстляндыяй. Тэрміновая телеграма ў Рэвель! Запытаем пра апошнія даныя ваеннай разведкі. Параіць эстонскім таварышам: цвёрда азначыць і ўзмацніць ахову заходняй граніцы рэспублікі. Напад на Савецкую Эстонію, якая не знаходзіцца ў стане вайны з Германіяй, стане актам непрыкрытага імперыялістычнага разбою. Нарэшце справа з арыштаванымі за змову і здраду баронамі. Трымаць пад пільнай аховай... вывезці на ўсход... у надзейную турму. За эстонскімі баронамі — стаяць нямецкія бароны, ім трэба будзе вызваляць сваякоў. Нячыстая справа — трымаць заложнікаў. Але калі мусіш дамаўляцца з разбойнікамі, можна выкарыстаць і гэты сродак. І самае галоўнае... Рэвельскаму Савету... не тэлеграмай, з кур'ерам. Спецыяльнае распараджэнне Саўнаркома: прыняць самыя энергічныя меры да неадкладнай і поўнай эвакуацыі завода Паўночна-Заходняга таварыства ў Новарасійск. Буйнейшы завод, які выпускае

гарматы і кулямёты, ні ў якім разе не павінен апынуцца ў немцаў. Вы згодны?

— Нельга не згадзіцца, таварыш Ленін.

— У такім разе падрыхтуйце, калі ласка, тэлеграму і распараджэнне. І як мага хутчэй.

Перахоп Царскасельскай радыёстанцыяй звароту Леапольда Баварскага да салдат Усходняга фронту і нямецкага народа, як і належала, спачатку быў дасланы ў Наркамат замежных спраў.

Троцкаму яго прынеслі без затрымкі. Але нарком не паспяшаўся праінфармаваць Старшыню ўрада. Для яго больш важным была гутарка з наведвальнікам, бо наведвальнікам гэтым быў спецыяльны прадстаўнік Англіі Локарт.

Неафіцыйныя кантакты Робінса з Савецкім Урадам устрывожылі Лойд-Джорджа і Керзона. Англічане, якія пры Б'юкенене займалі самую кансерватыўную палітыку ў адносінах да бальшавіцкага ўрада — ніякага прызнання, ніякіх адносін! — раптам спалохаліся, што хітрыя амерыканцы абскачуць іх, атрымаюць у Расіі выгады і пацiснуць брытанскага льва, які даўно ўжо, раней за амерыканцаў, запусціў сваю лапу ў рускі хлеб, лес, руду.

«Уладарніца мораў» мела найбагацейшы вопыт шпіянажу і змоў супраць урадаў азіяцкіх, лацінаамерыканскіх краін, калі тыя рабілі спробы вызваліцца ад каланіяльнай залежнасці. Дык чаму не ўжыць гэтага метаду супраць Расіі?

У Лондане пачалі шукаць чалавека, які спалучаў бы ў сабе якасці хітрага дыпламата і спрытнага шпіёна. Знайшлі Локарта, былога віцэ-консула ў Маскве, маладога, рашучага, праворнага; ён амаль дасканала валодаў рускай мовай, меў шматлікія сувязі з тымі, каго рэвалюцыя вымела з пасад, у каго адабрала багацце.

Локарта перад паездкай прыняў не толькі міністр замежных спраў, але і ваенны міністр і нават сам прэм'ер.

Локарт запісаў, што сказаў яму Лойд-Джордж: гэтая частка мемуараў вядомага арганізатара антысавецкіх змоў не выклікае сумнення:

«Вы паедзеце ў Расію як спецыяльны прадстаўнік,— сказаў прэм'ер-міністр.— Я хачу, каб вы знайшлі чалавека, імя якога Робінс... Устанавіце, якія яго адносіны з Савецкім Урадам. Вывучыце ўсё гэта старанна і ўважліва. Калі вы знойдзеце яго дзеянні разумнымі, зрабіце для Англіі тое ж, чаго ён спрабуе дамагчыся для Амерыкі».

Локарт прыехаў у канцы студзеня. Спрабаваў трапіць да Леніна.

Ленін не прыняў яго.

Троцкі ў гэты час быў у Брэсце. Вярнуўшыся ў Петраград, за адзін тыдзень другі раз прынімаў Локарта.

Англічанін падабаўся Троцкаму больш, чым Робінс. У палкоўніка, у яго разважаннях, прарывалася яўнае захапленне Леніным. Гэтага Троцкі не мог вынесці, ён больш любіў, калі захапляліся ім, хоць быў мастак на какетлівую самакрытычнасць.

Локарт, нягледзячы на маладосць, рабіў уражанне сваёй практычнасцю, дзелавітасцю, адкрытасцю выказванняў, а больш усяго — веданнем Расіі. Напрыклад, пра Поўнач — Мурманск, Архангельск, пра багацці таго краю, ён ведаў больш за Троцкага. Пра сілы немцаў у Ледавітым акіяне, пра іх блакаду Баранцавага пабярэжжа, пра планы нямецкага генеральнага штаба наконт Арктыкі ён гаварыў з веданнем прафесійнага ваеннага. Пра англійскія планы, безумоўна, маўчаў.

Троцкі вёў перагаворы аб той дапамозе, якую Савецкая Расія можа атрымаць ад Англіі, калі адновіцца вайна з Германіяй.

Ён, які на пасяджэнні ЦК партыі даводзіў, што немцы не здолеюць наступаць, англійскаму прадстаўніку сказаў іншае. Апраўдаў сваю двурушнасць неабходнасцю дыпламатыі. У сапраўднасці ён зноў іграў на сусветную вядомасць. А для «ўнутранага ўжывання» — на сваю аб'ектыўнасць. Няхай Ленін ведае, што з «левымі» ў яго прынцыповыя разыходжанні, ён не такі цвердалобы, як Бухарын, каб адмаўляцца ад усялякіх кантактаў з імперыялістамі.

На першай сустрэчы Троцкі даволі рэзка выказаў крыўду за яго інтэрніраванне англічанамі ў Канадзе, у Галіфаксе, калі ён з сям'ёй вяртаўся з Нью-Йорка.

Локарт адразу сцяміў, што напалоханая рэвалюцыяй англійская контрразведка перастаралася. Ён тут жа перадаў крыўду Троцкага Керзону.

Гэтая, другая размова пачалася з таго, што Локарт ад імя міністэрства замежных спраў Вялікабрытаніі папрасіў прабачэння: маўляў, затрымалі яго ваенныя ўлады дамініёна, а ваенныя заўсёды дрэнныя дыпламаты.

Прабачэнне пацешыла самалюбства Троцкага.

«Вось так з імі трэба размаўляць, так сцвярджаць сваё імя ў свеце»,— падумаў ён.

Размова набыла іншую танальнасць — зрабілася больш даверлівай.

Англічанам Троцкі абяцаў не больш, чым амерыканцам, але рабіў гэта больш адкрыта, зноў-такі з разлікам на Леніна — няхай ведае, што ён, Троцкі, таксама дбае пра абарону рэспублікі.

Перахоп нямецкага радыё прынеслі пры Локарце.

Любы міністр замежных спраў неадкладна ўдарыў бы ў звон: вайна!

Троцкі гэтага не зрабіў. Залкінда, які прынёс радыёграму, глыбока здзівіў спакой наркома.

Троцкага не збянтэжыла, што зварот яўна сведчыў аб аднаўленні вайны, а гэта абвяргала яго сцвярджэнне, што немцы не адважацца наступаць, Ён выдатна валодаў уменнем любое сваё выказванне, любую думку павярнуць у выгадны яму ў даны момант бок.

Каб падтрымаць «левых» супраць Леніна, ён не заклікаў да, рэвалюцыйнай вайны, не, ён проста настойліва выказваў веру ў рэвалюцыю ў Германіі. Хто запярэчыць супраць гэтага?

У сапраўднасці Троцкі лепш, чым хто, ведаў, што наступаць Гофман можа: у Брэсце ваяўнічы настрой прусака ён чуў і бачыў дысцыпліну яго салдат. Але Троцкі не быў бы Троцкім, каб не выкарыстаў магчымасці стварыць для партыі і Леніна цяжкую сітуацыю, можа, самую цяжкую з усіх, якія былі ў рэвалюцыі раней. Гэта, бадай, больш сур'ёзна, чым каменеўска-зіноўеўскае штрэйкбрэхерства напярэдадні паўстання ці іх спроба ўстанавіць саюз з меншавікамі і эсэрамі праз тыдзень пасля ўзяцця ўлады бальшавікамі.

Троцкі спакойна скончыў размову з упаўнаважаным Лойд-Джорджа. На развітанне зрабіў Локарту падарунак: прачытаў яму нямецкі зварот, пераклаўшы тэкст не на рускую — на англійскую мову, хоць дагэтуль размаўлялі па-руску. Угледзеўшы, што Локарт не хавае сваёй задаволенасці, сказаў:

— Цяпер у вас адкрываюцца вялікія магчымасці.

Цёпла развітаўшыся з замежным госцем, Троцкі паехаў у Смольны.

Ленін прачытаў радыёграму двойчы ці тройчы. На лбе яго з'явіліся новыя зморшчыш, на твар упаў цень, хоць на вуліцы свяціла шчодрае перадвясенняе сонца і кабінет быў заліты святлом.

Уладзімір Ільіч падкрэсліў карандашом словы: «Гістарычнай задачай Германіі здаўна было: устанавіць плаціну супраць сіл, што пагражалі з Усходу... Цяпер з Усходу пагражае новая небяспека: маральная інфекцыя. Цяперашняя хворая Расія імкнецца заразіць сваёй хваробай усе краіны свету. Супраць гэтага мы павінны змагацца».

Прачытаў па-нямецку, пасля па-руску, як бы жадаючы глыбей пранікнуць у сэнс. Сказаў Троцкаму, які пільна сачыў за выразам твару Леніна, калі той чытаў:

— Ворагі нашы не дурні, прызнаем гэта. Нямецкаму пралетарыяту яны не адважыліся раскрыць сваю галоўную мэту — задушыць рускую рэвалюцыю. Але вельмі выразна даюць зразумець імперыялістам Францыі, Англіі: не цісніце на нас на Заходнім фронце — і мы вернем Расіі цара, вернем зямлю памешчыкам, заводы капіталістам. Як вам падабаецца «маральная інфекцыя»? Няблага сказана, праўда? Хоць для ўстрашэння абывацеля можна было знайсці больш моцныя словы, нямецкая мова багатая,— на нейкі вельмі кароткі міг твар у Леніна пасвятлеў, ды тут жа насунуўся яшчэ гусцейшы цень.— У нас няма іншай зброі, як хутчэй падпісаць мір.

Троцкі змаўчаў, можна было падумаць — згадзіўся.

Ленін сказаў:

— Трэба неадкладна склікаць Цэнтральны Камітэт.

Троцкі падтрымаў:

— Так, сабрацца трэба хутчэй.

Пакуль Елена Дзмітрыеўна Стасава паведамляла членам ЦК аб тэрміновым пасяджэнні, Ленін працаваў з патроенай энергіяй.

Мэта цяпер была адна: аслабіць сілу нямецкага ўдару, даць Гофману зразумець, што без супраціўлення не здамося.

Яшчэ колькі дзён назад, уважліва вывучыўшы карту лініі фронту, Уладзімір Ільіч адзначыў, што галоўны напрамак наступлення будзе на Дзвінск. Тут немцы найбольш углыбіліся на ўсход, тут стык рускіх франтоў, Заходняга і Паўночна-заходняга, Нарэшце, Дзвінск — вузел чыгунак, узяццем яго перараразаюцца шляхі на ўсход з Беларусі, Літвы, Латвіі. Нарэшце, у Дзвінску — канцэнтрацыя армейскіх штабоў і складаў. Немцы былі б дурнямі, каб не пастараліся захапіць зброю, амуніцыю, хлеб. З Дзвінска — прамая дарога на Петраград.

Другі вальнейшы стратэгічны напрамак — на Кіеў. Паміж імі — удар на Мінск, на Оршу, каб наблізіцца не толькі да Петраграда, але і да Масквы.

Уладзімір Ільіч пайшоў у апаратную. Звязаўся з Дзвінскім Саветам. Адтуль перадалі, што з самай раніцы над горадам лётаюць нямецкія аэрапланы, па даных ваеннай разведкі, на ўчастку фронту перад Дзвінскаю з'явіліся новыя кайзераўскія дывізіі, дзве ці тры.

Ленін у адказ прадыктаваў:

— Аказвайце супраціўленне дзе толькі магчыма. Вывозьце ўсё каштоўнае. Чаго нельга вывезці, знішчайце. Не пакідайце ворагу нічога.

Мікалай Пятровічу Гарбуноў, які чуў гэтыя ўказанні, амаль дакладна напісаў іх на другі дзень, дзевятнаццатага, калі нямецкае наступленне развярнулася на ўсю сілу, у адказе Старшыні Савета

Дрысы Урбану, які пытаўся ў Леніна, што рабіць, калі немцы наблізяцца да горада.

Падпісваючы тэлеграму, Уладзімір Ільіч дапоўніў яе двума кароткімі, але вельмі ёмістымі сказамі: «Разбірайце пуці — дзве вярсты на кожныя дзесяць. Узрывайце масты».

Ленін вызначыў не толькі тактыку адступлення, але і тактыку партызанскай вайны.

Пасяджэнне ЦК было кароткае. Ленін з большай, чым раней, катэгарычнасцю патрабаваў: выступаюць толькі. прадстаўнікі ад франццый, прамоўцаў абмежаваць пяццю мінутамі; выказвацца, па сутнасці, аб адным — аб неадкладным звароце да нямецкага ўрада з прапановай аднаўлення мірных перагавораў.

Бухарын ад імя «левых» катэгарычна выступіў супраць такога звароту.

Троцкі, адводзячы ад сутнасці ленінскай прапановы, зноў, як і напярэдадні, заклікаў чакаць «псіхалагічнага эфекту», які зробіць наступленне на нямецкі народ, чакаць «узрыву ў Германіі», у які ён, маўляў, па-ранейшаму верыць.

Адным голасам перацягваюць «левыя» і трацкісты. Пераканаць гэтых людзей было немагчыма. Факты? «Калі факты пярэчаць нашым тэорыям — няхай будзе горш для фактаў» — па такой логіцы дзейнічалі Бухарын і Троцкі.

Леніну было горка ад галасавання, ад упартасці, здавалася, адукаваных людзей, ад неразумнай упартасці, за якую прыйдзецца плаціць салдатам, рабочым — крывёю плаціць.

Аднак гэта было тое паражэнне, якое абяззброіць правадыра не магло.

Дыпламатычныя меркаванні. — не выдаць Кюльману і Гофману ў часе перагавораў рознагалоссе ў кіруючай партыі, што немцы маглі б выкарыстаць,— стрымлівалі яго ад удару па Бухарыну і Троцкаму з усёй сілай яго, ленінскай, непрымірымасці да любога апартунізму. Але далей цярпець такое становішча нельга! За мір трэба пачаць адкрыты бой!

Ленін у кожнай паўзе прадаўжаў пісаць свой артыкул, пачаты ў бяссонную ноч, гасаць у думках, бо паўз, якія дазволілі б хоць на колькі хвілін узяць карандаш і схіліцца над паперай, у той крытычны, 18 лютага, дзень не было.

«Хто не хоча сябе заспакойваць словамі, дэкламацыяй, ускліканнямі, той не можа не бачыць, што «лозунг» рэвалюцыйнай вайны ў лютым 1918 года ёсць пусцейшая фраза...»

Нагадаць гісторыю галасавання!

У ЦК нашай партыі большасць (абавязкова падкрэсліць!) віднейшых праціўнікаў сепаратнага міру галасавала супраць (зноў-такі падкрэсліць!) рэвалюцыйнай вайны, галасавала супраць і ў студзені... і ўчора. Але, і ўчора. Факт гэты азначае, што немагчымасць рэвалюцыйнай вайны агульнапрызнана ўсімі, хто не баіцца глядзець праўдзе ў твар.

Ад праўды адгаворваюцца або спрабуюць адгаварыцца. (У такіх выпадках разабраць усе адгаворкі!)

Уважліва прачытаўшы Дэкрэт аб судзе і падпісаўшы яго, Уладзімір Ільіч колькі хвілін хадзіў па кабінеце, напружана абдумваючы артыкул, які трэба напісаць як можна хутчэй, каб раскрыць партыі, пралетарыяту сутнасць фразёрства. Артыкул так і назваць «Аб рэвалюцыйнай фразе».

Ітак, адгаворкі ад праўды... Першая: Францыя 1792 года пакутавала не меншай разрухай, але рэвалюцыйная вайна ўсё вылечыла, усіх натхніла, усё перамагла.

Ленін хмыкнуў. Якое марксісцкае невуцтва.

Тут жа прысеў да маленькага століка, узяў блакнот, запісаў:

«Факт той, што ў Францыі канца XVIII века стварылася спачатку эканамічная аснова новага, вышэйшага, спосабу вытворчасці, і ўжо вынікам, надбудовай з'явілася магутная рэвалюцыйная армія».

А сучасная Расія?

Ленін зноў прайшоўся па кабінеце і сказаў уголас:

— Неймаверная стомленасць ад вайны. Новага эканамічнага ладу, больш высокага, чым арганізаваны дзяржаўны капіталізм выдатна абсталяванай тэхнічна Германіі, няма. Яшчэ няма. Наш селянін мае зямлю, але ніводнага года свабодна на ёй не рабіў. Рабочы пачаў скідваць капіталіста, але не мог яшчэ паспець арганізаваць вытворчасць... павысіць прадукцыйнасць працы. Яшчэ раз сказаць, што новага, больш высокага эканамічнага ладу яшчэ няма. Будзе... На гэты шлях мы сталі. Да гэтага ідзём. Але няма яшчэ. Вось так, таварыш Бухарын! Таму ваш заклік пачаць рэвалюцыйную вайну — эканамічнае невуцтва і палітычная авантура. Рэзка? Не! Мякка. Сітуацыя патрабуе сказаць яшчэ больш моцна! І я скажу!

Усхваляваны Гарбуноў прынёс тэлеграму начальніка штаба генерала Бонч-Бруевіча: немцы пачалі наступленне па ўсёй лініі фронту, ад Рыгі да Румыніі, па разліках штаба, наступае не менш пяцідзесяці дывізій.

Ленін заказаў аўтамабіль і паехаў у Наркамат па ваенных справах.

Незвычайнасць становішча выявілася хіба ў тым, што пасяджэнне Саўнаркома пачалося не ў восем вечара, як было заведзена адразу пасля ўтварэння Савецкага Урада, а ў дзесяць. Ды яшчэ хіба ў тым, што адсутнічалі Падвойскі, Дыбенка, Дзяржынскі і Бонч-Бруевіч; першыя двое займаліся фронтам, выконваючы ўказанні Леніна, другія — бяспекай у Петраградзе. Ва ўсім іншым усё было паранейшаму. Ніякай нервознасці. Звычайны парадак дня. Звыклая для ўсіх карэкціроўка парадку Леніным: некалькі пытанняў — у «Малы Савет», перад некаторымі Уладзімір Ільіч напісаў «Адкласці» ці «Даручыць азнаёміцца». Выказаў свае меркаванні, чаму трэба адкласці ці чаму неабходна азнаёміцца.

Наркомы згадзіліся.

Яшчэ ўдзень ён дапоўніў парадак «Дакладам камісіі аб партах». Нібыта мірнае пытанне таксама было часцінкай ленінскай стратэгіі: агледзець, прывесці да ладу, узяць пад кантроль усё, што мае дачыненне да абароны,— не толькі фронт, ваеннапалонных, службы ўнутранай аховы, але і чыгункі, парты, склады, вугаль і хлеб... Аднак для размовы аб партах сакратарыят не паспеў сабраць патрэбных людзей. Прыйшлося адно з важнейшых пытанняў адкладваць. Хоць для Леніна не было малаважных пытанняў. Усё, што вырашалася,— умацоўвала эканоміку ці палітычную структуру. Асігнаванне двух мільёнаў рублёў Наркамгандальпрому... Даклад аб сабатажніках. Назначэнне старшыні Асобага камітэта па скарачэнні расходаў. Водгук Петраградскай гарадской управы на падпісаны Дэкрэт — іх заява аб непажаданасці паспешлівай нацыяналізацыі нерухомай маёмасці. У мірных умовах заяву ўправы можна было б адхіліць, але ў сувязі з нямецкім наступленнем над ёй варта падумаць: нельга не займаць прымусова будынкі для размяшчэння эвакуіраваных устаноў, людзей, раненых, але нельга і залішне варушыць «буржуазны муравейнік», штурхаць ворагаў пасіўных, якія сядзяць ціха, на актыўныя выступленні супраць Савецкай улады.

Толькі ў канцы пасяджэння Ленін паведаміў членам урада аб маштабах нямецкага наступлення. Расказаў, што зроблена ўжо і што належыць рабіць наркаматам. Папрасіў членаў урада і апарат Саўнаркома пабыць у гэтую ноч на ваенным становішчы — не раз'язджацца дадому.

— Пасля пасяджэння ЦК неабходна будзе сабрацца Саўнаркому, ад імя якога будзе паслана тэлеграма ўраду Германіі з прапановай аднаўлення мірных перагавораў.

Уладзімір Ільіч сказаў гэта з упэўненасцю, што такая тэлеграма не можа быць не паслана.

Пры гэтых словах Троцкі ўскінуў на лоб пенснэ, пасля шмаргануў сваю заўсёды ўскудлачаную бародку, аднак змаўчаў — не тая аўдыторыя! Закрыў газетай скептычную ўсмешку, але тут жа апусціў газету і дэманстрацыйна пазяхнуў.

2

Пасяджэнне ЦК, якое ў пратаколе Елена Дзмітрыеўна Стасава адзначыла як вячэрняе, у сапраўднасці сабралася ў дзве гадзіны ночы ў Таўрычаскім палацы. Там жа, у другім пакоі, у гэты ж час засядаў Цэнтральны Камітэт левых эсэраў.

Пасля Саўнаркома Ленін выслухаў даклад камандуючага войскамі Маскоўскай ваеннай акругі Муралава. Даклад зрабіў цяжкае ўражанне: сілы рэспублікі вельмі слабыя. З дзесяці карпусоў, пра якія Ленін гаварыў яшчэ ў студзені да падпісання Дэкрэта аб стварэнні Чырвонай Арміі, сфарміраваны ўсяго два, але і тыя няпоўнага камплекту. Акрамя франтавога запасу, які, напэўна, захопяць немцы, на рэзервных складах не засталося снарадаў, а заводы стаяць.

Ленін прыехаў у Таўрычаскі пад аховай усяго аднаго матроса, хоць у Петраградзе ў тую ноч было вельмі неспакойна. Колькі разоў усчыналася перастрэлка паміж атрадамі ЧК, якія чысцілі горад, і нямецкімі палоннымі, рускімі афіцэрамі, эсэраўскімі авантурыстамі, проста анархістамі-пагромшчыкамі. Контррэвалюцыі ў Петраградзе хапала ўсіх адценняў, слабасць яе была ў адсутнасці арганізацыі, адзінага цэнтра.

Ленін затрымаўся на колькі хвілін. Яго чакалі. Калі ён імкліва ўвайшоў, усе, хто ведаў Ільіча яшчэ па эміграцыі, помніў яго байцоўскія якасці, убачылі, як ваяўніча ён настроены, Не, не як баец перад атакай — як камандуючы, у якога гатова экспазіцыя будучага бою.

Троцкі заняў старшынскае месца, але ніхто не ўзняў пытанне аб працэдуры — каму весці пасяджэнне, не да гэтага было. Размову пачалі без фармальнасцей. Выступалі нібыта карэктна, але з унутраным кіпеннем.

Георгій Ломаў прапанаваў аднесці пасяджэнне на дзень, нагадаўшы народную прыказку:

— Раніца за вечар мудрэйшая.

Ленін рашуча запярэчыў:

— Адкладваць ні ў якім разе нельга. У нас павінна быць яснасць. Калі немцы не прымуць прапановы аб міры, мы вымушаны будзем прынімаць іншае рашэнне. Жартаваць з вайной нельга. Я яшчэ раз кажу, калі мы не падпішам мір на брэсцкіх умовах, мы вымушаны бу-

дзем падпісаць яго на яшчэ больш цяжкіх умовах. Аб'явіўшы рэвалюцыйную вайну, мы зляцім. Няўжо не хапае мужнасці прызнаць гэта?

Урыцкі. Вы нас пужаеце, Уладзімір Ільіч. Не будзем панікаваць і губляцца. Гэта няварта рэвалюцыянераў.

Леніну хацелася сказаць, што рэвалюцыйнае фразёрства — гэта не што іншае, як выяўленне дробнабуржуазнай разгубленасці перад бязлітаснай рэчаіснасцю. Але ён змаўчаў, каб у самым пачатку не распальваць страсці.

Троцкі. Есць звесткі аб узяцці немцамі Дзвінска. (Дзвінск быў захоплены ў дзве гадзіны дня, пра гэта ўсе ведалі яшчэ ўвечары, таму з інфармацыі наркома па замежных справах пасміхнуліся.) Есць чуткі аб наступленні на Украіну. Калі апошні факт пацвердзіцца, гэта прымусіць нас зрабіць пэўныя крокі. Але нельга не ўлічваць, што звесткі аб тым, што мы міру не падпісалі, толькі яшчэ разыходзяцца, пытанне складанае, разабрацца ў ім рабочым нялёгка. Пасылку тэлеграмы аб нашай згодзе падпісаць мір не зразумеюць ні ў нас, у Расіі, ні за мяжой. Важна, каб факты паказалі, што мы стаім пад ударамі дубіны, якая прымушае нас падпісаць мір. Нарэшце, неабходна знаць, які ўплыў зрабіла наступленне на нямецкіх рабочых. Я не сумняваюся, што нямецкі пралетарыят выступіць. Таму самая правільная тактыка з нашага боку — звярнуцца з запытаннем у Берлін і Вену, чаго яны патрабуюць.

Урыцкі. Або мы павінны далучыць два галасы прыхільнікаў падпісання міру, якія адсутнічаюць, або, наадварот, павінны падпарадкавацца тыя, хто ў меншасці.

Свярдлоў. Я не супраць таго, каб падтрымаць Урыцкага, калі гэта сказана сур'ёзна: далучыць галасы Муранава і Арцёма. З Троцкім згадзіцца нельга. Чакаць мы не можам нават да раніцы. Рашэнне трэба прыняць зараз жа.

Сталін. І яно павінна быць толькі адно — аднавіць перагаворы. Скажам сабе шчыра: немцы наступаюць, і ў нас, каб спыніць іх, няма іншай сілы, акрамя згоды на мір.

Ленін. Прапанова Урыцкага здзіўляе, калі ён патрабуе ад «меншасці» падначаліцца. Не, таварыш Урыцкі! ЦК галасаваў супраць рэвалюцыйнай вайны, а мы не маем ні вайны, ні міру і ўцягваемся ў рэвалюцыйную вайну. Яшчэ раз паўтараю: жартаваць з вайной нельга! Гульня зайшла ў такі тупік, што крах рэвалюцыі непазбежны, калі далей займаць сярэднюю лінію. Запрошваць немцаў, чаго яны хочуць,— гэта яшчэ адна тэлеграма, яшчэ адна паперка. Адзіна правільнае — прапанаваць аднавіць перагаворы. Сярэдняе рашэнне немагчыма. Мы маглі падпісаць мір, які нікольні не пагражаў рэва-

люцыі. А цяпер на карту пастаўлена тое, што мы, артуючы з вайной, аддаём рэвалюцыю немцам. Гісторыя нам скажа: вы аддалі рэвалюцыю. Цяпер не час абменьвацца нотамі. Больш чакаць нельга ні мінуты! Цяпер позна «прашчупваць», таму што ясна: немец можа наступаць. Мы спрачаемся, пішам паперкі, а яны бяруць гарады, склады, вагоны. Мы ідзём на нявыгадны дагавор і сепаратны мір таму, што ведаем, што цяпер мы не гатовыя на рэвалюцыйную вайну, што трэба ўмець пачакаць (так мы вычакалі, церпячы кабалу Керанскага, з ліпеня па кастрычнік), пачакаць, пакуль мы будзем мацней. Калі можна атрымаць архінявыгадны сепаратны мір, яго трэба абавязкова, я падкрэсліваю, абавязкова прыняць у інтарэсах сацыялістычнай рэвалюцыі, якая яшчэ слабая. Толькі калі немцы адмовяцца ад міру, тады прыйдзецца змагацца. Не таму, што гэта будзе правільнай тактыкай, а таму, што не будзе выбару. Пры такой немагчымасці не будзе патрэбы ў спрэчках аб той ці іншай тактыцы. Але пакуль выбар ёсць, трэба выбраць сепаратны мір і архінявыгадны дагавор, бо гэта ўсё ж у сто разоў лепей за становішча Бельгіі.

Іофе. Прашчупваць нямецкіх імперыялістаў сапраўды: позна ўжо. Але прашчупваць нямецкую рэвалюцыю яшчэ не позна. Учора я яшчэ думаў, што немцы наступаць не будуць. Калі яны наступаюць, значыцца, у іх перамаглі мілітарысцкія партыі. Цяпер яны не згодзяцца на ранейшы мір, яны запатрабуюць неўмяшання ў справы Ліфляндыі, Эстляндыі, Фінляндыі, Украіны. Але мне здаецца, што мір абавязкова трэба было б падпісаць толькі ў тым выпадку, каб нашы войскі ўцякалі ў паніцы, з абурэннем супраць нас, каб народ патрабаваў ад нас міру. Пакуль гэтага няма, мы па-ранейшаму павінны біць на сусветную рэвалюцыю.

Троцкі. Я хачу нагадаць, што тэрмін «прашчупаць» немцаў належыць Леніну. Перагаворамі ў Брэст-Літоўску мы ажыццяўлялі гэты план. Нам не ўдалося яго выканаць, бо Гофман прад'явіў ультыматум. Лічу, што тактыка «прашчупвання» можа быць прадоўжана. Нам трэба даведацца, чаго яны хочуць. Кантрыбуцыі? Польшчу? Эстляндыю? Толькі ведаючы гэта, мы можам выпрацаваць новую тактыку.

Троцкі кожным сваім выступленнем у ЦК, у ЦВК, у Саўнаркоме (пазней — у артыкулах) стараўся апраўдаць сваю брэсцкую пазіцыю, даказаць, што, маўляў, быў агульны план «прашчупвання» кайзераўскага ўрада, і ўсюды замоўчваў яснае, як сонечны дзень, ленінскае ўказанне: мы манеўруем да ультыматуму, пасля ультыматуму — здаём і падпісваем мір.

Так Троцкі выступаў і на гэтым пасяджэнні ЦК — блытана і хітра. Сваёй дэмагогіяй ён дамагаўся яшчэ адной мэты: натхніць «левых», якія пад логікай фактаў і ленінскіх доказаў пачалі «скісаць».

Недарэмна Бухарын, які суткі назад не толькі не выказаўся за рэвалюцыйную вайну, але нават абурыўся, калі паставілі так пытанне, і адмовіўся ад галасавання, раптам пачаў ваяўніча даводзіць, што іншага шляху няма, як рэвалюцыйная вайна. Яго, маўляў, здзіўляе, калі гавораць пра «ігру з вайной». Наадварот, падзеі разгортваюцца так, як і павінны разгортвацца ў рэвалюцыі. Яны, «левыя», маўляў, усё прадбачылі. (Якія празорцы!) У Бухарина нават хапіла нахабства сказаць, што Ленін недаацэньвае сацыяльныя сілы рэвалюцыі гэтак жа, як некаторыя (Каменеў, Зіноўеў) недаацэньвалі іх да паўстання.

— У часе паўстання мы атрымоўвалі перамогі, хоць у нас была неразбярыха, а ў Керанскага арганізаванасць. Мы заўсёды казалі, што або руская рэвалюцыя разгорнецца, або загіне пад націскам імперыялізму. Зараз нямецкім імперыялістам няма сэнсу прыймаць мір, яны ідуць va banke. Ім трэба Украіна. Цяпер у нас няма ніякай магчымасці адкласці бой супраць імперыялізму, які ідзе на рэвалюцыю. Калі нават немцы захопяць Пiцер, рабочыя не здадуцца, яны пачнуць паўстанне супраць акупантаў. Мы можам і мужыкоў нацкаваць на немцаў. У нас ёсць толькі наша старая тактыка — тактыка сусветнай рэвалюцыі.

Ленін моўчкі слухаў, пакуль Бухарын выступаў, толькі на твары адбівалася здзіўленне, але ён не ўзнімаў галавы ад блакнота, у які хутка нешта занатоўваў. Дарэчы, самалюбівага, самаўпэўненага, задзірыстага Мікалая Іванавіча гэта натхняла — што Ленін запісвае яго прамову. У часе выступлення іншых Ленін браўся за карандаш рэдка. На самай справе Ленін не Бухарына канспектаваў, а распрацоўваў свой адказ яму — новыя тэзісы артыкула, які сёння-заўтра абавязкова трэба напісаць і апублікаваць.

Ленін амаль з задавальненнем адзначаў, што Бухарын абагульнена паўтараў усе тыя левыя фразы, свае і сваіх аднадумцаў, на якія ён, Ленін, ужо адказаў у артыкуле, што амаль цалкам склаўся ў галаве. Бухарын проста памагаў «аддзяліць метал ад руды», выкрышталізаваць галоўнае, кампазіцыйна арганізаваць. Ленін занатоўваў гэта. Ленін узбройваўся для рашучага бою.

Уладзімір Ільіч выступіў адразу пасля Бухарына. Спачатку сказаў спакойна, бадай, з паблажлівай іроніяй:

— Бухарын не заўважыў, што ён зноў перайшоў на пазіцыю рэвалюцыйнай вайны.

Пасля па-ленінску горача, чуць павысіўшы голас, пачаў разбіваць усе «адгаворкі» «левых», а заадно і тэорыю Троцкага.

Давёўшы марксісцкую непісьменнасць тых, хто параўноўваў Расію 1918 года з Францыяй 1792 года, Ленін пачаў развенчваць гора-палітыкаў, якія сцвярджалі, што немцы не адолеюць наступаць:

— У чым была крыніца памылкі, якую рэвалюцыянеры сапраўдныя (а не рэвалюцыянеры пачуцця) павінны ўмець прызнаць і прадумаць? Хіба ў тым, што ўвогуле мы манеўравалі і агітавалі ў сувязі з перагаворамі аб міры? Не. Не ў гэтым. Манеўраваць і агітаваць трэба было. Але трэба было таксама вызначыць «свой час» як для манеўраў і агітацыі — пакуль можна было манеўраваць і агітаваць,— так і для спынення ўсялякіх манеўраў у момант, калі пытанне стала рабром.

Гэта быў удар па Троцкім.

Што датычыць «левых», то трэба паказаць ім самім і ўсёй партыі, што яны не авалодалі нават азбукай марксізму і рэвалюцыі.

— Мы бачылі, мы ведалі, мы растлумачвалі рабочым: войны вядуць урады. Каб спыніць вайну буржуазную, трэба звергнуць буржуазны ўрад. Заява: «германцы не змогуць наступаць» раўнялася таму заяве: «мы знаем, што ўрад Германіі ў бліжэйшыя тыдні будзе звергнуты». На справе мы гэтага не ведалі і ведаць не маглі, і таму заява была фразай...

Ленін гаварыў хутка, гатовымі формуламі, на развагу не было часу. Аднак барацьба патрабавала не толькі практыкі, але і тэорыі. Стасава паспявала занатоўваць толькі сэнс некаторых практычных думак. Такіх, напрыклад: «На рэвалюцыйную вайну мужык не пойдзе — і скіне ўсякага, хто адкрыта гэта скажа».

Стасава хвалявалася, ёй здавалася, што Уладзімір Ільіч залішне рэзкі, можа распаліць страсці, выклікаць на сябе агонь «маладых».

А між тым Ленін «сек» яшчэ мацней:

— Варыянтам той жа фразістай бяссэнсіцы з'яўляецца сцвярджэнне Бухарына, Урыцкага, Іофе: супрацоўляючыся нямецкаму імперыялізму, мы памагаем нямецкай рэвалюцыі, мы набліжаем гэтым перамогу Лібкнехта над Вільгельмам. Так, перамога Лібкнехта пазбавіць нас ад вынікаў любога нашага глупства. Але ці маем мы права гэтым апраўдваць глупства? Ці ўсялякае супраціўленне нямецкаму імперыялізму памагае нямецкай рэвалюцыі?

Мы, марксісты, ганарыліся заўсёды тым, што строгім улікам класавых сіл і класавых узаемаадносін вызначалі мэтазгоднасць той ці іншай формы барацьбы. Мы казалі: не заўсёды мэтазгодна паўстанне, без вядомых масавых перадумоў яно ёсць авантура...

Ломаў-Апокаў звычайна рабіў выгляд, што слухае Леніна без павышанай увагі, як любога іншага, каб падкрэсліць гэтым, што ўсе яны, члены ЦК, маўляў, роўныя і адказнасць за рэвалюцыю ў іх роўная. На гэты раз Георгій Іпалітавіч высока ўскінуў клінок сваёй маладой бародкі і слухаў, хоць і не згаджаючыся, не без захаплення: якая логіка! якая пераконанасць! Пафасу і ў «левых» хапае, а вось такой тэарэтычнай глыбіні бракуе. У Бухарына больш эмоцый, чым тэорыі.

— Ясна для ўсіх, акрамя хіба тых, хто ап'янеў ад уласных фраз, што ісці ка сур'ёзнае паўстанцкае ці ваеннае сутыкненне заведама без сіл, заведама без арміі ёсць авантура, якая не памагае нямецкім рабочым, а ўскладняе іх барацьбу і аблягчае справу іх ворага і нашага ворага.

Стасава лаканічна запісала ў пратаколе:

«Калі мы аддамо Фінляндыю, Ліфляндыю і Эстляндыю — рэвалюцыя не страчана. Тыя перспектывы, якімі ўчора нас палохаў тав. Іофе, ні малейшым чынам не губяць рэвалюцыі».

Ленін гаварыў больш, Ленін сказаў тое, што праз тры дні прачыталі мільёны людзей.

— Давайце «тэарэтычна разгледзім гэты довад: што вышэй — права нацый на самавызначэнне ці сацыялізм? Сацыялізм вышэй.

Ці ж дазволена з-за парушэння права нацый на самавызначэнне аддаваць на з'ядзенне Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, падстаўляць яе пад удары імперыялізму ў момант, калі імперыялізм заведама мацней, Савецкая рэспубліка заведама слабей?

Не. Не дазволена. Гэта не сацыялістычная, гэта буржуазная палітыка ».

Ломаў, які любіў «падводзіць вынікі», адчуваў сваю бяссільнасць, каб запярэчыць Леніну. Ён абмежаваў сваё выступленне паўторам левых лозунгаў: «З максімальнай энергіяй развіваць нашу тактыку сусветнай рэвалюцыі».

Зіноўеў быццам бы падтрымліваў Леніна, але цягнуўся да Троцкага.

— Уладзімір Ільіч кажа,— падкрэсліваў ён сваю блізкасць да Леніна,— што, калі яны патрабуюць неўмяшання ва ўкраінскія справы, мы павінны прыняць і гэта. Але пытанне — якога неўмяшання яны патрабуюць? Таму я згодзен з таварышам Троцкім — даведацца, чаго яны хочуць. Калі ён сваёй тэлеграмай хоча даць больш, трэба прыняць яго прапанову.

За прапанову Леніна прагаласавала большасць. Супраць галасавалі Бухарын, Урыцкі, Іофе, Ломаў, Красцінскі. Елена Дзмітрыеўна Стасава, на якую моцна «нацiскалі» «левыя», устрымалася.

Было даручана Леніну і Троцкаму выпрацаваць тэкст радыёграмы. За змест прыйшлося таксама змагацца. «Левыя» ажно «білі капытамі», не згаджаючыся, што Савецкі Урад гатовы прыняць і больш цяжкія ўмовы. Але новае галасаванне замацавала перамогу Леніна.

Тады Троцкі ўнёс прапанову, каб сумеснае рашэнне ЦК партыі бальшавікоў і ЦК партыі левых эсэраў лічыць за рашэнне Саўнаркома. Маўляў, позна, усе стомленыя, справа патрабуе тэрміновасці, таму збіраць Саўнарком няма патрэбы. А па сутнасці гэта быў хітры і злавесны ход. Троцкі хораша ведаў эсэраў. Людзі, што вылілі рэчкі слёз аб лёсе рускага мужыка, гатовы былі з надзвычайнай лёгкасцю, у імя фразы, кінуць гэтага няшчаснага мужыка пад нямецкія гарматы.

Гісторыя не пакінула слядоў сумеснага пасяджэння Цэнтральных Камітэтаў абедзвюх партый, члены якіх уваходзілі ва ўрад. Ніякага пратакола. Есць толькі адзін дакумент — справаздача ў маскоўскай газеце «Социал-демократ». Ці не таму, што Маскоўскі камітэт усё яшчэ трымаўся левых поглядаў? Ці не Бухарын з Ламавым паспяшаліся гэтак падтрымаць сваіх аднадумцаў?

Нататка так і называлася: «Вайна ці мір?» У ёй паведамлялася:

«Уначы адбылося пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта бальшавікоў і Цэнтральнага Камітэта левых эсэраў. Упачатку пасяджэнні праходзілі асобна, потым было наладжана сумеснае пасяджэнне. Высветліліся дзве плыні: адна за тое, што Расія ваяваць не можа і што неабходна падпісаць мір на тых умовах, якія нам дыктуюць, але гэтая плынь аказалася ў меншасці. Большасць трымалася таго пункту гледжання, што рэвалюцыя руская вытрымае новае выпрабаванне; вырашана супраціўляцца да апошняй магчымасці».

Гэта публікавалася пасля таго, як у чатыры гадзіны ночы Саўнарком ухваліў ленінскі тэкст радыёграмы нямецкаму ўраду і яна была паслана.

У пяць гадзін раніцы Уладзімір Ільіч пачаў нарэшце артыкул «Аб рэвалюцыйнай фразе». Ён ужо ўяўляў яго аб'ём — каля двух дзесяткаў старонак. Напісаць іх нават пры тым, што ўсё дасканалым прадумана і праверана выступленнямі,— патрэбны час. А яго няма. Аднак адкладваць такую працу немагчыма, гэта ўсё роўна, што не нарабіць снарадаў, калі вораг наступае.

Пісаў са звыклай хуткасцю. Ад левых фразёраў ляцела шмаццё, пух.

«Калі б «адстойванне» рэвалюцыйнай вайны, скажам, піцерскай і маскоўскай арганізацыяй не было фразай, то мы бачылі б з кастрычніка па студзень іншыя факты: мы бачылі б рашучую барацьбу супроць дэмабілізацыі з іх боку. Нічога падобнага не было і ў паміне».

Працу перапыніў Бонч-Бруевіч.

Уладзіміру Дзмітрыевічу сказалі каравульныя, што Ільіч яшчэ ў сябе, у кабінеце, у той час, калі ўсе ўжо даўно разышліся і нават варту зморвае сон. Чырвонаармеец выказваў здзіўленне і захапленне: «Калі Ільіч толькі спіць?! Вось хто не дрэмле на сваім пасту!»

Бонч-Бруевіч успомніў, як Ленін параіў яму пайсці паспаць. Было гэта ў пачатку рабочага дня. А гэты час не назавеш канцом рабочага дня — праз тры гадзіны пачнецца новы дзень, мяркуючы па ўсім, не менш напружаны і цяжкі.

Ён паслухаўся Леніна, удзень паспаў гадзіны паўтары, і гэта дало сілы працаваць ледзьве не суткі.

Цяпер ім трэба як бы памяняцца ролямі. Безумоўна, у Леніна вельмі пільная праца, калі пасля такога дня ён застаўся ў адзіноце за рабочым сталом.

Пасля кароткага вагання Уладзімір Дзмітрыевіч усё-такі наважыўся адарваць Леніна ад працы і прымусіць пайсці адпачываць.

Аднак у кабінет увайшоў не так рашуча, як удзень,— ціхенька адчыніў дзверы, ціхенька зачыніў іх за сабой і спыніўся ля парога.

Ленін глянуў на яго амаль незадаволена, але, пазнаўшы ў паўзмроку кабінета, прымірыўся:

— А-а, гэта вы.

Гарэла толькі настольная зялёная лямпа. Яна асвятляла белым святлом стол, паперу і зялёным — твар правадыра. Ад гэтага ненатуральнага асвятлення воблік Ільіча непазнавальна змяніўся, і гэта спалохала Бонч-Бруёвіча. Аднак адарваць Леніна ад пісання ён не адважыўся. Стаяў моўчкі.

Ленін умеў пісаць у вялікіх залах, на шумных сходах, пад позіркамі сотняў людзей. Але калі адчуваў, што на яго глядзіць нехта адзін, калі нават гэта быў блізкі чалавек, жонка ці сястра, ён бянтэжыўся, яму здавалася, што не зусім прыстойна — не звяртаць увагі на прысутнага, ігнараваць яго.

Так здарылася і тут.

Ленін напісаў абзац і ўзняў галаву, хмыкнуў, як бы асуджаючы самога сябе. Падняўся. Выйшаў з-за стала, узяўся за выразы камізэлькі. Спыніўся перад Бонч-Бруевічам. Сказаў строга, але весела:

— Вы немагчымы чалавек, Уладзімір Дзмітрыевіч. Што вы так глядзіце? Такім позіркам можна спалохаць. Вы спалі?

— Спаў.

— Ну вось, калі ласка — контррэвалюцыя ўзнімае галаву, а старшыня Камісcі па барацьбе з пагромамі спіць.

— Вы мне загадалі...

— Я — загадаў? М-да... Вы маеце рацыю. Спаць-такі трэба.

— Палова шостай, Уладзімір Ільіч,— нагадаў Бонч-Бруевіч.

— Што вы кажаце? — здавалася, здзівіўся Ленін, дастаў з кішэні камізэлькі гадзіннік, глянуў, пасміхваўся: — Э-э, баценька, кіраўніку спраў нельга быць такім недакладным. Усяго дваццаць тры мінуты,— і пахваліў гадзіннік швейцарскай вытворчасці: — Выдатная работа! Наша мэта — навучыцца рабіць такія ж дасканалыя машыны. Для гэтага савецкі апарат павінен працаваць з дакладнасцю майго гадзінніка,— і раптам, ступіўшы яшчэ бліжэй, спытаў вельмі сур'ёзна: — Што з ваеннапалоннымі?

— Маем паказанні, што, нягледзячы на нашу чыстку і эвакуацыю многіх тысяч палонных, выступленне ўсё ж рыхтуецца. Тыя, хто арганізаваны і ўзброены, схаваліся ў падполлі.

— У рускай буржуазіі? У былых ура-патрыётаў, якія ненавідзелі кожнага немца? Вось вам логіка класавай барацьбы! Сядайце і раскажыце падрабязна.

Бонч-Бруевіч сеў збоку стала.

Ленін вярнуўся ў рабочае крэсла і вельмі ўважліва выслухаў даклад чалавека, які ў той момант узначальваў, па сутнасці, усю барацьбу з контррэвалюцыяй у сталіцы.

Бонч-Бруевіч быў сам выдатным канспіратарам, недарэмна яму партыя даручала ахоўваць Леніна; маючы свой і братаў вопыт, ён умеў разгадаць і раскрыць канспіратыўныя хітрасці ворагаў. Але ў дадатак ён быў яшчэ і добрым прапагандыстам.

Леніну асабліва падабалася, што самыя каштоўныя паказанні далі не арыштаваныя, а нямецкія салдаты, з якімі Бонч-Бруевіч наладзіў шчырыя адносіны, каб з іх дапамогай ачысціць горад.

Афіцэр, былы сацыяліст, сам прыйшоў і паведаміў аб наяўнасці паўстанцкага цэнтра і аб з'яўленні ў Петраградзе нямецкіх тайных эмісараў.

Уладзімір Дзмітрыевіч дакладваў аб'ектыўна, але з залішняй упэўненасцю, што камісары іх Камісіі і Надзвычайнай Камісіі на чале з Феліксам Дзяржынскім абясшкодзяць любых контррэвалюцыянераў.

Леніна ж паведамленне аб з'яўленні ў Петраградзе кайзераўскіх агентаў моцна ўстрывожыла. Пры паспяховым нямецкім наступленні ка фронце — паўстанне ў сталіцы створыць не толькі чыста ваенную

складаную сітуацыю, але і палітычную. Такое выступленне натхніць рускую буржуазію, а гэта падштурхне «левых» ка новыя авантуры.

— Трэба падняць рабочых і прачысціць усе буржуазныя кварталы, усе кватэры. Немцаў лёгка выявіць,— Ленін на міг задумаўся.— Заўтра раніцой сабраць экстранную нараду тут... у мяне, у дзесяць, не пазней...

— Не рана, Уладзімір Ільіч?

— Не, не рана. Позна. Вы чаго хочаце? Дачакацца, пакуль Гофман возьме ў палон нас з вамі? Каго запрашаем? — Ленін, не задумваючыся, напісаў прозвішчы людзей, адказных за бяспеку Петраграда. На прозвішчы ў яго была здзіўляючая памяць, здаралася, што сакратарыят калектыўна не мог успомніць прозвішча патрэбнага чалавека, а Уладзімір Ільіч падказваў яго.

Аддаўшы паперку Бонч-Бруевічу, Ленін тут жа, як бы спяшаючыся з-за позняга часу, перайшоў да таго, з-за чаго забыўся ка сон і адпачынак:

— Уладзімір Дзмітрыевіч, мы чакаем адказу нямецкага ўрада на нашу радыёграму. Я даў патрэбныя распараджэнні. Але прасачыце, калі ласка, каб на Царскасельскую радыёстанцыю былі пасланы самыя надзейныя камісары. Ніякія прычыны не могуць апраўдаць непрыём намі нямецкай радыёграмы. Пастаяннае штохвіліннае дзяжурства! І яшчэ адно. Мы не можам разлічваць толькі на адну станцыю, якая да таго ж далёка. Трэба ў самы кароткі тэрмін абсталяваць радыёстанцыю Саўнаркома... тут, у Смольным.

— Нялёгкая задача,— адзначыў Боыч-Еруевіч.

— Якой бы яна ні была цяжкай, рашыць яе трэба з ваеннай аператыўнасцю і дакладнасцю. Даручаю гэта вам!

Бонч-Бруевіч падняўся па-ваеннаму.

— Зробім, Уладзімір Ільіч.

Было шэсць гадзін раніцы. Ленін паглядзеў на гадзіннік і цяжка ўздыхнуў: калі ж напісаць «Аб рэвалюцыйнай фразе» ?

Дзве гадзіны ішла нарада аб становішчы ў Петраградзе ў сувязі с магчымым выступленнем ваеннапалонных і рускай контррэвалюцыі. Ленін выслухаў даклады Дзяржынскага, Урыцкага, Бонч-Бруевіча, Зіноўева. Яны трохі заспакоілі. За мінулую ноч горад грунтоўна пачысцілі. Удалося арыштаваць закінутых з Германіі агентаў. Не вывезеных у свой час, як патрабаваў Ленін, палонных салдат Дзяржынскі прапанаваў адаслаць на заводы, невялікімі групамі, перамяшаўшы састаў груп, каб разарваць змоўніцкія сувязі: там, на заводах, немцы будуць пад пільным вокам рабочых дружын.

Раіліся, рабілі прапановы, удакладнялі, што яшчэ трэба зрабіць, хто чым павінен заняцца.

Уладзімір Ільіч слухаў уважліва, па ходу абмеркавання даваў парады. Але як толькі адчуў, што людзі папрацавалі сур'ёзна, што Петраград можна лічыць у бяспецы, тут жа злавіў сябе на тым, што працягвае «пісаць» няскончаны артыкул, бо ведаў, што «левыя» не склалі зброю.

Справы ваенныя вымушаюць адмяніць сёння некаторыя сустрэчы, аднесці на пазней пытанні гаспадарчыя. Усё аддаць абароне, змаганню за мір!

Аднаго нельга адкласці — гутаркі з Альмінскім, якога назначылі старшынёй камітэта па скарачэнні расходаў. З Міхаілам Сцяпанавічам трэба абавязкова сустрэцца! Трэба разам выпрацаваць праграму гэтага асобага, надзвычайнага і чартоўскі важнага камітэта. Бюракратыя, раздуванне штатаў, імклівы рост расходаў на апарат — такі ж вораг, як нямецкія імперыялісты, як унутраная контррэвалюцыя.

Прыняць Альмінскага. І абавязкова прыняць Цюрупу. Адбылося рашэнне ЦК аб назначэнні яго наркомам харчовага забеспячэння. Цюрупу трэба выказаць меркаванні аб хлебнай манаполіі. Аб гэтым даўно хацелася напісаць, але час... Якія кароткія суткі! А прадуктовая палітыка, хлебная манаполія, зноў жа эканомія і найстражэйшы ўлік усяго, усяго, у чым мае патрэбу пралетарыят, разам з падпісаннем міру — адзіны ратунак для Савецкай улады.

Пасля нарады, застаўшыся адзін, Уладзімір Ільіч колькі мінут думаў над тым, што скажа Альмінскаму і Цюрупу. Яшчэ ў «Халіле» ў «Дзённіку публіцыста» ён назначыў гэтыя тэмы для распрацоўкі:

«Улік і кантроль як сутнасць сацыялізму».

«Групы лятучых кантралёраў».

Удалося закрануць гэтыя тэмы ў рабоце «Як арганізаваць спаборніцтва», у дакладзе на Трэцім з'ездзе Саветаў, у некаторых вусных выступленнях. На больш дэталёвую распрацоўку не хапіла часу. Тым больш трэба падрабязна азнаёміць са сваімі меркаваннямі па гэтых вельмі важных пытаннях людзей, якія непасрэдна будуць займацца кантролем расходаў грошай і хлебам, яго нарыхтоўкай, яго размеркаваннем.

Рэвалюцыя — гэта не адны «ўра», таварышы «левыя»! Гэта — штодзённая, штохвілінная напружаная чарнавая праца!

Зноў вярнуўся да работы «Аб рэвалюцыйнай фразе». Тут, бадай, усё ўжо прадумана. Трэба толькі належным чынам выстраіць думкі — вельмі важна паслядоўнасць доказу, лагічнае развіццё палажэнняў, прастата фармуліровак. Каб любому рабочаму, салдату, селяніну ўсё

было зразумела. Даўно, на асобным лістку, які ляжаў у кішэні, запісана думка:

«Зірніце на факты адносна паводзін англа-французскай буржуазіі. Яна ўсяляк уцягвае нас цяпер у вайну з Германіяй, абяцае нам мільёны даброт, боты, бульбу, снарады, паравозы (у крэдыт... гэта не «кабала», не бойцеся! гэта «толькі» крэдыт!). Яна хоча, каб мы цяпер ваявалі з Германіяй.

Англа-французская буржуазія ставіць нам пастку: ідзіце ж, любезныя, ваяваць цяпер, мы ад гэтага вельмі добра выйграем. Германцы вас аграбяць, «заробяць» на Усходзе, дзешавей уступяць на Захадзе, а дарэчы Савецкая ўлада паляціць... Ваюйце, любезныя «саюзныя» бальшавікі, мы вам дапаможам!»

Аднак месца гэтай думцы ў канцы артыкула. Гэта акорд. Не, варта паўтарыць палажэнне з «Тэзісаў аб міры» — аб аналогіі сітуацыі з байкотам III Думы. Хвароба паўтарылася. Але сказаць, абавязкова сказаць, што час больш цяжкі, пытанне ў мільён разоў вальнейшае.

«Захварэць у такі час — значыцца рызыкаваць гібеллю рэвалюцыі».

Ленін папрасіў сакратара гадзіну нікога не прымаць.

— Мне трэба закончыць вельмі тэрміновы артыкул для «Правды».

Ды пісаў ён не больш як паўгадзіны.

Раптам з'явілася думка: адной радыёграмы мала; калі ў Германіі перамагла партыя вайны, Гофману і Кюльману лёгка зрабіць выгляд, што ніякай радыёграмы не было, утаіць яе калі не ад урада, то ад народа нямецкага.

Радыёграма друкуецца сёння ў «Правде». Але калі газета ва ўмовах вайны можа дайсці ў Германію? Ды, урэшце, газета — не дакумент для ўрада іншай краіны.

Ленін сабраў спісаныя лісткі, паклаў у папяровую папку. Імкліва выйшаў у прыёмную.

— Мікалай Пятровіч, зараз жа знайдзіце Крыленку і перадайце яму, каб неадкладна з'явіўся ў Саўнарком.

Знайсці Галоўкаверха было няпроста. З Генеральнага штаба адказалі, што ён паехаў у штаб Петраградскай акругі, адтуль пазванілі, што Крыленка паехаў да латышскіх стралкоў.

Ленін займаўся штодзённай работай. Падпісаў пастанову аб назначэнні Ізмайлава камісарам Балтыйскага флоту. Флот, якому належыць абараніць сталіцу, умацаваўся надзейнымі бальшавікамі. Уладзімір Ільіч, які так змагаўся за скарачэнне расходаў на апарат, у гэтым выпадку сам прапаноўваў на Саўнаркоме даць Ізмайлаву трох

намеснікаў. Камісар флоту павінен мець моцную групу вопытных партыйных работнікаў!

Пасля Ленін прынімаў Альмінскага. Але ў часе падпісання пастаноў і распараджэнняў і нават у часе гутарак з людзьмі Уладзімір Ільіч колькі разоў нецярпліва пытаўся: «Дзе Крыленка?»

3

Урэшце Мікалай Васільевіч Крыленка з'явіўся. Пэўна, паднімаўся на трэці паверх Смольнага ўподбег, бо ў пакоі сакратарыята, дзе распранаўся, ніяк не мог аддыхацца. Выгляд у яго быў стомлены, твар пабляднеў. У такім стане яму не хацелася ўваходзіць да Леніна, ведаў, што Уладзімір Ільіч не любіць такіх задыханых работнікаў. Есць людзі, якім хочацца паказаць сваю стомленасць, лічаць, што гэта будзе доказам таго, што яны «гараць» на працы. Крыленка быў не з такіх. Свае абавязкі галоўнакамандуючага ён выконваў няспешліва, але грунтоўна. З такім спакоем ён заняў у Магілёве стаўку Духоніна. Але тады рэвалюцыя наступала. А цяпер? Мусіць адступаць? Пакутліва было з гэтым згадзіцца. Пры такіх падзеях не дзіўна і «задыхацца».

Звычайна ўважлівы да таго, як людзі выглядаюць — бадзёра, стомлена, весела,— на гэты раз Ленін не патраціў і хвіліны на тое, каб угледзецца ў наведвальніка ці спытаць, як ён адчувае сябе, хоць Крыленка, увайшоўшы ў кабінет, яшчэ больш пабляднеў.

Ленін падняўся за рабочым сталом і адразу спытаў:

— Апошнія аператыўныя даныя?

Крыленка азірнуўся на карту, што вісела на сцяне, хацеў быў падысці да яе і па-вайсковаму далажыць Старшыні Саўнаркома пра становішча на фронце. Але тут жа перадумаў: уздыхнуў і зусім не па-вайсковаму сказаў:

— Дрэнна, Уладзімір Ільіч. Нямецкае наступленне набірае тэмп. Па сутнасці, яны ідуць маршам, па трыццаць вёрст у суткі. Палкі старой арміі панічна разбягаюцца, кідаючы зброю, склады. Супраціўленне аказваюць толькі рабочыя палкі. Немцы гэта зразумелі і па нашых баяздольных часцях наносяць самыя цяжкія ўдары. Шквальны агонь артылерыі.

Ленін выйшаў з-за стала, наблізіўся да карты, Крыленка таксама ступіў бліжэй да сцяны, дастаў з кішэні карандаш з наканечнікам, гатовы дакладваць.

Але Ленін спытаў:

— Дзе ваш штаб?

— Аператыўная група пераехала з Магілёва ў Смаленск. Службы тылу адцягваем глыбей — у Маскву.

— Стаўка павінна быць у Петраградзе! Так разумейце ваш выклік сюды!

— Слухаюся, таварыш Ленін!

Уладзімір Ільіч прайшоў да акна, хвіліну пастаяў там, углядаючыся ў шэрую каламуць, што вісела над сталіцай; лютаўскі дзень быў адліжны, туманны, змрочны. Не адарваўшыся ад акна, Ленін раптам спытаў:

— Мікалай Васільевіч... вы ваенны чалавек. Скажыце: могуць немцы ўзяць Петраград?

Крыленка не чакаў такога бязлітаснага пытання і на момант разгубіўся.

Ленін хутка павярнуўся, без звыклага прыжмуру ўгледзеўся ў маладога галоўнакамандуючага. Той зразумеў, што перад Леніным нельга манеўраваць, і адказаў з той жа бязлітаснай шчырасцю:

— Могуць. Але гэтага нельга дапусціць.

Ленін адазваўся не адразу, хвіліну падумаў. Сказаў роўным голасам, але з той сілай упэўненасці, якая запальвала і натхняла людзей:

— Так, Петраград нельга здаць! Падзенне Петраграда... не, не паставіць нас на калені... але ўзніме рускую контррэвалюцыю. Цяпер ужо няма сумнення, што мэта ўрада кайзера — знішчыць Савецкую ўладу ў Расіі, на Украіне...

Ленін імкліва вярнуўся да карты і, стоячы за два крокі ад Крыленка, сказаў:

— Але адных нашых з вамі пажаданняў мала. Трэба дзейнічаць, не трацячы ні хвіліны. Нельга займацца фразёрствам, як Бухарын. Тры месяцы крычыць пра рэвалюцыйную вайну і не паварушыў пальцам, каб стварыць новую армію. Левыя фразёры, калі іх не спыніць, прывядуць нас да катастрофы. Што робіцца для абароны Петраграда?

Крыленка пачаў дакладваць.

Ленін перапыніў яго:

— Прабачце, Мікалай Васільевіч. Карта Петраградскага раёна на стале. Прашу вас.

Яны стаялі каля стала плячо ў плячо.

Галоўнакамандуючы дакладваў, што зроблена ўжо і што мяркуецца зрабіць.

Ленін слухаў уважліва, моўчкі, але незадаволена хмурыўся.

Дакладчык у нейкі міг убачыў гэта і змоўк на паўслове.

— Мала. Вельмі мала мы робім. Петраград з поўдня трэба прыкрыць дзвюма, а то і трыма лініямі акопаў, бліжняй і дальняй.

— У нас не хапае сілы, Уладзімір Ільіч.

— Сілы? Арганізуем дзесяткі тысяч рабочых... Кінем пагалоўна ўсю буржуазію, да аднаго, на капанне акопаў. Сёння ж вызначыце лінію акопаў. Накіруйце лепшых спецыялістаў па фартыфікацыі, яны павінны кіраваць усімі работамі. Падрыхтуйце загад аб стварэнні Надзвычайнага штаба Петраградскай ваеннай акругі. Штаб павінен абвясціць горад на асадным становішчы і бязлітасна падаўляць любую спробу контррэвалюцыйнага выступлення. Заўтра на пасяджэнні Саўнаркома мы прымем пастанову па абароне Петраграда. Заслухаем ваш і Альтфатэра даклады. Майце самыя свежыя даныя.

Ленін адышоў ад стала да карты раёна баявых дзеянняў.

— Наша абарона павінна быць актыўнай. Трэба тэрмінова кінуць на фронт баяздольныя часці. Калі няма сілы спыніць нямецкае наступленне, то трэба затрымаць іх рух, аслабіць націск. Узрывайце масты, разбірайце пуці. Дайце зразумець, што ў нас хапае сілы для супраціўлення, што сіла будзе расці. Толькі гэта можа прымусіць Гофмана падпісаць мір. Германія не пойдзе на доўгую вайну з намі. Яны хочуць растаптаць нас кароткім ударам.

— Рабочыя палкі рвуцца на фронт. Але яны слаба навучаны вайсковай справе.

— М-да, вось яны, вынікі фразёрства «левых». Залішне ўсе верылі ў рэвалюцыю ў Германіі. Ваенныя таварышы таксама. Ваенным гэта асабліва недаравальна.

Крыленка пачырванеў.

— Дзесяць карпусоў Чырвонай Арміі, пра якія я гаварыў яшчэ ў студзені... як яны спатрэбіліся б цяпер! — Ленін памаўчаў, неяк стомлена вярнуўся да рабочага крэсла, але не сеў. Сказаў з болем: — Так, арміі мы не маем. Ваенныя працверазелі ад рэвалюцыйных фраз?

— Працверазелі, Уладзімір Ільіч.

Ленін сеў.

— Мікалай Васільевіч, вы ўпэўнены, што наша радыёграма дайшла да ўрада Германіі?

— Радысты нямецкай станцыі ў Брэст-Літоўску адказалі, што тэкст імі прыняты.

— Мінае дзень, а мы не маем адказу. Яўна немцы імкнуцца ўглыбіцца настолькі, каб прадыктаваць нам больш цяжкія ўмовы, Я прашу вас вельмі тэрмінова знайсці надзейнага бальшавіка-афіцэра, які валодае нямецкай мовай. Дайце яму ахову — двух-трох матросаў ці салдат. Мы сёння ж пашлём парламенцёраў на лінію фронту з тэкстам пісьма Саўнаркома аб нашай згодзе падпісаць мір на

брэсцкіх умовах. І на горшых. Бо няма сумнення — Кюльман прадыктуе іх нам.

Ленін, як заўсёды, прадбачыў ход падзеі. Ён адгадаў, за што зачэпяцца немцы, каб цягнуць з адказам на прапанову аб міры.

Яшчэ раніцою Уладзімір Ільіч даў указанне радыстам станцыі ў Царскім Сяле, каб любы адказ немцаў неадкладна перадалі не ў Наркамат замежных спраў, а яму асабіста. Троцкаму нельга верыць. Троцкі можа пратрымаць радыёграму, пакуль не параіцца са сваімі хаўруснікамі. Ці не так ён зрабіў з тэлеграмай Самойлы, якую вёз ад наркамата да Смольнага тры гадзіны?

Мікалай Пятровіч Гарбуноў, іншыя сакратары за дзень адчулі, як нецярпліва Ільіч чакае адказу. Ён не выказаў гэта адкрыта, але цікавіўся, як арганізавана работа радыёстанцыі, ці надзейныя там бальшавікі, параіўшыся з Бонч-Бруевічам, паслаў на станцыю аднаго з камісараў 75-га пакоя, колькі разоў пытаўся, як ідзе абсталяванне станцыі ў Смольным.

Таму Гарбуноў не ўвайшоў — убег у кабінет, гукнуў усхвалявана:

— Радыё, Уладзімір Ільіч!

Убачыў, як на міг рука Леніна застыла над тэлефоннай трубкай, зразумеў, што Уладзімір Ільіч усхваляваўся не менш. Але нічым не выдаў свайго хвалявання. Не, бадай, выдаў тым, што не сказаў «Я слухаю», а сказаў, як пры тэлеграфных перагаворах:

— Ля апарата Ленін. Я гатовы запісваць.

Гарбуноў пільна сачыў, як Уладзімір Ільіч запісвае, не перапытваючы, вельмі засяроджана, пісаў ён нязвыкла павольна, як гімназісцкі дыктант. На твары яго не адбівалася ні абурэнне, ні трывога. Спакой Леніна заспакоіў сакратара Саўнаркома: значыцца, ёсць згода на падпісанне міру.

Не, згоды не было. Ленін прыняў радыёграму спакойна таму, што яна пацвердзіла яго здагадкі аб магчымым адказе, яшчэ ўдзень ён прадбачыў менавіта такі адказ.

Гофман пацвярджаў атрыманне радыёграмы Савецкага Урада. Але паведамляў, што «ўрад яго вялікасці імператара Вільгельма» не можа лічыць радыёграму за афіцыйны дакумент. Такі дакумент павінен быць падпісаны прэм'ерам, мець урадавую пячатку і яго належыць уручыць нямецкаму каменданту Дзвінаса.

Ленін падзякаваў начальніку радыёстанцыі і папрасіў яго быць гатовым зараз жа прыняць радыёграму ў адказ — для перадачы немцам.

Уладзімір Ільіч паглядзеў на Гарбунова і адзначыў, што той прыкметна пабляднеў. Падумаў, як многа людзей вось гэтак жа

хвалюецца, чакаючы адказу ад немцаў: нашу радыёграму яны прачыталі ў вячэрніх газетах. Падумаў і пра тых, хто парадаваўся б маўчанню ці катэгарычнай адмове нямецкіх мілітарыстаў падпісаць мір. Сумна ўздыхнуў ад думкі, што разам з рускай буржуазіяй, з контррэвалюцыянерамі радаваліся б людзі, што займаюць высокія савецкія пасты. Гарбуноў яшчэ больш збялеў, пачуўшы, як уздыхнуў Ільіч.

— Дрэнна, Уладзімір Ільіч?

Ленін адказаў нечакана бадзёра:

— Гофман хоча перайграць нас. Мы яго не перайграем. Позна. Але трэба зрабіць адно — выбіць яго козыры.

Прачытаў Гарбунову радыёграму і тут жа сказаў:

— Мікалай Пятровіч, зараз жа радзіруйце адказ. Спецыяльны кур'ер з такім дакументам выехаў. Забяспечце яму бяспеку на лініі фронту. Подпіс Галоўкаверха. Знайдзіце Крыленку. Перадайце: я абураны. Прайшло колькі гадзін, а ён не прыводзіць чалавека, якому мы даручым гэтую адказную місію. Скажыце камандуючаму: праз паўгадзіны парламенцёр павінен быць у Саўнаркоме!

Парадак вячэрняга пасяджэння Саўнаркома, як ніколі раней, быў кароткі, па сутнасці, усяго два пытанні. Але якія! Аб знешняй палітыцы ў сувязі з нямецкім наступленнем. Аб арганізацыі абароны Савецкай рэспублікі. Стаяла яшчэ пытанне аб грузах у Архангельскім порце. Але калі раней пытанне гэтае разглядалі як асобнае, то цяпер меры па ахове і вывазцы ваенных матэрыялаў, якія паставілі былыя саюзнікі Расіі, прадуктаў, іншых каштоўнасцей арганічна зліваліся з мерамі па абароне.

Скараціўшы раней падрыхтаваны парадак дня, Ленін асабіста дапоўніў яго «архангельскім пытаннем», маючы на ўвазе, што цяпер размова павінна ісці не толькі аб уратаванні грузаў ад вясенняга разводдзя на Паўночнай Дзвіне, але і ад магчымага захопу іх контррэвалюцыянерамі ці нават тымі ж англічанамі, караблі якіх «ахоўваюць» Мурманск і Архангельск нібыта ад нямецкіх падводных лодак. У Леніна даўно ўжо не было ніякіх ілюзій наконт сапраўдных намераў пана Лойд-Джорджа. Аднак у сувязі з нямецкім наступленнем адносіны Савецкага Урада з былымі саюзнікамі Расіі мусяць быць больш гнуткімі, дыпламатычнымі — у разумным сэнсе гэтага слова. А між тым якраз на гэтым і сутыкнуліся розныя думкі: марксісцкая, рэалістычная, і лявацкая, авантурыстычная.

Ленін не стаў «задаваць тон» у спрэчцы. У пачатку пасяджэння ён прачытаў адказ Гофмана. А далей моўчкі, нават без рэплік, слухаў самыя супрацьлеглыя выступленні, занатоўваючы іх у блакнот — для сябе.

Свярдлоў, як заўсёды спакойна і аргументавана, даводзіў, што ў мэтах абароны было б неразумна адмаўляцца ад прапановы Антанты купіць у яе зброю і прадукты.

«Левыя» абурыліся такім «апартунізмам». Левы эсэр Штэйнберг змрочна кінуў Свярдлову:

— Вам хочацца пакланіцца імперыялістам?

— Не, я не хачу кланяцца,— спакойна адказаў Якаў Міхайлавіч.— Але было б хлапчукоўскім глупствам не выкарыстаць супярэчнасці паміне рознымі групамі імперыялістаў. Мы не працягваем руку, просячы міласціну. Мы можам гарантаваць аплату за ўсё, што паставяць нам англічане ці амерыканцы... Ім, як і нам, трэба аслабіць немцаў.

Ленін размашыста напісаў: «Свярдлоў!!!» Ажно тры клічнікі. І з цёплым пачуццём падумаў: «Малайчына, Якаў Міхайлавіч».

Урыцкі саркастычна спытаў:

— Чым вы будзеце разлічвацца? Рэвалюцыйнымі прынцыпамі?

— Няўжо таварышы сур'ёзна лічаць, што, калі будзе мір і Савецкая ўлада арганізуе сваю, сацыялістычную, эканоміку, мы не будзем мець ніякіх зносін ні з нямецкімі, ні з амерыканскімі імперыялістамі? — з усмешкай спытаў Свярдлоў.

— Ніякіх! — выгукнуў нарком юстыцыі.

— Штэйнберг, я лічыў юрыстаў цвярозымі людзьмі,— іранічна заўважыў Свярдлоў.

— Таварышы, сімптомы цяжкай хваробы — правага апартунізму ўсё больш выяўляюць сябе,— паедзена пачаў свае выступленне Бубнаў.— Прыклад таму — выступленне Свярдлова. Да чаго дагаварыўся Старшыня ЦВК? Выходзіць, мы рабілі рэвалюцыю дзеля таго, каб потым, нарасціўшы сала, пайсці цалавацца з капіталістамі...

— Цалавацца не будзем. А гандляваць будзем,— раптам парушыў сваё маўчанне Ленін.

— Гандляваць? — Андрэй Сяргеевіч здзівіўся і сумеўся. Сумеўся, бо не ведаў, што адказаць Леніну. Хапіла такту не кінуць абвінавачанне ў апартунізме правадыру рэвалюцыі, як кідаў не аднойчы іншым бальшавікам.

Троцкі, які дагэтуль таксама маўчаў, з хітрым смяшком ускудлачыў бародку і пажартаваў:

— Не палохайце, Уладзімір Ільіч, таварышаў. Гэта страшнае слова — гандаль. Гнілое, як капіталізм. І ванючае.

І тут жа з замілаваннем і смуткам падумаў пра свайго бацьку: як малапісьменны Давід Бранштэйн умеў гандляваць пшаніцай і кавунамі! Дзе ён цяпер? Маёнтак у яго адабралі, зямлю падзялілі... Стары

падаўся ў Адэсу. Трэба неадкладна вывезці яго адтуль, бо калі паедзе за мяжу і стане выступаць супраць Савецкай улады — на яго, на сына, можа ўпасці цень. Калі ж застанецца ў Адэсе, а горад займуць радаўцы ці, яшчэ горш, немцы, то, напэўна, возьмуць старога за штаны: бацька Троцкага!

Троцкі думаў, каму даручыць гэту далікатную місію — вывезці бацьку, сясцёр з Адэсы. З яго дапамогай не памруць і ў галоднай Маскве!

А Ленін думаў: як назваць гэтую хваробу ультрарэвалюцыянізму? І раптам знайшоў ёмкае і трапнае вызначэнне. Кароста! Употай усміхнуўся знаходцы. Пасля пахмурнеў і, стоена ўздыхнуўшы, падумаў: «Пакутлівая хвароба — кароста. А калі людзі пачынаюць хварэць на каросту рэвалюцыйнай фразы, то адно ўжо назіранне гэтай хваробы ўчыняе пакуты нясцерпныя».

Хацелася перапыніць прамоўцу і сказаць:

«Таварыш высокаадукаваны марксіст! Каб любы мужык пачуў вас зараз, то, напэўна, сказаў бы: табе, пан, не дзяржавай кіраваць, а ў слоўныя клоуны трэба запісацца ці проста ў лазеньку схадзіць, папарыцца, каросту прагнаць».

Але стрымаўся — не сказаў. Аднак запісаў гэтую думку: спатрэбіцца.

У кабінет увайшоў Крыленка, вінавата папрасіў прабачэння, што спазніўся. Аднак члены ўрада разумелі, што магло затрымаць Галоўкаверха. Усе павярнуліся да яго, прагнучы пачуць апошнія звесткі з фронту.

Ленін паглядзеў на яго строга запытальна. Крыленка вачамі паказаў на дзверы: чалавек чакае там, у пакоі сакратарыята.

Ленін надзвычай рэдка выходзіў у час пасяджэнняў. А тут напісаў Свярдлову: «Вядзіце пасяджэнне» — і хутка выйшаў. За ім выйшаў Крыленка.

Членаў урада гэта ўстрывожыла і зусім збіла з панталыку «караслівых» прамоўцаў.

Прапаршчык Турчан, франтавы калега і сябра савецкага галоўнакамандуючага, убачыўшы Леніна, падскочыў, выцягнуўся.

Уладзімір Ільіч працягнуў яму руку, павітаўся. Адразу спытаў:

— Ахову маеце?

— Даём двух чырвонаармейцаў,— адказаў Крыленка.

— Ім задача вядома? Яны — вашы дублёры. Што б з вамі ні здарылася, пакет павінен быць дастаўлены каменданту Дзвінска. У гэтым канверце,— Ленін паказаў на Гарбунова, які трымаў пакет,— наша ўратаванне. Разумееце, як гэта важна?

— Так точна, таварыш Ленін.

— Як едзеце?

— Даём спараныя паравозы,— сказаў Крыленка.

— Перадайце па лініі. Камісарам станцый. Усюды павінны быць зялёныя семафоры.

Гарбуноў уручыў Турчану засургучавалі канверт. Той паклаў яго ў палявы планшэт, надзеты цераз плячо.

Ленін уважліва прасачыў, наколькі надзейна схаваны дакумент. Застаўся задаволены. Але дарагая кожная хвіліна! Зноў працягнуў Турпану руку, моцна пацісну́ў, зазірнуўшы пранікліва ў вочы.

— Чакаем вас, таварыш, з адказам. Добра, каб вы вярнуліся заўтра ўначы.

— Зробім усё, што залежыць ад нас, таварыш Ленін.

Уладзімір Ільіч задумліва паўтарыў:

— Але... Што залежыць ад нас.

Калі Турчан, спытаўшы дазволу, павярнуўся па-вайсковаму і выйшаў, Ленін яшчэ хвіліну стаяў пасярод пакоя ў задуме, як бы слухаючы крокі пасыльнага ў калідоры. Потым павярнуўся да Крыленкі і нечакана весела спытаў:

— Мікалай Васільевіч, вы хварэлі на каросту?

Камандуючы збянтэжыўся.

— Што вы, Уладзімір Ільіч!

Яго збянтэжанасць яшчэ больш развесяліла Леніна, ён ціха засмяяўся.

— Уф! Якая брыдкая хвароба кароста! І якое цяжкае рамяство чалавека, якому прыходзіцца парыць у лазні карослівых... Але трэба парыць! Трэба! — і пайшоў у кабінет прадаўжаць весці пасяджэнне Саўнаркома.

Троцкі зноў прымаў Локарта.

Пасля зрыву мірных перагавораў і пачатку нямецкага наступлення неафіцыйныя прадстаўнікі былых саюзнікаў Робінс, Локарт і нават сацыяліст Садуль актывізавалі сваю дзейнасць, цяпер ужо не толькі па ўласнай ініцыятыве, як зрабіў гэта ўпачатку Садуль, але па сакрэтных інструкцыях сваіх урадаў.

Локарт убачыў, што англічане з-за сваёй кансерватыўнай пазіцыі — ніякіх зносін з бальшавікамі! — шмат страцілі, - што было сілы кінуўся наўздагон за старэйшым сапернікам — Робінсам.

Самаўпэўнены, надзвычай дзейны, пралазлівы да нахабнасці выхаванец Кембрыджа і дыпламатычнага каледжа (там ён прайшоў курс у спецыяльнай сакрэтнай групе перад тым, як паехаць консулам у Маскву ў пачатку вайны), англічанін быў занепакоены тым, што

Ленін ні разу не прыняў яго, а Робінса, як ён разведаў, за гэты час, як ён, Локарт, прыступіў да выканання сваёй місіі, прыняў двойчы.

Акрамя трывогі за брытанскія інтарэсы ў Расіі, гэта біла па яго самалюбстве. Выходзіць, Ленін ігнаруе яго. Хто ж каго не прызнае? Урад Лойд-Джорджа — бальшавіцкі ўрад? Ці Ленін — урад «уладаркі мораў»?

Няўдачы трапіць на прыём да прэм'ера Локарт як бы кампенсаваў сустрэчамі з наркомамі, з партыйнымі лідэрамі, у першую чаргу з Троцкім і Бухарыным, бо атрымаў указанне яшчэ ў Лондане пастарацца наладзіць кантакты з гэтымі людзьмі.

«Менавіта таму, што яны часцей, чым хто з бальшавікоў, становяцца ў апазіцыю да палітыкі, якую праводзіць Ленін»,— сказаў яшчэ Керзон.

Локарт увайшоў у кабінет Троцкага з экземплярам «Праўды», ад якой за тры сажні патыхала друкарскай фарбай. Троцкі здагадаўся, чаму англічанін не хавае сваёй цікавасці да бальшавіцкай газеты. Сённяшні нумар «Праўды» немагчыма дастаць, яго перадаюць з рук у рукі, пытаюць адзін аднаго: «Чыталі?»

У Троцкага пра гэта спытаў Чычэрын гадзіну назад, і наркому зрабілася непрыемна. Ён не любіў Чычэрына не толькі за адданасць Леніну, але і за тое, што добра разумеў: Ленін правёў прафесійнага дыпламата ў намеснікі наркома не без намеру пры першым жа зручным выпадку мець чалавека, які замяніў бы яго, Троцкага. А выпадак такі паспявае. Правал палітыкі «ні вайны, ні міру», безумоўна, прывядзе яго да адстаўкі. Троцкі з пачатку нямецкага наступлення ламаў галаву, што лепш: чакаць, каб яго адставілі, ці самому падаць у адстаўку? Што бальней для Леніна?

Пасля прывітання і кароткай, дзве фразы, размовы аб надвор'і — была адліга, і снег на петраградскіх вуліцах ператварыўся ў слізкую кашу — Локарт паказаў на газету і спытаў, бадай, па-змоўніцку:

— Гэта ё н?

Троцкаму не спадабаўся такі ток: знайшоў хаўрусніка! Але ведаць думку англічаніна ды, магчыма, не толькі аднаго яго — Локарт за раніцу мог пабываць не ў адным пасольстве — патрэбна і карысна. Адказаў знешне афіцыйна і ў той жа час таямніча-даверліва, маўляў, толькі вам, нікому больш:

— Так, гэта Ленін.

— Многа людзей ведае, што Карпаў — гэта ён?

— Мы, старыя партыйцы, ведаем.

— Вы хочаце сказаць: кіраўнічае ядро?

— Лічыце так.

— А вам не здаецца, што гэта бомба пад вас?

Троцкі спахмурнеў.

— Я не «левы». І не кідаюся рэвалюцыйнымі фразамі.

Локарт зразумеў, што нарком незадаволены такім вызначэннем ленінскага артыкула, і даў «задні ход».

— Прабачце, пан міністр,— Локарт на першых сустрэчах зразумеў, што Троцкаму падабаецца зварот «міністр».— Я знаю, што вы не «левы». У вас свая, асобая, пазіцыя. Я памыліўся, я хацеў сказаць: бомба пад «левых». Можаце перадаць свайму прэм'еру, што я ў захапленні яго публіцыстычным талентам. Нямногія лідэры ўмеюць так абараняць сваю пазіцыю. І так гаварыць з народам! — Локарт глянуў у газету, прачытаў заключныя радкі: — «Трэба ваяваць супроць рэвалюцыйнай фразы, прыходзіцца ваяваць, абавязкова ваяваць, каб не сказалі пра нас калі-небудзь горкай праўды: «рэвалюцыйная фраза аб рэвалюцыйнай вайне загубіла рэвалюцыю». Моцна, праўда? Шчыра. Вельмі шчыра.

У Троцкага, калі ён чытаў раніцою артыкул, было складанае ўражанне. Так, гэта бомба, якую, аднак, трэба неяк абясшкодзіць, каб яна не разнесла «левых» ушчэнт. У той жа час ён злосна парадаваўся, што балбатуна Бухарына, які прэтэндуе на лідэрства, «раздзелі» і выставілі перад партыяй голым у яго фразёрскай сутнасці. Аднача-сова Троцкі, што здаралася неаднойчы, пазайздросціў Леніну, яго ўменню выдатна спалучыць тэарэтычную глыбіню з надзвычайнай прастатой выкладання думак, логіку сур'ёзных доказаў з іроніяй і гумарам. У яго, Троцкага, так не атрымоўвалася, хоць некалі ён марыў стаць вялікім паэтам. Ён умеў няблага сказаць вусна — захапіць аўдыторыю пафасам голасу і жэстаў; на паперы рукамі не памахаеш — пафас знікаў, на яго месцы з'яўлялася залішняя акадэмічнасць і ўскладненасць. Яму здавалася, што Ленін піша лёгка. З маленства ён зайздросціў людзям, якім усё даецца лёгка, і стараўся сам усё рабіць лёгка. Але лёгкасць часам падводзіла.

Вось чаму, а не толькі з дыпламатычных меркаванняў Троцкі не падтрымаў захаплення хітрага прайдзісвета Локарта артыкулам Леніна. Адвёў размову ў іншае рэчышча, у тое, якое разам капалі на папярэдніх сустрэчах:

— Я вас, пан Локарт, магу парадаваць іншым. Ленін згадзіўся з маёй думкай,— падкрэсліў інтанацыяй, што гэта менавіта яго думка,— узяць ад Англіі і Амерыкі зброю і прадукты.

— Але ж Ленін не хоча ваяваць. Ён — за мір.

— Вы памыляецеся. Ленін разумее, што пагроза нямецкага наступлення настолькі вялікая, што каб ён атрымаў ваенную дапамогу ад

саюзнікаў, то адмовіўся б ад міру і змагаўся б з дапамогай саюзнікаў супраць Германіі.

У Локарта ад здзіўлення заблішчэлі вочы. Каб гэта было так, ён мог бы спадзявацца на ўдзячнасць Лейд-Джорджа і караля. Але ў яго хапіла розуму ўсумніцца ў шчырасці «пана міністра». Вопытны разведчык, ён лепш, чым Троцкі, ведаў, што робіцца ў Петраградзе, бо залазіў усюды, куды толькі можна было пралезці,— у Саветы, на заводы, у чырвонагвардзейскія атрады, якія ішлі на фронт, і ў тыя колы, дзе чакалі прыходу немцаў.

4

Прыкладна ў гэты ж час Ленін у прысутнасці Сталіна пісаў тэлефанаграму ў Выканаўчую камісію Петраградскага камітэта і ва ўсе раённыя камітэты партыі бальшавікоў. Пісаў як ваенны загад — з указаннем даты, часу:

«21(8). II.1918.12 г. 20 мін. дня.

Раім, не губляючы ні гадзіны, падняць на ногі ўсіх рабочых, каб, згодна з рашэннямі Петраградскага Савета, якія будуць прыняты сягоння ўвечары, арганізаваць дзесяткі тысяч рабочых і рушыць пагалоўна ўсю буржуазію да аднаго, пад кантролем гэтых рабочых, на капанне акопаў пад Піцерам. Толькі ў гэтым уратаванне рэвалюцыі. Рэвалюцыя ў небяспецы. Лінію акопаў дадуць ваенныя. Рыхтуйце прылады, а галоўнае, арганізуйцеся і мабілізуйцеся пагалоўна.

Леніну

Сталін пайшоў у апаратную. Дыктуючы тэлефаністам тэкст, не ўтрымаўся ад спакусы паставіць побач з Леніным і свой партыйны псеўданім, што дало яму праз многа гадоў права ўключыць тэлефанаграму ў Збор сваіх твораў.

Застаўшыся на некалькі хвілін адзін у кабінеце, Уладзімір Ільіч дапісаў гістарычны дакумент таго трывожнага дня: «Социалистическое отечество въ опасности. Да здравствуетъ Социалистическое отечество!»

І тут жа папрасіў сакратара склікаць членаў Часовага выканаўчага камітэта СНК. Камітэт быў створаны напярэдадні, пасля трывожных дакладаў Саўнаркому Крыленкі і Альтфатэра, камандуючага Балтыйскім флотам. Ленін сам прапанаваў мець орган, які забяспечыў бы няспынную работу ўрада — удзень і ўначы. Дамовіліся, што члены камітэта ясывуць у Смольным; Бонч-Бруевіч падрыхтаваў пакой пад інтэрнат. Аб усіх выездах ставіць да ведама сакратара Саўнаркома Гарбунова, каб той ведаў, дзе каго шукаць у выпадку пільнай неабходнасці. Таму камітэт сабраўся вельмі хутка. З'явіўся

Свярдлоў. Старшыня ВЦВК таксама пастаянна знаходзіўся ў Смольным.

Аўдыторыя была невялікая — усяго сем чалавек, але Уладзімір Ільіч падняўся за сталом з напісанымі лістамі ў руках. На міг нязвыкла застыў, аглядаючы паплечнікаў. Пераканаўся, што ўсе яны аднадумцы, ніхто нз выступіць супраць, і як бы супакоіўся, сказаў роўным голасам:

— Таварышы, акрамя звароту «Да працоўнага насельніцтва ўсёй Расіі», які мы прынялі сёння ўначы, прапаную звярнуцца да пiцерцаў, да ўсіх салдат, рабочых, сялян краіны з Дэкрэтам-адозвай. Вось тэкст.— Ленін пачаў чытаць, і голас яго выдаў хваляванне сваім сур'ёзным і трывожным гучаннем:

— Сацыялістычная Айчына ў небяспецы! — прачытаў ён і пракаўтнуў спазму, глыбока ўдыхнуў паветра і як бы даверліва паведаміў са смуткам, болем: — Каб ўратаваць знясіленую, змучаную краіну ад новых ваенных выпрабаванняў, мы пайшлі на найвялікшую ахвяру і абвясцілі немцам аб пашам згодзе надпісаць іх умовы міру,— Ленін зноў агледзеў таварышаў, якія слухалі са стоеным дыханнем.— Нашы парламенцёры 20 лютага, увечары, выехалі з Рэжыцы ў Дзвінск, і да гэтага часу няма адказу. Нямецкі ўрад, увачавідкі, марудзіць з адказам. Ён яўна не хоча міру. Выконваючы даручэнне капіталістаў усіх краін, нямецкі мілітарызм,— Ленін інтанацыяй голасу падкрэсліў наступныя словы: — хоча задушыць рускіх і ўкраінскіх рабочых і сялян, вярнуць землі памешчыкам, фабрыкі і заводы — банкірам, уладу, — манархіі. Нямецкія генералы хочуць устанавіць свой «парадак» у Петраградзе і ў Кіеве,— голае Леніна зноў загучаў трывожна: — Сацыялістычная рэспубліка Саветаў знаходзіцца ў найвялікшай небяспецы.

У Свярдлова ад слоў гэтых і ленінскага голасу сціснулася хворае сэрца. Але тут жа ў душы змяшаліся гонар, радасць, вера і ўпэўненасць. Якаў Міхайлавіч падумаў:

«Якое шчасце, што на чале партыі і ўрада — ён. Толькі ён можа знайсці выйсце з любога становішча. Няма сумнення, што гэтыя яго словы ўзнімуць усіх, каму дарагая Савецкая ўлада. Але — калі... калі ён паспеў напісаць гэта? У чатыры гадзіны ночы я быў яшчэ ў яго. У восем ён быў у гэтым кабінеце...»

Ленін чытаў:

— Савет Народных Камісараў пастанаўляе:

Першае. Усе сілы і сродкі краіны цалкам прадастаўляюцца на справу рэвалюцыйнай абароны. Другое. Усім Саветам і рэвалюцый-

ным арганізацыям ставіцца ў абавязак абараняць кожную пазіцыю да апошняй кроплі крыві.

Левін прачытаў усё, зноў-такі як у вайсковым загадзе: подпіс — Савет Народных Камісараў, дату — 21 лютага 1918 года, месца напісання дакумента — Петраград.

Змоўкнуўшы, Уладзімір Ільіч пачуў: члены Выканаўчага камітэта стоена, але цяжка дыхаюць, як, пасля хуткай хады. Яму таксама хацелася ўздыхнуць на поўныя лёгкія і прайсціся па кабінеце. Ах, каб можна было хоць паўгадзіны пагуляць на вуліцы!

Знясілены, хоць нічым не выдаў гэтага, сеў у крэсла, прыціснуўся грудзьмі да стала. Сустрэўся позіркам са Свярдловым, удзячна кіўнуў на яго выразны жэст ухвалення.

— Таварышы, ёсць заўвагі да тэксту?

— Штэйнберг, напэўна, запратэстуе,— сказаў Сталін.

— Ніякіх уступак на абструкцыі левых эсэраў! Гэтак жа як ніякіх уступак Бухарыну, Троцкаму... Саўнарком даручыў нам дзейнічаць з ваеннай рашучасцю. І мы будзем дзейнічаць толькі так! Даволі дыскусій!

— Друкуем сёння? — спытаў Бонч-Бруевіч.

— Так. У «Правде»... У «Известиях ЦВК», ва ўсіх бальшавіцкіх газетах. І асобнай лістоўкай. Мільённым тыражом,— Ленін на хвіліну задумаўся і ўдакладніў: — Не, у газетах друкуем заўтра. Вячэрнія выпускі выходзяць малымі тыражамі і дрэнна распаўсюджваюцца. Ды і Саўнарком мы ўдзень не склічам. Наркомы заняты абаронай Петраграда... Увечары мы... сустракаемся з ваеннымі спецыялістамі. Прашу вас падрыхтавацца да гэтай вельмі важнай парады. Трэба сабраць поўныя даныя аб фарміраванні рабочых атрадаў. Аб наяўнасці зброі ў петраградскіх арсеналах. Людзі рвуцца ў бой, але не хапае вінтовак, патронаў. Латышскія стралкі, якія выказалі жаданне паехаць на фронт і перад якімі я выступаў учора тут, у Смольным, у актавай зале, скардзіліся на недахоп патронаў і зімовага адзення. Уладзімір Дзмітрыевіч, устанавіце найстражэйшы кантроль за ўсімі складамі.

— Зіноўеў і Урыцкі займаюцца гэтым.

— Праверце, калі ласка. Даручаем гэта вам. Што ж... за работу, таварышы...

Калі члены камітэта падняліся, каб выйсці, Ленін затрымаў іх.

— Хвіліначку. Давайце яшчэ аб адным параімся. Некаторыя таварышы,— Ленін непрыкметна глянуў у бок Сталіна,— выказваюць сумненне наконт хадайніцтва Штэйкберга аб вызваленні з-пад арышту міністраў Часовага ўрада. Як дамовіліся на Саўнаркоме, я

падпісаў пастанову аб вызваленні Бярнацкага. Яго ўзяў на парукі Багалепаў. Не зробіць контррэвалюцыя гэтых людзей сваім сцягам?

— Калі іх возьмуць на парукі савецкія работнікі і будзе іх пісьмовае запэўніванне, што яны не стануць займацца палітычнай дзейнасцю...— разважліва пачаў Дзяржынскі.

Ленін раптам хораша засмяяўся.

— Таварыш Дзяржынскі верыць дадзенаму слову. Часы рыцарства мінулі, дарагі Фелікс Эдмундавіч. На жаль, даўно мінулі. Буржуазія растаптала закон рыцарства. Але калі Кішкіна і Цярэшчанку возьмуць на парукі — мы іх вызвалім.

Усе выйшлі.

У кабінеце засталіся Свярдлоў і Сталін. Сядзелі каля стала. Ленін стаяў перад картай Расійскай дзяржавы, пераводзячы позірк зверху, з поўначы, ад Петраграда, уніз, на поўдзень — на Кіеў, Адэсу, Растоў. Праз хвіліну запрасіў іх да карты.

— Давайце сплануем нашу ваенную стратэгію на бліжэйшую будучыню.

Ступіў да карты, узняўшыся на насочкі, пальцам начарціў паўкружжа паміж сталіцай, Псковам і Рэвелем, упэўнена сказаў:

— Петраград мы абаронім! З немцамі падпішам мір. Які б ён ні быў цяжкі, усё роўна падпішам. Нягледзячы ні на што. Умовы яны нам прадыктуюць жорсткія, і мы вымушаны будзем іх выконваць. Але спакою акупантам не дамо. Не! Немцы атрымаюць партызанскую вайну тут, на поўначы, у Беларусі... І вайну на Украіне. Той жа Усходні фронт. Яны падпісалі мір з Радай. Дагавору з Украінскай Савецкай Рэспублікай у іх няма. Рабоча-сялянская армія Украіны будзе біць і радаўцаў, і іх гаспадароў — нямецкіх акупантаў. Што трэба зрабіць нам пры такой сітуацыі? — Уладзімір Ільіч павярнуўся да Сталіна і Свярдлова, чакаючы іх адказу.

— Умацаваць рабоча-сялянскую армію Украіны,— сказаў Свярдлоў.

— Як гэта зрабіць, не парушаючы дагавор? — усумніўся Сталін.

— Трэба неадкладна ўкраінізаваць усе нашы часці, якія памагаюць украінскім рабочым. Падумаць, што рабіць з Мураўёвым, калі ўвогуле яго можна пакідаць на пасту камандуючага. Стварыць супраць немцаў адзіны фронт ад Крыма да Вялікарасіі. Пераканаць крымскіх таварышаў, што ход падзей навязвае ім абарону, яны павінны абараняцца, незалежна ад дагавору, які мы падпішам. Дамо крымчанам зразумець, што становішча поўначы істотна адрозніваецца ад становішча поўдня. Крым немцы могуць злопаць, як кажуць, мімаходзь. Таму дапамога Крыма Украіне з'яўляецца не толькі актам

суседскага абавязку, але і патрабаваннем самаабароны і самазахавання. Данецкую рэспубліку немцы будуць заваёўваць, бо Віннічэнка ўключыў яе ва Украіну. Наша задача: пераканаць данецкіх таварышаў стварыць адзіны фронт абароны з Украінай. Сепаратызм Васільчанкі, як ніколі, шкодны. Перадайце гэта Арцёму,— звярнуўся Уладзімір Ільіч да Сталіна.— Каб закрыць немцам дарогу на Каўказ, трэба дабіць Аляксеева. Зараз жа дамо распараджэнне Антонаву, каб неадкладна ўзяў Растоў і Новачаркаск. Заўтра, не пазней. Няхай пашле на гэта дзве тысячы надзейных петраградскіх чырвонагвардзейцаў.

Ленін павярнуўся ад карты, імкліва падышоў да стала.

— Перакінемся з поўдня на поўнач. Немцы не прызнаюць суверэнітэту Савецкай Эстоніі. Як паведаміў Анвельт, вядуць наступленне, высадзіліся на ўзбярэжжы. Я прапаную паслаць у Рэвель такую тэлеграму.— Ленін узяў са стала лісток паперы, прачытаў: — «Рушыць часці супраць ворага і адкінуць яго. Калі гэта цяжка зрабіць, сапсуйце ўсе дарогі, зрабіце шэраг партызанскіх наскокаў з тым, каб не даць ворагу замацавацца на мацерыку. Просім гэты наш загад правесці ў жыццё няўхільна. Адказ выканання паведаміце». Вось такі, Якаў Міхайлавіч, наш агульны стратэгічны план.

— Што ж, я падпісваюся пад ім,— сказаў Свярдлоў.— Але галоўнае ў гэтым плане — заключэнне міру, так я разумею.

На лбе ў Леніна ўміг утварыліся зморшчыш.

— Так, усе нашы ваенныя планы павінны мець адну мэту: уратаванне Рэспублікі Саветаў.

Трывожна было ў Петраградзе ў тыя дні.

Варшаўскі і Балтыйскі вакзалы былі забіты двума сустрэчнымі патокамі: з фронту панічна ўцякалі дэмаралізаваныя салдаты старой арміі. Тых, хто вёз дадому вінтоўку, патроны, гранаты, тут жа абяззбройвалі. З горада да вакзала ішлі арганізаваныя батальёны рабочых, грузіліся ў цяплушкі і выязджалі на фронт. У векапомны дзень дваццаць трэцяга лютага гэтыя батальёны далі пад Псковам і Нарвай той бой, які не толькі затрымае трыумфальнае шэсце кайзераўскіх войск на Петраград, але саб'е прускую пыху з Гофмана, яго ўпэўненасць, што ён лёгка можа ўзяць сталіцу дзяржавы Расійскай і скончыць з рускай рэвалюцыяй, не даць «маральнай інфекцыі» перакінуцца ў Германію і далей на Захад.

Буйная буржуазія з нецярпеннем чакала немцаў. «Дробязь» — чыноўнікі, інтэлігенты, абывацелі, некаторыя рабочыя і сяляне ўцякалі ад немцаў. На Мікалаеўскім вакзале накапіліся бежанцы — з Беларусі, Эстоніі, Пскоўшчыны і з самога Петраграда. Гэтым людзям

памагалі выязджаць, хоць з вагонамі было цяжка. Горад трэба было «разгрузіць». Але Ленін патрабаваў ад тых, хто адказваў за парадак — ад Дзяржынскага, Бонч-Бруевіча, Урыцкага, Зіноўева,— каб эвакуацыя не ператварылася ў агульную паніку. Самае страшнае — паніка. А ўчыніць яе было лёгка, бо чуткі распускаліся страшныя. Аднак былі яны супярэчлівыя. Некаторыя «героі» «рэвалюцыйнай вайны» самі пакавалі чамаданы, вывозілі сем'і. Ультралевы эсэр Штэйнберг, нарком юстыцыі, патрабаваў у Бонч-Бруевіча спецыяльны вагон — для сваякоў.

Троцкі паводзіў сябе інакш — так, як быццам нічога асаблівага не здарылася. У рабоце па арганізацыі абароны ўдзельнічаў своеасабліва: словамі і дзеяннямі даводзіў, што нічога, маўляў, страшнага, калі немцы возьмуць Петраград; без рэвалюцыі на Захадзе руская рэвалюцыя ўсё роўна не ўтрымаецца; гвалт, які кайзераўцы ўчыняць над авангардам рускай рэвалюцыі — піцерскімі рабочымі, можа «разбудзіць» нямецкі пралетарыят. Дарагую цану хацеў заплаціць Троцкі, каб пацвердзіць сваю тэорыю!

Троцкі саркастычна высмейваў усе панічныя чуткі, паводзіў сябе бясстрашным героем, аўтарытэтам сваім, дасведчанасцю чалавека, які кіруе знешняй палітыкай, стараўся зменшыць тую пагрозу, пра якую на поўны голас сказаў Ленін у Дэкрэце-адозве «Сацыялістычная Айчына ў небяспецы!».

Рабочы дзень Леніна дваццаць другога лютага пачаўся рана, не было яшчэ і васьмі гадзін. Пачаўся з уважлівага чытання ваеннай зводкі. Пасля пераезду Стаўкі ў Петраград начальнік штаба генерал Бонч-Бруевіч даваў зводку акуратна, стала яна па-вайсковаму дакладная, падрабязная, можна было верыць у яе аб'ектыўнасць.

Зводка была цяжкая: напярэдадні ўвечары быў здадзены Пскоў.

Цяпер у кабінеце вісела некалькі падрабязных карт Украіны, Эстляндыі, Віцебскай, Ноўгарадскай, Петраградскай губерняў. Акрамя таго, на стале ляжалі трохвёрсткі раёна, дзе будаваліся лініі абароны.

Ленін доўга ў адзіноце вывучаў карты. За дні нямецкага наступлення ён запомніў сотні назваў гарадоў і вёсак у раёнах баявых дзеянняў; нямнога знайшлося б вайсковых штабістаў, якія помнілі б столькі назваў без рэляцый і карт.

У зводцы быў істотны недахоп: скупа, па здагадках, гаварылася аб прасоўванні нямецкіх войск на Украіне, аб супраціўленні ім. Позна прыходзілі адтуль звесткі.

Ленін запрасіў Гарбунова і даручыў яму звязацца па тэлеграфе з Харкавам, перадаць Скрыпніку, Арджанікідзе, Антонаву, Луганоў-

скаму яго просьбу: закрытым тэкстам перасылаць зводкі, якія яны атрымліваюць ад камандавання савецкіх часцей, што стрымліваюць націск ворага.

Нейкі момант Уладзімір Ільіч сядзеў у глыбокай задуме, не чуючы нават, як напаўняецца тупатам ног і гудзеннем галасоў Смольны, так ён гудзеў толькі ў дні рэвалюцыі. Думкі былі трывожныя: «А нямецкага адказу няма». Цяпер не можа быць сумнення, што Гофман нацэліўся на Петраград. Што ж можна зрабіць яшчэ для абароны сталіцы? Што?

Але тут жа адагнаў хвілінную трывогу. Падняўся, імкліва і рашуча прайшоўся па кабінеце.

Зрабіць трэба ўсё магчымае, каб Гофман паламаў зубы на подступах да Петраграда!

— Так, немцы павінны паламаць зубы. Толькі ў такім разе яны згодзяцца на мір. За Піцер будзем стаяць насмерць!

Сказаў гэта ўголас, хоць і быў у кабінеце адзін.

Спыніўся, прыслухаўся, пачуў гул Смольнага. Гул гэты ўзрадаваў. Рабочыя пачулі заклік і горача адгукнуліся. У Чырвоную Армію добраахвотна запісваюцца тысячы свядомых байцоў.

Ленін успомніў пазаўчарашняе выступленне перад латышскімі стралкамі. Гаварыў ён па-нямецку, бо большасць латышоў лепш ведаюць нямецкую мову. Але калі ён сказаў: «Спакутаванаму рускаму народу мы павінны даць мір, чаго б гэта ні каштавала, гэтым мы ўмацуем рэвалюцыю і пачнём будаўніцтва новай маладой Расіі»,— зала выбухнула апладысментамі. Да радаснай спазмы ў горле крануў такі інтэрнацыяналізм, такое разуменне простымі салдатамі задач Савецкай улады.

Сёння ўвечары ў Актавай зале Смольнага ён выступіць перад піцерскімі рабочымі, перад прадстаўнікамі заводаў. Трэба запрасіць начальніка штаба Галоўкаверха з яго штабам, каб яны тут жа сфарміравалі палкі і ўказалі ім участкі фронту, куды паехаць, дзе заняць пазіцыі. Марудзіць нельга ні хвіліны.

Уладзімір Ільіч вярнуўся да стала і зрабіў адзнаку ў раскладзе дня перад пунктам: «Выступленне перад рабочымі».

Прагледзеў расклад: дзе трэба быць? Што самае неадкладнае?

У дзесяць раніцы пасяджэнне ЦК, тэрмінова скліканае па патрабаванні «левых». Пытанне: аб набыцці зброі і прадуктаў у дзяржаў Антанты. Вельмі важна. Але на пасяджэнне гэтае ён не пойдзе, бо яно зацягнецца, а ў яго назначаны аператыўныя сустрэчы — з камандуючымі ўмацаванымі раёнамі, з Крыленкам, генераламі Бонч-Бруевічам і Парскім, якога Галоўкаверх рэкамендуе камандую-

чым Нарвскім раёнам; Нарва, як і Пскоў,— стратэгічны вузел на подступах да Петраграда.

Акрамя таго, просяцца на прыём масквічы Радчанка і Вінтэр. Іх абавязкова трэба прыняць. Яны — спецыялісты па торфу, па электрастанцыях на торфе. Немцы ці новыя каледзіны, аляксеевы могуць адрэзаць данецкі вугаль. А Петраград, Масква павінны жыць? Ратунак — торф! Трэба ведаць энергетычныя запасы яго, каб даць рэкамендацыі ВСНГ. Трэба думаць аб будаўніцтве электрастанцый на торфе. Які ёсць вопыт? Дзе такія станцыі працуюць? Выкласці таварышам ідэю электрыфікацыі Расіі як аснову сацыялістычных пераўтварэнняў. Работу гэтую нельга адкладваць. Ідэя павінна завалодаць розумамі не толькі савецкіх гаспадарнікаў, але і шырокіх мас.

Але не толькі неадкладныя справы затрымалі Уладзіміра Ільіча. Брыдка яму было б бачыць і слухаць, як будуць «шкрабціся карослівыя». Пытанне, безумоўна, жыццёва важнае. Але зусім не дыскусійнае. Трэба дзейнічаць, а не гаварыць. Для гэтага даволі пастановы Саўнаркома аб маштабах закупу. Іншая рэч — калі Англія і Францыя выставяць палітычныя ўмовы, тады гэта магло б стаць прадметам абмеркавання ў вышэйшым партыйным органе. Аднак аднадумцаў трэба падтрымаць.

На невялічкім лістку паперы Ленін з вясёлай размашыстасцю напісаў:

«ЦК РСДРП. Прашу далучыць мой голас за ўзяцце бульбы і зброі ў разбойнікаў англа-французскага імперыялізму. Ленін». Прыназоўнік «за» падкрэсліў дзвюма рыскамі.

Мікалай Пятровіч Гарбуноў бездакорна выконваў сакратарскія абавязкі. Строга патрабаваў акуратнасці і дакладнасці ад усіх супрацоўнікаў сакратарыята, ад тэлефаністаў, кур'ераў, вартавых. Выпрацоўваўся новы, савецкі стыль справаводства, дзелавы, спакойны. Дэвізам сакратарыята было: як можна менш перашкаджаць Ільічу, не турбаваць па дробязях. Але на вайне — як на вайне.

Гарбуноў нечакана ўвайшоў у кабінет Старшыні Саўнаркома, прапусціўшы наперадзе сябе збянтэжаную тэлеграфістку, якая беражліва трымала ў далонях клубок тэлеграфнай ленты.

— Прабачце, Уладзімір Ільіч. Але вось яна, Маша, лічыць, што гэтую тэлеграму трэба абвязкова і неадкладна прачытаць вам.

Ленін падняўся. Дзяўчына ўбачыла трывогу ў вачах Ільіча і разгубілася: дарэмна пайшла яна на такую дзёрзкасць. Зачырванелася, пачала як бы перапрошваць:

— Не, Уладзімір Ільіч, нічога страшнага няма. Але мне здалося, што гэта вельмі важна. Я прачытаю...

— Я слухаю.

Лента папаўзла з дзявочых рук на падлогу. Голас дзяўчыны ўсхвалявана дрыжаў:

— Ад камісара пошт і тэлеграфаў Масквы Падбельскага. «Зараз нам ад імя Троцкага паведамілі па тэлефоне, што нібыта Аўстра-Венгрыя заявіла аб сваёй адмове наступаць супраць Расіі. Прашу Вас тут жа дабіцца па тэлефоне Троцкага ці каго-небудзь з іншых народных камісараў, праверыць гэтае паведамленне і перадаць нам. У нас цяпер праходзіць сход Саветаў рабочых дэпутатаў, які чакае праверкі гэтага паведамлення. Заадно дастаньце ўвогуле апошнія навіны, толькі правераныя, і паведаміце нам зараз жа. Калі ласка, таварыш, зрабіце гэта, нам гэта вельмі важна».

Маша padняла галаву, паглядзела на Леніна.

Уладзімір Ільіч усміхнуўся з ухваленнем.

— Гэта важна. Дзякую вам. Гэта вельмі важна. Для Масквы. І для нас.

Леніна кранула і парадавала палітычнае чуццё дзяўчыны.

Яшчэ раз паўтарыў:

— Гэта вельмі важна,— на момант задумаўся, даючы нарадзіцца адказу, рашуча сказаў: — Пайшлі ў апаратную!

Тэлеграфісты падняліся, вітаючы Леніна. Маша, зразумеўшы, што Уладзімір Ільіч прыйшоў дыктаваць тэкст, сарамліва сказала, не ўпэўненая ў сабе:

— Можа, Павел Іванавіч...— кіўнула на старэйшага тэлеграфіста.

— Не. Вы. Перадавайце.

Змоўклі іншыя апараты. Застукаў Машын.

— Масква прымае.

— «Правераных новых звестак не маю, акрамя таго, што немцы, увогуле кажучы, прасоўваюцца ўперад няўхільна, бо не сустракаюць супраціўлення...»

Маша спалохана глянула на Леніна. Яе спалохала яго бязлітасная шчырасць. Каб дыктаваў хто іншы, нават Мікалай Пятровіч, яна, напэўна, падумала б: «Хіба можна такое перадаваць адкрытым тэкстам?»

Але гэта ж — сам Ленін!

— «...Я лічу становішча надзвычай сур'ёзным і малейшае прамаруджанне недапушчальна з нашага боку. Што датычыць паведамлення аб няўдзеле Аўстра-Венгрыі ў вайне, то я асабіста, у адрозненне ад Троцкага, не лічу гэтае паведамленне правераным, кажуць, перахапілі радыё і былі тэлеграмы пра гэта са Стакгольма, але я такіх дакументаў не бачыў. Ленін».

На другі дзень маскоўскія газеты апублікавалі гэты ленінскі адказ.

Прыйшоў Якаў Міхайлавіч Свярдлоў. Расказаў, як праходзіла пасяджэнне ЦК. Усё было так, як Ленін прадбачыў. Бухарын, Ломаў, Урыцкі горача даводзілі, што недапушчальна, ганебна партыі рабочага класа карыстацца падтрымкай імперыялістаў.

Парадаваў Уладзіміра Ільіча Дзяржынскі. Фелікс Эдмундавіч не толькі адмежаваўся ад «левых», ён выступіў супраць іх. «Хоць я і быў супраць падпісання міру, але я самы рашучы праціўнік пункту гледжання Бухарына»,— сказаў Дзяржынскі.

Ленін задаволена пацёр рукі:

— Гараць «левыя».

— Незразумела мне пазіцыя Троцкага,— сказаў Свярдлоў.— Ён выступіў многа разоў. Здаецца, тэарэтычна правільна даводзіў неабходнасць узяць зброю і прадукты. Але залішне націскаў на запрашэнне англійскіх і французскіх інструктараў, бо наша армія засталася без афіцэраў, а непісьменныя салдаты асвоіць тэхнікі не могуць.

— Цікава. Вельмі цікава,— Уладзімір Ільіч слухаў Свярдлова з той асаблівай ленінскай увагай, пра якую пісалі многія сучаснікі.

— Мяне не пакідала думка, што, пярэчачы «левым», Троцкі як бы дражніў іх і гэтым падбухторваў на супраціўленне нашай пазіцыі.

— Думка ваша, Якаў Міхайлавіч, правільная. Троцкі не можа не ўскаламуціць ваду, калі бачыць, што яна пачынае адстойвацца, ачышчацца. Правільную ідэю ён даводзіць да абсурду. Дык, кажаце, інструктары? Афіцэры імперыялістаў — камандзіры Чырвонай Арміі? Ай ды Троцкі! — Ленін паківаў галавой, пасміхнуўся.

— Але не гэта галоўнае, Уладзімір Ільіч. У часе аднаго выступлення, без лагічнай сувязі з тым, пра што гаварыў, Троцкі раптам зрабіў заяву, што здымае з сябе абавязкі народнага камісара па замежных справах.

Усмешка з твару Леніна знікла, ён спахмурнеў, насцярожыўся.

— Ствараецца ўражанне, што гэта ўцёкі з карабля. Ці не здаецца яму, што мы тонем?

Ленін памасіраваў пальцамі скроні, бо раптам адчуў боль.

— Троцкага трэба было гнаць з наркамата пасля яго брэсцкай авантуры. Але мы з вамі разумелі, што нельга. Мы рабілі ўсё, каб пазбегнуць расколу. Троцкі для палітычнай дэманстрацыі выбраў самы цяжкі момант. Гэта ўдар з-за вугла. Я вам скажу, дзеля чаго ён гэта зрабіў. Каб даць прыклад «левым»: зрабіце, як я!

— Ды вы, як кажуць у народзе, што ў ваду глядзелі! Прызнаюся, я не звязваў адно з другім...

— З чым?

— У канцы пасяджэння, застаўшыся пры галасаванні ў меншасці, Бухарын заявіў аб выхадзе з ЦК і з рэдактараў «Правды».

На хвіліну ўсталявалася цішыня. Але Свярдлоў чуў, што Уладзімір Ільіч дыхае цяжэй, чым звычайна, гэта прыкмета, што ён гневаецца. Якаў Міхайлавіч ведаў, што ў яго прысутнасці Ленін не саромеўся ўжываць самыя гнеўныя словы. Не, стрымаўся. Уздыхнуў. Задумліва працягнуў:

— М-да,— зноў памаўчаў, потым сказаў з болем: — Так, гэта стаўка на раскол. Няхай уцякаюць. А мы не дамо патануць караблю рэвалюцыі, што б ні казалі, што б ні рабілі Бухарын з Троцкім і кампаніяй...

— Пасля пасяджэння я мімаволі стаў сведкам камічнай сцэны,— пасміхнуўся Свярдлоў.— Бухарын дагнаў у калідоры Троцкага, абняў, уткнуўся тварам у грудзі і гучна зарыдаў: «Што вы робіце? Што вы робіце? У што вы ператвараеце партыю?».

Ленін грэбліва зморшчыўся.

— Якая брыдота! Палітычныя паяцы!

Ленін спусціўся на другі паверх, у сваю кватэру, раней, чым звычайна. Не гатовы быў яшчэ абед. Не прыйшлі са службы Надзежда Канстанцінаўна і Марыя Ільінічна.

Прайшоў у пакой, сеў у мяккае крэсла, узяў вялікі блакнот, што ляжаў тут жа, на століку, і, трымаючы яго на каленях, пачаў пісаць. Артыкул быў ужо гатовы. У галаве. Таму Ленін пісаў не спыняючыся. Пачаў з вобразна-саркастычнай думкі, што з'явілася яшчэ два дні назад, на пасяджэнні Саўнаркома: «Пакутлівая хвароба — кароста». Спачатку сцёбнуў па марксісцкіх невуках нібыта з бацькоўскай мяккасцю — каб не паламаць косці: сказаў, што хвароба нярэдка здараецца «з самых лепшых, высакародных, узвышаных намераў», «проста ад непераваранасці вядомых тэарэтычных ісцін або дзіцяча-аляпаватага, вучнёўска-рабскага паўтарэння іх не да месца (не разумеюць людзі, што да чаго)».

Але праз момант не стрымаўся — ударыў бязлітасна: «але ад гэтага кароста не перастае быць паганай каростай».

Ад абзаца да абзаца нарастаў ленінскі сарказм, непрымірымасць да блытанікаў, гнеў да тых, хто робіць так не толькі ад вучнёўскага неразумення.

Гэта ўжо ўдар не толькі па Бухарыну, але і па Троцкаму, новы віток у сістэме доказаў, што мір, любы мір,— адзіны ратунак:

«Мір — галоўнае. Калі пасля добрасумленных намаганняў атрымаць агульны і справядлівы мір аказалася, на справе аказалася, што яго зараз атрымаць нельга, то любы мужык зразумеў бы, што прыходзіцца браць не агульны, а сепаратны (асобны) і несправядлівы мір. Усякі мужык, нават самы цёмны і непісьменны, зразумеў бы гэта і цаніў урад, які даў яму нават такі мір».

У Леніна ўзняўся настрой. Так было заўсёды, калі хораша напрацавалася, без перашкод, і можна быць задаволеным зробленай работай.

Надзеў паліто, шапку, цераз чорны ход пайшоў на двор, каб колькі хвілін пагуляць перад абедам. Выйшаў на плошчу. Абышоў вакол Смольнага. Мароз быў лёгкі, градусы два. Але моцны вецер прабіваў нават зімовае паліто (Аляксандра Міхайлаўна Калантай купіла недзе) наскрозь. Ды вецер гнаў ужо не зімовую сцюжу, а пах блізкага мора і... вясны. Можа, толькі ён, чалавек, які з малых гадоў любіў перадвясенніія прагулкі, мог улавіць гэты тонкі пах яшчэ няблізкай вясны.

Перад парадным фасадам Смольнага строіўся рабочы батальён. Гаварыў прамову камісар. Ах, як яму захацелася таксама выступіць перад людзьмі, што адбываюць на фронт! Але нельга так стыхійна. Бонч-Бруевіч і без таго незадаволены вось такімі нечаканымі, амаль тайнымі прагулкамі яго, выступленнямі. Уявіў, як нялёгка кіраўніку спраў рабіць яму вымовы, якія хітрыя словаспляценні той ужывае, і гарэзліва пасміхнуўся.

У вестыбюлі першага паверха чырвонаармейцы пазналі яго.

— Ленін!

— Ура — таварышу Леніну!

Уладзімір Ільіч прывітаў іх падняццем рукі і хутка пайшоў на другі паверх.

Надзежда Канстанцінаўна і Марыя Ільінічна чакалі яго абедаць. Убачылі апранутага, спыталі:

— Ты некуды ездзіў?

— У штаб Петраградскай акругі,— у штаб ён меў намер паехаць пасля абеду.

Дастаў з кішэні спісаныя лісткі, перадаў сястры, папрасіў:

— Маняша, дарагая, абавязкова ў сённяшні вячэрні выпуск! Абавязкова!

Марыя Ільінічна глянула, здзівілася:

— Аб каросце? Аб якой каросце?

— Есць, Маняша, і такая хвароба ў палітыцы,— сур'ёзна адказаў Уладзімір Ільіч.

Разам з Надзеждай Канстанцінаўнай, стоячы пасярод пакоя, яны прачыталі артыкул.

— Здорава! — сказала Марыя Ільінічна.— Але калі, Валодзя? Калі ты напісаў?

— Не мае значэння — калі. Важна, што зроблена. Гэта архіпатрэбна!

— Я разумею, як гэта патрэбна,— сказала Надзежда Канстанцінаўна,— але мы з Машай паскардзімся на цябе ЦК. Ты зусім не спіш...

— Каму канкрэтна? — пасміхнуўся Ленін,— Троцкаму?

— Свярдлову. Стасавай...

— Скаргі — таксама кароста, іншага роду,— ужо зусім весела засмяяўся Уладзімір Ільіч і гэтак жа весела сказаў: — Аднак як мне хочацца есці! Надзя! Маняша! Панюхайце, як пахне суп!

5

У ноч ка 23 лютага Уладзімір Ільіч амаль зусім не спаў. Адказу на згоду падпісаць мір не было, нямецкія радыёстанцыі маўчалі на гэты конт; у газетах нейтральнай Швецыі, якія ўмелі апярэджваць падзеі і даваць самую свежую інфармацыю,— таксама, відаць, нічога няма, інакш Вароўскі і Калантай неадкладна тэлеграфавалі б. Асабліва трывожыла маўчанне Турчана. Ці дабраўся ён? Ці звязаўся з адказнымі нямецкімі чынамі?

Аднак Ленін не дапускаў думкі, што парламенцёры маглі загінуць на лініі фронту. Ён добра ведаў нораў нямецкіх мілітарыстаў, але, будучы прыхільнікам законаў міжнароднага права, няхай сабе пакуль што і буржуазнага, верыў у сілу канвенцый, падпісаных урадамі, якія ўчапіліся цяпер адзін аднаму ў горла. Не, Турчан павінен вярнуцца. Але з чым? Немцы, безумоўна, атрымалі прапановы Савецкага Урада, сярод якіх ёсць і прапанова аб неадкладным спыненні ваенных дзеянняў. Але нямецкае наступленне не толькі не спыняецца, яно робіцца больш імклівым. Клін іх ударных сіл яўна нацэлены на Петраград. Зламаць клін, затрымаць марш нямецкіх дывізій могуць толькі рабочыя палкі, што з энтузіязмам ад'язджаюць на фронт. Гэта найвялікшая сіла рэвалюцыі — вось такі свядомы патрыятычны парыў пралетарыяту, лепшых рэвалюцыйных часцей, баявую моц якіх складаюць былыя сяляне. Людзі гэтыя бясстрашна і добраахвотна ідуць на смерць, каб абараніць Сацыялістычную Айчыну. Такіх людзей ніхто ўжо не паставіць на калені.

Увага Леніна з пачатку нямецкага наступлення была скіравана на фарміраванне рабочых атрадаў, на іх узбраенне, провады на фронт, на перабудову работы Генеральнага штаба, армейскіх штабоў,

на падбор камандзірамі і камісарамі надзейных ваенспецаў, адукаваных бальшавікоў. Гэтай рабоце варта аддаць увесь час, усе дні і ночы. Нядрэнна было б перанесці свой рабочы стол у Генштаб ці ў штаб абароны Петраграда, як у дні рэвалюцыі, цалкам углыбіцца ў ваенныя справы. Але нельга. Акрамя мноства неадкладных пытанняў умацавання Савецкай улады, прыходзіцца яшчэ весці цяжкую стамляючую барацьбу з «левымі» бальшавікамі, з левымі эсэрамі, з Троцкім, з усімі, хто не разумее ці не хоча зразумець, што ў данай сітуацыі ёсць толькі адзін ратунак — мір.

Уладзімір Ільіч падумаў пра гэта, адарваўшыся амаль ужо на світанні ад тоўстага тома «Гісторыі Заходняй Еўропы ў новы час» Кірэева. Ён грунтоўна, з выпіскамі (кнігу Марыя Ільінічна па яго просьбе прынесла з публічнай бібліятэкі, і ён не дазваляў сабе рабіць заўвагі на палях, як на ўласных кнігах), праштудзіраваў за другую палавіну ночы вялікі раздзел «Панаванне Францыі ў Еўропе пры Напалеоне I». Каб даканаць праціўнікаў міру, трэба не толькі заклікі, але глыбокія тэарэтычныя высновы, падмацаваныя фактамі гісторыі. Як вызваляліся народы Еўропы ад напалеонаўскай тыраніі — гэта вельмі істотна. Дык чаму ж лічаць, што не могуць вызваліцца эстонцы, латышы, літоўцы, беларусы, украінцы, палякі ад нямецкага нашэсця?! Заваёўнікаў заўсёды выганялі з ганьбай.

Уладзімір Ільіч ціха загарнуў кнігу, патушыў свечку, пры якой чытаў.

Дзень пачаўся звычайна. Кароткая прагулка, у часе якой зноў парадавала скапленне рабочых атрадаў каля Смольнага.

Ленін падумаў:

«Колькі ў іх рэвалюцыйнага энтузіязму! Шкада толькі, што не хапіла часу навучыць іх ваеннай справе. Ад гэтага, безумоўна, будуць лішнія ахвяры». З болем падумаў аб тых, хто аддасць сваё жыццё за Савецкую ўладу. Цяжка ўздыхнуў. А магло б не быць гэтых ахвяр, каб мір з немцамі быў падпісаны ў студзені ці, як дамовіліся, 10 лютага. Дорага, ох, як дорага абыдзецца абструкцыя «левых», авантура Троцкага!

«Аднак, якія ні былі б ахвяры, Петраград не здамо! Петраград — сэрца рэвалюцыі».

На рабочым стале — падрыхтаваныя кіраўніцтвам справамі, акуратна перадрукаваныя на бланках дэкрэты, якія прыняты на папярэдніх пасяджэннях Саўнаркома. Што першачарговае з дакументаў? Безумоўна, Дэкрэт аб стварэнні Надзвычайнай камісіі па разгрузцы Петраграда. Уладзімір Ільіч падпісаў яго. Камісію трэба

неадкладна сабраць, каб даць ёй інструкцыі. Даў на гэты конт указанне Гарбунову. Сакратар між іншых спраў сказаў:

— Крыленка пытае, куды эвакуіраваць са Смаленска ўпраўленне шляхоў зносін фронту.

— Куды? — Ленін задумаўся.

У Маскву? Не. Масква будзе перагружана эвакуацыяй урадавых устаноў з Петраграда.

— Дамо, Мікалай Пятровіч, тэлеграму двум Саветам — Курскаму і Арлоўскаму, няхай рыхтуюць памяшканні. Увогуле праверце, у якіх гарадах дзяржаўныя памяшканні, губернатарскія палацы, дваранскія і буржуазныя асабнякі не заняты пад шпіталі. Запытайце Саветы. Ваенныя са свайго боку няхай возьмуць на ўлік усё, што ім можа спатрэбіцца на выпадак адступлення ў глыбіню Расіі. З улікам шляхоў зносін, сувязі. Безумоўна, самае лепшае — пад шпіталі!

У гэты момант у кабінет увайшлі Крыленка і Турчан. Малады прапаршчык аброс барадой, шынель яго быў моцна пакамечаны: Галоўкаверх не даў кур'еру нават умыцца, пераапрануцца, адразу з поезда павёз у Смольны, бо меў такі загад ад Леніна: Уладзімір Ільіч пазаўчора і ўчора па колькі разоў на дзень пытаўся: ці чуваць што ад парламенцёраў?

Ленін хутка падняўся, пайшоў насустрач Турчану, не спускаючы вачэй з яго палявога планшэта: што ў ім?

— Прывезлі?

— Так точна, таварыш Ленін.

— Прапаршчык дастаў з планшэта невялікі па памерах, са шчыльнай паперы з гербам Германскай імперыі, грыфам міністэрства замежных спраў канверт. Другі бок яго быў залеплены тоўстымі сургучовымі пячаткамі.

— Што тут?

— Не ведаю. Маёр Генштаба, перадаючы мне адказ нямецкага ўрада, сказаў, што ўручае мір.

— Як нямецкія ўлады да вас адносіліся?

— Падкрэслена карэктна. Хораша кармілі. Але трымалі пад аховай. З Дзвінска прывезлі на станцыю Уцяны, пасадзілі ў нейкай казарме, праўда, добра напаленай, і двое сутак не выпускалі нават на прагулку. А з акна было відаць толькі голае поле і недалёкі лес...

— Але, немцы ўмеюць ахоўваць свае сакрэты.

— Пагаварыць удалося толькі з вартавымі.

— Які ў іх настрой?

— Немцы народ асцярожны. Аднак салдаты адкрыта выказваліся за мір. Вайна ім абрыдла. Пра перамір'е яны гавораць, як пра свята.

— Так-так,— Ленін стаяў, трымаючы ў руках канверт. Але Крыленку здалося, што Леніна ў гэты міг больш цікавіць абстаноўка на фронце, чым нямецкі адказ. Мікалая Васільевіча гэта здзівіла.

— Што на лініі фронту?

— Калі ішлі туды, мы не бачылі яе, лініі фронту. Прайшлі з белым сцягам. Нашы часці адступалі хаатычнай масай, многа салдат было без зброі. А калі ўчора ўвечары пераходзілі назад, у раёне Пскова грымела артылерыя. Немцам ледзь удалося дамовіцца з нашым камандаваннем, каб перадаць нас. Прызнаюся, я нават баяўся, каб не падстрэлілі свае...

— Чыя грымела артылерыя? Наша? Нямецкая?

— Ішла дуэль. Як франтавік, я гэта добра пачуў. Гарматы білі з двух бакоў.

— Моц... моц нашай артылерыі вы пачулі?

— Думаю, з нашага боку біла не менш ствалоў.

Ленін заклаў рукі назад, як бы схаваўшы канверт.

Яму не цярпелася хутчэй прачытаць нямецкія ўмовы. Але не мог ён не распытаць чалавека, які толькі што быў на лініі фронту. Няхай на тым баку яму мала што ўдалося ўбачыць. Але агульную абстаноўку такі вопытны вайсковец не мог не адчуць.

— Гэта выдатна, калі ў нас біла не менш ствалоў,— павярнуўся Ленін да Крыленкі, — Немцам трэба даць зразумець, што ў нас ёсць сіла для супраціўлення,— і зноў гэтак жа хутка падышоў да Турчана, працягнуў руку: — Дзякую вам, таварыш. Перадайце маю падзяку салдатам, якія суправаджалі вас. Адпачывайце. Мікалай Васільевіч, выдайце таварышам двайны паёк. І два дні поўнага адпачынку.

Турчан, па-армейску казырнуўшы, выйшаў.

Ленін узняў канверт, прачытаў адрас:

— «Ураду Расіі». М-да, лаканічна. І невыразна.

Уважліва агледзеў пячаткі і раптам перадаў канверт Гарбунову.

— Распячатайце.

А сам пайшоў за стол. Аднак не сеў у рабочае крэсла, застаўся стаяць, насцярожаны, напружаны, як бы чакаючы нападу ворага.

Гарбуноў глянуў на стол, спыніў позірк на касцяным нажы, якім Уладзімір Ільіч разразаў кніжкі, раскрываў канверты. Але сакратару здалося, што гэты нож непрыгодны, каб раскрыць такі незвычайны засургучаваны пакет. Ён сказаў:

— Я вазьму нажніцы,— і пайшоў у пакой сакратарыята.

Ленін і Крыленка паглядзелі адзін на аднаго.

Уладзімір Ільіч сказаў з горкай усмешкай:

— Сядайма, Мікалай Васільевіч. Прысутнічаем не пры ўрачыстым акце,— і паказаў вачамі на канверт: — Што, па-вашаму, тут?

— Горшы ультыматум.

— Так, вы маеце рацыю. Умовы, безумоўна, жорсткія. Але мы вымушаны будзем прыняць іх.

Тэкст быў надрукаваны гатычным шрыфтам, што, безумоўна, падкрэслівала дзяржаўную важнасць і, можа, нават пагрозу — так пісалі свае ноты прускія князі. Тэкст змясціўся на дзвюх старонках. Нямецкая лаканічнасць.

Ленін умеў чытаць нямецкія кнігі гэтак жа хутка, як і рускія. Аднак сачынёны Кюльманам і Гофманам і ўхвалены кайзерам дакумент чытаў з дзіўнай запаволенасцю. З дзіўнай для Гарбунова, які штодня бачыў, як Старшыня Саўнаркома прачытвае паперы.

Гарбуноў і Крыленка з трывожнай сцішанасцю сачылі за выразам твару Уладзіміра Ільіча. Бачылі, як з'яўляліся на яго шырокім ілбе ўсё новыя зморшчыкі, як яны паглыбляліся; пакутліва, як у чалавека, якому раптам вельмі забалела, скрывіліся вусны. Але толькі на міг. Следам за выразам болю твар набыў суровасць.

Скончыўшы чытаць, Ленін ударыў далонню па ультыматуме, і на нямецкай паперы пальцы яго сціснуліся ў кулак.

— Во дзе вылезла морда імперыялістычнага драпежніка! — імкліва падняўся, узяў лісты ў рукі, узмахнуў імі.— Вы паслухайце, што яны патрабуюць,— але не стаў перакладаць па тэксту, сказаў сваімі словамі: — У дадатак да брэсцкіх умоў нямецкія мілітарысты патрабуюць усю Прыбалтыку, палавіну Беларусі. Яны вымушаюць нас заключыць мір з Цэнтральнай радай і вывесці ўсе войскі з Украіны і Фінляндыі. Мы павінны дэмабілізаваць старую армію і ўсе часці новай, Чырвонай... Ах, мярзаўцы! Усе караблі нашых флотаў, Балтыйскага, Чарнаморскага, у Ледавітым акіяне, раззброіць. Карс, Батум і Ардаган аддаць Турцыі і прызнаць адмену турэцкіх капітуляцый. Яны патрабуюць бяспошліннага вывазу нашай руды і хлеба. І ў дадатак — кантрыбуцыі, якую прыкрываюць формулай — за ўтрыманне ваеннапалонных і на пакрыццё страт прыватных асоб. Вярні, Савецкая Расія, нямецкім баронам тое, што адабрала ў іх рэвалюцыя. Усе гэтыя ўмовы мы павінны прыняць на працягу 48 гадзін і неадкладна выслаць дэлегацыю ў Брэст-Літоўск. За тры дні падпісаць там гэты архіцяжкі мір і за два тыдні правесці ратыфікацыю яго. Вось што, таварышы, патрабуюць ад нас нямецкія імперыялісты! — сказаў Ленін апошнюю фразу не разважліва, а як бы з трыбуны, перад

вялікай аўдыторыяй, і сеў у крэсла. Пацёр пальцамі скроні — забалела галава. Сказаў голасам, поўным горычы:

— Так, новыя ўмовы ў дзесяць разоў горшыя, у дзесяць разоў цяжэйшыя, больш унізіцельныя за цяжкія і нахабныя брэсцкія ўмовы. А хто ў гэтым вінаваты? — глянуў на Крыленку і Гарбунова, нейкі міг як бы пачакаў адказ, але адказаў сам, з гневам: — У гэтым вінаватыя ў адносінах да вялікай Расійскай Савецкай Рэспублікі нашы гора-«левыя» Бухарын, Ломаў, Урыцкі, іх кампаньён Троцкі... Ім давалі брэсцкія ўмовы, а яны адказвалі фанфаронствам і выхваленнем, яўным авантурызмам. І да чаго давялі? Не, адказнасці за гэта ім з сябе не зняць! — узяў нямецкі адказ, працягнуў Гарбунову, сказаў зусім іншым голасам — добрым, дзелавітым: — Мікалай Пятровіч, Чычэрыну — для перакладу. Архітэрмінова! Праз паўгадзіны збярэцца Цэнтральны Камітэт. Пазваніце Стасавай.

Застаўшыся адзін, Уладзімір Ільіч мінуты тры хадзіў па кабінеце ў глыбокай задуме. Потым сеў да стала, памакнуў пяро ў чарніліцу, буйнымі літарамі напісаў: «Мір ці вайна?», падкрэсліў загаловак дзвюма рыскамі.

Пяро ляцела з хуткасцю думкі: «Адказ германцаў, як бачаць чытачы, ставіць нам умовы міру яшчэ больш цяжкія, чым у Брэст-Літоўску. І тым не менш, я абсалютна перакананы ў тым, што толькі поўнае ап'яненне рэвалюцыйнай фразай здольна штурхаць сяго-таго на адмаўленне падпісаць гэтыя ўмовы. Іменна таму я і пачаў артыкуламі ў «Правде» (за подпісам Карпаў) аб «рэвалюцыйнай фразе» і аб «каросце» бязлітасную барацьбу з рэвалюцыйнай фразай, што я бачыў і бачу ў ёй цяпер найбольшую пагрозу нашай партыі (а значыцца, і рэвалюцыі)».

Праз паўгадзіны артыкул быў гатовы. Ён канчаўся словамі: «Няхай ведае ўсякі: хто супраць неадкладнага, хоць і архіцяжкага міру, той губіць Савецкую ўладу.

Мы вымушаны прайсці праз цяжкі мір. Ён не спыніць рэвалюцыі ў Германіі і ў Еўропе. Мы прымемся рыхтаваць рэвалюцыйную армію не фразамі і воклічамі (як рыхтавалі яе тыя, хто з 7-га студзеня не зрабіў нічога для таго нават каб паспрабаваць спыніць нашы войскі, якія бягуць), а арганізацыйнай работай, справай, стварэннем сур'ёзнай, усенароднай, магутнай арміі».

Ленін выступіў першы — пасля таго, як Свярдлоў зачытаў рускі тэкст нямецкага ультыматуму, і пасля таго, як Троцкі з выглядам мудрага знаўцы паразважаў: сорак восем гадзін, што дадзены на адказ, канчаюцца заўтра ў сем гадзін раніцы. Для чаго былі яму гэтыя інфармацыйныя разважанні? Ці не для таго, каб даць «левым» сігнал

— зацягнуць дыскусію да заўтра і такім чынам сарваць прыняцце нямецкіх умоў.

Ленін падумаў пра гэта. Але больш за ўсё Уладзіміра Ільіча абурыла, з якімі поснымі і спакойнымі выразамі на тварах выслухалі ультыматум праціўнікі міру, быццам гэта была звычайная інфармацыя, якую можна паслухаць і забыць. Няўжо людзі не разумеюць, што трэба неадкладна вырашаць — жыць Савецкай уладзе ці быць растаптанай ботамі кайзераўскіх салдат. А вунь Дзяржынскаму ажно заняло дыханне, відаць, сціснула грудная жаба. Збялела Елена Дзмітрыеўна Стасава, рука, якой пісала пратакол, прыкметна трымцела.

Ленін цяжкавата падняўся, хоць на пасяджэннях ЦК часта выступалі седзячы, як і на пасяджэннях Саўнаркома.

Голас Уладзіміра Ільіча быў як бы трохі ахрыплы, так ён часам гучаў у канцы доўгіх і палымяных прамоў, аднак роўны і знешне спакойны. Але сказаў Ленін з той унутранай непахіснай рашучасцю, якую большасць прысутных добра ведалі. Сказаў тое, што гадзіну назад напісаў у артыкуле «Мір ці вайна?».

— Месяц назад у сваіх тэзісах аб міры я пісаў, што калі мы адмовімся падпісаць той мір, які нам прапануюць, то мацнейшыя паражэнні прымусяць Расію заключыць яшчэ больш нявыгадны сепаратны мір. Выйшла яшчэ горш, бо наша адступаючая і дэмабілізуючаяся армія зусім адмаўляецца ваяваць. Толькі нястрымная фраза можа штурхаць Расію пры такіх умовах, у такі момант на вайну. Я заяўляю, што ні секунды не застануся ні ва ўрадзе, ні ў ЦК, калі палітыка фраз возьме верх. Я буду змагацца супраць тых, хто сваім бяздумным фразёрствам губіць рэвалюцыю. Рэвалюцыйныя партыі, якія строга трымаліся рэвалюцыйных лозунгаў, многа разоў ужо ў гісторыі захворвалі рэвалюцыйнай фразай і гінулі ад гэтага. Мы вымушаны прайсці праз цяжкі мір.

Ультыматум Леніна быў выбухам бомбы. Уміг змяніліся ўсе твары. Цяпер ні ў каго не было ўжо робленай раўнадушнасці: маўляў, колькі разоў гаворым пра адно і тое ж, абвясцілі б «рэвалюцыйную вайну» і ўсе ганяліся б канкрэтнай справай.

На тварах розных людзей адбіліся самыя розныя пачуцці: здзіўленне, ашаломленасць, спалох, трывога, як паводзіць сябе, што сказаць, што зрабіць? Пераможна ўсміхнуўся адзін Ломаў, якому да канца жыцця будзе сорамна за гэтую ўсмешку і за словы, якія ён скажа крыху пазней.

Ленін сеў.

Наступіла паўза.

У Троцкага менш чым у каго пачуцці адбіліся на твары. Аднак, стаіўшы дыханне, ён слухаў, як учашчаюцца ўдары яго сэрца. Мозг апякла думка: ці не наступіў той час, пра які ён марыў яшчэ ў маладосці і мару гэтую песціў усё жыццё. Але няма сумнення, што за Леніным пойдзе большасць партыі і народа. Пры яго аўтарытэце інакш не можа быць, і ніякімі самымі палымянымі заклікамі ён, Троцкі, людзей гэтых не паверне ў свой бок. Паглядзеў на Бухарына. Ён — апора? У гэтага — ніякай пазіцыі. Ён ужо разгубіўся: вачэй не адрывае ад тэксту нямецкіх умоў, што ляжаць перад ім. Баіцца глянуць на Леніна, на яго аднадумцаў.

Нахабна і смела глядзіць Ломаў-Апокаў. Але Ломаў заўтра гэтак жа выступіць і супраць яго, Троцкага. Ды і што за палітык Ломаў? Практык. Як Іофе. Як Урыцкі. Дзяржынскі? Гэты быў і заўсёды будзе з Леніным.

Сталін нервова ламае запалкі, хоча запаліць люльку, якая яшчэ не патухла, і, бадай, з нянавісцю глядзіць на яго, Троцкага. Ад такога позірку стала нават трохі страшнавата. У Свярдлова цвёрды аўтарытэт у ЦВК, і гэты — бескампрамісны ленінец.

Гэтак жа лёгка, як завёўся, Троцкі супакоіў сябе.

Паўза зацягвалася. Здаецца, ніхто яшчэ не гатовы гаварыць. Гэта выгадна — пачаць першаму і «разрадзіць атмасферу». Троцкі гэта ўмеў, недарэмна калегі прызнавалі яго дыпламатычныя якасці.

— Я здзіўлены заявай Леніна. Так, Уладзімір Ільіч, палемізаваць нельга...

— Гэта не палеміка, гэта — ультыматум. Хопіць слоў! — не стрымаўся Ленін.

— Але давайце паразважаем без эмоцый,— заклікаў Троцкі.— Весці рэвалюцыйную вайну пры расколе

ў партыі мы не можам. Пры тых умовах, якія могуць стварыцца, наша партыя не ў сілах кіраваць вайной, тым больш што многія прыхільнікі вайны не жадаюць купіць матэрыяльныя сродкі для вядзення вайны ў дзяржаў Антанты. Але падпісаць гэты ўнізіцельны мір?!. Ніякія доказы Леніна мяне не пераконваюць. Каб у нас была аднадумнасць, мы здолелі б арганізаваць абарону. Безумоўна, напачатку нам прыйшлося б адступіць. Але мы не апынуліся б у бязвыхадным становішчы, каб нават былі вымушаны здаць Піцер і Маскву. Мы трымалі б увесь свет у напружанасці. Калі ж мы падпішам вось гэты нямецкі ультыматум, то заўтра мы будзем мець новы ультыматум. Усе фармуліроўкі яго такія, што даюць магчымасць далейшых ультыматумаў. Нарэшце, падпісаўшы такі ганебны мір, мы страцім апору ў перадавых элементах пралетарыяту. Але паўтараю:

для вядзення вайны трэба максімальная аднадумнасць. Паколькі яе няма, я на сябе не вазьму адказнасці галасаваць за вайну.

Хіба не ўзор дзеяння па прынцыпу: і нашым, і вашым? Даўняя тактыка Троцкага: сутыкаць праціўнікаў ілбамі, падбухторваць тых, хто супраць Леніна, а сабе прысвойваць ролю аб'ектыўнага суддзі.

Выступленне Троцкага натхніла Бухарына. Лідэр «левых» быў непамерна больш ваяўнічы, чым на пасяджэнні васемнаццатага лютага. Ён падрабязна разбіраў усе дзесяць пунктаў нямецкага ультыматуму, даводзячы, якая пагроза тоіцца ў кожным з нахабных рабаўніцкіх патрабаванняў.

Разгублены ў сітуацыі, якая абвастрылася, Сталін прапанаваў нерэальнае: міру не падпісваць, але перагаворы пачаць.

Дзяржынскі сказаў, што ён таксама не можа галасаваць за вайну. Але ён і Стасава ўпікнулі Леніна за бескампраміснасць.

Уладзімір Ільіч тут жа адказаў, на гэты раз не ўстаючы:

— Некаторыя папракаюць мяне за ультыматум. Я. яго стаўлю ў крайнім выпадку. Адказваю папярэднім прамоўцам. Калі тут гавораць аб міжнароднай грамадзянскай вайне, то гэта здзек і невуцтва. Грамадзянская вайна ёсць у Расіі, але яе няма ў Германіі. Наша агітацыя застаецца. Мы агітуем не словам, а рэвалюцыяй. І гэта застаецца. Сталін не правы, калі ён кажа, што можна не падпісваць. Гэтыя ўмовы трэба падпісаць. Калі вы іх не падпішаце, то вы падпішаце смяротны прыгавор Савецкай уладзе цераз тры тыдні. Гэтыя ўмовы Савецкай улады не чапаюць. У мяне няма ні малейшага хістання. Я стаўлю ультыматум не для таго, каб яго здымаць, калі пераможа рэвалюцыйная фраза. Умовы трэба падпісаць! Калі потым будзе новы нямецкі ультыматум, то ён будзе ў новай сітуацыі.

Пасля паўторных выступленняў Бухарына і Сталіна, які на гэты раз згадзіўся, што ўмовы трэба неадкладна прыняць, раптам вылез Ломаў і сказаў тое, чаго не адважыўся сказаць ніхто:

— Калі Ленін пагражае адстаўкай, то дарэмна палохаюцца. Трэба браць уладу без Леніна.

Усім зрабілася няёмка. Усе насцярожыліся. Стасава абурылася:

— Ну, ведаеце!

Дзяржынскі імкліва падняўся і, напэўна, каб адвесці ўвагу ад гэтай тэмы, прапанаваў зрабіць перапынак, каб звязацца са штабам і атрымаць апошнюю інфармацыю аб становішчы на фронце. Ён аспрэчыў Зіноўева, які перад гэтым даводзіў неабходнасць падпісання міру тым, што маляваў абстаноўку ў Петраградзе і краіне ў самых змрочных фарбах: усюды песімізм, няўпэўненасць, паніка, хлеба няма, патронаў няма. Старшыня Петраградскага Савета або не

ведаў, або знарок хаваў той уздым, які панаваў сярод рабочых пасля ленінскага Дэкрэта-зварота «Сацыялістычная Айчына ў небяспецы!».

Паколькі атмасфера на пасяджэнні накалялася, зноў выступіў «голуб» Троцкі. Ён пачаў разважаць наконт таго, што самае правільнае было б, каб Каменеў і Іофе яшчэ ў снежні падпісалі мірны дагавор. Але тады, маўляў, сам Ленін стаяў за тое, каб зацягваць перагаворы, што, маўляў, не было яснасці прычын, чаму мы яго заключаем.

Троцкі ўсё пераварочваў дагары нагамі. Троцкі не жадаў успомніць, што для Леніна ўсё было ясна яшчэ ў тую кастрычніцкую ноч, калі ён уласнаручна пісаў Дэкрэт аб міры. Зацягванне перагавораў было не толькі тактычным, але і стратэгічным ходам з мэтай рэвалюцыянізацыі пралетарыяту Германіі і краін Антанты. Троцкі ўпікнуў Леніна:

— Ільіч ухіліўся і не абараняў маёй пазіцыі, калі яна праходзіла. Не магу згадзіцца, што ёсць толькі адзін выхад са становішча. Небяспека нам пагражае і на шляху міру, і на шляху рэвалюцыйнай вайны. Можа быць сярэдняя пазіцыя.

Гэта значыць яго, Троцкага.

Далей Троцкі сказаў:

— У пазіцыі Леніна многа суб'ектывізму. У мяне няма ўпэўненасці, што пазіцыя яго правільная, але я нічым не хачу перашкаджаць адзінству партыі, насупраць, буду памагаць, чым магу. Але я не магу заставацца і несці персанальную адказнасць за замежныя справы.

У гэтых словах — увесь Троцкі, уся яго дэмагогія, усё фарысейства. Ён — за Леніна і супраць Леніна. Ён — за мір, але супраць прыняцця нямецкіх умоў. Ён — за адзінства партыі, але сваёй адстаўкай дае сігнал хаўруснікам.

Ленін зразумеў манеўр Троцкага. Выступіў зноў. Давёў, што без арміі мы не застанёмся, што «дагавор можна тлумачыць, і мы яго будзем тлумачыць». Дэмабілізацыю, якую патрабуюць немцы, можна тлумачыць у чыста ваенным сэнсе. Немцы не патрабуюць замены палітычнага ладу, і мы не дамо ім умешвацца ва ўнутраныя справы Савецкай рэспублікі.

— Я ні секунды не сумняваюся, што масы за мір!

Ленін патрабаваў галасавання па трох пунктах:

Ці прыняць неадкладна нямецкія прапановы?

Ці рыхтаваць неадкладна рэвалюцыйную вайну?

Ці рабіць неадкладна апытанне сярод савецкіх выбаршчыкаў Петраграда і Масквы?

Толькі геній Леніна мог прыдумаць такое простае і мудрае спалучэнне пытанняў, па якіх належала прыняць рашэнні. Хто выступіць супраць таго, што да рэвалюцыйнай вайны трэба рыхтавацца? Ніхто, безумоўна. Гэта заспакоіць «левых». Праціўнікі міру добра разумеюць, што савецкія выбаршчыкі — пралетарыят (буржуі права голасу пазбаўлены) — выкажуцца за мір. Паспрабуйце, Бухарын і Ломаў, прагаласаваць супраць апытання пралетарыяту дзвюх сталіц!

Ленінскі разлік быў дакладны.

За падрыхтоўку вайны прагаласавалі ўсе пятнаццаць членаў ЦК.

За апытанне выбаршчыкаў — адзінаццаць, бухарынцы ўстрымаліся. Але галоўнае — неадкладнае прыняцце нямецкіх умоў.

Елена Дзмітрыеўна Стасава, якая пэўны час была пад уплывам «левых», аддала свой голас за Леніна. Сем чалавек прагаласавала за мір, чацвёра — група Бухарына — супраць, чацвёра ўстрымаліся; Троцкі і Іофе, якія сарвалі падпісанне міру на значна лягчэйшых, брэсцкіх, умовах, на гэты раз устрымаліся.

Цяжкая, але перамога!

Уладзімір Ільіч адчуў палёгку. Можна лічыць, што рэспубліка ўратавана. Уратаваны ад смерці сотні тысяч людзей. Уратаваны дзеці ад сіроцтва, маці іх ад горкага ўдовінага лёсу.

Ленін расслаблена адкінуўся на спінку крэсла. На міг заплюшчыў вочы, слухаючы, як сціхае пульсацыя крыві ў скронях, у патыліцы. Пры знешнім спакоі ён моцна хваляваўся. Як учасціўся пульс! Як забалела галава! Добра было б хоць паўгадзіны адпачыць на адзіноце, у цішыні... Не, не ў кабінеце. Каб прайсціся па лесе. Але хіба можна здзейсніць такую мару? Трэба хутчэй, як можна хутчэй склікаць Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саветаў і, не марудзячы ні хвіліны, паслаць нямецкаму ўраду радыёграму і тэрмінова рыхтаваць мірную дэлегацыю. Колькі спраў! А людзі гэтыя ўсё яшчэ працягваюць да крыўднага недарэчную барацьбу.

Падняўся Урыцкі і ад свайго імя, ад імя Бухарына, Ломава, Бубнава і Якаўлевай прачытаў заяву, што, не жадаючы несці адказнасць за прынятае рашэнне, яны ўходзяць з усіх адказных партыйных і савецкіх пасад.

Ленін адзначыў, што ніхто тут заяву не пісаў, яна была падрыхтавана загадзя. Гэта амаль развесяліла: значыцца, не верылі «левыя» ў сваю перамогу.

Ленін стаў добры. Падтрымаў прапанову Свярдлова, каб да з'езда партыі ўсе заставаліся на сваіх месцах.

Ломаў. Уладзімір Ільіч, ці дапускаеце вы нямую або адкрытую агітацыю супраць падпісання міру?

Ленін. Дапускаю.

Сталін. Ці не азначае выхад з ЦК выхад з партыі?

«Левыя» абурана зашумелі.

Ленін. Выхад з ЦК не азначае выхаду з партыі. У нас ёсць тры дні да падпісання, дванаццаць да ратыфікацыі. За гэты час мы можам атрымаць думку партыі.

«Левыя» пачалі «таргавацца», як капрызныя дзеці. Маўляў, калі ім дадуць свабоду агітацыі, то ў такім разе яны застануцца на сваіх пасадах.

Ленін прыкінуў, што за два-тры дні, якія засталіся да падпісання міру, агітацыя «левых» будзе пустой балбатнёй, якую можа падтрымаць хіба толькі буржуазія. Нішто сабе архірэвалюцыянеры, якіх падтрымае контррэвалюцыя! Няхай агітуюць. Галоўнае — сёння на пасяджэнні ЦВК атрымаць большасць! Ленін спакойна растлумачыў статутнае правіла: агітаваць «левыя» маюць права, але галасаваць супраць рашэння ЦК у савецкіх органах не могуць. І прапанаваў: у фракцыі і на пасяджэнні ЦВК .праціўнікам міру лепш за ўсё ў часе галасавання выходзіць з залы.

Гэта ўтаймавала «левых» крыкуноў.

У пяць гадзін раніцы Ленін напісаў і падпісаў Пастанову СНК: «Згодна з рашэннем, прынятым Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў 24 лютага ў $4^{1}/_{2}$ гадзіны ночы, Савет Народных Камісараў пастанавіў умовы міру, прапанаваныя германскім урадам, прыняць і выслаць дэлегацыю ў Брэст-Літоўск».

## Раздзел другі
## БРАТЫ МІНАЯ

### I

Выла завіруха. Заносіла паляну і будынкі на ёй снегам. Бор гудзеў і трашчаў. Шалёны вецер зламаў старую сасну, і яна, упаўшы, пабурыла гумно. На таку, вакол вогнішча, што гарэла ў выкапанай яме, грэліся людзі. У гумне яны і начавалі. У ёўні добра напалілі. Партызаны самі аблюбавалі гэтае гумно, бо ў невялікай лесьнічоўцы ўвесь атрад не мог размясціцца, там засталіся камандзіры, раненыя салдаты-батарэйцы, якім удалося адступіць пасля таго, як батарэю накрылі агнём нямецкія гарматы, ды сяляне — хто старэйшы ды са слабейшым здароўем.

У гумне былі маладыя. А дзе моладзь — там весялосць нават у самыя цяжкія, здавалася б, безвыходныя хвіліны. Партызаны расказвалі вясёлыя прыгоды.

У хаце панавалі панурасць і смутак. Можа, нават роспач. Стагналі раненыя. Паміж імі, пераступаючы цераз людзей, тыграм хадзіў Бульба-Любецкі і мацюкаў усё на свеце — немцаў, бога, непагадзь... Учора паспрабаваў вылаяць бальшавікоў: «Давялі Расію, такую іх...» Але Антон Рудкоўскі вызверыўся на яго: «Ты — эсэраўская контра! Я цябе за такія словы!» Вялікага тэрарыста, які страляў у губернатараў і жандараў, называў у вочы дзярмом міністраў і генералаў, ашаламіў такі гнеў камандзіра атрада, селяніна, матроса, і ён адступіў, можа, упершыню — толькі прымірэнча буркнуў: «Ну і эфіоп ты!» — і больш не чапаў бальшавікоў, ды і анархісцкія погляды свае на ўсё тое, што адбываецца ў Расіі і ў свеце, выказваў не з тым бязлітасным сарказмам, з якім некалі выказваў самому Керанскаму, а нядаўна, у дзень, калі пачалося нямецкае наступленне,— Багуновічу.

Сяляне — не тая аўдыторыя, каб гаварыць ім пра высокую палітыку з нігілістычнай уедлівасцю. Чаго добрага — такі фанатык, як Рудкоўскі, не зразумее і паставіць да сцяны. А ўвогуле Бульбе падабаліся гэтыя людзі, простыя, шчырыя, нават у такіх умовах вясёлыя. І Рудкоўскі падабаўся, хоць весялосці ў яго няма. Ды і адкуль ёй узяцца? У самога яго, у чалавека, які смяяўся на судзе, дзе яму выносілі смяротны прыгавор, настрой жахлівы, такі быў хіба тады, калі атрымаў праз сяброў вестку пра смерць у турме Надзі.

Бульба прызнаў, што Рудкоўскага ён паважае. За пераконанасць. Мэтанакіраванасць. Рабіў рэвалюцыю. Стварыў першую камуну. І перад нямецкім наступленнем не разгубіўся. Яшчэ тады, калі «русское славное воинство» (без уедлівасці Бульба не мог) разбягалася ад перамір'я, ад цішыні, Рудкоўскі рыхтаваў партызанскі атрад. Стратэг, чортаў сын. Самародак. І цяпер поўны рашучасці змагацца. І няма сумнення — будзе біць немцаў. Калі такіх Рудкоўскіх на гэтай зямлі нямала, сабачае жыццё тут будзе тэўтонскім ваўкам. Гэта Бульбе было вельмі даспадобы. З такімі хлопцамі можна «пагуляць» і яму па беларускім лесе, пачысціць свет ад пагані.

У сваю чаргу Рудкоўскі, ведаючы з расказу Багуновіча біяграфію Бульбы-Дюбецкага, таксама не мог не паважаць яго. Лічыў, што карысна мець такога памочніка — адукаванага афіцэра, бясстрашнага чалавека і ў той жа час па-мужыцку свойскага, без панскіх мух у носе. Вунь як хлопцы палюбілі яго за два дні! Праўда, залішне гарачая галава і задужа анархізму. Але гэта не страшна, гэта, можа, нават

добра для партызанства. Абы не вёў эсэраўскай агітацыі. Наконт гэтага трэба адразу паставіць яго на месца!

Рудкоўскі сядзеў за сталом у покуці і чытаў старую, трохтыднёвай даўнасці, «Праўду», яшчэ з рэзалюцыямі Трэцяга з'езда Саветаў. Больш чытаць не было чаго. Акрамя таго, што чытанне хоць на колькі хвілін адцягвала ад цяжкіх думак — пра лёс камунараў, пра лёс сябра яго старшыні Савета Піліпа Калачыка — дзе ён, што з ім? — пра лёс рэвалюцыі — вунь якая сілішча паперла на Расію! Хто яе спыніць, калі армія сапраўды такі распалася? — газетай, што бранявым шчытом, ён адгароджваўся ад злосных, уедлівых заўваг Бульбы, з якіх усё ж вытыркаліся рогі калі не адкрытай эсэраўшчыны, то анархічнасці.

Адзін з раненых гучна стагнаў, хоць, здавалася, быў ён не самы цяжкі.

Бульба спыніўся над ім, цыкнуў:

— Сціхні! Не скуголь! Наганяеш нуду на ўсіх добрых людзей. Падумаеш, пашкуматавала табе задніцу. Не падстаўляй пад нямецкі снарад.

Салдат праз слёзы адказаў:

— Эх, грамадзянін камандзір! А яшчэ называеш сябе сацыялістам!

Назара ўразіла, што салдат папракнуў яго вось так — ветліва, але са знявагай да эсэрства; відаць, адукаваны хлопец, напэўна, бальшавік; за два дні камандавання батарэяй у яго не было часу ўзнаць людзей, тым больш іх партыйную прыналежнасць, не да таго было. Ён схіліўся над салдатам, каб бяскрыўдным жартам загладзіць сваю бестактоўнасць. Хацеў сказаць: «Прабач, брат, я няўдала пажартаваў. Усе мы стогнем. Толькі кожны па-свойму. Я лаюся. Рудкоўскі чытае газету». Але ад ног салдата патыхнула гнойным смуродам. Назар адхіснуўся.

У леснічоўцы паветра было цяжкае.

Ляснік, які залішне верна служыў графу Хадкевічу, адразу пасля рэвалюцыі ўцёк, баючыся помсты сялян. Хата тры месяцы не апальвалася, таму печ, пакуль нагрэлася, бязлітасна дыміла і ўсё пракурыла — сцены, вопратку, людзей. У хаце пераначавалі чалавек дваццаць, з іх палавіна былі раненыя. Пахла крывёю, потам. Амаль усе курылі, але тытуню не хапала, і ў яго дамешвалі сухі мох, дубовае лісце, што засталося зімаваць на маладым дубе за хлевам. Словам, пахаў, самых розных, у леснічоўцы хапала. Але вось такога, гнойнага, пакуль што не было. А Бульба, які неаднойчы выносіў з нямецкага тылу сваіх раненых разведчыкаў, добра помніў гэты злавесны смурод і ведаў, што гэта такое. Гангрэна. Тэрарыст, які не адступаў ні перад

якім ворагам, які хоць і мацюкаўся, але ўмеў і падбадзёрыць, што таксама падабалася маўклівому Рудкоўскаму, разгублена спіхнуў, настрой яго ўпаў да нулявой адзнакі. Вырвалася роспач:

— Эх, напіцца б, такую яго!

Рудкоўскі адарваўся ад газеты, сказаў спакойна:

— Напіся.

— Чаго?

— Вунь вада ў вядры.

Здзіўлены Бульба спыніўся перад сталом.

— А ты, матрос, гумарыст. Толькі дарэмна ты не слухаеш мяне. У разведку павінен быў ехаць я! З Мустафой. Дзе твае разведчыкі? Калі яны не перабежчыкі...

— Ну, гэта ты мне кінь! — з гнеўным выразам на твары падняўся за сталом камандзір атрада.

— Значыцца, злавілі варону...

— Не каркай,— ужо больш лагодна сказаў Рудкоўскі.

Разведчыкі, двое, на конях, былі пасланы ў маёнтак і ў сяло ўчора ўвечары — узнаць пра лёс палка, камунараў, пра сілы немцаў. Прайшла ноч, паўдня, а разведчыкі не вярнуліся. Рудкоўскаму гэта балела больш, чым каму. Ён сам разумеў, што здарылася бяда. І, не верачы ў бога, маліў, каб толькі яны не трапілі ў палон. Няхай ужо лепш адразу куля. Каб не катавалі. Балела яму не толькі як камандзіру: адзін з разведчыкаў семнаццацігадовы цёзка Антон — яго пляменнік, сын сястры. Як глянуць Ганне ў вочы? Яна так прасіла яго берагчы сына.

Сасна бухнула так, што, напэўна, усім у леснічоўцы здалося, што блізка, тут, на паляне, ударыла гаўбіца. Хто мог падняцца, схапілі вінтоўкі, кінуліся да дзвярэй. Пасля таго, як выбеглі здаровыя, папаўзлі да адчыненых дзвярэй раненыя. Шалёны вецер кінуў ім у твар зарады калючага снегу, завыў у коміне печы.

Першым убачыў, што здарылася, лесаруб Герась Леска, ён добра помніў, як падае спіленае ці зламанае дрэва.

— Гумно! Хлопцы! Накрыла гумно!

Рудкоўскі, збялелы, скачучы цераз сумёты, пабег да гумна. Бульба-Любецкі не адставаў ад яго.

Рудкоўскі шаптаў:

— Ах, божа, адна бяда не ходзіць.

Бульба адразу сцяміў, што страшнае не павінна было здарыцца, бо сасна ўдарыла па вугле, раструшчыла струхнелую сцяну, але кроквы аселі на складзеную ў гумне салому і гэта не дало страсе рушыцца пасярод, над токам.

— Жывыя вы там, харобрыя воіны?

— Жывыя,— адказаў амаль вясёлы голас.

— Чэрці! Чуеш, камандзір, яны яшчэ смяюцца? А ў нас душа ў пятках. Камандзір за вас богу маліўся.

Рудкоўскі збянтэжыўся і ўзлаваўся:

— Ну, вярзеш ты, капітан, чорт ведае што! Калі гэта я маліўся?

— Няважна — калі. Галоўнае, што бог цябе чуе, хоць ты і бальшавік.

— Не мялі ты лухту!

— А я твой аўтарытэт узнімаю...

Бульбу толькі зачапі, дык ён у любой сітуацыі будзе сушыць зубы.

Рудкоўскі ўладна закамандаваў:

— У вароты не выходзіць! Вылазьце праз страху над ёўняй.

Калі хлопцы пачалі вылазіць па адным і скачваліся са страхі ў гурбы снегу, іх сустракалі смехам і жартамі.

Антона Рудкоўскага такія жарты амаль абражалі: чаму такая бестурботнасць, калі становішча — горш не прыдумаеш.

Назар Бульба лепш разумеў людзей і, хоць настрой у яго быў сабачы, выкідваў адметныя штучкі і людзей падбіваў на жарты.

Для сялян самае, магчыма, цяжкае — сядзець без работы. Таму яны, усе тыя, што начавалі ў ёўні, і тыя, што правялі ноч у леснічоўцы, вельмі ахвотна ўзяліся за рамонт гумна, нягледзячы на сцюжу і завею.

Рудкоўскі таксама адчуў, што толькі праца можа адвесці цяжкія думкі, і тут жа стаў на чале будаўнікоў. Зазвінелі пілы. Застукалі тапары. Людзі заняліся справай.

Тады інтэлігент Бульба-Любецкі адчуў сябе лішнім. Ніколі не быў ён беларучкай, умеў працаваць, бо, хаваючыся ад смяротнага прыгавору, рабіў матросам, качагарам, пастухом у Туркменіі. Але за вайну ні разу не трымаў сякеру. Адвучыўся. А галоўнае — не хацелася працаваць. Адкрыў у сабе такое панства і на нейкі час адчуў сябе лішнім сярод гэтых людзей, якія з такой ахвотай валяць лес, абчэсваюць кроквы, разбіраюць старую паламаную сцяну і страху. Бадай са страхам падумаў: на што ж ён здатны? Забіваць? Сапраўды, у яго ажно свярбела ўсяродку ад жадання вырвацца на шлях, разграміць нямецкі абоз, захапіць трафеі... шнапс... І напіцца. Ад роспачы.

На двары яго ліхаманіла ад холаду і думак. Застаўшыся ў хаце з раненымі, выразна чуючы гангрэнозны пах ног салдата, Назар раптам зразумеў, што роспач яго — ад жаласці да гэтых няшчасных людзей і да тых, што засталіся навечна ў акопах. Ён думаў пра

Багуновіча. Дзе ён? Што з ім? У палон Сяргей не мог здацца. З тых, хто быў у акопах, да батарэйцаў, якія адступілі, зняўшы з гармат замкі, далучылася толькі два чалавекі. Адзін расказаў, што бачыў, як агітатарка выскачыла з чырвоным сцягам насустрач нямецкім шарэнгам і яе скасілі кулямёты. Да яе кінуўся камандзір палка...

Расказваў салдат кожны раз па-новаму. Але аднаму Назар верыў: юная ідэалістка магла пайсці на тое, каб спыніць нямецкіх пралетарыяў у шынялях чырвоным сцягам; за ёй, безумоўна, кінуўся Сяргей, не мог не кінуцца. Бульба ўявіў гэтую карціну і стагнаў ад болю. Толькі тут, у леснічоўцы, ён адчуў, як любіў Багуновіча. У брудзе і крыві шалёнага свету Сярожа заставаўся адзіным рыцарам. А як яму хацелася міру! Для людзей. Для сябе. Трохі не кінуўся з кулакамі, калі ён, Бульба, сказаў, што рыхтуецца «пагуляць» па нямецкіх тылах. Баяўся парушыць перамір'е. Ды парушылі яго не мы, мой сябра. Палітыкі. Кюльман ці Троцкі... чорт іх знае хто. Да палітыкаў Бульба ставіўся з пагардай. Усіх. Манархістаў. Сацыялістаў. Анархістаў.

Гняла бяздзейнасць.

Чаго чакае Рудкоўскі? Трэба ж, нарэшце, памагчы хоць гэтым няшчасным, што, перабінтаваныя парванымі сарочкамі, ляжаць на падлозе, на саломе. Інакш гангрэна можа забіць нават лёгка параненых. У мястэчку, напэўна, ёсць які-небудзь фельчар. Трэба пашукаць! Батарэйных коней прывёў ён, Бульба, і ў яго ёсць права распараджацца імі.

Назар, поўны рашучасці, пайшоў з хаты. На ганку спыніўся, уражаны цішынёй. Не, завея выла па-ранейшаму, гудзеў бор. Але не чуваць было ні піл, ні сякер, ні галасоў. Ажно страшнавата зрабілася ад бязмоўя. Збегшы з ганка, ён глянуў на гумно і спыніўся, ужо зусім ашаломлены. Ад гумна да хаты рухалася дзіўная працэсія. Усе партызаны. Наперадзе іх, як прывіды ці паўночныя мадонны, ішлі дзве жанчыны, у заснежаных хустках, у задубянелых кажухах. Ішлі яны цяжка, зморана, быццам неслі на сваіх плячах труну.

Адну жанчыну капітан пазнаў здалёк — гаспадыня кватэры, дзе жыў Багуновіч, жонка начальніка станцыі пані Альжбета. З ёй сустракаўся многа разоў, калі прыязджаў да сябра. Паноў Назар ненавідзеў, хоць прызнаваў, што непрыкметна сам спаўзае да паразітычнага жыцця. Панства ж пані Альжбеты, яе шляхецкі гонар весела цешыў. Асабліва паразумеліся яны на вяселлі Багуновіча і Міры.

А другая жанчына? Хто другая? Нібыта знаёмая. Але ўспомніць, хто яна, ніяк не мог. Толькі калі працэсія наблізілася, Бульба раптам пазнаў яе. Божа мой! Ды гэта тая прыгажуня і весялуха, што была за дружку ў нявесты. З ёй ён цэлы вечар танцаваў і, падвыпіўшы,

прызнаваўся ў каханні. А яна, Стася, па-жаночаму іграючы, весела і звонка рагатала.

Але што з ёй стала? Да яго ідзе зусім старая жанчына, спакутаваная, як пасля цяжкай хваробы, з патухлымі вачамі. Намнога старэйшая Альжбета падтрымлівае яе. А Стася, здавалася, вось-вось асядзе ў снег.

Прайшла яна, як сляпая,— не пазнала яго. Альжбета ж толькі позіркам адказала на яго пачцівы паўпаклон. Але калі ён паспрабаваў памагчы Стасі — узяў пад другую руку, яна затрэслася ўся і злосна вырвала сваю руку, твар яе пакутліва скрывіўся.

Бульба разгубіўся: чаму ёй так непрыемны яго дотык? Чаму партызаны ідуць, як на пахаванні?

У такім маўчанні ўвайшлі ў леснічоўку. Набілася поўная хата людзей. Пасадзіўшы Стасю на ўслон каля драўлянага ложка, што стаяў у куце, Альжбета села каля стала. Скінула кажух, ссунула хустку з галавы, пачала церці далонямі шчокі. Заклапочана спытала:

— Не адмарозіла я шчокі? — быццам іншага клопату ў кабеты не было.— Не, шчокі не адмарозіла. Рукі адмарозіла. Пане Антоне, няхай прынясе хтось снегу. Расцірайце мне рукі,— працягнула іх Рудкоўскаму, што сеў з другога боку стала, насупраць, сказала шэптам, кіўнуўшы на Стасю: — А яна, баюся, ногі адмарозіла. Але не дасць яна расціраць іх. Мой муж знайшоў яе ў пакгаузе. Божа мой, якія звяры! Якія звяры!

Толькі пасля слоў гэтых Назар Бульба-Любецкі зразумеў, што здарылася са Стасяй. Ён трохі не завыў ад болю і гневу. Вялікі тэрарыст быў гуманістам і рыцарам: гвалт над жанчынай лічыў такім жа злачынствам, як прыгнёт цэлага народа. Прысуд гвалтаўнікам у яго мог быць толькі адзін: смерць. Але хіба толькі гвалт зрабілі прышэльцы? Пра што гэта яны гавораць — пані Альжбета і Рудкоўскі?

— І колькі народу яны задушылі газамі? — спытаў камандзір атрада, збялелы.

— Ах, пане Антоне, ніхто добра не ведае. Кажуць, барон-пастар, пан Ёган, насуперак загаду брата, адчыніў вароты і, надзеўшы процівагаз, выводзіў кабет... Але з мужчын... ці выйшаў хто? Кажуць, салдаты адвезлі на могілкі больш за дваццаць трупаў...

— Яны душылі людзей газамі? — спытаў Бульба спачатку амаль шэптам, не адразу паверыўшы таму, што пачуў. Але нельга было не верыць, і ён закрычаў на ўвесь голас: — Яны душылі людзей газамі! Таварышы! Дарагія мае браты! Дык чаго ж мы сядзім тут? Там душаць газамі... там...— асекся, не сказаў пра гвалт.

Партызаны і салдаты абурана загудзелі. Яны гатовы былі ісці следам за Бульбай на любую, самую рызыкоўную аперацыю. Ды Альжбета павысіла голас, каб пачулі ўсе:

— Але гэта не ўсё яшчэ, пане Антоне. Да майго Баранскаса прыходзіла старая Калачыкава, прасіла пагаварыць з баронамі. Барон Артур трымае ў склепе пана Піліпа і пана паручніка...

— Багуновіча? Сярожа жывы? — ажно падскочыў Бульба.

— Кухарка Эльза перадала вяскоўцам: барон Артур сказаў, што іх павесяць, як бальшавікоў, пры ўсім народзе, каля царквы.

— А-а! Сто чарцей! — зноў застагнаў Бульба і выхапіў з ножнаў шаблю, са свістам рассек ёю паветра над галовамі людзей.— Свабода ці смерць!

— Што за хлапчукоўскія конікі? — спакойна і строга ўпікнуў Рудкоўскі раз'ятранага капітана. Але Бульба грымеў ужо на ўсю хату:

— А ты што хочаш? Каб я сядзеў і ўздыхаў, калі нейкі тэўтонскі ўблюдак хоча павесіць майго сябра?.. Дакуль чакаць? Караблі Балтыйскага флоту, матрос, на дапамогу не прыйдуць,— і тут жа звярнуўся да Альжбеты: — Чакайце. Вы кажаце — Артур? Які Артур? Той? Капітан рускага Генеральнага штаба?

— Трэцяга сына ў барона не было.

— Ах, поскудзь тытулаваная! Ах, шулер! Дарэмна я не пусціў яму кулю ў лоб за шулерства. Ну, гад, я цябе дастану з дна марскога! — і да Рудкоўскага з сарказмам: — Можа, і цяпер, камандзір, будзеш трымаць мяне на печы? Дык я табе скажу...

— Не гарачыся. Дай падумаць,— спакойна адказаў Рудкоўскі.

Але пачуліся галасы:

— Чаго там думаць?

— Біць іх, гадаў, трэба!

— Людзей сваіх асвабадзіць!

— Мустафа! Дзе мой мяшок?

Мустафа адказаў з печы, дзе выграваў прастуджаную спіну:

— Мустафа спіць твой мяшок, ваша бродзь.

Колькі маладых пырснулі смехам. Ды тут жа сціхлі.

Увагу ўсіх, хто быў у хаце, прыцягнула іншае. На ложку ляжаў ранены ў жывот салдат, самы цяжкі, усю ноч трызніў. А ў гэты міг апрытомнеў. Праз туман болю і пакут, праз страшныя прывіды ён угледзеў жаночае аблічча — Стасю, што сядзела побач у найгоршай непрытомнасці: не млела фізічна, але далёкая ад усяго, што рабілася навокал, нічога не чула, нічога не прынімала — поўная спустошанасць, больш жахлівая, чым у чалавека, якога пасля катаванняў вядуць на шыбеніцу.

Салдату, пэўна, здалося гэтае жаночае аблічча матчыным, і ён паклікаў зусім па-дзіцячаму, слабым, але поўным надзеі голасам:

— Мама! Мама! Дай мне напіцца.

Гэты знясілены голас пачула і Стася. Павярнула да салдата галаву, угледзелася ў яго твар. І раптам хутка паднялася з услона, схілілася над раненым, пахукала на далоні і асцярожна паклала рукі на яго гарачыя шчокі, пагладзіла іх.

— Родненькі ты мой! Галубчык ты мой, што ж гэта яны з табой зрабілі?

З вачэй яе пырснулі слёзы, буйныя і гарачыя. Яны капалі салдату на твар, на вусны, ён аблізваў іх засмяглым языком,

— Дайце ж яму вады! — гукнула жанчына ахрыплым, але ўжо знаёмым — сваім — голасам.

Старэйшыя мужчыны — вяскоўцы, засланіўшы вочы шапкамі, выходзілі з хаты. Бульба плакаў, не саромеючыся. Рудкоўскі і Альжбета глядзелі на Стасю ўсхвалявана, але, бадай, узрадавана, яны першыя зразумелі, што слёзы гэтыя, матчын клопат аб раненым — яе ачышчэнне ад бруднага гвалту, яе адраджэнне, зварот да жыцця.

Падалі берасцяны карэц з вадой. Стася прыпадняла салдату галаву і паіла яго.

— Пі, мой саколік, пі.

У хаце з'явілася сястра міласэрнасці. Рудкоўскаму стала трохі лягчэй, хоць з'явілася іншая пакута — за яе, за Стасю, і за сваё каханне, якое матрос, абпалены вайной, па-юнацку таіў.

Альжбета здзіўлялася, як хапіла ў іх сілы дайсці: у полі вецер збіваў з ног, у лесе снег — па калена. А ў дадатак — страх. І за яе — не за сябе. За дачку, за Юстыну. Пятрас, праводзячы яе, паабяцаў, што нікуды не адлучыцца з дому. Але ж яго могуць прымусіць пайсці на станцыю. Праўда, тых, што ўчынілі здзек над Стасяй, няма — пайшлі на ўсход. Але ж праз станцыю ідуць эшалоны. А калі нейкі спыніцца і затрымаецца? Ад жахлівых уяўленняў маці ледзь не траціла прытомнасць. Разумеючы, што назад не дойдзе ў гэты дзень, а начаваць не зможа, Альжбета яшчэ ў лесе, як толькі вартавы падвёў да гумна, спытала ў Рудкоўскага, ці ёсць у іх коні.

— Мы вас падвязём, таварыш,— паабяцаў камандзір, не ведаючы, як звяртацца да гэтай пані.

Стасін клопат пра раненага на нейкі час заглушыў і яе трывогу пра дачку; вернасць запавету, што навучылі яе маці, пан ксёндз, а пасля вучыла жыццё — памагчы бліжняму, што апынуўся ў бядзе, і Альжбета таксама занепакоілася аб раненых:

— Ці кармілі вы іх? Калі маеце з чаго, я згатую абед.

Назар Бульба рваўся выратаваць сябра. Але план свой не стаў выкладаць перад усім атрадам.

— Пайшлі, камандзір, параімся.

Раіліся яны нядоўга, схаваўшыся ад завірухі і цікаўных вушэй у хляве, дзе, мірна фыркаючы, хрумсталі сена коні. Мінут праз дзесяць Бульба апантана ўскочыў У хату.

— Мустафа! Мяшок! Брытву!

— Гарыць, да? — незадаволена прабурчаў башкір.

— Гарыць! Гарыць, Батыеў ты сын! У сядле вылечыш задніцу сваю! Прашу прабачэння ў паняў.

— У сядле? — у Мустафы загарэліся вочы, башкір верыў, што сядлом можна вылечыць усё.

Бульба-Любецкі паспешліва, без мыла, толькі змочваючы шчокі гарачай вадой, зморшчыўшыся ад болю, абшкроб трохдзённую шчаціну сваёй барады. Пасля дастаў з мяшка нямецкі афіцэрскі шынель. Памераў. Агледзеў сябе, грэбліва зняў шынель, кінуў на падлогу.

Знайшоў у сваім мяшку пагоны палкоўніка рускай арміі і загадаў Мустафе прышыць іх да свайго зашмальцаванага, але яшчэ элегантнага рускага афіцэрскага шыняля з футравай падкладкай. У Рудкоўскага з'явілася нядобрая думка:

«Пагончыкі хавае. Навошта? Запаслівы. Усё ў яго ёсць — іголка, нітка, спірт (учора Бульба аддаў пляшку спірту прамываць раны). Глядзі — і гранаты! Нямецкія. Мяшок ляжаў на печы, а ў ім гранаты. Рызыкант. Во эсэраўская натура!»

Гранаты Бульба перадаў свайму вернаму збраяносцу — Мустафе. Той засунуў іх пад папругу.

Тым часам на двары запрагалі коней.

## 2

Барон Артур Зэйфель-Увараў (другую частку прозвішча ён узяў ад бабулі, графіні Уваравай, каб быць больш рускім) ляжаў на канапе ў сваім кабінеце і курыў, пускаючы з люлькі ў столь адмысловыя колцы шызага дыму. З асалодай удыхаў пах турэцкага тытуню найвышэйшага гатунку.

Нарэшце ён дазволіў сабе гэтак расслабіцца, адпачыць, як кажуць, душой і целам. Упершыню за тры месяцы, пасля таго, як ён з рускай арміі, са штаба Духоніна, ліквідаванага бальшавікамі, пераб-раўся ў сваю родную, нямецкую, армію, у якую даўно ўжо быў тайна залічаны як разведчык асобага рангу.

Але, толькі дома, ва ўласным маёнтку, у кабінеце, такім родным з маленства, можна вось так адпачыць; гэта не тое, што запляваныя гатэлі ў Брэсце і Баранавічах. Добра, што гэтае быдла, яго батракі, не кранулі кабінета, не спалілі бібліятэку. Засталіся не толькі кнігі, але і карціны. Яго гэта і моцна здзіўляла, і вельмі ўзрадавала. Азіраючы сваё некранутае багацце, барон ажно раставаў ад задавальнення. Але тут жа хмурыўся, прыгадваючы страты. Што бібліятэка? Жывёлы няма, з'елі бандыты. Кароў. Свіней. Коней. Свірны пустыя. Убачыўшы ўсё гэта ў дзень уступлення сюды нямецкіх войск, Зэйфель пасінеў ад гневу, за багацце сваё ён гатовы быў задушыць газамі не толькі былых батракоў, што стварылі камуну («Я пакажу ім камуну! У магіле яны будуць ляжаць камунай!» — крычаў ён), але і ўсё сяло, усё наваколле. У той дзень ён напэўна зрабіў бы гэта, каб не брат Ёган. Гэты кульгавы лютэранін, святы сям'і Зэйфеляў, не толькі не даў падушыць усіх камунараў. Ён ратаваў сяло, палонных салдат...

Яны моцна пасварыліся. Брат абразіўся. Цяпер, улагоджаны і заспакоены, Артур адчуваў сваю віну перад Еганам і думаў, як памірыцца з ім. Урэшце, брат меў рацыю. На гуманнасць можна плюнуць. Але не думаць аб прэстыжы сям'і нельга. А яшчэ больш думаць аб бяспецы на будучае: у кожнага з батракоў блізка ці далёка ёсць сваякі, і яны могуць помсціць... А ўтаймаваць гэтую стыхію не адразу ўдасца і немцам.

«Але, душыць газамі не варта было»,— згадзіўся барон. Звесткі пра гэта ў бальшавіцкай прэсе лёгка абвергнуць. Ды наўрад ці бальшавікі ўтрымаюцца. Не для таго нямецкая армія перайшла ў наступленне, каб спыніцца, заключыць мір. Праз тыдзень-два яна ўступіць у Петраград. Пра гэта гаварыў генерал Гофман на нарадзе ў Брэсце. Горш, калі пра ўдушэнне людзей надрукуюць газеты. А газеты такія ёсць — сацыял-дэмакратычныя.

Барона ажно закалаціла. Заражаны рускім духам, духам вольнасці, што панаваў у Стаўцы пасля Лютаўскай рэвалюцыі, калі манархічныя пачуцці пачалі лічыцца анахранізмам, Зэйфель вылаяў у думках кайзера Вільгельма. Стары барон! Чаму ён няньчыцца з гэтымі сацыял-дэмакратамі? Ім нават даецца трыбуна ў бундэстагу, каб выступалі супраць вайны. Перавешаць іх трэба было даўно ўсіх — і левых, і правых!

Але, Ёган меў рацыю: гнеў, пачуццё помсты — не лепшыя дарадцы, лепш, відаць, яго, евангельскае, дараванне, багаслоўская развага.

«Добра, брат, я перапрашу цябе. Даруй». Акрамя ўсяго іншага, Артур быў удзячны брату за тое, што той яшчэ два гады назад адмовіўся ад часткі сваёй спадчыны на яго карысць. Маўляў, таму,

хто прысвяціў сябе служэнню богу, багацце не патрэбна. Ён абвясціў пра гэта на сямейным савеце, але юрыдычна не паспеў аформіць. Дакумент ёсць толькі на дом у Кёнігсбергу. Чаго добрага, пакрыўджаны брат перадасць сваю долю «брацтву» — ордэну манахаў — ханжэй і п'янюг, гультаёў, якімі ён, баявы афіцэр, глыбока пагарджаў. «Абяцаю табе, Ёган, душыць газамі больш нікога не буду. Але я не святы Езус і нават не талстовец, каб дараваць сваім ворагам. Кару яны панясуць. Гэтыя двое — першыя».

«Гэтыя двое» — Багуновіч і Калачык. На іх у барона была асабліва лютая злосць. Аднак самая моцная — супраць афіцэра, што прадаўся бальшавікам. За яго здраду... За тое, што ён таксама рабаваў фальварак. Як высвятляецца, салдат сваіх ён карміў хлебам з яго свірнаў, мясам з яго аборы і свінарніка. А яшчэ гнеў Артура Зэйфеля кіпеў, калі ён успамінаў пра страты, якія панесла нямецкая дывізія.

У яго быў узлёт. Жалезны крыж, званне маёра, калі ён перайшоў да сваіх. З ім раіўся сам Гофман. Начальнік штаба Усходняга фронту прыкамандзіраваў яго да корпуса генерала Шульца, які павінен быў нанесці ўдар у раёне баронскіх уладанняў і паабапал іх, карацей кажучы, у раёне, які ён, паляўнічы, аб'ездзіў з маленства, да якога меў асаблівую цікавасць, а таму больш уважліва вывучаў рускую абарону ў гэтым раёне. Ён радаваўся такому назначэнню: яго прысутнасць уратуе маёнтак ад разрабавання нямецкімі салдатамі, якія таксама сталі што галодныя шакалы.

Ён узначаліў разведку корпуса. Але яго даныя аб магчымым супраціўленні рускіх хутчэй былі яго жаданнем, чым вынікамі сур'ёзнай разведкі. І полк Багуновіча, якога, па яго разліках, не павінна было існаваць, і полк нейкага Чарназёмава, пра які ён увогуле не меў ніякіх звестак, аказалі нечакана моцнае супраціўленне, палеглі ці ранены сотні нямецкіх салдат. Шульц выказаў сваю незадаволенасць.

Пустымі, як ён і меркаваў, былі толькі акопы палка яго знаёмага Бульбы-Любецкага. Але далёка ў глыбіні пушчы разгромлены два нямецкія абозы. Вельмі можа быць, што гэта работа эсэраўскага тэрарыста, яны і супраць цара так дзейнічалі.

Шульц лёгка згадзіўся даць яму двухтыднёвы адпачынак, каб уладкаваць свае справы. Але адпачынак гэты трывожыў Зэйфеля. Ці не хочуць ад яго такім чынам пазбавіцца, не даць здабыць лаўры перамогі?

Трэба хутчэй скончыць справы ў маёнтку. Сёння прыехаў з Кёнігсберга бацька. Гэта ўсцешыла: стары барон не падобны да свайго сына Ёгана, у яго хапае нямецкай дзелавітасці, каб заняцца

гаспадарчымі клопатамі. Значыцца, на яго долю па-ранейшаму застаюцца ваенныя справы.

Артур зацягнуўся і пыхнуў бясформенным клубам дыму, ажно з люлькі сыпанулі іскры.

Як жа пакараць гэтых двух?

Зэйфель ведаў, што Багуновіч, пераапрануты ў салдацкую вопратку, прыходзіў пад час братання ў нямецкія часці, таму хацелася асудзіць яго трыбуналам за шпіянаж і асабіста прысутнічаць пры расстрэле, паглядзець, як будзе паміраць бальшавік. Усе яны харобрыя, пакуль... Хоць не, рускія бываюць фанатыкамі.

Аднак слінявыя гуманісты ва ўпраўленні па справах ваеннапалонных не знайшлі падстаў, каб перадаць палоннага камандзіра палка трыбуналу. Добра, што ў спешцы наступлення яны забыліся на яго.

Старога Калачыка, арганізатара Савета, барон вырашыў павесіць на сельскай плошчы, сабраўшы народ з усяго наваколля. Хай глядзяць і ведаюць, што так будзе з кожным, хто пасягне на святое права дваранскага роду — уладаць землямі, маёнткам, млынамі, вось гэтай бібліятэкай, карцінамі вядомых майстроў. Але суду над Калачыкам ён хацеў надаць хоць якуюсь законнасць і сёння з раніцы займаўся арганізацыяй у воласці цывільнай адміністрацыі.

Добра было б, каб сялянскі суд асудзіў і Багуновіча. Здаецца, ёсць зачэпка. У Хвядоса Кілаватага, што назначаны старастам, забілі сына. Можна даказаць, што забіў асабіста Багуновіч. Між іншым, расказваюць, што камандзір палка застрэліў афіцэра, які пакінуў акопы. Трэба даследаваць. У адкрытым судзе трэба мець факты. Знайсці былых царскіх суддзяў, адвакатаў. Судзіць не па нямецкіх — па рускіх, па царскіх, кодэксах.

«А можа, прасцей — пры спробе ўцячы?»

У барона ажно засвярбела далонь ад жадання сціснуць рукаятку пісталета і пусціць кулю ў спіну ненавіснаму чалавеку. Але праз момант адмовіўся ад такой думкі. Багуновіч кантужаны, нічога не чуе, таму абыякавы да ўсяго, што адбываецца навокал. Ніяк не зрэагаваў нават тады, калі ён, Зэйфель, пры допыце, не паверыўшы ў глухату, тыцкнуў яму ў зубы дулам рэвальвера і раскрывяніў губу.

Не, страляць у глухога нецікава.

«Якую ж кару табе прыдумаць, таварыш бальшавік? Аднак якімі клопатамі я забіваю сабе галаву. Малайчына бацька. Ён і ў непагадзь пайшоў у абору, каб паглядзець, як даглядаюць кароў, што ўцалелі пасля мужыцкага разгрому».

А завея добра такі разгулялася. Некалі яго старая нянька, беларуска, называла гэта Стрэчаннем — зіма сустракаецца з вясной.

Што ж, вясна блізка, з ёй прыйдуць новыя радасці. Скончыцца вайна перамогай Германіі. Ах, як шуміць парк! Колькі ў гэтым шуме роднага, успамінаў залатога маленства.

Барон падняўся, падышоў да паліцы.

Што б гэта пачытаць? Гётэ? Ці Пушкіна?

Буря мглою небо кроет, Вихри снежные крутя...

У дзверы асцярожна пастукалі. Атрымаўшы дазвол, увайшоў камердынер — барадаты, у ліўрэі, латышскі немец Фрыдрых, якога яшчэ тады, калі Артур быў юнкерам, яны жартам называлі Фрыдрыхам Вялікім; у лістападзе ён правёў бацьку па лесе праз лінію фронту.

Абвясціў урачыста, як абвяшчаў трыццаць гадоў службы, хоць, бадай, трохі спалохана:

— Палкоўнік БуЛьба-Любецкі.

Разведчык, якога цанілі за вытрыманасць штабы дзвюх варожых армій, пыхлівы барон, што з маленства быў навучаны не выдаваць перад лакеямі ніякіх сваіх пачуццяў, ашаломлена вылупіў вочы.

— Хто?

— Рускі палкоўнік Бульба-Любецкі,— паўтарыў камердынер.

Артур адчуў нейкі вельмі ж нязвыклы страх: непрыемны халадок, як змяя, поўз аднекуль з ног — у жывот, у грудзі. А ў галаву ўдарыў жар — як ахоўная супрацьсіла.

Хто ў Стаўцы не ведаў Бульбу? Ён, афіцэр разведупраўлення, неаднойчы сустракаўся з ім. Больш таго, меў заданне ад свайго нямецкага шэфа праваліць ці знішчыць іншым чынам бясстрашнага рускага разведчыка. Не без яго ўдзелу дакапаліся, што Бульба і тэрарыст Любецкі, асуджаны дзевяць гадоў назад да смяротнай кары,— адзін і той жа чалавек.

— Палкоўнік?

— Так точна.

— Хто яму прысвоіў палкоўніка?

— Не магу знаць.

— Абяззброіць і прывесці да мяне.

Камердынер уздыхнуў. Стары ўбачыў, як спалохаўся Артур, які выдаваў сябе за харобрага афіцэра, і яму зрабілася сорамна за свайго выхаванца.

— У вартавога, які спрабаваў спыніць яго, палкоўнік адабраў вінтоўку і выцягнуў затвор.

Барон пабялеў.

— Чорт вазьмі, хто мяне ахоўвае?

Генерал Шульц, магчыма, узлаваны за недакладную разведку, сапраўды даў яму не лепшую ахову — паўузвода прызыўнікоў трэцяй катэгорыі, салдат, здольных несці толькі тылавую службу. Яшчэ ўчора барон сам правяраў, ці ўмеюць хоць яны страляць.

— Салдата, які аддаў вінтоўку, арыштаваць. Перадайце афіцэру...

— Салдат штыком загароджвае палкоўніку дарогу, інакш ён быў бы тут,— абараніў камердынер старога немца.

Артур Зэйфель скінуў хатнюю куртку на вавёрчыным футры, надзеў мундзір, дастаў з кабуры, што ляжала на стале, рэвальвер, сунуў у кішэню.

Камердынер стаяў каля парога, пачціва схіліўшы галаву.

— Фрыдрых!

— Ваша светласць! Я дазволю сабе параіць вам прыняць рускага...

Барон успыхнуў, зразумеўшы, што падумаў пра яго стары лакей, абурыўся, аднак стрымаўся.

— Хіба я сказаў, што не прыму яго? Але — зброю здаць!

— З ім — татарын.

— Хто?

— Ардынарац — татарын.

— Няхай застанецца ўнізе, каля вартавога.

Камердынер, стоена ўздыхнуўшы, выйшаў. Артур, як хлапчук, на насочках, вышмыгнуў за ім, схаваўся за калонай так, што яму відна была шырокая лесвіца. Унізе, паставіўшы нагу на першую ўсходку, стаяў БуЛьба-Любецкі. Барон адразу пазнаў былога разведчыка. На ім сапраўды былі палкоўніцкія пагоны царскай арміі. Гэта ўразіла, але, магчыма, аслабіла пільнасць; здараецца, што вонкавая дробязь паварочвае думкі ў іншым кірунку.

Фрыдрых пачціва сказаў па-руску:

— Пан палкоўнік, пан барон вас прыме. Але здайце зброю.

— Барон баіцца? Барон баіцца мяне? — на поўны голас здзекліва-весела гукнуў Бульба.— Ха-ха! Артур, я не пазнаю цябе!

Бульба добра ведаў: баязлівы, што заяц, і хітры, як ліс, нашчадак тэўтонскага роду слухае яго — і знарок крычаў на ўвесь палац, каб закрануць баронскі гонар.

— Здайце зброю,— змрочна сказаў камердынер.

— Я? — закрычаў яшчэ гучней Бульба.— Стары, ты можаш не ведаць, хто такі Бульба, але капітан Зэйфель добра ведае. Мустафа! Колькі ў нас гранат?

— Адзін-тры, два-тры, два-два! — загадкава і гэтак жа гучна адрапартаваў башкір.

— Ты матэматычны геній, Мустафа! Я думаю, даволі, каб не даць абяззброіць нас?

— Так точна, ваша бродзь! — грымнуў Мустафа.

Тады барон выйшаў з-за калоны на пляцоўку перад лесвіцай і прывітаў госця з вышыні другога паверха іранічна-весела:

— А-а, капітан Бульба?

— Палкоўнік БуЛьба-Любецкі. Маю гонар, ваша баронская светласць.

— Хто вам прысвоіў высокае званне? — зноў-такі іранічна ўхмыльнуўся Зэйфель.

— Барон, у вас слабая памяць. Я стрыечны брат прэм'ера Керанскага. Магу паведаміць: прэм'ер з радасцю сустракае нямецкую армію. Буду шчырым: у мяне пакуль што радасці менш.

Артур Зэйфель меў многа пыхі, але не вельмі многа розуму. Апошнім часам ён больш вывучаў нямецкі двор, нямецкі генштаб, яго палітыку, чым сілы рускай рэвалюцыі. Але ён помніў, што Бульба яшчэ тады хваліўся сваёй блізкасцю з Керанскім і што эсэры — супраць бальшавікоў. Аб выкарыстанні гэтай сілы ім, афіцэрам, гаварылі на нарадзе ў Брэсце. Гэты Бульба зрабіў немалую шкоду нямецкай арміі. Але, калі ён супраць бальшавікоў, наўрад ці варта прыгадваць мінулае.

— Чым магу служыць?

— Капітан! Я не размаўляю ў пярэдніх і на лесвіцах, нават парадных. Але адну сваю мэту я магу сказаць. Акрамя размовы, якая павінна быць абсалютна канфідэнцыяльнай, я хачу атрымаць ад вас доўг. Карцёжны. Спадзяюся, вы не забылі. У мяне ў кішэні ваша даўгавая распіска...

Барона абдало варам. У яго была слава лепшага іграка, пра гэта ўсе ведалі. Але ён успомніў гульню, дзе моцна «пасадзіў сябе». Было гэта пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Вялікі авантурыст, вызвалены Керанскім з катаржнай турмы, адноўлены ў званні капітана, з паўнамоцтвамі ад ваеннага міністра прыехаў у Магілёў, у Стаўку, каб высветліць, хто яго пасадзіў. Некалькі афіцэраў контрразведкі, якія пахваляліся гэтай сваёй акцыяй, у той жа дзень зніклі. Ён, капітан Зэйфель, нікому не казаў... не мог сказаць аб сваёй ролі ў гэтай справе. Ён піў з Бульбай. А пасля, уначы, гулялі ў карты. Як заўсёды, яму моцна шанцавала. Але гэты бандыт раптам дастаў з кабуры наган і паклаў яго на «банк». Пасля гэтага ён, Зэйфель, прайграўся ўшчэнт,

да таго, што мусіў аддаць залаты партсігар, гадзіннік, пярсцёнак і мусіў пісаць распіску на даволі значную суму.

Напамінак пра гэта быў вельмі непрыемны. Бестактоўная свіння гэты Бульба, не мог змаўчаць перад лакеем і салдатамі. Добра, што нямецкі салдат па-руску не разумее, а Фрыдрых, наадварот, усё разумее.

— Прашу вас, капітан,— Зэйфель нібыта пачціва адступіў убок.

— Палкоўнік, капітан. Прашу не забываць. І яшчэ адна ўмова. Вашы людзі ахоўваюць нас унізе. Мой чалавек ахоўвае мяне наверсе, перад вашым кабінетам. Толькі так! Размова роўных.

З гэтымі словамі Бульба неахайна кінуў салдату, які, дрыжучы ад страху, загароджваў штыком лесвіцу, затвор. Той з радасцю схапіў затвор, пачаў устаўляць яго ў вінтоўку, рукі яго калаціліся.

Бульба-Любецкі, а за ім Мустафа, у тоўстым кажуху, з гранатамі за папругай, прайшлі міма яго з выглядам пераможцаў.

Зэйфель вярнуўся ў кабінет раней, паспеў дастаць з шуфляды стала маўзер, палажыў яго на стол, накрыў газетай. Госця ён сустрэў, сціскаючы ў кішэні рукаятку англійскага дамскага браўнінга.

Бульба імгненна ўгледзеў гэтую перасцярогу. Яна парушала яго план, але чалавек гэты не губляўся ні ў якой сітуацыі.

— О, перапрашаю, пан маёр. Знізу я не бачыў вашы пагоны. Віншую. Нямецкае камандаванне ацаніла вашы заслугі вышэй, чым рускае. А вы былі так блізка да вярхоўных... Не ўмеў цар вас цаніць. І мой стрыечны таксама не ўгледзеў, які вы патрыёт.

Пры ўсёй адданасці Германіі Зэйфель не любіў, калі нагадвалі пра яго тайную ролю ў рускай Стаўцы, нават калі гэта рабілі свае, немцы, без іроніі, з пахвалой: усё адно непрыемна, калі цябе называюць шпіёнам.

А гэты бандыт гаворыць з такім нахабным сарказмам.

— Капітан, я не люблю іроніі. У якой валюце вы хочаце атрымаць ваш доўг?

— Палкоўнік, пан маёр. Палкоўнік! Прашу не забываць. Безумоўна, у марках.

— Па якім курсе?

— Па даваенным.

— Ха-ха! Капітан! Вы лічыце, што мяне можна так проста абрабаваць?

— Пан маёр, вы хочаце мяне ўзлаваць?

— Добра, будзьце палкоўнікам, пан палкоўнік.

— Між іншым, я таксама не люблю іроніі. З нядаўняга часу. Калі па векселях мне не хочуць плаціць... ні бальшавікі, ні нямецкія бароны.

— Я не сказаў, што не хачу плаціць.

— Дзякую, барон. За шчырасць — шчырасць. Я разумею, што вам цяпер нялёгка. Бальшавікі разарылі вас. Я гатовы атрымаць частку доўгу ў іншай валюце. Дайце мне ўладу над акругай. У мяне сотня шабель. Вельмі вострых шабель.

Барон пахаладзеў ад страху. Чорт вазьмі, падобна на праўду, інакш гэты авантурыст не з'явіўся б з адным ардынарцам і не паводзіў бы сябе так нахабна. Ідыёт Шульц! Рвецца ў Маскву, а ў тыле яго гуляюць такія атрады. А калі іх не адзін і яны пакінуты тут бальшавікамі?

Зэйфель адмовіўся ад намеру, улучыўшы зручны міг, стрэліць у Бульбу. Далонь яго як бы абпяклася аб браўнінг, і ён выхапіў руку з кішэні, працягнуў яе ўперад з растапыранымі пальцамі: маўляў, глядзі — у мяне самыя мірныя намеры. Уявіў, што магло б быць, калі б ён застрэліў ці арыштаваў камандзіра атрада, які, магчыма, стаіць недзе за аборай ці нават бліжэй, пад сценамі палаца. У такую завею можна прабрацца куды хочаш. Калі іх там не сотня, а паўсотні ці нават трэць сотні — што зробяць супраць такіх вось татар, як той, што стаіць за дзвярамі, яго дваццаць інвалідаў, старых бюргераў, частка якіх да таго ж на станцыі, за дзве вярсты? Ды яны зруйнуюць усё ўшчэнт, адны галавешкі пакінуць ад маёнтка. Ды і самому яму не ўцячы, не схавацца. І бацьку. Літасці такія галаварэзы не дадуць нікому. Не, лепш адкупіцца ад такога авантурыста любой цаной.

— Што вы, пан палкоўнік, маеце на ўвазе пад акругай? І што вы маеце на ўвазе пад уладай?

— На губерню... Мінскую ці Віленскую — я не прэтэндую. З мяне хопіць аднаго-двух паветаў... Ведаю, што за вайну нямецкае камандаванне набыло багаты вопыт арганізацыі ўлады на акупіраваных землях. Дайце мне вышэйшы цывільны пост. З маімі ўласнымі ўзброенымі сіламі. Я ачышчу вам акругу ад бальшавікоў.

Зэйфелю захацелася працягнуць няпрошанаму госцю руку. Усё лагічна: эсэры і бальшавікі ворагі. Бульба калі не брат, то, вядома было ўсім,— сябра Керанскага. Хоць, бадай, ідзе ён на такое не з-за палітыкі, а каб набіць сабе кішэню. А хто не хоча яе набіць? Адзін хіба мужык Калачык як быў у лапцях, так і застаўся, хоць тры месяцы меў уладу.

Безумоўна, пэўная рызыка ёсць. Але ў такой сітуацыі лепш мець гэтага чалавека саюзнікам, чым ворагам. Праўда, ці даруе яму ка-

мандаванне рэйды ў тылы нямецкай арміі? Прусак Гофман упарты і помслівы. Але можна пераканаць некаторых палітыкаў. Бульба — аўтарытэт сярод рускага франтавога афіцэрства, і за выступленне супраць бальшавікоў яму можна шмат даравадь.

Аднак высокія меркаванні мільганулі так, між іншым. Больш горача Зэйфель думаў аб тым, як выйсці жывым, здаровым з такой вось вельмі няпэўнай сітуацыі. За ўласнае жыццё можна прадаць душу чорту, даць любое абяцанне, любую клятву.

— Пан палкоўнік, буду шчырым. Я не з'яўляюся вышэйшым вайсковым начальнікам. Але я магу цвёрда абяцаць пераканаць сваё камандаванне даць вам такую ўладу. Спадзяюся, мы станем сябрамі.

— Дзякую, пан маёр. Але частку доўгу... аддайце. Мне трэба карміць людзей.

Зэйфель заўсёды развітваўся з грашамі, бадай, гэтак жа цяжка, як развітваюцца з жыццём, таму ён не вытрымаў:

— Вы разграмілі два абозы...

— Не мы,— спакойна адказаў Бульба.— Гэта мужыцкі партызанскі атрад. У іх дзвесце штыкоў ці тапароў... Вы хочаце, каб я звярнуўся па хлеб да іх? Але тады я мушу буду памагаць ім. Я — чалавек слова.

— Мужыцкі... партызанскі? — збялеў Зэйфель.

Вельмі пільна сачыў Бульба за кожным рухам, за кожным жэстам барона. Убачыў, як «сто шабель» збілі з барона ваяўнічасць, прымусілі абяззброіцца і паверыць у шчырасць яго прапановы. Мужыцкі атрад зусім ашаламіў маёра, бо ён адразу падумаў пра Рудкоўскага.

Даўняя тэрарыстычная тактыка дала плён: вораг дэмаралізаваны, акрамя таго, ён, Бульба, пацешыў сябе выдатным спектаклем. Цяпер наступіў час дзейнічаць!

На працягу ўсяго дыялога ён непрыкметна набліжаўся да стала. Зэйфель усё больш траціў пільнасць. Назар бадай што са зняважлівай неахайнасцю абмінуў гаспадара і, падняўшы газету, узяў са стала маўзер.

— О, якая рэч! Імянны? Шкада. А я хацеў прапанаваць вам за яго частку доўгу.

Зэйфель быў настолькі заваражаны ігрой вялікага акцёра, што не вельмі спалохаўся; думаў пра атрады і пра суму, якой можна адкупіцца ад нахабнага госця. Яго страшыла, што запрошана будзе нямала.

А Бульбе ўсё яшчэ хацелася трохі пайграць.

— Калі ў вас цяжка з грашамі, пан маёр, я магу ўзяць хлеб, жывёлу, мёд...

— Пан палкоўнік! Усё з'елі бальшавікі.

Бульба-Любецкі гулліва падкінуў маўзер у паветра, па-жанглёрску злавіў яго і наважыўся ставіць «кропку». Нельга так доўга выпрабоўваць лёс. Там, унізе, могуць узняць трывогу. Праўда, ён не вельмі баяўся, «маючы сотню шабель»; наадварот, яму хацелася, каб сабралася ахова, прыслуга, няхай пацешацца ганьбай «рыцара дзвюх разведак».

Ды тут адчыніліся дзверы. Першы зазірнуў у пакой Мустафа. Але толькі паспеў ён гукнуць: «Ваша бродзь!» — як, адпіхнуўшы яго, у кабінет уваліўся стары барон у заснежаным кажуху, астматычка задыханы.

— Што здарылася, Арт? Што гэта за людзі? Фрыдрых спалохаў мяне.

Барон спытаў па-руску. Сын адказаў па-нямецку:

— Не хвалюйся, тата. Палкоўнік Бульба-Любецкі мой даўні знаёмы.

— Бульба? Той, што выразаў нямецкія батарэі? — выказаў сваё здзіўленне па-нямецку стары барон.

— Той, той,— адказаў па-руску Назар.— Што зробіш, барон. Вайна ёсць вайна. Кожны зарабляе ўзнагароды — як умее. Я — начнымі вылазкамі. Ваш сын — разведкай у Стаўцы... Уладзіўся ён куды больш спрытна.

— Пан палкоўнік,— зморшчыўся малады Зэйфель.

У Бульбы нярэдка так здаралася: ён блазнаваў нібыта паблажліва і гуляў са сваёй ахвярай, як кот з мышанём, ажно пакуль не надыходзіў нейкі момант, калі яго раптам апаноўваў гнеў — такі гнеў, што даводзіў да шаленства, калі знікаў гумар, а выбухала, што бомба, нянавісць. Так было і цяпер. Магчыма, прычынай выбуху было здзіўленне старога барона, што ён той, хто выразаў нямецкія батарэі. Гэта была няпраўда: яго разведчыкі толькі аднойчы пасеклі афіцэраў штаба дывізіі. Немцы паведамілі, што выразана прыслуга батарэі, паўгода распісвалі зверства рускіх вандалаў.

Бульба выхапіў свой наган — раптам маўзер не зараджаны? — і нацэліў абодва рэвальверы на Артура Зэйфеля, гнеўна засіпеў:

— Рукі, сволач! І ты, стары мяшок! Рукі! Хэндэ хох!

Маёр паспрабаваў выхапіць з кішэні браўнінг, але

пільны Мустафа ўмііг апынуўся ў кабінеце, каля маладога Зэйфеля, крутнуў руку так, што немец войкнуў. Башкір выцягнуў з яго кішэні браўнінг. І тут жа, у адзін міг, абмацаў старога барона. Не знайшоўшы зброі, грэбліва кінуў яго, як куль саломы, на канапу. Той ударыўся галавой аб спінку, застагнаў.

Рыцара «дзвюх разведак» пачала трэсці нервовая ліхаманка. Ён стукаў зубамі, ногі яго выбівалі «чачотку».

— Вось так, вашы светласці, душыцелі народа! Барон, не кляцай зубамі, як галодны воўк. Мустафа! Старому барону звязаць рукі, заткнуць зяпу.

Мустафа зрабіў гэта з незвычайнай хуткасцю: выцягнуў з кішэні кушак, пераціснуў рукі, утыкнуў у рот брудную анучу.

Сын паспрабаваў абурыцца:

— Што вы робіце са старым чалавекам?

— А ты, сукін сын, што рабіў, калі душыў людзей газамі?

— Я не душыў! — завішчаў маёр.

— Без істэрыкі, барон. Ніводнай павышанай ноты. Пра гэта будзе асобная размова. Мустафа! Зараз мы з баронам, як добрыя сябры, спусцімся ўніз. Калі ў барона не хопіць розуму і там, унізе, пачнецца шум, праткнеш стары мяшок кінжалам. Раз-тры, два-тры... Дзесяць раз па тры!

— Слухаюся, ваша бродзь!

— Вось так, пан маёр! Зараз мы з табой спусцімся ўніз... Бадзёрыя, весела размаўляючы... Мустафа! Вады маладому барону! Перастань калаціцца! Пасаромейся салдата і бацькі. Нашчадак рыцарскага роду! Мы спусцімся ў ваш склеп і выведзем адтуль арыштаваных... Багуновіча, Калачыка... Хто там яшчэ? Думаю, табе не трэба казаць, што нікому яшчэ... ні царскім жандарам, ні вашай контрразведцы... не ўдалося перахітрыць Бульбу-Любецкага. Адзін падазроны рух — і я зраблю з цябе рэшата. Радасць на твары ад сустрэчы са мной, радасць ад таго, што я пазбаўляю цябе ад неспакойных палоннікаў. Толькі так!

Малады Зэйфель выпіў вады і авалодаў сабою. Вочы яго бліснулі рашучасцю:

— Так я не павяду!

— А як ты павядзеш?

— Дайце слова афіцэра, што пасля вызвалення палонных жыццю майму і бацькі нічога не будзе пагражаць.

Бульба на міг задумаўся, закусіўшы вус: не парушаў ён ніколі слова, якое даваў. Злосна выплюнуў вус, дзьмухнуўшы ўбок.

— Просіш многа, але я гатовы даць слова, што сёння не крану вас. Не буду пэцкаць рукі ў г... смярдзець будзе.

Мустафа грэбліва скрывіў васпаватую фізіяномію.

— Бачыш, як моршчыцца нашчадак Батыя? Мустафа! Адчыні фортку. Убачыш нас у парку — даганяй. Коней пакідаю табе. Пайшлі, барон.

Яны спускаліся ўніз па лесвіцы сапраўды як сябры, толькі Бульба на ўсходку адставаў, хоць па Этыкету гаспадар павінен прапусціць наперад госця. Між іншым, на гэта адразу звярнуў увагу стары камердынер. Але малады барон усміхаўся; старыя вочы Фрыдрыха не ўбачылі, наколькі робленай была гэтая ўсмешка. Госць весела гаварыў:

— Значыцца, дамовіліся. Увечары чакай нас. Скінем партыю. Выпіць будзе што? Я магу прывезці. У мяне ёсць французскі каньяк. Чаму ты крывішся? — не мог не бачыць, што Зэйфель пакрывіўся.— Ах, твой патрыятызм не дазваляе табе ўжываць французскае пітво? Добра. Будзем піць рускую гарэлку. Смірноўскую. За рускага цара, якому мы з табой захоўваем вернасць. За святую царыцу. І за святога старца...

Бульба здзекаваўся. Стары Фрыдрых разумеў, што гэта гульня ката з мышшу. Ён з самага пачатку ўчуяў, што госць незвычайны і небяспечны. Аднак ён зразумеў іншае: што гэта адзін з тых «адчайных галоў», на якія багатая Расія, якія стралялі ў цароў, губернатараў. Чалавека гэтага не возьмеш ні голымі рукамі, ні ў жалезных пальчатках. Не дасца ён. І збраяносец яго, азіят, пойдзе на любую смерць за свайго камандзіра. Гранат у яго «раз-тры, два-тры...». А старому камердынеру, які дбаў пра душу, больш за ўсё не хацелася кровапраліцця. Колькі яе выліта! Мора.

Салдат-вартавы хацеў быў узняць трывогу, падняць салдат, якія спалі недзе ў каравульным пакоі ці «грэліся» на кухні. Фрыдрых папрасіў яго не рабіць гэтага. Ён не верыў, што рускі палкоўнік прыйшоў, каб адпомсціць барону за здраду рускай арміі. Каб у яго была такая мэта, барон ляжаў бы на антрэсолі, прашыты куляй ці разарваны гранатай, у той міг, як выйшаў на лесвіцу. Чаго ж ён хоча, гэты рускі? Дамоўленасці з немцамі? Грошай? Харчу? Няхай возьме — што хоча, хоць увесь палац, абы не пусціў у ход рэвальвер ці гранаты. Пра адно стары камердынер не падумаў — пра арыштаваных.

Ды раптам рускі загадаў барону:

— Возьмем салдата. Не самім жа нам гэта рабіць.

Тады Фрыдрых скалануўся. Яны хочуць застрэліць гэтых няшчасных — кантужанага афіцэра і старога Калачыка? З сялянскім бунтаром хітры і па-свойму дэмакратычны служка падтрымліваў з маладых гадоў своеасаблівыя адносіны: нярэдка сустракаліся, разам хадзілі на вячоркі, на кірмашы ў мястэчка, але пры кожнай сустрэчы сварыліся з-за паноў: адзін служыў ім з нямецкай адданасцю, другі лаяў іх самымі страшнымі словамі, заклікаў адабраць зямлю, дабро,

падзяліць паміне людзьмі, а ў пятым годзе спаліў баронскі свіран, трапіў у турму.

Камердынер ганарыўся тым, што сумленне яго перад Калачыкам, перад батракамі, перад вяскоўцамі чыстае: ён нікога з іх не выдаў. Але, ён рабіў усё дзеля таго, каб не было крыві. Ён не думаў пра тое, што не заўсёды гэта ішло на дабро людзям. Але цяпер ён шчыра спалохаўся: няўжо бог паслаў яму на старасць такую кару — быць сведкам смерці «сябра маладосці»?

Барон сказаў вартавому:

— Пойдзеш са мной.

Камердынер упаў на калені, замаліў па-руску:

— Ваша светласць, не бярыце грэх на душу.

Бульба схапіў яго за каўнер ліўрэі, падняў з падлогі, як кацяня. Сказаў са злосцю:

— Стары, ты таксама пойдзеш з намі! Свечку!

Дрыготкімі рукамі Фрыдрых запаліў свечку і павёў іх па цемнаватым калідоры першага паверха.

Па крутых усходцах спусціліся ўніз, у склеп. Зэйфель доўга не мог адчыніць замок цяжкіх жалезных дзвярэй, аднак ні салдат, ні камердынер не выказалі жадання памагчы яму. Салдат таксама пачынаў здагадвацца, навошта яго прыхапілі, і калаціўся — ад страху перад суровым маёрам і перад тым, страшным, што яго напэўна прымусяць зрабіць, бо, урэшце, вінтоўка толькі ў яго.

Завесы дзвярэй іржава завішчалі. Пры цьмяным святле свечкі, агеньчык якой трапятаўся, Бульба ўбачыў у камеры на падлозе, на саломе-клычанцы, траіх, сярод іх не адразу пазнаў Багуновіча, той быў у салдацкім шынялі; нямецкія марадзёры здзерлі з яго бекешу яшчэ ў акопе, дзе ён ляжаў непрытомны.

Бульба, пры сваёй бязлітаснасці да ворагаў, быў па-жаночаму сентыментальны, калі датычылася сваіх, сяброў. Горкі камяк захрас у горле, і ён не адразу хрыпла закамандаваў:

— Выходзьце!

У адказ Калачык мацюкнуўся.

Фрыдрых сказаў упалым голасам:

— Богу маліся, Піліп.

— А-а, і ты тут, стары кныр?! Пайшоў ты са сваім богам...— і сказаў такое салёнае слова, што пры ўсіх сваіх перажываннях Фрыдрых абурыўся.

— Пасаромейся, блюзнер. Не даруе табе бог!

— У нас з табой розныя багі. Мой бог мне ўсё даруе.

Ён, Калачык, і хлапчына, баранавіцкі вакзальны злодзей, паднялі Багуновіча і пад рукі вывелі з камеры. Знясілеў ён не толькі ад кантузіі, але і ад таго, што тры дні нічога не еў, адмаўляўся ад ежы; Калачык карміў яго бурдой з гнілых буракоў, якую ім зрэдку прыносілі, прымусам, як хворае дзіця.

Багуновічу здавалася, што кантузіў яго не снарад — смерць Міры. Разам са слыхам у ім пагасла ўсё, надышла поўная абыякавасць да таго, што называлася жыццём. Ад усяго жыцця заставалася хіба адно — пякучы боль ад успамінаў пра Міру, пра крывава-чырвоную касынку, якую вецер каціў па снежным полі.

Аслеплены пасля цемры святлом, Багуновіч і тут не адразу пазнаў Бульбу. Але ў вестыбюлі яго пазнаў Калачык і кінуў у вочы:

— Шафер? Во гад! Павядзеш пад вянец? Вядзі, сукін сын! Павянчай. Знаў на гэтым свеце і на тым не забуду: што ні пан, то прадажная шкура. Цьфу на цябе! — і плюнуў Бульбе пад ногі.

Тады і Багуновіч пазнаў былога камандзіра палка, сябра, нядаўняга камандзіра сваёй батарэі. У яго патухлых вачах на міг успыхнуў агонь жыцця: не, не надзея — здзіўленне.

Ды ён тут жа адвярнуўся.

Бульбу ўразіла ўсё роўна як бы адсутнасць Багуновіча — ніякай рэакцыі на тое, што адбываецца, што гаворыцца, ніякага праблiску хаця б цікаўнасці. Ажно пакуль не сцяміў, што той глухі, нічога не чуе. Зразумелай стала яго зняважлівая абыякавасць. Але ад таго, што ў склепе трымалі цяжка кантужанага афіцэра, гнеў яго на немцаў закіпеў з новай сілай.

Аднак ігра яшчэ не скончана. Недзе ў палацы, можа, за тымі вунь дзвярамі,— каравул салдат. З імі пакуль што нельга не лічыцца.

— Камердынер! Барону — шынель!

Але на вешалцы не было баронскай напраткі, і Фрыдрых падаў свой шынель, і барон, на здзіўленне салдату, апрануў яго, надзеў лакейскую шапку.

Аднак Фрыдрых не застаўся ў палацы. Ён узняў кандэлябр са свечкай, якую паставіў быў на столік, і, у адной ліўрэі, без шапкі, адчыніў дзверы і выйшаў на парадны ганак першы.

Завейны вецер адразу патушыў кволы агеньчык свечкі. Але стары камердынер усё адно панёс яе перад сабой, як у царкоўнай працэсіі. Вецер падняў яго сівыя валасы, і пасмы іх парваным ветразем ляцелі назад.

За ім ішлі арыштаваныя; Калачык і хлопец усё гэтак жа падтрымлівалі Багуновіча, хоць ён, відно было, рабіў спробы вызваліцца ад іх дапамогі. Панура згорбіўшыся, страціўшы ўсю сваю вайсковую

фанабэрыстасць, у незашпіленым лакейскім шынялі, цяжка месячы нагамі снег, сунуўся барон. Апошнія ішлі Бульба і салдат-немец. Але з нецярплівай бадзёрасцю, трохі не падскокваючы, не чуючы ні снегу пад нагамі, ні ветру ў твар, ішоў адзін Бульба. Салдат валокся з большай панурасцю, чым арыштанты: стары немец-селянін усё яшчэ калаціўся ад думкі, што яго прымусяць расстраляць гэтых людзей; паны не запэцкаюць свае рукі, яны ў іх заўсёды чыстыя, у палацах і ў акопах.

Паўсотні крокаў прайшлі моўчкі. Але Калачык не мог маўчаць.

— Што, стары кныр, будзеш за папа? Прычасціш нас? Дык ад лютэранскай свінні мы прычасце не прымем, дарэмна вы з баронам прыдумалі шпяктакль.

— Памаліся богу.

— Ха-ха! Хто мне раіць маліцца, людцы добрыя! Я, свінячае тваё рыла, іду і мацюкаю сябе, што не ўтапіў цябе ў рацэ, калі я цябе ратаваў. Ды і барончыка... быў выпадак парнуць віламі. Пашкадаваў — хлапчук яшчэ быў, гімназісцік. Помніш, ваша светласць, ты прыйшоў пра царскі маніфест нам расказваць. Якому цару ты служыш цяпер, пёс нямецкі?

Бульбе хацелася скакаць ад гэтых слоў і ад таго, што навокал паранейшаму ніводнай душы. Толькі гудзяць і стогнуць дрэвы. Шанцуе. Хутчэй бы дайсці да аборы. Але ад радасці і пазабавіцца хочацца.

— Дзед! Ты ў мяне палучыш лішнія бізуны! І на гады твае не пагляджу.

Калачык ажно выпусціў руку Багуновіча, павярнуўся.

— Укусі ты мяне за с... ваша зверагоддзе! Бізунамі ён мяне палохае! Сукін ты сын! Пагончыкі начапіў. А я, стары дурань, паверыў, што ты чалавек... На вяселлі весялун такі быў, скакун. Даскачашся, кацюга!

— Ох, шкада мне цябе, дзед.

— Пашкадаваў воўк кабылу...

Хлапчына-злодзей, які, магчыма, дагэтуль не разумеў, што можа здарыцца, раптам заенчыў:

— Мамачка родная! Я ж нічога не зрабіў.

Калачык адпіхнуў яго ад Багуновіча, сурова загадаў:

— Не раві, дурань!

Але тут жа павярнуўся да барона і Бульбы.

— Вашы благароддзі! А праўда... яго завошта?

Ды тут нечакана для ўсіх ціха засмяяўся Багуновіч, ціха прачытаў вершы:

В старых часах притаилась кукушка.

Выглянет скоро. И скажет: «Пора».

Калачык паглядзеў на яго са страхам: ці не дрэнна ў чалавека з галавой? Двое сутак маўчаў. Калі памятаўся, то такіх і караць нельга, па ўсіх законах чалавечых.

А ў Бульбы зноў зашорхла ў горле. Чортаў Рудкоўскі! У такое завейнае бязлюддзе мог бы выскачыць і насустрач. Хоць ён, Бульба, сам загадаў цярпліва чакаць!

Ды, быццам пачуўшы яго думкі, з-за аборы вылецелі дзве вупражкі. Коні як коні, снег на іх раставаў, і яны былі гнядыя, вараныя, а вось у санях — белыя прывіды. Так здалося Фрыдрыху. Стары не вызначаўся асаблівай набожнасцю, аднак надумаў пра кару за ўсе грахі. Каго растопчуць гэтыя нябесныя калясніцы? Ніхто не бачыў, як Бульба выхапіў у салдата вінтоўку.

Коні і сані з прывідамі спачатку мінулі іх, але тут жа крута развярнуліся і спыніліся, адна пара з аднаго боку працэсіі, другая — з другога.

Прывіды з вінтоўкамі і рэвальверамі саскочылі з саней, абкружылі іх.

Радасна закрычаў Піліп Калачык:

— Антоніма! Халера ясная! Дык гэта ж ты! Хапай іх, душагубаў, хрыстапрадаўцаў, маць іх за нагу!.. Хапай! Пабачым, хто паскача!

Ды пачуўся ўладны голас Бульбы-Любецкага:

— Старога і салдата адпусціць! Барона — у сані!

Змярцвелага барона, што куль мукі, партызаны кінулі ў сані. Фрыдрых упаў перад Бульбай-Любецкім на калені.

— Ваша светласць...

Калачык, які склаў ужо дулю і падбег, каб тыцкнуць свае задубелыя пальцы Бульбе ў нос, ашаломлена спыніўся перад «палкоўнікам».

— Дык гэта ты? А каб табе скула ў бок! Во артыст дык артыст. Ты, братка, даруй старому дурню.

— Усё дарую, але скулу ў бок...— весела бліснуў белымі зубамі Бульба.

— А каб табе здароўечка было!

— Не падлізуйся, дзед! Спачатку жадаў скулу...

Бульба адказваў Калачыку, а глядзеў на Багуновіча. Нейкі міг той стаяў адзінока, як бы забыты ўсімі. Партызаны вязалі барона, кідалі жарты Калачыку, той паспяваў кожнаму адказаць з радасным блазнаваннем.

Бульбе хацелася абняць сябра, але ён чамусьці не адважваўся; так баяцца абняць блізкага чалавека, які перад тым быў у непрытомнасці.

Ды раптам перад Багуновічам спыніўся Рудкоўскі. Павайсковаму казырнуў:

— Таварыш камандзір палка...

Багуновіч балюча ўсміхнуўся і, падняўшы рукі, дакрануўся да сваіх вушэй, паказваючы, што ён не чуе.

Расчулены, узрадаваны, Бульба без слоў падхапіў Багуновіча, як малога, на рукі і, забыўшыся, што той кантужаны, можа, нават ранены, кінуў у сані. Сам ускочыў у перадок, схапіў лейцы, голасна закамандаваў:

— Па конях!

Партызаны, валячыся адзін на аднаго, на барона, пападалі на сані.

Разгарачаныя коні сарваліся з месца.

Стары лакей застаўся стаяць на каленях у глыбокім снезе, працягнуўшы ўздагон свайму гаспадару свечку. Побач з ім тупаў, быццам маршыраваў на месцы, нямецкі салдат.

Спыніліся вярсты за тры ад маёнтка, у лесе ўжо. У полі іх дагнаў Мустафа на ўзмыленых конях.

Бульба-Любецкі з казацкім спрытам з саней пераскочыў у сядло. Атаманам аб'ехаў вакол саней.

— Як, барон? Не падплыў?

— Падплыў! — з рогатам адказалі маладыя.

— Паставіць да сасны!

Рогат адразу змоўк. Два партызаны падхапілі самлелага барона пад рукі, падвялі да сасны.

Багуновіч пакутліва скрывіўся. За здраду, за Міру, за Пастушэнку, за людзей, патручаных у канюшні, гэты чалавек заслугоўвае любой кары. Але чамусьці не хацелася, каб барона расстралялі ў яго на вачах. Ён бачыў столькі крыві. А цяпер стала да жаху, да памутнення памяці страшна ўбачыць зноў кроў, няхай сабе гэта і кроў ворага. Нянавісць яго была дзіўная — бяскроўная. Яшчэ з канюшні, са стрэлу ў Пастушэнку, Зэйфель перастаў для яго існаваць як чалавек. Можа, менавіта таму, што барон сам, сваімі ўчынкамі адмовіў у сабе ўсё чалавечае, не хацелася бачыць яго кроў.

Багуновіч адвярнуўся, упершыню, бадай, з задавальненнем падумаўшы, што, глухі, ён не пачуе стрэлаў. Урэшце, людзі гэтыя маюць права на любы суд, і яго ўмяшанне яны не зразумеюць.

Але суд ішоў зусім інакшы. Вярхоўны суддзя — Бульба — сказаў кароткую прамову:

— Каб я меў доказы, што людзей душылі газамі па тваім загадзе, я павесіў бы цябе на першым суку першай асіны, сукін ты сын. Але ад мяне ты не схаваешся і ў Берліне. А цяпер я выконваю дадзенае табе слова. Жыві.

Барон устрапянуўся, выпрастаўся.

Рудкоўскі здзівіўся, маладзейшыя партызаны павесялелі: ім таксама страшна было расстраляць чалавека.

Але ў Бульбы была свая задума:

— Разувай боты!

Барон паслухмяна плюхнуўся ў снег, пачаў сцягваць бот, але рукі яго дрыжалі, і бот не паддаваўся.

— Памажыце яму, хлопцы. Барок не ўмее, яго разувалі лакеі.

Два маладыя партызаны ўміг сцягнулі з яго боты.

— Скідай штаны!

Барон падхапіўся і глядзеў на «суддзю» сабачымі вачамі.

— Памажыце яму, хлопцы.

Піхнулі ў снег, сцягнулі порткі.

— І кальсоны! І шынель.

Праз хвіліну барон стаяў у кароткім фрэнчы з голымі нагамі і калаціўся ад холаду і страху.

Рудкоўскі паспрабаваў запярэчыць:

— Не па-рэвалюцыйнаму гэта.

— Лічы, што па-эсэраўску,— адказаў Бульба.— Але не замінай,— і да Зэйфеля: — Лажыся, барон, і будзь рыцарам. Прымі кару ад народа. Але запомні: будзем секчы не толькі тваю высакародную задніцу, але і твайго ванючага кайзера, тваіх генералаў... Памажыце барону легчы, хлопцы. Далікатна. Далікатна. Ах, якія вы грубіяны!

Барона распялі на снезе, двое маладых хлопцаў трымалі за рукі, рабілі яны гэта з задавальненнем — абы не страляць.

— Мустафа! Нагайку!

Спалоханы аголеным целам, мала навучаны конь уздыбіўся перад баронам, і Бульба секанўў не на поўную сілу.

Калачык абурыўся.

— Сякач, такую тваю. Дай мне нагайку.

Аслаблены за дні арышту, стары Піліп Калачык сек так, што цела барона на паўаршына падскоквала ад снегу і сам ён заскуголіў, што шчанюк. Стары блазнаваў:

— Браточкі мае, ці думаў хто з вас, што мы так пагладзім пана барона? Як вы сябе пачуваеце, ваша светласць?

— Гэта ўдар? Гэта ўдар? Гэта ўсё роўна, што баба гладзіць,— закрычаў Мустафа.— Ану, адхіліся! Расхадзіся права-лева!

Ён разагнаў каня і, калі той, навучаны, пераскокваў цераз чалавека, так секануў башкірскім бізуном, што з высокавяльможнай задніцы барона пырснула кроў і сам ён зароў, што паранены зубр.

Ды якраз у гэты міг азірнуўся Багуновіч. Убачыў, што творыцца, і яго званітавала. Але паколькі ён нічога не еў, то цягнула з яго крывёю, з пакутлівымі спазмамі.

Бульба вылаяўся:

— Слюнцяі! — і тут жа загадаў: — Хопіць! Скажы дзякуй, барон, гуманістам. Пастаў свечку за іх здароўе. Бяжы! Запомні, як гарыць наша зямля пад тваімі нагамі.

— І як наш вецер дзьме ў тваю прадзіраўленую задніцу,— дапоўніў Калачык.

— Падняць барона! Бяжы! Але помні, што я не знайду цябе хіба што ў Трансваалі. Хоць магу і туды дабрацца.

Усё яшчэ не верачы ў такое шчасце — даравана жыццё! — барон Зэйфель без штаноў, у кайзераўскім мундзіры і рускай лакейскай шапцы напачатку пайшоў павольна, раз-пораз азіраючыся, мабыць, чакаў стрэлу ў спіну. А потым, адышоўшы сажняў трыццаць, падскочыў, як заяц, і, па-заячы пятляючы, пабег што ёсць сілы.

Партызаны выбухнулі вясёлым і лёгкім рогатам: уявілі, як барон у такім выглядзе з'явіцца ў маёнтак. Нават Багуновіч, у якога спазмы страшна рэзалі жывот, таксама ўсміхнуўся з палёгкай. Не чуючы шуму, паглядзеў угору, на сосны, якія гойдаў вецер. Па тым, як гайдаліся вершаліны дрэў, уявіў, як шуміць бор. Ад гэтага ўяўлення шуму да яго як бы вярнулася адчуванне жыцця — вось яно якое: крывавае і прыгожае.

## Раздзел трэці
## ПА ДАРОЗЕ Ў МАСКВУ

### I

Поезд манеўраваў ля Віленскага вакзала. Разы два на кароткі міг спыняўся, але не каля перона, дзе тоўпіліся пасажыры, а на трэцім ці чацвёртым пуці.

Багуновіч памкнуўся быў сысці, але Стася стрымала яго. Пэўна, яе спалохала, што на пероне хадзілі салдаты. Яшчэ з часу службы ў барона яна добра ведала, як немцы не любяць, калі хтосьпарушае парадак.

Можна саскочыць за вакзалам, на стрэлках. Але небяспечна было скакаць нават на самай прыцішанай хадзе. Вельмі ж яны скачанелі ў пустым таварным вагоне, куды праз праломы ў сценах урываліся шалёныя скразнякі. Іх шчасце было хіба ў адным, што раней у вагоне перавозілі коней, там пахла конскім гноем і засталося трохі саломы, пад яе можна было схаваць ногі. Праўда, Сяргея стары Калачык прымусіў абуць валёнкі. Стася валёнкі не абула. Разважыў Бульба ды і сама яна: калі ўжо ёй належыць ехаць пад выглядам міласэрнай сястры, то яна вымушана трымаць нейкі форс. Праўда, апранута яна была ў кажушок — дала Альжбета, калі яшчэ выводзіла яе ў лес, змаўчаўшы, што гэта — Мірын кажушок.

Ціхі Баранскас не пабаяўся папрасіць нямецкага афіцэра пахаваць агітатарку асобна ад іншых салдат, якіх закапалі там жа, на перадавой, у брацкай магіле. Начальнік пахавальнай каманды, уладальнік пахавальнай канторы ў Дрэздэне, быў спагадлівы немец: на сваёй спагадлівасці і дабрыні ён умеў нядрэнна зарабляць да вайны. Ды і ў вайну служба ў такой камандзе, акрамя бяспекі (не на пярэднім, не ў акопе!), давала які-ніякі прыбытак. Не, ён не марадзёрстваваў, ён ніколі не дазваляў разуваць ці раздзяваць мёртвых рускіх, але зняць залатыя крыжыкі з афіцэраў, пярсцёнкі, забраць партсігары, гадзіннікі — хіба гэта грэх? Навошта яны мёртвым? З рускай агітатаркі, пра якую нямецкія салдаты, да якіх яна смела хадзіла, расказвалі легенды, ён не зняў нават кажушка, хоць пра кажухі быў асобы загад інтэнданцкай службы. Ад таго, што расказвалі салдаты, у магільшчыка з'явілася павага да гэтай мужнай дзяўчыны, таму ён лёгка згадзіўся, каб сям'я начальніка станцыі, які нядрэнна гаварыў па-нямецку, пахавала яе асобна, у агародчыку каля свайго дома.

Багуновіч, калі яго прывезлі ў леснічоўку, пазнаў кажушок, і спачатку гэта яго страшэнна ўразіла; упершыню пасля кантузіі скаланула яго моцнае пачуццё. Кажушок быў Стасі малаваты, яе поўныя грудзі распіралі яго, і Сяргея гэта асабліва абразіла. Ды стрымаў выгляд гэтай вясёлай жанчыны: яна, як і ён, была абыякавая да ўсяго на свеце, яна, як і ён, была недзе за мяжой звычайнага жыцця, на шляху ў іншы свет. А калі Бульба напісаў яму на паперы, хто і як пахаваў Міру і што ўчынілі са Стасяй немцы, Багуновіч раптам упаў перад ёй на калені. Гэта яе страшэнна ўразіла, але гэта, як і просьба цяжка параненага: «Мама, дай напіцца», вярнула яе да жыцця. Ды і яго, Багуновіча, прымусіла цвёрда вырашыць: ён мусіць жыць, абавязаны жыць! Стася ўпершыню пасля таго жудаснага дня заплакала. Багуновіч таксама заплакаў, бо расплавілася яго заледзянеласць.

Разам з імі плакаў стары Калачык. Сурова маўчаў адзін Рудкоўскі. А Бульба крыкнуў:

«Мустафа! Спірту!»

«Няма, ваша бродзь. Аддалі раненым».

«Не забывайся, сын Батыя, што ты цяпер бальшавік!»

Калі Багуновіч крыху акрыяў, Назар пісаў яму:

«Заставайся ў атрадзе. Ваяваць можна і без вушэй. Мы з табой пашукалі б гэтую сволач — Зэйфеля».

Даведаўшыся ад Багуновіча, як паводзіў сябе барон у канюшні, Бульба пісьмова мацюкаў яго, чаму не сказаў тады, калі шпіён быў у іх руках, і трохі не выў ад гневу і роспачы, калі праз два дні прынеслі сяляне навіну: Зэйфеляў, і маладога і старога, прастыў след — уцяклі ў фатэрлянд.

Не, ён, Багуновіч, ваяваць больш не мог. Нават помсціць за Міру, за Пастушэнку яму не хацелася. Так і сказаў Бульбе. Той напісаў у адказ: «Размазня!»

Рудкоўскі, Калачык і Стася вырашылі, што кантужанага камандзіра палка лепш адвезці дадому, да бацькоў, недалёка ж да Мінска. Стася сама папрасілася праводзіць яго, хоць Рудкоўскі баяўся: як яна павядзе сябе, убачыўшы немцаў?

Сяргей ехаў у салдацкім шынялі; партызаны разведалі, што раненых і кантужаных салдат немцы не затрымліваюць, памагаюць нават дабрацца дадому, калі яны беларусы ці ўкраінцы; літоўцаў і палякаў адпускалі ўсіх, здаровых і знявечаных.

У Стасі шарсцяныя панчохі прымерзлі да ботаў. Багуновічу здавалася, што прымерзла да яго худога цела гімнасцёрка; у акопах у самыя лютыя маразы так не качанеў. На дварэ адліга, снег на станцыі счарнеў. І аднак жа так холадна ў гэтым праклятым вагоне.

Хваляваўся ён усю дарогу. Але, калі ўбачыў знаёмы з маленства вакзал, яго пачало ліхаманіць. Добра, што Стася напэўна думае, што дрыжыць ён ад холаду. Сама яна дрыжала гэтак жа і таксама не толькі ад холаду. Пасля ўсяго, што перажыла, яна, здавалася ёй, нічога ўжо не баялася, да таго ж, будучы жанчынай практычнай, разумела, што ў вялікім горадзе небяспекі тае няма. Аднак калі ўбачыла на вакзале ў Маладзечне немцаў, то ўчапілася ў Багуновіча, да болю сціснула яго руку: быццам падтрымлівала яго, але ён адразу сцяміў, што інстынктыўна жанчына шукае абаронцу ў ім. Сумна падумаў: «Які ж я абаронца?» Але тут жа вырашыў, што будзе абараняць яе цаною жыцця свайго, зубамі ў горла ўчэпіцца, калі нехта з гэтых зялёных гвалтаўнікоў... Ды, на іх шчасце, на вакзале не існавала закону джунгляў. Было тлумна. Але вакол былі людзі, свае людзі. Ад іх

прысутнасці з'явілася ўпэўненасць, адчуванне бяспекі. Хлапчукі-беспрытульнікі, што шмыгалі і зіркалі вачамі, дзе б чым пажывіцца, здаліся да болю, да спазмы ў горле роднымі.

Сяргея кранула, што Стася выказала мацярынскую ласку да гэтых галодных дзяцей вайны.

«Хто іх накорміць?» — бедавала яна.

Урэшце поезд, даўшы задні ход, спыніўся ля таварнай платформы. Іх вагон апынуўся супраць вялікага пакгауза. На платформе ляжала гара скрынак; рабочыя-грузчыкі, чалавек шэсць, заносілі іх у склад. Але каля скрынак хадзіў нямецкі салдат з вінтоўкай на плячы. Салдат падыходзіў да самых дзвярэй іх вагона. Яны сачылі за ім у шчыліну. Што рабіць? Вельмі можа здарыцца, што, нешта выгрузіўшы, састаў рушыць далей, на ўсход ці поўдзень, у невядомую далеч, і Мінск, родны Мінск, сям'я, маці, бацька зноў пачнуць аддаляцца.

Калі салдат аддаліўся, Сяргей ціха сказаў:

— Калі поезд пойдзе далей, будзем скакаць...

Ды Стася вырашыла інакш. Рашуча адчыніла цяжкія дзверы вагона, падхапіла яго і вынесла на платформу. Вартавы глядзеў ашаломлена, але трывогі не ўзняў. Ці мала іх, рускіх, вось так праязджае? Яго абавязак — ахоўваць пакгауз. Здзівіла яго хіба, што двое грузчыкаў быццам чакалі гэтых людзей: выхапілі салдата ад жанчыны і, здаецца, намерыліся несці на вакзал. Так, у рабочых быў такі намер, ды Багуновіч вачамі паказаў ім назад, у бок Маскоўскай вуліцы. Яны зразумелі. Неслі яго ўподбег. Багуновіч, разгублены і ўсхваляваны, не паспяваў пераступаць нагамі.

Плот, што некалі адгароджваў тэрыторыю станцыі ад вуліцы, амаль увесь быў разабраны: салдаты апальвалі ім цяплушкі, ды і мінчане прылажылі рукі, бо дровы неймаверна падаражалі.

— Адваяваўся, браток? Куды ранены?

— Ён не чуе. Аглушыла яго.

— А-а, кантузія. А ты хто?

— Сястра міласэрная.

— Дадому вядзеш?

— Дадому.

— Давядзеш адна?

— Давяду.

— Дзякую, таварышы,— сказаў Багуновіч.

— Скажы яму як-небудзь, што з «таварышам» трэба быць асцярожным. Шчасліва.

— Усяго вам добрага.

— Якое там дабро, сястра!

Яны выйшлі на Захар'еўскую. Каля Царквы сляпых Багуновіч знясілена спыніўся, у яго прастуджаных грудзях ажно забулькала ад цяжкага дыхання. На спалоханы Стасін позірк вінавата растлумачыў:

— Гэта мая вуліца. Я пражыў на ёй палавіну свайго жыцця.

Стася ўзяла яго пад руку і вяла, як раненага. У гэтым канцы галоўная вуліца Мінска была яшчэ пустая: рэдкія прахожыя мясілі ні разу за зіму не ачышчаны, ператвораны адлігай у кашу, снег. Але каля гасцініцы «Бельгія» было даволі ўжо людна. Па ачышчаным тут тратуары ішлі не простыя людзі — паны: пані ці паненкі прагульваліся з нямецкімі афіцэрамі.

Стася адчула: тут, на мінскай вуліцы, страх яе перад немцамі амаль знік, але нянавісць расла да іх, да немцаў, і да ўсіх тых, што хаўруснічаюць з імі.

Каля Чырвонага касцёла Багуновіч раптам спыніўся, збялелы, прытуліўся да рашоткі царкоўнай агароджы — каб не ўпасці. Стася мацней сціснула яго руку.

— Што з вамі? Што вас спалохала?

— Вы чуеце? — усхвалявана спытаў кантужаны.

Яна чула ўжо колькі хвілін, што недзе там, з боку вакзала, цокаюць капыты мноства коней. Больш нічога не чула, акрамя галасоў тых людзей, што праходзілі міма.

— Коні! Вы чуеце коней?

Сяргея спалохала цоканне, яно здалося галюцынацыяй, бо, акрамя двух рамізнікаў, што стаялі нерухома каля «Бельгіі», коней нідзе не было відаць. Ды праз хвіліну з Міхайлаўскай вуліцы на Захар'еўскую роўнымі шарэнгамі, павольнай хадою выйшаў эскадрон уланаў. Гвардзейскія уланы! У прыгожых мундзірах, з ківерамі, у афіцэраў ззялі эпалеты, юнак-гарніст высока ўзняў чырвона-чорны штандар.

Дзіўна змяшаліся пачуцці ў былога камандзіра палка. Зрабілася страшна ад гэтай сілы, ад гэтых сытых салдат, сытых коней. Абпаліла і без таго запалены мозг думка, што з такой сілай немцы могуць хадзіць, ездзіць тут, па Захар'еўскай, па ўсім Мінску, па ўсёй зямлі вельмі доўга... Што супраць такой сілы зробіць нейкі атрад Рудкоўскага ці Бульбы? Думка гэтая была жахлівай.

Але разам з тым з'явілася нешта іншае. Ён чуў цоканне капытоў па бруку. Што гэта? Хворае ўяўленне? Ці да яго вяртаецца слых? Але, ён чуе! Гэта ж цуд, божы дар: як толькі апынуўся на вуліцы, дзе ўсё такое знаёмае, такое роднае,— вярнуўся слых!

«Мама! Няўжо я пачую твой голас?»

Ад аднае гэтай думкі стала да млоснасці радасна.

Эскадрон схаваўся за згібам вуліцы. А Багуновіч усё яшчэ стаяў, збялелы, анямелы, і слухаў ужо не цоканне падкоў, а ўдары пульсу ў скронях, шыі, у пальцах рук.

— Што з вамі? — паўтарыла Стася, спалоханая яго здранцвеласцю — як паралізаваны — і адначасова дзіўным бляскам у вачах.— Вам забалела?

Што праз вату, затаптаную ў вушы, пачуў ён гэтыя словы: «Вам забалела?» Але, можа, ён прачытаў па вуснах яе? Асобныя словы, якія казалі яму яшчэ там, у лесе, у атрадзе, ён адгадваў па жэстыкуляцыі, па выразу вачэй.

Але ж — і падковы, і яе голас...

Ён схапіў Стасіны рукі, горача зашаптаў:

— Скажыце мне яшчэ што-небудзь!

Двое цывільных паноў, што праходзілі міма і пачулі яго словы, азірнуліся і засмяяліся: дзіўны салдат — на «вы» з бабай, якую спакушае!

— Што ж мне вам сказаць, гаротны вы мой?

Не, такую фразу па жэстыкуляцыі прачытаць нельга!

І ён бадай крыкнуў:

— Я вас чую! Стася! Я вас чую! Божа мой! — і шэптам: — Гаварыце ж са мной, мой добры ангел-храніцель. Гаварыце!

— Я рада за вас. Я рада...

А ён — як сарваўся з месца, закрочыў шпарка, амаль уподбег. І ўзбуджана гаварыў ёй, а можа — сабе:

— Зараз мы мінём Серпухаўскую, пасля — Багадзельную. Там, паміж Багадзельнай і Губернатарскай, наш дом. Гэта самае бойкае месца. Амаль напроціў рэстаран «Селент». А там далей — кінематографы... «Гігант», «Эдэн». Калі я быў гімназістам, я не прапускаў ніводнай карціны...

Ён гаварыў таму, што ўсё выразней і выразней чуў свой голас, быццам яму патроху выцягвалі вату з вушэй. Не, ён гаварыў яшчэ і таму, што яго, хворага, знясіленага, апанавалі ўспаміны маленства, маладосці. Як усё гэта было далёка! Усю вайну было далёка. Нават тады, калі ён прыязджаў на пабыўку і, здаровы, элегантны з выгляду, хадзіў у рэстараны, у кінематограф з былымі аднакласнікамі, са знаёмымі паненкамі. Нават людзі гэтыя здаваліся чужымі і далёкімі. Блізкімі былі фронт і смерць. А тут раптам усё наблізілася, усё вярнулася, вярнулася яго любоў да гэтага горада, да вуліц, дамоў... Але тут жа яму зрабілася сорамна. Пра што ён гаворыць гэтай гаротнай батрачцы? Што ёй да рэстаранаў, да кінематографаў?

Парушыўшы лагічную сувязь, ён сказаў зусім пра іншае — з трывогай, з клопатам:

— А ў мамы хворае сэрца.

Стася разумела яго, разумела ўсё, што ён перажывае. Аднак словы пра маці асабліва кранулі: яна расла сіратой.

У яго ледзьве хапіла сілы пакруціць званок. Адчыніла ім Васіліна Іванаўна, даўняя кухарка і пакаёўка Багуновічаў. Цяпер яна была для яго Васіліна Іванаўна.

Некалі, малы панок, Сяргей капрызна крычаў ёй:

«Вася! Дай вады! Знайдзі мае панчохі!» Тады Васіліна была маладая. Але калі ён пайшоў у першы клас гімназіі, бацька аднойчы сказаў яму: «Сын, мяне засмучае, што ты не заўважаеш, як я звяртаюся да чалавека, які корміць нас,— да Васіліны». Сяргею зрабілася сорамна, але ён знайшоў апраўданне сабе:

«А мама?»

«У мамы такія адносіны з дзяўчынай натуральныя, яны штодня разам на кухні... А мы з табой будзем джэнтльменамі».

Аднак гэтым не скончылася.

У Васіліны твар пабіты воспай, з-за чаго яна, напэўна, пайшла ў горад, у пакаёўкі, бо не мела надзеі выйсці замуж. Нехта з яго сяброў-гімназістаў, панскіх сынкоў, у насмешку назваў яе «Василисой прекрасной», і яму, дурню, спадабаўся гэты жарт; аднойчы пры бацьку, пры маці ён звярнуўся так да Васіліны. Размову, якая адбылася ў яго з бацькам пасля таго, як Васіліна ціха выйшла, доўга не вярталася, а маці, якая пайшла за ёй, вярнулася з сумнымі вачамі,— тую размову ён запомніў на ўсё жыццё і заўсёды ўнутрана чырванеў, калі ўспамінаў гэты эпізод свайго юнацтва. Яшчэ на вуліцы Багуновіч успомніў пра гэта, і яму захацелася расказаць Стасі, як бацька вучыў яго. Але пры набліжэнні да дома хваляванне было такое моцнае, што ў яго ці не адняло голас. Ён не мог вымавіць ніводнага слова.

Адчыніўшы дзверы, Васіліна хвіліну недаўменна глядзела на барадатага салдата, што, здавалася, хацеў нешта сказаць і не мог, і на жанчыну, у якой з-пад цёплай хусціны вытыркала белая касынка з чырвоным прастакутнічкам на лбе — часткай міласэрнага крыжа. Калі, урэшце, пазнала, не прыдумала нічога іншага, як закрычаць на ўсю кватэру, спалохана і радасна:

— Мар'я Міхайлаўна! Мар'я Міхайлаўна!

Маці выбегла з пакоя ў прыхожую. Маці ўміг пазнала сына. Не закрычала, а, здаецца, застагнала:

— Сяр-рожа...

Ён не пачуў яе голасу. Ён убачыў, як яна пахіснулася і, напэўна, асунулася б на падлогу, каб ён не падхапіў яе на рукі.

Сяргей крыкнуў, як у маленстве:

— Вася! Вады!

Стася стаяла каля дзвярэй, разгубленая, што з ёй здаралася рэдка. Гэтую разгубленасць яна адчула яшчэ на вуліцы, перад домам, і калі па шырокай мармуровай лесвіцы паднімаліся сюды, у кватэру.

Багуновіча яна не лічыла панам ні тады, калі ён камандаваў палком — раз салдаты выбралі камандзірам — значыцца, наш, свойскі! — ні тым больш пасля таго, калі немцы, барон учынілі над імі здзек; пакуты зблізілі іх. А нядоўгае жыццё ў партызанскім лагеры і яе роля міласэрнай сястры проста парадніліі іх. Яна везла яго не як шпітальная сястра, а як родная — скалечанага брата.

У палітыцы яна разбіралася не надта, але класавае пачуццё батрачкі было, што аголены нерв. Маленькі дотык — востры боль, крык, пратэст. У маёнтку яна даіла кароў, але яе часцей, чым іншых батрачак, бралі ў палац, каб перад нейкім, не зразумелым ёй, святам прыбраць пакоі. Яна бачыла баронскае багацце і, акрамя раяля — такі цуд! — і некаторых карцін, да ўсяго іншага ставілася з бязлітаснай пагардай. Спаліць бы ўсё!

Дом, лесвіца і прыхожая аддалілі яе ад Багуновіча. Усё было папанску. Праўда, трохі інакш, чым у барона. У прыхожай віселі не маляваныя карціны, а фатаграфічныя здымкі ці простыя рысункі, зробленыя адным карандашом.

За ўсё сваё жыццё яна ні разу не самлела, нават тады, калі прынеслі «пахаронку» на Адама. Галасіла, білася галавой аб сцяну, аднак памяці не траціла. Але яна бачыла, як млеюць пані і паненкі — у маёнтку, у касцёле,— і ніколі не верыла, што сапраўды ім блага, заўсёды думала, што гэта панскае прытворства.

Праўда, там, у пакгаузе, дзе над ёй учынілі страшны здзек, яна страціла прытомнасць, добра Баранскас знайшоў яе паўмёртвую. Але хіба можна параўнаць тое, што перажыла яна, з тым, з-за чаго млеюць пані?! ім бы такое! Таму яна і не вельмі паверыла, што маці Сяргея Валянцінавіча зрабілася блага, хоць добра помніла яго словы аб тым, што ў маці хворае сэрца, і разумела яго трывогу. Аднак не магла ўцяміць, чаму трэба млець ад таго, што вярнуўся сын,— з галавой, з рукамі, з нагамі, з вачамі, з голасам.

З другіх дзвярэй выскачыла вельмі ж пекная паненка і, не звярнуўшы ўвагу на яе, Стасю, кінулася да маці, паіла яе вадой. Стася ведала, што гэта яго сястра — Алёна, Лёля. Усе разам, трое, яны

падтрымалі старую Багуновічыху, хоць старой яна зусім не выглядала — худая, але маладжавая жанчына,— і павялі ў пакоі.

Стася папраравіла хустку, зашпіліла кажух і намерылася павярнуцца і ціха выйсці з гэтай панскай кватэры. Навошта яна тут? Яна выканала заданне Рудкоўскага і хутчэй павінна вярнуцца дадому — у лес. Яшчэ б нейкая хвіліна — і яна знікла б. Але раптам з'явіўся ён, Сяргей, усхваляваны і радасны.

— Стася, друг мой! Прабачце, што на вас забыліся. Я ашалеў ад радасці. Я зноў аглух. Не, не, таму я радуюся, што чую іх галасы — мамін, Лёлін. Глуха, праўда, як праз павязку, але чую. Чую. Хадземце, я вас прадстаўлю маме.

Ён узяў яе за руку і павёў у пакой. Падвёў да маці, яна сядзела на канапе, адкінуўшыся на падушкі.

— Мама! Гэта мой ангел-храніцель... Стася... Станіслава...— ён так і не спытаў у яе імя па бацьку, таму разгубіўся.

А яны, маці і сястра, вытлумачылі яго разгубленасць па-свойму. Ён пісаў Лелі, што пакахаў дзяўчыну і што гэта вельмі сур'ёзна. Пісьмо было сенсацыяй для сям'і, нават стрыманы ў выяўленні сваіх пачуццяў адвакат Багуновіч расхваляваўся. А Марыя Міхайлаўна не адну ноч не спала. Не дзіўна, што маці і сястра палічылі: Стася — яго абранніца. Але Марыя Міхайлаўна адразу ўгледзела, што гэта не дзяўчына — сталая жанчына, вельмі сталая: з-пад хусткі і з-пад касынкі ў яе выбіваюцца сівыя пасмы, а ў вачах — боль і смутак і каля вачэй гэтых, прыгожых, праўда,— сетка зморшчыкаў. Маці зрабілася балюча, што абранніца сына такая — сталая жанчына. Але Багуновічыха была выхаваная і далікатная жанчына. Пераадольваючы слабасць і галавакружэнне, яна цяжка паднялася і абняла Стасю.

— Дзякую табе, дзіця маё. За сына майго дзякую,— і заплакала.

Стася (божа, ніколі з ёй такога не было!) прыпала тварам да пляча гэтай незнаёмай худзенькай жанчыны.

Лёля шморгала носам. Адчуўшы дужасць, маці ўміг стала гаспадыняй.

— Дзеці мае! Распранайцеся ж. Мыйцеся. Сярожа! Пагаліся! Твой бацька ніколі не насіў барады. Я не люблю барадатых. Лёля! Злётай па бацьку. Ён, напэўна, у Лёсіка.

Лёля ажно завішчала ад захаплення, абняла маці.

— Мамачка! Якая ты разумніца! Але спачатку я памагу Стасі пераадзецца.— Хадзем са мной, сястра! — яна адразу перайшла на «ты».

Стася была не з сарамлівых, не гублялася ні ў баронскіх пакоях, ні ў касцёле, ні на сельскім вяселлі. А ў маленькім Лёліным пакоі, дзе

ўбачыла многа кніг і многа цацак, самых натуральных, дзіцячых, разгубілася. Асабліва сорамна ёй стала раздзявацца перад гэтай тоненькай чысцюлькай — скідаць самавязаную кофтачку, спадніцу з «чартакожу». Не, сорамна не за беднае верхняе адзенне — за палатняную сарочку, якая даўно не мылася і якая была на ёй тады... Цяпер яна ўзненавідзела гэтую сарочку. Спаліць бы яе. Але не папросіш чужую. Яна супраціўлялася гвалтоўнаму пераадзяванню, ажно пакуль Лёля не зразумела — чаму.

— Ды не саромейся ты! Я ж два гады ў шпіталі раблю і ведаю, што такое франтавік. Божа, калі гэта чалавецтва паразумнее?

— Калі не стане паноў,— адказала Стася, бадай, злосна — каб дапячы паненцы. Але Лёля не прыняла гэта на свой кошт і сур'ёзна сказала:

— Ты так думаеш? Не так усё проста, сястра. Адбылася рэвалюцыя... А людзі ўсё роўна прадаўжаюць забіваць. Якая сіла прагоніць адгэтуль немцаў? Народнае паўстанне? Але ж зноў — кроў, кроў, кроў...

Каб апраўдаць сваю брудную бялізну, Стася хацела расказаць, адкуль яны прыехалі — з лесу, з партызанскага атрада. Але словы пра паўстанне і кроў стрымалі. Здаецца, паненка баіцца паўстання? З тых, значыцца, пра якіх сказаў неяк Антон Рудкоўскі,— што рэвалюцыю ім хочацца рабіць у белых пальчатках.

Лёля з радасным смехам, які батрачку чамусьці пачаў абражаць, нацягнула на яе свой цесны халацік і дала кучу бялізны і адзення.

— У ваннай прымераеш, што на цябе налезе. А я пабягу бацьку шукаць. Божа, як ён узрадуецца! Мы так хваляваліся... так хваляваліся... за Сярожу.

— Яго кантузіла, і ён нічога не чуў. Толькі тут, у Мінску, яму трохі адлажыла вушы.

— Што ты кажаш?! — твар дзяўчыны скрывіўся ад страху і болю, і гэта заглушыла Стасіну класавую варожасць, з'явілася добрае пачуццё жаночай салідарнасці, яно часта бывае, калі жанчыны думаюць пра аднаго і таго ж чалавека — сына, брата, мужа, пакутуюць і баяцца за яго.

Адлегласць, што раздзяляла яе жыццё і жыццё гэтых паноў, паменшала, калі, застаўшыся адна, Стася агледзела пакой. Не так ужо багата, не як у баронскім маёнтку. Вельмі чыста, акуратна, але ўсё просценькае.

Аддаленасць з'явілася зноў у ванным пакоі, куды яе паклікала Васіліна. Гудзела полымя ў пячурцы вадзяной калонкі. Зіхацела бялюткая ванна, а ў ёй калыхалася зялёная вада — што ў рэчцы

адвячоркам, на століку — каробачкі і шчотачкі. Гарэлі над люстрам свечкі — электрычнасці не было. Усё гэта неяк па-новаму ўсхвалявала і збянтэжыла батрачку. А яшчэ больш усхвалявалася, калі ўбачыла, як Васіліна агледзела яе, калі яна раздзела халат, і як уздыхнула. Незразумела ўздыхнула — ці то пашкадаваўшы нечага, ці то захапіўшыся яе прыгажосцю. Можа, пабедавала, што і яе некалі такое ж прыгожае цела з-за праклятай воспы састарылася, без патрэбы, не зведаўшы ласкі мужа ці дзіцятка — сыночка ці дачкі.

Пасля ванны Стасі здалося, што памыла яна не толькі сваё пагана забруджанае цела, але і душу, змыла з яе накіп, каросту, і стала яна, душа яе, чыстай, як была некалі ў маленстве, але і чуллівай такой жа: толькі дакраніся — баліць.

Лёля ўбірала яе ўсё роўна што нявесту, сама расчэсвала косы. Стася пакорліва дала рабіць ёй гэта, так яе ўбіралі толькі аднойчы — пад вянец. Ад успамінаў было сумна і балюча. А яшчэ з'явіўся страх: як яна выйдзе да мужчын — да Сяргея Валянцінавіча, да Валянціна Вікенцьевіча. Галасы іх гудзелі за сцяной, у вялікім пакоі.

А Сяргей жыў радасцю, што ён чуе ўсё выразней і выразней і што ён дома, сярод сваіх. Праўда, са зваротам слыху перастаў думаць, як думаў у лесе, што вайна для яго назаўсёды скончана. Не, ён увогуле не думаў пра заўтрашні дзень. Не было калі. Са слыхам вярнулася актыўнасць. Ён галіўся — як свяшчэннадзейнічаў. Ён слухаў шум вады з крана, як самую цудоўную музыку. Памагаў маці і Васіліне накрываць стол і знарок звінеў бакаламі. Праўда, трохі бянтэжыла маміна насцярожанасць, але адначасова і кранала яе далікатнасць: мама не запыталася, як ён пражыў гэты час — з апошняй пабыўкі і асабліва пад час нямецкага наступлення, як яго кантузіла.

Яшчэ больш парадаваў бацька. Стары адвакат, гарачы ў судзе, але стрыманы дома, цалаваў яго не са слязамі — з маладым смехам; так страчаюцца гімназісцкія ці універсітэцкія сябры. Ён таксама хітра абыходзіў вайну, нямецкую акупацыю. Папярэджаны жонкай, што сын слаба чуе, Валянцін Вікенцьевіч знарок многа і гучна гаварыў сам — прыгадваў мінулае, даваеннае мінулае. Хоць для сур'ёзнай размовы і часу не было яшчэ. Яны парадкавалі стол, чакаючы Лёлю і Стасю. Нарэшце тыя выйшлі. Стася ледзь пазнала Сяргея. Хто гэты худзенькі хлопчык у беласнежнай кашулі, у чорнай аксамітавай куртачцы, чысценькі, з прылізана-мокрымі валасамі? Ён! Аднак як ён не падобны ні на камандзіра палка, ні на кантужанага салдата! Як цяпер паводзіць сябе з гэтым чалавекам?

Стары Багуновіч галантна наблізіўся да яе, адзетай у Лёліну цеснаватую сукенку, схіліў галаву ў паўпаклоне, узяў яе руку і

пацалаваў. Стася страшэнна збянтэжылася ад такой сустрэчы. Ніхто ў жыцці не цалаваў ёй рукі! А Сяргею раптам ударыла ў сэрца: ён сцяміў, чаму са Стасяй так абыходзяцца. І ўспаміны пра Міру вадаспадам кіпню абпяклі яго. Ён увесь сцяўся, замёр і, здалося, зноў аглух: нейкі міг не чуў ні гучнага голасу бацькі, ні прыцішанага матчынага, ні звонкага смеху сястры.

Іх пасадзілі побач — яго і Стасю. Ды па белым абрусе, як па снежным полі, пакацілася чырвоная касынка. Ад страшнага прывіду гэтага ён закрыўся сурвэткай — закрыў вочы, твар... І раптам закалаціўся ад цяжкага пакутлівага нямога рыдання.

Хатнія ведалі — ніколі ён не быў слязлівы, таму вельмі спалохаліся.

— Сярожа! Хлопчык мой! Што з табой?

— Сярожа! Братачка!

— Нічога, нічога, гэта нервы, нервы...

— Не чапайце яго! — сурова і загадна сказала Стася.— Яны забілі яго жонку.

На міг усе анямелі. Нават стары адвакат, які ўмеў шмат што апраўдаць, разгубіўся.

Першая схамянулася Марыя Міхайлаўна. Яна адчула як бы палёгку, суцяшэнне, што жонка яго — не гэтая сялянка. Але тут жа ёй зрабілася да сардэчнага болю сорамна. Божа літасцівы, пра што яна думае? Выходзіць, радуецца ў той час, калі трэба плакаць, што забілі яе нявестку, яе дачку, якую яна так і не пабачыла? Абняўшы сына, яна заплакала. За ёй — Лёля.

Адна Стася сядзела маўкліва, строга-халодная, незалежная. Цяпер яна нічога не саромелася і адчула сябе не толькі адмытай ад бруду, але як бы вызваленай ад усяго — ад гэтых панскіх умоўнасцей і нават ад тых душэўных цянётаў, якія ледзь не спляла сама сабе. Ей хацелася есці: на стале столькі прысмакаў!

2

Каля гасцініцы «Еўропа» стаялі рамізнікі. На дзіва многа — вазкоў дванаццаць. Ім не хапала работы. Рускія афіцэры і штабісты Заходняга фронту ўмелі пашыкаваць; гэтым карысталіся хто як умеў, нямала развялося і рамізнікаў, хоць цэны на коней за час вайны непамерна выраслі: коней не хапала фронту.

Немцы з-за сваёй скупасці столькі не ездзілі. Для возчыкаў наступілі галодныя дні.

Маці сказала:

— Возьмем рамізніка. Ты слабы яшчэ.

Сяргей запярэчыў:

— Не, не! Недалёка ж!

Хацелася праверыць сябе. Дома з яго сапраўды зрабілі хворага. Дзіўна, і сам ён адчуў сябе хворым і тры дні праляжаў у ложку. Паднімаўся — кружылася галава; такая слабасць была толькі ў першыя дні кантузіі, калі сядзеў у склепе, у лагеры адчуваў сябе дужэй. Але далей ляжаць не мог. Пакутаваў ад успамінаў, вінаваціў сябе, што не ўпільнаваў Міру. Парываўся наведаць яе сям'ю і разам з тым баяўся гэтай сустрэчы, бо не ведаў, што можа сказаць ім, ці здолее паведаміць пра смерць дачкі, сястры. Бацькі, Лёля бачылі, як ён пакутуе, як хоча пайсці і як баіцца гэтага наведвання. Марыя Міхайлаўна спрабавала адгаварыць: акрыяй хоць крыху, палячыся! Лёля параіла, каб ён ішоў або з маці, або з ёй. Лёля прыдумала легенду, на якую ён згадзіўся. Натуральна, што маці не даверыла яго сястры, легкадумнай фантазёрцы, хоць прыдумку яе прыняла як уратаванне. Маці пайшла сама.

З парадных дзвярэй гасцініцы выйшаў нямецкі афіцэр. Нацягнуў пальчаткі, наставіў каўнер — быў марозны вецер. Павярнуўся і шпарка пайшоў насустрач Багуновічам. Але знайшоў рамізніка, які спадабаўся, ці знаёмага — з кім ездзіў раней, і са спрытнасцю чалавека, які ўсё жыццё ездзіў, упаў на сядзенне вазка. Ад'ехаў.

Багуновіч знясілена прытуліўся да гранітнай сцяны гасцініцы.

Маці спалохалася.

— Сярожа! Табе блага? Ты ўвесь збялеў.

Ён вінавата ўсміхнуўся, цяжка дыхаючы.

— Нічога, мама. Мне здалося, што гэта Зэйфель. Не, не ён. Аднак... раней я не думаў, што мы можам сустрэцца. А цяпер буду думаць. Не хапала яшчэ гэтага!

— Ах, Сярожа, ты зусім хворы.

— Але, мама. Я хворы.

Такое шчырае прызнанне Марыю Міхайлаўну яшчэ больш спалохала.

— Я не знаю, калі ачуняю. Ад свайго гора. Ад іх,— ён кіўнуў у бок Прэабражэнскай, па якой паехаў афіцэр,— што топчуць маю зямлю... Бачыш, я задыхаюся ад іх.

Сказаў ён гэта на поўны голас, і маці баязліва азірнулася на рамізнікаў, ведала, што гэтыя людзі ўмеюць усё ўбачыць, усё пачуць; яны ўжо з цікавасцю сочаць за маладым чалавекам і немаладой жанчынай.

— Пайшлі, Сярожа.

— Пайшлі, мама, пайшлі,— ён адарваўся ад сцяны і шпарка закрочыў на Саборную плошчу, да ратушы, ля якой хадзіў вартавы. Можа, яму знарок захацелася прайсці блізка ад немца — праверыць сябе. Хоць куды было дзецца? З другога боку, вышэй на плошчы, каля палаца губернатара, таксама хадзіў немец з вінтоўкай. Усюды немцы! Усюды...

Моўчкі спусціліся па Казьмадзям'янскай да Ніжняга рынка.

Сяргей яшчэ з маленства, з таго часу, калі маці ці Васіліна вадзілі яго за руку — каб не згубіўся, любіў гэты самы шумны ў горадзе рынак. Тут што ў Вавілоне: мяшаліся ўсе мовы — беларуская, яўрэйская, руская, польская, татарская... Часам здавалася, што адны і тыя ж людзі гавораць адразу на ўсіх мовах. Тут было шумна, цікава, весела. Апетытна пахла ад жаровень. Прадаваліся самыя смачныя куханы.

Калі стаў гімназістам, яны таксама часта сюды прыходзілі, нават з паненкамі — вучаніцамі жаночай гімназіі. Лічылася прыстойным хадзіць на Ніжні рынак, хоць заможныя людзі прадукты куплялі не на гэтым «грязном базаре», а на чыстым Віленскім. З паненкамі непрыстойна было хадзіць на «конскі рынак» — на Замчышча, там прадаваліся каровы, свінні, авечкі, там пахла гноем. А бацька, наадварот, хадзіў часцей менавіта на той рынак: любіў адвакат пагутарыць з сялянамі. Бацька стараўся і яго, гімназіста, далучыць да сваіх народніцкіх поглядаў, да свайго разумення сацыяльнай няроўнасці. Сяргей з папрокам сабе падумаў, што бацькавы погляды на свет і жыццё не адразу і не лёгка даходзілі да яго. Трэба было прайсці праз усе кругі ваеннага пекла, каб палюбіць гэты спакутаваны народ, што сцякаў не толькі потам, але і крывёю.

Рынак быў малалюдны і ціхі — як анямеў. Нават звычайна шумныя яўрэі моўчкі выбівалі акалелымі нагамі «чачотку», наставіўшы каўняры, засунуўшы пад зіпуны рэчы, якія хацелі прадаць. Ад холаду ці страху яны не набіваліся сваім таварам, як рабілі раней. З прадуктовага рада даўно ўжо не пахла смажанай баранінай і гарачымі куханамі. Дзе-нідзе татаркі прадавалі гуркі і квашаную капусту.

Ды на рынак яны глянулі толькі здалёк. Павярнулі на Нямігу. Марыя Міхайлаўна, употай і пільна назіраючы за сынам, убачыла, як расло яго хваляванне. Не дзіва: набліжаліся да яе дома. Марыя Міхайлаўна сама хвалявалася. Яна па-мацярынску палюбіла гэтую нябогу, якую ніколі ўжо не здолее ўбачыць. А ў сына не засталося нават яе картачкі. Напэўна, будзе ў бацькоў, відаць, не бедная сям'я, калі дзяўчына скончыла гімназію. Папрасіць картачку, зрабіць партрэты.

А можа, не трэба? Навошта штодня вярэдзіць Сярожаву рану? Хлопец і так высах — скура ды косці.

— Ты знаеш, мама... Ты знаеш, што мне ўспомнілася? Яна жартавала... Яна колькі разоў жартавала, што ўсё жыццё пражыла на Нямецкай вуліцы, таму мае права ісці да іх... агітаваць за рэвалюцыю. Якая дзікая іронія! Нямецкая вуліца!

«Божа, як крычыць яго гаротная душа»,— падумала маці. Дома ён з болем казаў ёй, Лелі: «Мы так бяздумна верылі ў жыццё, у мір, што не сказалі нават адно аднаму адрасоў. Мы верылі, што паедзем дадому разам. Я выпадкова глянуў на пісьмо, якое яна напісала сястры. Але я не ўпэўнены, што запомніў нумар дома. Чаму васемнаццаць? Васемнаццатага яны пайшлі ў наступленне... Вецер каціў па полі яе касынку...»

Пра гэта ён сказаў у першы дзень, калі істэрычна зарыдаў за сталом перад усёй сям'ёй, перад батрачкай, што прывезла яго, кантужанага: «Вецер каціў яе касынку...»

Пасля ён кожны дзень прызнаваўся за снеданнем ці за абедам, без сувязі з размовай, якая вялася, а размову ўсе яны — бацька, Лёля, сама яна, нават Васіліна,— стараліся весці такую, каб даць яму хоць на нейкі час забыць аб перажытым, адвесці ад цяжкіх думак: «Перад вачамі ў мяне яе касынка. Не, яна не коціцца па снезе. Яна ляціць... у паветры. Чырвоная. Гарачая. Мне здаецца, што гарачая...»

Васіліна ціха заплакала на кухні: «Марыя Міхайлаўна, родная вы мая, у яго дрэнна з галавой».

Вельмі гэта спалохала маці. Не сказаўшы нічога мужу і дачцэ, яна сама, акрамя старога доктара, які лячыў усю сям'ю, прывяла яшчэ аднаго, незнаёмага, нават адвакат Багуновіч, які, здавалася, ведаў усю мінскую інтэлігенцыю, з гэтым доктарам не быў знаёмы. Ён лячыў хваробы, з-за якіх звярталіся тайна, таму і сам сябе трымаў як бы ў цяні. Доктар заспакоіў яе:

«Нічога страшнага. Нервовае патрасенне,— доктар быў цынікам: — Такая рана, як смерць жонкі, гоіцца хутка, асабліва ў яго ўзросце... Самі кажаце: смерцяў ён бачыў-перабачыў. У такіх нервы моцныя».

Яна сказала мужу, што прывозіла псіхіятра. Валянцін дакараў яе; ён, чалавек, які часта сустракаўся з людзьмі, што былі ў самым цяжкім горы, бачыў у сына толькі глыбокае чалавечае перажыванне, больш нічога. Мужава пераконанасць трохі заспакоіла яе. Аднак нечаканая Сяргеева ідэя, якую ён выказаў учора,— наведаць Мірыных бацькоў,— моцна спалохала. Спалохалася нават Лёля, але тут жа сказала, што і яна пойдзе з братам. Можа, праўда, лепш, каб пайшла яна? Не, не, ёй даверыць нельга!

Марыя Міхайлаўна думала пра матчына сэрца. Сын быў на фронце, у самым, як кажуць, пекле. Яна малілася за яго, але, хоць і з трывогай, жыла звычайным жыццём, нават хадзіла ў госці, у тэатр. А цяпер у яе няма, не гложа быць іншага жыцця, як яго жыццё, яго здароўе. Цяпер здавалася, што без яе Сярожа нічога не здолее зрабіць, тут жа, як малы, згубіцца ў чалавечым моры, што так узбурылася.

Дом быў стары, двухпавярховы, першы паверх — цагляны, другі — драўляны. Такіх дамоў у гэтым густанаселеным раёне з вузкімі вуліцамі і завулкамі было нямала. У мураванай частцы размяшчаліся крамы, майстэрні, угары жыла сям'я. Часта другі паверх надбудоўваўся пазней, калі сям'я багацела ці вырастала настолькі, што ў катухах за прылаўкамі не змяшчалася.

Такім быў і дом пад нумарам васемнаццаць: верхняя частка выглядала навейшай. Цэгла першага паверха была як пабіта кулямі — пакрышылася, вышчарбілася. На вуліцу выходзіла двое дзвярэй, над дзвярамі — шыльды без прозвішчаў гаспадароў, без указання, што вырабляецца ці прадаецца, толькі сімвалы прафесіі: на адной малаток, выгнуты ліст бляхі ў выглядзе патэльні, на другой — швейная машынка. Суседства дзіўнае, рэдкае. Апраўдваў яго хіба толькі выгляд шыльд і замкоў, што віселі на дзвярах: на бляхарні шыльда аблупілася і замок заржавеў; на швейнай усё было, як кажуць, у рабочым стане. Але і сюды не ўваходзілі апошнія дні — снег на ганку не ўтапталі боты, не кранула мятла.

Праз вузкую брамку ўвайшлі яны ў цесны двор. Каля глухой цаглянай сцяны суседняга дома — хляўчук для дроў, пахіленая прыбіральня.

На другі паверх вяла знадворная лесвіца. Марыя Міхайлаўна і Сяргей падняліся па ёй, скрыпуча-галасістай, абледзянелай. Спыніліся на цеснай пляцоўцы перад дзвярамі, абвітымі лямцам.

Маці стаіла дыханне. Сяргей дыхаў астматычка. Яна зноў з трывогай падумала, што сын зусім хворы. Яна таксама хвалюецца. Аднак жа такой дыхавіцы ў яе, старой, няма. Можа, упершыню тут, перад дзвярамі, за якія яна ступіць свякроўю, Марыя Міхайлаўна падумала, што яна старая, што яе ўласнае жыццё скончана, што цяпер яна будзе жыць толькі дзеля сына... дзеля дзяцей,..

— Серж,— прашаптала яна чамусьці па-французску: можа, і мовай, і тонам, і вачамі, у якіх загарэлася ўпэўненасць, хацела падбадзёрыць сына. Але ў яго сама па сабе з'явілася рашучасць, камандзірская, франтавая.

Званка не было. У лямец не пастукаеш. Збоку, за пляцоўкай, на адлегласці выцягнутай рукі, было вузкае акенца.

Сяргей перагнуўся цераз хісткія парэнчы і настойліва, гучна забарабаніў пальцам у шыбу»

Калі дзверы адчыніліся — ён трохі не ўскрыкнуў. Ажно адступіў назад, бліжэй да маці.

На парозе стаяла... Міра.

Не, ён, безумоўна, адразу зразумеў, што перад ім сястра яе, Клара; Міра расказвала: падобныя яны адна на адну настолькі, што нават дзед іх, калі хадзілі да яго ў госці, часта блытаў унучак. Аднак Сяргея ўразіла такая падобнасць. І, безумоўна, узрушыла яшчэ больш.

Малодшая Клара была вышэйшая ростам, трохі вуглаватая яшчэ ў свае семнаццаць гадоў; прыгожы твар яе псавалі вочы, залішне пукатыя — прыкмета базедавай хваробы. Клара яўна спалохалася, можа, ад таго так расшырыліся яе вочы. Што яе спалохала? Ці не пазнала? Ці не здагадалася? Ад думкі такой у Багуновіча памлелі ногі. З усяго, што магло здарыцца пры наведванні сюды, ён найбольш баяўся слёз, роспачы, галашэнняў. Але, урэшце, праз усё трэба прайсці.

— Паненка, можна да вас? — спытала Марыя Міхайлаўна чамусьці па-польску.

Дзяўчына прапусціла іх міма сябе ў цёмны калідор, дзе моцна пахла спецыфічнай кухняй, але тут жа закрычала па-яўрэйску, усё роўна што прасіла ратунку:

— Мамен! Мамен! Да нас прыйшлі!..

У цеснаватым пакоі, загрувашчаным старымі камодамі, за ножной машынай «Зінгер» сядзела поўная жанчына з прывабным тварам.

«І маці так падобна на яе!» — падумаў Сяргей алагічна: не дачка падобна на маці, а маці — на дачку.

Гаспадыня ветліва паднялася — у яе балелі ногі, ступіла ўбок, апусціўшы на падлогу белы паркаль.

Марыя Міхайлаўна прывіталася зноў-такі па-польску. Мірына маці пачала гаварыць на своеасаблівым тагачасным мінскім дыялекце.

— Дзень добры, вяльможная пані. Пані хоча штось заказаць пашыць? Што? Кашулі? Ніжнюю бялізну? Каму? Сабе? Сыну? З якога матэрыялу? Няхай пані не думае, што ён ёсць у мяне, паркаль, сацін. Я вам скажу, што сказаў мне Заспіцкі, скула яму ў бок, калі я пайшла купіць хоць якога «чартакожу» сваім і суседнім басякам на штаны; яны ж проста гараць на іх. Пані такая маладая і ў яе такі дарослы сын? Так? Я пазнала па аблічччы. Старая Сара мае яшчэ пільнае вока. Але калі пан падумаў, што я старая, то пан памыляецца. Мяне састарылі гэтыя басякі...

— Мама! — амаль у роспачы прастагнала Клара; яна стаяла каля дзвярэй, прытуліўшыся да касяка, бледная да непрыгожасці.

— Што мама? Што мама? Ах, я забылася запрасіць паноў сядаць. Проша. Калі ласка. Пажалуйста,— Марыі Міхайлаўне яна паказала месца на канапе, а Сяргею падала венскае, лёгкае і скрыпучае, крэсла, на якім толькі што сядзела сама. Нібыта паскардзілася, але з гонарам за дзяцей: — Яны ўсе вучаць маці. Яны маладыя. Яны разумныя. А маці — дурная швачка. Але я іх усіх вырасціла...

Гаспадыня паставіла крэсла так, што, калі сеў, Сяргей скалануўся, сцяўся: з бакавой сцяны над камодам на яго глядзела Міра — з вялікай фатаграфіі, на якой яны зняліся трое — дзве сястры і брат. Здымак быў зроблены ў лепшай мінскай фатаграфіі братоў Вронскіх, якія ўмелі рабіць, як казалі абывацелі, «жывыя карціны» — натуральныя па кампазіцыі. Клара была, можа, залішне сур'ёзная, а Навум у чыгуначным адзенні і Міра ў гімназісцкай форме, здавалася, вось-вось пырснуць смехам, толькі што апарат прымушаў на міг нерухома застыць.

Вось гэтак жа, па-дзіцячаму гарэзліва, яна стрымлівала смех перад суровым Сцяпанавым, якога паважала і баялася. А перад Пастушэнкам смяялася на поўны голас, бо ведала, што старому палкоўніку падабаецца, як яна смяецца. Уявіў яе жывую. Падумаў, што нікога з іх траіх няма ўжо,— і горла сціснула спазма, да вачэй падступілі слёзы.

«Божа мой! — замаліўся ён.— Толькі б не разрыдацца, як дома, за сталом».

Адчуваў, як глядзіць на яго Клара — вачэй не зводзіць. Баяўся павярнуць галаву ў яе бок. І на сцяну баяўся глядзець. Аднак не мог не глядзець.

Марыя Міхайлаўна таксама ўгледзела партрэт, зразумела, што адчувае, што перажывае сын, і сачыла за ім са страхам. Не вельмі нават чула, што казала гаспадыня.

— Дык што пані хоча заказаць? Калі пані мае свой матэрыял, то я пацалую пані ручкі. Вы думаеце, у наш час так лёгка знайсці заказчыка? Каму што трэба шыць? І з чаго? Фунт хлеба няма за што купіць, пуд бульбы... А гэтыя басякі ядуць, што перад пагібеллю. Ім толькі давай, толькі давай!

Марыя Міхайлаўна не адказала, што яна хоча заказаць, не гатова была адказаць, бо не ведала, што іх прымуць за заказчыкаў. Яна са страхам думала: «Божа! Як цяжка сказаць вось так адразу страшную праўду». Усе Лёліны прыдумкі, як падрыхтаваць Мірыных

бацькоў, сясцёр, братоў да трагічнага паведамлення, здаваліся цяпер не толькі наіўнымі, але і зусім непрыгоднымі.

Маці яшчэ верыць, што яны прыйшлі, каб нешта пашыць, яна радуецца магчымаму заказу, а вунь тая дзяўчына, безумоўна, здагадваецца, што прыйшлі яны з іншым: у вачах яе страх.

Сары захацелася паказаць, колькі іх, дзяцей, і як нялёгка іх карміць, і яна нечакана гучна паклікала:

— Фаня! Соня! Лейба! Ходзьце да мяне!

З двух вузкіх дзвярэй, завешаных палінялымі плюшавымі занавескамі, выйшлі дзеці, адзін за адным. Выйшлі па-даросламу паважна, стрымана. Першай з'явілася кучаравая дзяўчынка гадоў васьмі, пэўна, маміна любіміца, бо больш смела, чым іншыя, наблізілася да маці, і Сара ласкава пагладзіла яе па галаве. За ёй — хлопец гадоў трынаццаці, кульгавы, не па-дзіцячаму пануры, пасля — дзяўчынка такога ж узросту, можа, на год маладзейшая. Яна смела агледзела гасцей і грэбліва ўсміхнулася: маўляў, з-за чаго наладжваецца парад? Чацвёрты быў зусім малы, гадоў пяці, у дзявочым плацці, хоць відно было па абліччы, па стрыжцы, што хлопчык. Ён таксама падышоў да маці, і яна таксама пагладзіла яго па галаве.

Дзеці былі прывучаны да строгай дысцыпліны, ім, пэўна, забаранялася з'яўляцца ў прысутнасці заказчыкаў. Аднак яны прывыклі да заказчыкаў і асаблівай цікавасці не выяўлялі. Іх хіба здзівіла: навошта маці паклікала іх?

Сара ўпікнула дванаццацігадовую:

— Як ты надзела Лёву? Ай-яй. Сорамна перад людзьмі. Ты не магла надзець яму штонікаў? — і да Марыі Міхайлаўны: — Я вам скажу: іх нялёка накарміць, але яшчэ цяжэй навучыць. Аднак калі пані думае, што гэта ўсе, то пані памыляецца. Акрамя тых дваіх, што вылецелі з-пад матчынай спадніцы... па кім баліць матчына сэрца, двое басякоў дзесь на коўзанцы дадзіраюць апошнія боты, апошнія штаны. Дык што пані хоча заказаць? — і, не чакаючы адказу, раптам — да Багуновіча: — Пан не можа адвесці вачэй ад тае карціны?

Сяргей уздрыгнуў, павярнуўся, затуманенымі вачамі глянуў на Мірыну маці. Яго трохі раздражняла, што яна так многа гаворыць. Словы, словы... Навошта? Яму хацелася пасядзець моўчкі перад яе партрэтам. Але каб толькі моўчкі. Каб ніхто не пачуў, не ўбачыў, не зразумеў. Акрамя маці. Яго маці. А яе маці? Як ён можа раздражняцца супраць яе?

— Дык я вам скажу. Гэта такі карцінка! Я сама сяджу за машынкай ці з іголкай і гляджу на яе — не нагляджуся. І — што вы думаеце? Часам плачу.

У Багуновіча зноў горкі камяк захраснуў у горле.

— Мае старэйшыя. Гэтую басячку, у якой у галаве ўжо жаніхі...

— Мама! — ужо абурана крыкнула Клара.— Ды сціхніце вы!

— Вы бачылі? Яна хоча заткнуць матцы рот. Няхай пані скажа: хіба было такое, калі мы з вамі мелі па столькі гадоў, колькі ёй? Мая матка агрэла б мяне папругай... Той прыгажун — гэта наш сын. Нядаўна яго называлі Навум Навумавіч. Хто? — Сара панізіла голас амаль да шэпту: — Вядомыя бальшавікі... Не, я проста хацела сказаць, што гэта такі галава, мой Навум! Але басяк. Хіба я кажу няпраўду? Мы са старым Навумам парвалі ўсе жылы, пасляпілі вочы і пакалолі пальцы, каб пасланаць яго вучыцца. Калі пані думае, што гэты басяк скончыў вучылішча, то пані памыляецца. Ён заняўся рэвалюцыяй... пачаў бунтаваць супраць дырэктара. Тады яго вытурылі адтуль. З шумам, з гамам. Дык ён пайшоў у дэпо. Ён рашыў стаць пралетарыем. Ха! Быццам пралетарый — граф, князь. Нас з бацькам ён называў дробнымі буржуямі. Як вам гэта падабаецца? Я — буржуйка, ды яшчэ дробная. Пані скажа, што я дробная? — Сара ахапіла рукамі сваю постаць, ёй захацелася пажартаваць. Але Марыі Міхайлаўне было не да жарту, яна разумела, што сваццця яе падыходзіць да расказу пра Міру, што ўсім, што сказала дагэтуль, яна як бы падводзіла да таго, каб расказаць нешта незвычайнае пра старэйшую дачку. Што яна скажа? Пахваліць? Асудзіць? Хоць, па сутнасці, яна нікога з дзяцей не асуджае, а слова «басяк» у яе любоўна-ласкальнае. Аднак што б яна ні сказала — Сяргею аднолькава будзе балець.

Ён адарваўся ад фатаграфіі, утаропіўся ў шапку, якую трымаў на каленях. Ён згорбіўся, сцяўся: чакае гэтага расказу, як удару, прысуду.

«Гаротны мой хлопчык!»

— Ён такі высока падскочыў. У рэвалюцыю, Навумчык мой. Але я ў вас пытаюся: ну і што з таго? Прыйшлі немцы, скула ім у бок, і ён мусіў спусціцца на зямлю. Ён не можа з'явіцца дадому і ў сваё дэпо, дзе рабіў, дзе меў павагу...

— Мама!

Сара ў гэты раз не адмахнулася ад дачкі, зразумеўшы, што тая папярэджвае яе.

— Вы думаеце, я ведаю, дзе ён? Я толькі ведаю, што ў іх гэта называецца падполлем...

На нейкі міг жанчына сціхла, глядзела на Клару, як бы пытаючы ў дачкі, ці не нагаварыла чаго лішняга. Клара не глядзела на маці. Яна глядзела на прышэльца. Маці, магчыма, здалося, што глядзіць Клара

так на пана таму, што ў яе жаніхі ў галаве. Клара яе мала хвалявала. Яна думала пра Міру, бо пра адну яе не ведала, дзе яна цяпер; дзе хаваецца сын, безумоўна, ведала.

Цяжка ўздыхнула.

— А гэтая... злева ад брата... такая прыгажуня! — наша Мірачка... наша з бацькам гордасць.

Сяргей скамечыў шапку.

Марыя Міхайлаўна паднялася і падышла да яго, робячы выгляд, што хоча паглядзець на фатаграфію зблізку.

— Яна такі скончыла гімназію. І як? З пахвальнай граматай. Калі пані думае, што гэта лёгка для яўрэйскіх дзяцей, то пані памыляецца. Колькі нам каштавала, каб яна паступіла туды! Мы ўсё аддалі... Самі галадалі. Гэты хрышчоны яўрэй Рэйман, каб на ім чэрці смалу вазілі, гэты багаты бандыт, абіраў бедных горш, чым багатых. Але Рэйман сам мне сказаў: Сара Гіршаўна, у вас залатая дачка!

Сяргей да крыві пракусіў губу, нізка схіліўся, быццам яму моцна забалеў жывот. Марыя Міхайлаўна паклала яму руку на галаву.

Ёй, Мірынай маці, хацелася як можна больш расказаць пра любімую дачку.

— Яка гаварыла па-руску, як граф Талстой, а па-нямецку, паверце мне, лепш за гэтага разбойніка Вільгельма. Але... о гора мне!.. Гэты басяк наш Навум і сястру пацягнуў да бальшавікоў. Яны паверылі, што бальшавікі накормяць усіх бедных. Ха! Спыталі б яны ў мяне, то я сказала б, ці можна накарміць такую араву,— яна паказала вачамі на дзяцей.— І куды, вы думаеце, яны паслалі маю Міру? Бальшавікі. Яны паслалі яе на фронт. Паднімаць на рэвалюцыю нямецкіх салдат... Дык я ў вас пытаюся...

Сяргей адчуў, што калі маці лагічна спытае: «Дзе яна?» — ён не вытрымае — зарыдае, як дома.

Ён імкліва падняўся і выйшаў.

Марыя Міхайлаўна сказала:

— Прабачце. Яму бывае блага,— і кінулася за сынам.

У двары іх спыніла Клара. У адной сукенцы, без хусткі, яна бадай што скацілася па абледзянелай лесвіцы і ўчапілася ў рукаў Сяргеевага кажуха. Вочы яе гарэлі, твар быў бледны. Яе біла ліхаманка.

— Я знаю... я знаю... Я адразу пазнала. Гэта — вы! Вы! Міра пісала мне... Дзе Міра? Дзе Міра?

Багуновіч абняў дзяўчыну, пачуў, як б'ецца яе сэрца — як у злоўленай, смяртэльна спалоханай птушкі. Адхіліў яе ад сябе, глянуў у вочы. Сказаў ціха, але без слёз, якіх баяўся, з мужчынскім болем, з

суровай мужчынскай шчырасцю, так пісаў некалі пахавальныя на салдат:

— Сястра мая... Міры няма. Яе забілі немцы. Прабач. У нас не хапіла духу сказаць пра гэта маці.

Клара адхіснулася і заціснула рот далонямі — заціснула крык роспачы.

Марыя Міхайлаўна ціха заплакала.

3

«Мысли о бесцельности жизни, о ничтожестве и бренности видимого мира, соломоновская «суета сует» составляли и составляют до сих пор высшую и конечную ступень в области человеческого мышления».

Багуновіч апусціў томік Чэхава на грудзі, задумаўся.

«А можа, тое, што адмаўляе інжынер Ананьеў, праўда? Далей ён сцвярджае... Вось тут,— заглянуў у кнігу: — Чым нармальныя людзі канчаюць, з таго мы пачынаем. Ананьеў непаслядоўны. Такімі думкамі пачынаюць і такімі канчаюць. Толькі адным на гэта трэба пяцьдзесят гадоў, а другім... хопіць трох, як мне. Чатыры гады назад я аспрэчваў Ананьева. Я гатовы быў падтрымаць Штэнберга. А пасля, у акопах, перад тварам смерці, я згаджаўся з Ананьевым. Гэта дзіўна, парадаксальна. Але гэта так. Сусветны песімізм, якім заражаліся некаторыя мае калегі — афіцэры, здаваўся мне злом і абсурдам. Мне хацелася жыць, як ніколі. Я дзякаваў богу і лёсу пасля кожнай атакі, што мне даравана жыццё. Яшчэ ў большай меры я адчуваў прагу жыцця пасля рэвалюцыі. А радасці... усе радасці да мяне прыйшлі з ёй... з Мірай...»

Ён пачаў чытаць «Агні» таму, што прыгадаў спрэчку з Мірай. Жадаючы, каб яна палюбіла ўсё, што любіць ён, засмучаны яе скептычнасцю да Антона Паўлавіча, раіў ёй пачытаць адно, другое апавяданне... Калі здалося, што Міра пачала даходзіць да сэнсу, параіў «Агні», упэўнены, што гэта ёй спадабаецца. Не спадабалася. Яна вынесла бязлітасна суровы прысуд:

«Гэта гісторыя — на патрэбу мешчаніна».

«Добра. Табе не падабаецца гісторыя з Кісачкай. Але ты ўчытайся ў філасофію».

«Інтэлігенцкая балбатня. Гульня ў парадоксы».

Яны амаль пасварыліся. Але пасля... праз паўгадзіны была радасць... шчасце прымірэння.

Цяпер і яму апавяданне не падабалася. Ці можа крануць падобная дачная любоўная гісторыя, калі ён перажыў... перажывае трагедыю, якую і героі Шэкспіра не снілі.

Але ў мозгу сядзела думка: «Чым нармальныя людзі канчаюць...»

«Але, далей ісці няма куды. Дайшоў, мысліцель! — Сяргей вымавіў гэта з іроніяй.— Да якой ступені? Стоп, машына! Мая машына спынілася».

Не, здавацца не хацелася. Супраціўляўся:

«А можа, гэта ад маёй хваробы? — І тут жа зноў: — Якая хвароба? Фізічна хворым зрабіла мяне маці. А я душэўна хворы. Я пакарыўся думцы, што ўсе памром. Памерла Міра. Памёр Шэкспір... Памёр Чэхаў. Божа мой! Як цяжка згадзіцца, што яны памерлі, што іх думкі, іх справы нікога не ратавалі... не ратуюць».

Трэці дзень, пасля наведвання Мірынага дома, Багуновіч ляжаў, не ўстаючы, разбіты, знясілены. Здавалася, што і слых пачаў зноў слабець. Але цяпер гэта не палохала: можа, лепш нічога не чуць?

Васіліна прыносіла з вуліцы страшныя чуткі пра зверствы акупантаў. У Лошыцы немцы прыйшлі ў хату, каб арыштаваць бальшавіка, але ён уцёк. Тады яны забілі яго жонку, распаролі жывот, адрэзалі грудзі, малое дзіця купалася ў матчынай крыві.

Маці жахалася, але і злавала: «Не можа гэтага быць, Вася. Не верце. Немцы — цывілізаваная нацыя. Канешне, на вайне людзі звярэюць. Але каб да такой ступені!..»

А ён, франтавік, верыў, што так і было, што прадстаўнікі «цывілізаванай нацыі» могуць зрабіць і не такое... знішчыць сяло, горад... народ... Але ён маўчаў.

Апраўдваў сваё маўчанне тым, што шкадуе маці, не хоча палохаць яе. Аднак расла ў ім страшная нянавісць, якой не было ні ў атаках, ні ў канюшні, ні ў склепе, якая хіба нарадзілася ў лесе і дасягнула свайго апагея тут, у Мінску, калі яго вяла Стася і міма іх прайшоў эскадрон уланаў. Пэўна, удар быў тым шокавым узрушэннем, што вылечыў яго ад глухаты. А можа, праўда цяпер было б лягчэй, каб ён застаўся глухім? Ах, якія дурныя думкі.

«Чаму дурныя? Калі я дайшоў да той мяжы, з якой зноў з'яўляецца філасофія, на якую я хварэў у гімназіі, ва універсітэце... Кола замкнулася. Аднак... Не паміраць жа! Як Ананьеў? — Сяргей зноў паднёс кнігу да вачэй.— «Добро бы мы со своим пессимизмом отказывались от жизни, уходили б в пещеры или спешили умереть, а то ведь мы... живем, чувствуем...»

Учора прыходзілі Мірын бацька і Клара,

Навум Шкляр, худы, касцісты, з апушчаным правым плячом, ад чаго яго як бы хіліла ўбок, з сівой біблейскай барадой, выглядаў значна старэйшым за сваю жонку. Не ў прыклад ёй быў ён маўклівы:

ці сказаў тры словы. Гаварыла Клара. Можа, і маці маўчала б, каб ён, Багуновіч, адразу сказаў, з чым прыйшоў?

Пра каханне ён, канечне, не гаварыў. Сказаў толькі каротка, што за дзень — усяго за дзень! — да нямецкага наступлення яны пажаніліся. Падрабязна расказаў, як Міра загінула, дзе яе пахавалі, хто пахаваў. Клара плакала. Без адзінага пытання стары Шкляр падняўся і нізка пакланіўся яму. Гэта яго кранула, расчуліла, расхвалявала не менш, чым размова ў доме, дзе Міра вырасла. Ад гэтага ён знясілеў яшчэ больш. Маці хадзіла на насочках у бацькаў кабінет, дзе ён ляжаў, заглядвала са страхам, бачыла, што ён ляжыць з расплюшчанымі вачамі, і не знаходзіла, што сказаць, моўчкі ішла на кухню.

Сёння яна, бадай, узрадавалася, калі ўбачыла яго з кнігай. Але яму Чэхаў не даў ні заспакаення, ні задавальнення. Наадварот, развярэдзіў.

Сяргей падняўся. Прайшоўся па прасторным кабінеце. Пастаяў перад акном. На дварэ — сонечны дзень. Капала з крыш. Ішла вясна. Але думка пра яе не парадавала. На вуліцу яму таксама не хацелася. Больш таго: ён баяўся туды выходзіць. Баяўся сустрэчы з немцамі. Не саромеўся прызнацца сабе ў гэтым.

На пісьмовым бацькавым стале ляжаў томік Буніна. Разгарнуў яго. Прачытаў адзін верш, другі. Ювелірная работа. Але як гэта ўсё далёка, непатрэбна яго душы!

Норд-остом жгут пылающие зори...

ці

В сонной степной деревушке
Пахучие хлебы пекут...

Ды раптам як абпёкся. Прачытаў адзін раз, другі:

Герой — как вихрь, срывающий палатки,
Герой врагу безумный дал отпор,
Но сам погиб — сгорел в неравной схватке,
Как искрометный метеор.
А трус — живет. Он тоже месть лелеет,
Он точит меткий дротик, но тайком,
О, да, он — мудр! Но сердце в нем чуть тлеет:
Как огонек под кизяком.

Верш па-новаму ўсхваляваў і адразу павярнуў думкі ў іншы бок. Здаўся абывацельскім намер, што з'явіўся ў лесе, пры глухаце: «Прыеду дадому — і нікуды, адваяваўся, буду ляжаць, чытаць Лёліны ці маміны запіскі, Чэхава». Зніклі думкі, што толькі распалілі мозг, калі ён чытаў «Агні»,— думкі, якімі трэба канчаць жыццё.

Цяпер уразіла іншае. Бадай, спалохала. Як бы неператварыцца ў таго мудрага баязліўца, што нібыта тайком точыць дроцік, а ў сапраўднасці тлее, як аганёк пад кізяком. Вось іменна: пад кізяком, пад сырым кізяком — малюсенькі згасаючы агеньчык.

Не, такое жыццё не для яго! Але што рабіць? Куды пайсці? І што рабіць? Словы, якія часта паўтараў бацька,— словы Багдановіча; ім і Купалам захапляўся адвакат, лічыў іх прадвеснікамі нацыянальнага адраджэння беларусаў.

Пахадзіў па кабінеце. Спыняючыся ля стала, прачытаў верш другі раз... трэці. Запомніў. Пайшоў да сястры. Прачытаў ёй на памяць. У Лелі, пасля таго як яна паслужыла ў шпіталі, пабачыла, як людзі пакутуюць, з'явіўся своеасаблівы пратэст супраць інтэлігентшчыны. У гімназіі яна захаплялася новай паэзіяй. Але ў шпіталі пераканалася, што салдаты любяць Лермантава і Кальцова і не разумеюць Блока, а тым больш Севяраніна і Гумілёва. Увогуле сама яна астыла да любой паэзіі, лічыла: не да паэзіі ў такі сурова-празаічны час. Цяпер яна з вялікім задавальненнем распускала старыя кофтачкі, світэры і вязала безрукаўкі — «душагрэйкі», так называлі іх салдаты; не толькі раненыя, што ляжалі ў халодным шпіталі, але і ўрачы некаторыя, фельчары гатовы былі цалаваць ёй рукі за такія падарункі. Чалавечая ўдзячнасць кранала дзяўчыну.

Не спыняючы вязанне,— пруткі ў яе пальцах мільгалі з хуткасцю гільз, што выляталі з кулямётнай ленты,— Лёля абыякава ўхваліла:

— Нічога. Чыё?

— Бунін.

— Бунін?— здзівілася яна.— Не тое яны пішуць, паэты, пра вайну.

— Не тое,— згадзіўся Сяргей.— Але гэта напісана да вайны. Хоць што значыцца да вайны? Калі людзі не ваявалі?

Зрабілася трохі сумна, што сястра не зразумела яго. Тлумачыць не захацелася. Вярнуўся ў кабінет. Паляжаў. Пачытаў Чэхава. Але з галавы не выходзілі радкі: «Но сердце в нем чуть тлеет: как огонек под кизяком».

«О, да, он — мудр!»

Не ляжалася. Не чыталася. Заглянуў на кухню, дзе маці і Васіліна гатавалі абед; ім хацелася найлепш, найсмачней карміць яго, кантужанага; рабіць гэта ў галодны ваенны час — з прыходам немцаў рынкі апусцелі — было вельмі нялёгка, таму яны прыкладалі ўсё сваё кулінарнае майстэрства.

Жанчыны ўзрадаваліся яго з'яўленню: калі хворага пацягнула на кухонныя пахі — гэта добра.

— Сяргей Валянцінавіч, вы паспыталі салдацкія супы. Паспытайце наш. Грыбны.

Ён ахвотна, што таксама парадавала іх, выканаў Васілініну просьбу: падзьмухаў на вогненнае варыва ў лыжцы, сербануў; пахваліў. Адышоў да акна, гледзячы ў двор, на будынак пошты на рагу Падгорнай і Губернатарскай, прачытаў як бы сам сабе: «Герой — как вихрь...»

Азірнуўся не адразу, як бы прадчуваючы, што тут будзе не так, як з Лёляй. Глянуў: у Васіліны былі спалоханыя вочы, у маці дрыжалі вусны. Яны зразумелі яго. Настрой яго. І сэрцы іх у роспачы крычалі:

«Што ж гэта такое? Зноў — на вайну?»

Бацька радасна крыкнуў з пярэдняй:

— Сярожа, паглядзі, каго я табе прывёў!

Багуновіч-малодшы каторы дзень пакутаваў ад адзіноты, ад безвыходнасці, адчуваючы сябе тым «мудрым», што нібыта песціць помсту, а ў сапраўднасці тлее, бо не ведае, куды падацца. Неаднойчы падумаў: шчаслівыя Рудкоўскі і Бульба, яны — што віхор,і калі згараць, то як метэоры. Ва ўсялякім разе, тлець не будуць. Ён узненавідзеў сябе за бездапаможную бяздзейнасць. Ісці нікуды не хацелася, сустрэцца з кім-небудзь з сяброў юнацтва не было ніякага ^жадання, тым больш прынімаць іх у сябе. Сустрэцца яму хацелася хіба толькі з адным чалавекам, з незнаёмым,— з Мірыным братам, які, як прагаварылася іх словаахвотлівая маці, хаваецца ад немцаў, жыве, працуе ў падполлі.

Па бацькавым голасе адчуў, што прывёў кагось з яго даўніх дружбакоў. Бацьку хочацца прагнаць яго хандру. Паморшчыўся, неахвотна падняўся з канапы, выйшаў у пярэднюю. І — дзіўна — раптам узрадаваўся. Перад ім стаяў яго гімназісцкі сябар Баляслаў Кручэўскі.

Адзеты ён быў трохі дзіўна, але не без элегантнасці: у афіцэрскіх ботах, кавалерыйскім галіфэ, але ў цывільным пінжаку, на бялюткай манішцы — «бабачка» ў крапінку.

Твар Славін, расчырванелы з марозу, свяціўся, як у імянінніка. Горача абняліся, пацалаваліся — на радасць бацьку. Дагадзіў сыну. Ад Кручэўскага патыхала вінам. Ён і цвярозы быў вясёлы, а на падпітку — Сяргей добра помніў — станавіўся душой любой кампаніі. У гімназіі яго любілі. Для Сяргея і сам Слава, і асабліва бацька яго, актыўны дзеяч Беларускай грамады, сябра адваката Багуновіча,— былі кумірамі. Калі яны вучыліся ў апошнім класе гімназіі — было гэта ў час рэакцыі,— Пятра Кручэўскага асудзілі на год ці паўтара за артыкул аб прыгнёце самадзяржаўем беларускага народа. Сын падбіў сяброў-

гімназістаў на дэманстрацыю. Немалая група беларусаў і палякаў у актавай зале чыталі Купалу і Міцкевіча. Дырэктару Фальковічу, які паспрабаваў угаварыць іх, каб разышліся, гімназісты крычалі: «Тыран! Дэспат!» — хоць Фальковіч лічыўся ліbeралам. З ім здарыўся сардэчны прыступ. Славу Кручэўскага выключылі з гімназіі. Але маці пайшла, пакланілася губернатару, і Слава быў залічаны назад. Аднак хадзіў ён пасля героем, лідэрам «прагрэсіўных беларусаў».

У пачатку вайны, поўны патрыятычнага запалу, студэнт-гісторык Кіеўскага універсітэта Баляслаў Кручэўскі гэтак жа, як і Багуновіч, пайшоў у армію вольназапісаным. Праўда, у акопах ён не быў, служыў у нейкім палітычным аддзеле, што праводзіў работу сярод славян — украінцаў, чэхаў, палякаў Аўстра-Венгрыі. У вайну яны зрэдку пісалі адзін аднаму, але ні разу пад час кароткіх пабывак не сустрэліся. Таму так і ўзрадаваліся: былі ж сябрамі — вадой не разліць.

Кручэўскі з бесцырымоннасцю, якая дазволена хіба самым блізкім, круціў Сяргея, як цацку.

— Што ты такі змарнелы? Бацька кажа — кантужаны? Во гады — немцы! Не было ім іншай мішэні! Чуеш? Ці табе трэба крычаць у вуха?

— Цябе — чую.

— Мяне? Іншых — не чуеш? Сярожа, твой гумар заўсёды вызначаўся тонкасцю. Ты ў нас — унікум. Кажуць, ты быў камандзірам палка?

— Быў.

— Адказваеш так, быццам быў катаржнікам. Хоць цяпер катаржане — у пашане. Вунь эсэр Бялевіч — героем ходзіць. А што зрабіў? Адзін раз стрэліў у віцэ-губернатара, ды і то міма. Праўда, дзядзька Багуновіч? — Кручэўскі весела рагатнуў; Сяргей не ведаў, хто такі Бялевіч, але бацька, пэўна, з чалавекам гэтым добра знаёмы, бо таксама рассмяяўся. Старому Багуновічу падабалася весялосць госця і асабліва тое, што прыкметна ажываў сын, разварушылі-такі яго.

На галасы ў пярэдняй выйшла Лёля. Баляслаў тут жа кінуўся да яе.

— О! Як сказаў вялікі рускі нацыяналіст эфіопскага паходжання: «Я помню чудное мгновенье...» Хто вы, яснавяльможная? Лёля? Няўжо Лёля? Тая цыбатая гімназістачка? Цалую вашы рукі, паненка. Чакайце ў сваты. А калі ёсць сапернік — да бар'ера яго! Страляю я без прамашкі.

Лелі не спадабалася гэтае п'янаватае блазненне. Яна сурова спытала:

— Вы заўсёды так крыўляецеся перад жанчынамі, пан Быкоўскі?

Кручэўскі спачатку сумеўся.

— Быкоўскі? Чаму Быкоўскі?— але ўспомніў, зарагатаў: — За гэта люблю вас, дзядзька Багуновіч, што начынілі дзяцей нацыянальным духам. Не смейцеся з Быкоўскага, ён прадстаўнік беларускай шляхты, а яна найлепш захоўвае нацыянальныя традыцыі. Ва ўсякім разе, лепш, чым палескія мужыкі. Мы далучылі да свайго руху Гаруна. Далучым і Купалу, Багдановіча...

— Багдановіч памёр,— сказала Лёля.

— Памёр? Шкада,— на момант разгубіўся Кручэўскі і вярнуўся да заляцання: — Вам, спадарка Лёля, адказваю: перад такімі пекнымі дзяўчатамі я нямею. Як рыба. Толькі хапаю жабрамі паветра...

Убачыўшы, што Лёля можа сказаць нешта непачцівае, Валянцін Вікенцьевіч паспяшаўся павесці госця і сына ў свой кабінет. З ніжняй шафы з-за тоўстых тамоў «Улажэння законаў Дзяржавы Расійскай» дастаў пляшку «Шартрэзу», безумоўна, хаваў яе для такога ж урачыстага выпадку, якім быў зварот сына: тады адвакат выставіў такую ж пляшку на стол, за якім сын істэрычна разрыдаўся.

Бацька апошнія дні хадзіў заклапочаны, а тут раптам ажыў, зрабіўся вясёлым — усё роўна як атрымаў узнагароду. Але гэта быў стан, калі радуе, ажыўляе не падарунак, які паднеслі табе, а тое, што ты перадарыў яго блізкаму чалавеку. Так, ва ўсялякім разе, здавалася Сяргею: бацька паводзіць сябе гэткім чынам, бо лічыць, што зрабіў сыну найдаражэйшы падарунак. Прывёў лепшага сябра юнацкіх гадоў.

Што ж, Багуновіча-малодшага сапраўды ўзрадавала сустрэча з Баляславам — будзе хоць з кім пагаварыць, адвесці душу. Хоць блазненне Кручэўскага перад Лёляй не спадабалася, з'явіўся халадок насцярожанасці.

Аднак двое даўніх сяброў, цягнучы з сярэбраных чарак ліпучы лікёр, глядзелі адзін на аднаго ўлюбёна.

— Дык, кажаш, камандаваў палком?

— Ах, якое там камандаванне! Ад палка і ад камандзіра застаўся адзін успамін.

— Ты хто — эсэр, бальшавік?

— Я беспартыйны.

— І цябе паставілі на полк?

— Мяне выбралі салдаты.

— Ах, так-так. Я ўспамінаю твае пісьмы, дзе ты кляўся ў любові да салдат. Толькі салдацікі гэтыя пасля сваіх дабрадзеяў на штыкі паднімалі.

Вецярок насцярожанасці дзьмухнуў мацней. Ва ўсялякім разе, расказваць пра сваю трагедыю, пра разгром палка расхацелася, хоць намерыўся быў зрабіць гэта: няхай ведае Баляслаў, што перажыў ён, праз што прайшоў, спадзяваўся — даверлівая споведзь найлепшым чынам адновіць іх душэўную блізкасць.

— Раскажы, Болесь, лепш пра сябе. Адкуль ты прыехаў? Калі?

— Я — з Кіева. Тыдзень назад...

— Хіба штаб Паўднёва-заходняга фронту пераязджаў у Кіеў?

Кручэўскі засмяяўся.

— Ты ідэаліст, Сярожа. І службіст. Ты можаш прысягнуць і богу і чорту. А мяне рэвалюцыя вызваліла ад прысягі, ад абавязкаў. Упраўленне наша распусцілі. Няма славян. Няма немцаў. Есць пралетарыі ўсіх краін,— Кручэўскі іранічна хмыкнуў.— Ішло братанне былых ворагаў. Чым яно кончылася — ты ведаеш.

Братанне і яму, Багуновічу, не падабалася, але словы сябра ён не прыняў, бо балюча кальнуў у сэрца ўспамін пра Міру, пра тое, як яна верыла ў брацтва людзей, у рэвалюцыйнасць нямецкіх салдат.

— Кончылася трагічна,— сумна згадзіўся Сяргей.

— Валянцін Вікенцьевіч сказаў мне, што ў цябе загінула жонка. Ты паспеў ажаніцца? Я выказваю табе спачуванне.

Сяргей не адказаў, з панурай маўклівасцю круціў у руках чарку.

Бацька зноў наліў лікёру. Бацьку хацелася адвесці размову ад сумнага.

— За вас, дзеці. Каб вам добра было.

Кручэўскі падхапіў:

— Будзе добра, дзядзька Багуновіч. Я ж сказаў вам, калі пачуў, што Сяргей дома: нам пашанцавала!

«Каму гэта нам?» — хацелася спытаць Багуновічу-малодшаму, але зноў дзьмухнуў скразнячок нейкай непрыемнай адчужанасці: гэта проста-такі палохала яго.

Кручэўскі выконваў тайную, выказаную тостам, ці, можа, яўную, выказаную раней, як кажуць, адкрытым тэкстам, просьбу Багуновіча-старэйшага не гаварыць пра тое, што можа расхваляваць Сярожу. Ён пачаў пра вясёлае:

— У Кіеў я махнуў проста пажыць. Павесяліцца. Калі воля — дык воля для ўсіх. А Цэнтральная рада, я табе скажу, дала такі волю. У рэстаранах — што да вайны. А хахлушкі, брат,— цуд! Гэткае, ведаеш,

нешта такое... ад зямлі — ад стэпу, ад пшаніцы, ад неба, дзе бліскаюць маланкі. «Що цэ то вы робытэ, пан афіцэр?»

А сама млее, растае, цячэ, што мёд. Пальчыкі абліжаш!

Багуновіч хіба толькі ў пачатку вайны, калі быў бязвусым прапаршчыкам, з цікавасцю слухаў расказы афіцэраў пра іх любоўныя прыгоды. Пазней яму было брыдка чуць такое. Па-першае, ён пераканаўся, што большасць афіцэраў бессаромна выхваляліся, манілі. Па-другое, яго абражала жывёльнае стаўленне да жанчыны. Ён абураўся: «Панове! У кожнага з нас ёсць маці, сёстры, нявеста!» Афіцэры звычайна злаваліся: «Чыстаплюй чортаў!» Цяпер яго абурыла, што Баляслаў з такой бесцырымоннай фамільярнасцю расказвае пра свае брудныя прыгоды старому чалавеку — бацьку, равесніку яго бацькі.

Але, моцна змяніўся былы гімназісцкі прапагандыст «свабоды, роўнасці, брацтва», змагар за аўтаномію беларусаў!

«Куды ён схіліўся? Да якога берага прыстаў? Хоць што я пытаюся? Сам я прыстаў да якога-небудзь берага? Я забраўся, няхай сабе ў чысценькую, але ціхенькую, утульненькую бухтачку, адгароджаную ад вялікай ракі гэтымі сценамі, уяўнай хваробай, матчынымі клопатамі».

Сяргей перапыніў сябраў расказ пра кіеўскія рэстараны:

— Што новага ў свеце? На фронце?

— На якім? На Усходнім? Ты што, не ведаеш? Падпісаны мір. Прымусілі бальшавічкоў...

— Мір? — скалануўся ўвесь Багуновіч і ўсхвалявана падняўся з мяккага крэсла.— Калі?

— Падпісаны? Учора ў Брэст-Літоўску. Але калі хочаш ведаць маю думку, як кажуць, не для прэсы, то я скажу: дурні немцы! Знаходзіцца за семдзесят вёрст ад Піцера і пайсці на мір!.. Яшчэ адзін рывок — і можна было б раздушыць гэтае асінае гняздо.

Уміг, у адзін міг міне імі вырасла сцяна. Багуновіч адначасова і ўзрадаваўся яе з'яўленню, і спалохаўся — спалохаўся, што ад аднаго неасцярожнага руху сцяна гэтая абурыцца на яго і пахавае пад сваім тысячапудовым цяжарам.

Зрабілася цяжка дыхаць. Як бы баючыся, што сцяна сапраўды можа абваліцца толькі ад яго голасу, ад дыхання, ён адказаў стоеным шэптам:

— Там нашы браты.

— Хто гэта твае браты? Бальшавікі?

Багуновіч адступіў ад століка, за якім сядзелі, сказаў звычайным голасам:

— Бальшавікі — рабочыя Піцера, Салдаты. Каго ж табе хочацца задушыць?

Бацька таксама насцярожана падняўся, бачачы па сыну, што той вось-вось можа ўзарвацца. Напэўна, і Кручэўскі сцяміў, што перахапіў цераз край. Адказаў лагодна, як бы жартам:

— Аднак набраўся ты іх духу.

І тады Сяргей сапраўды грымнуў:

— А ты якога духу набраўся? У кіеўскіх прастытутак?

Спалоханы адвакат падскокам апынуўся паміж сынам і госцем, растапырыў рукі.

— Хлопцы! Хлопцы! Ну, што вы, як пеўні? Чаго вы не падзялілі? Нельга ж так. Успомніце, як вы дружылі.

Марыя Міхайлаўна, можа, упершыню за ўсё жыццё спынілася каля дзвярэй, каб паслухаць, і таксама спалохалася за сына, за яго ўзрыў. Хацелася ведаць: з-за чаго яны гэтак? Безумоўна, палітыка. Палітыка раскалола ўвесь свет. Але што канкрэтна так абурыла сына?

Стары Багуновіч дарэмна спалохаўся, дарэмна стаў паміж маладымі. У іх зусім не было намеру кінуцца адзін на аднаго. Сяргей адышоў да кніжнай шафы, збялелы ад хвалявання. А Кручэўскі прадаўжаў спакойна цадзіць лікёр, не крануўшыся з крэсла, паблажліва, з адчуваннем сваёй перавагі, пасміхаючыся:

— Нервачкі ў цябе, дарагі сябра мой, нікуды не вартыя. Але мы іх вылечым. Я прыйшоў да цябе не проста так, а з канкрэтнай прапановай, якая, не сумняваюся, цябе парадуе. Але спачатку да пытання пра братоў. Сапраўдныя браты мы з табой, Сяргей. Абодва беларусы. Гэта вышэйшае брацтва. Хіба не так?

— Так, безумоўна, так,— пацвердзіў Багуновіч-старэйшы, каб памірыць маладых.

— Бачыш, такія людзі, як мой бацька, твой бацька, гэта добра разумеюць. Яны — мозг будучай Беларускай рэспублікі. А мы з табой павінны стаць яе сілай. Ваеннай сілай.

Сяргей урэшце зразумеў, куды хіліць Кручэўскі, і скептычна пасміхаўся, загадваючы сабе не ўзрывацца больш, а паздзекавацца з гэтага дамарошчанага палкаводца.

— Вітаю прасвятленне на тваёй поснай фізіяноміі. А то набычыўся, як белавежскі зубр. Зараз ты будзеш скакаць ад радасці. Слухай уважліва. Я прыйшоў, каб афіцыйна прапанаваць табе пасаду камандзіра першага беларускага палка.

— Якога палка?

— Палка Беларускай вайсковай рады.

— А што гэта за рада такая?

— Ну, ты мяне здзіўляеш. Ты быццам з неба зваліўся.

— Я зваліўся з фронту. Кантужаны,— голас Сяргея зноў пагрозліва задрыжаў: не, заставацца спакойным пры такой гутарцы вельмі нялёгка.

— Як гэта вы, Валянцін Вікенцьевіч, не прасвяцілі сына? — з дакорам спытаў Кручэўскі ў адваката.

Сяргея зноў скаланула:

«Нахабнік! Тылавы пацук! Ты дазваляеш сабе папракаць старога чалавека!»

— Сярожа быў хворы. Колькі дзён ён нічога не чуў,— прагучала гэта апраўдальна, і Багуновіч-малодшы не стрымаўся, кінуў бацьку адно слова, з грымасай болю і сораму:

— Тата!

Валянцін Вікенцьевіч пачырванеў, як дзяўчына, цяжка ўздыхнуў, паскардзіўся:

— Незразумелымі вас зрабіла вайна. Незразумелымі...

Кручэўскі самаўпэўнена засмяяўся, сам наліў сабе лікёру і з размаху выплеснуў чарку ў рот.

— Зараз мы, дзядзька Багуновіч, усё зразумеем. Прасвятлім,— і да Сяргея: — Спадзяюся, ты чуў пра «Усебеларускі кангрэс», які праходзіў яшчэ ў снежні? Бальшавікі хацелі разагнаць яго. Не ўдалося. Хоць пасля некаторых з нашых яны арыштавалі. Цяпер, калі беларускі народ вызваліўся...

«Калі і ад чаго ён вызваліўся? Немцы вызвалілі мой народ?!» — абурана закрычаў Сяргей, але ў думках, бо голас яму як бы адняло, як аднялі былі нямецкія снарады слых.

— Цяпер выканаўчы камітэт з'езда стварыў урад рэспублікі — народны сакратарыят Беларусі. Яго ўзначалілі Варонка, Цвікевіч, Серада, Грыб.

— І каго яны прадстаўляюць? Рабочых? Сялян? — спытаў Сяргей у бацькі.

КруЧэўскі засмяяўся.

— Ну і бальшавікі! Начынілі яны цябе марксізмам. Але калі ты ўжо лезеш у тэорыю, то я табе скажу: сіла ў еднасці нацыі, у еднасці ўсіх яе класаў і пластоў. Тэорыя вашага Маркса — гэта тэорыя для людзей без роду і племя. А мы — чыстае славянскае племя. Рускія перамяшаліся з татарамі...

У Сяргея было што адказаць на гэта, але пачынаць тэарэтычную спрэчку яму зусім не хацелася; залішне многа энергіі ішло на тое, каб стрымліваць сябе, прымушаць да спакою.

— Я не палітык. Я салдат.

— Вось гэта мне падабаецца! — бадай узрадаваўся Кручэўскі.— Палітыкаў у нас хапае. Салдат мала. Таму я прапаную табе полк. Аднак слухай пра нашу арганізацыю. Пры ўрадзе створана «Вайсковая камісія». Яе ўзначальвае Езавітаў... Помніш? Цвікевіч і ён былі арганізатарамі Беларускай сацыялістычнай грамады. Розум, я табе скажу,— англійскі парламент. Мяне ён узяў да сябе начальнікам штаба. Не бойся. Прыцясняць цябе не буду. У нас — поўная дэмакратыя...

— Каго прадстаўляе ваша камісія?

— Вайсковая?

— Усе.

— Ну, ведаеш... Мне не падабаецца твая іронія. Май павагу. Як — каго? Беларускі народ.

— Увесь?

— Безумоўна, увесь.

— А ты ведаеш, што сяляне ідуць у лясы, у партызаны, як пры нашэсці Напалеона... каб біць «вызваліцеляў»?

Кручэўскі ўскінуў галаву і здзівіўся.

— Аднак не такі ўжо ты недасведчаны. Сляпым і глухім ты прытварыўся.

— Я не сляпы. Я чую. Вас чую, пан начальнік штаба!

— Хлопчыкі! Хлопчыкі! Не сварыцеся, калі ласка,— адчуўшы набліжэнне новага ўзрыву, прасіў стары Багуновіч.

Грамадавец адкусіў ад свайго вуса, сплюнуў валаскі ў жменю, выцер руку беласнежнай хусцінкай. Відно было, што сарказм Багуновіча, яго здзекліва-афіцыйны тон вывеў госця з раўнавагі. Але Кручэўскі стрымліваў сябе.

— Я разумею тваю нянавісць да немцаў. Думаеш, я іх люблю? Але будзем рэалістамі, сябра мой. Пакуль у нас няма свайго войска... Немцы памаглі нам вызваліцца ад страшнай навалы бальшавізму, з іх дапамогай мы ўціхамірым мужычкоў, якіх у лясы вядуць бальшавіцкія камісары. А там будзе відно. На ўсё трэба час.

Сяргей раптам адчуў, што ён зрабіўся на здзіўленне спакойны, больш таго — яму стала весела, і ён зразумеў — ад чаго так: ад усведамлення сваёй маральнай перавагі, сваёй перамогі над гэтым хлюстам, сэрцаедам кіеўскіх рэстаранных паненак, над пігмеем, што лезе ў Аляксандры Македонскія. Было толькі горка і прыкра ад таго, што некалі ён лічыў гэтага чалавека сваім сябрам, нават лепшым сябрам.

Багуновіч па-вайсковаму трыумфальна прайшоўся па кабінеце, спыніўся каля крэсла Кручэўскага, збоку. Здзівіў бацьку весялосцю свайго голасу:

— Болесь! Шаноўны заступнік беларускага народа! З гэтага ты і пачынаў бы — што вам хочацца паслужыць немцам. А калі гаварыць салдацкай мовай, якую мы з табой добра вывучылі,— палізаць Вільгельму с... Ліжыце! Ён кіне вам костку... Грызіце!

— Сярожа! — як застагнаў бацька.

Кручэўскі гэтак жа па-вайсковаму падхапіўся, шчоўкнуў абцасамі, сказаў вельмі ўзлавана:

— Здаецца, я не туды трапіў.

— Не туды, Болесь, не туды, пан атаман. Ты трапіў да сумленных людзей, якія ніколі не пойдуць чысціць боты генералу Фалькінгейму. Ды і кайзеру не пачысцяць. Цару не чысцілі. Праўда, бацька?

— Хлопчыкі! Далібог жа пеўні... Ах, божа мой! — бедаваў стары.— Што адбываецца ў гэтым свеце!

— Прашу прабачыць, пан Багуновіч,— Кручэўскі ўміг апынуўся каля дзвярэй кабінета і адчыніў іх з такой сілай, што ледзь не збіў да смерці спалоханую Марыю Міхайлаўну.

Але Болесь, здаецца, не заўважыў яе. Сарваў у прыхожай з вешалкі сваё футра і выскачыў за дзверы, грымнуўшы імі так, што зазвінелі шыбы, люстры, посуд У камодах.

Выскачыла са свайго пакоя Лёля.

— Сярожа выкінуў яго, гэтага нахабніка? Дарэмна ён не спусціў яго з лесвіцы. Я чула праз сцяну...

Марыю Міхайлаўну спалохала размова, якую яна пачула. Але разам з тым яна ўзрадавалася за сына, за яго высакародныя прынцыпы. Для яе пакуль што не мела значэння, якія ў яго палітычныя погляды. Для яе важна было, што ён застаўся Чалавекам, такім, якім яна і бацька выхоўвалі яго з маленства.

Нясмела, але з прасветленым тварам, увайшла маці ў кабінет. Сын сядзеў у крэсле і смакаваў лікёр, пераможна пасміхаючыся.

Валянцін Вікенцьевіч стаяў перад акном да іх спіной, быццам вельмі зацікаўлены нечым, што адбываецца на вуліцы. Але яна ведала: нічога там асаблівага няма, пры глыбокім хваляванні муж нярэдка так робіць.

— Сядай, мама. Выпі лікёру. Выдатны «Шартрэз». У цябе вялікія запасы, бацька?

Багуновіч-старэйшы не адказаў.

Сяргей гарэзліва падміргнуў яму ў спіну.

— У цябе, мама, сёння добры выгляд. Ты памаладзела.

— Дзякую, сыне, за камплімент,— і раптам вінавата прызналася: — Я слухала пад дзвярамі.

Бацька перасмыкнуў плячамі і незразумела хмыкнуў.

З дзвярэй закрычала Лёля:

— Які жах! Мама! Не прызнавайся нікому.

Яна са смехам увайшла ў кабінет, упала ў крэсла, у якім сядзеў бацька.

— Калі ты так хваліш гэтае зялёнае зелле, то налі і мне. Нап'юся і пайду наб'ю морду твайму лепшаму сябру. Які цынік і... дурань... Пасватаўся...

Сяргею захацелася тут жа абняць, пацалаваць маці і сястру, ён напаўняўся гонарам за іх.

Бацька нечакана для ўсіх іх раптам ціха засмяяўся. Марыя Міхайлаўна ажно спалохалася: з чаго гэта ён смяецца? Няма ж прычыны.

Валянцін Вікенцьевіч павярнуўся да жонкі, дзяцей і весела сказаў:

— Але, не быць мне таварышам міністра. Яны мяне сваталі намеснікам сакратара юстыцыі. Але пра што я падумаў зараз? Можа, праўда, сын, ты ўратаваў мяне ад ганьбы?

— Не можа, а напэўна,— сказала Лёля, каўтнула лікёр і закашлялася.— Фу, брыдота, я ў шпіталі спірт піла і — нічога.

— Я даўно табе казала: будзь далей ад гэтай хеўры. Яны ўжо грызуцца паміж сабой за партфелі.

— Але што мяне непакоіць...— сказаў Багуновіч-старэйшы, панізіўшы голас і наблізіўшыся да іх.— Не выдасць цябе, сын, гэты тып?

Жанчыны насцярожана прыціхлы

Сяргей падумаў, прыгубіўшы чарку, але не п'ючы. Адказаў са спакоем, якому сам здзівіўся:

— Напэўна выдасць.

Маці жахнулася:

— Божа мой! Сярожа! Як можна так... упэўнена і спакойна? Ён быў тваім сябрам...

— Да немцаў ён, магчыма, і не пойдзе. Але сваім... ураду свайму... вайсковай камісіі... раскажа безумоўна. А там знойдуцца...

— Там знойдуцца,— упалым голасам згадзіўся Валянцін Вікенцьевіч.

— І калі, крый божа, недзе блізка аціраецца барон Зэйфель, другі раз мяне ніхто не ўратуе. Сам Бульба...

— Сынок мой! — збялела і ўміг пастарэла Марыя Міхайлаўна.— Як ты можаш пра такое гаварыць спакойна?

— А што рабіць, мама? Біцца ў істэрыцы? Рыдаць? Я ж не паненка — салдат.

— Чорт яго прынёс,— сказала Лёля.

— Лёлечка, не прыйшоў бы ён, прыйшоў бы нехта іншы. І мне ўсё роўна прыйшлося б выбіраць, куды пайсці і што рабіць. Помніш Багдановіча? Нельга чалавеку з маім характарам праляжаць на канапе...

— Я даўно ўбачыла, што ты пакутуеш. Душа мая чула, што я зноў страчу цябе.

— Пачакай, маці. Хаваць яго рана. Давай спакойна падумаем — што рабіць?

Маці глядзела на сына, на мужа з надзеяй, маленнем: прыдумайце ж нешта!

Сяргей падняўся, падышоў да стала, разгарнуў той жа томік Буніна.

— Я тут, пакуль ляжаў, прачытаў: «А когда же, дитятко, ко двору тебя ждать? Уж давай мы, как следует, попрощаемся, мать?»

— Сын, гэта жорстка. Да маці,— сказаў бацька.

— Прабач, мама. Гэта жорстка. Але ў мяне няма іншага выйсця. Я павінен знікнуць.

— Куды? Як? — Марыя Міхайлаўна сашчапіла рукі так, што хруснулі суставы пальцаў.

— Есць тры шляхі. Пайсці ў падполле, тут, у Мінску. Але я не навучаны ваяваць з падполля. Вярнуцца назад у атрад? Спакуслівa. Аднак баюся, што ў складаны ансамбль Рудкоўскага і Бульбы мне нялёгка будзе ўпісацца. Ды і балюча мне вяртацца ў тыя мясціны. Мір, які падпісаў Ленін, безумоўна, трэба будзе абараняць. Я хачу абараняць гэты мір. Мне здаецца: я патрэбны там...— паказаў уздоўж Захар'еўскай вуліцы, на ўсход, памаўчаў, падумаў, сказаў, саромеючыся за сваю нясціпласць: — Леніну патрэбны...

Маці, бацька і сястра глядзелі на яго шырока расплюшчанымі вачамі — з бояззю за яго і з захапленнем яго пераконанасцю — веданнем, дзе яго месца ў віры падзей.

## ЭПІЛОГ

Фае з пустымі гардэробамі першага паверха, вузкаватая лесвіца і прасторная зала буфета і фае на другім паверсе былога «Дворянского собрания» запаўняліся людзьмі. Упершыню гэты фешэнебельны палац, урачыстая зала ўбачылі такі натоўп хіба што пяць месяцаў назад.

Пра гэта падумаў Сяргей Багуновіч, праходзячы па цемнаватым фае ўздоўж залы. Ён прыгадаў публіку, якую бачыў тут перад вайной, калі, будучы студэнтам, нярэдка ехаў з Пецярбурга не ў Мінск, а сюды, у Маскву, да цёткі — сястры маці, і лічыў абавязковым

паслухаць спектаклі ў «Оперы Мамантава» і наведаць канцэрты замежных спевакоў у Калоннай зале. Атрымоўвалася неяк так, што ў Піцеры ён наведваўся ў оперу, на канцэрты радзей, чым у Маскве; там ён быў заняты вучобай, а сюды прыязджаў у госці, на канікулы. У яго тады кружылася галава ад дамскіх тэатральных плаццяў, ад французскіх духоў, генеральскіх і афіцэрскіх пагонаў, аксельбантаў, эпалетаў.

Цяпер ён іранічна пасміхнуўся з таго свайго юнацкага захаплення мішурой класа, што дажываў апошнія гады.

Наколькі бліжэй яму вось гэтыя людзі ў тужурках, простых паліто, шынялях, сялянскіх кажухах, у ботах, намазаных бярозавым дзёгцем, пах дзёгцю ўдыхаўся з асаблівай прыемнасцю, як пах самай натуральнай прыроды — сасновага бору, бярозавага гаю. Гэтак жа — народнай сілай — пахне і аўчына.

Некаторыя сяляне ў валёнках, хоць на двары сярэдзіна сакавіка і зусім па-вясноваму свеціць сонца. Праўда, уначы яшчэ быў добры мароз, але ўдзень утаптаны снег маскоўскіх вуліц можа пацячы вадой, брудны снег асабліва хутка растае.

Сяргей з практычнасцю франтавіка, трохі з гумарам, але і са шкадаваннем падумаў, як няўтульна будуць адчуваць сябе гэтыя сялянскія дэлегаты, калі вясна на ўсю сваю моц захопіць іх у Маскве.

Асабняк — адчувалася — спрабавалі нагрэць, але ўсё роўна было холадна — настыў за зіму, калі ашчаджалі кожны фунт вугалю, палена дроў.

Вешалкі пуставалі, хаця некалькі гардэробшчыкаў у тэатральных ліўрэях занялі свае пасты. Дзіўна, людзі гэтыя, такія ж працоўныя, стаялі ж на самай нізкай ступені сацыяльнай лесвіцы, здаліся Багуновічу — па выгляду сваім, паслужліва-насцярожаным,— зданямі мінулага. Як яны не гарманіруюць з гэтымі шынялямі і кажухамі, з гэтым нейкім асаблівым — раскаваным, вясёлым — гулам галасоў, зусім не падобным на той тэатральны гул, калі яго аздабляў звон шпораў і крышталёвых бакалаў у буфетах. Тыя, былыя, гаварылі шэптам, як баючыся, часам толькі якая-небудзь весялуха залівалася смехам ад афіцэрскага анекдота, але тут жа глушыла свой смех, бо глядзець на яе пачыналі з асуджэннем, якая нявыхаванасць!

Гэтыя ж людзі і гавораць на поўны голас, і смяюцца гучна, жыццярадасна. Больш за ўсё Багуновіча ўразіў іх смех. Сабраліся на такі з'езд! Не кажучы пра тое, што некаторыя, вельмі можа нават быць, не снедалі сёння.

Але ў гэтай жыццястойкасці — разумеў ён — сіла людзей, што ўзялі ўладу, што мусяць сказаць сваё слова аб важнейшым дзяржаўным акце.

Багуновіч не сумняваўся, што скажуць яны сваё слова гэтак жа, як сказаў бы і ён, каб у яго спыталі. Але часам з'яўлялася трывога. За няпоўны тыдзень, як ён у Маскве, Сяргей Валянцінавіч даведаўся, якой жорсткай была барацьба паміж Леніным і «левымі» за падпісанне мірнага дагавору. Толькі ўчора перад імі, курсантамі, выступаў Крыленка і расказваў, як гэтая барацьба ўспыхнула з новай сілай на Сёмым з'ездзе бальшавіцкай партыі, што адбыўся тыдзень назад у Петраградзе.

Багуновіч думаў пра тое, што цяпер лёс яго, можна лічыць, вызначаны.

Але настрой у яго быў вельмі складаны: задавальненне, трывога, душэўная ўзнёсласць, глыбокі смутак... Менавіта тут, калі ён заглянуў у на дзіва ўрачыстую залу з белымі калонамі, з нізка падвешанымі паміж імі крышталёвымі люстрамі, яму з новай сілай забалела рана ад смерці жонкі. «Міра! Дзяўчынка мая! Каб цябе сюды!»

Апрануты гэтак жа, як большасць чырвонаармейцаў, у шынель, толькі шынель у яго быў новы, не прыцёрты яшчэ да цела, і ў новыя боты, занадта добрыя і моцныя ў параўнанні з тымі, што паступалі на фронт, у фуражцы з чырвонай зоркай над казырком, Багуновіч хадзіў у натоўпе, і ніхто, безумоўна, не здагадваўся, што ў яго зусім іншая місія, чым у кожнага з дэлегатаў. Мацаючы ў кішэні шыняля ручку нагана, ён узіраўся ў твары людзей, запамінаў іх. Усхваляваны незвычайнасцю ўсяго, што бачыў вакол сябе, перажываючы ад успамінаў, ён не пераставаў думаць пра самае блізкае: як перавярнулася яго жыццё за нейкія дзевяць дзён!

У той жа вечар, пасля бурнай размовы з Кручэўскім, бацька, згадзіўшыся з яго рашэннем і пераканаўшы маці, пасварыўшыся з Лёляй, якая заявіла, што паедзе з братам, дамовіўся з чыгуначнікамі, і ён, былы камандзір палка, адзеты ў чыгуначную форму, сеў кандуктарам з ліхтаром у руках на пляцоўку апошняга вагона. Перад адыходам таварнага састава на Оршу побач з ім прымасціўся нямецкі салдат. Гэта ўпачатку занепакоіла Багуновіча — такое суседства не было прадугледжана. Але ноч была ветраная, завейная, за апошнім вагонам круціўся снежны смерч, іх прадзьмувала да касцей, засыпала снегам. Багуновічу чыгуначнікі не пашкадавалі доўгага, да пят, кажуха, ён абуўся ў бацькавы паляўнічыя валёнкі. А пра немца яго начальства не надта паклапацілася: боты і футравая душагрэйка пад шынялём. Вартавы акачанеў у першую ж гадзіну так, што адважыўся

сарваць стоп-кран, пагразіў Багуновічу пальцам — глядзі, маўляў, адказваеш за ўсё! — і пабег да паравоза. Засталася адна задача: не прыехаць у Оршу, дзе можа быць строгая праверка (чыгуначнікі сказалі, што «лінія міру» — дэмаркацыйная, на вайсковай мове,— раздзяліла Оршу папалам), і не сысці занадта далёка ад Оршы. Яму пашанцавала: пад раніцу доўга стаялі на нейкай станцыі; калі з'явіліся мясцовыя чыгуначнікі, ён даведаўся, што да Оршы ўсяго пятнаццаць вёрст. Якраз тое, што трэба — ні блізка, ні далёка. Ён тут жа сігануў за пакгауз, адтуль, пакуль былі яшчэ прыцемкі, падаўся да бліжэйшага лесу, што цямнеў за вярсту. Баяцца не было чаго. Наўрад ці пачнуць немцы шукаць кандуктара.

Выменяўшы пазней у той дзень у вёсцы кажух на лягчэйшую напратку — сялянскую світку, ён без асаблівых прыгод за двое сутак дабраўся да Смаленска,

Шукаючы прытулак у горадзе, забітым разрозненымі вайсковымі часцямі і бежанцамі, Багуновіч, на шчасце сваё, сустрэў камандзіра батальёна з Петраградскага палка — таго самага Сцяпана Гарчакова, што вучыўся на дзяка. Гарчакоў павёў яго да Чарназёмава. Камандзір палка вельмі ўзрадаваўся з'яўленню свайго калегі — суседа. Абняў усё роўна што сына. Абагрэў. Распытаў, якой дарогай Сяргей адступаў. Расказаў пра свой полк. Багуновіч перажыў нялёгкія хвіліны, даведаўшыся, што Чарназёмаў, хоць і з немалымі стратамі, але арганізавана, з усёй артылерыяй і абозам, вывеў полк, наносячы немцам контрудары на працягу ўсяго адступлення, ажно пакуль не падпісалі мір. Вельмі балюча было: нейкі каваль здолеў ўратаваць полк ад разгрому, людзей ад смерці, а ён... У чым жа справа? Не дарос да камандавання палком? Не. Побач быў Пастушэнка. Яны разам думалі... І, аднак, усё роўна балела сэрца. Думаў, што не знайшоў ён таго рашэння, якое, магчыма, уратавала б... Міру, салдат, што засталіся ў брацкай магіле, ды і тых, каго пагналі ў нямецкі палон, у рабства.

Чарназёмаў прадставіў яго Мяснікову, даўшы найлепшую рэкамендацыю. На другі ж дзень яго паслалі ў Маскву на толькі што створаныя курсы камсаставу Чырвонай Арміі.

І вось тыдзень ён вучыцца і... вучыць. Вучыцца разумець законы рэвалюцыі, палітыку Савецкай улады. Вучыць курсантаў-рабочых вайсковай справе, уменню валодаць зброяй. Тактыку чытае генерал Самойла. Ён расказаў ім, як вяліся перагаворы ў Брэсце. У той жа вечар, застаўшыся днявальным, Багуновіч зняў у чырвоным кутку партрэт Троцкага, што вісеў побач з партрэтам Леніна. Камісар курсаў, стары бальшавік, былы катаржанін Сізоў, і курсанты зрабілі

выгляд, што не заўважылі знікнення аднаго партрэта. А ўчора будучым камандзірам далі першую баявую задачу: ахоў ваць Чацвёрты з'езд Саветаў.

Багуновіч верыў у лёс, таму быў глыбока ўсхваляваны, што яму наканавана ахоўваць з'езд, які ратыфікуе мірны дагавор. Яшчэ ўчора, калі яны атрымалі гэтае заданне, яго моцна ўзрушыла думка, што, ахоўваючы з'езд ад правакацый контррэвалюцыі, ён будзе ахоўваць Леніна. Доўга не засынаў мінулую ноч, уяўляючы Леніна. Ах, каб яго паставілі на самы галоўны пост! Быў крыху расчараваны, калі атрымаў раніцой такое празаічнае заданне — хадзіць сярод дэлегатаў, сачыць і дзейнічаць толькі ў выпадку правакацый.

Зноў ён думаў пра Міру. А яшчэ думаў, як знайсці магчымасць паслаць вестачку ў Мінск, бацьку, маці, Лелі, што ён жывы, вучыцца на камандзіра той арміі, з якой у хуткім часе — верыў у гэта! — прыйдзе на чале роты ці палка — чын не меў значэння,— каб вызваліць іх. Ніколі ён не хваліўся, у натуры не было такой рысы, але, здарыцца нагода напісаць, ён, напэўна, хоць намёкам паведаміць родным, што ахоўваў Леніна.

Багуновіч заглянуў у буфет. Каля пустых стоек было гэтак жа мнагалюдна, як некалі ў часе антрактаў. Але тады пілі і елі, а цяпер спрачаліся ці гаварылі пра вясну, пра сяўбу. Гэта, па вымаўленні чуваць, данцы, дзе сяўба, можа, пачалося ўжо.

У дальнім куце нейкі інтэлігент даводзіў сялянам, што мірны дагавор — кабала, што кантрыбуцыя разорыць сялянства. Барадатыя дзядзькі, адзін абуты ў лапці, слухалі моўчкі, пачціва.

Багуновіч падумаў: агітуе, гад, супраць міру! Што рабіць у такім выпадку яму? А калі гэта і ёсць той контррэвалюцыянер, што пралез сюды, каб зрабіць правакацыю? Але ім было сказана: у палітычныя дыскусіі не ўступаць. Для яго армейская дысцыпліна — закон. Аднак не вытрымаў — узлавана спытаў у інтэлігента:

— А вы, пан, ваявалі?

Інтэлігент абурыўся.

— Я вам не пан! Я член ЦК левых эсэраў...

— Яно і відно,— ужо лагодна, без злосці, адзначыў Сяргей і засмяяўся. Следам за ім засмяяліся пачцівыя сяляне. Член ЦК кінуўся ўбок, застагнаўшы:

— Божа мой! Божа мой! Гэтыя людзі не разумеюць, на што ідуць.

Задаволены сабой і сялянамі, Багуновіч з удзячнасцю падумаў пра іншага эсэра — Назара Бульбу. Дзе ён? Ці прыжыўся ў партызан? Напэўна, прыжыўся, гэта яго стыхія. Сумленны народнік.

Зноў прайшоў па фае ў бок сцэны, дзе дзяжурылі двое чэкістаў, з якімі яго пазнаёмілі. І тут яго ўвагу прыцягнула група людзей. Іх было чацвёра, яны стаялі каля дзвярэй, што вялі на сцэну. Уласна кажучы, яго пільнасць узрушыў афіцэр у форме капітана французскай арміі. «А гэты як трапіў сюды?»

Ніхто не гаварыў, што на з'ездзе могуць быць чужаземцы. Побач з капітанам стаяў высокі чалавек у палінялым футры, таксама па выгляду і адзенні не рускі.

Спіной да Багуновіча стаяў невысокі каржакаваты чалавек у кепцы, у асеннім паліто з плюшавым каўнерыкам.

Багуновіч пачуў, як ён сказаў па-французску, грасіруючы больш, чым таго патрабавала мова:

— Не. Я не баюся. Я не скрываю: на партыйным з'ездзе была больш сур'ёзная апазіцыя, аднак дзве трэці дэлегатаў з'езда прагаласавалі за мір. Зараз я паднімуся на трыбуну — і мірны дагавор будзе ратыфікаваны. Можаце, панове, пісаць дэпешы панам Вільсану і Клемансо. Для іх гэта будзе горкая пілюля.

Чалавек у футры засмяяўся і нешта сказаў па-англійску, чалавек у паліто таксама адказаў яму па-англійску.

Багуновіч, пачуўшы такую размову, не мог не падысці бліжэй. Хто так упэўнена гаворыць?

У гэты міг чалавек у паліто ступіў убок, павярнуўся, і Багуновіч не адразу паверыў сваім вачам: Ленін! Няўжо Ленін? Ды ён жа! Ён! Усё такое ж, як на партрэтах... лоб, бародка... Ды і словы... Ніхто іншы так упэўнена сказаць не мог! Па-французску... Сяргей адчуў і шчасце, і разгубленасць. Адбылося тое, пра што ён марыў у бяссонную ноч: ён побач з Леніным! Ленін ходзіць так проста па фае? Размаўляе з нейкімі чужаземцамі? Што ж у такой сітуацыі рабіць яму? Трэба ж ахоўваць з'езд, Леніна. Як ахоўваць? Як мала ім далі інструкцый!

А Ленін, між тым, зноў сказаў па-французску:

— Толькі інтэлігенты, адарваныя ад народа, як нашы «левыя», могуць не бачыць, што рабочыя, сяляне, салдаты... былыя салдаты — іх на з'ездзе большасць — усе за мір. Адзін з нашых «левых» сказаў: «Ленін аддае прастранства, каб выйграць час». Гэта адзінае разумнае, што сказалі людзі фразы. Так, мы адступаем, каб выйграць час, бо мы не сумняваемся: час працуе на нас.

Ленін павярнуўся, як бы шукаючы некага вачамі, і раптам звярнуўся да Багуновіча:

— Вот ты, таварыш...

— Я?— разгубіўся Сяргей, азірнуўшыся: да каго звяртаецца Ленін.

— Вы, вы. Вы ваявалі? — спытаў Ленін.

Сяргей адказаў па-французску: няхай чуе афіцэр саюзнай арміі!

— З восені чатырнаццатага і да...

— Вы — афіцэр? — Ленін спытаў па-руску, без здзіўлення, спакойна; здзівіліся чужаземцы, гэта было відно па выразу іх твараў.

— Камандаваў ротай. Пасля рэвалюцыі мяне выбралі камандзірам палка. Мой полк разгромлены васемнаццатага лютага...

— Значыцца, вы — за мір? — па-французску спытаў Ленін.

— Занадта многа, таварыш Ленін, я пахаваў дарагіх мне людзей, каб быць за вайну. Мне здавалася, я патану ў крыві... Мы, франтавікі, захлыналіся...

Ленін схіліў галаву, як у хвіліну жалобы, памаўчаў, маўчаннем гэтым выказваючы спачуванне.

Сяргей падумаў пра Міру, і спазма болю сціснула сэрца, горла. Спалохаўся, што калі Ленін спытае пра тых, каго ён пахаваў, то ён не здолее адказаць. Слёзы — не ганьба. І аднак не да твару яму, баявому афіцэру, перад... не, не перад Леніным, Ленін зразумее! — перад чужаземцамі выяўляць сваю слабасць.

Ды Ленін як бы пачуў яго стан, можа, прачытаў у вачах, бо ўглядаўся пранікліва, ласкава. Сказаў чужаземцам:

— Вот, пан Робінс, грамадзянін Садуль, вам адказ ад імя інтэлігенцыі... афіцэраў, якімі нас, бальшавікоў, палохаюць... перадавых афіцэраў... народных,— і павярнуўся да Багуновіча, працягнуў руку, сказаў па-руску: — Дзякую вам, таварыш, за падтрымку ў маёй спрэчцы з апанентамі. Вельмі важна мець ваш голас за мір.

Капітан Садуль запрасіў Багуновіча сесці з імі ў ложу.

— Памажыце нам у перакладзе. З нашым веданнем рускай мовы нам немагчыма будзе зразумець усе нюансы палітычнай дыскусіі.

Сяргей на момант разгубіўся: мае ён права прыняць такое запрашэнне? Пасля вырашыў, што з ложы ён будзе хораша бачыць увесь партэр: назіраць за дэлегатамі, тым больш што якраз пад гэтай ложай сядуць праціўнікі Леніна — эсэры, меншавікі.

Пасля ленінскай падзякі; поціску рукі Багуновіч быў па-асабліваму ўзрушаны, і, як часта ў апошні час, хвіліны высокай усхваляванасці затуманьваліся смуткам.

Зала ўзарвалася авацыяй на прапанову Свярдлова выбраць Леніна ганаровым старшынёй з'езда. Дзевяць дзесятых людзей падняліся ў адным парыве, вітаючы правадыра. Не падняліся толькі тыя, што сядзелі пад самай іх ложай, кучка інтэлігентаў. А капіталіст Робінс і сацыяліст Садуль таксама ўсталі і гучна пляскалі ў далоні.

Багуновіч у душы падзякаваў чужаземцам: калі нават яны зрабілі гэта з-за сваёй выхаванасці, у знак добрага тону, усё роўна гэта хораша. І ён адчуў пагарду да тых рускіх, што не падняліся разам з усёй залай.

Даклад Леніна захапіў з першых хвілін, Багуновіч слухаў, стаіўшы дыханне. Можа, Садуль убачыў, з якой прагнасцю ён слухае, таму не звяртаўся за перакладам. Праўда, у нейкі міг у Сяргея з'явілася апасенне: а ці не залішне заглыблена? Ці разумеюць яго рабочыя, непісьменныя сяляне?

Угледзеўся ў твары дэлегатаў. Ды не, ні на адным няма ценю неразумення, усе слухаюць гэтак неа, як ён, нават тыя, што не віталі Леніна.

Глыбока, па-філасофску глыбока, але ў той жа час здзіўляюча проста, шчыра, да бязлітаснасці шчыра і адкрыта:

— Мне здаецца, што галоўнай крыніцай рознагалоссяў у асяроддзі савецкіх партый па даным пытанні з'яўляецца іменна тое, што некаторыя занадта паддаюцца пачуццю законнага і справядлівага абурэння па поваду паражэння Савецкай рэспублікі імперыялізмам, занадта паддаюцца часам роспачы і, замест таго, каб улічыць гістарычныя ўмовы развіцця рэвалюцыі, як яны склаліся перад цяперашнім мірам і як яны рысуюцца нам пасля міру, замест гэтага спрабуюць адказаць адносна тактыкі рэвалюцыі на аснове непасрэднага пачуцця.

Так мог сказаць толькі чалавек, які ведае і разумее сваіх апанентаў.

Перыяды рэвалюцыі, іх здзіўляючыя дакладныя характарыстыкі: трыумфальнае шэсце... паражэнне... Нічога падобнага па гісторыі рэвалюцыі, у якой сам удзельнічаў, Багуновіч дагэтуль не чытаў, не чуў; у расказах Міры ўсё было спрошчана, таму ў яго нярэдка з'яўляўся пратэст, і яны спрачаліся.

Але Ленін выдатна разумее псіхалогію сваіх праціўнікаў. Аднак ён не проста канстатуе іх погляды. Ён адкрыў па іх «артылерыйскі агонь».

— І вопыт гісторыі гаворыць нам, што заўсёды, ва ўсіх рэвалюцыях,— на працягу такога перыяду, калі рэвалюцыя перажывала круты пералом і пераход ад хуткіх перамог да перыяду цяжкіх паражэнняў, надыходзіў перыяд псеўдарэвалюцыйнай фразы, якая заўсёды прыносіла найвялікшую шкоду развіццю рэвалюцыі.

Уласныя думкі і абавязак сачыць за залай заміналі Багуновічу слухаць з той увагай, з якой нельга не слухаць выступленне, што так ярка асвятляла ўсё, да чаго ён дабіраўся ў чорную ноч, у ранішніх

прыцемках, а калі і ўдзень, то ў бездараж — як ішоў да Смаленска: па заснежаным полі, па лесе.

— Трэба ўмець зразумець, што, толькі прымаючы пад увагу змяненні суадносін класавых сувязей адной дзяржавы з другой, можна ўстанавіць заведама, што мы не можам прыняць бой зараз; мы павінны лічыцца з гэтым, сказаць сабе: якой бы ні была перадышка, якім бы ні быў нетрывалым, якім бы ні быў кароткім, цяжкім і зняважлівым мір, ён лепш, чым вайна, бо ён дае магчымасць уздыхнуць народным масам...

— Як гэта правільна! — вырвалася ў Багуновіча.

Садуль пераклаў яго выгук на французскую — для

Робінса. Той загадкава пасміхнуўся і спытаў:

— Вы бальшавік?

— Не, я беспартыйны.

— Многа ў рускай арміі такіх афіцэраў?

— Той арміі, якую вы маеце на ўвазе, ужо няма... Але я хачу быць афіцэрам новай арміі.

Садуль здзіўлена сказаў:

— О!

Але і яму, як і Багуновічу, не хацелася прапусціць нешта з ленінскага даклада.

Яны зноў услухаліся ў голас, што запаўняў вялікую залу,— у голас, нібыта знешне спакойны, але надзвычай багаты на адценні, на ўнутраны пафас і натуральны, не сыграны, драматызм.

— Так, наш народ павінен перанесці найвялікшы цяжар, які ён узваліў на сябе, але народ, які змог стварыць Савецкую ўладу, не можа загінуць.

І такая была сіла, такая ўпэўненасць у гэтым «не можа загінуць», што Багуновіч раптам адчуў зусім новы, не пяражыты дагэтуль, гонар ад таго, што у яго ёсць права назваць сябе сынам гэтага народа,— такую радасць, ад якой адхлынула хваля яго смутку.

Ён быў цалкам у палоне слоў Чалавека, што стаяў на трыбуне. Ён удыхаў гэтыя словы, як лясное паветра. І думаў пра тое, што дарога ў Маскву прывяла яго да Леніна. Цяпер ён пойдзе толькі па гэтай дарозе. І гэта назаўсёды. На ўсё жыццё.

## ЗМЕСТ



Шамякін І.
Петраград — Брэст: Гіст. раман/Прадм. М. Kенькі.— Мн.: Беларусь, 1991.— 486 с. [І] л. парт.— (Шк. б-ка).

ISBN 5-338-00771-1.

Раман народнага пісьменніка БССР Івана Шамякіна расказвае аб тым складаным перыядзе гісторыі Савецкай дзяржавы, калі ў надзвычай цяжкіх для краіны абставінах заключаўся Брэсцкі мір. У творы найбольш поўна праявіліся ідэйна-мастацкая маштабнасць, партыйная заўзятасць і грамадзянская смеласць пісьменніка, якія даў шырокую панараму рэвалюцыйнага руху мас.